№3 (64)
/травень-чэрвень/ 2013

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Васіль Зуёнак



...Толькі тут, на гэтай зямлі,
Жыць магу і жывым заставацца...

# Шукаць брусніцы...

* * *

*“Калі брусніца краснабока,*
*Наспіць і парабак вока”, –*
*Старонка мамінага календара*
*Гаварыла: лета сыходзіць з двара.*
*Цяжэе крылом нябесная просінь,*
*А гэта значыць: “Восень на носе”...*

Ні парабкаў і ні брусніц няма,
Даўно ў энцыклапедыі тамах
Яны на кансервацыі...
Аднак
Мне падаюць брусніцы тайны знак,
Бо я яшчэ пакуль што парабкую
І прысвяткі бруснічныя святкую.
Малюся я свайму парабкаванню:
З нябёсаў слова клічу на спатканне.
І знаю: як на золку мне не спіцца,
То значыць – даспяваць пайшлі брусніцы

І моцы набіраюцца грамы, –
Красаць энцыклапедыі тамы,
І каб чырвонай сцежкай бліскавіца
Мяне гукнула ў бор – шукаць брусніцы!..

* * *

Аб чым шуміш, асенні лістапад, –
Пад ногі залацістая завея?
Лепш памаўчым – няхай і неўпапад.
Не трэба слоў – я іх не разумею.

Як на спатканні першым, памаўчым,
Хоць лёс яму трактуе стаць апошнім.
Маўчанне – дум нязведаных зачын –
Іх у сусвет пашлем маўчання поштай.

Не – я не пра духоўны інтэрнэт,
Дзе без'языка калектыўны розум
Мяняе плоць на сеціва шкілет
З ілюзіяй сусветнага псіхозу.

Я не за той палон глуханямы, –
Ды не прымаю і стрыптыз базарны,
Дзе "я" прыватнае жыве ў публічным "мы"
І прарастае велічна бяздарнасць.

Ніхто без нас не зразумее нас.
Але найперш – хай цішыня выносіць
Адтуль, дзе плошчаў калектыўны прас
Раўняе душы ўладным шматгалоссем.

Давай жа, лістапад, адхілім здзек
І асалоду д'ябальскай атруты
І сцвердзім запавет, што чалавек
Не калектыўны раб і не кампутар.

* * *

Мінулага няма. Куды яно –
Без развітання – адплыло ці адляцела,
З кім засталося? Ці даўным-даўно
На міжсусветных могілках збуцвела?

Як зразумець: "было", "была", "былі"?..
А "ёсць" і "быў"... – усё жыццё дваяка
Асуджаны глядзець: ты на зямлі
Пакінуты мінулае аплакаць...

## ТОЛЬКІ ТУТ...

Дзякуй, Божа: шляхі не звялі
Да заморскіх жабрацкіх палацаў, –
Толькі тут, на гэтай зямлі,
Жыць магу і жывым заставацца.

І памерці – магу толькі тут.
Прэч, бадзяжніцкі посах!..
Мне радзіма мая – як прысуд,
Вырак, дадзены лёсам.

## БЫЎ ЧАС БЯСЕДНЫ...

Быў час бяседны,
Дзе сусед суседу
З увагаю павагай слугаваў.
Кілішак (як напарстак)
Службу ведаў:
Каб заўтра не канала галава.

Пачціва прыгубляўся па калейцы
Напарстак – салавейка грамады –
Маленькі, а трымаў піткоў на лейцах:
Глыні, каб не лілося з барады.

З наступнікам дзяліўся папярэднік:
Ніхто нагбом той келіх не куляў.
Стол, каб плявузгаў п'янае бяседнік,
Не бачыў ні навокал, ні каля...

Была ў шане не чарка, а гамонка,
Была бяседа – душ людскіх сугрэў...

Куды сцяжынцы той супраць бетонкі,
Дзе люд у гонцы чаднай ачмурэў!..

П'юць рабацягі і пенсіянеры,
Падлеткі п'юць, каму расці й цвісці,
Жанчыны п'юць, не ведаючы меры, –
Ды і якая мера ў тым піцці?!.

Не п'е – а прычашчаецца "эліта".
А "новых" раць на ўвесь духоўны рост
Пластаецца духоўна ля карыта,
Прымаючы мамоны тлусты хрост.

Шукае безгалосая тусоўка
Ў грымотах ап'янелых галасы –
Наладзіў дэцыбельную лупцоўку
Нячысцік душам пад таўром папсы...

О Божанька, ты сам сабе аксціся, –
Няўжо не бачыш: гіне люд зямны...
А мне за ўсё страшней, што д'яблаў высеў
На Беларусі ўжо страшней вайны.

Калі і дзе згубіўся той напарстак? –
Дапамажы народу адшукаць.
А знойдзецца – як за каня – паўцарства, –
Было б – і царства я гатоў аддаць.

* * *

Ні дня ў Сусвеце, ні ночы,
Ні чалавечага роздуму:
А раптам наступіць аднойчы
Сон вечнага розуму?..

А сон – як і вечнасць – бясконцы, –
Інакш не бывае ў вечнасці...

Я – супраць, я не абаронца
Сусветнай такой недарэчнасці.

І толькі карціць сумненне:
А можа, мы ў сне і пакутуем, –
Чаму ж бо тады збавенне
Гняцём варажнечай лютаю?..

* * *

Няўжо можна ісці,
Калі няма дарогі?

І я падумаў пра зоркі.

### *ПАКІНУТАЯ*

Ні ціхай гамонкі, ні смеху:
Як быццам і ёсць – і няма,
Жанчыны пакінутай рэха –
Куды ж адляцела сама?..

Забыліся словы закляцця.
Каб вечны агмень не патух,
Без ценю па сценах у хаце
Блукае пустэльнасці дух...

## ДЗВЕ ДУШЫ

Сваіх імёнаў мы знаць не будзем,
Забудземся, кім былі,
Растануць душы ў сусветным гудзе
Ў далёкай далечы ад зямлі.

Ды і ў бяспамяцці рэінкарнацый
Як яны ўчуюцца, як забаляць!.. –
Інакш навошта было нараджацца,
Навошта было на зямлі сустракацца,
Навошта было кахаць...

* * *

Што імклівы палёт сусветаў
Перад гэтым зярняткам малым! –
І ў каго больш загадак-сакрэтаў
У нябесным быцці і ў зямным?

Хай – як Бог – неспасціжнасць галактык
Будзе вечна душу ахінаць,
Але веліч малога зярнятка
Толькі смерцю можна пазнаць.

Знакаў роўнасці не шукаю,
Ды зярнятка сягае далей
За сусвет, бо калі памірае –
Колькі жыццяў яно дае?!.

* * *

Матэрыя – Маці Сусвету
(Вы чуеце корань сугучча?!),
Дух – Бацька, ахоўнік светлы, –
І хто нас з імі разлучыць?

Мы іх часцінка жывая.
Час будучы і ўчарашні
Шлях космасу скрыжавалі
І несмяротнасць нашу.

* * *

Як апошні лісток, гэты крык развітальны,
Як "бывай!" – жураўлінае гэта "курлы"
На душу ападае з дарогі астральнай...
Ах, было б у мяне, як у іх, два крылы...

Стаўшы ў клін,
падзяліў бы шчымлівы іх смутак.
Толькі ў небе асеннім
не знаюць яны пра мяне.
І не ўзнаюць ніколі...
Застаюся адзін, не пачуты, –
Ды й ці трэба ім знаць
аб бяскрылай маёй віне...

Без мяне на зямлі ноч чарнее, як сажа,
Ім насустрач, і зорныя ў небе трымцяць астравы.
Адлятаюць, – і хто так балюча раскажа
Пра расстанне, як не самі яны, журавы?..

* * *

Сніцца зямлі маёй сон:
Зляцеў ад яе азон –
Надзейны шчыт, абаронца
Ад промняў шчодрага сонца.

А я тое бачу наяве:
Гэта баль злы наш геній правіць,
Гэта эра тэхнічнай веры
Так зрашэчвае боскія сферы.

Гэта сверб непамыснасці нашай
Дзюркі ў небе точыць, як шашаль,
Прагрызае сляпым караедам
Чорны ход для касмічных бедаў,
Хоць удосталь было б і тых,
Што ўжо маем, – сваіх, зямных...

Такая Маці-Зямля,
Доля твая і мая:
Знізу – Чарнобыля зона,
Зверху – дзіркі ў пакровах азона...

Адкажы мне, Зямля-Зямліца,
Што нам заўтра з табою прысніцца?..

## ПАХАВАНЫЯ ЎСЕ…

*Над магілаю Арсеня Конанавіча Храмчанкі,*
*апошняга аберагальніка агменю*
*на бацькоўскай сядзібе ў Мачулішчы...*

Пахаваныя ўсе, пахаваныя, –
Ад мяне, ад свету, ад болю.
І дарога, наканаваная
Мне, – не будзе маёю болей.

Больш няма да каго сюды ехаць
І няма да каго прыхінуцца.
Апусцелая хата – як рэха
Галасоў, якім не вярнуцца.

Я ўжо тут – як вада дзясятая
На чужым кісялі, на скрушным...
Толькі цені, крыжамі распятыя,
Толькі сцежкі, дзе ходзяць душы.

Толькі вы засталіся, бярозкі,
У жывых – як жывых надзея.
Вось і ўсё. Пахаваная вёска.
І трава на грудках маладзее...

* * *

Затухае, мялее крыніца,
І нельга не пагадзіцца –
Не аспрэчаць ні меч, ні веча:
Штодзень, то бліжэй да Бога,
А ў Бога адна дарога –
Вечнасць.

* * *

Прастора – маё жыццё
Ў часе маім кароткім.
Хацелі б, ды больш не дасцё
Вы мне, – ні нашчадкі, ні продкі.

Бясконцасць – яна для ўсіх,
А кожнаму паасобку
Вечнасць – як ускалых
Дыхання ў хадзе таропкай.

Глядзіш на чужыя гады
І думаеш: “Як гэта многа!..”

Свае нажывеш – тады
Ўздыхнеш: “Дык няма ж нічога!..”

Што ж, часу адмерыў Бог,
А ты – шукай абярогі..
У адзіноце – залог
Адзінай святой дарогі.

Каб лёс – як біблейскі Хама –
Нявер’ем дарогу не засціў,
Знай: шчасця без шчасця няма,
Шчаслівых няма ў няшчасці...

## *УСПАМІНАЮЧЫ...*

Мемуарыст не шыты лыкам –
Ён вырас курсам удвая:
Былі ўспаміны: “Я і Быкаў”,
А засталося ўрэшце: “Я...”

* * *

Штосьці ў царстве зімы не дароблена:
Хоць вясна на календары –
Выбіраюць зярняткі дробныя
Ў бадыллі зімакі-снегіры.

Штосьці чуюць яны, ды не ведаюць,
Хто вясну засланяе ад іх,
І з якімі наступствамі-бедамі
Чалавек перад імі прыціх.

Гэта я... У снезе пашэрхлым
Зябну сам, хоць ідзі ў снегіры, –
Толькі вы ці даруеце вэрхал,
Што ўчыніў я ў сусветным двары...

Гэта я, снегіры, падтасоўваю,
Нібы карты – па-шулерску, дні.
Гэта мой прагрэс перасоўвае:
Сквар – на поўнач, на поўдзень – лядні...

Гэта я... Я зіму затрымаў тут,
Хоць трымаць мне яе не з рукі,
Я злачыншчык, зачыншчык гвалту
Над прыродай – а выйгрыш такі:

Сакавік грымне ў ноч навагоднюю.
Снежань выпадзе ў сакавіку... –
Гэта я – геніяльным шкоднікам
Дрэва будучыні сяку...

На ўзбярэжжы вясны, гнездавання
Ходзіць гульбішча псеўдазімы –
З гэтым холадам, цалкам рэальным,
Дзе грамы ў лёхах сцюжнай турмы...

Гэта я – б'ю "па банку" бяздумна –
Гэта выйгрыш мой, снегіры:
Ваш сняданак з посвістам сумным
І зіма – на вясновай зары...

### *ПАКАРАНАЯ*

Мне ў тайну – такой адзінокай,
Такой безнадзейна самотнай –
Не даў зазірнуць Усявышні...
Ці я ад святыні далёка
Сышоў па дарозе смяротнай?
Ці я ў свеце тайны той – лішні?..

І ўсё ж – без адказу – пытаю:
За што табе лёс прызначыў
Такое наканаванне,
За што і хто так карае:
Быць кветкай, што ў леце гарачым,
Не расквітнелая, вяне?..

Якія ні ёсць прычыны –
У кожнай змяінае джала –
І хто ты ў жыцця крутаверці?
І што можа знаць жанчына,
Якая не нараджала,
Пра смерць і бяссмерце?..

### *БЕЗ ЧАРГІ*

О, каму слова мовіць пахвальнае,
Што змыкаюцца ўпраўна кругі:
У раддом і ў бюро пахавальнае
Не бывае чаргі.

* * *

Маліўся дзень і ноч: “Спатоль
Мой смутак, Божа літасцівы...”
А дзень і ноч, слата і золь
Мой шлях зямны ўсясветна ксцілі.

Тады хацеў я адшукаць
Спагадную ў вышынях сцежку,
Але – чыю, не мог пазнаць, –
Пабачыў ледзяную ўсмешку...

* * *

Было: турбот зямных драсён
І з небам раўнапраўе, –
Здаецца, шмат, калі не ўсё,
Сам пра сябе пазнаў я.

Я свет нязведаны тварыў
І руйнаваў пры гэтым.
Ды толькі так і не адкрыў
Сакрэта між сакрэтаў:

Чаму і па чыёй віне
Самотна так жылося,
І закаханым у мяне
Я шчасця не прыносіў?..

* * *

Не прасіце нічога ў каханых:
Яны ўсё аддалі, што маглі, –
Зразумееце – позна ці рана:
Рэштку іншым яны берaглі.

Зберaглі? Хай пацешыцца хтосьці –
Не зайздросце, хто ў гэты дзень
Будзе кветкі збіраць на пагосце,
Бачыць зоркі патухлай прамень...

### *КАМПУТАР*

Паэзія ў бязмежжы небыцця –
Я сам не разумею, што твару:
Які пачатак і які працяг,
Якому дар нясу гаспадару?

Скажы, кампутар, цэрбер мой нямы,
Ці чуеш словы, дзе маёй душой
Ты набрыныялы, на яе правы
Закляў, здаецца, небам і зямлёй.

Прабач, хаўруснік, тэхніка твая
Што ёсць супроць адной маёй слязы?
Ты віртуальнасць небыцця – а я? –
Няўжо драбней касмічнай драбязы?..

О не – я гэткай згоды не даю
Быць віртуальным, покуль я жывы.
Няхай на грані небыцця стаю –
Але мой шлях сусветна-крыжавы!..

* * *

Як “грэць” ад кораня “гарэць”,
Так “смерць” карэніцца з “прысмерклым”.
Змярканне – нежаданне грэць:
Шчадруе змрок смяротнай меркай.

Гары, згарай, мая душа.
А можа, покуль змрок агорне, –
Няхай не з зорнага каўша
Святло пальецца, – хай спярша
Камусьці ў беспрасветнай зборні
На кропельку – а стане зорней...

Алесь Усеня



...хіба ёсць лепшы доказ
гэтай бязмернай любові,
чым смерць,
якая асвячае Імя Божае?!.

# Грэх

***Раман***

## Гладыятарскія баі

Войска ўступіла ў Ерусалім амаль трыумфальна. Прынамсі, Бар Кохба акурат і імкнуўся надаць гэтаму дзейству абрысы той пампезнасці, з якой імператары падчас трыумфу на чале арміі ўваходзяць у Рым.

Сам Бар Кохба, годна седзячы на белым кані, ехаў наперадзе. Любы імператар мог бы пазайздросціць ягонай велічнай паставе. За камандзірам — тры сотні коннікаў, узброеных на рымскі манер. Яно й не дзіўна: і коні, і амуніцыя былі трафейнымі.

А ўвогуле трафеі — як рэчавыя, так і жывыя — везліся-несліся-тупалі следам за конніцай. Бар Кохбу хацелася не толькі падкрэсліць значнасць сваёй перамогі, але і прынізіць адоленага ворага. Мажны іудзей, знарок апрануты ў легіянерскія даспехі, нёс у руках дрэўка з сярэбраным арлом, прычым імкнуўся ўзняць яго як мага вышэй. Некалькі дзясяткаў апалчэнцаў ішлі са сцягамі маніпалаў і кагортаў. Бязладным натоўпам, панурыўшы галовы, брылі палонныя.

*Працяг. Пачатак у № 2 (63).*

Абяззброеныя, без даспехаў, у адных толькі кашулях-безрукаўках, рымляне выглядалі вартымі жалю... Цугам цягнуліся шматлікія павозкі са зброяй, амуніцыяй. І толькі затым — іудзейскае войска. Яно ішло ў роўных шэрагах, маналітнаю калонаю — як загадаў Бар Кохба.

Вітаць пераможцаў выйшлі ўсе насельнікі горада. Ад Далінных варотаў да самае плошчы Храма выцягнуўся "жывы калідор", па якім ледзь працiскалася калона. Радасныя крыкі, воклічы... І нікому не кінулася ў вочы, што ў Ерусалім вярнулася ўдвая меней ваяроў, чым два тыдні таму адсюль сыходзіла...

На плошчы Храма пераможцаў чакалі чальцы сінедрыёна на чале з Акібам. Бар Кохба скіраваў свайго каня да гэтае гурмы і, як сапраўдны трыумфатар, не спяшаючыся, ступіў на зямлю. Ён не зрабіў ніводнага кроку насустрач святарам, каб ім "адрапартавацца", і тады сам Акіба цяжкаю хадою наблізіўся да Бар Кохбы, моўчкі аберуч яго абняў. Удзячнасць і ўгодлівасць галоўнага святара Сімон успрыняў як належнае...

На плошчы Храма і ў яе ваколіцах ніколі яшчэ не было столькі народу. Людзі, большасцю ўзброеныя, таўхаючы адзін аднаго, стаялі ўшчыльную, найбольш нахабныя спрабавалі праціснуцца да сярэдзіны плошчы, але гэта рэдка каму ўдавалася. Руіны Ірадавай базілікі і крэпасці Антонія, як саранча, абляпілі чалавечыя целы. І такія шчаслівчыкі пачувалі сябе найбольш зручна: звысака ім бачылася далёка, нават вялікі пусты круг пасярэдзіне плошчы быў для іх як на далоні.

Па перыметры гэтага круга ў два шэрагі стаялі адборныя ваяры з цяжкім трафейным узбраеннем, у шаломах, панцырах і кальчугах. Такая перасцярога не была залішняй, бо з усіх бакоў натоўп імкнуўся наблізіцца да круга як мага, і ачапленню з цяжкасцю ўдавалася яго стрымліваць.

З боку Акры да круга вёў "жывы калідор", які з абодвух бакоў ахоўваўся шчыльнаю сцяною ваяроў.

Масавае зборышча і цікавасць насельнікаў тлумачыліся проста: вось-вось на плошчы павінны распачацца гладыятарскія баі. Такога дзейства ў Ерусаліме не было зроду.

Ідэя наладзіць гэткае відовішча належала Бар Кохбу. З нагоды перамогі іудзеі гулялі-балявалі ў Ерусаліме тры дні. Святкаванне пайшло на спад, а Сімон усё яшчэ ўдостатку не ўсцешыў сваё славалюбства, яму здавалася, што трыумф атрымаўся нейкім будзённым, нічым не адметным. Ідэя, як маланка, успыхнула ў галаве Бар Кохбы, калі Акіба мімаходзь у яго пацікавіўся:

— Мы пакуль так і не вырашылі, што будзем рабіць з палоннымі. У цябе ёсць нейкія меркаванні?

— Што рабіць, што рабіць... А во што! Накануем рымлянам гэткі ж лёс, які яны вызначаюць для сваіх рабоў! Наладзім паміж імі гладыятарскія баі! І людзям пацеха, і рымлянам ганьба. Не ўсё ж ім здзекавацца з простага люду. Хай самі пабудуць у такой скуры...

Акіба незадаволена зморшчыў твар:

— Не варта нам прыпадабняцца да рымлянаў, пераймаць іхнія элінскія звычаі, тым болей, такія крыважэрныя... Тое не ў традыцыях нашага народа...

— Мяне гэта мала хвалюе. Рымлянам трэба адплаціць тою ж манетаю. Акрамя ўсяго, гладыятарскае пабоішча стане тлустаю кропкаю ў нашай перамозе!

— Сімон, тое, што ты задумаў, — лішняе...

— А я лічу, што не лішняе! І ўвогуле... Ці не лепей табе, рабі, займацца сваімі святарскімі справамі?.. Войска — мая вотчына. Гэтак жа, як і ўсё, што не датычыць веры...

Нечакана Бар Кохбу асцярожна падтрымаў Рашбі, які прысутнічаў пры размове:

— Можа, і праўда, настаўнік: калі мы ўжо даверылі Сімону кіраўніцтва войскам, дык і ў іншым варта даць яму паўнамоцтвы. Што ні кажы, а ён усё-ткі перамог...

Акіба нічога не адказаў ні таму, ні другому, толькі пачаргова пільна глянуў кожнаму ў вочы: Бар Кохбу — з прыкрасцю, Рашбі — з недаўменнем.

Аднак жа паназіраць за гладыятарскімі баямі ніводзін са святароў, тым лікам і Рашбі, не прыйшоў...

Бар Кохбу тое не надта маркоціла. "Гэтак, можа, і лепей, — разважаў ён. — Мая перамога — мне і збіраць ураджай".

На плошчы, на ўскрайку круга, насупраць "жывога калідора", па загадзе Бар Кохбы спехам быў скляпаны з дошак невялікі памост — хоць нейкае падабенства месцішча для імператара ў рымскім амфітэатры. На памосце сіратліва стаяла адзінае крэсла.

У чаканні непаўторнага відовішча натоўп хваляваўся, варушыўся, гаманіў. Сярод гледачоў, асабліва з ліку наймітаў, былі і такія, каму некалі давялося пабываць у Рыме і пашчасціла пабачыць там гладыятарскія бойні. Зараз яны пераказвалі свае ўражанні паплечнікам, якія слухалі, разявіўшы раты.

— Пры імператары Траяне я яшчэ зусім смаркачом быў, — няспешна распавядаў худы і доўгі, як сухастоіна, стары ваяка, да якога, каб быць бліжэй і не прапусціць ніводнага ягонага слова, ціснуліся людзі. — Дык ён, імператар, калі заваяваў Дакію, у гонар сваёй перамогі наладзіў у Калізеі такое пабоішча, што свет не бачыў. Гэтых гладыятараў загінула — незлічона. Мёртвыя целы не паспявалі вывозіць за горад, дык проста скідвалі ў калодзежы пад амфітэатрам. Але гэта што! Самы цымус быў, калі на арэну звяроў выпускалі... З усяго свету іх туды звезлі. Львы, леапарды, мядзведзі, сланы, буйвалы, вепрукі, насарогі...[1] Сланоў, кажуць, спярша паілі вінам, наносілі невялікія раны і пасыпалі іх соллю... Ну то яны на арэне і вытваралі! Тапталі гладыятараў, як смецце!

Хто-ніхто выказваў сумнеў:

— Мусіць, хлусіш ты, дзядзька. Дзе ж было столькі звяр'я набрацца?

— Дый паспрабуй злаві таго ж слана ці льва...

— Ніколечкі я не хлушу! — горача пераконваў стары. — Так і было! А звяроў ловяць спецыяльна навучаныя людзі. Іх не меней чым гладыятараў шануюць. Кажуць, цяжэй злавіць не так ільва, як мядзведзя... А я от вам адну гісторыю раскажу — падзівіцеся. Праўда, брахаць не буду, не на маіх вачах яна адбылася, іншыя людзі пераказалі. Неяк з Афрыкі ў Рым прывезлі чарговую зграю звяр'я. У ёй апынулася і дзіцё гарылы. Муштраваць яго даручылі вопытнаму бестыярыю — гэтак у Рыме дрэсіроўшчыкаў называюць. Калі гарыла вырасла, яе сталі выпускаць на арэну — змагацца з драпежнікамі. Велізарны чорны самец адным ударам пераломваў хрыбетнік леапарду, рваў пашчу льву, душыў мядзведзя, зварочваў шыю буйвалу,

[1] У гладыятарскіх баях, наладжаных Траянам у 107 г.н.э., загінула больш за 11 тысяч розных звяроў. А ўвогуле з I па V стст. — амаль 400 тысяч.

расколваў чэрап кракадзілу. Мінуў час, і гарылу вырашылі выставіць супраць гладыятараў. У першыя ж хвіліны некалькі байцоў былі забітыя і пакалечаныя тоўстай доўгай жэрдкай, якою арудавала гарыла. На арэну выйшла яшчэ некалькі гладыятараў, сярод іх быў і дрэсіроўшчык малпы. Бестыярыяў чакала незайздросная доля: нікога не ратаваў шчыт і меч. Аднак на свайго сябра ў гарылы не паднялася рука. Яна показна адкінула жэрдку і ўлеглася проста на арэне, спінаю да адзінага ацалелага байца. Публіцы не спадабаўся такі зыход — трыбуны патрабавалі забіць гарылу. Калі бестыярый падышоў да сваёй былой падапечнай, каб уваткнуць ёй у сэрца меч, агромністая малпа была ўжо мёртвай. На ейным целе не аказалася ніводнае драпіны...

Стары на нейкую хвіліну прымоўк.

— Што ты хочаш нам сказаць сваёй гісторыяй? — падазрона азірнуўся на апавядальніка самавіты ваяр з ачаплення, які краем вуха таксама ўсё слухаў.

— Тое, што гарыла памерла ад гора. Часам звярынае сэрца бывае дабрэйшым за чалавечае...

— Па-твойму выходзіць, што ўсе мы, хто тут сабраўся, каб паназіраць за баямі, горшыя, чым тая гарыла? — ужо з выяўнаю пагрозаю павярнуўся да старога ахоўнік.

Немаведама, чым бы скончылася гэтая перабранка, калі б натоўп адначасна не загуў-узбадзёрыўся: на супрацьлеглым канцы "жывога калідора" з'явілася постаць Бар Кохбы. Ён выглядаў акурат гэтак, як у Бетары, калі з'явіўся перад народам у абліччы Месіі: белая рыза, на галаве — такога ж колеру кіпа. У правай руцэ Сімон трымаў жазло камандзіра.

Шпаркаю хадою Бар Кохба прашпацыраваў да памоста, падняўся на яго па трох прыступках, павольна акінуў вокам шматтысячны натоўп і, нарэшце, з розгадам сеў на крэсла. Затым уладарна махнуў некаму рукою.

Дзейства пачалося.

Бар Кохба, безумоўна, не ведаў, як праходзяць гладыятарскія баі ў Рыме. Але яму хацелася, каб падабенства было поўнае. Дарадчыкаў доўга шукаць не давялося: сярод паўстанцаў было нямала рымскіх грамадзян, якія не раз наведвалі сталіцу імперыі.

Па "жывым калідоры" ў цэнтр круга двума шэрагамі рушылі гладыятары. Іх было няшмат — не болей чым тры тузіны. Бар Кохба палічыў, што і такой колькасці досыць, каб спатоліць прагу апалчэнцаў да крыві. Ахвочых паставіць на кон сваё жыццё сярод палонных было значна болей, асабліва з ліку саюзнікаў. Іхнія душы не вярэдзіла прыкрасць з-за таго, што, пагадзіўшыся на смяротную сечу перад "быдлам", яны выстаўляюць сябе на смех і да астачы дзён не адмыюцца ад ганьбы. Ім даваўся шанец, каб выжыць, і навaспечаныя гладыятары вырашылі ім скарыстацца.

Бар Кохба сам адбіраў удзельнікаў баёў — найболей дужых, спрытных, ваяўнічых. Кожнаму належала правесці адзін двубой. Бойка — да смерці (у гэтым была розніца з рымскімі баямі, калі гледачы вырашалі, злітавацца ці дабіць параненага гладыятара). Пераможцам абяцалася не толькі жыццё, але і воля.

— Слава табе, Месія! Тыя, хто ідзе на смерць, вітаюць цябе! — у адзін голас, як ім і было загадана, загалёкалі гладыятары, узнёсла гледзячы на Бар Кохбу.

Той, каму адрасаваліся прывітальныя словы, сядзеў непарушна, ніводзін мускул не здрыгануўся на ягоным твары.

Яшчэ трохі патупаўшы-пакрычаўшы, гладыятары сышлі з імправізаванай арэны, засталіся толькі двое (удзельнікі баёў былі разбітыя на пары загадзя). Адзін з іх, падобна, што рымлянін, быў узброены на ўзор грэчаскіх гоплітаў. У правай руцэ ён трымаў доўгі меч, але найболей кідаліся ў вочы ягоныя абарончыя даспехі: круглы шчыт, нагрудная браня, понажы і наручы. На галаве — груваcткі шалом, упрыгожаны выявай грыфона, крылатага страшыдла з тулавам ільва і галавой арла. Забрала прыкрывала частку твару гладыятара, таму цяжка было вызначыць ягоны ўзрост. Рухаўся баец запаволена, без асаблівага спрыту, але гэта можна было патлумачыць не ягонай старэчай нямоглаcцю, а цяжкім узбраеннем.

Процістаяць рымляніну, калі меркаваць па зброі, належала фракійскаму ваяру, якіх сярод саюзнікаў мелася найболей. Шчыт у яго быў маленькі, квадратны, шабля таксама не ўражвала памерамі, ейнае лязо выгіналася пад прамым вуглом. Жалезны наруч — толькі на правым запясці, затое, акрамя понажаў вышэй каленяў ногі аберагалі скураныя рамяні. Тое, што ў фракійца было на галаве, нават нельга назваць шаломам: металічная шапачка з вобадам, але без забрала.

Гладыятары спярша адступіліся ў розныя бакі арэны, а затым пачалі збліжацца. І адначасна над плошчай стаў нарастаць гул. Гледачы спрачаліся наконт будучага пераможцы, кожны падбадзёрваў таго, хто быў яму ўспадоб:

— Выпусці кішкі гэтаму няўклюдзе!

— Раструшчы сваім мячом галаву з “талеркай”!

Фракіец адразу ж зрабіў наскок на рымляніна, сekануўшы крывою шабляю на ўзроўні шыі, але лязо толькі гулка ляснула па шчыце. Гэткі ж плён мела і другая спроба. Рымлянін пакуль што не выказваў агрэсіі, дый яму гэта было няспадручна: заміналі цяжкія даспехі, а ў час атакі можна падставіць аголеную частку цела, і тады канец. Усвядоміўшы марнасць намаганняў, фракіец стаў раз-пораз забягаць то злева, то справа, а то і ўвогуле рабіць вакол рымляніна круг, але той тупаў-валюхаўся на месцы, паварочваючы тулава туды-сюды. Нарэшце ён і сам злаўчыўся, махнуў сваім доўгім мячом, але фракіец паспеў прысесці, і лязо рассекла паветра над ягонай галавой.

Падобныя манеўры сталі нудна паўтарацца, і ў натоўпе пачуліся незадаволеныя воклічы. Аднак жа адчувалася, што рымлянін, які, хутчэй за ўсё, і сапраўды быў немаладога веку, спакваля зняможваецца. У рэшце рэшт, ён не паспеў у чарговы раз падставіць свой шчыт пад крывую шаблю, і вострае лязо ўпілося ў непрыкрытае левае сцягно, з якога пырснула кроў. Гладыятар адразу ж пахіснуўся, прысеў на правае калена, адставіўшы назад параненую і таму няўклюдную нагу. Яму ўжо цяжка было паварочваць тулава ў розныя бакі, а тым болей круціцца вакол. Фракійцу гэта надало імпэту, яму ўрэшце ўдалося апынуцца за спінаю рымляніна і ззаду секануць шабляю па шыі. Удар атрымаўся настолькі моцным, што галава з шаломам і забралам зляцела з плячэй і, звякаючы, пакацілася па зямлі...

Фракіец пераможна ўзняў рукі, натоўп зароў ад захаплення. На арэну борздка выскачылі два мажныя дзецюкі (мусіць, прызначаныя для гэтага загадзя), схапілі абезгалоўленае цела за ногі і павалаклі па “жывым калідоры”, пакідаючы за сабою крывавую сцежку.

Узбраенне гладыятараў другой пары рознілася зусім кантрастна. У першага не было ні шчыта, ні шалома, дый увогуле з абарончых даспехаў на левай руцэ ён меў толькі шматслойны падшываны наруч з тканіны і

прымацаваны да яго металічны наплечнік-гелер, які вытыркаўся ўверх і нават прыкрываў галаву. Цела гладыятара было амаль цалкам аголенае, хіба толькі скураны пояс з бронзавымі пласцінкамі можна лічыць адзежай. Зброя ў гладыятара таксама была нязвыклаю: трохметровая сетка, прывязаная да запясця вяроўкаю, вялікі трызубец з тоўстай драўлянай фусцынай-рукаяткай і кінжал.

— Гэта рэтыярый, — патлумачыў тым, хто стаяў побач, стары ваяка, які нядаўна распавядаў ім пра непераможную гарылу. — А вунь той (ён паказаў пальцам на другога гладыятара) — секутар. Гэткі бой я на ўласныя вочы бачыў. Захапляльнае, вам скажу, відовішча!

Той, каго стары назваў секутарам, знешне нагадваў звычайнага легіянера, хіба што лязо ягонага гладыуса мела зазубрыны, ды шалом быў пляскаты, без султана і шырокага вобада — каб яго немагчыма было зачапіць сеткаю.

Усім чамусьці здавалася, што рэтыярый, аголены торс якога пераліваўся мышцамі, адужае секутара без асаблівай напругі. Але падзеі пачалі разгортвацца зусім інакш. Секутар хоць і не меў такога мажнога целаскладу, але выказваў неймаверны спрыт. Кожны раз, калі праціўнік закідваў сетку, каб яго “стрыножыць”, секутар своечасова адскокваў убок, і сетка клалася на пустое месца. Больш за тое, аднаго разу секутар здолеў схапіць сетку рукою і рэзка тузануць яе на сябе, ад чаго рэтыярый нахіліўся наперад і ледзь не ўпаў на калені.

Бойка нагадвала паляванне на дзікага звера, якога паляўнічы-рэтыярый спрабуе злавіць у пастку, але без аніякага поспеху. І доўжылася гэта не адну хвіліну.

Перад секутарам стаяла іншая задача: наблізіцца як мага да праціўніка і пусціць у ход свой гладыус. Але пры кожнай спробе зрабіць гэта ён натыкаўся на вострыя трызубец, абачліва выстаўлены перад сабою рэтыярыем.

Сімпатыі гледачоў былі на баку гладыятара з сеткай, бо ён нагадваў іудзеям іх саміх — узброеных чым давядзецца, падручным рыштункам. Таму над плошчаю безупынна чуліся заклікі:

— Зацугляй яго!

— Шпурні ў яго свой трызубец!

Ці то паддаўшыся гэтым заклікам, ці то ад адчаю, але нечакана рэтыярый сапраўды з усяго размаху запуліў трызубец у бок секутара. На той момант бойка ішла не ў сярэдзіне круга, а на яго ўскраіне. Секутар паспеў прыгнуцца, трызубец прасвістаў над ягонай галавой і ўвагнаўся ў грудзі немаладому іудзею-гледачу, які стаяў ззаду.

— А-а-ах! — разнёсся над плошчаю адзінадушны выдых. У ім была не столькі шкадоба за забітага супляменніка (смерць для ўсіх ужо стала будзённаю з’яваю), колькі роспач ад таго, што агульны любімец цяпер абяззброены і непазбежна загіне.

Секутар і праўда подбежкам рушыў да праціўніка, наўзгатоў трымаючы гладыус. Рэтыярыю не было куды падзецца. Сетка, прывязаная да рукі, цяпер яму толькі замінала. Нечакана ён, спачатку прысеўшы і нібы адштурхнуўшыся ад зямлі, з вар’яцкім крыкам, як тая гарыла, рынуўся насустрач, на хаду вольнаю рукою выцягваючы з-за пояса кароткі кінжал. Секутар шалёстка паласнуў гладыусам паміж шыяй і ключыцай рэтыярыя і хацеў адскочыць убок, каб пазбегнуць сустрэчнага ўдара кінжалам, але не паспеў. Рэтыярый, ужо канаючы, па інерцыі пасунуўся наперад, і ягоны кінжал мякка ўвайшоў у чэрава секутара...

З арэны давялося выцягваць адразу два нежывыя целы. Натоўп шалеў, ледзь не стагнаў ад задавальнення. Хай сабе іхні любімец загінуў, але ж і ягонаму ворагу, які стаў увасабленнем рымскага легіянера, ацалець не ўдалося!

Пасля такога сімвалічнага двубою наступныя здаваліся іудзеям прэснымі, хоць і былі яны не меней крывавымі. Нават калі на арэну выскачылі два коннікі, узброеныя дзідамі з лістападобнымі наканечнікамі, ранейшай узрушанасці яны не выклікалі. Коннікі безвынікова спрабавалі праткнуць адзін аднаго дзідамі, а калі тыя паламаліся, жвава спешыліся і пачалі махацца кароткімі мячамі. Бой на зямлі быў непрацяглым, бо ў супернікаў адсутнічалі шчыты...

Жорсткае відовішча іудзеям ужо трохі надакучыла, бо доўжылася яно амаль паўдня, і хто-ніхто стаў пакідаць плошчу. І тут адбылося тое, што Бар Кохба падрыхтаваў, так бы мовіць, на дэсерт. На сярэдзіну плошчы з удаванай урачыстасцю выйшаў вястун і прагалёкаў:

— На бой выклікаюцца ваенны трыбун першай кагорты Катул і легат дваццаць другога легіёна Марк Юній!

Ад пачутага натоўп спярша застыў-анямеў, а затым выбухнуў перуновым водгуллем. Тыя, што стаялі з краю, падаліся наперад, каб добра разгледзець рымскіх верхаводаў, і ледзь не змялі ачапленне, якое хоць і пахіснулася, але ўсё ж устаяла на месцы.

Спярша на плошчу, падштурхоўваючы кухталямі ў спіну, два ахоўнікі вывелі высокага, гонкага мужчыну. Ніякіх даспехаў на ім не было — адна толькі кашуля-безрукаўка, якая крывянілася пад левым плячом. Гэта быў Катул. У час пабоішча ў лагеры ваенны трыбун змагаўся да астачы сіл, але, праткнуты ззаду дзідаю, на кароткае імгненне страціў прытомнасць, а калі акрыяў, гладыуса ў ягонай руцэ ўжо не было. Відавочна, Катула, як і ўсіх параненых, паўстанцы дабілі б там, на месцы, аднак нехта з ацалелых легіянераў, каб ўратаваць камандзіру жыццё, наўмысна абмовіўся, што гэта вялікі начальнік. Лепей бы ён гэтага не рабіў. З таго часу, як Катул трапіў у палон, яго не пакідала думка пра выратавальную смерць.

Калі Бар Кохбу далажылі, што ўдалося захапіць трыбуна першай кагорты, Сімон загадаў лекарам любым коштам “выцягнуць рымляніна з таго свету”. Зрэшты, рана аказалася несмяротнай, левае плячо было праткнутым наскрозь, але вастрыё дзіды, на шчасце, не закранула сэрца. Тады яшчэ Бар Кохба не меў пэўнага разліку, для чаго яму можа спатрэбіцца гэты рымскі трыбун, але падсвядома адчуваў: мусіць, для нечага спатрэбіцца. І вось жа, не прагадаў.

Калі ў галаве Бар Кохбы ўзнікла ідэя правесці гладыятарскія баі, у яго не было сумневу, што ў іх павінен узяць удзел сам легат Марк Юній. Гэта будзе вяршыняй трыумфу, лічыў Сімон. Але ж бойка легата з шараговым легіянерам выглядала б не надта пыхліва. Іншая справа, калі сашчэпяцца два рымскія верхаводы...

Тое, што адзін з іх паранены, Сімона не бянтэжыла. У рэшце рэшт, праваю рукою ён валодае, а значыць, меч трымаць можа. І не гэтак важна, што не здалее аказаць належны супраціў. Галоўнае — сам факт двубою паміж рымскімі камандзірамі, які, безумоўна, мецьме вялікі розгалас нават за межамі Іудзеі...

Катул стаяў пасярэдзіне плошчы, горда ўзняўшы галаву, з пагардай пазіраючы і на Бар Кохбу, і на іудзейскі натоўп. Але ён адразу ж зніякавеў, калі скмеціў чалавека, якога, таксама штурхаючы ў плечы, вялі па “жывым

калідоры”. Спярша Катул не пазнаў у гэтым сівагаловым, прыгорбленым старым Марка Юнія, які заўсёды вызначаўся густою чарняваю шавялюраю і самавітаю паставаю. І толькі шырокі валявы падбародак ды характэрныя абвостраныя скулы выдавалі на тое, што гэта сапраўды Марк Юній, ягоны найлепшы сябар і камандзір...

Пасля паразы Катул дабіраўся да Ерусаліма не ў агульнай чарадзе палонных — яго, параненага, Бар Кохба загадаў пакласці на павозку, якая рухалася разам з абозам. У горадзе Катула таксама трымалі адасоблена ад таварышаў, у Гіпікавай вежы, дзе лекаваліся параненыя іудзеі. Пра тое, што ў палон захапілі самога легата, яму ніхто не казаў.

Бар Кохба ўстаў з крэсла, узняў руку, даючы пазнаку, каб плошча прыціхла, і толькі затым сталёвым голасам мовіў, звяртаючыся да легата і трыбуна:

— Адзін з вас, той, хто пераможа ў двубоі, мае шанец застацца жывым. Гэта не значыць, што пераможцу, як і астатніх, мы адпусцім на ўсе чатыры бакі. Калі імператар пагодзіцца заплаціць выкуп, прычым немалы, нехта з вас трапіць да сваіх... Пачынайце!

Дзецюкі, якія дагэтуль сцягвалі з арэны забітых, вынеслі два гладыусы: адзін аддалі легату, другі ўсунулі ў здаровую руку трыбуна.

— Зблізайцеся! — грозна загадаў Бар Кохба.

Але ні легат, ні трыбун не зрушыліся з месца. І тады дзецюкі сталі піхаць іх у плечы, падштурхоўваючы да сярэдзіны круга, пакуль удзельнікі двубою не наблізіліся адзін да аднаго на адлегласць выцягнутай рукі.

Толькі цяпер Марк Юній узняў вочы і кінуў стомлены пагляд на свайго сябра. Нейкі час яны моўчкі пазіралі адзін на аднаго, і столькі тугі, столькі гора выпраменьвалася з іхніх вачэй, што не трэба было ніякіх слоў...

— Бывай, Катул! — прахрыпеў з грудзей Марк Юній і, аберуч схапіўшы рукаятку гладыуса, рэзка ўваткнуў лязо сабе ў жывот. Ён яшчэ не паспеў заваліцца на зямлю і, магчыма, перад смерцю здолеў пачуць голас Катула.

— Бывай, мой дружа! — з гэтымі словамі трыбун здароваю рукою таксама ўвагнаў гладыус у сваё чэрава...

Натоўп на плошчы знерухомеў і анямеў. Бар Кохба таксама на хвіліну здранцвеў: чаго-чаго, але такога зыходу ён не чакаў. Трохі ачуняўшы, Бар Кохба ўскочыў з крэсла.

— Відовішча скончанае! Усім разыходзіцца! — гаркнуў ён і шпаркімі крокамі пашыбаваў з плошчы...

У той дзень за гладыятарскімі баямі назіраў і Гідон. І не таму, што яму дужа карцела палюбавацца жудасным відовішчам. Жахаў Гідону хапіла і ў Віфаніі, адкуль яны з Вірсавіяй ледзьве выбраліся.

Менавіта яна, Вірсавія, папрасіла хлопца схадзіць на плошчу Храма, хоць хрысціянам была неўспадоб крывавая калатнеча, і ніхто з іх не выказаў намеру яе пабачыць. А Вірсавія мела свой інтарэс...

Архелай, гэты прыгожы і шчыры юнак, запаланіў душу дзяўчыны, стаў для яе даражэйшым за ўвесь белы свет. Здавалася б, і бачыла яна хлопца ўсяго аднойчы, і сустрэча была кароткаю, і нават не пацалаваліся яны ні разу, а вось бач ты — запала пачуццё ў сэрцайка...

Вірсавія разумела, што і Архелай шчыра яе ўпадабаў. Інакш не шукаў бы пасля таго, як іудзейскае войска ўступіла ў Ерусалім. Тата Вірсавіі пра ўсё расказаў: і як завітаў Архелай на іхнюю сядзібу, і як настойліва

распытваў, дзе яна, і як непасрэдна-шчыра сарвалася з ягоных вуснаў “я кахаю...”

А яшчэ тата сказаў Вірсавіі, што юнак гэты харошы, душа ў яго чыстая, дык няхай бы ў іх усё склалася як след...

Са слоў таты Архелай ведаў, што яна, Вірсавія, знаходзіцца ў Віфаніі. У дзяўчыны не было сумневу, што пры першай магчымасці Архелай паспрабуе адшукаць яе, выправіцца ў Віфанію. І што ён там пабачыў? Спаленую сядзібу Габрыеля. А пачаў распытваць, дык людзі, мусіць, сказалі, што ўсіх іх пазабівалі, тым лікам і прышлых. Добра, калі яму на вочы патрапіліся Ніцана ці Эльдад, якія змаглі распавесці пра іхняе з Гідонам выратаванне. Але ж, мусіць, не патрапіліся, калі Архелай дагэтуль не завітаў у хрысціянскае паселішча...

Вірсавія разумела: цяпер Архелаю трэба даць нейкую пазнаку, што яна — жывая. Але як? Дзе шукаць яго ў гэтым перанаселеным узброенымі людзьмі горадзе? Праўда, Архелай абмовіўся тату, што быццам бы ён служыць галоўным ахоўнікам пры самім Бар Кохбу. Хутчэй за ўсё, так яно і ёсць, бо Архелай хлусіць не будзе. Але ж ці магчыма дабрацца да таго Бар Кохбы ёй, дзяўчыне-хрысціянцы?

Чутку пра тое, што іудзеі вырашылі наладзіць гладыятарскія баі з удзелам палонных рымлян, Вірсавія ўспрыняла як адзіны шанец, пасланы ёй Богам. Архелай, безумоўна, будзе там прысутнічаць. І не туляцьмецца дзе-небудзь у шматлікім натоўпе. Ягонае месца як галоўнага ахоўніка — побач з Бар Кохбам, а значыць, навідавоку.

Каб самой ісці на плошчу, і думаць не было чаго: жанок на падобныя відовішчы не пускалі. Але ж Гідон... Вось хто зможа там пабываць і, калі пашанцуе, нейкім чынам зверне на сябе ўвагу Архелая. Ведаючы, як ставіцца да яе Гідон, Вірсавія не сумнявалася, што ёй удасца ўгаварыць хлопца на такую вылазку...

Аднак Гідон, што вельмі здзівіла Вірсавію, спярша рашуча адмовіўся выканаць просьбу. І толькі калі яна, адвярнуўшыся, бязгучна і непадробна заплакала, пагадзіўся, хоць яму невыносна пакутна было шукаць нейкага хлопца для дзяўчыны, якую ён сам бязмежна кахаў...

Вірсавія словамі апісала Гідону, як выглядае Архелай. Прынамсі, знешнасць ягоная настолькі адметная ў смуглявым асяроддзі, што памыліцца проста немагчыма.

Даручэнне Вірсавіі Гідон выканаў добрасумленна. Ён, вёрткі і спрытны, нават праціснуўся да цэнтра плошчы, у першыя шэрагі, і без аніякай асалоды назіраў за баямі. А самазабойства легата і трыбуна конча прыгняло ягоную душу. Зрэшты, і ўсе тыя, што стаялі вакол, пачувалі сябе ніякавата...

Ні побач з Бар Кохбам, ні сярод ягонага атачэння, што кучкавалася воддаль, Гідон не згледзеў хлопца, якога апісала Вірсавія. Пра гэта, вярнуўшыся, ёй і распавёў.

— Гэтага не можа быць... Не можа быць... — адрачона паўтарала Вірсавія, і вочы яе брынялі слязамі.

Гідон не кінуўся яе супакойваць ці абнадзейваць. Наадварот. Ён чамусьці ўпэўнена і з прыхаванай радасцю сказаў:

— Быць можа ўсё. Ты не забывай, што войска Бар Кохбы вярнулася з вялікае бітвы...

— І што?

— А тое, што Архелай у гэтай бітве, безумоўна, удзельнічаў. Кажуць, людзей там палегла — цераз аднаго... Хутчэй за ўсё, загінуў і твой Архелай.

Інакш чым можна растлумачыць адсутнасць галоўнага ахоўніка на такім векапомным відовішчы?

— Што ты плявузгаеш? Я не веру гэтаму! — надрыўна крыкнула Вірсавія і сваімі маленькімі кулачкамі загрукатала Гідону ў грудзі. — Я не веру гэтаму! Можа, ён толькі паранены, таму і не змог прыйсці на тое пабоішча! Я не веру гэтаму!

Гідон зацята маўчаў.

Архелая ў той дзень насамрэч не было на плошчы. Прыскакаўшы ў Ерусалім з Віфаніі, ён не проста занудзеў — здавалася, што і захварэў. За некалькі дзён схуднеў як трэска. Туляўся сярод людзей як брында, пазіраючы на ўсіх невідушчымі вачыма. Бар Кохба здагадаўся, што хвароба Архелая нейкім чынам звязаная з той дзяўчынай, да якой ён ездзіў, спрабаваў тое-сёе распытаць, але нічога ўцямнага ў адказ не пачуў.

Сімон спадзяваўся, што Архелая хоць неяк узбадзёрыць навіна пра заўтрашнія гладыятарскія баі, тым болей што "дэсертам" стане паядынак з удзелам легата, якога Архелай захапіў у палон, аднак гэта нагнала на хлопца яшчэ большую скруху. Архелай сказаў Бар Кохбу, што пачувае сябе зусім дрэнна і на плошчу не пойдзе. Ці ж мог ён уласнымі вачыма назіраць, як будуць зневажаць чалавека, мужнага ваяра, якога ён, Архелай, сам асудзіў на ганьбу?..

## Разлад

Апошнім часам Акібу вярэдзіла думка, што наконт Бар Кохбы ён дапусціў памылку. Нават не памылку, а недагляд.

Прынамсі, у галоўнага рабіна не было шкадобы з-за таго, што ён уласнымі рукамі "сатварыў" Месію. Акіба і цяпер лічыў, што задума была правільнай, у яго не мелася іншага выйсця, каб на паўстанне натхнілася ўся іудзейская грамада. Ідэя насамрэч прынесла плён: даведаўшыся пра Збавіцеля, народ заварушыўся ў самых аддаленых кутках Палесціны.

Акіба не бачыў праліку і ў тым, што спыніў свой выбар менавіта на Бар Козібу. Як ні круці, а Сімон апраўдаў надзеі ў вайсковай справе: хоць і з вялікімі стратамі, ды ўсё ж разграміў цэлы рымскі легіён.

Трывожыла іншае: Бар Кохба адчуў слодыч улады, паводзіць сябе задужа самастойна, можна сказаць, адбіўся ад рук. Ён ужо не толькі кіруе войскам — імкнецца верхаводзіць ва ўсім, нават што тычыцца веры. Калісьці Рашбі выказваў перасцярогу наконт падобнага зыходу, аднак Акіба тады разлічваў, што здолее ўтрымаць Бар Кохбу "ў лейцах". І вось на табе — нечага недагледзеў...

Зрэшты, і з самім Рашбі адбыліся незразумелыя перамены. То не мінала ні дня, каб ён не наведаў свайго настаўніка, не параіўся з любой нагоды, а цяпер, бывае, цэлымі тыднямі да Акібы носа не кажа, найболей з Бар Кохбам зносіцца: ці глядзіць яму ў рот, ці нешта нашэптвае...

Іх абодвух Акіба і вырашыў запрасіць для сур'ёзнае размовы.

Галоўнага рабіна крыху насцярожыла, што і Бар Кохба, і Рашбі завіталі да яго не паасобку, а разам, нібы згаварыўшыся. "Відаць, насамрэч "знюхаліся", — кальнула Акібу непрыемная думка. — У адной звязцы ходзяць. Ці не стану я неўзабаве лішнім у гэтай суполцы?"

Бар Кохба, тым не меней, хоць і меў залішне ганарысты выгляд, аднак павітаўся з Акібам з ранейшай пачцівасцю: схіліў перад ім галаву, звыкла павінаваціўся:

— Прабач, рабі, што гэтак рэдка цябе наведваю. Сам разумееш — справы...

Абняў свайго настаўніка і Рашбі.

Акіба не спяшаўся адразу “ўзяць быка за рогі”, нейкі час распытваў Сімона пра будзённае: ці ўдостатку для войска харчу, ці не здараюцца непаразуменні паміж апалчэнцамі і наймітамі, ці захоўваецца дысцыпліна ўвогуле...

І толькі потым Акіба распачаў размову пра галоўнае:

— Безумоўна, мы маем пэўныя поспехі. Ерусалім — наш. І не толькі. Улада перайшла ў нашыя рукі паўсюль. І самае важнае — народ нам паверыў і гатовы за намі ісці. Вось тут і ўзнікае пытанне: куды ісці? Што нам рабіць далей?

— Жыць, — без аніякай іроніі адказаў Бар Кохба. — Проста жыць. Араць, сеяць, гандляваць, гадаваць дзяцей...

— Ты ў сваім розуме, Сімон? Пра што ты гаворыш? Думаеш, калі ўдалося адужаць адзін легіён, дык на гэтым вайна скончылася? Па-твойму, рымляне так забаяліся, што болей сюды і носа не паткнуць? А яны тым часам збіраюць свае сілы ў Кесарыі, каб неўзабаве хлынуць на нашыя гарады і мястэчкі...

— Я, рабі, ведаю гэта не горш за цябе. Але ведаю і тое, што рушыць на Кесарыю мы пакуль што не можам. Зубы аб тую крэпасць абломім. Раней і я прытрымліваўся гэткай жа думкі: трэба адным махам змесці з нашае зямлі ўсю рымскую пагань. Але, ці паверыш, пасля таго, як давялося сашчапіцца з Егіпецкім легіёнам, пасля таго, як нам удалося разграміць яго, у маю душу закраўся сумнеў. Гэта ж колькі сваіх людзей нам давялося пакласці, каб адолець толькі некалькі тысяч рымлян! А мы ж заспелі іх знянацку... У адкрытай, лабавой сутычцы — і я гэта бачыў! — у нас шанцаў мала, хай сабе і мецьмем колькасную перавагу. Што ўжо казаць пра бітву за Кесарыю, калі давядзецца штурмаваць крапасныя сцены...

— Чаго ж, па-твойму, не стае нашым ваярам, каб нароўні змагацца з рымлянамі? — задаў пытанне Акіба, хоць адказ на яго добра ведаў і сам.

— Не стае баявой вывучкі. Не хапае належнай зброі. Нам варта рабіць разлік не на колькасць, а на якасць. Гэта першае. А другое — мы можам разлічваць на поспех не ў наступальных баях, а ў абарончых. Нам трэба не штурмаваць мураваныя сцены, а хавацца за імі. Каб вывучка легіянераў не мела вызначальнай перавагі. Каб яны змагаліся не ў маналітных шэрагах, а паасобку...

— Ты дрэнна ведаеш гісторыю, Сімон, — перабіў Бар Кохбу Акіба. — Менавіта такой тактыкі прытрымліваліся мы падчас усіх войнаў з рымлянамі. Абараняліся, адступалі... І што з таго? Усе войны завяршаліся нашаю паразаю.

— Значыць, дрэнна абараняліся. А адступаць увогуле было не след. Кожны горад, кожнае мястэчка павінны стаць вялікаю ці малою крэпасцю. Іх патрэбна рыхтаваць ужо зараз: узводзіць сцены, назапашваць харчы на выпадак доўгай асады. Усе сродкі — толькі на гэта і не на што іншае! Нам не варта дбаць пра новыя тэрыторыі, нам трэба рабіць усё, каб не страціць тое, што маем...

— Ты таксама гэтак думаеш? — Акіба нечакана і рэзка скіраваў пагляд на Рашбі, які дагэтуль толькі маўчаў:

— Ды я... ды мне... Шчыра кажучы, у вайсковых справах я мала што

разумею, — няўцямна замармытаў святар. — Але ўсё ж здаецца, што ў нечым Сімон мае рацыю...

— Здаецца? — іранічна перапытаў Акіба. — А мне здаецца, што вы ўжо да гэтае сустрэчы паразумеліся...

— Ды што ты, настаўнік? Я ў вайсковыя справы не лезу...

— Калі ты не збіраешся ісці на Кесарыю, дык навошта нам гэткае вялікае войска? — Акіба зноў звярнуўся да Бар Кохбы. — Яшчэ ж немаведама, калі рымлянам уздумаецца перайсці ў наступ. Можа, праз месяц, а можа, праз год... І ўвесь гэты час мы трымацьмем людзей, так бы мовіць, пад зброяй? Аднаго толькі харчу колькі трэба...

— Што праўда, то праўда. Таму, мне здаецца, войска варта распусціць.

— Як гэта? — ад такое нечаканкі Акіба літаральна страціў мову. — Ты... ты... Што ты вярзеш? Я паўсвету абхадзіў, каб сабраць наймітаў, цябе, во, прыдумаў, Месіяй абвесціў, каб зняверaныя іудзеі акрыялі, за зброю ўзяліся. І ўсё гэта адным махам — пад нож? Ты з глузду з'ехаў, Бар Козіба? Ды я цябе...

— Супакойся, рабі, і выслухай мяне да канца. Я не кажу, што трэба распусціць усё войска. "Сабраных з усяго свету", як ты кажаш, наймітаў, ніхто распускаць не збіраецца. Яны — найболей баяздольныя нашыя ваяры. Няхай служаць. А распусціць я прапаную іудзеяў, мясцовых жыхароў. Які сэнс трымаць іх пад зброяй цяпер, калі ваенных дзеянняў нямашака? Без справы яны тут проста заныдзеюць. Нам не ўдасца захаваць сярод іх належную дысцыпліну — ад бяздзеяння, крый божа, пачнуць тварыць розную непатрэбшчыну... Ці не так, рабі?

Акіба прамаўчаў. Гэта азначала, што апошнім словам Бар Кохбы пярэчыць яму няма чым. Сімон гэта зразумеў і з падвоеным імпэтам працягваў:

— Амаль у кожнага з іх ёсць жонка, дзеці. Іх трэба карміць, адзяваць. Пустуе без догляду зямля... Ну дык няхай яны гэтым і займуцца. Да таго ж, як я ўжо казаў, нам спатрэбяцца значныя харчовыя запасы. А хто іх створыць, калі не яны, простыя іудзеі-местачкоўцы?

— Усё гэта так, — змусіўся, нарэшце, пагадзіцца Акіба. — Але хто ж будзе ваяваць з рымлянамі, калі яны рушаць на нас з Кесарыі? Адныя толькі найміты не ўправяцца...

— Сёння мы распусцім мясцовы люд, а заўтра зноў можам склікаць яго пад свае сцягі. Ніякіх перашкод не будзе. Людзі ўжо прывучаныя да зброі, спазнаўшы вольнае жыццё, яны будуць змагацца за яго да апошняй кропелькі крыві. Калі спатрэбіцца, мы без напругі здолеем правесці, так бы мовіць, мабілізацыю. Уся тэрыторыя ад Гісхалы да Масады належыць нам, дарогі — таксама пад нашым кантролем. Варта толькі разаслаць ганцоў, і мы зноў збяром такое ж войска, магчыма, нават і большае...

Бар Кохбу падалося, што ён здолеў пераканаць Акібу, але той пасля доўгае развагі мовіў:

— Над тым, што ты сказаў, я яшчэ падумаю...

Каб конча акрэсліць свае планы, Сімон выказаў і зусім крамольную ідэю:

— Рабі, тую дзесяціну, якую іудзеі дагэтуль аддавалі рымлянам на ўзвядзенне статуй іхніх багоў, ты перанакіраваў на будаўніцтва нашага Храма...

— А табе гэта не падабаецца?

— Ды не, чаму ж... Толькі, мне здаецца, не час нам думаць пра Храм. Дапусцім, Храм пабудуем. Аднак, калі не зможам яго абараніць, дык рымляне зноў зруйнуюць. Найперш грошы нам патрэбныя на зброю! Вось на што варта ўжыць тую дзесяціну! Часова, вядома...

Акіба паласнуў Бар Кохбу такім спапяляльным позіркам, што ад Сімона павінен быў пайсці дым.

— Ты зусім абнахабіўся, Сімон... Для чаго мы паднялі гэтае паўстанне? Для таго, каб абараніць нашую веру! Што змусіла народ узяцца за зброю? Тое, што рымляне зняважылі нашыя святыні, і спершага Храм! Менавіта дзеля аднаўлення Храма іудзеі як адзін гатовыя аддаць свае жыцці! А ты збіраешся забраць у іх гэтую надзею? Вера — вось наша галоўная зброя! Яна мацней за любыя мячы і дзіды!

Бар Кохба хоць і меркаваў, што ягоная прапанова, мякка кажучы, не выкліча ў галоўнага рабіна вялікага энтузіязму, але не чакаў, што Акіба ўспрыме яе з гневам, ды яшчэ такім бурным. Акіба, лічыў Сімон, не дурны чалавек і павінен разумець: аднымі малітвамі рымлян не адолееш, перамогі куюцца ў непасрэдных бітвах... А тут — на табе! — гэткі для яго, Сімона, адлуп...

Нечакана на падмогу Бар Кохбу прыйшоў Рашбі:

— Настаўнік, не варта даводзіць Сімону нашыя ісціны — ён і так іх добра ведае. Таму і кажа, што дзесяціну трэба пусціць на вайсковыя патрэбы часова, бо вымагаюць абставіны...

— Выходзіць, ты таксама лічыш, што будаўніцтва Храма трэба адкласці “да лепшых часоў”?

— Таксама.

— Вось яно як! А мусіць жа, і не зусім Сімонава гэтая ідэя! Па ўсім бачна, ад цябе яна зыходзіць, ад цябе! Проста ўклаў ты яе ў вусны Сімона, каб самому не падстаўляцца, выглядаць незаплямленым. Ці не так, мой любімы вучань?

— Не так, настаўнік. Проста ідэя ляжыць настолькі на паверхні, што яна відавочная любому разумнаму чалавеку...

— Ага! Дык значыць, я яшчэ і дурны!

— Я такое не сказаў, настаўнік...

— Сказаў! Яшчэ як сказаў! Не чакаў я такога ад цябе, Рашбі... Вучыў, песцаваў... Спадзяваўся некалі мець ад цябе падтрымку... Разлічваў, што застанешся маім духоўным паслядоўнікам, захавальнікам веры...

— Такім я і хачу застацца ў тваіх вачах...

— Не крыві душою, Рашбі. З нядаўняга часу, пасля таго, як мы прызначылі Месію, цябе як падмянілі... Што, адчуў новую сілу? Зразумеў, што цяпер Бар Кохба мае рэальную ўладу, і вырашыў перакінуцца да яго?

— Ты памыляешся, настаўнік. Нікуды я не перакінуўся. У нас жа агульная мэта, адны справы... Чаму мы павінны абавязкова пярэчыць Сімону, калі ён выказвае сапраўды слушныя думкі?

— Слушныя? І гэта пра Храм, будаўніцтва якога, паводле ідэі Бар Кохбы, неабходна адкласці? — Акіба размаўляў з вучнем так, быццам сам Сімон пры гутарцы не прысутнічае. — Эх, Рашбі... З’явіўся ў мяне сумнеў наконт цябе яшчэ тады, калі ты захапіўся астраноміяй. Закрыў я на тваё захапленне вочы... Думаў, пустое ўсё, блюзнерскае... З часам, разлічваў, пад маім уплывам пройдзе яно, сатрэцца... Ажно не, не сцерлася... Няма ў табе, Рашбі, сапраўднае веры, няма!

Апошнія словы Акіба сказаў з такой сталёвасцю ў голасе, нібы ўбіў цвік. Аднак, як гэта ні дзіўна, яны не змусілі Рашбі жахнуцца ці хаця б засмуціцца. Ён непарушна мовіў у адказ:

— Ты проста не ў сабе, настаўнік. Не варта быць такім катэгарычным. Спадзяюся, праз пэўны час ты супакоішся і зразумееш, што наконт мяне памыляешся. Таму я на твае словы не крыўдую... А пакуль дазволь падзяліцца яшчэ адною турботаю. Я пра хрысціян...

Акіба яшчэ не ачомаўся ад нечаканае абразы (як гэта: галоўны святар — і "не ў сабе"?), словы вучня далятлі да ягоных вушэй, як з глыбокай пячоры. Рашбі гэта заўважыў, таму, павысіўшы голас, паўтарыў:

— Я пра хрысціян, настаўнік! Трэба, у рэшце рэшт, нешта з імі вырашаць. Ці выгнаць з Ерусаліма, ці... Яны — як бяльмо на воку. Народ абураецца...

— Народ ці ты асабіста? — Акіба, здаецца, пачуў ужо словы Рашбі, але ўсім сваім выглядам паказаў, што стасункі з ім яму непрыемныя, таму дэманстратыўна звярнуўся да Бар Кохбы: — Сімон, мне таксама неўспадоб хрысціяне. Я іх не пераношу на дух. Але чапаць гэтых адшчапенцаў пакуль не варта. Я ведаю, што ў некаторых гарадах і мястэчках ужо і так адбываюца пагромы. Хрысціян забіваюць, сядзібы разбураюць... Гэта яшчэ не набыло задужа вялікага размаху. Калі ж мы наладзім пагром тут, у Ерусаліме, ён успрымецца паспалітымі іудзеямі як сігнал для ўсеагульнага пабоішча. Ці трэба яно сёння, напярэдадні вырашальных бітваў з рымлянамі? Мы толькі прыдбаем новых ворагаў, прычым за спінаю. Усяму свой час. Разбяромся мы з хрысціянамі, павер. Але не цяпер... Ты як военачальнік павінен разумець гэта...

Бар Кохба, падбухтораны Рашбі, дагэтуль быў перакананы: ерусалімскіх хрысціян належыць ці некуды перасяліць, ці проста знішчыць. І цяпер яго не столькі пераканалі довады Акібы, колькі кранула тое, што галоўны святар загаманіў з ім, як з роўным, ігнаруючы нават свайго лепшага вучня. Узрушаны такою нечаканкаю, Бар Кохба, насуперак дамове з Рашбі, паабяцаў:

— Мы не будзем чапаць хрысціян, рабі.

— Ну то і добра... А цяпер ідзіце. Мне няможацца. Потым выкажу вам сваё канчае рашэнне...

Калі за Бар Кохбам і Рашбі зачыніліся дзверы, Акіба знясілена асеў у крэсла. Разбалелася сэрца. У галаве галоўнага святара выспявала прадчуванне, што ён ужо і не галоўны...

## Хцівасць Гідона

Спакваля Архелай, як кажуць, вяртаўся да жыцця, хоць туга не пакідала ягонае сэрца. За што Бог паслаў яму такое выпрабаванне, чаму ён спярша падарыў светлае пачуццё, а затым адразу ж перайначыў яго ў боль?

Былі хвіліны, калі Архелай крыўдаваў і нават злаваў на Бога, хоць разумеў, што гэта вялікі грэх. Часам у ягоную галаву ўзбрыдалі і зусім ганебныя думкі: а ці ёсць ён, Бог, увогуле? а калі ёсць, ці адзін ён? Можа, у кожнага народа свой, асабісты Бог? Вунь жа пакланяюцца іудзеі Яхве, хрысціяне — Хрысту, а ў рымлян гэтых багоў дык і ўвогуле цэлая плойма. І з-за іх, багоў, на зямлі адбываецца гэткая калатнеча: каб даказаць, што іхні бог самы правільны, самы ўсемагутны, вернікі адно аднаго зневажаюць, бэсцяць, забіваюць... Навошта ўсё гэта? Лепей жа было б, каб там, на небе,

сабраліся ўсе гэтыя багі разам дый вызначылі б, хто з іх самы галоўны, самы ўсемагутны і каму з іх павінны маліцца ўсе людзі на зямлі. Хай бы тыя багі нават і пабіліся, калі б не прыйшлі да згоды. Адзін раз “памутузіцца” — гэта не страшна. Затое на зямлі насамрэч наступіла б “царства міру”, вернікі ведалі б, каму з іх цяпер належыць маліцца, а так, во, вякамі грызуцца паміж сабою, прыносяць адно аднаму боль, як, напрыклад, яму, Архелаю...

Бар Кохба спрабаваў выведаць у Архелая, што яго так замаркоціла, але высілкі былі марнымі: хлопец трымаўся зацята, не толькі пазбягаў гэтае тэмы, але і ўвогуле зрабіўся маўчуном. Таму Сімон вельмі ўзрадаваўся, калі ягоны памочнік нечакана пацікавіўся лёсам палонных рымлян — з гэтага вынікала, што Архелай трохі акрыяў, вяртаецца да будзённых спраў.

— Ты іх збіраешся неяк пакараць? — спытаўся Архелай у Сімона, калі яны раніцай удвох намерыліся абскакаць паўночную ўскраіну горада, каб праверыць, як узводзяцца абарончыя ўмацаванні.

— Што рабіць з палоннымі, я пакуль што канчаткова не вызначыўся, — шчыра прызнаўся Бар Кохба. — Запатрабаваць у прапрэтара выкуп? Дык жа самы дарагі “тавар” — легат і трыбун — намі ўжо страчаны, а за шараговых легіянераў Руф і сестэрцыі[1] не дасць... Пакуль што яны, як рабы, задзейнічаны на будоўлі — ты, дарэчы, зараз пабачыш, — але гэта таксама не выйсце...

— У мяне наконт палонных ёсць ідэя.

— І якая ж?

— Ты казаў, што ёсць задума часова распусціць атрады апалчэнцаў па сваіх паселішчах. Так?

— Так.

— Яны там будуць араць, сеяць, весці гаспадарку і спакваля страцяць тое, што хоць трохі набылі ў Бетары і тут, у Ерусаліме, — баявую вывучку. А яна ж ім яшчэ ого як спатрэбіцца!

— Людзі і самі гэта разумеюць. Таму, безумоўна, ніхто зброю на гарышча не закіне.

— Закіне, не закіне — тое немаведама. Дый ад каго яны засвойвацьмуць навыкі? Ад гэткіх жа саматужных настаўнікаў. Карысці з таго мала...

— Дык у чым жа твая прапанова?

— Гэтых палонных рымлян трэба размеркаваць па атрадах, якія ты збіраешся выправіць у родныя гарады і мястэчкі! Яны і стануць там найлепшымі настаўнікамі ў баявой справе! Ты ж не будзеш пярэчыць, што ў кожнага рымскага ваяра вывучка адмысловая...

— Гм... А ў гэтым нешта ёсць! Трэба падумаць... Самае цікавае, што ніводзін з палонных, бадай, і не адмовіцца ад такой прапановы. А куды ім падзецца? Нават калі б я даў ім волю, дык мала хто ёю скарыстаўся б. Узяць хаця б тых жа пераможцаў гладыятарскіх двубояў. У дачыненні да іх я сваё слова стрымаў: ідзіце, кажу, куды вам уздумаецца, хоць у Кесарыю, а потым будзеце з намі ж змагацца. Дык ніхто з іх — ці паверыш? — такою магчымасцю не скарыстаўся, усе засталіся тут, у адзіным кагале з астатнімі палоннымі. А чаму? Ды яны ж выдатна разумеюць: да Кесарыі ім не дабрацца, як толькі выйдуць за ваколіцы Ерусаліма, у першым жа мястэчку іх распазнаюць як рымлян і на кавалкі разарвуць... Так што прапанова твая, бадай, слушная!..

На паўночнай ускраіне горада Архелай і Бар Кохба правялі шмат часу,

[1] Срэбная манета, якая мела ў імперыі найбольшы ўжытак.

а калі вярталіся ў Фазаелеву вежу, іхнім коням няпроста было працілскацца па не надта шырокіх ерусалімскіх вулках: у другой палове дня ў горадзе нібы большала людзей. Дзе-нідзе раскінулі свае тавары гандляры, туды-сюды снавалі ваяры ды разявакі. Замінала яшчэ і тое, што, здалёк згледзеўшы Месію і вітаючы яго, насельнікі імкнуліся наблізіцца да коннікаў як мага, падалі на калені, а хто-ніхто спрабаваў пацалаваць стрэмя. Архелай таксама меў сваю долю ўвагі і пашаны, бо ўсе ўжо ведалі, хто ён такі і чаму, як цень, заўжды знаходзіцца побач з Месіяй. Не дзіўна, што Архелай не звярнуў увагі на юнака ў шматлікай гурме, які, у адрозненне ад іншых, не кідаўся пад конскія ногі, не галёкаў, а проста свідраваў яго сваімі чорнымі вачанятамі...

Гэта быў Гідон.

Хрысціяне хоць і жылі адасоблена ад іншых, аднак назваць іхняе паселішча "рэзервацыяй" было нельга. Яны, як і ўсе насельнікі, раз-пораз выбіраліся ў горад, у тым ліку ў цэнтральную яго частку: нешта куплялі, штосьці абменьвалі. Гідон дык і ўвогуле шастаў сярод руін днямі напралёт, бо асаблівых клопатаў па гаспадарцы не меў.

Калі Гідон пачуў узрушаныя воклічы "Бар Кохба! Бар Кохба едзе!", ён памкнуўся на вулку, запоўненую людзьмі, каб яшчэ раз паглядзець, цяпер ужо зблізку, на іудзейскага верхаводу. Гідона ўразіў не столькі сам Бар Кохба, колькі ягоны белы конь з пазалочанай збруяй. А яшчэ кінуўся ў вочы светлавалосы юнак, які таксама на кані, толькі вараным, ехаў побач з усеагульным любімцам. У галаве прамільгнула не надта прыемная здагадка: "Дык гэта ж, мусіць, і ёсць той самы Архелай. Бач ты, не прапаў, не загінуў..." На ўсялякі выпадак Гідон запытаўся ў пузатага гандляра, які таксама гарлаў вітальныя словы:

— А што гэта за хлопец побач з Месіяй?

Гандляр недаўменна зірнуў на Гідона:

— Няўжо не ведаеш? Гэта ж Архелай, правая рука Бар Кохбы!

Коннікі ўжо зусім наблізіліся, і Гідон мог бы кінуцца да Архелая, каб звярнуць на сябе ягоную ўвагу. У гэтай сумятні немагчыма было нешта доўга тлумачыць, але ўдостатку выгукнуць (і Гідон гэта ўсведамляў) адно толькі імя Вірсавія, і Архелай, безумоўна, усё зразумеў бы... Але Гідон не выгукнуў. Не з'явілася ў яго такое жаданне.

Спачатку Гідон правёў коннікаў позіркам, а затым, нібы адумаўшыся, кінуўся ўслед за імі і суправаджаў да тае пары, пакуль коннікі не зніклі за варотамі Фазаелевай вежы...

Пра тое, што Архелай жывы-здаровы, Вірсавіі Гідон не распавёў, хоць і шкада яму было любімую дзяўчыну, якая з-за душэўных пакут высахла, бы сцяблінка...

## Вайна вайною

З самае раніцы Архелай наведаўся ў атрад Яная, каб развітацца з сябрамі. Магчыма, нават і назаўжды...

Бар Кохба спраўдзіў сваю задуму: усім апалчэнцам, за выключэннем тых, хто жыў паблізу Ерусаліма, наканоўвалася вярнуцца ў родныя мясціны, дзе яны павінны займацца будзённымі справамі, а ў вольныя часіны набываць баявыя навыкі, у чым ім спрыяцьмуць палонныя рымляне. Па першым закліку, наказаў Бар Кохба, усім належыць прыбыць туды, куды будзе загадана, каб стаць пад агульнавайсковы штандар. У Ерусаліме заставаліся

толькі найміты ды яшчэ добраахвотнікі-іудзеі, большасцю маладзёны, не абцяжараныя сем'ямі і гаспадаркай.

Янаеўцаў, натуральна, чакала "дэмабілізацыя", і яны былі да яе гатовыя, больш за тое — успрынялі з радасцю: вайна вайною, а хлеб вырошчваць трэба.

Яшчэ з вечара янаеўцы сабралі няхітрыя пажыткі, назапашаныя за час службы, каб на самым досвітку, пакуль не нахлынула спёка, выправіцца на поўдзень, у бок Эн-Гадзі, дзе на ўзбярэжжы Мёртвага мора месцілася іхняе паселішча. Так што спазніўся б Архелай на некалькі хвілінаў, дык у янаеўскім лагеры нікога і не заспеў бы.

Як толькі апалчэнцы згледзелі конніка і распазналі ў ім ахоўніка Бар Кохбы, дык напачатку падумалі, што здарылася нешта надзвычайнае і, крый божа, "дэмабілізацыя" адмяняецца. Калі Архелай спешыўся, яны ўсім кагалам абступілі яго, моўчкі чакаючы, што скажа веставы Бар Кохбы. Архелай скмеціў напругу ў вачах янаеўцаў і, нават не павітаўшыся, з насцярогаю пацікавіўся:

— Чаго вы пазіраеце на мяне, як на пудзіла? Што-небудзь здарылася?

— Гэта мы ў цябе павінны запытацца, што здарылася, — усё яшчэ не сагнаўшы з твару трывогу, сказаў Янай. — Без дай прычыны ты ж да нас не наведваешся. У планах Бар Кохбы ёсць якія-небудзь змены? Нам належыць заставацца на месцы?

Архелай непрыхавана пакрыўдзіўся:

— Як гэта без дай прычыны не наведваюся? Ды я пры кожным зручным выпадку ў вас аціраюся! Проста не часта гэта выпадае... У мяне ж на ўсім белым свеце, акрамя Сімона ды... — Архелай хацеў сказаць "Вірсавіі", аднак абсекся (ці ёсць яна на белым свеце?) і пасля кароткае замінкі дадаў: — Няма ў мяне нікога радней, чым вы...

Расчулены гэткім прызнаннем, Янай паспяшаўся выправіцца:

— Прабач, хлопча, што пляцнуў языком абы-што. Ты ж для нас таксама як родны... Але ўсе-ткі ці не здарылася нічога благога насамрэч?

— Ды не, усё па завядзёнцы... Вось развітацца з вамі прыехаў...

— І гэта правільна! Гэта па-людску!

На доўгія размовы часу не было. Архелай пачаргова абняў кожнага чальца атрада, а з Янаем дык нават пацалаваўся. І толькі Нахума ды Гефена ён адклікаў убок. Абодва былі ўдзячныя Архелаю, бо пасля вандроўкі ў Віфанію коней у іх ніхто не забраў, а ў родным паселішчы яны ох як спатрэбяцца ў гаспадарцы. Зараз тыя коні былі запрэжаныя ў павозкі, на якія ўсе янаеўцы ўзвалілі свой скарб — усё спадручней будзе дабірацца да Эн-Гадзі ўлегцы.

— Не забывай нас, — з тугою мовіў Нахум, калі яны ўдосталь пагаманілі пра тое-сёе. — А можа, і наведайся, як выпадзе... Бар Кохба ж на адным месцы не сядзецьме, дай божа, і ў нашыя мясціны зазірне...

— Ды гэта само сабою...

— Я табе і дзеўку харошую ў нас знайду. Ёсць адна ў мяне на прыкмеце, Малкай завуць. Не горшая, чым твая Вірсавія...

Лепей бы Нахум гэтага не казаў. Архелай адразу спахмурнеў, увабраўся ў сябе.

— Што ты плявузгаеш, прыдурак? — рыкнуў Гефен і смачна выцяў Нахума далонню па патыліцы — той ледзь не зваліўся з ног.

Зрэшты, Нахум і сам дапяў, што ляпнуў лішняга.

— Прабач, Архелай... Проста не падумаў...

— Ну, нічога, нічога.. Ты ж хацеў як лепш...

Нарэшце, уволю наабдымаўшыся з сябрамі (ад “абцугоў” асілка аж храбусцела ў плячах), Нахум і Гефен кінуліся даганяць сваіх. Архелай яшчэ доўга пазіраў услед нешматлікай купіне людзей, якая сыходзіла за акаём, і балесна было ў ягонай душы, бо не пакідала адчуванне яшчэ адной дарагой страты...

Адносіны з Акібам у Бар Кохбы разладзіліся ўшчэнт. Ён ужо ўвогуле не наведваў галоўнага святара, бо не адчуваў ніякай патрэбы ў ягоных парадах. Духоўным настаўнікам і дарадчыкам стаў для Сімона рабі Рашбі, які неназаляў строгімі ўказаннямі, а калі і хацеў дамагчыся нечага свайго, дык рабіў гэта памяркоўна, нязмушана, ненавязліва — адным словам, так, што падказаныя думкі і рашэнні здаваліся Бар Кохбу ўласнымі, ён нават не ўсведамляў, што выконвае чужую волю.

Акіба канча зняверыўся ў Бар Кохбу, змірыўся з тым, што не мае на яго ніякага ўплыву. Хто ён цяпер, Акіба? Звычайны, зямны чалавек, хай сабе і галоўны святар. А Бар Кохба для народа — Месія, пасланнік Бога, і менавіта да яго трэба прыслухоўвацца, выконваць усе ягоныя загады.

З Рашбі Акіба таксама не меў болей ніякіх стасункаў.

Сваім становішчам Бар Кохба скарыстаўся напоўніцу. У адным толькі ён не пайшоў насуперак волі Акібы — не стаў чапаць хрысціян, бо і сам лічыў, што набываць лішняга ворага ў гэтакі няпросты час — неразумна. У астатнім жа Бар Кохба праводзіў сваю (і Рашбі) палітыку паслядоўна і ўпарта.

Апалчэнцаў, як і задумаў, распусціў. Чым боўтацца ў ваколіцах Ерусаліма, няхай лепей займуцца гаспадарчымі справамі, заадно рыхтуюцца да непазбежнае вайны. А для таго, каб людзі адчулі сябе сапраўднымі гаспадарамі, усе некалі канфіскаваныя Рымам землі Бар Кохба абвесціў дзяржаўнай уласнасцю і стаў здаваць насельнікам у арэнду выдзелы. Для большай вагі прадстаўнікі ўлады на месцах заключалі дамовы з арандатарамі ад імя самога Бар Кохбы.

“Дзесяціна”, якую іудзеі спрадвеку аддавалі на будаўніцтва Храма (а пры рымлянах — на ўзвядзенне статуй іхніх багоў), цяпер накіроўвалася на набыццё зброі. Зрэшты, каб хоць трохі спатоліць святароў і найболей дагматычных іудзеяў, для блізіру да Храма пачалі завозіцца такія-сякія будаўнічыя матэрыялы...

З гэтай нагоды былі ўведзеныя ў абарот і ўласныя грошы, бо карыстацца рымскімі — гэта значыць прызнаць, што імперыя па-ранейшаму мае ўплыў на вызваленай тэрыторыі. Бар Кохба займеў чаканны станок. Акрамя, таго, здавён сярод прававерных іудзеяў цаніліся манеты, якія некалі чаканіў Сімон Макавей, першы яўрэйскі цар. Яны і цяпер у вялікай колькасці былі ва ўжытку. На некаторых — выява храма з зоркаю над ім і словамі “свабода Ерусаліма”. А яшчэ — надпіс: *Simeon nasi d’Israil.* Бар Кохбу адразу прыйшлося ўспадоб, што на манетах пазначана ягонае імя. А тое, што яно належала яшчэ і Макавею, дык хто там будзе разбірацца...[1]

Жыццё на вызваленай тэрыторыі ўваходзіла ў спакойнае рэчышча, і паступова, спакваля Іудзея пачала набываць абрысы самастойнае дзяржавы...

Тым часам на поўначы Палесціны Кесарыя, як пухір, з кожным месяцам усё болей надзьмувалася рымскім войскам...

---

[1] Гісторыкі не могуць прыйсці да адзінае думкі, каму належыць гэтае Simeon — Макавею, Бар Кохбу, сыну Гамалііла ці ўвогуле маецца на ўвазе нехта іншы.

## Мор

Браты Эфраім і Манасія таропка крочылі па бязлюдных вулках Ерусаліма. Была ўжо глыбокая ноч, насельнікі адпачывалі, а нешматлікія дазоры большасцю шпацыравалі на ўскраінах горада, тым не менш браты штохвілінна азіраліся: ім усё-ткі не хацелася патрапіць на чужое вока. Мінаваўшы ўвесь Верхні горад, яны наблізіліся да варот Яссеяў, дзе галоўны акведук рабіў загагуліну ўправа.

Эфраім і Манасія, як і загадаў ім Акіла, перад апалчэнцамі-іудзеямі выставілі сябе ахвярамі рымскіх прыгнятальнікаў. Яны паказна (можа, нават і залішне) загалялі свае спаласаваныя бізунамі спіны — як доказ таго, што ад рымлян ім добра-такі перапала.

Ніхто не ставіў пад сумнеў іхнія расповеды. Акрыленыя гэткім даверам, браты нават не сталі ўтойваць, што яны — самарыцяне. Гэта таксама не мела ніякіх наступстваў, бо ў іудзейскім войску сабраліся людзі ледзь не з усяго свету, а Самарыя — яна тут, побач, на поўначы мяжуе з Іудзеяй, і многія ейныя насельнікі падтрымалі паўстанне.

Братоў залічылі ў атрад Хагая, апалчэнцы ў ім большасцю былі выхадцамі з мястэчкаў вакол Беф-Цура. Калі адбіралася войска для сутычкі з Егіпецкім легіёнам, Эфраім і Манасія літаральна маліліся, каб атрад Хагая не трапіў у гэтую зборню. Ім пашэнціла: у паход рушылі самыя лепшыя, самыя спрактыкаваныя, а хагаеўцы баявою вывучкаю пакуль што не вызначаліся.

Пасля таго, як атрады апалчэнцаў па загадзе Бар Кохбы разбрыліся па сваіх паселішчах, браты, натуральна, засталіся ў Ерусаліме. Дый навошта ім было следаваць за Хагаем у нейкі Беф-Цур, далёка на поўдзень, у незнаёмыя мясціны? Вяртацца ў Самарыю таксама не выпадала: браты жылі як перакаці-поле, з раднёй не зналіся, ніякай гаспадаркі не мелі. Прынамсі, галоўнаю прычынаю, каб любым коштам застацца ў Ерусаліме, было заданне Акілы...

Браты добра запомнілі ягоны загад: здзейсніць “дыверсію” толькі тады, калі жыццё ў горадзе ўсталюецца як след. І вось, здаецца, яно ўсталявалася. Насельнікі пачуваюць сябе спакойна, жвава ідзе гандаль за новыя грошы, у ваколіцах людзі аруць і сеюць, а пра рымлян нават і згадак няма. Такая злагада нават насцярожвала братоў: а раптам рымляне сышлі назаўжды? Ці варта ў такім разе труціць іудзеяў, калі сярод іх давядзецца правесці астачу жыцця? Аднак жа неўзабаве пачалі даходзіць чуткі, што ў Кесарыі рымляне збіраюць вялікае войска...

Акведук быў стары, занядбаны, а дзе-нідзе нават паўразбураны. Рымляне не паспелі давесці яго да ладу, а ў Бар Кохбы не даходзілі рукі, каб прывесці ў парадак галоўную артэрыю, якая забяспечвала вадою цэнтральную частку горада, хоць Рашбі не раз нагадваў яму, што зрабіць гэта варта найперш.

Здатнае для сваёй задумы месца браты нагледзелі загадзя, а тры дні таму нават падцягнулі сюды дзве дошкі, каб лацвей было ўзабрацца хай сабе на невялікую, але ўсё-такі вышыню. Яны ўсё рабілі моўчкі, без мітусні, бо ўзгаднілі дзеянні загадзя, вызначыўшы для кожнага сваю ролю. Пакуль прыземісты Эфраім прыстаўляў да сцяны дошкі, Манасія дастаў з-за пазухі невялікі керамічны збанок, у якім нешта плёхалася.

Збанок гэты некалі ўручыў ім Акіла, і выгляд ён меў не зусім звычайны, злёгку пляскаты: без ручкі збоку і без адтуліны зверху. Можна

сказаць, поўнасцю герметычны. Гэта сведчыла аб тым, што ў сярэдзіне збанка знаходзіцца вельмі небяспечнае рэчыва, мяркуючы па ўсім, вадкае, і яго ні ў якім разе нельга “выпускаць на волю” дачасна. Акіла падрабязна пракансультаваў братоў, як трэба з гэтым збанком абыходзіцца, і зараз Манасія дзейнічаў у адпаведнасці з ягонай інструкцыяй.

У руцэ Манасіі з’явілася іголка, якою ён праткнуў збанок зверху. Месца, куды трэба тыкаць, таксама паказаў Акіла. Яно было залепленае нечым мяккім (кераміку ж не праткнеш).

Па дошках, якія прытрымліваў Эфраім, Манасія ўзабраўся да пралома ў сцяне акведука, напалову ўсунуў у яго сваё тулава і збоку рукою намацаў невялікую нішу, дзе некалі ад сцяны адкалоўся і выпаў камень. У гэтую нішу Манасія паклаў збанок плазам — так, каб горлычка вытыркалася са сцяны і было нахіленае трохі ўніз. Можна было б, вядома, выплюхнуць са збанка ўсё змесціва ў акведук і не валэндацца. Аднак Акіла наказаў пакласці збанок менавіта так, каб вадкасць з яго сцякала па кроплі і яе хапіла не на адзін дзень.

Зрабіўшы ўсё як належыць, Манасія прыслухаўся. Паблізу не было чутно ніякіх гукаў, і толькі знізу, у жолабе, пяшчотна журчала вада...

Каторы тыдзень у Ерусаліме і ў ягоных ваколіцах лютаваў мор. Ніхто не ведаў, адкуль на горад нахлынула гэткая навала. Дзень і ноч рабіны, дый увесь астатні люд, апантана маліліся, каб Яхве злітаваўся са свайго народа.

Горад быў завалены трупамі — іх не паспявалі сцягваць і закопваць у агульных ямах за межамі Ерусаліма.

Найперш смерць чамусьці касіла дзяцей, якіх у горадзе, на шчасце, было няшмат, і людзей старэчага веку.

І немаведама было, па якіх мерках мор выбірае для сябе ахвяр: адзін, аблеплены мухамі з галавы да ног, цэлымі днямі валаводзіцца з трупамі, вывозячы іх за горад, і ніякая трасца яго не бярэ, а другі з асцярогаю, толькі па пільнай патрэбе выбіраецца на вулку і затым валіцца з ног.

Было заўважана: як толькі чалавек пачынае неўтаймавана дрыс...ць, пражыць яму застаецца не больш як тры-чатыры дні. “Пракажонага” цураліся ўсе, нават сваякі. Сыны выганялі нямоглых бацькоў з хацін, бацькі выносілі аслабленых дзяцей за горад, каб яны паміралі ў адзіноце. Тых, хто ўпарціўся, не жадаў выбірацца за ваколіцы, гналі туды палкамі.

Часам смерць забірала чалавека проста на вуліцы. Ідзе ён, на першы погляд, жывы-здаровы, і раптам падае, як падкошаны, пачынае хапацца за чэрава, ногі сутаргава торгаюцца, а з роту камякамі пульсуюць ваніты накшталт рысавага адвару... Такіх адразу ўсе абыходзілі, бо ведалі, што праз гадзіну-другую ён сканае.

Захварэўшы, усе ахвяры адчувалі неадольную смагу і ніяк не маглі яе наталіць. Каля акведука выстройваліся чэргі — вады на ўсіх не хапала.

Здавалася, Ерусалім асуджаны на выміранне...

Так яно, мусіць, і сталася б, калі б не Рашбі. Ён першым зразумеў, што аднымі малітвамі людзей не ўратуеш. Маючы, пэўна, такі-сякі досвед у медыцыне, ён меркаваў, што небяспека, хутчэй за ўсё, зыходзіць ад вады, і менавіта ад гарадскіх акведукаў, якія сілкуюць горад, бо за ягонымі межамі эпідэмія амаль не распаўсюдзілася. Мусіць, палічыў Рашбі, нехта штодня, а дакладней, штоночы “падсілкоўвае” акведукі гэтай заразай, інакш нельга растлумачыць тое, што мор не спадае, не затухае, а толькі набірае

моц. Па парадзе Рашбі Бар Кохба загадаў выставіць уздоўж акведукаў кругласутачную варту, аднак і гэта не прынесла збавення.

І тады Рашбі прапанаваў проста праверыць акведукі — хаця б у межах горада: магчыма, нехта ўкінуў туды здохлую жывёліну, ад якой і пайшла зараза. Жывёліну не выявілі, але затое знайшлі ў нішы пляскаты збанок, з якога ўсё яшчэ капала ў жолаб нейкая вадкасць...

Хто ён, той зламыснік, які заклаў збаночак з заразаю ў акведук? Над гэтым і мазгавалі Бар Кохба і Рашбі.

Сімон схіляўся да думкі, што напаскудзіў нейкі рымскі лазутчык: не было сумневу, што легат-прапрэтар і ягоныя паслугачы пакінулі іх у Ерусаліме ўдостатку.

— Зусім магчыма... — няпэўна і нават крыху загадкава выказаўся Рашбі. — Але што з таго? Хіба ж мы можам вылічыць атрутніка сярод такой процьмы людзей? Горад зараз як прахадны двор. І яшчэ немаведама, пакінуў прапрэтар свайго чалавека перад адыходам ці прыслаў яго блізкім часам. Так што шукаць атрутніка — гіблая справа. Аднак жа з нашае бяды варта займець хоць нейкую карысць...

— Карысць? — здзівіўся Бар Кохба.

— Менавіта так. Вось раскажу табе адну гісторыю. Гадоў семдзясят таму рымскім імператарам быў сапраўдны самадур. Неронам звалі. І лічыў ён сябе неперaўзыдзеным паэтам. А каб натхніцца велічным відовішчам, загадаў сваім паслугачам падпаліць Рым. Пажар быў адмысловы... Гараджане на імператара азлобіліся і, чаго добрага, маглі разарваць на кавалкі. Каб пазбегнуць гэтага, Нерон вырашыў скіраваць гнеў у іншае рэчышча: запусціў чутку, што Рым падпалілі хрысціяне. Не ўсе яму паверылі, аднак пекла для хрысціян пачалося такое, што свет не бачыў...

— Я разумею, да чаго ты хіліш, але ж Акіба...

— Што Акіба?

— Я паабяцаў яму, што хрысціян чапаць не буду.

— Дык ты і стрымаеш слова. Акібу пра гэта ўвогуле не трэба нічога казаць. І ніякіх загадаў ты аддаваць не будзеш. Варта толькі запусціць у народ чутку...

— Наўрад ці хто паверыць. Нашы хрысціяне на такое паскудства не здольныя.

— Здольныя, не здольныя — гэта мы абмяркоўваць не будзем. Аднак жа ў тое, што павераць, у мяне сумневу няма. Варта толькі належна падаць... Вось глядзі: хрысціянскае паселішча мор, лічы, не закрануў. Так?

— Так. Але ж гэта таму, што з галоўнага акведука яны ваду не бяруць, і гэта ўсе ведаюць.

— Дык гэта ж можна патлумачыць акурат не на карысць хрысціян. Маўляў, калі б чорную справу надумалі зрабіць рымляне, дык яны занадта пераборлівымі не былі б — атруцілі б усе акведукі. Але ж чамусьці той, якім карыстаюцца хрысціяне, не атручаны. Чаму? Ды проста не рымляне гэта зрабілі. А зламыснік не будзе шкодзіць там, дзе жыве...

Бар Кохба ўсё яшчэ вагаўся, ці варта ісці на такую выяўную аблуду, бо ў душы быў упэўнены, што хрысціяне да мора дачынення не маюць. Рашбі “ўбіў апошні цвік”:

— Так ці інакш, але пытанне з хрысціянамі вырашаць давядзецца. І лепшага шанцу ў нас не будзе...

## Гібель Іуды

Мор і сапраўды амаль не закрануў паўднёвы ўсход Ніжняга горада, дзе жылі хрысціяне. Яны не карысталіся галоўным акведукам, у іх быў "свой", зусім маленькі і яшчэ болей занядбаны.

Да таго ж, хрысціяне трымаліся адасоблена, асабліва пасля "іудзейскага нашэсця", і толькі хто-ніхто, як, напрыклад, Гідон, зрэдку выбіраўся ў цэнтральную частку горада. Калі ж пачалася эпідэмія, дык Іуда наказаў аднаверцам увогуле не пакідаць паселішча: далей ад бяды. Зрэшты, зусім пазбегнуць ахвяр хрысціянам усё роўна не ўдалося. Аднак, як толькі ў чалавека з'яўляліся першыя прыкметы невядомай заразы, яго ізалявалі, вялі ў своесаблівы шпіталь — хаціну, некалі пакінутую гаспадарамі. Там мелі прытулак гэткія ж бедакі-гаротнікі. Бабуля Кармэла нават спрабавала іх лячыць, але плёну гэта не прыносіла... Памерлых закопвалі ў асобных, значна глыбейшых, магілах.

Тое, што мор пакуль літуецца з ягоных аднаверцаў, радавала епіскапа Іуду, і адначасна ў душу закрадвалася трывога. Ён разумеў: з часам іудзеі непазбежна звернуць увагу, што ў хрысціянскім паселішчы смерць лютуе не гэтак, і, чаго добрага, хлынуць сюды, каб зратавацца. А яшчэ горш, калі ім, крый божа, узбрыдзе ў галовы, быццам гэты мор нейкім чынам спарадзілі хрысціяне, і тады ўвогуле пачнецца немаведама што...

З кожным днём трывога Іуды нарастала, і ў рэшце рэшт ён звярнуўся да аднаверцаў з парадаю:

— Усе, хто можа, пакідайце Ерусалім. Адно што трэба ратавацца ад мору, другое — яшчэ большая небяспека, магчыма, сыходзіць ад раз'юшаных іудзеяў.

Прычым Іуда раіў падавацца не ў блізкія гарады ці мястэчкі, а ўвогуле за межы Іудзеі, бо пагромы накшталт таго, што адбыліся ў Віфаніі, былі не адзінкавымі. Найлепш шукаць прытулак па той бок ракі Іардан, паблізу гарадоў Панаем, Хаўрон ці Маавам, дзе большасцю жывуць евіаніты.

Евіаніты (іх яшчэ называлі назарэямі) хоць і мелі зносіны з іудзеямі, аднак прызнавалі звышнатуральныя народзіны Хрыста, лічылі яго не простым чалавекам. Іхняя вера была бліжэй да хрысціянства, чым да іудаізму, а некалі рымляне змусілі евіанітаў пакінуць Святы горад толькі таму, што яны захоўвалі абрад абразання[1]. Натуральна, ерусалімскім хрысціянам можна было разлічваць на спагаду хай сабе і не аднаверцаў, дык хоць бы ў нейкай ступені аднадумцаў. Ва ўсякім разе, пагромаў яны рабіць не будуць...

Ерусалімскія хрысціяне разумелі, што Іуда мае рацыю, але падацца за Іардан наважыліся зусім нямногія: шлях усё ж няблізкі, дый немаведама, што чакае на чужой зямлі. А тыя, хто ўсё ж выправіліся ў дарогу, падазрэнняў у іудзеяў не выклікалі, б зыход з горада, ахопленага невядомай заразай, стаў масавым, нават некаторыя найміты, якія ў свой час адгукнуліся на заклік Акібы і служылі не за грошы, а, так бы мовіць, за ідэю, лічылі за лепшае пакінуць войска.

Разам з перасяленцамі Іуда хацеў выправіць і Вірсавію, але яна, спазнаўшы жахі ў Віфаніі, цвёрда сказала:

— Не, татачка, нікуды я не паткнуся. Калі і наканавана будзе загінуць, дык лепей ужо тут, разам з табою...

---

[1] Евіанізм праіснаваў да V ст. н.э., а затым "растварыўся" ў ісламе.

Злыя чуткі пра тое, што менавіта хрысціяне атруцілі галоўны акведук, пачалі распаўзацца па горадзе, як гадзюкі. Ніхто не ведаў, дзе іхні выток, але з вуснаў у вусны перадаваўся “неабвержны доказ”: саміх хрысціян мор абыходзіць бокам, бо не будуць жа зламыснікі гадзіць там, дзе жывуць. Для большай вагі дадавалася, што “дыверсію” хрысціян выкрыў сам рабі Рашбі, лепшы вучань Акібы — куды ўжо доказней...

Варожасць да хрысціян з кожным днём нарастала, здавалася, нянавісць вісіць у паветры, і варта з’явіцца маленькай іскры, каб адбыўся выбух. І ён, нарэшце, грымнуў...

На той час наймітаў у Ерусаліме было нават болей, чым саміх іудзеяў, якія “распаўзліся” па сваіх паселішчах па загадзе Бар Кохбы ці ратуючыся ад мору. Прыхадні з іншых краін ставіліся да хрысціян з асаблівай нелюбоўю, і на тое было некалькі прычын. Па-першае, ім было няўцям, чаму гэтыя адшчапенцы не бяруцца за зброю, не далучаюцца да паўстання. Іншая, чым у іудзеяў, вера? Ну дык і што? Радзіма ж агульная, і яе трэба бараніць. Вунь для іх, наймітаў, іудзейская вера таксама пабоку, а яны, тым не менш, пасцягваліся сюды немаведама адкуль, прычым не сваю зямлю бараніць, а толькі для таго, каб процістаяць рымскім заваёўнікам, якія ўжо ўсяму беламу свету абрыдлі.

Па-другое, наймітам не падабалася, што хрысціяне жывуць у ціхім, дагледжаным квартале, а яны змушаныя туляцца сярод руін ды развалін. Узброены люд ужо даўно “выкалупіў” бы гэтых хрысціян з іхняга паселішча, ды на тое, на жаль, не было пакуль хоць бы намёку з боку іудзейскага начальства.

А калі нахлынуў мор і вушы пачулі, што ў тым вінныя тыя ж адшчапенцы, дык у наймітаў увогуле закіпела кроў.

— Атрутнікаў трэба пакараць!

— Бі хрысціян!

Гэтыя словы-заклікі спярша нарадзіліся ў асяродку прыхадняў з Кападокіі, а затым, як бліскавіца, шуганулі па ўсім горадзе, і ўзброеныя людзі неўтаймаванаю лавінаю рушылі ў хрысціянскае паселішча...

Хрысціяне хоць і жылі ўвесь апошні час у напружанні, але такога імклівага нападу не чакалі і былі заспетыя знянацку. Азвярэлая раць накінулася на безабаронных людзей. Мужчын і старых проста секлі мячамі, дзяцей нанізвалі на дзіды, дзявок згаладалыя па жаночым целе прыхадні гвалтавалі ў дварах і нават на вулках...

У хату Іуды са сваёй хеўрай уварваўся камандзір фрыгійскіх наймітаў Друз. Хадзілі пагалоскі, што некалі ён быў рымскім грамадзянінам, аднак чамусьці трапіў у няміласць да самога Адрыяна, змушаны быў хавацца на ўскрайках імперыі, затым асеў у Фрыгіі, дзе здолеў “выбіцца ў людзі”.

Друз ведаў, дзе жыве хрысціянскі епіскап, і правіўся да ягонае сядзібы мэтанакіравана. У зацемненым кутку хаціны ён згледзеў нямоглага, сівога чалавека, які маліўся на кут.

— Што, хрысціянскі завадатар, у свайго бога помачы просіш? — пырснуў слінаю Друз. — А не будзе яе! Не дапросішся! Хаця не... Я цябе зараз да Хрыста і адпраўлю. Можа, твае малітвы хутчэй дойдуць, калі ты да яго наблізішся...

Іуда быццам не чуў ягоных слоў, нават не павярнуў галавы да раз’ятраных прыхадняў.

— Ты чуеш мяне, абоўдзіла? — непарушанасць старога яшчэ болей

раз'юшыла Друза, ён схапіў епіскапа за валасы і тузануў на сябе гэтак рэзка, што ў ягонай руцэ засталася сівая пасма. — У-у, порхаўка! Цягніце яго на двор, там мы яму наладзім належную экзекуцыю, — загадаў Друз сваім хаўруснікам, абтрасаючы з рукі Іудавы валасы.

Два дзецюкі падхапілі епіскапа пад пахі, перавалаклі ссохлае цела цераз парог і шпурнулі пасярод двара. Друз наблізіўся да яго і гулка вутнуў насаком пад бок.

— Прызнавайся, смярдзюк: гэта ты загадаў сваім галадранцам атруціць ваду ў акведуку? Ты? Палова маіх людзей палегла ад гэтае трасцы... Прызнавайся! — і Друз ашалела пачаў біць нагамі па ўсім целе, пакуль не знямогся. Адступіўшыся, загадаў:

— Перавярніце яго на спіну! Можа, ужо здох...

Звераватага выгляду найміт нават не перавярнуў, а проста прыўзняў старога за шкіркі і плюхнуў спінаю аб зямлю. Галава Іуды выцялася аб камень. Стары застагнаў, а потым ледзь чутна прахрыпеў:

— Госпадзі! Пашкадуй іх, неразумных... Самі не ведаюць, што твораць...

— Глядзі ты, яшчэ жывы! — зарагатаў Друз. — І нават просіць свайго бога, каб ён нас пашкадаваў! Дык давайце ж і мы яму ласку зробім — няхай прыме такую ж смерць, як і іхні Хрыстос... Мужыкі, пашукайце паблізу цвікі!

Адразу ж пасля гэтых слоў немаведама адкуль, як з-пад зямлі, у двары з'явілася дзяўчына, падбегла да нерухомага Іуды, стала перад ім на калені, абхапіла рукамі шыю, а затым накрыла яго сваім целам.

— Татачка! — на ўвесь голас крыкнула яна. — Не чапайце майго татачку!

Як толькі з вулкі данесліся першыя крыкі і лямант, Іуда зразумеў: распачалося тое, чаго ён з трывогай чакаў апошнія месяцы. Вірсавія на той час таксама была ў хаце.

— Дачушка, бяжы ў сваю хованку! — крыкнуў Іуда. — Ратуйся!

Вірсавія і сама ўжо зразумела, што набліжаецца нешта нядобрае, але ўсё ж запыталася:

— Гэта што, татачка?

— Тое, чаго мы баяліся і што табе давялося перажыць у Віфаніі...

— Я не буду ад іх хавацца! Я хачу быць побач з табою!

— Паслухай мяне, дачушка. Можа, нават у апошні раз. Я ўжо стары... Мне губляць няма чаго. А табе яшчэ жыць ды жыць...

— А нашто мне жыць, калі не будзе цябе?

— Родненькая, я малю, бяжы ў хованку! — на вачах Іуды ажно выступілі слёзы, ён схапіў Вірсавію за руку і ледзь не сілком выштурхнуў за парог.

— Татачка! — яшчэ паспеў ён пачуць, перш чым зачыніў дзверы.

Згадваючы пра хованку, Іуда меў на ўвазе той катух-бакоўку, куды скідваўся розны непатрэбны хлам і дзе Вірсавія некалі хавалася ад Акілы. У гэтую шчыліну магло праціснуцца толькі яе тоненькае цельца. Сюды Вірсавія і шмыгнула, хоць і з вялікай неахвотай. Яна дабралася ў самы канец катуха, прысела на кукішкі і накінула на сябе нейкую сапрэлую мешкавіну, што валялася побач.

Пагромшчыкі, шукаючы, ці не схавалася дзе жывая душа, перавярнулі ўсё і ў хаце, і на падворку. Адзін з прыхадняў зазірнуў і ў катух, нават паспрабаваў у яго праціснуцца, але без поспеху. Тады ён пачаў тыкаць

сваёй дзідай ва ўсе атопкі-атрускі, зваленыя ў кучу, ды, на шчасце, да мешкавіны дзіда не дацягнулася...

Вірсавія, хутчэй за ўсё, пераседзела б пагром у сваёй хованцы, хоць і парывалася з яе выскачыць, калі пачула тупыя ўдары аб цела бацькі. Яна калацілася, бязгучна плакала, але пакуль што стрымлівала сябе. Калі ж зразумела, што прыхадні збіраюцца распнуць бацьку, у галаве памутнела, не стала страху за ўласнае жыццё, і яна сіганула ў двор...

— А гэта што за пігаліца? — вылупіў вочы Друз. — Адкуль яна ўзялася? Мы ж, здаецца, усё тут абшасталі...

Ён нетаропка скруціў у жмут асмолкавыя валасы Вірсавіі, наматаў іх на руку і зноў жа павольна падцягнуў дзяўчыну да сябе, зазіраючы ёй у твар.

— Го! Ды яна ж сапраўдная прыгажуня! — без аніякай удаванасці ўсклікнуў Друз.

— Пусці, нелюдзь! — крыкнула Вірсавія, схапіўшыся за ягоную руку і спрабуючы вырваць з яе свае валасы.

— Не трымці, птушачка! — ухмыльнуўся Друз. — З маіх рук яшчэ ніхто не выслізваў.

У наступную хвіліну ён нема закрычаў, бо Вірсавія ўпілася ў ягоную руку сваімі маленькімі, але вострымі зубкамі, пракусіўшы яе да косці.

— У-у, гадаўка! — зароў Друз і вольнаю рукою таўхануў Вірсавію так, што яна паляцела-пакацілася да агароджы. — Ну, я табе пакажу! Я цераз цябе ўвесь свой атрад прапушчу!

— І то праўда! — юрліва выскаліўся дзяцюк, ад якога патыхала перагарным смуродам. — Я ўжо сто гадоў з бабай не быў!

— І я не супраць паласавацца “свежым мясам”!

— І я...

— Цыц! — асадзіў хаўруснікаў Друз. — Толькі пасля мяне... І не цяпер. Хай гэтая гадаўка спярша палюбуецца, як ейнага бацьку мы ўкрыжоўваць будзем. Цвікі знайшлі?

— А як жа!

— Ну то падцягвайце старога да дзвярэй...

Не зважаючы на мор і перасцярогі Іуды, Гідон зрэдчас усё ж выбіраўся за межы хрысціянскага паселішча, туляўся па апусцелых вулках, бо дома яму не сядзелася, а Вірсавія, схуднелая і ўчарнелая, не надта імкнулася падтрымліваць з ім размову, зацята маўчала. Калі да вушэй Гідона даляцелі першыя заклікі біць хрысціян, ён акурат знаходзіўся каля моста цераз Ксіст і пабег услед за ўзброенымі людзьмі, якіх з кожным крокам большала і большала. На Гідона ніхто не зважаў, бо каму ўзбрыдзе ў галаву, што юнак, які знешне нічым не адрозніваецца ад іншых, таксама хрысціянін? Вось толькі ўсе беглі, каб забіваць і гвалціць, а Гідон інстыктыўна імкнуўся туды ж, усведамляючы, што яму трэба некага бараніць, і ў першую чаргу Вірсавію. Але як толькі ён апынуўся на ўскраіне паселішча, дык у клёк шуганула думка, што нікога ён абараніць не здолее і сам стане ахвяраю. Уцяміўшы гэта, Гідон спыніўся, як укапаны, ззаду на яго наляталі, штурхалі ў спіну ашалелыя нападнікі. Колькі хвілінаў хлопец стаяў у разvазе, адчайна спрабуючы знайсці хоць нейкае выйсце, затым крута развярнуўся і, сутыкаючыся з людзьмі, якія беглі насустрач, ва ўвесь дух панёсся да Фазаелевай вежы...

Бар Кохба, узмацніўшы ахову акведука, штодня сам выязджаў у горад, каб праверыць патрулі, пазнаёміцца з абстаноўкай. З сабою ён зазвычай браў Архелая ды яшчэ двух ахоўнікаў.

Як толькі коннікі выехалі за вароты Фазаелевай вежы, Архелай адразу звярнуў увагу на чалавечую мітусню: і натоўпамі, і паасобку людзі чамусьці беглі ў Ніжні горад і нешта крычалі. Да вушэй Архелая даляталі толькі абрыўкі фраз:

— ...Знішчыць да аднаго!

— ...Прыйшоў час расплаты!

Мусіць, адбывалася нешта надзвычайнае, і Архелая здзівіла, што Бар Кохба не надае гэтаму ніякага значэння, трымаецца спакойна, быццам усё ідзе як належыць.

А з ускраін Ніжняга горада ўжо даносіліся адчайнае галашэнне, дзіцячы піск, балесныя крыкі. Дзе-нідзе над пабудовамі віўся лёгкі дымок.

— Ты разумееш, што ўсё гэта значыць? — звярнуўся Архелай да Бар Кохбы. Той абыякава адказаў:

— Здаецца, людзі пайшлі біць хрысціян.

— Біць хрысціян? За што?

— А то ты не ведаеш. Увесь горад даўно гамоніць, што менавіта яны атруцілі ваду ў акведуку.

— І няўжо ты гэтаму верыш?

— Веру — не веру... Якая розніца? Народ лепш ведае, чыіх рук гэтае паскудства.

— Дык нічога ж не даказана! Я, напрыклад, упэўнены, што хрысціяне тут ні пры чым.

— Адкуль такая ўпэўненасць? І ўвогуле... Чаму ты іх гэтак абараняеш? Хрысціяне — і ты гэта добра ведаеш — нашы ворагі. За іх даўно варта было ўзяцца...

— Вось як? Дык, можа, усё гэта робіцца па тваім загадзе?

— Скуль ты ўзяў? Ніякага загаду я не аддаваў. У людзей саміх, як бачыш, злосць саспела...

— Якая злосць? Яны такія ж яўрэі, як і мы, дарма што па-іншаму моляцца. Сімон, трэба нешта рабіць, трэба спыніць гэты гвалт!..

— Я каб і хацеў, дык не здолеў бы. Ты ж бачыш, як усё далёка зайшло...

— Ды ты ж Месія! Яны цябе паслухаюць! Едзем туды!

— Супакойся. Нічога мы ўжо не перайначым. Позна...

Душа Архелая разрывалася на шматкі. З усіх насельнікаў Ніжняга горада ён толькі і ведаў Іуду ды ягоную суседку Ніру, але хрысціяне ўжо здаваліся яму не зусім чужымі людзьмі, бо ў іхнім асяродку жыла Вірсавія...

— Сёння мы ў горад не паедзем, — цвёрда сказаў Бар Кохба. — Няма сэнсу: вунь што робіцца...

І ён ужо завярнуў свайго каня, каб падацца назад у вежу, але краем вока заўважыў, як уздоўж разбуранай першай сцяны Верхняга горада ў іхні бок, спатыкаючыся, бяжыць і нешта крычыць ці то дзяцюк, ці то юнак. Бар Кохба прыпыніў каня.

Аднак хлопец чамусьці падбег не да яго, Бар Кохбы, а зняможана плюхнуўся на зямлю перад канём Архелая.

— Там... там... — хлопец ніяк не мог аддыхацца.

— Што там? — раззлавана гыркнуў Бар Кохба.

Але хлопец на яго не зважаў, пазіраў толькі на Архелая.

— Вірсавія... там... Вірсавія... Яе заб'юць... Выратуй... Вірсавія...

Кроў хлынула ў галаву Архелая. Ён ніяк не мог даўмецца, што хоча сказаць гэты юнак. Якая Вірсавія? Яна ж загінула... Аднак хлопец выдыхаў адно:

— Вірсавія... Выратуй яе...

Нарэшце Архелай ачуняў і здолеў задаць разумнае пытанне:

— Ты хочаш сказаць, што ў паселішчы знаходзіцца Вірсавія? І яна жывая?

— Так...

— А... А ты хто такі?

— Я Гідон, ейны сусед...

— Гідон? Той самы Гідон, які загінуў разам з Вірсавіяй у Віфаніі?

— Нам з ёю ўдалося выратавацца...

— І вы вярнуліся ў Ерусалім?

— Так... Хутчэй! Не марудзь! Спяшайся на помач Вірсавіі! — Гідон ужо не выдыхаў асобныя словы, а слёзна ўмольваў.

Зрэшты, гэта было залішне. Архелай уздыбіў каня — пярэднія капыты ледзь не разбілі Гідону твар — і з месца ўгалоп панёсся ў бок Ніжняга горада... "Вірсавія! Яна жывая!" — адна толькі думка свідравала ягоны клёк.

— Куды?! Стой! — зароў Бар Кохба і, пераканаўшыся, што ягоных слоў Архелай не чуе ці не хоча чуць, рыкнуў двум ахоўнікам: — За ім! Дагнаць! Спыніць! Затрымаць!

Коннікі паімчалі ўслед за Архелаем.

Цяпер Бар Кохба ўсё зразумеў. Вось чаму Архелай гэтак цураўся размоў пра сваю дзяўчыну! Вось чаму занудзеў, вярнуўшыся з Віфаніі! Яна, нейкая Вірсавія, відавочна, хрысціянка, і Архелай баяўся прызнацца ў гэтым яму, Сімону, хоць і самаму блізкаму чалавеку, але ўсё ж іудзейскаму Месіі. А яшчэ Бар Кохба ведаў, што зараз Архелай, калі яго не ўдасца спыніць, палезе ў бойку з раззлаваным, раз'юшаным натоўпам, і, крый божа, можа здарыцца вялікая бяда...

Позірк Сімона спыніўся на юнаку, які стаў прычынаю магчымых непрыемных наступстваў. Ён усё яшчэ не падняўся з калень, пачціва-ўгодліва пазіраў на такога знакамітага чалавека. Бар Кохбу раптам ахапіла лютая злосць на хрысціянскага выкармака, які ў адну хвіліну парушыў ягоны спакой, паставіў на кон жыццё Архелая.

— І якая нячыстая сіла цябе сюды прынесла, вырадак?! — скрозь зубы працадзіў Бар Кохба і, выхапіўшы з похваў меч, сакануў ім па шыі Гідона...

Напачатку ахоўнікі, якія кінуліся наўздагон Архелаю, не адставалі ад яго, але коннік прапаў з іхніх вачэй, калі скакаць давялося па шматлікіх вуліцах і завулках, што перарэзалі Ніжні горад уздоўж і ўпоперак. Калі б яны ведалі, што нейкая Вірсавія — дачка хрысціянскага епіскапа, дык не было б патрэбы несціся за Архелаем след у след. Ахоўнікі правіліся б да сядзібы Іуды — хай сабе і іншым шляхам — і непазбежна заспелі б там свайго маладога камандзіра. Але яны нічога не ведалі. І таму тыцкаліся ў завулкі і тупікі, спрабуючы згледзець знаёмую постаць, аднак марна...

Архелай, у адрозненне ад паплечнікаў, ведаў, куды трэба кіравацца і які шлях самы кароткі. На ўсё, што адбывалася абапал, ён не зважаў, хоць наўсцяж відовішча было жудаснае...

Людзі шугаліся ад узмыленага каня, прыціскаліся да сцен, а каго-нікага ўсё-ткі збівалі з ног цяжкія капыты, і тады ўслед Архелаю несліся праклёны.

Яшчэ здалёк Архелай згледзеў, што каля сядзібы Іуды ніякай мітусні няма, і на яго нахлынуў адчай. Няўжо ўсё скончылася? Няўжо не паспеў?.. Каля астатніх падворкаў ішла сапраўдная бойня, уроскідку валяліся акрываўленыя целы, туды-сюды насіліся звар'яцелыя жанкі і дзеці, іх даганялі ўзброеныя людзі, літаральна распалавіньвалі мячамі ці пратыкалі дзідамі. Над хрысціянскім паселішчам стаяў адзіны, суцэльны крык-стогн. Аднак Архелай быццам не чуў яго. "Няўжо не паспеў?" — стрэмкаю засела ў галаве.

Ён на хаду саскочыў з каня, які, яшчэ трохі прабегшы і не адчуўшы на сабе гаспадара, самахоць спыніўся, патупаў назад. Мімаходзь Архелай усё ж кінуў позірк на суседскую сядзібу і скмеціў мажное нерухомае цела каля двара, а воддаль — тры дробненькія дзіцячыя цельцы. "Гэта Ніра..." — прыйшла здагадка. Аднак засяроджвацца на чужым горы не выпадала. Архелай літаральна ўляцеў у двор і... аслупянеў.

Да дзвярэй, што вялі ў хату, было "прылеплена" цела Іуды. Галава старога схілялася набок і ўніз, ногі ніжэй каленяў слаліся па зямлі, а само цела трымалася на дзвярах толькі таму, што ў выцягнутыя ўгару рукі, у запясці, былі ўвагнаныя два вялізныя цвікі. Кроў ужо не цякла з ран, і Архелай зразумеў, што Іуда — мёртвы.

Збоку ад дзвярэй тапталіся тры дзецюкі, а чацвёрты стаяў на карачках і зрываў адзенне з дзяўчыны, якая таксама выглядала мёртваю, бо вочы былі заплюшчаныя, а цела не варушылася. Адзін з дзецюкоў азірнуўся, скмеціў Архелая, пазнаў яго і радасна ўсклікнуў:

— Во, ад'ютант Бар Кохбы! У час паспеў! Нам тут дачка хрысціянскага верхаводы ў рукі трапілася — хар-рошая маладзіца! Калі Друз дазволіць, дык можаш стаць першым... — і ён кіўнуў у бок нерухомай Вірсавіі.

Астатнія дзецюкі, тым лікам і Друз, таксама скіравалі позіркі на Архелая.

— Так і быць, саступлю! — выскаліўся з ухмылкаю Друз. — Можа, калі спатрэбіцца, перад Бар Кохбам слова за мяне замовіш!

— Яна... Яна што, мёртвая? — скаўтнуўшы сліну, хрыпла запытаўся Архелай, і зямля паплыла пад ягонымі нагамі.

— Чаму мёртвая? Жывая! Яшчэ якая жывая! Мяне, вунь, за руку так зубамі цапанула, што і цяпер кроў не суняць. Гэта ж мы на ейных вачах бацьку ўкрыжавалі, акурат як іхняга Хрыста, дык дзеўка і знепрытомнела, ніяк ачомацца не можа. Але нічога, разварушыцца, як адчуе ў сабе мужчынскі...

Дагаварыць Друз не паспеў. Меч у руцэ Архелая мільгануў маланкаю, і галава фрыгійскага камандзіра пакацілася проста пад ногі нерухомага Іуды.

Паплечнікі Друза ніяк не чакалі такога зыходу, таму нібы скамянелі, разявіўшы раты. Архелай жа ў наступнае імгненне прапароў чэрава аднаму, сеκануў па шыі другому і ўжо збіраўся падскочыць да трэцяга, але той, нарэшце, ачомаўся і, жвава крутануўшыся, з крыкам сігануў цераз агароджу на вуліцу. Архелай не стаў яго даганяць, схіліўся над Вірсавіяй. Паляпаў далонню па ейных шчоках, але дзяўчына не ачуньвала. Марудзіць было нельга: праз хвіліну-другую хаўруснік Друза, які ацалеў, прывядзе сюды сваіх сяброў, і тады не ўратавацца ні Вірсавіі, ні самому.

Архелай падхапіў нерухомае цела на рукі і подбежкам падаўся з двара. Конь хоць і не быў прывязаны, але паслухмяна чакаў гаспадара. Архелай асцярожна паклаў Вірсавію на конскую спіну, жыватом уніз (рукі і ногі дзяўчыны бязвольна павіслі) і ўскочыў на каня сам — ззаду. Адною рукою прытрымліваючы дзявочае цела, лёгкім алюрам Архелай пусціў каня да паўночнае ўскраіны горада.

Ён яшчэ дакладна не ведаў, куды рушыць, але разумеў, што ў Фазаелевай вежы, побач з Бар Кохбам, як і ўвогуле ў Ерусаліме, болей яму месца няма. Выбрацца з горада як мага хутчэй — вось што зараз было галоўным, бо магчымая пагоня — калі не друзаўскіх найміта ў, дык людзей Бар Кохбы.

І толькі ўжо на ўскраіне Архелай конча вырашыў, куды падацца. Ніводнага блізкага чалавека, акрамя Яная, Нахума ды Гефена, у яго на белым свеце не было. І ён скіраваў каня ў бок Мёртвага мора, да Эн-Гадзі...

## Смерць Рашбі

Мор паступова пайшоў на спад, а затым і ўвогуле смерць пачала выхоплівацьлюдзей як бы нехаця, агрызаючыся. І ў гэтую перамогу чалавека над чорнай навалай самы важкі ўнёсак зрабіў рабі Рашбі.

Калі на вуліцах з’явіліся толькі першыя трупы, Рашбі зразумеў, што гэта не Божая кара, бо, змагаючыся за волю, іудзеі не маглі прагнявіць Яхве, зламысніка трэба шукаць не на “небе”, а на зямлі. (Апасля менавіта па падказцы Рашбі пачалі шукаць і знайшлі атрутны збаночак у акведуку). А з зямнымі ворагамі, слушна палічыў Рашбі, трэба змагацца не малітвамі, тут варта прыкласці простыя чалавечыя высілкі.

Рашбі заўважыў, што невядомая зараза пры зносінах паміж людзьмі перадаецца рэдка. Нават тое, што здаровы чалавек дакранаецца ці пераносіць трупы, яшчэ не падстава, каб абавязкова захварэць таксама. Брудная вада, чалавечыя ваніты ды фекаліі — вось што тоіць у сабе галоўную небяспеку. А яшчэ — мухі. Мільёны мух, якія аблепліваюць непрыбраныя трупы і іхнія перадсмяротныя спаражненні, разносяць заразу па ўсім горадзе.

З гэтага вынікала, што найперш трэба своечасова вывозіць з вуліц і дамоў мёртвыя целы, прыбіраць каля іх ваніты і ўвогуле як мага захоўваць чысціню.

Але як гэта давесці цёмнаму люду, які цураецца не толькі трупаў, але і жывых, калі на іх заўважаюцца першыя прыкметы хваробы? Спосаб быў адзін — уласны прыклад.

З раніцы да позняга вечара Рашбі прападаў у горадзе: нароўні з прызначанымі для гэтага людзьмі, хоць у яго не ставала сілаў, сцягваў да павозак мёртвых, поўзаў на карачках, зграбаючы адкіды-нечыстоты...

Людзі святара пазнавалі. Спярша дзівіліся: як гэта ён, вядомы чалавек, да таго ж нямоглы, не баіцца падхапіць заразу? Пагалоскі пра безразважную руплівасць Рашбі разляцеліся па ўсім Ерусаліме. І што найболей усіх уражвала — ніякая трасца мужнага святара не бярэ, хоць ён і лезе ў самае пекла. Значыць, не такі ён і страшны, гэты мор? Выходзіць, можна не грэбаваць блізкімі людзьмі, калі яны захварэлі, а памерлых ільга хаваць без аніякай боязі? І людзі адужалі мор...

Ужо не было патрэбы сцягваць трупы самому Рашбі, бо яны траплялісятолькі зрэдчас, але Рашбі па завядзёнцы штодня ішоў у горад, па-свойму “патрулюючы” вуліцы. Неяк пад вечар, ужо вяртаючыся ў Фазаелеву

вежу, дзе Рашбі меў уласны пакойчык, ён пачуў пісклявы дзіцячы галасок, які даносіўся з руінаў былога палаца Ірада. Асцярожна ступаючы па камянях, Рашбі паглыбіўся ў руіны. Вываленае ў шэрым друзе, на самым санцапёку заходзілася ад крыку зусім голенькае немаўля. Хтосьці паленаваўся ці пасаромеўся вывезці хворае дзіця за горад і пакінуў яго канаць тут, на сядзібе самага жорсткага цара Іудзеі, які загубіў не адну дзіцячую душу...

У тым, што немаўля хворае, Рашбі не сумняваўся: дзіця (а гэта быў хлопчык) сутаргава калацілася ўсім цельцам. Рашбі стаў на калені, узяў на рукі хлопчыка, правёў далонню па ягонай кволенькай спінцы, каб адарваць ад яе калючыя каменьчыкі-друз, прытуліў жывы камячок да сваіх грудзей. Зрэшты, жыць хлопчыку заставалася няшмат — ад ягонага цельца зыходзіў перадсмяротны жар.

І праўда: пакуль Рашбі з хлопчыкам на руках выбіраўся з руінаў, той спакваля заціхаў, а потым і ўвогуле замоўк. Рашбі пратупаў да былога палаца Маккавеяў, дзе стаяла павозка з трупамі, якія вось-вось павінны павезці за горад, беражліва паклаў цельца хлопчыка зверху і прытуліў свае вусны да ягонага лобіка. Па шчоках Рашбі марудна спаўзала буйная сляза...

Глыбокім вечарам, прачытаўшы апошнюю малітву, Рашбі адчуў востры боль у жываце, яму нясцерпна захацелася піць. Перш чым легчы ў ложак, рабі працягнуў руку да збана з вадою. Піў павольна, доўга, але смага не праходзіла. Каму як не яму, Рашбі, чалавеку, які спазнаў цяжкую хваробу ва ўсіх яе праявах, ільга было зразумець, што з гэтага вынікае...

“У мяне ёсць яшчэ цэлыя суткі, — падумаў Рашбі. — Цэлыя суткі... а можа, усяго суткі?”

Што б там ні было, Рашбі вырашыў сёння нікога не трывожыць...

Цэлымі днямі Акіба амаль бесперапынна маліўся. Яму было што прасіць у Яхве, і найперш — каб злітаваўся з іудзеяў, конча спыніў мор. Дый зацішша, якое ўсталёўвалася, хутчэй не радавала Акібу, а трывожыла. Так звычайна бывае перад навальніцаю... Дарэмна Бар Кохба распяшаўся распусціць апалчэнне. Хлеб вырошчваць, безумоўна, трэба, але ж спярша належала цалкам ачысціць Палесціну ад рымскай набрыдзі, “сапхнуць у мора” гарнізон у Кесарыі, не пакінуўшы Адрыяну ніякага плацдарму для чарговага нашэсця. Аднак жа Бар Кохба на яго, Акібу, цяпер не зважае, да ягоных думак не прыслухоўваецца. Цяпер для яго галоўны дарадчык Рашбі. Дый сам найлепшы вучань Акібу пазбягае, да яго не завітвае, хоць і жывуць яны абодва амаль побач, у Фазаелевай вежы...

У разважанні ўклініўся голас Пінхаса — Акіба нават не пачуў ягонага стуку.

— Рабі, тут да цябе чалавек прыйшоў ад Рашбі. Кажа, што той хоча цябе бачыць...

— Ад Рашбі? Дзіўна... І як ты сказаў? “Хоча цябе бачыць”?

Ну, абнахабіўся... Выходзіць, ужо не ён да мяне, а я да яго павінен на прыём запісвацца... Зусім страціў сумленне... Перадай таму чалавеку, што я нікуды не пайду. Калі Рашбі нешта ад мяне трэба, дык няхай сам спанадзіцца сюды прыйсці. А я яшчэ падумаю, ці варта распачынаць з ім размову...

— Рабі, ён кажа, што Рашбі моцна захварэў — з ложка падняцца не можа. Падобна, гэтая зараза і яго зачапіла...

— Вось як? Тады... тады іншая справа. Скажы, што я неўзабаве зазірну...

Як ні крыўдаваў Акіба на свайго вучня, аднак вестка пра хваробу Рашбі перакрэсліла ўсе ягоныя негатыўныя пачуцці: калі Рашбі насамрэч падхапіў заразу, дык, выходзіць, жыць яму засталіся лічаныя гадзіны. Ці ж можна варагаваць перад смерцю? Безумоўна, Рашбі хоча сказаць нешта самае важлівае...

Гледзячы ў столь, Рашбі нерухома ляжаў на ложку, і нават калі ў пакой зайшоў Акіба, ён не перавёў позірк на свайго настаўніка, не сказаў ніводнага слова. Акіба таксама моўчкі сеў на зэдлік, што стаяў побач з ложкам. Колькі хвілінаў прайшло ў цішыні.

— Ну, вось, настаўнік... — першым парушыў яе Рашбі, па-ранейшаму пазіраючы ў столь. — Наспела і мая сустрэча з Яхве...

— Ты ў гэтым упэўнены? Можа, проста знямогся?

Вусны Рашбі кранула лёгкая ўсмешка:

— Ды не... Я мог бы яшчэ тупаць і тупаць, калі б не гэтая зараза... Зрэшты, магчыма, так і лепей...

— Чаму лепей? Не кажы абы-што.

— Вінаватым я сябе адчуваю перад табою, настаўнік. Ты і сам, мусіць, гэтак лічыш...

Акіба прамаўчаў.

— Але я хачу сказаць табе, настаўнік, — працягваў Рашбі, — што нічога благога табе не зычыў. Проста мне часам здавалася, што ты памыляешся — прабач за такое блюзнерства. Насамрэч я твайго мезенца не варты. Многа я ў апошнюю ноч перадумаў... Прабач мне, настаўнік. Прабач за тое, што ў чымсьці пайшоў насуперак табе, хоць і не меў пры гэтым ніякай карыслівай мэты... Мне цяпер здаецца, што я прынёс нашай агульнай справе толькі шкоду...

— Памылкі бываюць у кожнага... Але ж ты — і я ў гэта веру — хацеў як найлепш... А што датычыць шкоды... Калі і зроблена нешта не так, дык не ты ў гэтым вінаваты, а я. Менавіта мне трэба было ўсё прадугледзець...

— Аднак...

— Ніякага “аднак”. Тое, што ты зрабіў для нашага народа, пераважвае любыя памылкі. Ты дапамагаў мне збіраць войска. Ты ў кожную хвіліну быў са мною побач. У рэшце рэшт, толькі дзякуючы табе нам, падобна, удасца адужаць мор — ён ужо амаль сышоў на нішто, — хоць ты і сам стаў ягонаю ахвяраю... За гэта іудзеі не забудуць цябе ніколі. Нават праз тысячагоддзі. Пакуль будзе жыць нашая вера. А яна будзе жыць вечна...

— Дзякуй табе, настаўнік, за такія словы... Аднак жа віну я адчуваю... Можа, нават непапраўную...

— Ты маеш на ўвазе залішнюю самастойнасць Сімона?

— Так. І я гэтаму, на жаль, паспрыяў...

— Мы абодва нечага не ўлічылі... Так што задужа сябе не дакарай...

Абодва зноўку надоўга замоўклі.

— Дзякуй табе, настаўнік, — нарэшце азваўся Рашбі. — Дзякуй за ўсё... І вось што: табе, мусіць, тут затрымлівацца не варта. Я ўсё-ткі хворы... Хто яго ведае, з якога боку гэтая зараза падбіраецца... Я вунь не думаў, не гадаў...

— Ды ўжо лепей і мне з табою разам...

— Навошта? У цябе яшчэ і тут многа спраў... Бывай, настаўнік! Абдымі мяне, благаславі...

Акіба з напругаю прыўзняўся з зэдліка, нахіліўся над Рашбі, сваёю шчакою прытуліўся да ягонае шчакі...

Веставы адшукаў Бар Кохбу за межамі горада, дзе ён, як і зазвычай, прападаў з самае раніцы. Пачуўшы, што Рашбі нечакана захварэў і вось-вось сканае, Сімон толькі і сказаў:

— Як гэта? Я ж з ім яшчэ ўчора размаўляў, ён быў жывы-здаровы...

Затым ускочыў на каня і наўскапыт пагнаў яго ў Ерусалім...

Сімон літаральна ўляцеў у пакой Рашбі і яшчэ з парога ўзрушана загаманіў:

— Што з табою сталася, рабі? Чаму ўздумаў паміраць у гэтакі няпросты час?

Аднак, згледзеўшы, што Рашбі ляжыць у ложку ўвесь счарнелы, ссохлы, адразу "прыкусіў язык", суцішыў крок.

— Ты мяне чуеш, рабі?

Рашбі не адказаў.

Сімон нахіліўся над ім і паўтарыў:

— Рабі, ты чуеш мяне?

Рашбі, нарэшце, павольна расплюшчыў павекі:

— А-а, Сімон... Добра, што ты паспеў... — адчувалася, што кожнае слова даецца яму з вялікаю напругаю. — Як бачыш, не жыхар я ўжо... Ёсць да цябе апошняя просьба... Выканаеш?

— Усё, што ты захочаш, рабі!

— Ну то і добра... Дык вось... Аб адным цябе прашу... Ва ўсім слухайся Акібу... Ва ўсім...

— Але ж... — хацеў нешта запярэчыць Бар Кохба, ды Рашбі яму не дазволіў, перабіў:

— Ты мне паабяцаў!.. Апошняя просьба...

— Добра, рабі, добра. Усё, што скажаш...

— Пакляніся перад Яхве...

Сімон сумеўся. Яму не тое што перад Богам — увогуле ні перад кім яшчэ не даводзілася клясціся. Аднак жа адмовіць Рашбі ў перадсмяротнай просьбе ён не мог.

— Клянуся...

— Вось і добра... Цяпер мне спакойна...

І Рашбі зноў жа павольна прыкрыў павекі, нібы назаўжды захінаючыся імі ад гэтага свету...

Васямнаццатага дня месяца Іяра Шымон бар Іёхай, якога ўсе з пяшчотаю называлі Рашбі, памёр[1].

## Легат-прапрэтар у няміласці

Іудзейскае паўстанне скалыхнула Рымскую імперыю. Фактычна, на тэрыторыі Палесціны ўтварылася самастойная дзяржава — са сваім кіраўніцтвам, уласнасцю, грашыма, законамі... Існавала пагроза, што насельніцтва іншых правінцый, натхнёнае поспехам яўрэяў, вось-вось таксама возьмецца за зброю, каб прагнаць са сваіх земляў рымскіх каланізатараў.

[1] 11 траўня (па сучасным календары), у дзень смерці Шымона бар Іёхая, іудзеі адзначаюць адно з самых значных святаў — Лаг Баомер. У гэты дзень, як лічыцца, спынілася эпідэмія, якая забрала жыцці 24 тысяч вучняў Акібы.

Імператар Адрыян быў вельмі гэтым устрывожаны. Магло стацца, што тэрыторыі, з неймавернымі высілкамі заваяваныя ягоным папярэднікам Траянам, будуць незваротна страчаныя. І кім ён, Адрыян, застанецца ў гісторыі? Ці ж згадаюць яго нашчадкі добрым словам?

І Адрыян — філосаф, архітэктар, паэт, дый увогуле не палкаводзец, а міратворац — прыняў рашэнне, не ўласцівае ягонай існасці: іудзейскае паўстанне патрэбна задушыць з такой жорсткасцю, каб рэха аб тым разнеслася па ўсёй імперыі і ў ніводнага народа-васала больш не з'явілася жадання запярэчыць кесару.

Было відавочна: тымі сіламі, якія меліся ў Палесціне і навакольных правінцыях, справіцца з паўстанцамі немагчыма. Імперыя і так ужо страціла шмат салдат, а дробныя гарнізоны дык і ўвогуле былі знішчаныя. Таму Адрыян не збіраўся ўтаймоўваць мяцежнікаў наскокам, без належнае падрыхтоўкі: калі, крый божа, здарыцца параза, дык імперыя затрашчыць па швах...

Перш чым перайсці ў наступ, Адрыян вырашыў сабраць моцны кулак. Канцэнтрацыя войска адбывалася ў Кесарыі — адзіным "пятачку", на які паўстанцы пасягнуць не асмеліліся. Горад месціўся на ўзбярэжжы Міжземнага мора, і гэта спрыяла рымлянам: войскі можна было перакінуць сюды водным шляхам.

З усяе імперыі ў Кесарыю прыбыло 12 легіёнаў, а таксама 12 кагортаў дапаможнай пяхоты і 3 атрады конніцы. Натуральна, быў тут і 10-ы Ерусалімскі легіён, салдаты якога рваліся ў бой з найбольшым імпэтам.

У сірыйскіх водах дзяжурыў шматлікі флот.

Камандзірам усёй гэтай вайсковай раці імператар прызначыў самага паспяховага на той час рымскага военачальніка Юлія Сев**е**ра, які быў тэрмінова адкліканы з Брытаніі. Ягоным намеснікам стаў Квін Лолій Урбік з Ніжняе Германіі.

Калі ўсе неабходныя сілы былі сабраныя, у Кесарыю на караблі прыплыў сам імператар Адрыян.

Двое сутак запар Ціней Руф чакаў, што імператар пакліча яго на прыём. А ён не клікаў. І нічога добрага для Руфа гэта не зычыла. Бо хіба ж натуральна, што, правёўшы перамовы з усімі, хто меў хоць нейкае дачыненне да ўлады, перагаварыўшы сам-насам з легатамі, Адрыян так і не спанадзіўся выслухаць яго, легата-прапрэтара, які пакуль што лічыўся кіраўніком Іудзеі.

Тое, што ён трапіў да імператара ў няміласць, Руф зразумеў яшчэ тады, калі паслаў Адрыяну першае данясенне з Кесарыі. У ім прапрэтар тлумачыў, чаму ён змушаны быў пакінуць Ерусалім. Адказу так і не дачакаўся. Відаць, Акіла яго апярэдзіў, паслаў імператару свой данос-пасквіль, у якім выклаў падзеі па-свойму...

Калі Адрыян прыплыў у Кесарыю, на беразе было выстраена ўсё войска. Імператар павольна прайшоў уздоўж парадных шэрагаў, павітаўся за руку з кожным легатам, а затым адразу ж падаўся ў загадзя падрыхтаваную цэзарэю, якая месцілася непадалёку, на ўзбярэжжы. За Адрыянам неадступна следаваў Юлій Север.

Прэтара, які стаяў наперадзе шэрагаў, імператар быццам не заўважыў, слізгануўшы па ім халодным позіркам, прайшоў міма. Руф так і застаўся стаяць з выцягнутай наперад рукой, якою збіраўся павітацца з Адрыянам.

Яшчэ ў тую хвіліну Руф зразумеў: ягонай кар'еры — канец. І добра, калі толькі кар'еры, можна яшчэ страціць і галаву...

Таму не дзіўна, што ў гэтыя двое сутак напярэдадні вырашальнай для свайго лёсу сустрэчы з імператарам Руф не самкнуў вачэй, пад якімі ад бессані і цяжкіх думак з'явіліся чорныя кругі.

Веставы ад Адрыяна прыбыў апоўдні. Сваім ліктарам Руф даў пазнаку, што яго суправаджаць не трэба, і цяжкаю хадою пакрочыў да цэзарэі.

Імператар прыняў прапрэтара не адразу, амаль цэлую гадзіну яму давялося туляцца ў невялікім памяшканні з прыхаду. Раз-пораз Руф чуў за дзвярыма гучны рогат, ад якога ён яшчэ болей занудзеў: рогат, безумоўна, належаў Акілу. Ці ж не абраза: нейкі плебей, чалавек без роду-племені нязмушана бавіць з імператарам час, а ён, легат-прапрэтар, нашчадак знакамітых патрыцыяў, змушаны аціраць, як сабака, каля парога...

Нарэшце дзверы, што вялі ў апартаменты Адрыяна, шырока расчыніліся, і з іх выкацілася адрузлае цела Акілы. Было відавочна, што ён на добрым падпітку, і, мусібыць, галоўнага забудоўшчыка пачаставаў менавіта імператар. Акіла мімаходзь кінуў свой асалавелы позірк на прапрэтара, зласліва яму ўхмыльнуўся і няўцямна прамармытаў:

— Ну-ну... якраз...

Болей Акіла нічога сказаць не здолеў, абыякава махнуў у бок Руфа рукою і пачыкільгаў далей.

Прайшло яшчэ з паўгадзіны, пакуль лёкай-раб не запрасіў прапрэтара прайсці ў апартаменты імператара. Руф рушыў за ім.

Адрыян, раскінуўшы рукі на падлакотніках, сядзеў у шырокім крэсле акурат насупраць дзвярэй.

— Вітаю цябе, імператар! — нацягнуўшы на твар удаваную ўсмешку і ўзняўшы правую руку ўгару, як мага больш узнёсла мовіў Руф і паспрабаваў наблізіцца да крэсла, аднак Адрыян жэстам паказаў, каб ён заставаўся на месцы, каля дзвярэй. Хвіліну-другую імператар пільна ўзіраўся ў твар прапрэтара, а затым нечакана запытаўся:

— Ты што, шмат п'еш? Чаму чырвоныя вочы?

Не чакаючы такога пачатку размовы, Руф сумеўся і, ледзь не заікаючыся, прамармытаў:

— Ды не, што ты... Я ўвогуле амаль не п'ю... Проста не спалася... Амаль тры начы...

У галаве ж Руфа прамільгнула: "А што калі і п'ю? Акіла вунь які жлукта — і ўсё яму з рук сыходзіць. Нават ты, імператар, сам яму наліваеш..."

— Ну, што ж, паверу, — стрымана сказаў Адрыян. — Тым болей што ў цябе ёсць прычыны, каб не спаць: страціў сваю правінцыю...

— Імператар, ці ж ёсць мая віна ў тым, што гэтак сталася? Яшчэ пры нашай апошняй сустрэчы, там, у Александрыі, я прасіў у цябе помачы, потым у лістах пісаў...

— Дык, выходзіць, я ва ўсім вінаваты? — павысіў голас Адрыян.

— Ды не, што ты...

— Калі не я, значыць, ты. У цябе было ўдостатку сіл, каб утаймаваць паўстанне яшчэ напачатку. Ды і потым. Чаму ты без майго дазволу вывеў легіён з Ерусаліма? Чаму павёў яго не на Бетар, каб разграміць мяцежнікаў, а сюды, у Кесарыю, дзе схаваўся за высокімі сценамі?

— Я пісаў табе пра ўсё гэта, тлумачыў... Іншага выйсця не было...

— Было! Яго табе падказвалі і Акіла, і легат Гней! Чаму ты да іх не прыслухаўся? Вялікім палкаводцам сябе лічыш? Стратэгам? А можа, усёткі сваю шкуру зберагчы хацеў?

— Гэта не так...

— Так! Я пра ўсё ведаю. Мне пра ўсё паведамілі. Дапусцім, Акіла ў вайсковай справе нічога не петрыць. Але ж Гней! Я з гэтым легатам яшчэ дваццаць год таму ўсю Палесціну з поўначы на поўдзень прайшоў, калі пляжыўся чарговы іудзейскі бунт. І Гней ведае, як трэба "размаўляць" з мяцежнікамі. Хіба не памятаеш, што табе прапанаваў легат? Ісці ў наступ! Ты ж збэсціў Гнея. Мужны ваяр, які ніколі не ведаў паразаў, змушаны быў літаральна ўцякаць з Ерусаліма... Аднак яго я ні ў чым папракнуць не магу. Гней як дысцыплінаваны ваяр выконваў загад. Загад прапрэтара! Што ж, у легата яшчэ будзе магчымасць вярнуць сабе гонар, хоць ён, прынамсі, яго і не траціў, а вось у цябе...

— Імператар, я...

— Маўчаць і слухаць! Ты сваё слова ўжо сказаў, калі здаў мяцежнікам Іудзею. Больш за тое: цябе варта аддаць пад суд за гібель Егіпецкага легіёна. Цэлага лёгіёна. Хто як не ты паслаў ганцоў у Сірыю і Егіпет, хто як не ты прасіў помачы ў Марцэла і Тыцыяна?! Ну, прасіў дык прасіў. Хай сабе. Але чаму ж ты яе не дачакаўся, каб аб'яднанымі сіламі нанесці паразу Бар Кохбу?

— На той момант нельга было марудзіць...

— Марудзіць у чым? У тым, каб як найхутчэй даць драпака? А легіёны змусіліся біцца паасобку!

— Я потым пасылаў ганцоў яшчэ — каб яны павярнулі назад...

— Пасылаў — не пасылаў... Хто цяпер табе паверыць? Ад дваццаць другога легіёна не засталося і следу! Ты ў гэтым вінаваты, ты! І ўвогуле... У мяне няма ніякай жадобы ў нечым разбірацца, хоць я і мог бы вынесці прысуд вось тут, зараз. Але няхай з табою разбіраецца сенат. Не думаю, што ён будзе болей літасцівы, чым я, хоць у цябе там нямала сяброў. Вельмі ўжо цяжкая твая правіна — на мяжы са здрадаю. Я ж пакуль што прыму адно рашэнне: з гэтае хвіліны ты болей не прапрэтар Іудзеі. Прэч адсюль! Прэч! І каб нагі твае ў Кесарыі не было! — Адрыян гэтак раз'ятрыўся, што з ягоных тонкіх вуснаў пырснула сліна.

Твар Цінея Руфа зрабіўся белым, як палатно, прапрэтар, цяпер ужо былы, ледзь не старціў прытомнасць і, хапаючы ротам паветра, яшчэ доўга не мог крануцца з месца...

Юлій Север пачаў вайсковую аперацыю на поўначы Палесціны. Пасля працяглых асад былі захоплены добра ўмацаваныя крэпасці-гарады Кабул, Сіхін і Магдала. Каб мець найменшыя страты, Север не прыспешваў падзей. Рымляне паступова, спакваля выцяснялі мяцежнікаў з умацаванняў, перакрываючы шляхі, па якіх пастаўляліся харчаванне і вада. Гэтаму спрыяла вопытная і шматлікая конніца, якая рабіла імклівыя манеўры.

Рымскія легіёны пагрознаю хмараю набліжаліся да Іудзеі...

## Архелай вяртаецца ў Ерусалім

Мінулі ўжо чатыры месяцы, як Архелай і Вірсавія знайшлі для сябе прытулак у невялічкім мястэчку паблізу Эн-Гадзі.

Янай, вядома ж, вельмі здзівіўся, калі ўбачыў здарожаных, знясіленых маладзёнаў каля свайго двара. З насцярогаю ён выслухаў аповед пра пагром у хрысціянскім паселішчы, а калі даведаўся, што Архелаю давялося забіць Друза і ягоных паплечнікаў, дык Яная ўвогуле ахапіла трывога:

— Дабром гэта не скончыцца... Няма сумневу, што сябры Друза будуць вас шукаць, каб адпомсціць. Дый Бар Кохба, мусіць жа, на цябе злы... А ў які бок падаліся, хто-ніхто, пэўна, скмеціў...

— Гэта наўрад, — заспакоіў Яная Архелай. — А калі хто і скмеціў, дык нічога не дапетрыць. З Ерусаліма мы выбіраліся ў паўночным кірунку і толькі потым завярнулі на поўдзень. Мне Вірсавія расказала, што напярэдадні многія хрысціяне падаліся за Іардан, да назарэяў. Калі і шукацьмуць нас, дык менавіта там.

З гэтым меркаваннем Янай пагадзіўся. Але на ўсялякі выпадак засяліў уцекачоў не ў сваёй хаціне, дзе і так было цесна, — вечарам за стол садзіліся жонка Эйлат і пяцёра дзяцей, — а завёў на ўскраіну мястэчка, да сваёй цётухны Хавы.

Бабуля Хава была ўжо старэчага веку, абручніка яна ніколі не мела, бо ўпадабаць яе ніхто не мог: ад нараджэння галава ў Хавы была схіленая набок, а між лапатак вытыркаўся досыць прыкметны горб.

Нечаканым пастаяльцам бабуля вельмі ўзрадавалася: анягож, яшчэ дзве жывыя душы з'явяцца ў хаце, будзе з кім хоць словам перакінуцца. А калі даведалася, якое гора напаткала Вірсавію, дык ажно ў ладкі пляснула і прашамкала бяззубым ротам:

— Бедненькая мая... Колькі ж табе давялося вытрываць... І чаму людзі такія жорсткія? Ці ж гэта важна, хто якія малітвы чытае? Бог жа адзін... Дый мы аднае крыві — яўрэйскае...

У адрозненне ад Яная, Нахум і Гефен, дый астатнія былыя ваяры, успрынялі з'яўленне Архелая і Вірсавіі без аніякай трывогі-насцярогі. Нахум, шматзначна зірнуўшы на Гефена, нават расправіў плечы:

— Хай толькі сунецца каторы... Мы ім усім ногі павырываем!

А пасля, адклікаўшы Архелая ўбок і не хаваючы захаплення, усклікнуў:

— Ну і прыгажуня твая Вірсавія! Цяпер разумею, чаму ты ў Віфанію гэтак рваўся. У нашым мястэчку такіх красунь зроду не было. А я, дурань, нашую Малку табе прапаноўваў...

Прынамсі, з той самай Малкай Архелай і Вірсавія неўзабаве таксама пазнаёміліся, яе прывёў Нахум.

— Во, пабачце, гэта мая абранніца, Малка, — весела сказаў ён, лёгка падштурхоўваючы наперад смуглявую валавокую дзяўчыну, якая гарэзліва зыркала з-пад месячыкаў-броваў. Малка была таго ж узросту, што і Вірсавія, дый прыгажосці ў яе ставала. Прыйшла чарга Архелая адклікаць Нахума ўбок.

— Якая абранніца? Ты ж зусім нядаўна гэтую дзеўку хацеў мне аддаць.

— І аддаў бы. Для харошага сябра нічога не шкада.

— Ну, за гэта дзякую... Але не трэба. І даўно ў цябе з Малкаю?

— Яшчэ з дзяцінства. Па-суседску раслі.

— Тады тым болей не разумею тваёй шчодрасці.

— А я ўжо і не шчодры. Я ж прапаноўваў, калі табе пагана-моташна было, каб ты, крый божа, нічога благога з сабою не зрабіў. А цяпер у цябе Вірсавія ёсць.

— Што праўда, то праўда.

Між тым, Вірсавія за гэтыя чатыры месяцы так і не змагла адысці, ачомацца ад усяго перажытага. Тварык зусім схуднеў, абвострыўся, зрэнкі вачанят памутнелі... Нават з Архелаем Вірсавія трымалася зацята, а збоку выглядала, што і адчужана. Часам юнаку здавалася, што ў дзявочай душы

не засталося да яго ніякіх пачуццяў. Праўда, ён адразу ж адганяў гэты сумнеў, бо разумеў, што душа Вірсавіі не адкіпела, не адбалела, і трэба яшчэ шмат часу, каб яна ўтаймавалася, адкрылася, вярнулася да будзённай рэчаіснасці. Архелай неназаляў Вірсавіі залішнімі размовамі, а тым болей не лез да яе з любошчамі.

І толькі з Малкай у Вірсавіі завязаліся хоць нейкія стасункі. Бывала, яны, адасобіўшыся ў зацішным кутку, падоўгу гаманілі пра нешта сваё, дзявочае. Зрэшты, большасцю няспынна сакатала Малка, Вірсавія ж толькі зрэдку ўстаўляла слоўца ці моўчкі ківала галавою.

Для Архелая занятак знайшоўся адразу. Местачкоўцы яшчэ раней атрымалі ў арэнду зямлю, якой бальшыня ніколі не мела, і зараз кожны ўвіхаўся на сваім выдзеле: паспела пшаніца. Архелай падсабляў то аднаму, то другому, а часцей за ўсё прападаў на дзялянцы Янaя — яму як былому камандзіру атрада за заслугі перапаў найбольшы кавалак.

На пачатку месяца Цішрэй да мястэчка сталі даходзіць трывожныя весткі: рымляне пачалі захоп Палесціны і ўжо акупавалі паўночную частку Галілеі. Значыць, пачынаецца новая вайна, і яна, бадай, будзе больш крывапралітнаю, чым папярэднія, бо народ ужо адчуў смак волі, займеў маёмасць, а самае галоўнае — яўрэі ўпершыню за многія гады атрымалі магчымасць адкрыта, не тоячыся, звяртацца да свайго Бога, адзначаць іудзейскія святы, шанаваць Закон, і нават з’явілася надзея на аднаўленне Храма.

За ўсё гэта можна было аддаць і жыццё.

Архелая трохі дзівіла, што местачкоўцы, якія не так даўно былі апалчэнцамі, не выказваюць пэўнага намеру зноў сабрацца ў адзіны атрад і падацца ў Ерусалім, каб з’яднацца з асноўным войскам. Размовы пра новую вайну, вядома ж, хадзілі, але яна пакуль што была далёка, недзе ў Галілеі, і здавалася чужою, недасяжнаю...

Неяк увечары, завітаўшы да Яная, Архелай запытаўся ў яго наўпрост:

— Ці думаеш ты зноў збіраць атрад? Вунь што на свеце робіцца...

Янай доўга маўчаў. Затым падняўся, падышоў да куфэрка і выцягнуў з яго футарал для тэфіліна[1]. З яго, у сваю чаргу, дастаў папірус, скручаны ў сувой, і кінуў яго на стол.

— На, во, пачытай.

— Што гэта?

— Ты чытай, і сам усё зразумееш.

Архелай разгарнуў скрутак, прабег вачыма па тэксце:

“У дваццаты[2] Шэват, года другога вызвалення Ізраіля пад кіраўніцтвам Сімона, сына Кохбы, правіцеля Ізраіля, Янай, сын Мардэхая, сказаў Галілею, сыну Гарыса[3]: я, па сваёй волі, арандаваў у цябе выдзел зямлі.

Арандаваў у Сімона, правіцеля Ізраіля, на пяць год. Калі не буду апрацоўваць гэты выдзел, буду прагнаны і пазбаўлюся ўсяго. Я арэндаваў у цябе ад сённяшняга дня да канца шэміты. Арэндная плата, якую я буду адважваць табе тут штогод, будзе ўнесена пшаніцай якаснай і чыстай у памеры чатырох кор і васьмі сеа[4], з якіх будзе спагнана дзесяціна. І гэты

---

[1] Малітоўныя прылады іудзеяў.

[2] Дзень месяца.

[3] Галілель, сын Гарыса, — відавочна, упаўнаважаны Бар Кохбы па здачы земляў у арэнду.

[4] Усяго каля 1714 кілаграмаў зерня.

дакумент абавязвае мяне згодна з ягоным зместам. Янай, сын Мардэхая, за сябе падпісаў...”

— І што з таго? — Архелай упёрся ў Яная позіркам. — Для чаго ты мне гэта паказаў?

— А ты не зразумеў? Зрэшты... Ты яшчэ маладзён, не маеш ні сям'і, ні... Я ўсё жыццё гарбаціўся на некага і меў за гэта толькі крошкі — каб не сканаць з голаду. А цяпер у мяне ёсць зямля. Свая зямля...

— Якая ж яна твая? Тут жа ясна напісана: выдзел здадзены ў арэнду на пяць год. А што будзе потым? Раптам той самы Галілей, прадстаўнік Бар Кохбы, перадумае?

— А чаго яму перадумваць? Я ж буду плаціць пшаніцаю. І самае галоўнае: аддам, што належыць, а астатняе — маё.

— Тваё... А вось прыйдуць рымляне, і гэтая дамова — кату пад хвост. Калі ты займеў кавалак зямлі, дык трэба ж яго бараніць.

— Бараніць можна па-рознаму. Не толькі са зброяй у руках. Ты мне адкажы: хто будзе карміць сабранае войска? Хто? Пры галодным страўніку доўга не павваюеш. Вось я і буду пастаўляць для войска харч.

— А астатнія? Што думаюць іншыя чальцы твайго атрада?

— Што думаюць... Гэтак жа, як і я! Зямля ж цяпер ёсць у кожнага...

— Значыць, збіраць атрад ты не будзеш?

— А навошта? Дый ад Бар Кохбы загаду на збор пакуль што не паступала. Ён жа і сам разумее: хтосьці павінен ваяваць, а хтосьці вырошчваць хлеб...

Архелаю пазіцыя Яная была неўспадоб. Але што ён мог зрабіць? Як пераканаць чалавека, які ўпершыню атрымаў нейкую значную маёмасць, хай сабе і ў арэнду, і хоча хоць трохі пажыць па-людску?

Сам жа Архелайірваўся ў бой. Тут, у мястэчку, яго нічога не звязвала і не стрымлівала. Хіба што Вірсавія. Але ж ніякай небяспекі для яе нямашака — тутэйшыя нелюбові не выказваюць. Да таго ж, Вірсавія ўся замкнулася ў сабе, да гэтага часу не можа ачуняць ад жахаў, якія яе напаткалі. І з ім, Архелаем, зносіцца як бы з неахвотаю. Яе, вядома, зразумець можна, але ж... Магчыма, яно будзе і лепей, калі Архелай на нейкі час пакіне Вірсавію, трохі павае, а калі вернецца, дык тыя жахі, дай божа, сатруцца з ейнай памяці.

Аднак жа, калі Архелай распавёў Вірсавіі пра свой намер падацца ў Ерусалім, на вайну, яна раптам расплакалася, уваткнуўшыся тварыкам у ягоныя грудзі, і скрозь слёзы мовіла:

— Цябе ж могуць забіць... А як жа я... без цябе? У мяне ж нікога болей на гэтым свеце няма...

Архелай сумеўся, ледзь не расплакаўся сам, а потым усё-ткі з паказушнаю бадзёрасцю ўсклікнуў:

— Не заб'юць! Мяне яшчэ калісь бабуля Алума ад смерці замовіла! А вось разаб'ём рымлян, дык вярнуся да цябе героем!

— А чым табе рымляне на дагадзілі? — нечакана запыталася Вірсавія. — Чаму ты іх за ворагаў лічыш?

— Як гэта? — збіўся з панталыку Архелай. — Яны ж акупанты...

— Хай сабе і акупанты, але гэтак з людзей не здзекаваліся... — і Вірсавія зноў заплакала.

— Ты зразумей: мы — яўрэі, і павінны бараніць сваю зямлю. І не гэтак важна, хто як моліцца.

— Важна, яшчэ як важна...

Нават пасля слёзнае размовы з Вірсавіяй Архелай не адмовіўся ад свайго намеру. Больш за тое, ён паспрабаваў узяць сабе ў хеўру Нахума, балазе той быў сіратою, зямельнага выдзелу не меў — сам адмовіўся, хоць яму і прапаноўвалі, а на жыццё зарабляў, падсабляючы іншым гаспадарам, можна сказаць, парабкаваў. Каму ж, як не Нахуму, ісці на вайну? Архелай быў упэўнены, што атрымае ягоную згоду.

Аднак Нахум, на здзіўленне, імпэту не выказаў. Апусціўшы вочы долу, ён прамямліў:

— Я з задавальненнем да цябе прыбіўся б... Што мне яшчэ рабіць, як не ваяваць? Але... не магу...

— Што табе замінае?

— Справа такая... Разумееш, Малка мая пузатая...

— Гоп-па! Няўжо ад цябе?

— Ад каго ж яшчэ...

— Нешта па ёй не дужа прыкметна.

— Дык жа ранавата, а пад вопраткаю што ты ўбачыш...

— Ну і хай сабе нараджае. А табе нашто каля яе туляцца? Чым ты дапаможаш?

— А хто яе даглядацьме? Ты ж ведаеш: Малка толькі з маткаю жыве, а яна ўжо старая. Потым дзіця з'явіцца... Сям'ю ж карміць трэба...

Ад гарэзлівага, бесшабашнага Нахума Архелай не чакаў такой разважлівасці, як быццам той з няўрымслівага дзяцінства адразу пераскочыў у памяркоўную сталасць. Так што ўгаворваць Нахума і далей не было сэнсу.

Каб правесці Архелая, за ваколіцу выйшлі ледзь не ўсе насельнікі мястэчка, нават дзеці. Гэта азначала, што светлавалосы юнак паспеў стаць для іх сваім, амаль што родным. А яшчэ тое, што яны, асабліва сталыя дзецюкі, падсвядома адчуваюць нейкую віну перад ім: ці ж не прыкра, што вось гэты хлопец, зусім яшчэ маладзён, ідзе на вайну, а яны, дужыя і спрактыкаваныя, нібы хаваюцца за жаночымі спадніцамі... Удзячнасць і павага да Архелая міжволі перакідвалася і на Вірсавію, ягоную абранніцу, якая не адступалася ад хлопца ні на крок. Было відавочна, што цяпер гэтую дзяўчыну ніхто ў крыўду не дасць.

З усімі, каго добра ведаў, Архелай ужо ўволю наабдымаўся раней, таму ні з кім болей не зносіўся. Адзін толькі Янай сам падышоў да юнака і сказаў тое, пра што ўжо не раз было гаворана-перагаворана:

— А можа, усё-ткі перадумаеш? Самахоць лезеш у пашчу льва... Ці ж яны забылі, што ты там натварыў?

— У каторы раз табе кажу: я не да наймітаў еду, а да Сімона. Яму асабіста я нічым не напаскудзіў. Да таго ж, не за нейкімі выгодамі туды выпраўляюся, а каб уласным жыццём рызыкаваць. Мне здаецца, Бар Кохба гэта зразумее.

— Ну, глядзі, глядзі...

І Янай, паляпаўшы Архелая па плячы, пакінуў яго сам-насам з Вірсавіяй.

Яны стаялі насупраць і моўчкі пазіралі адно аднаму ў вочы: усё, што трэба было сказаць, яны ўжо сказалі, усе свае слёзы Вірсавія выплакала. Архелай прытуліў дзяўчыну да сваіх грудзей, Вірсавія пакорліва-аддана злёгку прыўзняла галаву, і яны зліліся ў доўгім пачуццёвым пацалунку...

Ужо ўскочыўшы на каня, Архелай са сталёваю ўпэўненасцю ў голасе мовіў:

— Я абавязкова вярнуся. Абяцаю.

Вірсавія толькі кіўнула галавою.

Людзі ўжо разышліся, а яна стаяла на ўскраіне мястэчка і глядзела ўслед Архелаю да тае пары, пакуль шэрае воблака пылу не рассеялася за акаёмам...

## Не чакалі...

Ужо ў Ніжняй Галілеі легіёны Севера сутыкнуліся з жорсткім супрацівам паўстанцаў. Горныя хрыбты тут цягнуліся з захаду на ўсход і чаргаваліся з далінамі, утвараючы падабенства хваляў на паверхні вады. Гэткі рэльеф найперш спрыяў мяцежнікам. Яны незлічонымі лавінамі імгненна спускаліся з гор у даліны, нападалі на рымскія цэнтурыі, калі яны стаялі лагерам ці рухаліся паходнымі калонамі, а затым гэтак жа імкліва знікалі. Асабліва вялікія страты рымляне панеслі ў даліне Рымон паблізу Назарэцкага горнага ланцуга.

Дадаткам жа распачалася так званая "вайна кратоў". Мяцежнікі ніколі не з'яўляліся ў адкрытым полі, але валодалі вышынямі, узводзілі на іх умацаванні і рылі паміж сваімі крэпасцямі патаемныя хады. Святло і паветра ў іх паступала зверху, цераз адмысловыя прадухі. Абаронцы ў самыя нечаканыя моманты з'яўляліся як з-пад зямлі і груганамі накідваліся на ар'ергарды ці абозы. Пераследаваць іх было немагчыма: яны гэтак жа вокамгненна знікалі ў сваіх норах.

Рымляне змушаны былі прасоўвацца ў глыбіню тэрыторыі з вялікаю асцярогаю. Каб пазбегнуць падобных сутычак, легіянеры асаджвалі крэпасці да тае пары, пакуль ім не ўдавалася "выкурыць" з нор усіх абаронцаў. Таму войска рухалася вельмі марудна. Тым не менш, Север не прыспешваў падзей: у першую чаргу ён імкнуўся захаваць жыцці сваім ваярам.

Занятыя тэрыторыі бязлітасна спустошваліся. Палонных без прамаруджвання забівалі.

Адрыян, які разлічваў на хуткацечную пераможную вайну, зразумеў, што яна можа зацягнуцца не на адзін месяц і нават год, таму пакінуў Кесарыю і падаўся ў Рым.

Бар Кохба не павёў сваю армію на поўнач, цераз Іудзею і Самарыю, каб яшчэ ў Галілеі даць належны адпор рымскім легіёнам. Ён усведамляў, што ў адкрытай бітве ў ягонага войска амаль няма шанцаў перамагчы. Поспех магла прынесці толькі "партызанская вайна". І яна распачалася. Ды з такой сілай, што і сам Бар Кохба гэтага не чакаў.

Бар Кохба разлічваў на тое, што рымляне, з першых дзён зведаўшы жорсткі супраціў, могуць адмовіцца ад сваёй задумы захапіць Палесціну. Калі ж яны ўсё-ткі не адступяцца, дык пакуль дабяруцца да Ерусаліма, панясуць гэткія страты, так знясілеюць, што іудзейскае войска зможа процістаяць ім на роўных.

Зрэшты, у тым, што насельнікі, займеўшы свой кавалак зямлі, пачалі за яго змагацца, нечакана для Бар Кохбы выявіўся і недахоп: яны гатовы былі бараніць менавіта свой кавалак, сваю вотчыну (таму і была такою бязлітаснаю партызанская вайна), а абарона краіны ў цэлым уяўлялася ім другаснаю. З гэтае прычыны ў Бар Кохбы ўзніклі цяжкасці пры мабілізацыі: нават былыя ваяры, якія зусім нядаўна бралі ўдзел у разгроме Егіпецкага легіёна, асеўшы на сваёй зямлі, вярталіся ў войска з неахвотаю ці ўвогуле яго пазбягалі.

Хоць у далёкай Галілеі ўжо даўно распачаліся баявыя дзеянні, Бар Кохба, як гэта ні дзіўна, усё меней часу мог удзяляць вайсковым справам. А ўсё таму, што ён ужо быў не толькі военачальнікам, а яшчэ і царом, князем, уладаром — адным словам, правіцелем вялізнае тэрыторыі, на якой, акрамя вайсковых, было шмат іншых, будзённых, жыццёвых праблем, і як кіраўніку дзяржавы вырашаць іх належала менавіта яму. Сімону ўсё радзей выпадала наведацца ў войска, бывала, ён цэлымі днямі не вылазіў са сваёй рэзідэнцыі ў Фазалеевай вежы, надыктоўваючы пісару розныя лісты, загады і распараджэнні.

Так было і ў гэты дзень.

Найперш Сімон надыктаваў пасланне кіраўнікам Эн-Гадзі Іанатану і Масбэлу. Прылеглыя да горада тэрыторыі на ўсходнім узбярэжжы Мёртвага мора давалі Іудзеі найбольшыя харчовыя запасы, да таго ж, Эн-Гадзі быў месцам адгрузкі з караблёў прадуктаў і ўзбраення для войска. Аднак харчовыя патокі адтуль амаль сышлі на нішто. Бар Кохба наказаў датэрмінова правесці жніво часткова паспелага ўраджаю і накіраваць зерне арміі. Напрыканцы паслання зрабіў папрок мясцовым военачальнікам: “У дастатку вы жывяце, харчуецеся з даходаў дома Ізраілева, але ніколькі не турбуецеся аб сваіх братах”[1].

Тым жа Іанатану і Масбэлу Бар Кохба надыктаваў яшчэ адно пасланне, у якім загадаў забраць усю маёмасць у Элеазара, сына Хіты, а яго самога арыштаваць і даставіць сюды, у Ерусалім, “не марудзячы, да прыходу суботы”. Гэты Элеазар, як стала вядома Бар Кохбу, зусім абнахабіўся.

Сімон ад самага пачатку задумваў, каб кожны насельнік, і не толькі іудзей, атрымаў зямельны надзел, хай сабе і невялікі, адчуў сябе гаспадаром. А гэты Элеазар у хеўры са сваім сынам, таксама Элеазарам, вырашылі абдурыць дзяржаву: за нейкі грош быццам бы бралі ў субарэнду выдзелы збяднелых местачкоўцаў ці проста пустадомкаў, а на самай справе валодалі гэтымі надзеламі, як ім захочацца. Бач ты, багацеямі захацелася стаць. Бар Кохба, вядома, не супраць багацеяў, але хай яны здабываюць даброты сваёй працай, а не падманам.

Па гэтай жа прычыне Бар Кохба загадаў канфіскаваць усю пшаніцу і ў Тахнуна, сына Йішмаэля, прыгразіўшы кіраўнікам: “А калі вы не зробіце гэта, самі будзеце пакараныя”.

Насельнікам мястэчка Тэкоа на мяжы з Іудзейскай пустыняй Бар Кохба надыктаваў і зусім гнеўнае пасланне: мабілізацыю яны не праводзяць, сабраны ўраджай прыхоўваюць, а замест таго, каб рабіць абарончыя збудаванні, дружна ўзяліся рамантаваць уласныя хаты. З глузду з’ехалі, ці што? Каму патрэбны гэты рамонт, калі вось-вось могуць прыйсці рымляне і ўсёператрушчыць?

Трэба было яшчэ разабрацца з начальнікам крэпасці Іісусам, сынам Галголы. Скаргі на яго ідуць адна за адной. Вось і зараз кіраўнікі абшчыны ў мястэчку Бет-Машка наракаюць на тое, што ў аднога з насельнікаў гвалтам забралі карову, а ў паселішчы Га-Варуха ў няміласць трапілі выхадцы з Галілеі. І гэта ў той час, калі ідзе вайна і лішніх ворагаў нажываць не след. Бар Кохба адно за другім, без перапынку, надыктаваў два пасланні:

“Ад Сімона, сына Кохбы, Іісусу, сыну Галгулы, і жыхарам Га-Варуха, мір вам! Заклінаю ў сведкі нябёсы супраць цябе ў тым, што калі хто-не-

[1] Тут і далей прыводзяцца вытрымкі з пісьмаў, знойдзеных у 50-60-х гадах XX стагоддзя ў пячорах на ўзбярэжжы Мёртвага мора.

будзь з галілелян, які знаходзіцца пры табе, будзе пакрыўджаны, закую ў жалеза вашыя ногі, як зрабіў з сынам Афлуля".

"Ведай, што ты павінен паставіць пяць кор зерня, каб я атрымаў іх цераз маіх падначаленых.

Падрыхтуй кожнаму належнае яму месца госця, і хай яны застануцца ў цябе да суботы. Паклапаціся, каб сэрцы іх усіх былі задаволеныя: будзьце мужчынамі і падбадзёрце сваіх. Ды будзе мір!

Любому, хто прынясе табе сваё збожжа, я загадаў: хай прынясуць яго пасля суботы.

Сімон, сын Кохбы, асабіста".

Заставалася яшчэ падрыхтаваць загад, каб у войска былі завезеныя лімоны і пальмавыя галінкі ("этрагім" і "лулавім"), бо блізіўся Сукат — свята збору ўраджаю. А як жа можна пайсці ў храм, іх не маючы?[1] У такі няпросты час належала падтрымаць баявы дух вайскоўцаў, і гэтаму акурат магло паспрыяць паўнавартаснае святкаванне ў храмах.

Аднак гэтую надобу давялося адкласці, бо расчыніліся дзверы, і ў памяшканне нехта зайшоў. Бар Кохба азірнуўся і... не паверыў сваім вачам. Не дзіва, што ахоўнікі прапусцілі наведніка, нават не папярэдзіўшы Сімона: гэта быў іхні колішні камандзір Архелай.

— Ты?... — толькі і змог выціснуць з сябе Бар Кохба, затым павярнуўся да пісара:

— Выйдзі пакуль.

Той, спехам згробшы са стала папірусы і дашчэчкі, павалюхаў да дзвярэй.

Архелай моўчкі перамінаўся з нагі на нагу. Дый што яму было казаць? Ён чакаў вырашальнага слова ад Сімона. А той чамусьці нечакана запытаўся:

— Хтосьці, апрача ахоўнікаў, бачыў цябе ў горадзе?

— А як без гэтага? Я ж не па пустыні сюды дабіраўся. Хто-ніхто нават і пазнаў...

Сімон незадаволена скрывіў твар:

— І як людзі рэагавалі?

— Дзівіліся...

— І правільна рабілі. Я вунь таксама здзівіўся. І табе не страшна было паказвацца людзям на вочы пасля таго, што ты тут натварыў?

— А што асаблівага я натварыў?

— Не прыкідвайся прасцячком. Ты Друза забіў! Ведаеш, што пачалося ў стане наймітаў, калі яны пра гэта даведаліся? Ледзь не бунт паднялі! Патрабавалі, каб я выдаў цябе ім на расправу.

— А што ты?

— Хм... А што мне заставалася? Сказаў, што ты ўцёк. Маўляў, калі знойдзеце, рабіце з ім, што хочаце. Вось так...

Бар Кохба ўшчыльную падступіўся да Архелая і, сцяўшы сківіцы, сцішана працадзіў скрозь зубы:

— Ты што, не мог там забіць і чацвёртага? Ніхто б і не ведаў, што гэта ты іх пасек. Ці мала хто з хрысціян свайго епіскапа абараняў... А так, во, гэты недабітак сваім усё і расказаў. Па ўсім горадзе нядобрая чутка разнеслася....

---

[1] Згодна з іудзейскім звычаем, у асенняе свята Сукот людзі ў храме трымалі ў руках пальмавыя галінкі і лімоны. Іосіф Флавій расказвае, як аднойчы ў час такога свята народ, які сабраўся ў храме, закідаў лімонамі цара Аляксандра-Яная. Пальмавая галінка была эмблемай Іудзеі. Нездарма рымляне, задушыўшы паўстанне 66-73 гг., чаканілі яе на сваіх манетах з надпісам "Іудзея пераможаная".

— Я не паспеў...
— Што не паспеў?
— Забіць “недабітка”. Ён цераз агароджу кулём пераляцеў. Дый не да яго мне было...
— А да чаго? Да дзеўкі гэтае? Дарэчы, дзе яна цяпер? Можа, сюды з сабою прывалок?
— Не прывалок. Вірсавія ў надзейным месцы.
— Вірсавія... Вось як яе завуць... Ведаю я, дзе тое “надзейнае месца”! Нябось, у Янаяразам з ёю ўвесь гэты час хаваўся!
— Чаму ты так думаеш?
— А куды яшчэ табе, галадранцу, падацца было? У цябе ж ні кала ні двара, дый радні ніякай нямашака.
— Свет вялікі... Зрэшты, хлусіць не буду: мы насамрэч знайшлі прытулак у Яная. Але ж калі ты ведаў, дзе нас шукаць, чаму не падказаў каму трэба?
Бар Кохба доўга і недаўменна пазіраў на Архелая, затым, сплюнуўшы ўбок, вылаяўся:
— Дурань! Няўжо ты думаеш, што я тваёй смерці жадаю?
— Не, не думаю...
— Дык чаго пытаешся?
Архелай прамаўчаў.
— Ну, добра, годзе пра гэта. Лепей раскажы, што за дзеўка, дзеля якой ты жыццём рызыкаваў.
— Дачка епіскапа...
— Пра гэта мне ўжо паведамілі. Я нават здагадваюся, дзе ты яе знайшоў... Мусіць, калі з Рашбі на выведку ў Ерусалім хадзіў.
— Так і ёсць.
— Ну і нашто табе гэтая хрысціянская выкарміца? Не мог сярод нашых вартае дзеўкі знайсці?
— А я нікога не шукаў. Вірсавію маё сэрца знайшло.
— Сляпое тваё сэрца. І дурное. Ты што, насамрэч яе пакахаў?
— Вельмі моцна.
— От ёлуп... Ну дык і жыў бы са сваёй Вірсавіяй там, у Янаевым мястэчку. Чаго ты зараз сюды прыпёрся?
— А хіба не пачалася новая вайна? Я хачу быць поруч з табою...
— Які з цябе зараз ваяка? Свае ж у спіну пры выпадку заб’юць! Во даў клопату...
— Дык што мне рабіць? Ты прапануеш вярнуцца назад, да Яная?
— Галавой трэба было думаць! Які сэнс цяпер вяртацца? Цябе ўсё адно многія тут скмецілі. І тое, што ў мяне пабываў, ні для каго не будзе сакрэтам. Што ж, выходзіць, я цябе мог затрымаць і адпусціў? Гэта ж яшчэ горш. Давай так. Пакуль што з вежы і носа не кажы. Трэба падумаць-памазгаваць. Зараз у мяне шмат неадкладных спраў. Сустрэнемся заўтра раніцай — раскажаш пра ўсё падрабязна. Пераначуй разам з ахоўнікамі. А там пабачым...

## Патрабуецца ахвяра

Аднак жа назаўтра перамовіцца з Архелаем Бар Кохбу не ўдалося. На самым досвітку, яшчэ не расплюшчыўшы вачэй, Сімон пачуў шматгалосы гоман і ўзбуджаныя крыкі, якія не маглі прыглушыць нават мураваныя сцены вежы.

— Што там? — спытаўся Бар Кохба ў ахоўніка, які стаяў за дзвярыма.

— Найміты прыйшлі...

— Многа іх?

— Ды сотні дзве набярэцца.

— Чаго яны хочуць? А зрэшты... Я і сам здагадваюся. Хочуць, каб я выдаў ім Архелая? Так?

— Так.

— Скажы, каб не гарлалі. Зараз я да іх выйду.

У Бар Кохбы яшчэ не саспела рашэнне, якім чынам можна пазбегнуць непрыемнасцей, звязаных з нечаканым з'яўленнем Архелая. Сімон разлічваў, што ў яго ёсць дзень-другі, каб знайсці нейкае выйсце, а тут, во, ні хвіліны нямашака...

Калі Бар Кохба выйшаў за вароты вежы, на невялікай плошчы тоўпіліся не дзве сотні ўзброеных людзей, а ўжо з паўтысячы, прычым натоўп большаў і большаў — найміты падцягваліся сюды з усіх куткоў горада. Згледзеўшы Месію, людзі, якія дагэтуль на ўсю моцу рвалі глоткі, амаль імгненна замоўклі.

Сімон абвёў натоўп пільным позіркам, перачакаўшы, пакуль гамана заціхне зусім, і сурова запытаўся:

— Чаго вы тут сабраліся? Што вам трэба?

Пагрозны выгляд Бар Кохбы збянтэжыў людзей, і спярша ніхто не адважыўся наўпрост выказаць нейкія патрабаванні, а затым крок наперад зрабіў Фрыкс — барадаты і ўвогуле ўвесь абраслы густым шчаціннем дзяцюк, якога пасля гібелі Друза фрыгійцы абралі сваім завадатарам.

— Мы ведаем, што аднекуль вярнуўся і зараз хаваецца за гэтымі сценамі твой былы памочнік Архелай, — не зусім упэўнена пачаў ён, але затым, адчуваючы трывалую падтрымку з боку паплечнікаў, працягваў амаль ультыматыўна. — Усім вядома, што ён забіў нашага сябра, нашага камандзіра і яшчэ дваіх ваяроў. Прычым забіў нізавошта — яны рабілі святую справу, вынішчалі хрысціянскую поскудзь, якая труціла ваду ў акведуку. Ты абяцаў нам: калі твой памочнік знойдзецца, мы можам рабіць з ім, што захочам. Дык і выдай яго цяпер. Мы патрабуем!

— Патрабуем! Патрабуем! — з усіх бакоў пачуліся асмялелыя воклічы.

Бар Кохба ўзняў руку, заклікаючы суцішыцца, а затым запытаўся:

— Тут сабраліся толькі фрыгійцы?

— Не толькі, — адказаў той жа Фрыкс, які, падобна, рабіўся галоўным перамоўшчыкам з боку наймітаў. — Я выказваю патрабаванне ад імя ўсіх, хто па закліку Акібы прыйшоў на падмогу Іудзеі.

Пасля гэтых слоў натоўп як прарвала, хто з абурэннем, а хто і ўвогуле з лютасцю пачаў выкрыкваць:

— За што мы кроў пралiваем? Каб нас тут зневажалі?

— У нас свой гонар ёсць!

— Навошта мы сюды прыперліся? Хай самі яўрэі з рымлянамі ваююць!

— А то возьмем дый сілаю захопім Архелая!

Гэта ўжо была выяўная пагроза, і Бар Кохба зразумеў: калі натоўп будзе "распальвацца" і далей, дык найміты, чаго добрага, насамрэч пойдуць на штурм вежы. І ён зноў паспяшаўся ўзняць руку, прыцягваючы да сябе ўвагу.

— Супакойцеся! Астыньце! Я абяцаю вам, што Архелай будзе пакараны! Але мы не можам проста так пазбавіць чалавека жыцця. У нас не

бандыцкая шайка. У нас дзяржава! А ў дзяржаве ёсць законы. І ёсць суд. Няхай ён і вырашыць лёс Архелая.

— Які суд? Ваш, іудзейскі? — пачуўся з натоўпу зусім нахабны голас. — Ды вы свайго чалавека проста апраўдаеце. Аддайце Архелая нам! Мы будзем судзіць!

І ў падтрымку нахабніка над натоўпам пранеслася:

— Мы!

— Мы!

— Ён нашых людзей забіў!

Немаведама, чым бы ўсё скончылася, калі б нечакана на помач Бар Кохбу не прыйшоў Фрыкс. Ён выйшаў з натоўпу далёка наперад, стаў амаль упоравень з Сімонам, павярнуўся тварам да людзей і гаркнуў:

— Паслухайце мяне! Паслухайце, кажу! Мы ж сапраўды не бандыты, каб без розгаду чыніць расправу. Суд дык суд. Хай ён будзе! Але не за гэтымі сценамі, употайкі, а прылюдна! На плошчы! Каб усе бачылі і чулі! Згодныя са мною?

Пачуліся адабральныя воклічы.

— А ты, камандзір, згодзен? — павярнуўся Фрыкс да Бар Кохбы.

Што заставалася Сімону?

— Згодзен, — стрымана адказаў ён, праглынуўшы знявагу, якой не ведаў ніколі ў жыцці.

А Фрыкс не адступаўся:

— Хай гэты суд сёння і адбудзецца. Альбо заўтра. Чаго марудзіць?

Бар Кохба, сцяўшы сківіцы, маўчаў. Фрыкс успрыняў гэта як згоду і непарушна дадаў:

— Да суда Архелай павінен знаходзіцца ў цямніцы — у падвале Гіпікавай вежы. Пад нашаю аховаю. А не – дык, крый божа, зноў уцячэ...

Бар Кохбу неўспадоб было слухаць гэтыя словы, тым болей што гучалі яны амаль як загад. І ад каго даводзілася трываць такую знявагу? Ад звераватага дзікуна-фрыгійца. Секануць бы яму мячом па бруднай шыі, вырваць бы з роту пагану язык, які пасмеў зблоціць яго, іудзейскага цара, Месію! Сімон ледзьве стрымаўся, каб не выхапіць з похваў меч. Замест гэтага ён скрозь зубы працадзіў:

— Хай будзе так... Суд — заўтра.

У гэтыя хвіліны Сімон бачыў перад сабою толькі адну мэту: суцішыць, утаймаваць раз'юшаны натоўп, які вось-вось можа насамрэч уварвацца ў вежу і разарваць Архелая на часткі. А там і ўвогуле, крый божа, бунт... Галоўнае — збіць, астудзіць лютасць наймітаў зараз, у гэтыя імгненні, каб яны, здаволіўшыся, разышліся. А што будзе заўтра — яшчэ немаведама...

Аднак натоўп не рассеяўся да тае пары, пакуль па загадзе Бар Кохбы ягоныя ахоўнікі не вывелі Архелая. Навідавоку ва ўсіх яго праканваявалі да Гіпікавай вежы. Услед несліся зласлівыя крыкі:

— За ўсё заплаціш!

— У-у, вырадак!

Збянтэжаны нечаканым развіццём падзей, Бар Кохба не ведаў, што яму рабіць. Ён змусіўся даць згоду на арышт Архелая, бо не было іншага выйсця. А што далей? Не аддаваць жа, насамрэч, хлопца, якога лічыў амаль што сынам, на суд, а лепей сказаць, на расправу гэтым азвярэлым прыхадням...

Ніякага вартага рашэння ў галаву Сімона не прыходзіла. І ён наважыўся параіцца з Акібам.

Пасля смерці Рашбі адносіны Бар Кохбы з галоўным святаром наладзіліся. Адно што Сімон імкнуўся выканаць абяцанне, дадзенае Рашбі, а другое — яму сапраўды патрабаваўся мудры дарадчык, бо на плечы звалілася столькі клопатаў, што галава пухне. А хто можа падсабіць, параіць, як не Акіба? Да яго адразу ж пасля таго, як разышоўся натоўп, і накіраваўся Бар Кохба.

Па ўсім было бачна, што Акіба і сам чакаў Сімона, бо калі той пачаў тлумачыць, якая стрэмка засела ў ягонай душы, святар перабіў:

— Не трэба... Я ўсё чуў.

І праўда: канфлікт перад вежаю вырашаўся гэтак голасна, што пра яго даведаўся б і глухі.

— Дык што мне цяпер рабіць? — разгублена запытаўся Сімон.

Акіба адказаў не адразу. Патупаў туды-сюды і, нарэшце, мовіў:

— Рабіць трэба тое, што ты ім паабяцаў.

— Гэта значыць, суд?

— Суд. Прылюдны, на плошчы.

— Рабі, хіба ж ты не ведаеш, якога прысуду яны чакаюць? Іх можа задаволіць толькі смерць Архелая!

— Гэта так.

— І што: мне насамрэч належыць аддаць яго на расправу гэтым дзікунам? Ты ж ведаеш, што значыць для мяне Архелай...

Акіба зноў надоўга прымоўк, а калі пачаў гаварыць, дык ужо сцішана і неяк урачыста:

— Я распавяду табе, Сімон, адну прытчу. Магчыма, ты чуў яе ад Рашбі, але нагадаць не зашкодзіць... Некалі Бог, спакушаючы Аўраама, сказаў яму: “Вазьмі сына твайго адзінага Ісаака, якога ты любіш, і ідзі ў зямлю Морыа, на адну з гор, якую я табе пакажу. Там прынясеш яго Мне ў ахвяру”. Аўраам устаў раніцай, асядлаў асла свайго, узяў з сабою Ісаака і яшчэ дваіх отракаў і пайшоў да таго месца, якое ўказаў яму Бог. Убачыўшы яго здалёк, Аўраам сказаў двум отракам: “Заставайцеся тут, з аслом, а мы з Ісаакам пойдзем туды, а потым да вас вернемся”. Паклаў Аўраам на Ісаака дровы, якія падрыхтаваў загадзя для кастра, і пайшлі яны разам. І запытаўся Ісаак: “Вось агонь і дровы. А дзе ж ягня для спальвання?” І адказаў яму Аўраам: “Бог сам убачыць для Сябе ягня...” І прыйшлі яны на месца, якое ўказаў Бог. І ўладкаваў там Аўраам ахвярнік, расклаў дровы, звязаў Ісаака і паклаў яго паўзверх. І ўзяў Аўраам нож, каб закалоць сына свайго. Але Анёл Госпада сказаў яму з неба: “Аўраам! Не падымай рукі на сына свайго, бо цяпер Я ведаю, што баішся ты Бога і не пашкадаваў сына для Мяне. І ўбачыў Аўраам ягня, якое заблыталася рагамі ў голлі, і прынёс яго на ахвярнік замест Ісаака. І зноў сказаў Анёл Госпада з неба: “Калі не пашкадаваў ты сына свайго для мяне, дык бласлаўляю цябе і прымножу семя тваё, як зоркі нябесныя і як пясок на беразе мора. І блаславяцца ў семені тваім усе народы зямлі за тое, што ты паслухаўся голасу Майго...”

— Я чуў гэтую прытчу, і не толькі ад Рашбі, — сказаў Сімон. — І здагадваюся, да чаго ты хіліш...

— Ну то і добра.

— Але ж ты не ўлічваеш аднаго, рабі. Бог — Ён літасцівы. І ў рэшце рэшт захаваў Ісааку жыццё. А Фрыкс са сваімі паплечнікамі Архелая не пашкадуюць... Ці, можа, ты думаеш, што яны, пачуўшы для хлопца смяротны прысуд, пачнуць прасіць, каб яго не забівалі?

— Не пачнуць.

— Дык і што потым? У Аўраама была хоць нейкая надзея на Божую літасць, а тут ніякай надзеі нямашака. У рэшце рэшт Аўраам быў гатовы прынесці ахвяру самому Богу. А я каго павінен улагодзіць? Нейкіх прыблуд, розны зброд!

— Зброд — не зброд, але ты не забывай, што гэтых людзей я збіраў не адзін год і ледзь не з усяго свету. І яны змагаюцца за нашую з табою Іудзею. Дык што, плюнуць на іх? Калі б і хацелася, дык не ўдасца. Найміты ўяўляюць з сябе грозную сілу. Ты хочаш, каб яна была скіраваная на нас з табою? Ты хочаш, каб напярэдадні вырашальных баёў з рымлянамі мы страцілі сваё найболей падрыхтаванае войска? І дзеля каго? Дзеля аднаго чалавека, хай сабе ён для цябе і вельмі дарагі! Заўсёды бываюць выпадкі, калі кімсьці ці чымсьці даводзіцца ахвяраваць. А тут на кон пастаўлены лёс усяе Іудзеі! Ды ты, я ўпэўнены, не пашкадуеш для такой высокай мэты і ўласнага жыцця, не тое што чыйгосьці! Ці не так, Сімон?

Бар Кохба маўчаў. Яму не было чым запярэчыць. А Акіба, скмеціўшы разгубленасць Сімона, стаў насядаць на яго яшчэ болей:

— Суд сапраўды павінен адбыцца не пазней чым заўтра — каб сярод наймітаў не ўзнікалі беспадстаўныя здагадкі. Бо так і да смуты недалёка. Пра літасць да Архелая і думаць няма чаго. Толькі ягоная смерць зможа спатоліць наймітаў. Больш за тое: яна ўскалыхне, узрушыць іх лепей, чым любыя заклікі ці грошы. Хіба ж не ўсцешыць іх, што сам Бар Кохба, Месія, ахвяруе сваёю "праваю рукою", каб засведчыць іхнюю значнасць?! Ды пасля гэтага найміты будуць змагацца з падвоенай сілай! Так што ахвяра пойдзе на карысць усёй нашай справе. І калі б такога зручнага выпадку не было, дык яго варта было б прыдумаць...

Бар Кохба кінуў на Акібу калючы позірк.

— Так-так, прыдумаць! — не сумеўся святар. — Дзеля перамогі не шкада ніякіх ахвяраў. Мы правядзём суд на плошчы Храма — каб пабачыць і паслухаць змагло як мага болей людзей. Каб вестка пра тваю справядлівасць і непахіснасць разнеслася далёка за межы Ерусаліма. Гэта надасць рашучасці не толькі наймітам, але і ўсім іудзеям. Я зараз жа пашлю ў горад сваіх людзей, каб яны абвесцілі, што суд адбудзецца заўтра раніцай. Няхай народ рыхтуецца, смакуе чаканае відовішча... Ці не так, Сімон?

— Усё так... Аднак жа мне будзе вельмі цяжка...

— Цяжка не толькі табе. Зараз цяжка ўсяму нашаму народу. Трэба трываць...

Пакінуўшы Акібу, Сімон адразу ж накіраваўся ў сваю спачывальню і загадаў ахоўнікам нікога да сябе не пускаць. Сам жа ніцма ўпаў на ложак і нерухома праляжаў на ім дзве гадзіны. І ніхто не ведаў, што сэрца гэтага мужнага чалавека аблівалася крывёю...

## Высакароднасць ці здрада?

Памяшканне ў падвале Гіпікавай вежы, куды заштурхалі Архелая, было затхлым і сырым, нават пякельная спёка не магла дабрацца сюды звонку. Ні вакенцаў, ні шчылінаў. Поўны змрок. У куце Архелай намацаў ляжанку з перасохлае саломы, гупнуў на яе ўсім целам. Яму трэба было прывесці ў парадак свае думкі, бо пакуль што ў галаве тварыўся поўны вэрхал: арышт і зняволенне сталіся для хлопца такою нечаканкаю, што яму здавалася, быццам усё гэта адбываецца не з ім самім, а проста ён

збоку назірае за кімсьці іншым. Нават зняважлівыя крыкі з натоўпу, калі яго вывелі з вежы, Архелай напачатку ўспрыняў як вітальныя воклічы, з якімі звыкся раней...

Паступова да розуму Архелая стала даходзіць рэальная карціна ўсяго, што здарылася, і ён пачаў усведамляць жахлівасць свайго становішча.

Выходзіць, дарма ён не прыслухаўся да Янная, які даводзіў, што тут, у Ерусаліме, нічога добрага яго не чакае. Сімон, як і разлічваў Архелай, зла на яго не трымае, але ж іншыя... Архелай дапускаў, што найміты, асабліва фрыгійцы, будуць выказваць нейкую незадаволенасць ягоным вяртаннем, магчыма, нават запатрабуюць пэўнага пакарання. Але ж не смерці... Да таго ж, лічыў Архелай, Сімон мае такую ўладу, такі аўтарытэт, што варта яму “цыкнуць”, і ўсе гэтыя найміты з іхнімі патрабаваннямі прыкусяць языкі. Ажно выйшла зусім не так...

Прытым Архелай спакваля пачынаў разумець, што інакш не магло і быць. Цяпер, калі ідзе вайна, найміты адчуваюць сваю значнасць, і таму зрабіліся нахабнымі, а Бар Кохба, наадварот, маючы патрэбу ў ваярах, змушаны ісці ім на саступкі. Чаму ён, Архелай, не мог прадбачыць гэтага раней?

Відавочна, што Бар Кохба, калі б і захацеў, дапамагчы яму нічым не зможа. Найперш Сімону трэба дбаць, каб у войску не пачалося браджэнне. А значыць, у Архелая няма ніякіх шанцаў на літасць...

Раней пра смерць Архелай ніколі не думаў. Нават напярэдадні бітвы ў лагчыне, калі яму ўпершыню належала адчуць ейны подых, у хлопца не было і згадкі пра нейкую небяспеку, пра тое, што ягонае жыццё можа імгненна абарвацца. Як гэта: ён, малады-здаровы, — і раптам нежывы? Лухта нейкая. Забіць могуць каго заўгодна, толькі не яго, Архелая. А тут, во, смерць насоўваецца, як чорная хмара, і немагчыма ні ўцячы ад яе, ні яе адштурхнуць...

Архелай ведаў: у гэты суровы час гінуць сотні, тысячы такіх жа, як ён, маладзёнаў, і нічога адметнага ў тым нямашака. Але ж яны большасцю гінуць у сутычках з ворагамі, са зброяй у руках, з гонарам і годнасцю. А што чакае яго? Ганебная кара.

А яшчэ Архелая вярэдзілі думкі пра Вірсавію. Што з ёю будзе? Хто абароніць яе пры патрэбе? Ніхто... Ад гэтае высновы шчымела ў грудзях, хацелася грызці сцены, каб вырвацца на волю...

Знясілены цяжкімі думкамі, Архелай часам адключаўся ад рэчаіснасці, правальваўся ў кароткі сон ці трызненне. Таму ён не ўяўляў, колькі часу прайшло з тае пары, калі яго сюды прывялі і што цяпер на дварэ — дзень ці ноч. Конча вярнуцца да явы прымусілі гучныя галасы, якія чуліся з-за дзвярэй:

— Я табе кажу, што мне загадана прывесці яго ў Фазаелеву вежу, — даводзіў нехта. Гэты голас здаўся Архелаю знаёмым. Так і ёсць! Гэта ж Пінхас, галоўны ахоўнік Акібы.

— А ў мяне іншы загад: ахоўваць як зрэнку вока! — пярэчыў другі голас, якога Архелай распазнаць не мог і толькі потым, паслухаўшы размову далей, здагадаўся, што да ягонае цямніцы быў прыстаўлены асобны ахоўнік, хоць вакол Гіпікавай вежы варты мелася ўдосталь. Мусібыць, гэта быў чалавек Фрыкса, які не надта давяраў абяцанню Бар Кохбы.

— Што твой загад супраць майго? — не адступаўся Пінхас. — Хто табе яго даў? Фрыкс? А мне загадаў сам Акіба! Ну хто твой Фрыкс супраць Акібы?

— Акібу мы паважаем, не тое што Бар Кохбу... — голас фрыгійца стаў мякчэйшым. — Але нашто здаўся гэты вылюдак такому паважанаму святару?

— Абвешчана, што раніцаю суд. Злачынцу трэба папярэдне дапытаць. Магчыма, ён скажа такое, што там, на плошчы, лішнім вушам чуць не належыць. Гэты Архелай жа побач з Бар Кохбам аціраўся, шмат ведае. А Акіба ў Бар Кохбу трохі зняверыўся — гэта я табе па сакрэце скажу. Вось і хоча мой гаспадар што-кольвечы ў гэтага аблуды выведаць пра Сімона...

— Яно і няблага было б, каб гэтага вашага Месію на месца паставіць. Забранзавеў зусім... Гэта для вас, іудзеяў, ён Божы пасланнік, а для нас... Мы толькі Акібу паважаем і аднаму яму верым.

— Ну дык і дазволь мне выканаць загад Акібы!

— А чаму б паважанаму святару самому сюды не прыйсці і не дапытаць гэтага злыдня тут, на месцы? — усё яшчэ не здаваўся фрыгіец.

— Ты думаеш, што плявузгаеш? Ці ж да твару Акібу, вялікаму чалавеку, рабіць ласку гэтаму адшчапенцу — ісці да яго самахоць?

— Яно дык так...

— Значыць, ты і сам усё разумееш. Так што аддавай мне свайго нявольніка, павяду яго да Акібы.

Падобна, фрыгіец ужо быў гатовы паслухацца Пінхаса, ды ў апошнюю хвіліну спахапіўся:

— Як гэта павядзеш? Адзін? На ім жа нават кайданоў нямашака! А ён жа такі бугай, што дасць табе ў морду ды ўцячэ. Не, я з табою пайду!

— Хіба ж я з глузду з'ехаў, каб аднаму сюды ісці? Там, наверсе, яшчэ трое — уся Акібава ахова. Няўжо ж мы гэтаму смаркачу рады не дадзім? А табе пост пакідаць нельга. Тым болей што Акіба прасіў, каб пра гэты допыт ніхто не ведаў. Асабліва Бар Кохба... Мы гэтага Архелая праз гадзіну-другую назад прывядзём. І калі запытаецца ў цябе той жа Фрыкс, дык ты яму пра гэтую адлучку нічога не кажы. Хто ведае, якія ў яго стасункі з Бар Кохбам. Ён жа, вунь, паслухаўся Сімона, пагадзіўся на суд... А табе і хлусіць не давядзецца: скажаш, што пост не пакідаў, не спускаў вачэй...

— А ты праўду кажаш, што вас чацвёра?

— Ды не сысці мне з гэтага месца! Сваімі дзецьмі клянуся!

— Ну, калі дзецьмі...

— А то як жа!

— Так і быць, забірай. Толькі вы за ім пільна сачыце... Крый божа, дасць драпака...

У наступнае імгненне ляснула засаўка, дзверы ў цямніцу расчыніліся, і ў праёме з'явілася постаць фрыгійца, які, узіраючыся ў цемру, рыкнуў:

— Дзе ты там, абоўдзіла? Выходзь!

Архелай, падслухаўшы размову, быў ужо напагатове і доўга чакаць не прымусіў. Як толькі ён ступіў за парог, Пінхас з усяе сілы вутнуў яму ў карак, другою рукою выцягваючы з-за пояса свой знакаміты цясак.

— Ідзі!

— Во-во! — зласліва ўхмыльнуўся фрыгіец. — Так яму, так! А вернецеся, дык я яшчэ і дабаўлю!

Архелаю было няўцям, чаму на яго гэтак вызверыўся Пінхас і нават даў балючага кухталя. Адна справа — фрыгійцы. Яны кіруюцца помстаю. А за што Пінхас на яго зло трымае? Здаецца ж, ніколі не варагавалі, некалі ён, Пінхас, сам прывёў яго ў атрад свайго земляка Яная, а потым, калі

Архелай стаў служыць пры Бар Кохбу, яны зносіліся ледзь не штодня, можна сказаць, сябравалі.

— Ты чаго мяне таўхануў? Чым я перад табою вінаваты? — азіраючыся, з крыўдаю запытаўся Архелай, калі яны падымаліся па лесвіцы з падвала — нявольнік наперадзе, ахоўнік ззаду.

— Ідзі, не азірайся, а не дык і во гэтым цесаком паласну! — пагрозна і на ўсю глотку гаркнуў Пінхас, нібы даючы фрыгійцу пазнаку, што з гэтым адшчапенцам, калі што якое, ён валаводзіцца не стане.

Архелай, апусціўшы галаву, пакорліва патупаў наверх...

Толькі апынуўшыся за межамі вежы, Архелай убачыў, што на дварэ глыбокая ноч — цёмная, беспраглядная. Можна было б сігануць у гэтую цемру — і хто яго здагоніць? Аднак у яго не было такога памкнення. Ці далёка ўцячэш? I каля вежы, і ў горадзе, і на ягоных ускраінах — шматлікія пасты, іх не абмінеш. Архелай пачаў круціць галавою, спрабуючы згледзець іншых ахоўнікаў Акібы, але паблізу нікога не было, і толькі крыху воддаль сцішана гаманілі два вартавыя, прыстаўленыя да вежы.

— Ну і дзе твае памагатыя? — гучна звярнуўся Архелай да Пінхаса.

— Не раві! — чамусьці прыглушаным голасам мовіў той. — Ідзі за мною!

Дзіўна, але Пінхас узяў накірунак не да Фазаелевай вежы, якая месцілася зусім побач, а ледзь не ў супрацьлеглы бок, на захад, уздоўж разбуранай крапасной сцяны. У галаве Архелая варухнулася нясмелая здагадка, што ніякі Акіба іх не чакае, а ён, Пінхас, мае нейкі зусім іншы намер...

Амаль што след у след яны моўчкі пратупалі дзве сотні крокаў, потым Пінхас нечакана спыніўся. Недзе збоку адрывіста фыркнуў конь.

— Туды! — загадаў Пінхас і сам першым рушыў у той бок.

Коней было двое. Зачэпленыя аброцямі за ствол паламанае алівы, яны паслухмяна чакалі сваіх гаспадароў. Прынамсі, побач нікога не было.

— I што далей? — нецярпліва і шэптам запытаўся Архелай.

— Пачакай! — нервова азваўся Пінхас і стаў мітусліва азірацца навокал.

Нарэшце зблізку пад нечаю нагою хрумснуў друз, і з цемры да іх пачала набліжацца неакрэсленая постаць. Чалавек з галавы да ног быў захінуты ці ў балахон, ці проста ў нейкае пакрывала — у змроку не разбярэш. Ён чамусьці правіўся не да Пінхаса, а наўпрост да Архелая. Падступіўшыся да яго амаль ушчыльную, незнаёмец адкінуў капюшон. У Архелая адвісла сківіца. Перад ім, тварам у твар, стаяў Бар Кохба.

Колькі хвілін яны моўчкі пазіралі адзін аднаму ў вочы, і позіркі іхнія гаварылі болей, чым любыя словы. Першым загаманіў Сімон:

— Гэта ўсё, што я магу для цябе зрабіць. Вось коні. Разам з Пінхасам вы неадкладна пакінеце Ерусалім. Шлях у вас адзін — у мястэчка, дзе жыве Янай. Гэта і Пінхасава радзіма. Яго там усе ведаюць.

— А як жа...

— Не перабівай і слухай. Часу ў вас мала. Неўзабаве Фрыкс спахопіцца і пачне вас шукаць. Таму вам трэба ад'ехаць адсюль як мага далей. Што рабіць потым, Пінхас табе раскажа па дарозе — мы з ім ужо ўсё абмеркавалі...

— А як жа ты? — нарэшце здолеў уставіць слова Архелай. — Як ты патлумачыш наймітам мае ўцёкі?

— За мяне не перажывай, — злёгку ўсміхнуўся Сімон. — Усё будзе як трэба... Лепей давай пра іншае, — ужо сур'ёзна, амаль трагічна прадоўжыў

ён. — У мяне няма сумневу, што бачуся з табою ў апошні раз. Наперадзе вялікія бойні, і я, безумоўна, загіну...

— Што ты кажаш?!

— Тое і кажу. Навошта крывіць душою? Рымляне ўзяліся за нас усур'ёз. Рана ці позна яны возьмуць верх. А ў палон мне здавацца нельга... Дай Бог ацалець табе... Ты для мяне... ты... — Сімон запнуўся, голас ягоны зрабіўся дрыготкім. — Шкада, што мы так і не паспелі пра ўсё перагаварыць... Ты не распавёў мне падрабязна пра сваю Вірсавію... А яна, відаць, дзеўка харошая, калі ты дзеля яе сабою ахвяраваць гатовы... Ну дык беражы яе... Дзетак народзіце... І хай у вас усё будзе добра...

Сімон забаяўся, што ён канча расчуліцца, а яму хацелася застацца ў памяці Архелая мужным і непарушным, таму паспяшаўся скончыць размову, перасіліўшы сябе, цвёрда дадаў:

— Усё, хопіць. Дай я цябе абдыму, дый выпраўляйцеся ў дарогу.

І ён аберуч абхапіў Архелая за плечы, моцна прытуліў да сябе.

— Сімон, я буду ўдзячны табе ўсё жыццё! Я цябе ніколі не забуду! І дзецям сваім раскажу... — горача прашаптаў Архелай, ледзьве стрымліваючыся, каб не заплакаць.

Сімон, нічога не сказаўшы, злёгку адштурхнуў Архелая ад сябе, павярнуўся і, не разбіраючы шляху, пашыбаваў у цемру. Ён болей не мог трываць, яшчэ імгненне — і пачуцці выплеснуліся б вонкі...

Пінхас, які дагэтуль адышоў на прыстойную адлегласць, каб не чуць апошняе размовы Архелая і Бар Кохбы, скмеціўшы, што Сімон сыходзіць, паспяшаўся да коней.

— Хутчэй! — клікнуў ён Архелая. — Кожная хвіліна на ўліку.

З Новага горада яны выбраліся без аніякіх прыгодаў: вулкі былі пустынныя, а вартавыя на пастах хоць і спынялі коннікаў, але, распазнаўшы Пінхаса, на ягонага спадарожніка ўвагі не звярталі і іх не затрымлівалі.

[...]

## Суд адкладаецца

Назаўтра з самае раніцы ахоўнік Тамір паведаміў Акібу, што сустрэчы з ім дамагаецца Фрыкс. Святар трохі здзівіўся, што вестку прынёс не Пінхас, бо толькі галоўнаму ахоўніку было дазволена парушаць ягоны спакой, дакладаць пра нейкія патрэбы ці паведамляць пра візіцёраў.

— А дзе Пінхас? — здзіўлена запытаўся Акіба. — Захварэў, ці што?

— Шчыра сказаць, мы і самі не ведаем, — няўцямна пацiснуў плячыма Тамір. — З вечара як сышоў, дык ніхто яго і не бачыў. Нічога нікому не сказаў...

— Вось як? Можа, і праўда з ім штосьці благое здарылася? Выведайце ўсё, пашукайце, калі трэба... Фрыкс, кажаш? Чаго яму гэтак закарцела? Ну, хай зойдзе.

Фрыкс уляцеў у пакой, як віхор, і з ходу гучна загаманіў:

— Рабі, ну колькі можна дапытваць? Вунь ужо людзі на плошчы збіраюцца, чакаюць, калі пачнецца суд. А ты ўсё дапытваеш і дапытваеш... Што цікавага можа расказаць гэты запраданец? Што ён ведае? Смаркач жа яшчэ зусім. Але ж хоць і малады, ды паскудства нарабіць паспеў. Распнуць яго — вось і ўся размова...

— Пастой! Пастой! — Акібу ледзьве ўдалося супыніць слоўную лавіну Фрыкса. — Не разумею, пра што ты кажаш. Якія допыты? Чые?

— Ну як жа? — вочы ў Фрыкса зрабіліся круглымі, як манеты. — Допыты гэтага пярэваратня Архелая, каб на яго немач... Каго ж яшчэ? Лічы, цэлую ноч ён тут аціраецца, а было ж абяцана, што ты яго толькі на гадзіну-другую забіраеш...

— Я забіраю? — Акіба хоць і даўмеў, што Фрыкс мае на ўвазе сённяшняга падсуднага, аднак яму ўсё яшчэ было няўцям, чаму фрыгіец цяўпе пра нейкія допыты. — Нікога я ў цябе не забіраў. Што ты плявузгаеш? Ці, можа, з глузду з'ехаў?

— Рабі, ды пры сваім розуме я! Хай сабе не ты асабіста, але ж твае ахоўнікі яго сярод ночы з вежы забралі. Па тваім загадзе.

— Што ты вярзеш? Па якім загадзе? — Акіба падышоў да дзвярэй, расчыніў іх і клікнуў: — Тамір! Хадзі сюды!

Ахоўнік, які краем вуха чуў абрыўкі Фрыксавага маналога, бо той ледзь не роў ва ўвесь голас, няўпэўнена ступіў цераз парог.

— Вы ноччу каго-небудзь забіралі з Гіпікавай вежы? — строга запытаўся Акіба.

— Ды не, не забіралі. Усе як адзін спалі...

— І Пінхас? Ты ж казаў, што з вечара яго не бачыў.

— Ну так. Аднаго яго толькі з намі і не было...

— Во-во, Пінхас! — уклініўся ў размову Фрыкс. — Гэта ён забраў Архелая. Сказаў майму чалавеку, што па тваім загадзе і што наверсе яго чакае астатняя ахова.

— Бязглуздзіца нейкая! — раззлаваўся Акіба. — Нічога я Пінхасу не загадваў! А сам ён на такую авантуру пайсці не мог! Я Пінхаса амаль два дзясяткі гадоў ведаю, мы з ім агонь і ваду прайшлі! Нешта тут не тое!

— Рабі, у душу чалавека не зазірнеш... — глыбакадумна заўважыў Фрыкс.

— Што ты хочаш гэтым сказаць? Што Пінхас здрадзіў мне? Не веру!

— А можа, калі не ты, дык хто-небудзь іншы яму загадаў?

— Хто? Хто мог бы загадаць Пінхасу, апрача мяне?

— Ну... мне не надта ёмка гаварыць... не па сану... — сумеўся Фрыкс. — Але... той жа Бар Кохба мог загадаць! — раптам на адным выдыху выгукнуў ён. — У нашага камандзіра ёсць падставы парупіцца пра жыццё Архелая...

— Бар Кохба? — перапытаў Акіба і на хвіліну задумаўся. — Не, ён не мог загадаць. Мы з ім учора якраз пра ўсё перагаварылі і прыйшлі да паразумення. Бар Кохба пагадзіўся аддаць Архелая пад суд. Не, Сімон не мог...

— Твае мудрыя меркаванні я не магу аспрэчваць, рабі, — з прахалодаю мовіў Фрыкс. — Але ж тады выходзіць, што Пінхас дзейнічаў на свой страх і рызыку. Самастойна. Па нейкай прычыне ён намерыўся выратаваць Архелая і, як ты кажаш, здрадзіць табе...

Па тым, як трымаўся Акіба, Фрыкс ужо даўмеўся, што асабіста святар насамрэч не мае ніякага дачынення да ўцёкаў Архелая, а вось наконт Бар Кохбы сумнеў так і не развеяўся. Але ж ці мог ён настойваць на сваіх падазрэннях? Так і ўласную галаву можна страціць...

Акурат у гэтую хвіліну ў пакой завітаў і сам Бар Кохба.

— Ты чуў непрыемную навіну? — адразу ж запытаўся ў яго Акіба.

— Якую навіну? — у сваю чаргу перапытаў Сімон. — Рымляне падступіліся да Ерусаліма? Зноў распачаўся мор?

— Не іранізуй, — нахмурыўся Акіба. — Сёння ноччу з Гіпікавай вежы ўцёк Архелай.

— Як гэта? — недаўменна ўсклікнуў Бар Кохба. — Ён што, здолеў перабіць усю варту?

— Не перабіць, а абдурыць. І не сам ён, а мой памагаты Пінхас... Зрэшты, Фрыкс зараз сам табе раскажа. Давай, — кіўнуў Акіба ў бок фрыгійца. Пераказаўшы ўсё, што ведаў, Фрыкс безапеляцыйна падсумаваў:

— Трэба арганізаваць праслед. Далёка сысці яны не маглі...

— Чаму сысці? — выказаў сумнеў Акіба. — А можа, яны выправіліся на конях...

— Якія коні? — запярэчыў Бар Кохба. — Дзе іх твой Пінхас мог бы ўзяць?

— Мог бы... Пінхас усё мог бы. Ён жа заўсёды дзейнічаў ад майго імя. І ўсе яму верылі. І ніколі ні ў чым не адмаўлялі. Магчыма, сказаў каму-небудзь, што для мяне тыя коні спатрэбіліся... Трэба параспытваць вайскоўцаў... Дый гарадскую варту апытаць не зашкодзіла б. Калі Архелай і Пінхас выбраліся за горад, ды яшчэ на конях, дык незаўважнымі яны не прашмыгнулі б. Ты, Фрыкс, потым гэтым займіся...

— Займуся. Але найперш нам належыць наладзіць пагоню. Хай сабе яны і на конях — дагонім...

— А ты ведаеш, у які бок яны паехалі? — з'едліва запытаўся Бар Кохба.

— Не ведаю. Таму і прапаную паслаць дазоры па ўсіх дарогах, што вядуць з Ерусаліма. Людзі ў любым бліжэйшым мястэчку не пакінулі б без увагі невядомых коннікаў. Хто-небудзь абавязкова падкажа...

— Дазоры я пашлю, — цвёрда паабяцаў Бар Кохба. — Думаю, найбольш верагодна, што яны падаліся ў бок Ерыхона. Адтуль рукой падаць да Заіардання, дзе нашага ўплыву, лічы, нямашака.

У размову зноў уступіў Акіба:

— Ты памыляешся, Сімон. Пінхас не дурны і добра разумее, што найперш іх шукацьмуць менавіта ў гэтым накірунку. А дзе пошукі будуць не надта пільнымі? Там, дзе мы трымаем тэрыторыю пад кантролем, — на поўдні.

— Дык гэта тое ж самае, што самахоць лезці ў пашчу льва, — не пагадзіўся Бар Кохба. — Мне пра іх адразу дакладуць і затрымаюць. Не, Пінхас на поўдзень не падасца...

— Так ды не так. Паблізу Ерыхона ці ў Заіарданні ўцекачам цяжка будзе знайсці прытулак — там для іх незнаёмыя мясціны, дый мястэчкоўцы не паспрыяюць. А вось на поўдні... Вам, магчыма, невядома, што Пінхас родам з-пад Эн-Гадзі. Прынамсі, ты, Сімон, павінен пра гэта ведаць. Здаецца, на першым часе ты служыў у атрадзе нейкага Яная. Пінхас мне не раз распавядаў, што гэта ягоны зямляк і нават сябар. Дык вось там, у родным мястэчку, Пінхасу схавацца лацвей за ўсё. І людзі яго не выдадуць, бо свой...

— А што! Тваё меркаванне, рабі, як заўжды, слушнае! — усклікнуў Фрыкс. — Менавіта там іх і варта шукаць. У мяне нават сумневу няма... Я зараз жа вазьму сваіх людзей і паскачу туды.

Фрыкс ужо, было, памкнуўся да дзвярэй, але яго спыніў Бар Кохба:

— Пачакай! Яшчэ не ўсё дагаварылі. Па-першае, я дам табе людзей са сваёй аховы...

— Навошта? — не стрымаўся Фрыкс. — У мяне і сваіх досыць.

— Досыць — не досыць... Не ў тым жа справа. Ці падахвоцяцца іудзеі, тым болей у мястэчку, дзе жыве Янай, зносіцца з вамі? Як ні круці, а вы ж для іх чужынцы... Вось чаму твой атрад трэба разбавіць маімі людзьмі. Яны і ў давер могуць увайсці, і прасочаць, каб ты не перагнуў палку...

— Як гэта я магу яе перагнуць?

— А так. Крый божа, учыніш там які-небудзь гвалт — пачнеш зброяй размахваць, з местачкоўцаў здзекавацца, каб падказалі, дзе хаваюцца ўцекачы... А гэта ж нашыя людзі. Магчыма, там і духу Пінхасава не было, а ты ў іх вымагацьмеш... Ёсць і другая прычына, каб мае памочнікі пры табе былі. Калі вы насамрэч заспееце ўцекачоў, дык ты з імі, бадай, валаводзіцца не станеш, паадсякаеш галовы і толькі іх сюды прывязеш. А нам самасуд не трэба. Нам трэба сапраўдны, законны суд, тым болей, што падсудных цяпер ужо двое. Віна Пінхаса, можа, нават большая, чым Архелая. Хлопец малады, неразумны, па дурноце забіў вашых... нашых людзей і заслугоўвае кары. Пінхас жа — здраднік. У нашых умовах, ва ўмовах вайны, гэта самае цяжкае злачынства. І мы абавязкова павінны правесці над імі паказальны суд — каб другім было ў навуку. Ці не так, рабі? — Бар Кохба павярнуўся да Акібы.

— Сімон праўду кажа, — задумліва мовіў святар. — Да таго ж, мне вельмі хацелася б зірнуць Пінхасу ў вочы... Як ён мог?..

Фрыкс разявіў рот, каб яшчэ ў нечым запярэчыць, аднак Бар Кохба, не даўшы мовіць і слова, асадзіў:

— Гэта загад! Ці ты ўжо лічыш, што мае загады для цябе не абавязковыя?

— Што ты, камандзір! — зніякавеў Фрыкс. — Твае слова для мяне — закон.

— Так будзе лепш. Аднак жа тут, у Ерусаліме, ёсць патрэба, якая замінае табе кінуцца ў пагоню неадкладна. Мне паведамілі, што людзі ўжо сабраліся на плошчы — чакаюць суда. А які можа быць суд, калі няма падсудных? Што мы патлумачым народу? Што Архелай уцёк з-пад варты? Што яму дапамог галоўны ахоўнік рабі? Як гэта выглядацьме? Ці паверыць народ увогуле? А калі і паверыць, дык які цень упадзе на рабі, на мяне і нават на цябе, Фрыкс — ты ж прылюдна сказаў, што Архелая будуць ахоўваць твае людзі...

— І сапраўды... — змушаны быў пагадзіцца Фрыкс. — Дык што ж рабіць?

— Найперш народ трэба супакоіць, растлумачыць, чаму суда сёння не будзе, і пры гэтым нават не заікацца пра ўцекачоў. Хто, апрача нас, пра іх ведае? Ніхто. Нават твой чалавек, які ахоўваў Архелая, лічыць, што ён знаходзіцца ў нас... Ну і няхай лічыць. Ты яго, дарэчы, ні ў якім разе не карай, каб іншыя не падумалі: “За што?” Інакш хто-ніхто можа западозрыць... Трэба сказаць людзям, што суд над Архелаем адкладаецца на няпэўны час. Маўляў, ён аказаўся яшчэ і рымскім лазутчыкам, таму ўзнікла патрэба правесці дадатковыя допыты — каб выведаць, што ён паспеў паведаміць ворагу... Гэта важкая падстава. Спадзяюся, што праз некалькі дзён табе ўдасца знайсці ўцекачоў, і мы сапраўды правядзём суд.

— Вартая задума! — узбадзёрыўся Фрыкс. — Але ж я тут пры чым? Чаму я не магу зараз жа кінуцца ў пагоню?

— Таму што давесці ўсё гэта народу павінен менавіта ты і ніхто іншы. Найперш жа фрыгійцы патрабуюць кары для Архелая. Калі прычыну, з-за

якой суд адкладаецца, назаву я, дык яны могуць і не паверыць — я ўжо ў гэтым упэўніўся. Мог бы абвесціць яе рабі Акіба — ён яшчэ даверу не страціў. Аднак жа і з ягоных вуснаў усё прагучыць не гэтак пераканаўча, як з тваіх, бо каму, як не табе, ёсць падстава найболей ненавідзець Архелая і жадаць яму смерці...

Фрыкс пасля нядоўгай развагі змушаны быў пагадзіцца.

Ён насамрэч выступіў на плошчы (ні Бар Кохба, ні Акіба туды не пайшлі), і народ, хоць і быў незадаволены з-за таго, што яго пазбавілі досыць рэдкага відовішча, пачаў разыходзіцца.

Фрыкс разам са сваёй хеўрай і далучанымі да яе ахоўнікамі Бар Кохбы змог выправіцца ў пагоню, калі сонца ўжо выкацілася на сярэдзіну неба...

## Пагоня

Пінхас і Архелай амаль усю дарогу гналі коней наўскапыт, абмінаючы рэдкія паселішчы, каб не трапляцца на чужыя вочы, бо не было сумневу, што за імі кінуцца ў пагоню і будуць распытваць у месцічаў, ці не бачылі яны двух коннікаў.

Спыняліся толькі на кароткі час, каб падсілкавацца, балазе харч для сябе і авёс для коней Пінхас падрыхтаваў загадзя.

Калі напрасткі, дык ад Ерусаліма да Эн-Гадзі — не болей як паўсотні міляў, але прамой дарогі не было, яна то роўна слалася па пустэльнай раўніне, то вужакаю вілася ў гарах, таму коннікам давялося рухацца астатак начы і яшчэ цэлы дзень. Да мястэчка дабраліся, калі цемра трывала асела на спіны хат. Гэта таксама радавала: да патрэбнай сядзібы можна было датупаць, не рызыкуючы і тут звярнуць на сябе чыюсьці ўвагу, тым болей, што Янай жыў амаль на ўскраіне.

Янай не дужа здзівіўся нечаканым гасцям, калі жонка Эйлат, пачуўшы, што нехта асцярожна стукае ў дзверы, успарола яго з ложка. Не надта ўзрушыў Янаял і кароткі аповед пра тое, што змусіла ягоных сяброў тут апынуцца. Ён толькі і сказаў Архелаю:

— Я цябе папярэджваў...

Янай пагадзіўся, што ў мястэчку ўцекачам атабарвацца нельга, бо гэта тоіць небяспеку не толькі для іх, але і для Янаевай сям'і. Задуму пра хованку ў адной з пячор на ўзбярэжжы Янай таксама ўхваліў. Хоць адсюль да мора ўсяго з паўгадзіны хады, аднак не кожны чужынец-прыхадзень, нават ведаючы пра тыя пячоры, здолее да іх дабрацца па бездаражы. Зрэшты, цёмначы ды яшчэ без належнай падрыхтоўкі не варта было сунуцца туды і ім, местачкоўцам, хоць у дзяцінстве Янай і Пінхас аблазілі там усе даступныя для іх мясціны. Вырашылі перачакаць, пакуль хоць трохі развіднее, тым болей, што належала вызначыцца, што рабіць з коньмі і куды падзець Вірсавію.

Пакінуць коней сабе Янай, вядома, не мог, хоць і хацелася: яны, коні, — выяўныя падказка, што ўцекачы тут усё ж пабывалі. Слушную думку выказаў Пінхас:

— А давай іх з сабою прыхопім. Дзе-небудзь на паўдарозе, у зацішнім месцы, спутаем дый навяжам. Ты колькі дзён будзеш ім корм падносіць, а калі пераследнікі схлынуць, дык і дадому забраць можна. Каго ўжо тады баяцца?..

Янаю задума спадабалася: той з местачкоўцаў, хто меў каня, лічыўся амаль што багацеем.

Пакідаць Вірсавію ў мястэчку нельга — гэта бясспрэчна. Хоць і злагадна жывецца ёй у бабулі Хавы, аднак жа хто яго ведае, што наўме ў якога-небудзь мясцовага зламысніка: возьме дый шапне прыхадням пра дачку хрысціянскага епіскапа...

Як ні мазгавалі, а ўсё адно выходзіла, што Вірсавію трэба браць з сабою. Архелай у душы гэтаму нават парадаваўся. Эйлат пашыбавала да хацінкі бабулі Хавы, балазе месцілася яна непадалёку. Неўзабаве вярнулася разам з Вірсавіяй. Па дарозе паспела расказаць, якая прыгода чакае яе наперадзе.

Дзяўчына галубкаю кінулася ў абдымкі Архелая, і яны мілаваліся-цаладаваліся да тае пары, пакуль Янай не буркнуў:

— Годзе ўжо! У вас яшчэ будзе столькі часу, што абрыднуць адно аднаму паспееце... Вунь і віднець пачало...

І праўда: цемра спакваля распаўзалася, зоркі на небе паступова затухалі. Час выпраўляцца ў дарогу.

Вялікага рыштунку з сабою не бралі — толькі запасы харчу на тры дні. Пінхас і Янай ведалі, што рознае гаспадарчае драбязы ў пячорах удостатку, бо ў іх людзі хаваліся ад заваёўнікаў на працягу многіх вякоў[1].

Пакінуўшы, як і задумалі, коней у ціхай цясніне, яны дабраліся да пячор, калі ўжо можна было разгледзець не толькі абрысы скал і крутых абрываў, але й такія-сякія дэталі.

У скале, якая крута, амаль пад прамым вуглом, навісала над безданню, віднеліся дзіркі — большыя і меншыя, дыяметрам ад дзесяці да дваццаці метраў. Здалёк яны нагадвалі ластаўчыныя кропачкі-гнёзды ў абрывістым беразе ракі.

— І як жа мы туды патрапім?! — здзіўлена ўсклікнула Вірсавія.

— І сапраўды, каб да іх дабрацца, патрэбны крылы, — падтрымаў яе Архелай.

— А людзі ж неяк дабіраліся, — усміхнуўся Янай.

— Не ўяўляю, як гэта ім удавалася...

— Спосаб адзін, — патлумачыў Янай. — На вяршыні скалы замацоўвалася вяроўка, а яшчэ лепш — вяровачная лесвіца, а другі яе канец скідваўся ўніз. Па гэтай вяроўцы, абматаўшыся ёю, і спускаліся да пячоры.

— Дык да яе ж зверху метраў пяцьдзясят будзе, а то і болей, — не паверыў сваім вушам Архелай. — Гэта ж якой даўжыні вяроўка трэба! Дый небяспечна вельмі. Можна ж у любы момант сарвацца...

— Усякае бывала, — пацвердзіў Янай. — Але іншае надзейнае хованкі тут няма. Зрэшты, мы па вяроўках спускацца не будзем, — паспяшаўся ён заспакоіць Вірсавію, якая, уявіўшы, што за прыгоду давядзецца перажыць, ажно збялела тварыкам. — Ёсць некалькі пячор, да якіх можна дабрацца сваім ходам. Пайшлі туды, — паказаў ён пальцам некуды ўбок.

Учацвярых яны прабіраліся па камянях яшчэ колькі часу, пакуль Янай упэўнена не мовіў:

— Тут!

— Што “тут”? — з недаўменнем зірнуў на яго Архелай, бо скала, на першы погляд, і ў гэтым месцы была гэткаю ж абрывістаю, як паўсюль.

— Тут будзем спускацца.

Янай падышоў да самага краю скалы, дзе ўгрызаўся ў камень адзінокі куст, і, сагнуўшыся, рукою адгарнуў ягонае ссохлае голле. Толькі цяпер Архелай і

[1] Сучаснымі археолагамі ў пячорах знойдзены нават гаспадарчыя прадметы ізраільска-іудзейскага перыяду (VII в. да н.э.).

Вірсавія заўважылі, што ўніз са скалы спускаецца ледзь прыкметная сцежка. Ступаць на яе таксама было страшна, але ж людзі калісь неяк хадзілі...

Першым зрабіў крок уніз Янай, за ім — Архелай і Вірсавія, і ўжо ззаду, на ўсялякі выпадак прытрымліваючы дзяўчыну за край адзежы, — Пінхас. Асцярожна намацваючы выступы-камяні, на якія можна было паставіць нагу, яны рухаліся павольна, прычым туды-сюды ў розныя бакі — іначай з такога крутога абрыву спусціцца немагчыма. Таму, хоць ад краю скалы да пячоры было з паўсотні метраў, насамрэч яны пераадолелі трыста і прабіраліся, як падалося Вірсавіі, цэлую вечнасць.

Нарэшце Янай, а затым і астатнія, адштурхнуўшыся нагамі ад вытыркнутага са скалы пляскатага каменя (як быццам прырода прыдумала яго знарок!), апынуліся ў пашчы досыць шырокае пячоры.

Пачало ўжо ўзыходзіць сонца, і першыя ягоныя промні хлынулі ў глыбіню пячоры, балазе яна знаходзілася акурат на ўсходнім баку скалы. Так што хоць і ў паўзмроку, аднак можна было разгледзець усё, што ў ёй знаходзілася.

Пячора доўжылася больш як на трыццаць метраў, дый у вышыню выглядала прасторнай: да яе "столі" нават тры чалавекі, калі іх паставіць адзін на аднаго, наўрад ці дасталі б. Абапал сцен стаялі скрыні, збаны, дый увогуле розныя пасудзіны. Пазней, калі Архелай і Вірсавія трохі абжывуцца, чаго толькі ў іх не знойдуць! Ад медыцынскіх прыстасаванняў да ўсякай лішняй, на першы погляд, драбязы: кольцы, грэбні, тканіна, абутак, сякеры, іголкі, цвікі — усяго не пералічыць. Нават дзве прасніцы знайшла Вірсавія ў аддаленым кутку. Выглядала на тое, што некалі людзі жылі тут гадамі, таму мелі пры сабе ўсё, што патрэбна для гаспадаркі і прыстойнага існавання.

Але найбольш узрушыў маладзёнаў пяціметровы басейн глыбінёю ў рост чалавека, які месціўся з прыходу пячоры. Па ўсім было бачна, што ён — рукатворны: дажджавая вада паступала сюды праз вертыкальны сцёк з прыстасаваннем для адстою, а сцены басейна былі па-майстэрску атынкаваныя. Ды ў такіх умовах можна жыць нават лепей, чым у якім-небудзь занядбаным мястэчку!

— Ну, вы тут абжывайцеся, а мне трэба тэрмінова вяртацца, — сказаў Янай. — Вось-вось могуць аб'явіцца праследнікі, і лепей, каб я на той час быў дома. Як толькі яны схлынуць, я да вас зазірну...

Фрыкс і яшчэ два дзясяткі коннікаў пераадолелі шлях хутчэй, чым уцекачы. Яны не абміналі паселішчаў, не спыняліся. Калі наперадзе паказаліся абрысы патрэбнага мястэчка, Фрыкс загадаў усім спыніцца, патлумачыўшы:

— Нам няма сэнсу ўрывацца туды з наскоку і нахрапам шукаць Архелая да Пінхаса. Наробім вэрхалу, і ўцекачы дзе-небудзь схаваюцца ці прытояцца — паспрабуй іх потым выкалупі. Чакайце тут, а мы з Сасонам, — Фрыкс кіўнуў на гэткага ж, як сам, барадатага конніка, — зазірнем у мястэчка і паспрабуем выведаць, дзе знайшлі прытулак уцекачы, калі яны тут увогуле ёсць...

Фрыкс абраў Сасона нездарма. Яшчэ набіраючы хеўру для пагоні, ён палічыў, што варта прыхапіць каго-небудзь з іудзеяў, якому зносіцца з супляменнікамі будзе лацвей. Бо яшчэ немаведама, як паставяцца месцічы да чужынцаў-наймітаў, калі давядзецца гвалтам забіраць Пінхаса: усё-ткі зямляк.

Аддзяліўшыся ад гурмы, два коннікі паскакалі ў мястэчка. Дзень ужо ўбіраўся ў сілу, і вулкі большасцю былі пустымі, бо дарослыя (зрэшты, як і падлеткі) шчыравалі ў полі — канча паспела пшаніца. І толькі ў глыбіні паселішча Фрыкс згледзеў плойму дзяцей, якія пад наглядам пульхнацелай маладзіцы забаўляліся, бегалі каля падворка.

— Кіруем да іх, — сказаў Сасону Фрыкс. — Размову будзеш весці так, як я табе наказаў.

Сасон у знак згоды моўчкі кіўнуў галавою.

Маладзіца, згледзеўшы коннікаў, якія кіраваліся да яе, загалёкала:

— Дзеці! А ну хутчэй у двор! Хутчэй, я кажу!

Жэўжыкі ці былі дужа паслухмянымі, ці проста спалохаліся незнаёмых барадатых дзядзькоў, але дружна, як парасяты ў загарадзь, шмыганулі ў варотцы. Маладзіца ж, не хаваючы трывогі, засталася чакаць, пакуль коннікі наблізяцца. У яе былі падставы для хвалявання. У мястэчку толькі і гаварылі пра блізкую вайну, а дзецюкі не сумняваліся, што з дня на дзень паступіць загад на агульны збор. Усе былі да яе гатовыя, аднак разлічвалі, што паспеюць сабраць ураджай, каб сем'і, калі іхнія кармільцы і загінуць на той вайне, хоць на першым часе не сканалі з голаду. І вось падобна, гэтыя коннікі акурат і прывезлі вестку аб зборы...

Аднак, павітаўшыся, адзін з барадатых коннікаў нечакана для маладзіцы загаманіў на іншую тэму:

— Скажы, гаспадынька, а дзе тут Пінхас жыве?

— Пінхас? Які Пінхас? — няўцямна перапытала жанчына, узрадаваная тым, што шукаюць не Яная, які ўзначальваў мясцовых апалчэнцаў, а некага іншага. — У нас людзей з такімі імёнамі шмат...

— Ну як табе патлумачыць... Той Пінхас, якога мы шукаем, тут ужо даўно не жыве. Але сядзіба ж, мусіць, засталася. Гэты Пінхас гадоў дваццаць як з вашага мястэчка сышоў...

— Ну, калі дваццаць, дык я такога не помню, — перабіла Сасона маладзіца. — Яшчэ ж зусім малая была...

— Ты паслухай. Гэта ж не просты Пінхас. Ён пры самім Акібу — чула пра такога? — служыў... служыць. Не можа быць, каб пра такога выбітнага земляка ў мястэчку не чулі, не ведалі.

— Можа, хто і ведае... А я мужыцкімі справамі не цікаўлюся, — было відавочна, што жанчына не хлусіць, і Фрыкс ужо даў пазнаку Сасону, што толку ад яе не даб'ешся, трэба пашукаць некага іншага, аднак маладзіца, засмучаная тым, што не змагла дагадзіць незнаёмцам, якія не прынеслі благое весткі, раптам зашчабятала:

— А нашто вам той Пінхас? Можа, я каго лепшага падкажу?

— Галоўны ахоўнік Пінхас адпрасіўся ў Акібы на тыдзень, каб напярэдадні вялікай вайны пабыць на радзіме, — цярпліва патлумачыў Сасон. — Але становішча памянялася. Акіба тэрмінова заве Пінхаса да сябе. Вось мы па яго і завіталі... Так што нікога лепшага ты нам падказаць не можаш.

— Падумаеш, галоўны ахоўнік Акібы! — не сунімалася маладзіца. — Да нас і болей важныя птушкі залятালі! Вунь нават Архелай, памочнік самога Бар Кохбы, тут жыў! — апошнія словы ўжо ляцелі наўздагон, але вушы Фрыкса ўсё-ткі іх пачулі.

— Тпр-р-р-у! — рэзка нацягнуў аброць фрыгіец і завярнуў каня назад. — Што ты сказала? Архелай? Ён тут жыў? І ты яго бачыла?

— А то як жа! Во, як цябе, бачыла. Харошы хлопец. І дзеўка ягоная, Вірсавіяй завуць, харошая, дарма што хрысціянка. Людзі казалі, што гэты

Архелай нешта са сваім начальнікам не падзяліў, дык і перабраўся сюды. Але потым быццам бы Бар Кохба свайго памочніка прабачыў, дык ён зноў у Ерусалім падаўся — яшчэ і тыдня не прайшло як паехаў. Нашыя мужыкі ваяваць не надта хочуць, а ён проста рваўся ў бой... Мы яго ўсім мястэчкам праводзілі.

— Ну, праводзілі, а далей што? Пасля тых праводзінаў ты яго болей не бачыла? — Фрыкс не мог стрымаць хвалявання, і маладзіца гэта заўважыла, яе сэрца кальнула яшчэ лёгкае, але нядобрае прадчуванне: ці не ляпнула яна што-небудзь лішняе?

— Як я магла яго бачыць? Ён жа з’ехаў...

— Што, разам са сваёю дзеўкаю?

— Ды што ты? Якая з дзеўкі ваяка? Тут яна... — маладзіца ўжо конча ўцяміла, што наплявузгала незнаёмым людзям зашмат, і прыкусіла язык. — А навошта вы пра іх распытваеце?

— Ды ты не хвалюйся. Архелай — мой сябар. Я ведаю, што ён у Ерусаліме, зноў пры Бар Кохбу служыць, — наколькі мог, лагодна і пранікнёна загаварыў Фрыкс. — Проста ў Ерусаліме пасля ягонага вяртання мы не паспелі пабачыцца: то ён куды з’едзе, то мяне куды пашлюць. А вось буду праз два-тры дні ў горадзе, дык, мусіць жа, абавязкова сустрэнемся. Уяўляеш, гаспадынька, як ён узрадуецца, калі перадам прывітанне ад ягонае любімае дзяўчыны? А можа, тая Вірсавія і пасляць Архелаю што-небудзь захоча, рэч якую... Дык дзе яна жыве, ягоная Вірсавія, у каго?

Жанчына, падобна, паверыла і паказала пальцам на другі канец вуліцы:

— Вунь там, на ўскраіне. Адтуль — чацвёртая хата. Вы яе адразу распазнаеце — самая нехлямяжая. У ёй бабуля Хава жыве. Там Вірсавію і знойдзеце, калі на жніво разам з усімі не падалася...

— Дзякуй табе, гаспадынька! — крыкнуў Фрыкс, пускаючы каня ўгалоп. — Ты шыбуй да нашых, няхай падступаюцца да тае хацінкі, — ужо на скаку загадаў ён Сасону. — Перш чым зайсці ў хату, трэба абкласці падворак так, каб ніводная мыш адтуль не вышмыгнула. А я пакуль здалёк паназіраю...

Маладзіца, якая пільна пазірала ўслед коннікам, з неўразуменнем згледзела, што адзін з іх супыніўся паблізу хаты бабулі Хавы, але чамусьці з каня не злазіць, а другі падаўся далей, за ваколіцу. Праз некалькі хвілінаў ён вярнуўся ў атачэнні цэлай зграі коннікаў, якія таропка пачалі спешвацца каля бабулінага падворка і абступаць яго з усіх бакоў. Цяпер да розуму жанчыны дайшло, што ніякія гэта не сябры Архелая, што Вірсавіі пагражае небяспека, і яна, цыкнуўшы на дзяцей, каб сядзелі ў хаце, подбежкам, уздоўж агароджы кінулася да перадгор’я, дзе месціліся надзелы...

Фрыкс ужо быў упэўнены, што Архелай і Пінхас знаходзяцца тут, у мястэчку, і, хутчэй за ўсё, менавіта ў гэтай нягеглай хацінцы — адпачываюць-адлежваюцца пасля цяжкай дарогі. А як жа інакш? Не мог жа Архелай падацца ў другое месца, не прыхапіўшы з сабою сваю каханку... Фрыкс прадбачыў, што ўцекачы могуць аказаць супраціў. Каб пазбегнуць гэтага, трэба было заспець іх знянацку. Як толькі ягоныя ваяры абсталі падворак, Фрыкс нагою выбіў хліпкія дзверцы і першым (а следам і яшчэ чацвёра) уляцеў ў хацінку, на хаду азіраючыся па баках. Дзіўна, але ў сярэдзіне нікога не было, і толькі ўгледзеўшыся ў паўцемрадзь, Фрыкс заўважыў у кутку ссохлую чалавечую істоту, якая ціснулася да сцяны і, падобна, калацілася ад страху.

— Ты — Хава? — гаркнуў у той бок Фрыкс. — А дзе Вірсавія? Дзе астатнія?

Бабуля настолькі спалохалася, што не магла вымавіць ні слова. Яна яшчэ раней скмеціла праз вакенца двух коннікаў, якія спярша праімчалі міма яе хаты, затым вярнуліся, а неўзабаве коннікаў стала гэтак шмат, што яны запрудзілі ўсю вуліцу. Хава была разумнаю жанчынаю, нават хітраю: неўладкаванае асабістае жыццё з-за калецтва давала шмат часу для роздумаў і назіранняў. Вось і цяпер Хава адразу здагадалася, чаго завіталі сюды гэтыя прыхадні. Зрэшты, і Эйлат, калі сёння ў прыцемках забірала Вірсавію, наказала ёй: "Пра дзеўку нікому чужому не кажы. Куды пайшла, з кім... Дый увогуле, калі хто будзе пытацца, не прызнавайся, што Вірсавія тут жыла..." Бабуля Хава разумела, для чаго трэба гэтак рабіць, бо за доўгія месяцы, праведзеныя сам-насам з Вірсавіяй, дзяўчына стала для яе самым родным чалавекам, радней, чым дочкі ці ўнучкі, тым болей, што іх у Хавы ніколі і не было... Дый Архелая яна ўпадабала. Хіба ж можна нашкодзіць ім? Хай яе самую хоць на кавалкі разарвуць, усё адно жыць засталося няшмат, але яна Вірсавію і Архелая не выдасць.

Перасіліўшы страх, бабуля ступіла з кута і незадаволена, без дрыжыкаў у голасе мовіла:

— Нікога, акрамя мяне, тут няма і ніколі не было. А вы хто такія? Што вам трэба?

Фрыкс, разгледзеўшы гарбатую істоту з пахіленай набок галавою, нават сам спалохаўся, адхінуўся назад. Адначасна ён яскрава ўсвядоміў, што ад гэтае нямоглае калекі сілком нічога дабіцца не ўдасца, трэба шукаць да яе нейкі іншы падыход. А яшчэ Фрыкс падумаў: магчыма, Архелай і Пінхас не паспелі сюды дабрацца, ён апярэдзіў іх, што не ўздзіў: гэтак перліся ўсю дарогу... І Фрыкс раптам зарагатаў на ўсю глотку:

— А што, бабулечка, няблага мы пажартавалі? Мусібыць, спалохалася трохі? Ну, прабач, калі хапілі лішку... А між тым, нас сюды Архелай прыслаў. Самому яму няма калі — усё-ткі пры начальстве служыць, — дык мне, во, даручыў Вірсавію ў Ерусалім даставіць. Не магу, сказаў, без каханай дзяўчыны ні дня пражыць, вязіце яе сюды...

— Гэтак? — зусім супакоіўшыся, Хава зыркнула на прыхадня спадылба. — Толькі не ведаю я ніякай Вірсавіі — і чуць пра яе не чула. І што ж гэта за дзеўка такая, не раўнуючы царэўна, калі яе трэба ў такой світе суправаджаць? А можа, пад канвоем? — уваччу бабулі з'явілася хітрынка.

Фрыкс заўважыў яе і таксама паспрабаваў пажартаваць:

— А чаму б і не пад канвоем? Кажуць, Вірсавія такая прыгажуня, што свет не бачыў. Дык, крый божа, па дарозе якому маладзёну захочацца яе адбіць ці скрасці...

— А дзверы навошта зламаў? — нечакана пасуровела Хава.

— Ды што тыя дзверы? — Фрыкс усё яшчэ спадзяваўся ўлагодзіць старую і трымаўся на жартаўлівай хвалі. — Мае хлопцы зараз жа новыя паставяць. Дык дзе, бабулька, Вірсавія?

— Я ж табе ясна сказала: не ведаю я ніякай Вірсавіі! І нікога ў гэтай хаце не было — адна векавую! Каму я трэба?

— І сапраўды, — адчуўшы, што па-харошаму з гэтую каргою паразумецца не атрымаецца, зласліва працадзіў скрозь зубы Фрыкс. — Я паспрабую высветліць, чаму Архелай і Вірсавія знайшлі прытулак у цябе і кім ты ім даводзішся. А можа, ты Пінхасу якая радня? Помніш пра такога? Павінна

помніць! Ты ж сказала, што тут звекавала. Апошні раз прапаную: раскажы ўсё як ёсць, інакш пашкадуеш, што на свеце жывеш...

— Чаго ты да мяне прычапіўся? Адна я жыву, адна...

У тым месцы паміж плячэй, дзе ў старой вытыркаўся горб, Фрыкс жменяю згроб ейную кашулю і лёгка прыўзняў хударлявае цельца над падлогаю.

— Дык не прызнаешся?

— Пусці, абоўдзіла! — ненавісна прашамкала бабуля.

Фрыгіец з агідаю, як кавалак гною, шпурнуў цельца да сцяны. Бабуля, мусіць, моцна ўдарылася, застагнала.

Акурат у гэтую хвіліну ў хаціну заскочыў Янай. Ён толькі што вярнуўся ад пячор і, здалёк убачыўшы каля цётчынага падворка цэлы табун коней, доўга не разгадваў, каму яны належаць. Аднаго толькі не мог зразумець: як гэта пераследнікі так хутка вылічылі, дзе жыла Вірсавія? Але ж марудзіць нельга, мусіць, яны ўжо вымагаюць у цёткі звесткі пра ўцекачоў.

— Што тут робіцца? Завошта здзекуецеся са старога чалавека? — з парога крыкнуў ён.

— А ты хто такі? — павярнуўшы да Яная толькі галаву, пагардліва запытаўся Фрыкс.

— Сваяк ейны. Тут, непадалёку жыву.

— Сваяк, кажаш? Ну то хадзем у двор, — Фрыкс паказаў рукою на праём, побач з якім на адной зашчэпцы віселі-гайдаліся сарваныя дзверы. — Цеснавата тут.

Ужо на падворку, пры дзённым святле добра разгледзеўшы Яная, Фрыкс запытаўся:

— Нешта мне тваё аблічча знаёмае. Дзе я мог цябе бачыць?

— Ведама ж дзе — у войску. Я ў Бар Кохбы са сваім атрадам служыў.

— А-а, тады зразумела. І на Егіпецкі легіён хадзіў?

— Хадзіў.

— Хвалю. Паважаю. А завуць як?

— Янай.

— Дык вось, Янай, бачу я, наш ты чалавек, тым болей заслужаны. Помач твая трэба. Прычым не мне асабіста. Сам Бар Кохба і рабі Акіба нас сюды прыслалі. Ёсць падставы лічыць, што ў тваім мястэчку хаваюцца два небяспечныя злачынцы...

— Якія злачынцы? У нас спакон веку нават ніводнага злодзея не было!

— Магчыма, злодзеяў і не было, а вось дзяржаўны злачынца ўжо ёсць! Свайго земляка Пінхаса помніш? Пры Акібу аціраўся... Ён падмануў варту, выкраў яшчэ аднаго злачынца, і разам яны ўцяклі. Акіба лічыць, што сюды.

— А хто ж другі злачынца? — зрабіўшы прастакаваты выгляд, пацікавіўся Янай.

— Ты яго таксама ведаеш. Архелай, ад'ютант Бар Кохбы.

— Няўжо? І што ён такога ўчыніў?

— Доўгая гісторыя. А калі коратка, дык майго камандзіра нізавошта забіў. Але не будзем пра гэта. Ты лепей скажы, ці не аб'яўляліся ў вашым мястэчку гэтыя Архелай і Пінхас?

Янай усё яшчэ не спускаў з твару ўдаванага здзіўлення:

— Не, не аб’яўляліся. Я іх увогуле апошнім разам бачыў толькі там, у Ерусаліме.

— І не хлусіш? — Фрыкс насцярожыўся, бо гэта быў відавочны падман.

— А нашто мне хлусіць?

— Дык ты, можа, і Вірсавію, дзеўку Архелая, не ведаеш?

— А скуль мне ведаць?

— І не жыла яна тут са сваім Архелаем апошнім часам?

Янай зразумеў, што фрыгійцу ўжо ўдалося нешта ў некага выведаць, таму трэба было тэрмінова мяняць тактыку.

— Ці мала хто тут жыў... — пачаў ён, але дагаварыць не паспеў: Фрыкс з усяе сілы ўвагнаў свой кулак-кувалду ў ягоны твар. Удар заспеў Яная знянацку, таму ён, адляцеўшы на два метры, гулка, усім целам гупнуў на зямлю.

Фрыкс не змог стрымаць лютасці, бо да яго конча дайшло, што і во гэты “былы ваяка”, як і тая старая, будзе прыкідвацца дурнем, тлуміць яму галаву, хоць, хутчэй за ўсё, ён акурат і хавае ўцекачоў.

— Дык кажаш, што нічога не ведаеш? — пагрозна рыкнуў Фрыкс і памкнуўся да ляжачага Яная, каб дадаць яму насаком, але, нібы выскачыўшы з-пад зямлі, дарогу яму перагарадзіў Рам, адзін з двух ахоўнікаў Бар Кохбы, якіх Сімон выправіў з фрыгійцамі і наказаў ім: “Ні ў якім разе не дазваляйце Фрыксу ўжываць сілу супраць жыхароў! Калі што — потым скажаце мне”. Яшчэ зусім нядаўна Архелай быў камандзірам Рама, амаль аднагодкі, яны мелі сяброўскія стасункі, і Рам у душы радаваўся, што Архелаю ўдалося ўцячы, таму загад Бар Кохбы ён успрыняў з неахвотаю: выходзіць, яму даручана злавіць і падвесці да плахі свайго таварыша...

— Стаяць! Табе не дазволена распускаць рукі! — крыкнуў Рам, узяўшы фрыгійца загрудкі.

— Прэч з дарогі, смаркач! — рыкнуў на яго Фрыкс і, як пушынку, адштурхнуў убок.

Прынамсі, наблізіцца да Яная ён усё ж не паспеў: напярэймы кінуліся два фрыгійцы, павіслі на плячах. І не таму, што ім было шкада гэтага местачкоўца (пры іншых абставінах яны і самі “змясілі б яго на цеста”), проста паплечнікі Фрыкса, у адрозненне ад свайго камандзіра, якому лютасць засціла белы свет, бачылі, што каля падворка сабраўся досыць шматлікі натоўп, і ён павялічваўся з кожнаю хвілінаю — людзі подбежкам набліжаліся аднекуль з ускраіны, трымаючы ў руках хто касу, хто сякеру. Калі Фрыкс “заехаў у зубы” Янаю, самаму паважанаму чалавеку ў мястэчку, натоўп памкнуўся яму на падмогу, але астатнім фрыгійцам пры дапамозе зброі ўдалося яго стрымаць. Другога націску фрыгійцы не вытрымалі б, бо нейкі маладзён (а гэта быў Нахум) кінуў кліч:

— Мужыкі, ці ж мы самі не ваявалі? Хіба ж у нас зброі нямашака? Бяжыце па хатах ды хапайце свае мячы! Няўжо ж мы не абаронім свайго таварыша?

І што зусім напалохала фрыгійцаў — бальшыня дзецюкоў кінулася ў блізкія і далёкія двары...

Нарэшце і Фрыкс дапяў, якая небяспека ім пагражае: два дзясяткі ягоных ваяроў — нішто супраць безлічы гэтых галадранцаў, тым болей, што яны ўжо маюць пэўныя баявыя навыкі.

— Супакойцеся! — прымірэнча крыкнуў Фрыкс. — Не трэба хапацца за зброю! Я тут па загадзе Бар Кохбы! Вы што, супраць улады пайсці намерыліся?

— Мы не ведаем, што табе загадаў Бар Кохба, але збіваць нашых людзей не дазволім! — гучна адказаў Нахум, якому Малка паспела ўжо прынесці меч з упрыгожанаю басмою рукаяткаю.

Натоўп абуральна загуў. Янай ужо стаў на ногі, абтрасаючы з вопраткі пыл, моўчкі патупаў да сваіх людзей.

— Мы прачулі, што ты пра Архелая ды нашага Пінхаса распытваеш. А яшчэ Вірсавію шукаеш, — здалёк працягваў перамовы Нахум. — Так ці не?

— Так.

— Дык я табе ад імя ўсіх скажу. Сапраўды, жылі тут Архелай і Вірсавія. Нам усё роўна, што вы з ім там, у Ерусаліме, не падзялілі, а для нас ён нічога благога не зрабіў. Ён нават ваяваць зноў падаўся. Дык чаго вы тут яго шукаеце? Я асабіста болей яго не бачыў — магу Богам паклясціся. Дый іншыя таксама. І Пінхасава хата ўжо каторы год пустая стаіць. Можаце самі ўпэўніцца. А супраць улады мы нічога не маем, мы за яе змагаліся. Так што, каб і хацелі вам памагчы, дык не здолеем. Так і скажы Бар Кохбу...

— Ну, што Архелая вы болей не бачылі, я магу яшчэ паверыць... Але ж ён — дзяржаўны злачынца, яго паўсюль расшуквалі, а вы далі яму прытулак. Як гэта разумець? — Фрыкс ужо зусім супакоіўся і паспрабаваў скіраваць размову ў мірнае рэчышча.

— А хіба ў Архелая на ілбе было напісана, што ён злачынца? Мы нічога не ведалі! — выставіў свой аргумент Нахум.

— Хай сабе і так. Аднак жа цяпер памагчы вы нам можаце. Я наконт Вірсавіі. Дзе яна? У каго хаваецца?

Натоўп зноў загаманіў, загуў, пакуль дзябёлая жанчына ззаду на ўсю моцу свайго голасу не агучыла агульнае пытанне:

— А нашто вам Вірсавія? Чым яна ўладзе нашкодзіла? Вы што, з жанчынамі ваяваць намерыліся? Ідзіце, вунь, з рымлянамі ваюйце, а то яны хутка дасюль дабяруцца...

Фрыксу не было чым запярэчыць. Не мог жа ён, насамрэч, сказаць, што збіраецца зрабіць Вірсавію закладніцай, і на такую прынаду абавязкова “клюне” Архелай. Просты, шчыры местачковы люд — і гэта Фрыкс добра разумеў — успрыме ягоны довад як подласць. І ён выклаў свой апошні козыр:

— А вы хоць ведаеце, што гэтая Вірсавія — хрысціянка? І не проста хрысціянка, а дачка самога іхняга епіскапа!

Пасля гэтых слоў людзі прыціхлі. Усе ведалі, што ў Іудзеі хрысціяне паўсюль трапілі ў няміласць, іх пераследуюць, а дзе-ндзе і забіваюць... Дык жа не варта, мусіць, ісці супраць дзяржаўнае палітыкі... І ўсё-ткі нехта з натоўпу падаў нясмелы голас:

— І што з таго, што Вірсавія — хрысціянка? Вунь і ты ж таксама не іудзей, а ўсё адно з намі ў адным кагале...

— І праўда!

— Слушна сказана! — пачулася з усіх бакоў, а затым і ўвогуле загучалі катэгарычныя воклічы:

— Не выдадзім вам Вірсавію!

— Шуруйце адсюль, пакуль цэлыя!

Цяпер ужо Фрыкс зусім упэўніўся: давядзецца пакінуць мястэчка ні з чым. Пагоня не ўдалася. І самае галоўнае, што ён не зможа пераканаць Бар Кохбу і Акібу, каб жыхары гэтага мястэчка былі як след пакараныя.

Што Архелай і Пінхас хаваюцца ці будуць хавацца недзе тут, у Фрыкса сумневу не было. Але ж ніякіх доказаў у яго няма. Паставіць у правіну местачкоўцам тое, што яны не выдалі хрысціянку? Але ж іх, хрысціян, ёсць яшчэ ўдостатку па ўсёй Іудзеі...

— Па конях! — злосна-змрочана скамандаваў Фрыкс. — Вяртаемся ў Ерусалім!

## Акіла нагадвае пра сябе

Калі Фрыкс, вярнуўшыся ў Ерусалім, распавёў Бар Кохбу і Акібу пра няўдалую пагоню, тыя хоць і выказалі прыкрасць, але надта на гэтым не засяроджваліся. Іх ужо хвалявала іншая абставіна, ад якой залежаў лёс не аднаго-двух чалавек, а будучыня ўсяе Іудзеі.

Зусім нечакана, літаральна за лічаныя дні, становішча "на фронце" карэнным чынам змянілася — рэзка пагоршылася. З неймавернымі высілкамі і стратамі акупаваўшы Галілею, у Самарыі рымляне амаль не сутыкнуліся з супрацівам, прайшлі яе, як нож скрозь масла. І гэтаму меўся пэўны вытлумак.

Хоць самарыцяне, на першы погляд, і падтрымалі паўстанне, аднак не з-за "вялікай ідэі" аднаўлення Ізраільска-іудзейскага царства, а з-за таго, што адчулі часовую слабіну Рыма і паспяшаліся ёю скарыстацца. У войска яны ішлі з вялікаю неахвотаю, а часцей за ўсё дык пад прымусам (гэтак жа, дарэчы, як і хрысціяне). Таму, калі ўзнікала патрэба па-сапраўднаму ваяваць, многія самарыцяне кідалі зброю, адмаўляліся абараняць свае гарады і мястэчкі, якія, часцей за ўсё, рымляне бралі без бою.

Бар Кохба разлічваў, што ў яго яшчэ шмат часу, каб спярша даць магчымасць насельнікам сабраць ураджай, зрабіць належныя запасы харчу, і толькі потым ён планаваў спакойна, без мітусні сабраць войска. А тут — на табе! — заваёўнікі ўжо ўступілі ў межы Іудзеі.

Каб адразу ж накіраваць усё войска, якое мелася ў наяўнасці, на абарону паўночных гарадоў Іудзеі, і думаць не было чаго. У адкрытых бітвах рымскім легіёнам яно супрацьстаяць не зможа, і ў рэшце рэшт без абаронцаў застанецца сам Ерусалім.

Прынамсі, Бар Кохба пакуль што не прыйшоў да канчай высновы, ці варта абараняць Ерусалім увогуле. Святы горад, безумоўна, быў сэрцам Іудзеі, сімвалам дзяржаўнасці і еднасці, але як крэпасць не меў ніякага стратэгічнага значэння. Разбураныя сцены ды дзе-нідзе ўзведзеныя абарончыя ўмацаванні наўрад ці стануць перашкодай для штурмавых атрадаў Севера...

Аднак жа і сядзець склаўшы рукі, чакаць, пакуль рымляне наблізяцца да Ерусаліма, не выпадала. Асобныя атрады Бар Кохба накіраваў у найбольш буйныя гарады на поўначы, дзе яны папоўнілі і ўмацавалі мясцовыя шэрагі абаронцаў[1]...

Пакуль вайна ішла за межамі Іудзеі, браты Эфраім і Манасія пачувалі сябе няблага. Служылі яны ў дапаможным атрадзе, можна сказаць, пры абозе. Ніякай вайсковай муштры яны не ведалі, толькі і быў адзін абавязак — ездзіць па мястэчках ды збіраць-звозіць харчовую даніну, якою

[1] Паводле талмудычных дадзеных, для заваявання Палесціны рымскай арміі давялося вытрымаць больш за 50 бітваў з паўстанцамі.

былі абкладзеныя ўладальнікі зямельных надзелаў. Спярша ўсё звозілася ў Ерусалім, дзе былі пабудаваныя агромністыя сховішчы. А пазней, калі вайна падступілася зусім блізка, атраду чамусьці было загадана бальшыню абозаў накіроўваць у Тур-Сімон і Бетар. Братам гэта дало падставу для роздуму. Выходзіла, што справы ў Бар Кохбы — дрэнь, і на абарону Ерусаліма ён разліку не робіць...

Набліжэнне рымскіх легіёнаў выклікала ў душах братоў не толькі прыхаваную радасць, але і трывогу: чаго добрага, з-за навіслай небяспекі Бар Кохба вось-вось захоча ўзмацніць сваё войска і дасць у рукі зброю нават ім, “абознікам”. І тады гамон. Удалося ацалець пры іудзейскім панаванні, затое давядзецца загінуць ад рук рымскіх легіянераў. Бо хто там у баі будзе разбірацца, свой ты ці чужы...

Эфраім і Манасія ўсур’ёз намерыліся даць з Ерусаліма драпака і выправіцца ў родную Самарыю, ужо занятую рымлянамі. Аднак іхнія планы нечакана парушыліся.

Аднаго разу, калі браты без асаблівай патрэбы сноўдаліся па рынку, нехта зачапіў сваім плячом руку цыбатага Манасіі, у якой ён трымаў два лімоны, толькі што прыкупленыя ў аднавокага гандляра. Лімоны вyслізнулі са жмені, Манасія гучна вылаяўся і, кінуўшы злосны позірк на цельпукаватага няўклюду, хуценька прысеў на кукішкі, каб падняць жоўта-зялёныя плады, але схапіў толькі адзін, а другі пакаціўся па зямлі. Да яго кінуўся той самы няўклюда і, своечасова выхапіўшы з-пад нечых ног, з вінаватаю ўсмешкаю працягнуў лімон Манасіі.

— Прабач, брат... — мовіў ён, пільна пазіраючы ў вочы самарыцяніна.

Твар няўклюды здаўся Манасіі вельмі знаёмым. Пакуль ён спрабаваў згадаць, дзе мог раней сутыкацца з гэтым чалавекам, той сам даў падказку:

— Што, не пазнаеш? Мы з табою разам на Галгофе працавалі...

— На якой Галгофе? — насцярожыўся Манасія, бо падумаў, ці не правакацыя гэта...

— На той самай. Тады намі Акіла кіраваў...

— Акіла?! — вырвалася з грудзей Манасіі, і ён нават спалохаўся, што гэтае імя выгукнуў залішне зычна: крый божа, пачуў хто небудзь староннi.

— Так, Акіла, — сцішана паўтарыў няўклюда. — І зараз я тут па ягоным даручэнні...

У гэты момант да іх на сваіх кароценькіх ножках падкаціўся круглячок Эфраім, які дагэтуль беспаспяхова збіваў цану ў гандляра фінікамі.

— Ёсць праблемы? — галасна запытаўся Эфраім, скмеціўшы на твары брата нейкую занепакоенасць.

— Ды ёсць... Толькі ты цішэй трохі, — сказаў Манасія і ўжо амаль шэптам дадаў: — Гэты чалавек — ад Акілы...

— Во як! — Эфраіма, падобна, навіна не насцярожыла, а ўзрадавала. — Даўно пара...

— Можа, адыдзем у больш зацішнае месца? — слушна прапанаваў пасланец Акілы. — Ці мала хто тут боўтаецца...

— І то праўда, — пагадзіўся Эфраім. — Пайшлі адсюль...

Яны моўчкі пратупалі з паўсотні крокаў. Эфраім, які шыбаваў папераздзе і, пэўна ж, ведаў, дзе можна знайсці зацішаны куток, завінуў у завулак-тупік, над якім навіслі і не прапускалі сонечнае святло сляпыя, без аконных праёмаў, сцены.

— Вось тут можна пагаварыць без боязі, — спыніўшыся, мовіў ён. — Дык ты ад Акілы, кажаш?

— Ад яго.

— А чым ты гэта можаш даказаць?

Незнаёмец усміхнуўся і выцягнуў з-пад вопраткі шэры мяшэчак, які, туга набіты, без сумневу, манетамі, крамяна зарыпеў у ягонай руцэ.

— Пазнаеце?

Як тут было не пазнаць! Такі ж мяшэчак з вышытай збоку літарай “А” Акіла кінуў ім пры апошняй сустрэчы, калі даваў заданне атруціць акведук.

— Гэта нам даплата за выкананую працу? — запытаўся Манасія.

— Здагадлівы. На, трымай, — і незнаёмец, як калісь Акіла, нібы не чалавеку, а сабаку, кінуў у бок Манасіі мяшэчак. Той спрытна злавіў яго на ляту, прыцмокнуў языком:

— Важкі... Гэта добра...

Эфраім, у адрозненне ад Манасіі, захаплення не выказаў. Ён, нашмат хітрэйшы і, можна сказаць, разумнейшы за прастакаватага брата, адразу ж даўмеў, што Акіла перадаў грошы не таму, што яму вельмі карцела аддаць абяцанае. Гэта ён мог зрабіць і апасля, пры асабістай сустрэчы, ці ўвогуле пакінуць іх з “кукішам”. Анягож: справа зробленая, дык навошта яны цяпер, тыя самарыцяне, абыдуцца, грошы ні ў кога не лішнія... Калі ж Акіла паспяшаўся ім заплаціць, дык, трэба меркаваць, зноў у нечым на іх разлічвае. Эфраіму гэта было неўспадоб, рызыкаваць і далей яму не хацелася, тым болей што атрыманай “капейчыны” ім удостатку хапіла б для прыстойнага жыцця, асабліва, калі яны стануць рымскімі грамадзянамі, як паабяцаў Акіла.

— Гэта ўсё? — з надзеяй і насцярогай запытаўся Эфраім. — Акіла болей нічога не перадаў?

— Што ты маеш на ўвазе? Грошы? А хіба вам мала?

— Я не пра тое... Што ён перадаў на словах? Ці можам мы, нарэшце, пакінуць гэты абрыдлы горад? Мы збіраемся падацца насустрач рымскаму войску, бо тут заставацца небяспечна: у любы момант нас могуць паслаць на вайну. А там, чаго добрага, заб’юць — і нашто нам тады гэтыя грошы?

— Не пашлюць і не заб’юць. Я, пакуль шукаў, выведаў, што вы ў гаспадарчым атрадзе аціраецеся. Каму патрэбныя такія “ваякі”? Акіла ж насамрэч што-кольвеч перадаў вам на словах. А менавіта — свой наступны загад. Вам належыць па-ранейшаму заставацца ў іудзейскім войску. Магчыма, вашая помач яшчэ спатрэбіцца...

— Што, зноў трэба некага труціць? — вочы ў Эфраіма зусім патухлі.

— Якраз і не. Ерусалім хутка будзе наш. Дык навошта рымлянам атручаныя акведукі?

— Калі ўжо пра Ерусалім размова зайшла, дык іудзеі, хутчэй за ўсё, яго абараняць не будуць, — уставіў слоўца Манасія.

— Чаму ты так лічыш?

— Не я, а мы з братам. Апошнім часам нам часцей даводзіцца пастаўляць збожжа не сюды, а ў Бетар. З гэтага вынікае, што іудзеі рыхтуюцца да асады менавіта там...

— Малайчына! Хвалю за назіральнасць! Зрэшты, пра гэта рымлянам ужо вядома...

Падахвочаны пахвалою, Манасія паспяшаўся выкласці дадатковую інфармацыю:

— А яшчэ, акрамя Бетара, шмат прадуктаў завозіцца ў Тур-Сімон. Верагодна, і там іудзеі збіраюцца ваяваць доўга...

— Вось гэта ўжо цікава! Абавязкова распавяду Акілу... Цяпер, мусіць, і самі зразумелі, для чаго вам належыць не пакідаць іудзейскае войска. Рымлянам патрэбныя звесткі накшталт тае, што я пачуў пра Тур-Сімон. Зразумелі? Акіла і так і загадаў: заставацца ў стане ворага да апошніх дзён. Узнагароду ж ён паабяцаў такую, што вам і не снілася...

— А як жа мы будзем перадаваць тыя звесткі, калі палічым іх вартымі? — ужо змірыўшыся з сумнаю непазбежнасцю, прыбітым голасам запытаўся Эфраім.

— Да вас будуць раз-пораз наведвацца. Ці я, ці хто-небудзь іншы. Так што да сустрэчы, — сказаўшы гэта, незнаёмец павярнуўся і таропка пашыбаваў з завулка, пакінуўшы братоў у глыбокім роздуме.

## Не злагада, а супрацьстаянне

Браты зрабілі правільную выснову, што іудзеі найперш збіраюцца абараняць Тур-Сімон і Бетар. Прынамсі, гэтае рашэнне прыняў толькі адзін чалавек — Бар Кохба. І пакуль што ён адзін ведаў пра гэта дакладна. Нічога нікому не патлумачыўшы, Сімон загадаў скіроўваць харчовыя плыні ў два гарады-крэпасці, мінуючы Ерусалім. Пра гэта не ведаў нават Акіба, бо не ўнікаў у вайсковыя і гаспадарчыя справы: пасля смерці Рашбі Сімон прыйшоў да галоўнага святара з "павіннай", яны паразумеліся, і Акіба цалкам даверыўся Бар Кохбу, разлічваючы, што той ніколі болей не прыме нейкага вызначальнага рашэння, не ўзгадніўшы з ім.

Так яно напотым і было. Аж да тае пары, пакуль перад Бар Кохбам не паўстала вострая дылема: абараняць Святы горад ці здаць яго без вялікае бітвы і тым самым зберагчы асноўныя сілы войска? Пасля доўгіх разваг Сімон выбраў другі варыянт.

Можна было б адразу ж пайсці да Акібы і выкласці яму ўсе свае довады, аднак Бар Кохба марудзіў з гэтым, адкладаў на пасля. Ён проста разумеў, што ніякімі довадамі, нават самымі відавочнымі, не здолее пераканаць святара — Акіба іх проста не ўспрыме. Здача без бою Святога горада для яго, безумоўна, рэч болей жахлівая, чым уласная смерць. Але ж і Бар Кохба не хацеў адступаць ад свайго, бо лічыў прынятае рашэнне адзіна правільным. Хай сабе яно не гарантуе перамогі над рымлянамі, але ж дае хоць нейкі шанец прадоўжыць з імі барацьбу...

Дык навошта ісці на раздрай загадзя? Раз'ятраны Акіба можа "наставіць у колы палак", будзе ўсімі сіламі супрацівіцца ягонаму намеру. Гэтага, вядома ж, пазбегнуць немагчыма, але няхай вырашальная размова адбудзецца як мага пазней, каб святар паспеў зрабіць найменей шкоды для ягоных планаў.

Вось чаму падрыхтоўка двух крэпасцяў (асабліва Бетара) да абароны вялася Бар Кохбам як бы ўпотайкі. Прычым туды завозіліся не толькі харчовыя запасы. І ўдзень, і ўначы муляры, мабілізаваныя з паўднёвых раёнаў Іудзеі, умацоўвалі і нарошчвалі крапасныя сцены.

У рэшце рэшт, наспеў час, калі таіцца ад Акібы не было сэнсу. Бліжэй да ўзбярэжжа Міжземнага мора пасля працяглых асад рымляне ўжо захапілі Іопію, Лідду, Ямнію, Экрон. У цэнтральнай частцы — Антыпарыду, Эфраім, Бет-Харон, Міхмас. Да Ерусаліма — рукой падаць...

Зрэшты, Акіба апярэдзіў Бар Кохбу — сам паклікаў для вырашальнай

размовы. Сімон прадчуваў, што яму давядзецца вытрымаць “бітву” не менш жорсткую, чым з рымскім легіёнам...

За апошні час Акіба прыкметна схуднеў. Ён і раней не вызначаўся мажным целаскладам, а тут увогуле зрабіўся як шкілет: здавалася, толькі скура абцягвае ягоныя косці, твар пажаўцеў, абвастрыўся, ад чаго вочы нібы пабольшалі і позірк стаў пранізлівым, калючым, можа, нават і злым. Ніколі святара не гнялі гэткія цяжкія думкі.

Як ні ўтойваў, як ні маскіраваў Бар Кохба свае высілкі па ўмацаванні Бетара, яны не маглі застацца па-за ўвагай Акібы: усё-ткі да яго прыходзіла шмат людзей, і яны дзяліліся сваімі назіраннямі. Таму галоўнае пытанне ён задаў адразу ж, можна сказаць, у лоб (апошнім часам сустрэчы Акібы і Бар Кохбы хоць і пачасціліся, але былі кароткімі, нешматслоўнымі — гаварылі толькі пра самае важнае):

— Сімон, у мяне складаецца ўражанне, што ты не збіраешся абараняць Ерусалім. Гэта так?

Бар Кохба не здолеў вытрымаць пільны позірк Акібы, адвёў вочы ўбок.

— Так, рабі... — пасля працяглай паўзы стрымана і цвёрда адказаў Бар Кохба.

Хоць злыя языкі і намякалі Акібу, што падрыхтоўка Ерусаліма да абароны вядзецца цераз пень-калоду, але ён ўсё ж спадзяваўся, што вось зараз Бар Кохба абвергне гэтыя беспадстаўныя домыслы, запэўніць яго, што ўсё ідзе як след. Ажно не. Не абвергнуў, не запэўніў. І кроў хлынула ў галаву Акібы, у ягоных вачах памутнела. Як мага стрымліваючы свой гнеў, Акіба зноў запытаўся:

— Ты ўсведамляеш, што сказаў?

— Усведамляю...

— Ды гэта ж... гэта ж здрада!

Бар Кохба палічыў, што трэба адразу ж, адным махам выкласці ўсе свае довады, каб размова не перарасла ў перабранку.

— Гэта не здрада, рабі, а разумны разлік, — на дзіва спакойна пачаў Сімон. — Усё складаецца не на нашую карысць. З дня на дзень рымляне падступяцца да Ерусаліма. Ці дастаткова ў нас сіл, каб яго адстаяць? Не дастаткова. Я маю на ўвазе не людзей, зусім не. Я пра іншае... Дзе тыя крапасныя сцены, за якімі можна было б адседжвацца-адбівацца? Іх няма. Прыгадайма: нават Ціней Руф са сваімі спрактыкаванымі ваярамі не адважыўся бараніць гэтыя руіны! Дапусцім, у горадзе ці на подступах да яго мы навяжам Северу вялікую бітву. Аднак жа я ўпэўнены, што яна стане для нас апошняй. Мы страцім асноўныя сілы, нашая армія перастане існаваць! А што гэта значыць? Тое, што на ўсёй тэрыторыі, якая яшчэ не занятая рымлянамі, іудзеі конча зняверацца, страцяць надзею ў перамогу. І што тады за сэнс ім змагацца? За што аддаваць жыцці? Супраціўленне рымлянам адразу сыдзе не нішто. Таму, я лічу, нам найперш трэба захаваць касцяк арміі. Для чаго? Насельнікі ўсяе Палесціны будуць ведаць, што паўстанне не задушана, што барацьба працягваецца. Гэта натхніць іх, прымножыць сілы. Захопнікі нідзе не пачувацьмуцца спакойна. Няхай супраціў будзе толькі тлець, але ён конча не затухне! А прыйдзе час — і разгарыцца з новай сілай! Вось тады і спатрэбіцца захаваны намі касцяк. Вакол яго мы зноў збяром незлічонае войска. Я ўпэўнены: калі народы іншых правінцый убачаць, што, нягледзячы на велізарныя высілкі і страты, акупантам не ўдаецца пакарыць адзін маленькі народ, дык развеецца

міф пра ўсемагутнасць Рыма. Усе прыгнечаныя і заняволеныя падымуць галовы, пачнецца новае, яшчэ магутнейшае паўстанне, і ахопіць яно не толькі Палесціну, а ўсю імперыю! Дык дзе мы можам захаваць асноўныя сілы арміі? Толькі ў добра ўмацаванай крэпасці. І лепшага месца, чым Бетар, нам не знайсці. Праўда, крэпасць не задужа вялікая, каб размясціць у ёй усё нашае войска, таму ягоную частку, значна меншую, я і планую пакінуць у Тур-Сімоне — там таксама можна трымаць абарону цэлую вечнасць...

— Сімон, што ты нясеш, пра якую абарону кажаш? — схапіўся за галаву Акіба. — Ужо якія сцены былі ў Ерусаліме, калі іх штурмавалі Веспасіян ды Ціт, — не раўня тым, што ў Бетары, а ўсё адно не ўстаялі. Адумайся, Сімон!

— Якімі б ні былі сцены ў Бетары, але яны ёсць. А ў Ерусаліме зараз — няма. Ніякіх.

— Не сцены, зусім не сцены — галоўнае, што можа нас абараніць! Вера — вось наш абярэг! Калі нам наканавана загінуць, дык хай гэта адбудзецца тут, у Ерусаліме! Іудзеі, якія жывуць сёння і якія жыцьмуць праз вякі, будуць ведаць, што мы загінулі, баронячы Святы горад, а значыць, сваю веру. Калі ж мы рушым у Бетар ці Тур-Сімон, каб там адсядзецца (хоць адсядзецца ўсё адно не ўдасца), дык гэта будзе выглядаць так, быццам мы спрабавалі ўратаваць уласныя жыцці, а не нашыя святыні! Што значыць тваё ці маё жыццё ў параўнанні са святынямі, з верай, з Богам?!

— Нішто, — пагадзіўся Бар Кохба, але ад сваёй задумы не адступіўся. — Я гатовы ў любы момант аддаць уласнае жыццё за нашую веру. Вось толькі хачу, каб ахвяра мая мела хоць нейкі сэнс, каб яна пайшла на карысць веры і нашаму народу. Прабач, рабі, але ты зараз разважаеш не як іудзейскі святар, а як хрысціянскі: гэта яны, паклоннікі Хрыста, перакананыя, што ахвяравальная смерць у імя іхняе веры — найвялікшая асалода і гонар. І яны пакорліва, як ягняты, ідуць на пагібель. А я лічу, што за веру трэба не гінуць, а змагацца! Змагацца да тае пары, пакуль ёсць магчымасць. Збіраючыся абараняць Ерусалім, ты, рабі, загадзя і свядома асуджаеш сябе самога на непазбежную смерць і, як той хрысціянін, адчуваеш пры гэтым вялікую шчаснасць... Я ж не хачу аддаваць сваё жыццё задарма, і не таму, што надта за яго трымаюся. Пакуль у мяне ёсць хоць адзін шанец (а ў Бетары ён будзе!) пазмагацца за нашую веру, я скарыстаю яго напоўніцу. І ніхто — нават ты, рабі! — не здолее прымусіць мяне зрабіць інакш! — апошнія словы Бар Кохба проста выкрыкнуў.

— Я гэта ўжо зразумеў... — адрачона і спустошана мовіў Акіба. — Аб адным толькі цяпер шкадую і шкадавацьму да астачы дзён — аб тым, што прызначыў цябе Месіяй. Гэта мой самы вялікі грэх перад Богам... Непапраўны...

Бар Кохба нічога на гэта не сказаў, хоць і хацелася. А Акіба працягваў:

— Ніякай падтрымкі з майго боку для цябе і тваёй задумы не будзе. Не ўхваліць яе і сінедрыён...

— А мне вашае падтрымкі і не трэба, — нечакана дзёрзка сказаў Бар Кохба. — Вы толькі не перашкаджайце. А будзеце цішком ці адкрыта працівіцца, дык...

Бар Кохба не закончыў фразу, але Акіба зразумеў яе сэнс. Гэта была выяўная пагроза. Святар, уціснуўшы галаву ў плечы, моўчкі павярнуўся да Сімона спінаю...

У Акібы не было вялікага жадання склікаць сінедрыён. Больш за тое: душа ягоная працівілася, бо, па сутнасці, павінна адбыцца не абмеркаванне здрадніцкага рашэння Бар Кохбы (галоўны святар здагадваўся, што большасць рабінаў палічыць яго менавіта здраднікам), а пройдзе суд над ім самім, Акібам...

Але ж зрабіць выгляд, быццам нічога не адбылося і пры гэтым мяркуецца здаць без бою Ерусалім, Акіба не мог. Не меў права. Па-першае, гэта азначала б, што Бар Кохба зрабіў гэта з ягонае згоды, па-другое, усё выглядала б так, быццам ён, Акіба, самахоць адхіліўся ад будзённасці, “хавае галаву ў пясок”.

На той час святарскага люду ў Ерусаліме было як ніколі. Большасць рабінаў, падзяляючы трагічны лёс сваёй паствы, гінула пры асадзе гарадоў і мястэчак, а некаторыя, зноў жа разам са сваімі прыхаджанамі, ратуючыся, падаліся на поўдзень, у Святы горад, дзе спадзяваліся знайсці прытулак і абарону. Акіба загадаў, каб на сінедрыёне прысутнічалі і найбольш паважаныя рабіны з прышлых: калі ўжо “пасыпаць галаву попелам”, дык не тоечыся, прылюдна...

Акіба ледзь не слова ў слова пераказаў чальцам сінедрыёна змест сваёй апошняй размовы з Бар Кохбам. Галоўны святар меркаваў, што на ягоны адрас адразу ж пасыплюцца папрокі і абвінавачанні, маўляў, гэта з тваёй ласкі Бар Кохба быў абвешчаны Месіяй, які насамрэч аказаўся пярэваратнем і прыстасаванцам. Аднак, на здзіўленне, нічога падобнага Акіба не пачуў. Усе зацята маўчалі, бо павага да галоўнага святара была бязмежнаю. І толькі рабі Іянатан бар Торта не ўпусціў моманту, каб нагадаць пра сваё “прароцтва” і ўпікнуць Акібу:

— Памятаеш, што я сказаў, калі ты вылучаў гэтага Бар Казібу? “Хутчэй трава прарасце скрозь твае мёртвыя сківіцы, чым прыйдзе сын Давыда”. Так і сталася...

Акіба змоўчаў.

Зрэшты, размова пра неабачлівасць Акібы на гэтым і скончылася. Чальцоў сінедрыёна найперш хвалявала пытанне, што рабіць далей.

Рабі Элеазар з Модзіна выказаўся першым і катэгарычна:

— Трэба пазбавіць Бар Кохбу ўлады. Якім чынам? Абвесцім яго махляром, чарговым ілжэ-Месіяй. Народ нам паверыць...

Ягоную прапанову адзінадушна адверглі як бязглуздую. Дый насамрэч: у гэтым выпадку ашуканцам выглядацьме само святарства, а не Бар Кохба, бо менавіта яно прызнала Сімона нашчадкам Давыда, пасланцам ад Бога, Збавіцелем. І зараз прызнаць, што гэта не так? “Дык што ж вы за служкі Бога, — спытаюцца людзі, — калі размаўляеце з намі не ад Ягонага імя, а даводзіце нам што ўздумаецца?” Позна ўжо выкрываць і ганьбіць Бар Кохбу, вельмі далёка ўсё зайшло. Пры такіх абставінах хутчэй зганьбяць іх, рабінаў, чым Сімона...

У рэшце рэшт, пасля доўгіх спрэчак сінедрыён прыйшоў да высновы: калі ўплыў на Бар Кохбу канчаткова страчаны і ўжо нічога немагчыма паправіць, варта з гэтым змірыцца. Выяўная варажнеча паміж святарствам і вайсковым камандаваннем яшчэ болей пагоршыць і так крытычнае становішча, прыспешыць трагічную развязку... Канчатковае рашэнне сінедрыёна выглядала так: ніякай падтрымкі Бар Кохбу не аказваць, аднак і ніякай шкоды яму не рабіць. Хай усё ідзе самацёкам, увесь спадзеў — толькі на Бога...

## Трыумфу не атрымалася

Бар Кохбу ўжо не было сэнсу ўтойваць свой намер аб здачы Ерусаліма без бою. У войску гэта ўспрынялі па-рознаму. Найміты — ухвалялі. Для іх горад быў звычайным населеным пунктам, які для абароны зусім не здатны. А вось за крапаснымі сценамі можна і пазмагацца: ёсць хоць нейкі спадзеў пазбегнуць паразы і ў рэшце рэшт (што ўжо крывіць душою) выратаваць уласныя жыцці. Іудзеі ж, для якіх Ерусалім быў ледзь не галоўнаю святыняю, выказвалі незадаволенасць і нават абурэнне. Прынамсі, гэта ўвасаблялася толькі ў словах, да нейкіх дзеянняў справа дайсці не магла: пра тое, што Акіба і сінедрыён не падтрымалі Сімона, ніхто не ведаў, Бар Кохба па-ранейшаму быў для народа Месіяй, якому трэба безумоўна падпарадкоўвацца.

У Тур-Сімон выправіліся толькі тыя атрады, у якіх служылі выхадцы з прылеглых да крэпасці мясцін: сваю радзіму і бараніць будуць лепей.

“Эвакуацыя” ж у Бетар вялася паступова, спакваля, без мітусні і паспешнасці. Спярша на паўднёвы захад пацягнуліся павозкі з правіянтам, нешматлікая свойская жывёла, і толькі ўжо затым без аніякай пампезнасці з горада рушыла войска.

Перш чым пакінуць Ерусалім, Акіба завярнуў да Заходняй сцяны — адзінай, што засталася ад агромністай сцяны вакол Другога Храма, якую пабудаваў цар Ірад. Доўга і зацята стаяў ён перад каменнымі глыбамі, шчыльна падагнанымі адна пад адну, апантана маліўся. Акіба разумеў, што яму ўжо ніколі не выпадзе шчасце стаяць каля гэтай сцяны, гладзіць рукамі шурпатыя камяні. Дый ці толькі яму? Ці здолеюць увогуле іудзеі вярнуцца ў Ерусалім, каб, стоячы каля адзінай рэліквіі, што засталася ад храма, звярнуцца з малітвамі да свайго Бога?

Легат Гней быў незадаволены тым, што іудзеі сышлі з Ерусаліма без аніякага супраціву — гэтак жа, як калісь ягоны дзясяты легіён. Тады легат хоць і выконваў загад Цінея Руфа, але ў душы ўсё адно засталася гаркота, быццам у адступленні была і ягоная правіна. Да таго ж, сумным наступствам уцёкаў з горада (як ні круці, а раптоўнае адступленне можна назваць і так) стаў разгром Егіпецкага легіёна. Марк Юній быў ягоным даўнім сябрам. Некалі Гней пачынаў служыць цэнтурыёнам у кагорце, якую ачольваў Марк. Колькі паходаў, колькі бітваў яны зведалі разам!..

Прынамсі, імператар Адрыян ні ў чым Гнея не папракнуў, наадварот, падбадзёрыў і нават паабяцаў: калі Ерусалім зноў будзе адваяваны, Гней са сваім легіёнам першым уступіць у яго, прычым з трыумфам. Гнею хацелася менавіта адваяваць горад, а не ўзяць яго, як кажуць, голымі рукамі, бо ў такім разе рэванш атрымаецца не надта пераканаўчым.

У той вайне ніводзін рымскі легіён не змагаўся, не рваўся ў бой ці на штурм з такой самаахвярнасцю, як дзясяты: не толькі Гней, але і ўсе легіянеры імкнуліся вярнуць сабе гонар і годнасць. Таму не ўздзіў, што дзясяты легіён панёс найбольшыя страты, асабліва ў даліне Рымон, дзе загінуў кожны чацвёрты салдат і нават два трыбуны.

Пра тое, што іудзеі не збіраюцца абараняць Ерусалім, першым Гнею паведаміў Акіла. Прычым распавёў гэта з радасцю, маючы спадзеў, што і Гней ад такой навіны ўзрушыцца і падбадзёрыцца. Ажно не: Гней чамусьці насупіў бровы і кінуў на сінопскага грэка калючы позірк.

Чым далей армія Севера прасоўвалася ў глыбіню Іудзеі, тым часцей Акіла стаў наведваць дзясяты легіён, а на подступах да Ерусаліма ён разам са сваім атачэннем увогуле атабарыўся ў абозе легіёна. Тлумачылася ўсё проста: Акіла ведаў, што імператар даверыў Гнею першым увайсці ў Ерусалім. Фанабэрыя нашэптвала галоўнаму забудоўшчыку, што ён павінен быць калі не першым, дык хоць бы другім. І каб не празяваць часіну трыумфу, трэба было аціраццa побач з Гнеем.

Легат неўзлюбіў Акілу, які апошнім часам назаляў яму сваёю прысутнасцю, мільгаў перад вачыма. Пыхлівасць і бесцырымоннасць галоўнага забудоўшчыка і раней былі Гнею неўспадоб, а цяпер дык і ўвогуле абрыдлі. А яшчэ абурала, што Акіла з ранку да вечара туляецца ў лагеры легіёна ў яркай баграніцы, якую па сваім статусе не меў права насіць. А ён жа не толькі насіць, дык яшчэ імкнецца выставіць напаказ, каб усе бачылі і ведалі: ён тут самая важная, самая ўплывовая фігура. І гэта сапраўды выглядала так, тым болей, што Гней, які акурат і меў права апранаць баграніцу, ніколі гэтага не рабіў...

Неяк легат не стрымаўся і ў прысутнасці трыбунаў усё-ткі выказаў Акілу сваё абурэнне:

— Чаго ты мітусішся перад усімі, прыбраўшыся, як певень ці цецярук на такавішчы? Ты ж не консул і не прапрэтар, каб у такой адзежы красавацца. І да трыумфу яшчэ далёка...

Ад такое нечаканкі Акіба ажно разявіў рот, не здолеўшы хоць штонебудзь мовіць у адказ, але крыўду на легата глыбока ў душы затаіў. З часам яна перарасла ў нянавісць. Хіба ж не нахабства: сам імператар ніколі не зважаў на ягоную неадпаведную вопратку (што ўжо казаць пра Цінея Руфа!), а тут нейкі шараговы легат асмельваецца яго папракнуць...

Хоць Акіла па-ранейшаму не скідваў з плячэй баграніцу, аднак жа з таго дня стаў пазбягаць Гнея, імкнуўся не трапляцца яму на вочы.

Дзясяты легіён увайшоў у Ерусалім паходнаю калонаю. Нават колішняе адступленне выглядала больш велічна і ўрачыста. Гней так і не наважыўся надаць дзейству абрысы трыумфу. Дый чым было аздобіць, як зазвычай, тое трыумфальнае шэсце? Ні багатых трафеяў, ні палонных абаронцаў горада, якія б рухаліся паперадзе легіёна, папросту не было.

Горад выглядаў настолькі пустэльна, што, здавалася, яго пакінулі нават бадзяжныя сабакі. Інакш не магло і быць. Хрысціян усіх перабілі. А іудзеі ведалі, што на захопленых тэрыторыях рымляне вынішчаюць усё жывое, таму ўцякалі хто куды мог.

## Вялікае перасяленне

Пінхас, Архелай і Вірсавія заставаліся ў пячоры яшчэ два тыдні — аж да тае пары, пакуль Янай не прынёс ім адначасна сумную і радасную вестку: іудзейскае войска пакінула Ерусалім. Сумна было таму, што страчана сталіца дзяржавы, на даляглядзе агульная параза паўстання. А гэта значыць, зноў прыйдуць рымляне і іхнія паслугачы, забяруць у насельнікаў надзелы, будуць здзекавацца і забіваць...

А радавацца можна было з-за таго, што і Фрыксу, і Акібу ўжо не да ўцекачоў. Дагэтуль Янай асцерагаўся, што фрыгіец не супакоіцца, будзе рабіць наскокі на мястэчка ці ладзіць засады, каб усё-ткі вылавіць асабістых ворагаў, таму паказвацца на людзях уцекачам было рызыкоўна. Цяпер

жа ім нішто не пагражае. Завітаць у мястэчка ўжо не толькі можна, але і трэба — для гэтага ёсць важлівая прычына.

Ад Ерусаліма да Мёртвага мора адлегласць невялікая, а галоўнае — на шляху нямашака ніводнага буйнога горада-крэпасці, хіба што Ірадыён, таму рымляне могуць з'явіцца ў мястэчку з дня на дзень. Ім, вядома, давядзецца павалаводзіцца з Эн-Гадзі, але акупанты, перш чым узяць у аблогу горад, спустошаць усе ягоныя ваколіцы. Так што трэба ратавацца. А дзе ратавацца простаму люду?

Толькі ў пячорах, як і спрадвек.

У іх, безумоўна, шукацьмуць прытулак насельнікі ўсіх прылеглых да ўзбярэжжа мястэчкаў, аднак пячор гэтулькі шмат, што месца хопіць усім. Іншая справа, што пячора пячоры не роўня: у адной ёсць усе выгоды, нават басейн, і дабрацца да яе можна сваім ходам (напрыклад, тая, якую занялі ўцекачы), а ў другой толькі голыя сцены, і спускацца да яе з вяршыні скалы трэба на вяроўцы і не менш як сотню метраў...

Таму Янай прапанаваў:

— Ты, Пінхас, заставайся тут. Калі хто паткнецца ў гэтую пячору, дык засведчыш, што месца ўжо занятае. А я з маладзёнамі пашыбую ў мястэчка: і перабрацца сюды з усім скарбам падсобяць, і для сябе там выберуць самае неабходнае.

Пінхас не запярэчыў. Дый чаго яму было ўпірацца? Ніякіх пажыткаў у яго нямашака, хоць і стаіць яшчэ хата, дык не цягнуць жа сюды тыя сцены...

Калі Архелай і Вірсавія аб'явіліся ў мястэчку, на іх ужо ніхто не звярнуў асаблівай увагі: людзей хвалявалі ўласныя турботы. Каля кожнай сядзібы назіралася мітусня. І старыя, і малыя, не кажучы ўжо пра дарослых, выносілі са сваіх хацін розныя рэчы, пакавалі іх у вялікія клункі, абкідвалі вяроўкамі. Дзе-нідзе, каля найбольш багатых падворкаў, стаялі павозкі, на якія ўскідваўся гаспадарчы рыштунак.

Уцекачоў з непрыхаванаю радасцю прывецціў толькі Нахум. Пажыткаў у яго было няшмат, дый у Малкі клункі атрымаліся не надта пульхнымі, так што Нахум, ужо не маючы асабістага клопату, дапамагаў суседзям. Здалёк згледзеўшы знаёмыя постаці, ён кінуўся ім насустрач, пачаргова абняў, прыгаворваючы:

— Як добра, што мы зноў разам. Як добра!

Усёю гурмою яны накіраваліся да Янаевага двара, дзе ўжо шчыравала Эйлат, а з ёю ўпоравень — і дзеці. Яшчэ з раніцы, перш чым пайсці да пячор, Янай запрог у павозкі коней (акурат тых, на якіх прыехалі сюды Архелай і Пінхас) і паставіў іх каля двара, каб жонка да яго вяртання паспела тое-сёе загрузіць.

Згледзеўшы, колькі align рознага рыштунку Эйлат ужо ўсцягнула на павозку, Янай ажно схапіўся за галаву:

— Ты з глузду з'ехала? Навошта там, у пячоры, увесь гэты хлам?

— Па-твойму, гэта хлам? — злосна зыркнула на Яная жонка. — Гадамі нажывалі дабро, а цяпер, выходзіць, яго трэба пакінуць на разрабаванне супастатам? Прыйдуць рымляне, дык ніводнага гаршэчка цэлым не пакінуць. Дзе ты ўсё гэта возьмеш, калі вернешся? Дый у пячоры нічога лішнім не будзе.

Янай толькі махнуў рукою:

— Ат, рабі што хочаш!

Хоць і без асаблівай ахвоты, ён усё ж узяўся пераносіць да павозак рэчы,

загадзя выстаўленыя Эйлат з хаты за парог. Архелай, Нахум і Вірсавія таксама “ўпрэгліся” ў гэтую работу. Чаго толькі ні было ў падрыхтаванай да “эвакуацыі” кучы: жалезныя патэльні, нажы, сярпы, шкляныя і керамічныя чашы, бутэлькі, збаны, падсвечнікі, вазы, шкатулкі, дзіцячыя абутак і адзежа, маткі шарсцяных і льняных ніток, кашы, сумкі...

— А гэта там нашто?! — усклікнуў Янай, калі жонка загадала валачы да павозкі агромністы збан-піфус.

— Як нашто? А ў чым мы ваду будзем захоўваць?

— Будзе ў чым! Там басейн для гэтага ёсць!

Аднак жа Эйлат настаяла на сваім.

Не меншым быў і харчовы запас: мяса, зерне, арэхі, гранаты, фінікі, масліны — усё, чым сям’я збіралася карміцца да наступнага ўраджаю.

У павозкі не магла ўмясціцца і траціна “дабра”. Аднак Эйлат гэта не збянтэжыла:

— Нічога, можна зрабіць некалькі ходак...

— А ты хоць ведаеш, што коньмі да пячор не пад’ехаць? — усё яшчэ спрабаваў абразуміць жонку Янай. — Усё гэта давядзецца валачы на сваіх гарбах! А колькі будзем валэндацца, спускаючы тваё “багацце” ў пячору!

— І павалэндаешся! Часу яшчэ ўдосталь — цябе ніхто ў каршэнь не гоніць. Людзі, вунь, усё да апошняй ніткі з хат выграбаюць, з сабою бяруць. А мы што, зломкі?

Зломкі — не зломкі, але каб “пераправіць” увесь рыштунак у пячору, спатрэбілася тры дні. І гэта пры тым, што ў Янаевай сям’і былі памагатыя — Архелай, Нахум, Вірсавія, а затым і Пінхас. Яны яшчэ дапамагалі і іншым местачкоўцам, асабліва тым, у каго не было ні коней, ні павозак.

У гэтыя дні вяршыні скал кішэлі людзьмі. Сотнямі, тысячамі людзей з усяе ваколіцы...

Тым, каму пашэнціла заняць пячоры бліжэй да вяршынь, ужо абжываліся ў іх, ладзілі новы побыт.

Аднак большасць пячор месцілася ў глыбіні, у стромкіх скалах, над самаю безданню. Дзясяткі вяровачных лесвіц і проста вяровак звісалі з вяршынь, па іх спускаліся рэчы і людзі.

Дзяцей, якія не маглі самі трымацца за вяроўкі, абмотвалі імі і асцярожна, нетаропка спускалі, нібы навязаныя снапы, больш чым на сотню метраў, дзе іх падхоплівалі дарослыя, якія ўжо паспелі перабрацца ў новае жытло. Дзеці (ды і жанкі), бачачы перад сабою бездань, вішчэлі, галасілі. Бывала, што вяроўка абрывалася, і тады чалавек з жудасным крыкам ляцеў у прадонне...

У пячоры, дзе хаваліся Архелай і Вірсавія і якую пільна ахоўваў Пінхас, знайшла прытулак не толькі Янаева сям’я. Месца ў ёй хапіла, каб сюды перасялілася яшчэ з паўсотні местачкоўцаў, тым лікам і Нахум з Малкай, жывот у якой вырас на вачах. Састарэлая маці Малкі, а таксама бабуля Хава наадрэз адмовіліся пакідаць мястэчка.

— Сіл у мяне нямашака, каб поўзаць па тым каменні, — сказала Хава. — Калі і заб’юць, дык няхай... Затое ля сваёй хаты сканаю...

Яшчэ напярэдадні, калі “вялікае перасяленне” толькі-толькі пачыналася, Архелай звярнуўся да Яная з самым важным, як ён лічыў, пытаннем:

— Няўжо мы, як пацукі ў норах, будзем адсежвацца ў тых пячорах да самае смерці? Я яшчэ разумею, калі там будуць хавацца жанкі ды дзеці. А мы, здаровыя мужыкі... У нас жа ва ўсіх ёсць зброя! Мы яшчэ можам

пазмагацца з рымлянамі. Ты ж камандзір цэлага атрада, мужыкі за табою пойдуць!

— І многа мы назмагаемся? — пасля нядоўгага роздуму ў сваю чаргу запытаўся Янай. — Ты што, прапануеш з кучкай людзей у адкрытым баі супрацьстаяць рымскім легіёнам? А наконт жанок і дзяцей... Хіба ж яны здолеюць выжыць без нас, мужыкоў, у тых сутарэннях?

— І ўсё-ткі неяк не па-ваярску гэта выглядае...

— Не хвалюйся, паваяваць мы яшчэ паспеем. Толькі не бязглузда, а з розумам. Для гэтага і возьмем з сабою зброю. З нашае пячоры можна выбірацца без вяровак. Вось мы і рабіцьмем вылазкі... Толькі не адразу, а тады, калі рымляне страцяць пільнасць. Будзем нападаць ноччу. На абозы, на малалікія атрады...

З гэтае прычыны Янай і прапанаваў засяліцца ў пячору чальцам свайго былога атрада, тым болей, што яны большасцю не былі абцяжараныя сем'ямі. Архелая такая перспектыва супакоіла і нават узрадавала.

## У аблозе

Неўзабаве рымскае войска акупавала ўсю Іудзею. Яно і Бетар паспрабавала ўзяць з ходу, адным наскокам. Горад месціўся на горным хрыбце, што ўзвышаўся над далінаю Сорэк, і падступіцца да яго можна было толькі з боку гэтай даліны. Аднак сцены крэпасці былі настолькі высачэзнымі, а абаронцаў гэтулькі шмат, што пры першым штурме легіёны, страціўшы неймаверную колькасць ваяроў, змусіліся адкаціцца назад.

Была яшчэ спроба разбурыць крапасныя сцены так званым "бараном", аднак і яна не прынесла плёну. "Баран" — агромністая бэлька, падобная на карабельную мачту. На адным канцы яе замацаваны жалезны наканечнік накшталт барановай галавы. Пасярэдзіне бэлька на тоўстых канатах падвешваецца да папярочнага бервяна, замацаванага на моцных слупах. Кагалам легіянеры адцягвалі "барана" назад, а затым адпускалі яго. Жалезны наканечнік ускалыхваў сцяну, але яна ўсё адно не паддавалася. Да таго ж, абаронцы крэпасці засыпалі легіянераў стрэламі і каменнем, ад якіх не заўжды ўратоўваў своеасаблівы дах над "бараном", сплецены з галінак вярбы і зверху абцягнуты скурамі.

Для захопу крэпасці можна было скарыстаць і іншы спосаб, правераны рымлянамі падчас папярэдніх войнаў, хоць ён вымагаў шмат часу і сілаў. Вакол крэпасці высякаліся лясы, збіралася безліч камення, і ўзводзіўся вал насупраць крапаснoй сцяны — роўны ці нават большы. З гэтага вала зручна было і абстрэльваць, і штурмаваць крэпасць. Аднак Север палічыў, што не варта рабіць столькі намаганняў. У данясенні, адасланым у Рым, ён давёў імператару, што паўстанне практычна задушана, а Бетар і Тур-Сімон, у якіх хаваюцца рэшткі іудзейскага войска, штурмаваць не варта, каб пазбегнуць залішніх страт. Дастаткова ўзяць крэпасці ў аблогу, і з часам іхнія абаронцы ці сканаюць з голаду, ці здадуцца ў палон. Адрыян са сваім палкаводцам пагадзіўся.

У аблогу былі ўзятыя і пячоры на ўзбярэжжы Мёртвага мора. Зрэшты, каб заблакаваць усе хады-выхады, рымлянам не спатрэбілася трымаць тут шмат войска. На вяршынях скал Фракійскі легіён выставіў толькі нешматлікія пасты.

Насельнікі пячор не маглі выбрацца з іх без старонняй дапамогі: не-

каму ж трэба было замацаваць вяроўкі на вяршынях і скінуць іх уніз. Пасты акурат і прызначаліся для таго, каб не пусціць сюды памагатых з навакольных паселішчаў, якіх яшчэ не паспелі вынішчыць.

Аднак рымляне не ведалі, што з некаторых пячор, накшталт той, дзе знайшлі прытулак Янай і ягоныя паплечнікі, можна падняцца на вяршыню сваім ходам, без нечае помачы...

Ужо каторы тыдзень насельнікі "янаеўскае" пячоры не выбіраліся на "паверхню", і на тое была важкая прычына. І ўдзень, і ўначы яны чулі наверсе галасы, рогат, песні: падобна, што адзін з пастоў месціўся акурат насупраць сцежкі, якая спускалася да пячоры. Дзіўна, што рымляне сцежкі, прыкрытае кустом, не агледзелі, а інакш, магчыма, паспрабавалі б па ёй спусціцца. А можа, і агледзелі, ды не захацелі рызыкаваць: унізе такая строма, што чорт галаву зломіць.

Здаровым дзецюкам ужо абрыдла без аніякіх дзеянняў сноўдацца ў пячорнай паўцемрадзі, яны занудзелі і ўсё часцей сталі падбухторваць свайго камандзіра на вылазку. У рэшце рэшт, Янай даў згоду. Аднак палічыў, што найперш варта зрабіць выведку, паслаць наверх кагосьці аднаго, каб ён цішком паназіраў за легіянерамі, прыкінуў, колькі іх і чым узброеныя, дзе стаяць іхнія намёты. Пайсці ў разведку вызваўся Нахум. Прынамсі, хто як не ён, малады, шустры, лёгкі, мог бы лепей справіцца з заданнем?

Нахум выбраўся з пячоры яшчэ ў прыцемках, з самае раніцы, калі галасоў наверсе зусім не было чутно: легіянеры адпачывалі. Як горны козлік, ён асцярожна ступаў на каменне і дабраўся да вяршыні без аніводнага гуку-шораху. Злёгку высунуўшы галаву з-за куста, стаў назіраць...

У пячору Нахум вярнуўся толькі апоўдні, выбраўшы момант, калі легіянеры заселі палуднаваць і на тое, што робіцца ўнізе, не зважалі. Дзецюкі адразу ж стоўпіліся вакол разведчыка, і Нахум распавёў ім пра ўсё, што ўбачыў:

— Па маіх падліках, іх там больш за паўсотні — акурат цэлая цэнтурыя. Жывуць у пяці намётах. Пастаўленыя яны паўкругам — уваходамі да абрыву і прыкладна ў сарака кроках ад яго. Перад намётамі — вялікае вогнішча. Распальваецца яно толькі ноччу — мусіць, берагуць дровы. Касцёр я яшчэ заспеў. На той час каля яго сядзелі чатыры чалавекі. Гэта варта, якая ахоўвае лагер. А ёсць яшчэ і патрулі, што шпацыруюць уздоўж абрыву. Іх, падобна, чатыры, у кожным па два чалавекі. Ходзяць туды-сюды як сягае вока і мяняюцца прыкладна праз кожныя чатыры гадзіны. Выходзіць, што нават ноччу, калі ўзяць агулам, не спіць больш як дзесяць чалавек...

— Нямала... — выказаўся нехта задумліва-сумна.

— Дык нас жа ўтрая болей, — запярэчыў яму хтосьці другі.

— І што з таго? Мы ж не можам выскачыць са сцежкі на вяршыню ўсе адразу, давядзецца па адным выбірацца. Хопіць і дваіх легіянераў, каб перагарадзіць нам шлях..

— Годзе! — перабіў спрачальнікаў Янай. — Мала — не мала... Мы ў любым выпадку будзем рабіць вылазку — гэта ўжо вырашана. Іншая справа — калі, якою парою. Атрымліваецца, што зручней рабіць напад ноччу: усё-ткі дзесяць рымлян — не шэсцьдзесят... Але ж і нам у цемры ды яшчэ цішком выбрацца наверх будзе няпроста...

— Як-небудзь выберамся, — запэўніў Нахум, крыху незадаволены тым, што яго не выслухалі да канца. — Нам трэба без лішняга гвалту

справіцца толькі з чатырма вартавымі, што бавяць час ля вогнішча, каб потым за дзве-тры хвіліны перарэзаць усіх, хто знаходзіцца ў намётах. А патрульныя, якія ходзяць уздоўж стромы, прыбягуць у лагер не хутка, калі ўсё будзе скончана. Дык няўжо мы ім рады не дадзім? І не ноччу, мусіць, трэба падавацца наверх, а як я, пад раніцу, калі нават вартавых будзе хіліць на сон...

Прапанову Нахума ўсе палічылі мудрай, і вылазку было вырашана зрабіць ужо напрыканцы наступнае начы.

Жанкі (а іх у пячоры было з дзясятак ды яшчэ ўдвая болей дзяцей) з трывогаю ўспрынялі мужыцкі намер: як жа ім потым тут выжываць, калі спроба атрымаецца няўдалай і ўсіх мужыкоў пераб'юць? Асабліва бедавала Малка. З-за свайго распухлага, як гарбуз, жывата яна ўжо не бачыла ўласных ног і, па ўсіх разліках, неўзабаве павінна была нарадзіць. Ці ж гэта добра, калі дзіця, яшчэ не з'явіўшыся на свет, можа застацца без бацькі?

Дужа маркоцілася і Вірсавія. Тут, у пячоры, амаль усе былі для яе чужымі людзьмі, і толькі з Архелаем яна магла напоўніцу адвесці душу. А як жа жыць далей, калі Архелая не будзе?

Для жанчын і дзяцей быў адведзены самы дальні закуток пячоры, яго нават адгарадзілі навешанымі на вяроўку пасціланкамі, каб яны не пачувалі сябе ніякавата, без сораму спраўлялі свае патрэбы. Мужчыны ў той закуток ніколі не заходзілі, а дзеці ці жанкі, калі ім хацелася пазносіцца са сваімі бацькамі ці абраннікамі, рабілі гэта на агульнай тэрыторыі, ва ўсіх навідавоку. Натуральна, што нейкіх задужа пачуццёвых сцэн, а тым болей любошчаў ніхто сабе дазволіць не мог. Вось і Архелай з Вірсавіяй заўжды размаўлялі паміж сабою напаўголасу, а то і шэптам, толькі зрэдку і крадком дазваляючы сабе жарсныя пацалункі. Дык ці магла Вірсавія напоўніцу, не стрымліваючы эмоцый, выказаць Архелаю свой боль і сваю трывогу напярэдадні начное вылазкі? Не магла. І ніхто не мог. Таму астача дня і вечар прайшлі без галашэння і слёз, і толькі твары ў жонак былі больш панурымі, чым зазвычай.

У тую ноч у пячоры ніхто не змог заснуць, хіба што дзеці, і калі наспеў належны час, Янаю нікога не давялося будзіць. Адзін за адным дзецюкі вынырвалі з чорнае пашчы пячоры і, абмацваючы нагамі камяні, перш чым ступіць на іх, моўчкі, нават прытаіўшы дыханне, рухаліся па сцежцы-серпанціне. Кожны трымаў у руцэ толькі меч-гладыус. Дзідаў вырашылі з сабою не браць, бо яны заміналі б падымацца наверх. Затое першыя чатыры чалавекі мелі за плячыма лукі...

Аднак ціха дабрацца да вяршыні атраду не ўдалося. З-пад нечых ног выслізнуў камень і паляцеў уніз, чапляючы іншыя. Праз некалькі імгненняў у бездань абрушылася сапраўдная каменная лавіна, якая нарабіла грукату і ляскату. Без аніякае каманды янаеўцы дружна ўціснулі свае целы ці ў бакавіну скалы, ці проста пападалі на зямлю — хто дзе стаяў — і застылі ў нерухомасці.

— Што там робіцца? — пачуўся наверсе ўстрывожаны голас. — Олус, схадзі зірні!

— Ды чаго туды хадзіць? — буркнуў нехта незадаволена. — Няйначай, кажан праляцеў ці мыш прабегла, камень зачапіўшы. Хіба мала тут абвалаў бывае?

— А я табе кажу — схадзі! — рыкнуў голас на Олуса. — Зусім ужо зацеляпеніўся — касцямі паварушыць лянота!

Олус мармытнуў яшчэ нешта незразумелае, але ўсё ж падаўся да

абрыву — было чутно, як ад ягонай хады зарыпеў-зашаргацеў друз. Наблізіўшыся да краю, легіянер зірнуў у густую чэрань прадоння. Але што ён мог згледзець, калі вочы яшчэ не адвыклі ад агню?

— А што я казаў? Няма тут нікога! — гучна, каб пачуў ягоны камандзір, сказаў Олус. — Дарэмна сюды прыпёрся!

— Ногі не адваліліся, калі лішні раз устаў! — пачуў ён у адказ.

Затым да вушэй янаеўцаў данеслася цурчэнне, а хто-ніхто адчуў на сабе пыpскі вады: Олус, каб ягоны “паход” не стаўся зусім “дарэмным”, пачаў спраўляць малую патрэбу проста ў бездань. Напрыканцы яшчэ раз палыпаў вачыма пад нагамі і, павярнуўшыся, патупаў да вогнішча.

Колькі хвілінаў янаеўцы па-ранейшаму не варушыліся, а затым зноў рушылі да вяршыні. Цяпер ужо кожны ступаў з яшчэ большаю асцярогаю...

Лучнікі, выбраўшыся наверх і моўчкі размеркаваўшы, каму ў каго страляць, пачакалі, пакуль да іх далучыцца некалькі ваяроў: на той выпадак, калі пацэліць ва ўсіх вартавых не ўдасца і хто-небудзь з ацалелых паспрабуе падняць вэрхал. Тады гурмою належыць кінуцца наперад, каб дабіць іх і як мага хутчэй выканаць тое, што задумана.

Так яно, прынамсі, і сталася: толькі дзве стралы патрапілі дакладна ў цэлі. Адзін з легіянераў схапіўся за горла, праткнутае наскрозь, нібы спрабуючы выцягнуць з яго стралу, захрыпеў, з роту хлынула кроў. Другому страла папала ў грудзі, чамусьці не прыкрытыя кальчугай ці панцырам. Дагэтуль ён сядзеў, але яшчэ здолеў устаць, павярнуцца, кінуць няўцямны позірк у цемру і толькі затым усім целам, як падсечанае дрэва, гулка гупнуў у вогнішча, над якімі адразу ж святочным феерверкам паляцелі ў шэрае неба дзясяткі знічак. Яшчэ адна страла прашыла плячо трэцяга легіянера, і ён ці то ад болю, ці каб разбудзіць сваіх таварышаў, зароў, як бугай, на ўсё наваколле. Галёкаць пачаў і чацвёрты рымлянін, падобна, той самы Олус, якога страла ўвогуле не зачапіла.

Нападнікам ужо не было патрэбы таіцца. Тыя, што паспелі апынуцца на вяршыні, з ваяўнічымі крыкамі кінуліся ў бок намётаў. Архелай, як самы спрытны, бег наперадзе. Олусу, які нават не спрабаваў абараняцца, а толькі ад страху прыкрываў твар далонямі, ён на хаду сekанyў мячом па шыі, а затым, зрабіўшы два скачкі, агрэў па спіне яшчэ аднаго легіянера, які на карачках выбіраўся з намёта. У наступнае імгненне, перакінуўшы гладыус з правае рукі ў левую, Архелай схапіўся за кол, на якім мацавалася палатка, і з усяе сілы пацягнуў яго на сябе. Пярэдні край намёта зморшчыўся, пасунуўся ўніз, перакрываючы выхад для ўсіх астатніх, што знаходзіліся ў сярэдзіне.

А далей пачалося тое, што іудзейскае войска некалі сатварыла з Егіпецкім легіёнам, заспеўшы яго знянацку: янаеўцы павыбівалі калы з-пад намётаў і сталі тыкаць мячамі ў тыя месцы, дзе што-небудзь варушылася...

Пачуўшы крыкі, да лагера з абодвух бакоў памкнуліся патрульныя легіянеры, але на іх накідваліся ўсёю хеўраю, не даўшы магчымасці адмахнуцца мячом хоць бы адзін раз... Зрэшты, дваім патрульным усё-ткі ўдалося пазбегнуць смерці. Здалёк згледзеўшы, што ў лагеры ідзе сапраўдная бойня, яны далі такога драпака, што даганяць іх не было ніякага сэнсу.

— Шкада, што яны паўцякалі, — аддыхваючыся, скрушна сказаў Янай. — Прывядуць сюды легіянераў з бліжняга лагера. У нас ёсць не болей чым паўгадзіны, каб перанесці ў пячору ўсю здабычу. Марудзіць нельга...

— Мы толькі адзін аднаму замінацьмем, — падаў голас Нахум. — Давайце ўсё, што трэба, знясём да абрыву, а потым, выстраіўшыся ў ланцуг на сцежцы, перадавацьмем уніз.

— Малайчына! Добра прыдумаў! — пахваліў яго Янай. — Ну дык за справу...

Людзей для жывога ланцуга не хапіла, каб ён выцягнуўся да самае пячоры, таму спярша янаеўцам давялося соўгацца ўверх-уніз па некалькі крокаў, каб перадаць рэчы з рук у рукі. Скмеціўшы гэта, на помач прыйшлі жанкі. Яны занялі ніжнюю частку сцежкі, і прамежкі паміж людзьмі значна скараціліся.

Пачынала віднець. Насельнікі суседніх пячор, безумоўна, чулі, што наверсе адбываецца нешта нязвыклае. А калі ўбачылі жывы ланцуг, па якім спускалася здабыча, зразумелі: янаеўцы разграмілі рымскі лагер. Што тут усчалося! Сотні галоў высунулася з пячор, чуліся вітальныя воклічы, хто-ніхто размахваў стракатымі палотнішчамі.

Янаеўцы ўправіліся нашмат раней, чым у спляжаным і разрабаваным лагеры з'явілася першая рымская цэнтурыя, а затым і яшчэ дзве. Легіянеры тупалі на краі скалы, гучна лаяліся, але спусціцца ўслед за янаеўцамі, каб пакараць іх, не асмеліліся. Дый хіба маглі б яны адразу ўсёй зграяй патрапіць у пячору? Давялося б, рызыкуючы зваліцца ў прадонне, спускацца цугам, і Янаю ўдостатку было б паставіць на сцежцы аднаго вартага ваяра, таго ж Гефена, каб ён пачаргова паскідваў усіх прыхадняў у апраметную...

Усю раніцу ў пячоры разбіралі і сартавалі трафеі. Найболей было зброі і легіянерскіх даспехаў. Гэтага дабра прывалаклі аж зашмат — нашто яго столькі? — але ж не хацелася пакідаць у лагеры такія хвацкія шчыты, шаломы, гладыусы і кінжалы. Магчыма, яны яшчэ спатрэбяцца — калі не самім, дык іншым паўстанцам: янаеўцы верылі, што барацьба яшчэ далёка не скончылася...

Удалося пажывіцца і харчам. Мяса, зерне, садавіна — усяго гэтага цэнтурыі хапіла б, каб сілкавацца не меней чым месяц.

Нават акрываўленыя намёты янаеўцы прыхапілі з сабою: у пячорных умовах жыцця можа спатрэбіцца любая драбяза — у гэтым яны ўжо паспелі пераканацца.

Але галоўнае, што падчас вылазкі ніхто не быў забіты ці нават паранены. І толькі цельпукаваты Міха, бацька дваіх хлопчыкаў-гарэзаў, якія з ранку да вечара насіліся па пячоры, ужо напрыканцы аступіўся і падвярнуў нагу.

## Здрада

Асада Бетара доўжылася ўжо каторы месяц[1]. Рымляне болей не спрабавалі ўзяць горад штурмам. Абапал сцен яны ўзвялі лёгкія ўмацаванні, каб засцерагчыся ад нечаканых вылазак абаронцаў крэпасці. Бар Кохба насамрэч, асабліва на першым часе, выпускаў за вароты асобныя атрады, а часцей за ўсё конніцу, якія "казыталі нервы" легіянерам. Каб увогуле прарваць блакаду, і думаць не было чаго, бо пад сценамі Бетара Север

[1] Дакладна невядома, колькі часу рымляне трымалі Бетар у аблозе. Паводле розных крыніц — ад некалькіх месяцаў да двух гадоў. А згодна з Талмудам, асада ўвогуле працягвалася 3,5 года, што малаверагодна, бо столькі часу доўжылася само паўстанне.

трымаў досыць шматлікае войска. Зрэдчас мяняючыся, тут стаялі 3-і Кірэнскі, 3-і Гальскі, 6-ы Сірыйскі, 10-ы Ерусалімскі легіёны, а таксама 12 кагортаў дапаможнай пяхоты і 3 атрады конніцы.

З кожным днём становішча абаронцаў рабілася ўсё болей невыносным. Скончыліся харчовыя запасы. Былі забітыя і з'едзеныя ўсе коні, у крэпасці не засталося ніводнага сабакі, ката ці пацука...

Таму сапраўднай трагедыяй стала страта харчовага абоза, які на горным хрыбце перахапілі рымляне. Нягледзячы на шчыльную асаду, абаронцы Бетара ўсё ж падтрымлівалі нейкія сувязі з іншымі паўстанцамі, якія хаваліся ў пустыні. Менавіта яны, ведаючы, як пакутуюць людзі ў крэпасці, сабралі гэты абоз і накіравалі цераз горны хрыбет. І вось на табе — усё захапілі легіянеры... Ні ў кога не было сумневу, што без здрады не абышлося.

Яшчэ болей, чым голад, дапякала смага. Такога засушлівага лета Іудзея не ведала даўно. Нават ручай Іарэдэт га-Шалмон, які сцякаў з хрыбта і звычайна забяспечваў Бетар вадою, зусім перасох.

Не дабаўляла радасці і вестка пра тое, што рымляне захапілі Тур-Сімон.

Бар Кохба быў у роспачы. Усё складалася не так, як ён задумаў. Не спраўдзіўся спадзеў на тое, што рымляне, "абламаўшы зубы" аб крапасныя сцены, у рэшце рэшт адступяцца, а натхнёныя стойкасцю іудзеяў насельнікі іншых правінцый паўстануць супраць акупантаў. Усяго гэтага, на жаль, не адбылося.

Сімон адпачываў, калі Рам, які цяпер замяняў Архелая, прывёў да яго падбарыстага дзецюка з парэпанымі вуснамі і сумна-дапытлівымі вачыма.

— Камандзір, — сказаў Рам, — я не трывожыў бы твой спакой, калі б тое, пра што распавёў гэты чалавек, не здалося мне такім важным. Выслухай яго і ты. Давай, — Рам злёгку падштурхнуў дзецюка ў спіну, і той, глытаючы словы, загаманіў:

— Мяне Гілем завуць... Я не магу болей трываць... Мне сорамна... Гэта такое паскудства... Рыхтуецца змова, а лепей сказаць — здрада. І мяне ў яе ўцягнулі... А я ж свайму народу не вораг...

— Ты можаш гаварыць як след? — нецярпліва перабіў яго Бар Кохба. — За што табе сорамна? У чым здрада? Якая змова?

— Ага, я паспрабую. Змову рыхтуе рабі Элеазар з Модзіна. У яго ёсць і прыхільнікі, праўда, я іх не ведаю. Але што ёсць — гэта дакладна. Элеазар мне пра гэта сам казаў...

— Табе? Чаму менавіта табе?

— А справа ў тым, што я — ягоны пляменнік. Таму Элеазар мне і даверыўся. Нават даваў такія-сякія заданні...

— Якія, напрыклад?

— Вось нядаўна рымляне наш абоз перахапілі... А чаму? Дзядзька даручыў мне, каб я схадзіў да Шмуліка (ён таксама з Модзіна) і наказаў яму, каб ён нейкім чынам, пэўна, цераз горы, дабраўся да рымлян і расказаў ім пра гэты абоз. Я Шмуліку ўсё і перадаў. І ён сапраўды некуды знік. А праз некалькі дзён стала вядома, што рымляне той абоз і разграмілі... Гэта ж якая падмога была б згаладалым людзям...

Бар Кохба падступіўся да Гіля і схапіў яго за грудзі:

— Чаму ты пайшоў да таго Шмуліка, а не адразу да мяне? Адказвай! І дзе цяпер гэты Шмулік?

— Я не ведаю... Шмуліка болей тут не бачыў... Мусіць, у рымлян застаўся... — замармытаў збялелы ад страху Гіль. — А я не думаў, што ўсё так сур'ёзна... Баяўся... Жыць хацелася... Дзядзька мне паабяцаў, што калі рымляне захопяць крэпасць, дык мяне не заб'юць...

У Бар Кохбы з'явілася неадольнае жаданне задушыць гэтага Гіля на месцы, ўласнымі рукамі, бо з-за яго столькі шкоды нарабілася, аднак Сімон стрымаў сябе, нават адступіў два крокі назад: мусіць жа, гэты пляменнічак яшчэ не пра ўсё расказаў, варта даслухаць яго да канца...

— Што ты яшчэ ведаеш? — ужо спакойна запытаўся Бар Кохба.

— Дзядзька мне казаў, што пры зручным выпадку яны збіраюцца паспрыяць, каб рымляне захапілі крэпасць...

— Хто “яны”? Якім чынам паспрыяць?

— Дальбог, не ведаю... Клянуся... Ён мне толькі намёкамі... А яшчэ наказаў, каб я распускаў па горадзе чуткі, што Бар Кохба... ну, значыць, ты... ніякі не Месія, а, прабач, ашуканец, усіх з панталыку збіў, вунь і завуць цябе, маўляў, не Бар Кохбам, а Бар Козібам... сынам ашуканца... А яшчэ ён наказваў, каб я людзям у вушы ўводзіў, што ўсім трэба здавацца, тады рымляне з нас злітуюцца, нікога не заб'юць, а так галоднаю смерцю падохнем...

— І што, ты распускаў такія плёткі?

— Ды барані Божа! Хіба ж я дурны? Я, во, сюды і прыйшоў, каб такім паскудствам не займацца. Гэта ж здрада! А хіба ж я здраднік?..

— Ну, гэта мы яшчэ паглядзім... — зацята мовіў Бар Кохба. — Аднаго таго, што ты не паведаміў пра Шмуліка і мы страцілі абоз, удостатку, каб табе жывот распароць... Рам, — звярнуўся Бар Кохба да ахоўніка, — пакуль што адвядзі “пляменнічка” ў надзейнае месца, пастаў ахову, і каб вачэй з яго не спускалі! Ён нам яшчэ спатрэбіцца... Потым зноў зойдзеш да мяне.

— За што? Я ж сам прыйшоў! — узмаліўся Гіль, але Рам ужо схапіў яго за карак і павалок за сабою.

Нутро Бар Кохбы кіпела ад злосці. Значыць, вось дзе выспела здрада... Элеазар з Модзіна... Рабін... А мусіць жа, ён не адзін, бо не пад сілу аднаму падрыхтаваць змову... Пэўна, ніці цягнуцца да астатняга вышэйшага святарства... Можа, нават да самога Акібы... Пра тое, што нехта распаўсюджвае чуткі, быццам ён, Бар Кохба, зусім не Месія, а самазванец, Сімон ужо ведаў — яму дакладалі. Але што плёткі зыходзяць ад рабінаў — гэта нечаканка... Нашто ім тое спатрэбілася? Сябе ж пад людскую нянавісць падстаўляюць, бо менавіта з іхняга блаславення Сімон стаў Месіяй... Трэба з гэтым модзінскім Элеазарам добра “папрацаваць”, выбіць з яго ўсё, што задумваў і ведае...

Акурат вярнуўся Рам, і Бар Кохба адразу ж яго азадачыў:

— Тэрмінова знайсці і затрымаць гэтага рабіна Элеазара! Я асабіста яго дапытаю...

З рабі Элеазарам Бар Кохбу раней зносіцца не даводзілася: святар з Модзіна не быў чальцом сінедрыёна, а беглых рабінаў у Бетары апынулася задужа шмат, каб кожнага з іх надзяліць сваёю ўвагаю.

Якім ужо гонкім быў сам Сімон, а рабі Элеазар аказаўся вышэйшым за яго на паўгалавы. Доўгія валасы злёгку пакрытыя павуціннем-сівізной, кароткая дагледжаная бародка вытыркаецца не ўніз, а неяк наперад, гэтак жа, як і арліны нос, пукатыя вочы, у якіх адначасна годнасць і нахабства,

— усё гэта Бар Кохба выхапіў адным сваім позіркам і чамусьці падумаў, што "зламаць" гэтага чалавека наўрад ці ўдасца.

Элеазар, мусіць, здагадваўся, чаму яго прывялі да Бар Кохбы, хоць Рам і ягоныя памагатыя сілу не ўжывалі, рукі не выкручвалі, а проста сказалі, што яго хоча бачыць Месія, і прапанавалі пайсці следам за імі. Але па тым, што Элеазару давялося ісці не "следам", а паперадзе, рабін зрабіў выснову: Бар Кохба нешта даведаўся. Дый навошта правадыру без дай прычыны сустракацца з ім, звычайным рабінам, калі ён і з вышэйшым святарствам стасункаў не мае? Элеазар падрыхтаваўся да самага горшага, а яшчэ вырашыў: як ні давядзецца пакутаваць, Бар Кохба не пачуе ад яго нічога звыш таго, што ўжо ведае. Спярша рабін намерыўся ўвогуле зацята маўчаць, а затым наважыўся сказаць так званаму Месіі ўсё, што пра яго думае: у любым выпадку смерці не мінаваць.

Бар Кохба не стаў падступацца здалёк, запытаўся наўпрост:

— Сам пра ўсё раскажаш ці табе дапамагчы?

— Не разумею, што ты маеш на ўвазе...

— Вось як? Ну, тады намякну: зусім нядаўна тут стаяў твой пляменнік, Гілем, здаецца, завуць... Цікавы аповед ад яго пачуць давялося. Напрыклад, імя Шмулік табе нічога не кажа?

— Не ведаю я ні Шмулікаў, ні Шломікаў. А што Гіль табе напляцкаў, дык мне да гэтага справы няма. Думай і рабі што хочаш...

— Значыць, аповед пляменніка ты дапоўніць не жадаеш?

— Не жадаю.

— А калі я загадаю вырваць прызнанне разам з тваім паганым языком?

— Можаш паспрабаваць. Аднак, апрача языка, нічога ўсё адно не займееш...

— Ну, мы гэта яшчэ пабачым... — Бар Кохба паспрабаваў скіраваць размову ў іншае рэчышча і нават загаманіў прымірэнча, з лагодаю ў голасе. — Ніяк не магу ўцяміць, чаго вы, святары, на мяне ўз'еліся? Змовы рыхтуеце, плёткі распускаеце... А я ж Месія, Богам да вас пасланы!

Элеазар палічыў, што самы час выказаць Бар Кохбу набалелае, і, працяўшы яго знішчальным позіркам, у сваю чаргу запытаўся:

— Які ты Месія? Чарговы ашуканец, аблуда.

Бар Кохба вытрымаў абразу, голасу не павысіў:

— Чаму ты так лічыш? Мяне ж і Акіба прызнаў, і сінедрыён...

— Акіба дапусціў памылку, а мы яму безразважна паверылі. Сапраўдны Месія павінны быць не такім...

— І якім жа? Што я рабіў і раблю не так?

— У тваіх дзеяннях і ўчынках не адчуваецца Боскага благаслаўлення. Ты ўсё робіш не ў імя веры, не дзеля яе, а дзеля ўласнага славалюбства, таму Бог і не паспрыяў, каб мы дабіліся перамогі над рымлянамі. Ці ж ты слухаўся нас, святароў, атрымаўшы ўладу? Ты стаў тыранам, самадурам, якому ніхто не мае права запярэчыць!

— А як жа інакш? Уладзе трэба быць моцнаю, нават жорсткаю...

— Улада павінна трымацца не на страху, а на даверы людзей. Месію, калі ён сапраўды прыйдзе, народ будзе не баяцца, а паважаць.

— А мяне, па-твойму, не паважаюць? Я думаю, ты памыляешся... Аднак жа няхай. Скажы мне лепей вось што. Дапусцім, як ты лічыш, я не Месія. Але ж я змагаюся за народ і разам з народам! А ты? Ты здрадзіў гэтаму народу! Выдаў рымлянам абоз, каб абаронцы каналі з голаду, увогуле

збіраешся нейкім чынам здаць крэпасць... І, мусіць жа, у гэтай хеўры ты не адзін... За табою, напэўна, стаіць усё вашае гнілое святарства, магчыма, нават сам Акіба...

Элеазар перабіў:

— Калі б за мною стаяў Акіба, дык ты ўжо даўно не быў бы на чале ўлады. На жаль, гэты мудры чалавек не робіць ніякіх высілкаў, каб выбіць з-пад цябе трон...

— А хто ж, калі не Акіба?

— Так я табе і сказаў...

— Скажаш... Яшчэ як скажаш... Але найперш растлумач, навошта вы, змоўшчыкі, намагаецеся, каб нам тут было як найгорш? Чаму вы ўвогуле гатовыя здацца рымлянам? Вы што — ворагі свайму народу?

— Ворагі не мы, а ты, бо давёў паўстанне да гэткага незайздроснага, вартага жалю фіналу. Каму патрэбна зараз “змаганне” ў крэпасці? Рана ці позна прыйдзе параза. Рымляне ж, раз’юшаныя тым, што ты ўсё яшчэ аказваеш супраціў, вынішчаюць людзей па ўсёй Палесціне. Вынішчаць, у рэшце рэшт, і тут, у Бетары... Навошта гэтыя ахвяры? Які ў іх сэнс? У імя чаго? Дзеля таго, каб ты пражыў лішні дзень? Ва ўсякім разе нашай веры твая ўпартасць не паспрыяе. Дый што для цябе вера, наш Бог? Нішто. У горадзе з тваёй ласкі не захоўваецца Закон, нават суботы зрабіліся звычайнымі днямі...

— Годзе! — спыніў рабіна Бар Кохба. — Наслухаўся цябе ўдостатку. Цяпер даю нейкі час, каб ты змог падумаць і прыгадаць усіх сваіх хаўруснікаў. А не, дык...

Дапытвалі і катавалі рабі Элеазара тры дні. Ён то губляў прытомнасць, то зноў ачуньваў, але на назваў ніводнага імя.

У рэшце рэшт Бар Кохба змушаны быў сабраць народ на плошчы і, распавёўшы пра змову, прылюдна ўвагнаў свой меч у чэрава здрадніка.

Гэткі ж лёс напаткаў і Гіля.

## Апошняя вылазка

“Пячорныя людзі” дагэтуль не раз нападалі на рымскія пасты і патрулі, бо зброю з сабою прыхапілі не толькі ваяры янаеўскага атрада. Аднак вялікае шкоды легіянерам гэтыя напады не прыносілі: іх ці своечасова заўважалі, ці ўдавалася паспяхова адбіцца і нават захапіць у палон некаторых нападнікаў.

Вылазка ж янаеўцаў, калі загінула цэлая цэнтурыя, змусіла легата Фракійскага легіёна абсталяваць часовыя лагеры належным чынам.

З паўднёвага заходу найлепшым умацаваннем можна было лічыць абрывы скал: дастаткова паставіць на краях кругласутачныя патрулі, якія б пільна назіралі, што робіцца ўнізе, і адтуль небяспека не прыйдзе. Аднак жа паўстанцы маглі напасці і з супрацьлеглага боку, з поўначы: іудзеі, якія не знайшлі сабе месца ў пячорах, хаваліся ў пустыні і перадгор’ях, раз-пораз рабілі наскокі на рымскія лагеры і абозы. Таму ад іх належала хоць неяк “засланіцца”. У прыватнасці, там, дзе сцежка з янаеўскае пячоры выходзіла наверх, на паўночным баку скалы была ўзведзеная сцяна на паўсотні метраў, а ўшыркі — ажно на цэлы метр. Паміж ёю і абрывам па ўсіх ваенных правілах месціўся сам лагер: не толькі квадратныя (два на два метры) намёты, але і пабудова для камандзіраў-цэнтурыёнаў — самавітая, дыхтоўная. Колькасць легіянераў павялічылася ўдвая — у лагеры несла

варту цэлая маніпула. Таму ўсе ў янаеўскай пячоры разумелі: паўтарыць вылазку болей не ўдасца, бо ўжо няма ніводнага шанцу ўзабрацца на скалу незаўважна.

Між тым мінаў тыдзень за тыднем, і становішча насельнікаў пячор рабілася ўсё болей невыносным. Не спраўдзіўся разлік на тое, што рымлянам надакучыць пільнаваць "пячорны люд" і яны ў рэшце рэшт адступяцца. Наадварот, легіянераў на ўзбярэжжы Мёртвага мора толькі пабольшала.

У пячорах скончыліся харчы. Даймала смага. Бог нібы паслаў іудзеям новую навалу: яшчэ ніколі не было такога засушлівага лета, з неба не ўпала ніводнае кропелькі вады. Згаладалыя, сасмяглыя пячорныя насельнікі паміралі, як мухі. Кожны дзень у бездань скідваліся дзясяткі трупаў. Звар'яцелыя ці даведзеныя да адчаю людзі часам самахоць моўчкі скакалі ў прадонне, каб спыніць свае пакуты...

Насельнікі янаеўскай пячоры трымаліся даўжэй за ўсіх: трохі расцягнуць паўгалоднае існаванне дапамаглі харчовыя трафеі, здабытыя ў рымлян. Але смага дапякала і янаеўцаў. Басейн, які калісь упадабалі Архелай і Вірсавія, так і застаўся незапатрабаваным, сухім, як калодзеж сярод пустыні.

Спярша (і менавіта ад смагі) паўміралі дзеці. У пячоры было шмат месца, таму іхнія трупікі ў бездань не скідвалі. У сцяне мужыкі выдзеўблі вялізную пахавальную нішу даўжынёю ажно чатыры метры і вышынёю ў рост чалавека, куды складвалі мёртвыя цельцы. Прычым галовы аддзялялі ад тулаваў і клалі ў кашы (кашоў, дзеля эканоміі плошчы пастаўленых адзін на адзін, было тры). Цельцы ж, абгорнутыя шарсцяною ці льняною тканінаю, папірусамі свяшчэнных кніг дый увогуле адзежаю ці мешкавінаю, размяшчалі крыху воддаль, у радок[1]...

Трываць болей не ставала сіл, і Янаю, які адчуваў уласную віну за смерць дзяцей і адказнасць за жыцці ацалелых дарослых, належала, нарэшце, вырашыцца: здацца ў палон, змірыцца з лёсам і ціха канаць тут, у пячоры, ці зрабіць яшчэ адзін напад на рымскі лагер, каб разжыцца хоць нейкім харчам і пітвом. Пра палон Янай думаў менш за ўсё, бо наперадзе ў лепшым выпадку чакала рабства, прынамсі, у палон рымляне іх і не ўзялі б, адразу ж перабілі б усіх да аднаго, бо выношвалі лютую злосць і прагу помсты за знішчаную цэнтурыю. Безнадзейна правесці астачу дзён у пячоры — таксама не выйсце: гэтых дзён засталося зусім няшмат...

Выходзіла, што належыць зрабіць яшчэ адну вылазку: лепей загінуць з годнасцю, са зброяй у руках, пры гэтым, калі ўдасца, забіць хоць аднаго ненавіснага акупанта, чым без аніякае карысці сатлець у сутарэнні.

Гэтую думку падзялялі і астатнія. Не пярэчылі нават жанкі, больш за тое, яны самі былі гатовыя ўзяцца за зброю (балазе ў пячоры яе мелася ўдостатку) і ўпоравень з мужыкамі караскацца наверх, каб знайсці сваю смерць там, а не ў гэтай затхлай і абрыдлай пячоры. Зрэшты, жанок засталося ўсяго сем, тым лікам і пузатая Малка (дзве найбольш састарэлыя жанчыны і тры зусім нямоглыя дзецюкі памерлі напярэдадні, і іхнія целы ўсё-ткі скінулі ў бездань). Дык якая з іх помач, якія яны ваякі? Хай лепей застаюцца на месцы, і калі вылазка атрымаецца ўдалай, змогуць яшчэ трохі пажыць, падсілкаваўшыся здабычай.

Прынамсі, на ўдалы зыход амаль не было спадзеву: наўрад ці ўдасца

[1] Падобнае пахаванне было знойдзенае археолагамі ў пячоры, якой далі ўмоўную назву "пячора пісьмаў".

непрыкметна дабрацца да вяршыні, не тое што адужаць цэлую маніпулу, тым болей у такім знясіленым стане. І ўдзень, і ўначы па краі абрыву тупалі патрулі, часам хто-ніхто з легіянераў схіляў галаву ўніз і здзекліва галёкаў:

— Гэй, іудзеі! У вас там кішкі да рабрын не прысохлі? Вылазьце са сваёй нары, мы вас пачастуем як след!

Яшчэ ж, як назло, ночы стаялі светлыя, здраднік-месяц вынырваў з-за акаёму, калі сонца не паспявала схавацца за небакрай. Тым не менш, вылазку наважыліся зрабіць менавіта ноччу, а дакладней, пад раніцу, як і колісь: калі нападнікаў і скмецяць, дык будзе хоць нейкі час, пакуль легіянеры паўспорваюцца і павыскокваюць са сваіх намётаў.

Архелай і Вірсавія, зрэшты, як і Нахум з Малкай, у гэтую ноч не адыходзілі адно ад аднаго. Яны сядзелі моўчкі, дзяўчаты нават не плакалі, бо ўсю пяшчоту выказалі раней, а слёзы былі лішнімі: маладзёны ўжо даўно змірыліся з тым, што хуткае смерці не мінаваць — як уласнай, так і свайго абранніка.

На гэты раз Янай вырашыў ісці першым. У лучніках ужо не было патрэбы, бо зараз яны не змогуць падабрацца да краю незаўважнымі і спакойна застрэліць вартавых. Бадай, цяпер ужо давядзецца падбірацца не ўпотайкі, а недзе з сярэдзіны сцежкі, калі іх заўважаць, з усіх ног несціся наверх, браць вяршыню штурмам. А хто мог зрабіць гэта лепей, чым Янай ды яшчэ Гефен, які, дарэчы, акурат і рушыў услед за камандзірам?

Дзіўна, але Янай ужо сапраўды пераадолеў палову шляху, а ў лагеры рымлян было ціха. Спярша Яная гэта радавала, аднак, чым бліжэй бачыўся край абрыву, тым выяўней нарастала ў ягонай душы няўцямная трывога...

І трывожыўся ён нездарма.

Два легіянеры, якія неслі варту і раз-пораз зазіралі ўніз, скмецілі ўзброеных людзей амаль адразу, калі сцежка толькі-толькі пачала "варушыцца", напаўняцца янаеўцамі. Як ім і наказаў цэнтурыён, вартавыя не паднялі вэрхал, не абвесцілі трывогу, а ціхенька падаліся да свайго камандзіра, які адпачываў у асобнай пабудове, і даклалі пра небяспеку. Затым і цэнтурыёны, і вартавыя, не парушаючы цішыні, хуценька абышлі ўсе намёты, зноў жа без аніякага шуму-гаму разбудзілі легіянераў, якія, прыхапіўшы зброю і накінуўшы на сябе даспехі, літаральна на дыбачках пачалі разыходзіцца ў абодва бакі ўздоўж абрыву і ўзведзенай уласнымі рукамі сцяны, каб заняць загадзя намечаныя пазіцыі...

Рымлянам ужо надакучыла каторы месяц жыць у паходных умовах, чакаць, пакуль насельнікі пячор, асабліва тых, дзе хаваюцца ўзброеныя людзі, сканаюць ці здадуцца ў палон. Хацелася знішчыць іх, як кажуць, адным махам, каб як мага хутчэй "развязаць сабе рукі". Спускацца да той жа янаеўскай пячоры не выпадала ніяк: небяспечна, дый пры захопе можна панесці вялікія страты. Заставалася адно: не ўпусціць момант, калі згаладалыя іудзеі ў рэшце рэшт наважацца на вылазку, даць ім магчымасць выбрацца на вяршыню і тут перабіць усіх да аднаго.

Цэнтурыёны загадзя прыкінулі: каб адолець сцежку, ды яшчэ крадком, ледзь не на карачках, іудзеям спатрэбіцца не менш чым паўгадзіны. Гэтага часу хопіць, каб выканаць усе неабходныя манеўры.

Так яно і сталася.

Перш чым зрабіць крок на вяршыню, Янай доўга ўзіраўся ў абрысы рымскага лагера і нічога не мог даўмецць. Як і колісь, гарэла вогнішча, але

вакол яго нікога не было. Тым жа паўкругам стаялі намёты, аднак з іхняга боку не чулася ніводнага гуку, нават звыклага для мужчынскае гурмы храпу. Янай вагаўся і разважаў, што ўсё гэта магло азначаць. Рымляне страцілі пільнасць? Па нейкай прычыне пакінулі лагер? Але ж чаму не забралі сваю амуніцыю? А можа, недзе ў іншым месцы такія ж, як яны, адчайныя іудзеі зрабілі напад на лагер, і маніпула пасяшалася на помач сваім суседзям? Але ж у такім разе пачуўся б сігнал трывогі... Што б там ні было, аднак зваротнага шляху няма: наперадзе, калі рымляне заманьваюць у пастку, непазбежная гібель, ззаду — таксама смерць, толькі ўжо галодная.

І Янай ступіў на вяршыню. Услед за ім на скале пачалі вырастаць іншыя постаці. Янай не спяшаўся даваць каманду на атаку: калі ўсё складаецца гэтак спрыяльна, калі няма ніякага падвоху і легіянеры знаходзяцца ў намётах, дык лепей накінуцца на іх усім кагалам. Нарэшце тры дзясяткі ваяроў у напружаным чаканні застылі перад абрывам. Янай кінуў позірк улева-ўправа, быццам пераконваючыся, што ягоны атрад тут у поўным складзе, і паўшэптам мовіў:

— Пайшлі!

Янаеўцы моўчкі, без аніякага крыку-гвалту, шэрагам, не прыспешваючы крокаў, рушылі да намётаў. Дый навошта галёкаць-мітусіцца, загадзя падымаць лямант?

Дайсці да намётаў янаеўцы не паспелі. З-за сцяны, з абодвух флангаў, лавінамі выкаціліся зграі легіянераў і, трымаючы перад сабою дзіды і гладыусы, панесліся насустрач адна адной.

— Адразайце ім шлях! — крыкнуў цэнтурыён і сам узяў кірунак бліжэй да абрыву, дзе пачыналася сцежка.

Янаеўцы, збянтэжаныя, спярша падаліся назад, а затым, зразумеўшы, што ўсё адно не паспеюць знайсці ратунак за абрывам, міжволі пачалі збівацца у гурт, туліцца адзін да аднаго. З нападнікаў ім належала ператварыцца ў абаронцаў.

— У круг! Станавіцеся кругам! — скамандаваў Янай, нарэшце ачуняўшы.

Паплечнікі выканалі ягоную каманду, але гэта ім не дапамагло. Сеча была кароткаю і бязлітаснаю. Выбіраючыся з пячоры, янаеўцы не прыхапілі з сабою шчыты і дзіды, бо яны заміналі б узбірацца наверх, узялі толькі гладыусы, якія ў гэтай схватцы былі амаль бескарыснымі. Легіянеры, выставіўшы наперад дзіды, прапорвалі імі жываты і грудзі абаронцаў, не падступаючыся ўшчыльную.

Архелай і Нахум стаялі поруч, плячо ў плячо, бліжэй не да сцяны, а да абрыву, і гібель ужо здавалася ім немінучай. Нечакана Нахуму ўдалося перасекчы дрэўка дзіды, легіянер, які трымаў яе ў руцэ, адступіўся трохі назад, каб выхапіць з похваў меч, і на кароткую хвіліну стаў як бы абяззброеным. Рашэнне прыйшло ў галаву Нахума імгненна.

— Прарываемся! — крыкнуў ён Архелаю, а сам ірвануўся наперад, з разгону збіў легіянера з ног, нават не спрабуючы пырнуць яго мячом, каб не траціць на гэта час, і панёсся да абрыву.

Архелай след у след кінуўся за сябрам, мімаходзь наступіўшы на твар збітага легіянера. У створаную дзірку паспрабаваў нырнуць яшчэ нехта з янаеўцаў, аднак напароўся на вастрыё, бо легіянеры зноў самкнулі кола.

Наўздагон уцекачам пабеглі адразу чацвёра рымлян. Нахум паспеў схавацца за абрывам, а Архелаю заставалася зрабіць да краю два скачкі, як

ён адчуў штуршок ззаду і востры боль пад праваю лапаткаю: дзіда да яго ўсё-ткі дацягнулася... Архелай і ад штуршка, і па інерцыі падаўся наперад, перад самым абрывам плазам гупнуў на зямлю, але падымацца не было калі, і ён проста перакуліўся цераз край, каб ўратавацца ад наступнага і, безумоўна, смяротнага ўдару.

Зрэшты, збавенне было ўяўным, бо Архелай адразу ж кулём пакаціўся ўніз, у бяздонную строму...

Выратаваў Архелая Нахум. Ён ужо спусціўся па сцежцы на дзесяць крокаў і, азірнуўшыся, убачыў, што збоку коціцца бязвольнае цела сябра. Нахум саступіў са сцежкі і здолеў схапіць Архелая за вопратку, пры гэтым сам ледзь утрымаўся на нагах.

А наверсе мітусіліся і роспачна лаяліся легіянеры. Адзін з іх, найболей малады, не вытрымаў і таксама ступіў на сцежку, каб дабіць такіх блізкіх — рукой падаць! — уцекачоў, але праз два крокі нага ягоная саслізнула з камяня (анягож: навошта сунуцца, не ведаючы дарогі, ды яшчэ цёмначы), і легіянер з адчайным крыкам паляцеў у прорву. Ягоны незайздросны лёс адбіў у астатніх ахвоту да пераследу, яны толькі пачалі хапаць пад нагамі каменне і шпурляць яго ўніз, маючы спадзеў, што ўдасца трапіць камусьці ў галаву. Не трапілі. Ды ўсё ж адна камянюка, калі Архелай пры дапамозе Нахума спрабаваў узабрацца на сцежку, папала яму ў калена, і ён ужо не мог самастойна спускацца ўніз. Да таго ж, кашуля на спіне Архелая ўсё болей брыняла крывёю, мусіць, рана была сур'ёзнаю, і сілы паступова пакідалі яго. Нахум змушаны быў узваліць сябра на плечы, рызыкуючы пры кожным кроку страціць раўнавагу...

Дабірацца да пячоры давялося да самага ранку. Добра яшчэ, што жанкі паспяшаліся насустрач і падхапілі Архелая сваімі нямоглымі рукамі. Жанкі, вядома ж, чулі, што наверсе адбываецца нешта жахлівае, і калі крыкі заціхлі, яны палічылі, што ўсіх янаеўцаў забілі. І толькі Вірсавія не магла паверыць у гібель Архелая, яна стаяла на краі пячоры і ўмольна пазірала ўгару, пакуль не згледзела, нарэшце, Нахума і самага дарагога для яе чалавека...

Рана Архелая, на шчасце, аказалася не надта глыбокаю. Аднак вастрыё дзіды закранула жылу, таму паранены і страціў шмат крыві. Ад яго, перавязанага і беспрытомнага, Вірсавія не адыходзіла ні на крок.

## За крапасною сцяною

Пасля пакарання рабіна Элеазара варажнеча паміж Бар Кохбам і святарствам стала відавочнаю для ўсіх насельнікаў Бетара. Аднак Сімон не наважыўся зрабіць супрацьстаянне больш кідкім, бо гэта не было ў ягоных інтарэсах. Што ні кажы, а менавіта дзякуючы рабінам, і ў першую чаргу Акібу, ён стаў правадыром, і калі выбіць з-пад уласных ног гэты падмурак, дык іудзеі могуць задумацца: Месію павінен прыслаць Бог, а хто як не рабіны падтрымліваюць з Ім сувязь, каму як не ім лепш ведаць, сапраўдны Месія ці не? Па гэтай прычыне Бар Кохба не наладзіў "масавую чыстку" ў святарскім асяродку, хоць, скарыстаўшы момант, меў поўнае права "выкасіць" рабінаў цераз аднаго, асабліва тых, хто нейкім чынам зносіўся са здраднікам Элеазарам. Агульнай справе гэта не зашкодзіла б. Калі пад гарачую руку трапіўся б нехта нявінны, дык бяды вялікай няма: паўсюль людзі і так гінуць тысячамі. Затое разам удалося б вынішчыць усіх запраданцаў і змоўшчыкаў, а так паспрабуй іх вылічы. Тым не менш, Бар Кохба ад такога кроку ўстрымаўся.

Адзінае, што ён зрабіў, каб хоць неяк абясшкодзіць таемных змоўшчыкаў, — загадаў нікога з крэпасці не выпускаць, для чаго варта была падвоеная. Калі і захочуць здраднікі перадаць рымлянам нейкую звестку, дык не ўдасца. А самі яны, запраданцы, вялікае шкоды тут, у крэпасці, нарабіць не здолеюць.

Як гэта ні дзіўна, але ў душу Сімона глыбока запаў папрок, нават абвінавачанне рабіна Элеазара ў тым, што ён цураецца веры, ігнаруе Закон, не выконвае запаветы, дадзеныя Богам. Што ні кажы, як ні круці, але гэта сапраўды так. А хіба ж ён, Сімон, робіць гэта наўмысна? Хіба ж да Закона і да запаветаў, калі трэба вяршыць будзённыя, жыццёвыя справы, найперш дбаць пра баяздольнасць войска? Тым не менш, каб хоць неяк паказаць рабінам і простым іудзеям, абаронцам крэпасці, што іхні правадыр шануе веру і насамрэч з'яўляецца Боскім пасланнікам, Бар Кохба загадзя абвесціў, што наступная субота будзе адзначацца так, як прадпісвае Тора. Гэта значыць, ніхто не займацьмецца ніякаю працаю, нават варта на крапасных сценах будзе чыста сімвалічнаю. Ці таілася ў тым пагроза для бяспекі горада? Бар Кохба палічыў, што яе няма. З крэпасці, каб паведаміць ворагам пра "незвычайную суботу", выбрацца ніхто не зможа, а самі рымляне ні з таго ні з сяго менавіта ў гэты дзень на штурм не пойдуць. Падобна, што яны ўвогуле не збіраюцца штурмаваць добра ўмацаваныя і абароненыя сцены, спадзяюцца ўзяць крэпасць на змор.

А каб з лішкам засцерагчыся ад магчымых непрыемнасцей, Бар Кохба вырашыў напярэдадні суботы зрабіць напад на рымскія пазіцыі. Іх, нападаўвылазак, дагэтуль было многа, але яны не прыносілі вялікага плёну, бо за вароты атрады пасылаліся нешматлікія — Бар Кохба не хацеў рызыкаваць, агаляць крэпасць. На гэты раз ён наважыўся на самую буйную вылазку, у ёй павінна ўдзельнічаць ледзь не палова войска. Разлік быў на тое, што рымляне апошнім часам страцілі пільнасць, не чакаюць нападу, таму ўдасца добра іх пашкамутаць. І што самае важнае — здабыць хоць якія трафеі, найперш пітныя і харчовыя, бо галоўнымі ворагамі для абаронцаў даўно ўжо сталі голад і смага. Патармошаныя кагорты ачуняюць не хутка, ва ўсякім разе ў суботу ім будзе не да штурму — так разважаў Бар Кохба.

Ён абвесціў, што ў заўтрашняй вылазцы могуць паўдзельнічаць усе добраахвотнікі — не толькі ваяры, бо зброі ў крэпасці мелася ўдостатку.

На долю братоў Эфраіма і Манасіі выпалі тыя ж выпрабаванні, што і на астатніх абаронцаў Бетара. Панадныя мяшэчкі з грашыма яны заўсёды трымалі "бліжэй да цела", зашытымі ў вопратку, і адчувалі сябе сапраўднымі багацеямі. Але што з таго багацця тут, у крэпасці? Манеты ж не ўкусіш...

Ганцоў ад Акілы браты так і не дачакаліся. Ды яно й не дзіўна: патрапіць у крэпасць чужынцам было немагчыма. Эфраім ужо даўно падбухторваў Манасію даць дзёру з гэтага пекла, аднак брат катэгарычна пярэчыў:

— Хіба ты не памятаеш, што загадаў Акіла? Знаходзіцца ў стане іудзеяў да апошніх дзён.

— Ага, наказаў, — злаваў Эфраім. — Ён яшчэ перадаў, што будзе прысылаць сваіх людзей. Дзе яны? Здохнем тут, як сабакі...

— Акіла таксама прыб'е, калі не выканаем ягоны загад. Да таго ж, мы не атрымаем абяцаную ўзнагароду. Табе лішнія грошы зашкодзяць? А рымскае грамадзянства?

— Хай спрахнуць і тыя грошы, і тое грамадзянства, бо найпярод спрахнем мы самі!

Бывала, Манасія, калі ў ягоным пустым чэраве кішкі вурчэлі занадта настойліва і незадаволена, трохі змякчаў сваю катэгарычную пазіцыю:

— Здыхаць тут, вядома ж, ніякага сэнсу нямашака... Аднак жа было б няблага паўстаць перад Акілам не з пустымі рукамі, а прынесці яму якую-небудзь важную звестку. Тады б ён не раз’юшыўся, магчыма, нават узнагародзіў бы...

Аднак жа “важнаю звесткаю”, якая магла б па-сапраўднаму зацікавіць рымлян, разжыцца ніяк не ўдавалася.

І толькі калі разнеслася пагалоска, што наступная субота пройдзе па звыклай для ўсіх іудзеў завядзёнцы, браты зразумелі: вось яно, тое, што трэба! У гэты дзень рымлянам акурат і належыць пайсці на вырашальны штурм!

Эфраім і Манасія паспрабавалі паткнуцца да горнага хрыбта, з боку якога ахова звычайна была не надта шматлікаю, аднак на гэты раз вартавыя завярнулі іх яшчэ на далёкім падыходзе. І ўвогуле ўзброеныя людзі стаялі тут ледзь не ланцугом — мыш не прашмыгне. Ад роспачы браты гатовыя былі кусаць локці. Яны ўжо зняверыліся, што, маючы такую навіну, змогуць данесці яе да Акілы, але зусім нечакана іх абнадзеіла другая пагалоска: рыхтуецца напад на рымскія асадныя ўмацаванні, і ўзяць у рукі зброю могуць усе ахвочыя, нават яны, абознікі.

Ці ж гэта не шанец? Дужацца з легіянерамі, рызыкаваць жыццём братам, вядома ж, не хацелася, аднак іншага спосабу выбрацца за сцены крэпасці яны не бачылі. Зрэшты, каб зберагчыся ад гібелі і пры гэтым дабрацца да рымлян, браты прыдумалі няхітры план...

Вароты крэпасці расчыніліся на досвітку, і першым, увесь у даспехах, трымаючы перад сабою гладыус, памкнуўся наперад сам Бар Кохба. Свайго знакамітага белага каня ён ужо даўно пусціў на харч, падчас вылазак змагаўся пешкі — як і ўсе. Конніца, безумоўна, сёння была б акурат дарэчы, але дзе ж яе ўзяць?..

Следам за камандзірам з праёма хлынуў людскі паток, які адразу ж пачаў расцякацца ўшыркі, ён ужо нагадваў лавіну, а з крэпасці ўсё яшчэ выбягалі ваяры.

Перад варотамі лагерам стаяў Гальскі легіён. Праз дзень ён павінен быў саступіць свае пазіцыі легіёну Гнея — 10-му Ерусалімскаму, які ўжо знаходзіўся на падыходзе, таму легіянеры цешылі сябе надзеямі на блізкі адпачынак, “рассупоніліся” і такога гібельнага нашэсця не чакалі.

Пакуль вартавыя абвесцілі трывогу, пакуль легіянеры, на хаду нацягваючы на сябе даспехі, выскоквалі з намётаў, пакуль яны выстройваліся ў стракатыя, няроўныя шэрагі і “квадрацікі”, першыя іудзейскія ваяры паспелі дабегчы да лагера і распачаць бітву. З кожнаю хвілінаю да іх далучаліся ўсё новыя нападнікі, якія адчайна, безразважна лезлі грудзьмі на дзіды, падстаўлялі свае плечы пад гладыусы, але не спыняліся. Іудзеяў ужо было перабіта шмат, але значныя страты панёс і легіён. У рэшце рэшт, па загадзе легата прагучаў сігнал на адступленне, і рымскія шэрагі, адбіваючыся, павольна, без панікі пачалі адыходзіць назад, у глыбіню даліны. Неўзабаве ўвесь лагер аказаўся захопленым іудзейскім войскам, і пакуль адны ваяры біліся і гінулі на пярэднім краі, другія, тыя, што знаходзіліся ззаду, накінуліся на абоз, пачалі шастаць па намётах, выцягваючы з іх

усё, што можна з'есці ці выпіць, прычым, згаладалыя і сасмяглыя, жавалі і глыталі тут жа, на месцы...

Тым часам на флангах ужо была абвешчана трывога ў суседніх легіёнах — 3-м Кірэнскім і 6-м Сірыйскім, — і "квадрацікі" маніпул подбежкам рухаліся на помач сваім таварышам. Над нападнікамі навісла пагроза акружэння, таму Бар Кохба, уцяміўшы гэта, зычна скамандаваў:

— Назад, у крэпасць!

Спярша няспешна, а пасля нават мітуслівая лавіна іудзейскага войска пачала адсоўвацца да крапаснай сцяны, паступова згортваючыся, ад чаго перад варотамі ўтварыўся шматтысячны натоўп. Хутчэй схавацца за муранаю сцяною войску замінала яшчэ і тое, што многія ваяры, апрача зброі, трымалі ў руках груваасткую здабычу — хто паўмеху пшаніцы, хто збан з віном ці з вадою. Тым не менш, асноўная частка нападнікаў усё ж паспела праціснуцца ў праём, перш чым вароты зачыніліся...

Эфраім і Манасія, як і задумалі, засталіся за межамі крэпасці.

Яны, вядома ж, не імкнуліся трапіць у першыя шэрагі нападнікаў, наадварот, туляліся-аціраліся ззаду і выбеглі за вароты толькі тады, калі ўжо ішла шалёная сеча. А ў лагеры, пільна трымаючыся блізу адзін аднаго, браты ўвогуле апынуліся пасля таго, як рымляне адступілі і пачалося разрабаванне. У той сумятні кожны імкнуўся ўварваць для сябе што-небудзь найболей панаднае, таму ніхто не заўважыў, што два дзецюкі амаль адначасна, нібы па камандзе, упалі-паваліліся, уторкнуўшыся тварамі ў глебу, і застылі ў нерухомасці. І ўроскідку, і крыж-накрыж пластом ляжалі знявечаныя трупы, і "забітыя" самарыцяне выглядалі сярод іх зусім натуральна... Эфраім, крадком скасавурыўшы вока, на адлегласці выцягнутай рукі збоку ад сябе згледзеў нерухомае цела легіянера. Ягоная раскурочаная гладыусам шыя была залітая крывёю, якая ўсё яшчэ выцякала з перасечанае артэрыі. Эфраім марудна — хоць бы хто не скмеціў! — працягнуў да легіянера сваю руку, абмакнуў пяцярню ў чужую кроў і для большай пераканаўчасці абмазаў ёю ўласны твар...

Непрыемнасць наспела неспадзявана.

Калі іудзеі пакідалі лагер, нехта, спяшаючыся, на бягу спатыкнуўся аб Манасію, і трэба ж такому здарыцца — акурат аб галаву. Ад болю Манасія не стрываў, схапіўся за выцятае месца, адарваўшы твар ад зямлі. Але гэта яшчэ паўбяды, горшым было тое, што за спінаю ён пачуў голас няўклюды, які зачапіўся за яго нагою і цяпер уставаў на карачкі:

— Манасія? Ты? Цябе што, паранілі?

Нават не азірнуўшыся, Манасія распазнаў, каму належыць гэты голас: прастакаватаму Ханану, які служыць у адным з ім абозным атрадзе і які чамусьці таксама спрычыніўся на вылазку.

— Ну, так... я... паранены... — змушаны быў прамармытаць у адказ Манасія.

Увогуле параненых, а тым болей забітых ніхто не падбіраў — тут бы самому ўратавацца. Але ж Ханан сапраўды лічыўся ў атрадзе "не такім, як усе". Хто-ніхто ўвогуле называў яго прыдуркаватым, хоць уся ягоная "дурасць" заключалася ў тым, што ён быў наіўным, бясхітрасным, а галоўнае — чулым, спагадлівым да чужое бяды, мог прыйсці на помач любому, хто адчуваў у ёй патрэбу. Хіба ж гэта звыкла, асабліва ў тых абставінах, у якіх апынуліся абаронцы крэпасці, калі за кус хлеба ці глыток вады кожны гатовы перагрызці горла свайму бліжняму...

— Давай я табе падсаблю! — кінуўся да Манасіі Ханан. — Трэба ўцякаць,

бо вось-вось сюды прыйдуць рымляне! Дзе цябе зачапіла? — і ён ліхаманкава стаў абмацваць цела “параненага”. — Можа, я паспею перавязаць...

— Ды адчапіся ад мяне! — злосна гыркнуў Манасія і адштурхнуў памагатага. — Сам лепей ратуйся!

Ад штуршка Ханан трохі нахіліўся назад, але не пакрыўдзіўся, наадварот, яшчэ з большым імпэтам засакатаў:

— Разумею цябе! Гэта так высакародна — не ставіць пад пагрозу маё жыццё... Але я не магу пакінуць на гібель свайго таварыша! Не магу! Інакш усё жыццё буду сябе дакараць... Пайшлі, брат, пайшлі! — і ён паспрабаваў падхапіць Манасію пад пахі.

Было відавочна, што Ханан не адступіцца, хутчэй загіне разам са сваім, як ён лічыў, таварышам, чым пакіне яго, параненага, на полі бою. Манасія не ведаў, што рабіць, каб адагнаць гэтага надакучлівага ёлупа, тым болей што ўжо амаль усе іудзеі пакінулі лагер і з усіх ног беглі да крэпасці. Раптам твар Ханана знерухомеў, ягоная сківіца адвісла, а ў шкляных вачах застылі спагада і здзіўленне. У наступную хвіліну цела хлопца пачало завальвацца наперад, на Манасію, які ледзьве паспеў выставіць рукі, каб адхіліць прамое, нібы слуп, цела ад сябе, і адразу ж заўважыў за ім круглую постаць брата, які трымаў у правай руцэ акрываўлены гладыус.

— Памагатыя знайшоўся! Спагадлівы! — з’едліва працадзіў скрозь зубы Эфраім, выціраючы лязо аб уласную кашулю. — Не трэба нам твая помач!

— Ты... ты забіў яго? — толькі і змог вымавіць Манасія.

— А што мне было рабіць? Ён жа да цябе як муха да дзярма прыліп. Не адчапіўся б... Нашто нам лішні клопат?

Эфраіму ўжо не было чаго таіцца, бо ў лагеры, апрача іх, не зраненых, а жывых-здаровых, нікога не засталося.

Толькі цяпер Манасія звярнуў увагу на жахліва-акрываўлены твар брата.

— Што гэта з табою? — устрывожана ўсклікнуў ён. — Няўжо сапраўды паранены?

— Ды кінь ты! — махнуў рукою Эфраім. — Цалей, чым я, не бывае... Маскарад гэта ўсё, маскіроўка... — і ён, сплюнуўшы на свае далоні, пачаў выціраць кроў спярша на іх, а затым і на твары.

Між тым братам пагражала небяспека — ужо не ад нядаўніх паплечнікаў, а ад легіянераў: адны з іх кінуліся наўздагон уцекачам, якія спяшаліся схавацца ў крэпасці, другія паступова напаўнялі толькі што раскалашмачаны лагер, бязлітасна дабівалі параненых іудзеяў, спагадліва схіляліся над сваімі.

Адкінуўшы гладыус, Эфраім мітусліва замахаў узнятымі ўгару рукамі і пабег насустрач вусатаму цэнтурыёну, які знаходзіўся найбліжэй, пры гэтым голасна галёкаючы:

— Гэ-э-й! Мы свае! Мы вашыя! Не забівайце!

Услед за ім, амаль не згінаючы цыбатых ног, подбежкам рушыў Мансія. Сваім перуновым голасам ён выпускаў з глоткі толькі адно слова:

— Свае! Свае!

Зрэшты, у суцэльным гуле й гудзе, сярод крыкаў і стогнаў, якія павіслі над раўнінаю, цэнтурыён спярша не расчуў іхніх слоў і ўжо замахнуўся гладыусам, каб распалавініць цела Эфраіма з галавы да ног, але ў апошняе імгненне гэтае “свае” ўсё-ткі прабілася да ягоных вушэй, і цэнтурыён

паспеў скіраваць меч трохі ўбок, лязо зачапіла плячо самарыцяніна, слізганула па ім, але, не нарабіўшы вялікае шкоды, разам з рукавом садрала толькі скуру.

— Авой! За што?! — залямантаваў Эфраім, і, другою рукою схапіўшыся за рану, бухнуў на калені. — Мы ж самі здаліся!

Манасія, скмеціўшы, што над галавою брата мільгануў меч, спярша хацеў на хаду развярнуцца і даць драла, аднак своечасова краем вока заўважыў, што няшчасная доля Эфраіма мінавала, таму застыў на месцы і ўзмаліўся:

— Злітуйся! Мы не іудзеі! Мы самарыцяне! І ў нас ёсць важныя звесткі!

— Якія яшчэ звесткі? — аддыхваючыся, грозна і незадаволена гаркнуў цэнтурыён, але гладыус болей не ўзняў, трымаючы яго вастрыём да зямлі.

— Вельмі важныя! — зморшчыўшы твар ад болю і не ўстаючы з каленяў, зажундзеў Эфраім. — Адвядзі нас да свайго галоўнага камандзіра! Мы — людзі Акілы, ягоныя лазутчыкі!

— А хто такі Акіла? — падазрона зыркнуў на яго цэнтурыён. — Я пра такога военачальніка ніколі не чуў!

— Ды ён не вайсковец! Ён проста вялікі начальнік...

Цэнтурыёну неўспадоб былі гэтыя галадранцы, ды ўсё-ткі ён палічыў за лепшае адвесці “лазутчыкаў” да свайго легата — няхай ён з імі разбіраецца, можа, і насамрэч самарыцяне ведаюць нешта важнае.

Акурат у гэтыя хвіліны да лагера набліжалася калона 10-га легіёна. Здалёк пачуўшы гукі бою, Гней загадаў салдатам прыспешыць крок, але да вырашальнае схваткі легіён усё адно не паспеў. І цяпер вось толькі ўваходзіў у разбураны лагер.

Гней, як і заўсёды, ехаў на кані наперадзе калоны, і Эфраім адразу ж пазнаў яго, бо не раз бачыў падчас працы на руінах Ерусаліма, часам і разам з Акілам. Не зважаючы на цэнтурыёна, Эфраім сарваўся з месца і кінуўся да калоны.

— Камандзір, выслухай мяне! — пачаў крычаць ён яшчэ здалёк. — Я чалавек Акілы і маю каштоўныя звесткі!

Пачуўшы знаёмае імя, Гней спыніў каня і зірнуў у той бок, адкуль бег да яго адрузлы дзяцюк, а калі ён наблізіўся, строга запытаўся:

— Што цябе яднае з Акілам?

— Я — ягоны шпег!

— Шпег? І чым ты гэта можаш даказаць?

Спярша Эфраім хацеў выдраць з вопраткі грашовы мяшэчак з вышытаю літараю “А”, аднак своечасова спахапіўся: чаго добрага, рымскага легата найболей зацікавіць не сам мяшэчак, а тое, што ў ім захоўваецца... Замест таго Эфраім замянташыў языком:

— Ты, напэўна, чуў, камандзір, пра мор, які летась лютаваў у Ерусаліме? Дык гэта мы з братам яго наслалі. Па заданні Акілы... Ён нам збаночак з атрутаю даў і наказаў, каб мы яго ў акведуку прыладзілі. Пасля таго палову гараджан як касою скасіла...

Нечакана для самарыцяніна легат спахмурнеў, зыркнуў на яго з агідаю.

— Дык вось адкуль ногі растуць...

Гней, безумоўна, ведаў пра эпідэмію, але ніяк не суадносіў яе са штукарствамі Акілы: ці мала якая зараза бушуе ў свеце... А тут адразу ж усплылі

ў памяці апошняя сустрэча ў апартаментах Цінея Руфа і словы, мімаходзь сказаныя Акілам: “...варта ў водныя крыніцы, якімі сілкуецца Бетар, штонішто падсыпаць, і ягоныя насельнікі пачнуць дохнуць, як мухі... у мяне і надзейныя людзі ёсць...” Дык во яны, тыя людзі! Гней тады з абурэннем паставіўся да гідкай Акілавай задумы, здаецца, і сам прапрэтар яе не ўхваліў, але ж потым, мусіць, даў згоду. Абое рабое... Не паспелі атруціць ваду ў Бетары, дык нарабілі паскудства ў Ерусаліме...

У душы Гнея ўзнікла жаданне тут жа, на месцы, пасекчы на кавалкі мярзотніка-самарыцяніна і ягонага брата, але ён перасіліў сябе, стрымаўся: магчыма, лазутчыкі Акілы сапраўды ведаюць пра паўстанне нешта карыснае для рымскага войска, бо, мяркуючы па ўсім, дагэтуль аціраліся ў крэпасці.

— Забярыце іх і трымайце пад аховай! — не паварочваючы галавы, цераз плячо загадаў легат свайму ад’ютанту. — Разбяруся з імі крыху пазней...

— Хай бы нас пакармілі... Каторы тыдзень кавалка хлеба ў руках не трымалі... — Эфраім умольна, як галодны шчанюк, зірнуў у вочы легату.

— Абыдзешся, не здохнеш! — раўнуў у адказ Гней. — Спярша паслухаю, што раскажаце. Можа, і заслужыце якую абгрызеную костку...

Тое, пра што потым распавялі самарыцяне, заслугоўвала не толькі косткі, але і ладнага кавалка мяса (зрэшты, браты яго ўсё адно не атрымалі). Навіна пра заўтрашнюю “іудзейскую суботу” падалася Гнею вельмі цікаваю, і ён паспяшаўся да намёта Севера...

## Штурм

Вылазка за сцены крэпасці сталася для абаронцаў надзвычай удалаю: і рымлян “укусілі” як мае быць, і немалою здабычаю разжыліся. Цяпер перад Бар Кохбам стаяла адна задача: забраць захопленае дабро — найперш ежу і пітво — у тых, хто яго прынёс у крэпасць, пакуль яны ўсё не з’елі, не выпілі: трэба ж, каб хоць нешта перапала і тым, хто заставаўся ў горадзе, дый варта стварыць хай сабе і мізэрныя, але ўсё ж запасы на будучыню, бо паўтарыць падобную вылазку, пэўна ж, удасца не хутка — з гэтага дня рымляне будуць пільнымі як ніколі.

Дабрахоць здабычаю ніхто не дзяліўся, таму былі створаныя асобныя атрады, якія прачэсвалі горад, “шарсцілі” насельнікаў: пагрозамі, а дзе і сілком забіралі трафеі. Не абышлося без крывавых сутычак, бо зброя мелася ў кожнага. Тым не менш, “усё да крошачкі і кропелькі” сабраць не ўдалося: штосьці ўжо было з’едзенае і выпітае, нешта надзейна прыхаванае.

Горад нібы акрыяў, ажыў і, можна сказаць, баляваў астачу дня і ўсю ноч — да самае раніцы. Трапляліся і людзі на падпітку, бо хто-ніхто ў рымскім лагеры разжыўся вінам, хай сабе і не ў вялікай колькасці, але ж ці шмат яго трэба на галодны страўнік?..

Расслабляла, разнявольвала людзей яшчэ і тое, што заўтрашняя субота будзе па-сапраўднаму іудзейскай, калі ўспадоб Богу не толькі не трэба, але і забаронена што-небудзь рабіць ці чым-небудзь займацца.

Нават пасты ўздоўж сцен крэпасці пад раніцу былі знятыя — засталіся толькі назіральнікі. Бар Кохба палічыў, што рымлянам, каб ачомацца ад нападу, спатрэбіцца не адзін дзень. Таму ніхто не звяртаў увагі і не дзівіўся, што з боку рымскіх пазіцый усю ноч даносіліся гул і ляскат, скрозь цемру цьмяна назіралася нейкая мітусня-варушэнне. Дый чаго дзівіцца?

Рымляне, мусіць, даводзяць да ладу свой разбураны лагер...

Насамрэч жа рымляне цэлую ноч рыхтаваліся да штурму крэпасці.

Паведамленне Гнея пра "іудзейскую суботу" выклікала ў Севера незвычайны імпэт: анягож, калі яшчэ выпадзе шанец заспець абаронцаў знянацку і адным махам пакончыць, нарэшце, з паўстанцамі. Север аддаў каманду легіёнам: як толькі сцямнее, пачаць падрыхтоўку да штурму, а на самым досвітку ісці на прыступ.

Спачатку "загаманілі" катапульты і балісты. За ноч рымляне падцягнулі іх як мага бліжэй да крэпасці, і цяпер яны лёгка перакідвалі цераз сцены свае "снарады": катапульты — цяжкія стрэлы, балісты — агромністае каменне і бэлькі. Раз-пораз балісты "выплёўвалі" ёмістасці, напоўненыя вогненным тлушчам ці смалою, і яны нагадвалі хвастатыя каметы, якія пляскаліся на зямлю, на дахі, шыпелі змяюкамі, тысячамі іскраў разляталіся абапал, падпальваючы ўсё, што магло і не магло гарэць.

Падобныя "феерверкі" рымляне ладзілі не раз, але раней яны не маглі нарабіць столькі шкоды, як зараз. Шматлікія абаронцы-лучнікі, выпускаючы хмары стрэл, не дазвалялі балістам наблізіцца, яны змушваліся "пляваццa" здалёк, і "каметы" не заўсёды пераляталі цераз сцены, а калі ўсё ж пераляталі, дык іх паспявалі засыпаць пяском насельнікі горада, якія былі напагатове. Цяпер жа лучнікі на сценах адсутнічалі, а сонныя, няўцямныя насельнікі, з вечара настроіўшыся на бяздзейную, "лянівую" суботу, з жахам і неўразуменнем выскоквалі на вуліцы, у паніцы гойсалі туды-сюды, і мала хто кідаўся тушыць пыpскі вогненнай смалы. Не дзіва, што горад ахапіў вялікі пажар.

Катапульты і балісты яшчэ не паспелі адстраляцца, як да сцен крэпасці не бязладна, а па-ранейшаму трымаючыся ў маніпулах, пабеглі тысячы легіянераў. Паперадзе яны неслі доўгія драўляныя лесвіцы, якія ім беспешкодна ўдалося прыставіць да сцен. І толькі ўжо калі першыя салдаты пачалі караскацца па гэтых лесвіцах, наверсе заўважыўся нейкі рух, і на галовы нападнікаў спярша рэдзенька, а з кожнаю хвілінаю ўсё гусцей і гусцей паляцелі каменне і стрэлы, палілася тая ж распаленая смала. Уздоўж сцен адразу ж павырасталі "чарапахі": салдаты першых шэрагаў выставілі перад сабою шчыты вертыкальна, а астатнія ўзнялі іх над галовамі, шчыльна прытуліўшы адзін да аднаго і стварыўшы суцэльны дах. Ні стрэлы, ні каменне, ні смала не маглі ўжо нашкодзіць нападнікам як след.

Абаронцы спрабавалі адштурхнуць лесвіцы ад сцен, і калі гэта ім удавалася, легіянеры, якія знаходзіліся на драбінах, гулка гупалі на зямлю, ці разбіўшыся насмерць, ці пакалечыўшыся. Аднак на змену ім заступалі іншыя, упарта лезлі наверх, не зважаючы на каменне і стрэлы. Некаторыя легіянеры здолелі ўжо ўзабрацца на сцяну і вялі бой там. Сярод іх быў і легат Гней.

Адчуванне віны за здачу Ерусаліма па-ранейшаму вярэдзіла ягоную душу. Гней не мог спатоліцца вяртаннем горада без бою, бо рэванш здаваўся яму непаўнавартасным. Хоць нейкае заспакаенне магло прынесці толькі ўзяцце Бетара, таму на штурм легат пайшоў у першых шэрагах.

Паступова з крапасных сцен, якія цалкам захапілі рымляне, баі перамясціліся на вуліцы горада.

Бар Кохба ўжо конча ўцяміў, што наблізілася параза — і не толькі ў абароне Бетара, але і паўстання ўвогуле. Калі пачаўся штурм, ён спрабаваў надаць абароне хоць нейкую зладжанасць, арганізаванасць, аддаваў каманды, пасылаў падмацаванне на найбольш небяспечныя ўчасткі і ў рэшце

рэшт сам кінуўся ў адчайную спохватку з перадавым атрадам рымлян, якія, пераадолеўшы сцяну, гацілі перад сабою знясіленых і збянтэжаных іудзеяў, набліжаючыся да цэнтра горада. Ачольваў атрад падборысты, зграбны, ладна скроены камандзір з задзірыстым султанам над шаломам і бліскучымі даспехамі, пэўна, пазалочанымі і пасярэбранымі. Было прыкметна, што ён ужо сталага веку, але арудаваў гладыусам і прыкрываўся мячом гэтак па-заліхвацку, што яму мог пазайздросціць любы маладзён. Бар Кохба прыкінуў, што гэта сама меней трыбун, а то і легат, ад ваяўнічага азарту ў жылах Сімона закіпела кроў, і ён ірвануўся насустрач рымскаму камандзіру.

А той ужо таксама заўважыў высокага, шыракаплечага іудзея з глыбокім шнарам на левай шчацэ. Вакол яго кучкаваліся маладыя ваяры, па ўсім відаць, ахоўнікі, і рымлянін падумаў, што наперадзе нейкі іудзейскі верхавода, магчыма, нават сам Бар Кохба. Легат Гней (а гэта быў менавіта ён) палічыў, што сам Юпітэр пасылае яму шанец вярнуць ваярскую годнасць, напоўніцу рэабілітавацца ў вачах імператара, і ён, размахваючы гладыусам налева і направа, стаў прабівацца да адметнага іудзейскага ваяра.

І, нарэшце, яны сышліся.

Бар Кохба таксама быў у даспехах, адно што не меў на галаве шалома, бо не любіў насіць яго ўвогуле. Дый навошта той шалом? Пры такім высачэзным росце наўрад ці хто-небудзь змог бы сакануць па ім зверху ўніз.

У Гнея ж быў шалом з шырокім забралам, якое прыкрывала падбароддзе, шчокі і часткова нос, таму Бар Кохба не мог дэталёва разгледзець твар свайго праціўніка, і толькі ягоныя блакітныя вочы выпраменьвалі адвагу, рашучасць і... цікавасць.

І той, і другі разумелі, што спохватка іхняя будзе смяротнаю, а таму няпростаю. Разумелі гэта і ваяры з абодвух бакоў, і хоць яны не спынялі сечу, аднак міжволі адступіліся, стварыўшы своеасаблівы круг-арэну, нібы наўмысна даючы сваім камандзірам магчымасць правесці вырашальны, нават сімвалічны бой сам-насам.

Першым зрабіў выпад гладыусам Бар Кохба, але Гней удала засланіўся шчытом і ў сваю чаргу секанýў мячом на ўзроўні шыі. Сімон паспеў адхінуцца, пераступіў з нагі на нагу і зноў пайшоў у атаку, гулка ляснуўшы лязом гладыуса па шышаку шчыта. Ад такога ўдару шчыт звычайнага легіянера, мусіць, разляцеўся б на трэскі, але не той, што быў у Гнея, легата...

Паядынак зацягваўся. Адчувалася, што сышліся сапраўды роўныя супернікі. Адзін праяўляў неверагодную сілу, а другі хоць і не выглядаў на волата, валодаў мячом і шчытом не горш, чым самы спрактыкаваны гладыятар.

І легіянеры, і іудзеі па-ранейшаму не ўмешваліся ў двубой, але, размахваючы мячамі, цікавалі, чый камандзір усё-ткі возьме верх.

Пашэнціла Бар Кохбу.

Гней не паспеў ні ўхіліцца, ні засланіцца ад чарговага магутнага ўдару, гладыус Сімона зверху ляснуўся лязом па шаломе, слізгануў па ім, зачапіў забрала, з-за чаго шалом, зрываючы на скіўіцы скуру, зляцеў з галавы легата і пакаціўся па брукаванцы. Ад болю ў Гнея памутнела ўваччу, на нейкае імгненне ён, як здалося, страціў прытомнасць. Аднак, гэта было не самае страшнае.

У той удар Сімон уклаў столькі сілы, што гладыус, сустрэўшы перашкоду

ў выглядзе шалома і сарваўшы яго, працягваў рух уніз і перабіў-перасек правае плячо Гнея. Легат захістаўся, але на нагах устаяў. Затое меч міжволі выпаў з ягонае перабітае (а можна сказаць, і адсечанае) рукі...

Бар Кохбу толькі заставалася прапароць жывот свайму безабароннаму праціўніку ці яшчэ раз секануць зверху ўніз, і ён ужо размахнуўся, каб зрабіць гэта, аднак у апошняе імгненне раптам застыў, знерухомеў, так і трымаючы свой гладыус узнятым угару. Сімону падалося, што перад ім стаіць... Архелай. Так, Архелай, толькі ў яго чамусьці ссівелыя валасы і скроні, абветраны, узараны маршчынамі твар... Зусім нечакана мільганула ў галаве згадка пра першую сустрэчу з Архелаем, калі Пінхас вёў іх у янаеўскі атрад і хлопец распавядаў пра сваіх бацькоў, пра бабулю Алуму, а яшчэ пра тое, што гэтая бабуля перад смерцю распавяла хлопцу: ягоную маці, яшчэ да нараджэння Архелая, згвалтаваў малады рымскі цэнтурыён...

Гней, ужо змірыўшыся з непазбежнаю гібеллю, не мог даўмецца, чаму гэты іудзей марудзіць, чаму ён раптам уторкнуўся ў яго няўцямным, разгубленым позіркам і не апускае свой гладыус на ягоную галаву.

Здавалася, спыніўся час.

Не спыніўся ён толькі для ад'ютанта Гнея, які, скарыстаўшыся замінкай і ратуючы жыццё легата, падскочыў да Бар Кохбы і па самую рукаятку ўвагнаў свой меч у ягоны жывот. Сімон са здзіўленнем зірнуў на свайго забойцу, затым зноў перавёў позірк на Гнея, хацеў нешта сказаць, але з роту хлынула кроў. Павольна, як бы нехаця Сімон стаў асядаць на зямлю...

— Бар Кохбу забілі! Забілі Месію! — пранесліся над галовамі іудзеяў жахлівыя крыкі, а разам з імі паднялася панічная хваля, пацякла-палілася ў глыбіню шэрагаў, падхопліваючы, захлынаючы іх. Іудзеі, ужо амаль не агрызаючыся, пачалі падавацца назад...

Сімон ляжаў нерухома, але быў яшчэ жывы. Наступаючы на ягонае цела, беглі наперад легіянеры, але ён на гэта ўжо не зважаў. Свядомасць то пакідала яго, то вярталася зноў. Часам Сімону здавалася, што ён ляжыць у родным мястэчку, завалены трупамі сваіх таварышаў, якія наважыліся напасці на рымскі гарнізон. Тыя ж мроі... тое ж трызненне... Але чаму не чуваць голасу Бога?.. Чаму? Сімон помніць гэты голас з неба, помніць... Зараз, зараз ён зноў прагучыць... Вось і велічнае святло-ззянне ўжо з'явілася перад ягонымі вачыма... За ім павінны прагучаць голас, які загадае яму падняцца і ісці... Куды ісці?.. Сімон ніяк не мог успомніць, куды яму загадаў ісці той голас... Але гэта няважна... Зараз прагучыць голас і нагадае... Зар...

І святло-ззянне знікла. Знікла ўсё. Засталася адна цемра.

9 дня месяца ава 135 г. н.э. абаронцы Бетара канчаткова спынілі супраціў.

Рымляне жорстка расправіліся з насельнікамі горада, паводле сведчанняў летапісцаў, "уся зямля тут набрыняла іудзейскаю крывёю". Бетар быў зруйнаваны[1].

## Над абрывам

Людзей у пячорах амаль не засталося. Большасць паўмірала, а ўсе, хто мог падняцца наверх, здаліся ў палон.

---

[1] Месца, дзе знаходзіўся Бетар, цяпер па-арабску называецца Хірбет-ал-Яхуд —"Яўрэйскія разваліны".

Апусцела і “янаеўская” пячора. Страціўшы сваіх мужыкоў, неяк хуткацечна, адна за адной, сканалі і жанкі.

Архелай і Вірсавія, Нахум і Малка пакуль што трымаліся — магчыма, таму, што былі маладзейшымі.

Рана Архелая неўзабаве зажыла-зацягнулася — як і не было.

Малка, нарэшце, разрадзілася. Роды давялося прымаць Вірсавіі, бо на гэты час, акрамя іх чацвярых, у пячоры ўжо нікога не было.

Дзіця бесперапынна крычала, каўкала, як кацяня, Малка падсоўвала яму сваю ссохлую, і без таго амаль дзіцячую цыцку, але малака ў яе не было. На трэці дзень хлопчык ссінеў — ці то ад крыку, ці то ад голаду — а потым, усхліпнуўшы ў апошні раз, канчаткова заціх...

Нахум паспрабаваў забраць яго ў Малкі, каб пакласці цельца побач з іншымі памерлымі дзецьмі, аднак нечакана Малка вызверылася на яго, як раз’ятраная тыгрыца:

— Адыдзі! Не чапай! Мой Янайчык жывы!

З ейных вачэй зыходзіў такі шалёны бляск, што Нахум палічыў за лепшае адступіцца.

У наступныя дні, нават засынаючы, Малка не выпускала мёртвага хлопчыка з рук: размаўляла з ім, спявала калыханку, па-ранейшаму тыцкала сваю цыцку ў нерухомы тварык... Падобна, яна кранулася розумам.

Дзіўна, але з нараджэннем дзіцяці ў Малкі нібы пабольшала сіл, цяпер толькі яна соўгалася па пячоры, люляючы хлопчыка, астатнія днямі і начамі ляжалі моўчкі, уторкнуўшыся позіркамі ў каменную столь, а часцей дык з заплюшчанымі вачыма. Чакалі смерці. А яна ўсё не прыходзіла.

Аднае начы Архелаю прысніліся бабуля Алума. Праўда, сон быў кароткім, амаль імгненным, бабуля толькі і паспела сказаць:

— Што ж гэта ты, унучак, паміраць намерыўся? Рана табе яшчэ да мяне... Дый не адзін жа ты цяперака — за сваю Вірсавію ў адказе. Вы павінны жыць, нарадзіць дзетак...

Сон на гэтых словах абарваўся, Архелай колькі хвілін яшчэ паляжаў моўчкі, а затым, не пазнаўшы свайго голасу, прахрыпеў:

— Нахум! Ты мяне чуеш, Нахум?

— Чую, — сябар ужо таксама не спаў.

— Я вось пра што... Мы з табою далі адзін аднаму слова, што хутчэй памром, чым здадзімся ў палон. Так?

— Так. А ты што, перадумаў?

— Ды не, я гатовы памерці... Як і ты... Толькі чаму мы нашых дзявок на смерць асудзілі?

— Дык яны ж таксама пагадзіліся. Хіба не памятаеш? Сказалі, да апошніх дзён будуць з намі...

— З намі... Гэта азначае толькі, што куды мы, туды і яны. Выходзіць, мы з табою памром, а заадно пацягнем у магілу і сваіх жанчын... А застанемся жыць — жыцьмуць і яны... Табе не боязна распараджацца чужым жыццём?

Нахум не адказаў, надоўга прымоўк, думаючы над словамі Архелая.

— А нашто маёй Малцы жыць? — нарэшце роспачна мовіў ён. — Ты ж бачыш, з глузду з’ехала... Каму патрэбнае такое жыццё?

— Мне здаецца, гэта часова, — Архелай адказаў адразу, відаць, таксама думаў пра незайздросны стан Малкі. — Гора яна перанесла вялікае — вось і памуцілася трохі ў галаве. Я чуў, што такое бывае... Але потым можа прайсці...

— Можа прайсці? — ажывіўся Нахум. — Ты сапраўды гэта чуў? Ад каго?

— Не памятаю... Здаецца, ад бабулі Алумы..

— А-а, ты пра яе расказваў! Разумная, відаць, была старая, дасведчаная. І яна абы-што не казацьме... — Нахум ужо конча акрыліўся надзеяй. — Дык што ты прапануеш? Здавацца?

— А хіба ў нас ёсць іншае выйсце, каб выратаваць жанчын?

— Няма... Але ж... Мне здаецца, як толькі мы падымемся наверх, рымляне нас адразу пазабіваюць...

— Магчыма, і так... А можа, і не... Рымляне ўжо ўдостатку насыціліся крывёю, вунь колькі пазабівалі... Але ім патрэбныя і рабы — хтосьці ж павінен адбудоўваць разбуранае... А мы маладыя, такія для іх самы раз...

— Дык усё-ткі ты згодзен на рабства?

— Я табе пра гэта не казаў. Я сказаў толькі, што нас могуць пакінуць жывымі. А з рабства потым можна і ўцячы...

На нейкі час яны прымоўклі абодва. Кожны думаў і пра сваё, і пра адно і тое ж.

— Дык што ты надумаў, Нахум? — першым зноўку азваўся Архелай.

— Што надумаў... Мусіць, і сапраўды трэба здавацца... Куды дзенешся...

На іх, яшчэ зусім нядаўна маладых і бестурботных, зваліўся такі груз адказнасці, што яны за лічаныя месяцы нібы пасталелі на дзясяткі год, сталі разважаць, як мудрыя дзядзькі.

— Тады давай будзіць жанчын...

Зрэшты, ні Вірсавія, ні Малка таксама не спалі і чулі ўсю іхнюю размову, аднак у яе не ўмешваліся: жанкам не варта лезці ў справы, якія належыць вырашаць толькі мужчынам.

Ужо акурат развіднела.

На зборы не пайшло ніводнае хвіліны, бо браць з сабою нейкія рэчы не было сэнсу: рымляне ўсё адно адбяруць, дый выбрацца наверх з паклажай будзе вельмі цяжка, ім бы самім, знясіленым, як-небудзь дабрысці-дапаўзці...

Нахум зрабіў яшчэ адну спробу забраць у Малкі мёртвае дзіця, але яна агрызнулася з яшчэ большым гневам:

— Не аддам! Хлопчык жывы! А будзеш чапляцца, дык сама тут застануся, але Янайчыка не пакіну!

Давялося Нахуму змірыцца. Ён толькі і сказаў:

— Пойдзеш у мяне паперадзе. Я буду прытрымліваць за спадніцу. Калі што, дык...

Яно і праўда: прабірацца над прорваю з кульком у руках, не маючы магчымасці за што-небудзь зачапіцца ці прытуліцца, — вельмі рызыкоўна.

Першым на сцежку ступіў Архелай, за ім — Вірсавія, далей — Малка і Нахум. Ступалі моўчкі, рукі і ногі ва ўсіх калаціліся — не ад страху, а ад знямогі.

Неўзабаве іхнія крокі, шоргат падэшваў аб пясок і каменне пачулі наверсе патрульныя легіянеры. Адзін з іх нахіліўся, зірнуў у бездань і радасна-зычна, каб пачулі ўсе ў лагеры, выгукнуў:

— Го! Падобна, іудзеі здавацца ідуць!

У лагеры ўжо заставалася чалавек дваццаць — не болей. Дый навошта

трымаць тут цэлую цэнтурыю, калі ў пячорах ужо амаль абязлюдзела? Да абрыву адразу ж пачалі падбягаць астатнія легіянеры, якім даўно надакучыла ацірацца ў гэтай глухмені, таму салдаты весела і адначасна здзекліва сталі падбадзёрваць тых, хто падымаўся:

— Гэй, мужык, не спатыкніся, пад ногі глядзі, а то ўпадзеш і нос разаб'еш!

— Дзеўку ў першую чаргу трымай, мы ўжо згаладалі па жаночым целе!

— Ат, як такія дзеўкі, дык лепей з казой ці з авечкай! Зірні: худыя, як трэскі...

Архелай ад злосці скрыпеў зубамі, Нахум люта зыркаў наверх спадылба, але ў адказ яны нічога абразлівага выкрыкнуць не маглі: і сілы бераглі, і не варта было злаваць людзей, якія хутка вырашацьмуць іхнія лёсы.

І толькі Вірсавія, зняважаная гнюснымі намёкамі, успрыняўшы іх усур'ёз, раптам захісталася, страціла раўнавагу. Архелай, вядома ж, гэтага бачыць не мог, затое своечасова скмеціла Малка. Дагэтуль яна трымала кулёчак, ашчаперыўшы яго абеируч, а тут выкінула адну руку наперад і паспела схапіць Вірсавію за край кашулі, не даўшы ёй кульнуцца ўніз галавою...

Усё гэта адбылося настолькі імгненна, што ні Вірсавія, ні Малка нават не войкнулі, таму іхнія абраннікі так і не даведаліся, якой небяспекі толькі што пазбегла Вірсавія дзякуючы сяброўцы.

З вялікімі высілкамі маладзёны, нарэшце, дабраліся да краю абрыву. Архелай літаральна выпаўз на скалу і, не падымаючыся, стоячы на каленях, павярнуўся спінаю да легіянераў, быццам на іх не зважаючы, стаў дапамагаць астатнім. Нахуму давялося падштурхоўваць Малку ззаду.

Прыгорбленыя, падрапаныя, у абдзёртай адзежы, яны моўчкі сталі ў радок перад зграяй легіянераў, чакаючы для сябе прысуду.

— У пячоры нікога не засталося? Усе выйшлі? — грозна спытаўся адрузлы легіянер, які, відаць, быў тут за галоўнага.

— Усе... — выціснуў з сябе Архелай.

— А што ў тваіх руках? — легіянер перавёў позірк на Малку. — Пакажы!

І ён, памкнуўшыся да маладое жанчыны, працягнуў да яе руку. Малка адхіснулася, зрабіла крок назад і залямантавала:

— Не чапай! Не тваё! Не аддам!

На помач свайму камандзіру кінуліся яшчэ два легіянеры, і пасля зацятай валтузні ім удалося выкалупіць з рук Малкі кулёчак.

— Аддайце! Вярніце маю крывіначку! — ужо галасіла Малка, парываючыся зноў выхапіць немаўля.

Легіянер адгарнуў кавалак белага сукна, якім быў прыкрыты тварык дзіцяці і, не хаваючы здзіўлення, усклікнуў:

— Сапраўды, дзіця! Калі ж гэта вы паспелі? — раптам твар ягоны скрывіўся, перакасіўся ад агіды. — Ды ён жа мёртвы! Паглядзіце, ссінеў увесь! Фу, брыдота! — з гэтымі словамі ён сплюнуў і... шпурнуў кулёчак у бездань.

— А-а-а! — вырвалася з грудзей Малкі, і яна, не даўшы нікому ніводнага імгнення для роздуму ці нейкіх дзеянняў, кінулася ў прорву ўслед за сваім сыночкам. Ад яе жудасна-адчайнага крыку паляцела-панеслася па цясніне гулкае рэха...

— Ты што нарабіў? Ды я цябе!.. — адкуль толькі ў Нахума ўзяліся

сілы, ён, як пантэра, наляцеў на легіянера, абедзвюма рукамі схапіў за горла і стаў душыць.

— Памаж-ж-жыце!.. — захрыпеў рымлянін, хоць і не адразу, да іх падступіліся два легіянеры, якія стаялі бліжэй за ўсіх, і паспрабавалі адарваць Нахума ад камандзіра, але іхнія высілкі былі марнымі — хлопец ужо зубамі грыз глотку свайго ненавіснага ворага. Кагалам усе яны паваліліся на зямлю.

На хаду выцягваючы з похваў гладыус, да кучы падскочыў яшчэ адзін легіянер і, прымерыўшыся, каб не патрапіць у свайго, увагнаў меч Нахуму паміж лапатак.

Перад гэтым на помач сябру паспрабаваў кінуцца Архелай, ён ужо нават зрабіў два крокі наперад, але пад ногі яму ўпала Вірсавія, схапіла за калені, умольна-пакутна гледзячы знізу ўверх, закрычала:

— Не трэба! Я прашу! Ты ўсё адно не паможаш! І нас з табой заб’юць!

І Архелай адступіў назад.

Ягоны намер не застаўся па-за ўвагай рымлян, аднак яны ацанілі і тое, што малады іудзей усё-ткі паслухаўся дзеўкі, не палез у бойку.

Тым часам галоўны легіянер, трымаючыся за акрываўленую шыю, з крэктам падняўся і з усяе сілы ўдарыў нагою нерухомае цела Нахума.

— Ледзьве глотку не перагрыз! А здавалася б, здохлік...

— Куды яго? — запытаўся легіянер, які стаяў побач.

— А то ты не ведаеш! Цягніце да абрыву!..

Калі цела Нахума валаклі да прорвы, Вірсавія адвярнулася, заплакала, а Архелай, наадварот, глядзеў услед, не адрываючыся, хоць так, хоць позіркам праводзячы ў апошні шлях свайго лепшага сябра...

— А з гэтымі што будзем рабіць? — вярнуўшыся ад абрыву і кіўнуўшы галавою ў бок Архелая і Вірсавіі, запытаўся той жа легіянер, чамусьці самы тут актыўны. — Туды ж?

Камандзір, ацэньваючы, пільна зірнуў на маладзёнаў і разважліва мовіў:

— Ды яно і варта было б, але ж... Бач, гэты бэйбус за свайго не ўступіўся... Дзеўка малайчына... Глядзі, якія спраўныя, дарма, што худыя завельмі... Калі трохі падкарміць, дык неблагія рабы атрымаюцца... Так што хай жывуць! Вядзіце іх у агульны лагер...

## Апошняя пакута

Квін Лолій Урбік адразу, як толькі ўвайшоў у кабінет Севера, заўважыў, што ягоны начальнік чамусьці надзвычай усхваляваны і ўзрушаны.

— Што-небудзь здарылася? — насцярожана запытаўся былы намеснік Ніжняе Германіі.

— Здарылася... Я атрымаў пасланне ад імператара...

— І што ж ён такое напісаў, з-за чаго ты змусіўся страціць спакой? Здаецца ж, усё ў нас ідзе як след: Бетар захоплены, паўстанне, лічы, задушана...

— Гэта так. Аднак Адрыян усё адно незадаволены. Вельмі ўжо вялікія страты мы панеслі... Ты ж ведаеш, імператар у пасланні да Сената з нагоды перамогі нават не напісаў звыклае фразы: “Калі Вы і дзеці Вашыя здаровыя — добра. Я і мае легіянеры здаровыя”. Заўваж: упершыню ў гісторыі не прагучалі гэтыя словы... Дарэчы, калі мы ўжо загаманілі пра здароўе, як там пачуваецца легат Гней?

— Не вельмі... Давялося ампутаваць правую руку. Які з яго цяпер ваяка?

— Ваяваць ён ужо і не будзе. Я перад гэтым напісаў Адрыяну, што Гней штурмаваў Бетар у першых шэрагах, праявіў выключную храбрасць і нават асабіста забіў Бар Кохбу...

— А кажуць, што іудзейскага верхаводу быццам бы прапароў не сам Гней, а ягоны ад'ютант.

— Якая розніца? Галоўнае — менавіта Гней сашчапіўся з Бар Кохбам. А хто нанёс вырашальны ўдар... Важна, каб гэта быў военачальнік, а не просты легіянер. Для прэстыжу, для значнасці перамогі... Дык вось, імператар адклікае Гнея ў Рым, там ён атрымае належнае ўшанаванне і, падобна, стане сенатарам. Што яшчэ трэба, каб годна сустрэць старасць? Дарэчы, адклікае ён і цябе. Час вяртацца ў сваю Ніжнюю Германію...

— А ты?

— А я застаюся тут... Так загадвае імператар.

— Але ж якая ў тым надоба? Навошта такому слыннаму военачальніку, як ты, заставацца без войска? Вунь ужо амаль усе легіёны пакінулі Іудзею...

— Усе, ды не ўсе. Акрамя Ерусалімскага легіёна, у Іудзеі застаецца Сірыйскі. Надоўга. Магчыма, назаўжды. Зрэшты, самой Іудзеі, як правінцыі, ужо няма...

— Што ты маеш на ўвазе?

— Імператар загадаў выдаліць гэтую назву на ўсіх мапах і ўвогуле не згадваць яе — ні ў лістах, ні ў летапісах. Нават слова "іудзей" пад забаронай.

— А як жа цяпер называць гэтую тэрыторыю?

— Сірыя-Палесціна. І што самае непрыемнае, Адрыян прызначыў мяне праконсулам на гэтай, як ты кажаш, тэрыторыі...

— Дык віншую! Такі гонар! Займееш сапраўдную ўладу!

— Уладу над чым і над кім? Мы ж усіх насельнікаў вынішчылі тут цераз аднаго, і нават болей... Дый каму ўвогуле ўспадоб кіраваць гэтым мяцежным краем? У мяне няма сумневу, што праз нейкі час іудзеі акрыяюць і зноў пачнецца смута...

— Дык Адрыян, напэўна, і пакідае цябе тут, каб не дапусціць тае смуты?

— Напэўна... Але мне ад гэтага не лягчэй... Дарэчы, імператар яшчэ цікавіцца лёсам Акібы. Ён лічыць, што не Бар Кохба, а менавіта святар распачаў мяцеж і ўзначальваў яго. Правільна лічыць... Таму Адрыян патрабуе, каб Акібу напаткала пакутная кара. Прылюдная. Маўляў, хай для іншых будзе навукай... Ніяк не магу даўмецца, што здарылася з Адрыянам. Ён ніколі не быў такім крыважэрным...

— А за чым замінка? Хіба нам цяжка наладзіць "прылюдную і пакутную кару"?

Сявер з недаўменнем зірнуў на свайго намесніка.

— Я ваяр, а не кат. Адна справа забіваць мяцежнікаў на полі бою, нават вынішчаць іх пасля, а другая — чыніць расправу над безабароным старым чалавекам...

— Гэта не проста стары чалавек... І як бы ты ні хацеў, а выканаць загад Адрыяна давядзецца.

— Давядзецца. Дык можна ж забіць — і ўсё. Без аніякіх катаванняў, цішком. Што дасць пакутная смерць Акібы? Нам з табою як ваярам – нічога, апрача ганьбы. Для імперыі карысці таксама аніякай. Паслядоўнікі

Акібы выстаўляцьмуць “гучную” гібель як сімвал, а ягоныя пакуты — як сцяг для іншых пакаленняў. Такім чынам, Акіба, нават мёртвы, будзе сядзець у нас косткаю ў горле, а для іудзеяў навекі застанецца святым пакутнікам, роўным іхняму Маісею... Нам гэта трэба?

— Я з табою згодны, але насуперак волі імператара не пойдзеш. Калі б мы без лішняга гвалту загадалі забіць Акібу раней, дык ніякіх непрыемных наступстваў не было б. А цяпер... Публічнае кары не мінаваць. У Адрыяна, безумоўна, ёсць тут свае “вушы і вочы”, якія за табою сочаць і пра ўсё яму дакладаюць. Дакладуць і пра гэта...

— У тым жа й справа. Давядзецца ўсё ж зрабіць кару паказальнай...

Астрожнае жытло, у якое трапіў Акіба пасля захопу рымлянамі Бетара, мала чым рознілася ад таго пакоя-келлі, дзе ён меў прытулак напярэдадні выступу ў Ерусалім. Хіба што адсутнічалі збан і кубак ды не было акенца, праз якое маглі б трапіць сюды сонечныя промні, таму ў памяшканні і ўдзень, і ўначы стаяў беспраглядны змрок. Прынамсі, ложка таксама не было, замест яго ў кутку, каля забраснявелай сцяны, месціўся спляжаны насціл з сатлелай і смярдзючай саломы.

У апошнія месяцы паўстання Бар Кохба пазбягаў сустрэч з Акібам, нібы даючы пазнаку, што святарства для яго — як абуза, ва ўсякім разе прыслухоўвацца да рабінаў, тым лікам да самага галоўнага з іх, Сімон не будзе. Больш за тое, калі выкрылася здрада рабіна Элеазара з Модзіна, Акіба чакаў, што Бар Кохба западозрыць у змове ўсіх святароў і распачне іхні перaслед, а то і вынішчэнне. На шчасце, не распачаў. Акіба, дый бальшыня іншых рабінаў, насамрэч не мелі ніякага дачынення да змовы, а ўчынак Элеазара і ягоных паплечнікаў стаў нечаканкаю для іх саміх.

Калі ў Бетары рымляне ўчынілі крывавую разню, Акібу мінаваў трагічны лёс. Відаць, Север, а магчыма, і сам імператар, загадалі на пэўны час і для нейкае мэты пакінуць жывым натхняльніка паўстання. Акібу запіхнулі ў гэтае астрожнае памяшканне, дзе ён ужо амаль два месяцы чакаў для сябе прысуд.

Ніхто, акрамя ахоўнікаў, не меў права наведваць самага важнага злачынца імперыі. Але ніякія забароны не маглі супрацьстаяць чалавечай сквапнасці, грошы пераадольваюць любыя перашкоды. Ахоўнікі, атрымаўшы жменю срэбных дынараў, цішком дазвалялі нешматлікім наведнікам хвіліну-другую пагутарыць з вязнем. Сярод іх большасцю былі колішнія паплечнікі Акібы, якім удалося ўратавацца і ад якіх галоўны рабін давядваўся, што робіцца ў Іудзеі.

А навіны Акібу, безумоўна, не радавалі.

Тое, што паўсюль вынішчаецца народ, ён ведаў і раней. Яшчэ горшымі сталіся для Акібы звесткі, што вынішчаецца, выпустошваецца і вера.

Ацалелае святарства спрабуе перайначыць, прыстасаваць Закон да ўмоваў пераследу і прыгнёту. З асабліваю жарсцю вядуцца спрэчкі ў рабінскім асяродку Лідды[1].

Абмяркоўваецца, якія прадпісанні Закона дазвольна парушаць, каб пазбегнуць смерці, і дзеля якіх варта ператорываць пакуты. У рэшце рэшт некаторыя казуісты прыйшлі да высновы, што ў час пераследу можна адмовіцца ад усіх патрабаванняў Закона, пакінуўшы толькі тры забароны: ідалапаклонства, чужаложства і забойства. Вылучаецца такое правіла:

[1] Гэты горад сапраўды даў знакамітых пакутнікаў, якіх потым назвалі “забітымі ў Ліддзе”.

“Супраціў загадам імператара ёсць самазабойства”. Прызнаецца, што выконваць Закон можна і таемна, скажам, абразаць дзяцей, не ладзячы з гэтае нагоды пышнае, як раней, свята.

Найперш, палічылі, варта кіравацца запаветам “Захоўвайце пастановы Мае і законы Мае, выконваючы якія, чалавек будзе жыць. Я Гасподзь (Бог ваш)”[1]. Гэта значыць, калі ёсць выбар паміж безумоўным выкананнем Закона і жыццём, дык належыць аддаць перавагу другому, гэтак жа, як і пры небяспечных хваробах можна ўжываць лекі, якія ўтрымліваюць “нячыстыя рэчывы”. Аднак жа пагадзіліся наконт таго, што лепей пайсці на смерць, чым парушыць Закон публічна.

Ад усяго гэтага душу Акібы паглынала роспач. Выходзіць, паўстанне, якое ён замысліў і ўзняў, прынесла шкоду не толькі ягонаму народу, але і веры, якая стагоддзямі заставалася непарушнай, і вось цяпер хай сабе і з дабрадзейных памкненняў, каб ратаваць народ, нехта хоча “паправіць” Закон, прыстасаваць яго да неспрыяльных абставін. Акібу міжволі прыгадвалася размова з ерусалімскім епіскапам Іудам і ўвогуле непарушнасць хрысціян, якія з пагардаю ставяцца да смерці, прымаюць яе з пакорай і адрачонасцю, бо не лічаць зямное жыццё самаю вялікаю каштоўнасцю, мяркуюць, што смерць, асабліва ў пакутах за веру, набліжае іх да Бога, і што душы іхнія жыцьмуць вечна. О, як не хапае зараз іудзеям гэтай адрачонасці, гэтага грэбавання зямным існаваннем дзеля чысціні веры, дзеля захавання Закона! Хіба язычнікі-рымляне, катуючы пакутнікаў-іудзеяў, задавалі б ім здзеклівае пытанне: “Ну і дзе цяпер ваш Бог, чаму ён вас не ратуе?”, калі б іудзеі, як тыя ж хрысціяне, былі цвёрда ўпэўненыя, што Бог і ў самых цяжкіх пакутах застаецца з імі і наперадзе, пасля смерці, іх чакае “царства нябеснае”? Ніхто тады не задумваўся б, як “паправіць” Закон, каб захаваць зямное жыццё...

Сам Акіба не баяўся смерці — незалежна ад таго, ёсць тое нябеснае царства ці яго няма. У рэшце рэшт, у параўнанні з вечнасцю чалавечае жыццё такое кароткае (адна-дзве хвіліны), што няма вялікае розніцы, праіснуеш ты на гэтай зямлі адно імгненне ці два. Галоўнае — пражыць годна, у злагадзе з Богам.

Болей Акібу вярэдзілі думкі пра ўласныя памылкі. Не, ён не шкадаваў аб тым, што ўзняў народ на паўстанне, бо ўжо немагчыма было трываць здзекі з людзей, са святыняў, з веры.

Але ці правільна ён зрабіў, што прыдумаў Месію? Трызніў Гамаліїл пры апошняй сустрэчы, ці ягонымі вуснамі гаварыў сам Бог і збудзецца злавеснае прароцтва, што “рассее цябе Гасподзь Бог ва ўсе народы, ад краю зямлі да краю яе”? Ці не наконт Бар Кохбы гучала перасцярога ў Другазаконні: “Прарока, які асмеліцца гаварыць ад імя Майго тое, чаго Я не загадваў яму гаварыць... такога прарока аддайце смерці”? У рэшце рэшт, якога Прарока меў на ўвазе Бог, калі папярэджваў, што іудзеі Яго не паслухаюцца, з-за чаго ім наканаваныя неймаверныя пакуты? Пакуты — вось яны, навідавоку, і ўжо доўжацца больш як палову стагоддзя. Хрысціяне сцвярджаюць, што тым Прарокам, Божым пасланцом акурат і быў Хрыстос, якога іудзеі не тое што не паслухаліся, а нават асудзілі на пакутную смерць. Няўжо яны маюць рацыю?.. Акіба не мог з гэтым змірыцца, гнаў з галавы падобныя думкі як далей...

А яшчэ Акіба так і не змог прыйсці да канчай высновы, насамрэч

[1] Левіт 18:5.

сатварыў ён вялікі грэх перад Богам, ці знойдзецца для яго хоць нейкае апраўданне. Усё-ткі ён хацеў як лепш, калі і памыляўся, дык шчыра, без аніякае ўласнае карысці. Што ж, няхай сам Бог вырашае...

З-за адсутнасці акенца Акібу цяжка было вызначыць, што на дварэ — дзень ці ноч, але ён арыентаваўся на нейкія гукі, якія чуліся звонку, на ўласныя адчуванні. І аднойчы ўвечары яму яскрава падалося (нібы хтосьці падказаў знутры самога сябе), што заўтра адбудзецца ягонае пакаранне. Прадчуванне зусім не выбіла Акібу з раўнавагі, ён нават адчуў нейкую палёгку, адно што цэлую ноч не самкнуў вачэй — апантана маліўся...

Раніцай у астрожнае памяшканне завітаў не адзін ахоўнік, як звычайна, а адразу два. Яны моўчкі, схапіўшы пад пахі, узнялі Акібу з каленяў — мусіць, не верылі, што нямоглы стары здолее пайсці самастойна — і пацягнулі да выхаду.

Апынуўшыся на дварэ, Акіба не здагадаўся заплюшчыць вочы, і ў вачах, адвыклых ад святла, адразу пацямнела, з-пад павек выкаціліся слёзы. Без староннняй дапамогі ён ужо насамрэч не змог бы рухацца, бо нічога не бачыў.

Ахоўнікі на гэта не зважалі, цягнулі старога ў той бок, адкуль чулася людская гамана.

Толькі праз некалькі хвілінаў цёмная заслона перад вачыма Акібы спакваля пачала рассейвацца, і скрозь яе прабіліся цьмяныя абрысы навакольнага асяроддзя.

У астрожным двары без асаблівай пыхлівасці выстраілася адна рымская цэнтурыя. Збоку і крыху воддаль, збіўшыся ў купку, туліліся адзін да аднаго абарваныя, ссохлыя людзі — відаць, ацалелыя насельнікі, якіх рымляне сагналі сюды, каб яны назіралі за наканаваным дзействам і потым пераказалі ўбачанае астатнім. Людзі скіроўвалі позіркі сабе пад ногі, нібы саромеючыся Акібы.

Пасярэдзіне плошчы чамусьці гарэла вогнішча, каля яго высіўся ўкапаны ў зямлю слуп. “Няўжо мяне паспрабуюць спаліць?! — мільганула ў галаве Акібы здагадка. — У такім разе чаму яны распалілі вогнішча загадзя?”

Ахоўнікі падвялі Акібу да слупа, прымусілі старога абхапіць яго рукамі, накінулі на запясці вяроўку і моцна яе нацягнулі, завязаўшы канцы вузлом. Акібу так шчыльна прыціснула тварам да слупа, што ён ледзьве мог павярнуць галаву.

Рымляне рабілі ўсё замаруджана, у поўнай цішыні, як бы нехаця, салдаты таксама назіралі без нейкай узрушанасці ці імпэту, дый увогуле ўсё гэтае дзейства выглядала паказушна і выконвалася нібы пад прымусам.

За сваёю спінаю Акіба пачуў злавесны голас:

— Ну, што, іудзейскі верхавода, прыйшоў час расплаты. Не спадзявайся, што я буду секчы цябе бізуном. Во, пабач! — і перад вачыма старога нехта правёў спярша вялізнымі абцугамі, а затым і граблямі, на якіх замест звыклых зубцоў былі замацаваныя вострыя крукі.

Акіба паспрабаваў азірнуцца, каб паглядзець у вочы кату, але яму гэта не ўдалося, а сам мучыцель, падобна, не меў ахвоты выстаўляць напаказ сваё аблічча.

Да Акібы даляцелі іскры ад вогнішча: відавочна, кат паварушыў дровы, напальваючы да чырвані абцугі і граблі. Вось-вось ён вернецца і пачне катаванне...

Прадчуваючы блізкую смерць, Акіба з напругаю павярнуў галаву да купкі мясцовых насельнікаў і, наколькі мог, зычна выгукнуў:

— Дзеці мае! Не бядуйце па мне! Я дасягнуў сваёй мэты! Я жарсна жадаў аддаць сваё жыццё дзеля праслаўлення Імя Божага, бо сказана: "І палюбіў Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім..." Хіба ёсць лепшы доказ гэтай бязмернай любові, чым смерць, якая асвячае Імя Божае?!

У гэтую хвіліну кат з трэскам разарваў заскарузлы балахон на Акібавай спіне, да самага пояса агаліўшы ссохлае, з выразнымі рабрынамі па баках, тулава старога.

— Слухай, Ізраіль! — яшчэ гучней закрычаў Акіба. — Іегова — наш Бог! Іегова — Бог наш адзіны!

Акіба адчуў на сваёй спіне дотык распаленага жалеза, і ў наступнае імгненне клюшні абцугоў вырвалі з ягонай ключыцы кавалак мяса разам са скурай. Святар ледзь не страціў прытомнасць, ціха застагнаў, але зноў уголас вымавіў:

— Іегова — Бог наш а-а-дзі-і-ны-ы!

Гэтае "адзіны" ён цягнуў як бы нараспеў, тужліва-працяжна, ад чаго ўсім, тым лікам і легіянерам, рабілася млосна, у душы закрадваўся незразумелы страх.

Вырваўшы абцугамі яшчэ некалькі кавалкаў старэчай плоці, кат узяўся за граблі. Вострыя крукі ўпіліся ў цела паблізу шыі і павольна папаўзлі ўніз, здзіраючы са спіны пласты скуры і пакідаючы глыбокія баразны.

— Іегова — Бог наш а-а-дзі-і-ны-ы! — напружваючы апошнія сілы, толькі гэтыя словы цяпер паўтараў Акіба.

Праклаўшы баразны да самае паясніцы, кат зноў узняў граблі і ўваткнуў крукі ў плечы старога.

— Іегова — Бог наш а-а-дзі-і-ны-ы! — ужо зусім ціха ў апошні раз выціснуў з сябе Акіба і, перш чым адысці ў нябыт, ён, як здалося, пачуў голас Бога:

— Блажэнны Акіба, які памёр, вымаўлячы слова "адзіны"!..[1]

* * *

*Вайна 132-135 гг. стала апошнім значным паўстаннем іудзеяў супраць рымскіх каланізатараў[2]. У Талмудзе гэты перыяд пазначаны як "час небяспекі", "час вынішчэння". Паводле Дыона Касія, акрамя паўсотні крэпасцяў, "было знішчана 985 значных паселішчаў, у бітвах загінула 580 000 і яшчэ большая колькасць ад голаду і хваробаў, амаль уся Іудзея ператварылася ў пустыню". Былі апустошаныя таксама Кіпр, Кірэна, канчаткова разрабаваны Егіпет, што ў рэшце рэшт абумовіла эканамічны крызіс Рымскай імперыі ў III ст. н.э. Стала немагчымаю наступная экспансія імперыі на Усход.*

*Рэшткі насельніцтва мяцежнай правінцыі былі прададзеныя ў рабства, прычым людзі каштавалі не даражэй, чым коні. У Церабінце паблізу Хеўрона ўзнікла Кірмашнае поле, на якім штогод ішоў гандаль жывым таварам. Тых, для каго не знайшлі пакупнікоў, гналі ў Газу і там прадавалі на іншых кірмашах, перавозілі ў Егіпет, прычым большасць рабоў гінула пры караблекрушэннях ці ад голаду.*

*Іудзеі, якім удалося ўцячы ў пустыню, лічылі сябе памілаванымі Богам.*

---

[1] Як засведчана ў Талмудзе, гэтыя словы сапраўды прагучалі з неба.

[2] Зрэшты, смуты ў Палясціне адбываліся і пазней. Напрыклад, падчас імператарства Септымія Севера на чале паўстанцаў стаяў нехта Клаўдый, якому ўдалося авалодаць Іудзеяй і Сірыяй і ледзь не захапіць у палон самога імператара, які следаваў у Італію пасля вайны з парфянамі (199 г.)

*Надзея на аднаўленне Храма канчаткова знікла, на ягоным месцы быў узведзены храм Юпітэра Капіталійскага. Забудова Эліі Капіталіны распачалася з яшчэ большым імпэтам. Было зроблена ўсё, каб знішчыць памяць аб мінулым. На паўтара стагоддзя знікла назва "Ерусалім", і пра яе амаль ніхто не ведаў. У горадзе з'явілася мноства язычніцкіх пабудоў: форумы, лазні, храмы, тэатры, тэтранімфей і г.д. Паўсюль выраслі статуі: Вакха, Серапіса, Астарты, Дыаскуры і асабліва шмат — імператара Адрыяна. Паблізу Галгофы ўзвысіліся статуі Юпітэра і Венеры. А над варотамі, ад якіх пачыналася дарога на Віфлеем, высілася скульптура з выяваю свінні, у чым іудзеі бачылі насмешку над пераможаным народам (насамрэч жа дзікі кабан быў рымскім сімвалам і маляваўся на сцягах легіянераў).*

*Эдыкт Адрыяна прымушаў усіх яўрэяў пакінуць Ерусалім пад пагрозаю смерці, ім нават было забаронена бачыць Святы горад. Толькі адзін раз у год, у гадавіну ўзяцця Ерусаліма, яўрэям дазвалялася прыйсці і паплакаць на руінах Храма. Зрэшты, і гэты дазвол каштаваў ім вельмі дорага. "У гэты дзень, — піша св. Еранім, — ты мог бачыць пануры натоўп, народ самы няшчасны, хоць ён і не паспявае выклікаць спагаду, які збіраецца, падыходзіць. Лядашчыя жанчыны, старыя ў лахманах... Усе плачуць. І вось, між тым, як слёзы льюцца па іхніх шчоках і яны папраўляюць раскудлачаныя валасы, да іх падыходзіць легіянер і патрабуе плату за права паплакаць яшчэ трохі".*

*І толькі больш як праз васямнаццаць вякоў, у 1948 годзе, яўрэі змогуць вярнуцца на запаветную зямлю і заснаваць уласную дзяржаву Ізраіль.*

## Усе дарогі вядуць у Рым

Акіла з двума легіянерамі ззаду няспешна крочыў уздоўж доўгіх шэрагаў палонных іудзеяў і не хаваў злосці. Ягонае вока ніяк не магло зачапіцца за больш-менш прыстойнага раба — усе мужчыны нагадвалі шкілеты, нават маладзёны, знясіленыя і прыгорбленыя, выглядалі як векавечныя старыя. Сюды, на Кірмашнае поле, Акіла наведаўся, каб прыдбаць як мага болей рабоў. Імператар даручыў яму зноў распачаць забудову Ерусаліма — не, цяпер ужо дакладна Эліі Капіталіны, бо былую назву горада нават згадваць забаронена. Акілу дазволена ў любой колькасці набраць самых дужых рабоў з ліку палонных. Але дзе яны, "самыя дужыя"? Усе цяпер "на адно цела" — скура ды косці. Іх жа спярша цэлы месяц адкормліваць давядзецца...

Акіла пакуль што толькі і здолеў адабраць тры дзясяткі не зусім нямоглых іудзеяў, а іх жа трэба не адна сотня!

Слізгаючы позіркам па целах і тварах палонных, Акіла прашпацыраваў міма чарговага шэрага і раптам спыніўся, застыў на месцы — легіянеры знянацку нават уваткнуліся ў ягоныя плечы. Там, ззаду, здаецца, прамільгнуў вельмі знаёмы твар... Вельмі знаёмы... Акіла рэзка павярнуўся і жвава пакрочыў назад, спыніўшыся насупраць гонкага белагаловага юнака з блакітнымі вачыма. Тое, што гэта сапраўды юнак, было відавочна, але ягоны схуднелы, абвостраны і таму на выгляд састарэлы твар быў як дзве кропелькі вады падобны на твар... легата Гнея.

— Ты хто? — уторкнуўшыся позіркам у юнака, груба запытаўся Акіла. — Іудзей?

— Іудзей... — не адводзячы вачэй, стрымана адказаў юнак.

— Як завуць?

— Архелай...

Хвіліну пастаяўшы-падумаўшы, Акіла аддаў загад легіянерам:

— Гэтага забіраем!

Акіла яшчэ не ведаў, ці спатрэбіцца яму гэты двайнік Гнея, але падсвядома адчуваў: мусіць жа, у нечым спатрэбіцца...

Легіянер, лёгка падштурхнуўшы Архелая ў плечы, паказаў яму на невялікі гурт палонных, адабраных Акілам:

— Ідзі вунь туды!

Архелай патупаў да гурта.

Палонных мужчын і жанчын рымляне трымалі адасоблена, у розных лагерах. Архелая і Вірсавію таксама разлучылі, пры развітанні дзяўчына, як і ўсе навокал, крычала, вырывалася з рук легіянераў, бо ў яе не было сумневу, што бачыць свайго каханага ў апошні раз. Архелай таксама не мог змірыцца з вечным расстаннем, але яго скруцілі і пацягнулі адразу чатыры легіянеры...

Гурт хоць і марудна, але ўсё ж папаўняўся.

З другога канца Кірмашнага поля чамусьці пад узмоцненай аховай стала набліжацца нешматлікая жаночая калона. Калі яна параўнялася з гуртом, Архелай пачаў узірацца ў паланянак, тоячы надзею ўбачыць Вірсавію, але твары жанчын былі прыкрытыя ажно да самых вачэй. Прынамсі, менавіта яны, вочы з мазаічнымі зрэнкамі, як здалося Архелаю, і прамільгнулі ў калоне!

— Вірсавія! — ва ўвесь голас гукнуў ён.

І — о дзіва! — тая, каму належалі гэтыя вочы, раптам азірнулася і нават у адказ паспела крыкнуць “Архелай!”, але адразу ж на дзяўчыну цыкнуў легіянер, які шыбаваў збоку, і груба заштурхнуў у калону Вірсавію, якая памкнулася была кінуцца да свайго каханага.

Архелай падскочыў да састарэлага ветэрана, прыстаўленага да іхняга гурта, і ўзмаліўся:

— Скажы, куды іх пагналі? Куды? Ну скажы!

— А скуль я ведаю? — пацісnуў плячыма той без аніякае злосці, нават з пэўнаю спагадаю.

— Дык запытайся! Табе ж, мабыць, знаёмы хоць нехта з канваіраў!

— Гм, — чмыхнуў ветэран і стаў узірацца ў хвост калоны. — Але ж і праўда, вунь, здаецца, Кодра пацёгся — мы з ім некалі ў адной маніпуле служылі. Гэй, Кодра! — гукнуў ветэран.

На шчасце, легіянер, які плёўся ззаду, сапраўды азірнуўся.

— Го, Баўкіда! — пазнаў ён свайго аднапалчэнца. — Як маешся? Дзе служыш? Па-ранейшаму пры Акілу?

— Пры ім... Ты мне скажы, куды вы гэткіх пекных дзевак гоніце?

— Што пекныя, то пекныя! Можна сказаць, адборныя!

— Дык куды ж усё-ткі гоніце?

— Як куды? У порт! А адтуль на караблі — і ў Рым. Файныя гетэры з гэтых дзевак атрымаюцца!

Нейкі час ветэраны яшчэ перагалёкваліся, але Архелай іх ужо не слухаў, у ягоных вушах толькі і гучала: “У Рым!.. у Рым... у Рым...”

КАНЕЦ ПЕРШАЙ КНІГІ

Алег Мінкін



...Нікому ніхто не патрэбны,
Ніхто не дасць рады нікому...

# Гастарбайт

## КУКАБАКА

### 1. Кукабака

Хоць ён і з выгляду, і з твару
Падобны чымсь на Капібару,
А яшчэ больш на Кукабару,
На Кукабару-выхваляку, –
Ды самахвальства ані знаку
Не знойдзеш ты у Кукабаку.

У чорных бурках ходзяць горцы,
У белых жупанах – літоўцы,
А Кукабака – у ватоўцы,
Бо ў месцы, дзе зімуюць ракі,
Худыя ракі-небаракі,
Прайшло жыццё у Кукабакі.

Не бачыў там ён булак з макам
І еў счарсцвелы хлеб са смакам,

Аднак на зло ўсім злым сабакам
Не стаў ні Букам ён, ні Бякам,
А так і выйшаў – Кукабакам,
Вясёлым, добрым Кукабакам.

### *2. Кукабака й Сымон-музыка*

*– Гісторыя гэта малая,*
*нібы акурак папяроскі...*
Максім Танк

Гісторыю гэтую кожны сабака
За костку курыную распавядзе:
Такіх сяброў, як смяцяр Кукабака
І Сымон-музыка, не стрэнеш нідзе.

Возіць Кукабака смецце за горад
На старым грузавіку ў жалезнай скрыні,
А Сымон-музыка развучвае творы
Баха, Бетховена й Паганіні.

Увечары Кукабака здымае ватоўку
І ў новых чаравіках і капелюшы
Ідзе да сябра з пляшкай “Зуброўкі”
Паслухаць што-колечы дзеля душы.

Часцей за ўсё Кукабака ў Сымона
Просіць сыграць – і відаць нездарма! –
Сюіту Грыга пра край сцюдзёны,
Дзе цэлы год пануе зіма...

Збягаюцца ў купку зоркі дробныя,
Каб паглядзець, як у пройме вакна
Кукабака й Сымон, такія непадобныя,
За класікай бавяць свой час давідна.

### *3. Кукабака й бочка мёду*

Каб сам не ведаў, дык не даў бы веры,
Што Кукабаку горне да паперы.
Любіў на ёй ён нешта крэмзаць ноччу,
Блукаючы душой па зааблоччы.
А не, дык сам да зор на крылах мар
Імчаў у неразведаны абшар,
Збіраў радкі там нейкія ў прыпол
І складваў па прылёце ў мех пад стол.

Уранні па вяртанні з краю зорак
Выходзіў, стомлены, у сад ці на падворак,

Дзе ўжо ад золку працаўніцы-пчолкі
Гулі спаважна й лёталі суполкай
На собскіх крылцах – не на крылах мар! –
Па кропельцы збіраючы нектар
З чаромхі, вішні, яблыні і дулі,
І неслі ўзятак да суседа ў вулей.

Канечне, пчолкам, што збіралі мёд
І гадавалі малады выплод,
Паэт-самотнік у душы зайздросціў...
Але аднойчы Кукабаку ў госці,
На пасеку ў альтанку, на абед
Ласкава запрасіў пчаляр-сусед.

Пасля таго, як выпілі па чарцы
І моўчкі раскурылі па цыгарцы,
Сусед сказаў: "Дык мы ж з табой суседзі!
Праз шчыліну ў паркане я разгледзеў:
Штоноч на крылах мар ты ймчыш да зорак
І вершаў назбіраў там цэлы ворак.
Штосьць прачытай, бо сам, хоць не пішу,
А маю паэтычную душу".

І Кукабака (як і ўсе паэты)
Агучыў верш "Нясвіжскія партрэты".
Пчаляр усклікнуў: "Змест і стыль выдатны!
Прыемна, што сусед мой гэткі здатны!
А то надоечы, майструючы карыта,
Я чуў па радыё якогась Бумбуліта:
Чытаў ён складна й ад душы нібыта,
На роднай мове, гучна так і смела,
Аднак, каму й нашто, незразумела.
Не грэе сэрца ён, і гэтым шкоду
Паэзіі наносіць і народу, –
За верш яго не дам і кроплі мёду!

А ты інакшы! Ты не выхваляка!
І, хоць пазорам рыхтык Кукабака,
Відаць, не дарма гойсаеш па зорах –
Пісаць, як пішаш ты, зусім не сорам!
Прызнацца, слухаў я твой верш і праслязіўся...
Што ж, добра, што ў табе не памыліўся.
Ад сэрца чыстага ўручаю ўзнагароду:
Вось гэту бочку залатога мёду!"

Шкада, што аніхто тым адвячоркам
Не бачыў, як паэт на зайздрасць зоркам
Сіляў духмяны мёд і разважаў пры гэтым:
"А што? Зусім няблага быць паэтам!"

### *4. Кукабака й бэз*

*За агарожаю перад астрогам*
*У ціхім куточку адна*
*Кветка красуе на грунце убогім,*
*Хораша ззяе яна.*
Я. Колас

Пад мурам таго механічнага цэху,
Дзе Кукабака вырабляў пратэзы,
Штогод у траўні зацвітаў куст бэзу,
Сарамліва затуляючы счарнелую цэглу.

Такой нязвыклай і такой сірочай
Была сярод шкла, бетону й жалеза
Ліловая квецень квітучага бэзу,
Што Кукабака адводзіў вочы.

На тэрыторыі, абнесенай дротам,
Квітучага бэзу ліловая кіпень
Здавалася Кукабаку дзівосным выкапнем
Нейкай недарэчнай, забытай пяшчоты.

Напэўна ў Кукабакаў задушны закутак.
Той, хто не церпіць ніякага лішку,
Дадаваў штогод пяшчоты крышку,
Каб яшчэ яскравей адценіць пакуту.

### *5. Кукабака й Жалезная Баба**

Няма ў паданні першага абзацу,
Як Кукабака страціў хату й працу...
Кашэль пусты ў кішэні ён памацаў
І на прыроду вырашыў падацца –
У зарасці акацый за палацам.
(Я неяк з Кукабакам гаварыў,
Калі ён бульбу ў казанку варыў.
Ён, покуль чорная трывала паласа,
Каб не забыць, што ў свеце ёсць краса,
Чытаў Хаяма вершы і Сыса).

Ён не цураўся сваёй новай долі,
Збіраў пустыя пляшкі ў наваколлі,
Здаваў і меў хлеб-соль і да хлеб-солі...
Ды неяк раз свае занёс ён драбы
Ва ўзорны агарод Жалезнай Бабы.

Глядзіць: парадак навакол і лад.
Часнок з цыбуляй вызіраюць з град.

* Жалезная Баба – міфалагічнае стварэнне, агародны дух.

Пад лісцем хрумсткія прылеглі агуркі.
Буяюць боб, і кроп, і буракі.
Цвіцеюць бульбы роўныя шнуркі.
І цешаць вока гарбузоў бакі.

І Кукабака ўзяў без дайпрычыны
З чужой разоры выдраў часначыну,
І ўжо хацеў сыходзіць мірна, чынна –
Ды тут пачвара ў постаці жанчыны
Яго чапнула крукам за бачыну.

Шырокі да яго сланечнік-твар
Наблізіла, што ззяў, як самавар.
Нягеглая, ды моцна так сваймі
Жалезнымі прыцiснула грудзьмі,
Сказаўшы: “Не тамі – лепш абдымі.

Жыву адна я ў ладнай шчэ халупе.
А ты, бач, тужыш аб гарачай зупе.
Будзем гарод цяпер капаць мы ўкупе.
Калі ж пасмееш штось казаць насупар,
Стаўку цябе ў сваёй жалезнай ступе!

А што да вершыкаў Сыса й Хаяма –
Чытай... Я ж хоць пачвара, але дама”.

### *6. Кукабака й праваабаронца*

Ёсць анамальныя на земскай кулі зоны,
Дзе лёгкія чаўрэюць без азону,
Дык, стуль вярнуўшыся у родныя Расоны,
Вандроўнік Кукабака з парасонам
Шпацыраваў падоўгу ў дождж і град,
Калі ў паветры так азону шмат.
Дык з земляка дзівіліся расонцы...
І запытаў адзін з іх (акурат
Пасля таго, як навальніца адгрымела):
– Чым бавішся цяпер, вандроўнік смелы?
– Ды вось гляджу на зіхаценне сонца
У лужыне... А ты што робіш, брат?
– Не чуў?! Я – знаны праваабаронца
І дэмакрат!

### *7. Кукабака й люстра*

Вунь, у люстры, мой адбітак,
Не адбітак – перажытак:
Зжоўклы твар у зморшчках спрэс,
Плех на мейсцы, дзе быў лес...

Эх, падсела, падгніло,
Пане Дух, тваё жытло,
У якое мімаходзь
Запіхнуў цябе Гасподзь!

## *ПАВОДЛЕ АМАРА ХАЯМА*

### *1. Шклянка*

Пачнема так: была ў мяне жанчына,
Але сышла... І гэта ёсць прычына
Таго, што я ў руцэ трымаю шклянку,
Трапляючы раз-пораз у гайданку.

Закончым так: была ў мяне каханка.
Замест яе ў руцэ пустая шклянка.
І не згадаць – так памяць замяло –
Што (шклянка ці каханка?) перш было.

### *2. Салавей*

Найлепшае, што ёсць у свеце наскім –
Піць таннае віно на ўлонні гожым, майскім,
Каля зялёнага стаўка пад рослым дрэвам,
З якога салавей нямоўчным цешыць спевам.

Найлепшае... бо нездарма адранку
Я тут не першую ўжо наліваю шклянку
Нястому-спеваку, захрасламу ў галлі,
Што просьма просіць у мяне: налі-налі-налі!

### *3. Сімвал*

У завірусе пуху ад таполяў,
Дзе, мусіць, згінуў аўтар “Алкаголяў”,
На падваконні ля раскрытага акна
Стаяла шклянка недапітага віна.

І вось яны сышліся ўрэшце ўдвух:
Віно на сподзе, зверху лёгкі пух –
Чырвань віна п’янкога й пуху бель,
Як сімвал, што жыццё ёсць толькі пух і хмель.

### *4. Абрыс*

Што ж, буду піць віно із тапалёвым пухам
За светлыя галовы моцных духам,
Хто ў бедах-скрухах не губляе розум,
Чукавым застаецца і цвярозым.

Я й сам, калі б прыймеў хоць трохі часу,
У іхнюю патрапіў, пэўна, расу...
Ды мне пара ўжо выпраўляцца за абрыс,
Дзе знік Амар Хаям і Анатолі Сыс.

### *5. Лёд*

Чаму я п'ю віно? Калі б не піў бы,
Дык лёд быцця наўрад ці растапіў бы,
Лёд, што няўзрушнай глыбаю ляжыць
Над тым, што рымсціць у ва мне
спяваць і жыць.

І хоць той спеў – у цемрадзі жалейка,
І хоць жыццё – узмах адзіны вейка,
Але ж якая гэта насалода
Іх зварухнуць на мірг пад глыбай лёда.

### *6. Штыблеты*

У шафе пыліцца мой нінашомы фрак,
І з фэтры капялюш не згодзіцца ніяк,
А ёсць яшчэ ў мяне дыхтоўныя штыблеты,
Якія не абуў ні разу я праз лета.

Бо некуды ісці, дакладней, неахвота.
Калі я тут адзін, дык і паўсюль – самота...
Ну, а ў віна, што п'ю, той самы корсткі смак,
Як ты яго не пі: ў штыблетах або так.

### *7. Панарама*

Калі ад пусціні быцця на сэрцы цяжка,
Ёсць у мяне заўжды напагатове пляшка
Чырвонага віна. Яго, за шклянкай шклянка,
Я п'ю, і свет наноў – цацанка-абяцанка.

Канчаецца віно – і зноў я ў пусціне,
Што дух мой удвая мацней гняце і гне.
Чаму ўдвая? Дык вось жа панарама:
У цэлым свеце пусціня, і ў пляшцы гэтаксама.

### *8. Прыцягненне*

Калі за пляшкаю віна выходжу з дому
І патрапляю ў свет, няўстойліва-цякомы,
Як плыні рэкаў грэка Геракліта,
Штохвілі іншыя, што зносяць да нябыта,

Я адчуваю ў зменлівай прасторы
Тое адзінае, што мне дае апору, –
Моц прыцягнення, бо яна адна
Мацуе цела да зямлі, а дух мой – да віна.

***9. Цвет і лісце***

Распалены мінуўшы тратуар,
Прысеў на лаўку я й падставіў твар
Пад рэдзенькі капеж крапліц, што сыпаў
З цвітучых ледзь прыкметным цветам ліпаў.

Ах, ліпы зацвітаюць вельмі позна...
Ды знак дае іх цвет, ад лісця не адрозны,
Каб sms дачцэ я не пісаў у Ніцу,
Што лісце ліпаў елі ў галадніцу.

***10. Пастухі***

Віно такое: варта прыгубіць –
І ўжо без спыну будзеш піць і піць,
Каб не вяртацца ў чалавечы гурт,
Пастух якога – Жорсткасць і Абсурд.
Аднак знутры хтось супярэчыць: “Годзе!
Абсурд і Жорсткасць – у самой прыродзе.
Нават віно – і тое не сябрук:
Напоіць і збівае з ног на брук!”

***11. Крывізна***

Так, Жорсткасць і Абсурд суздром, але
Напаўпустую шклянку на стале
Можна назваць напалавіну поўнай,
Крывізну ж назавем няроўнасцю чароўнай.

І першы жаўталіст у зеляніне дрэваў
Не сведчыць пра канец птушыных спеваў,
А шклянка, з якой п’ю, і пагатоў
Не азначае, што не будзе поўнай зноў.

***13. Смага***

Калі б быў пчолкай, дык грызнуў бы воску –
Двухногіх смага гоніць да кіёску,
Дый там, за грош астатні пляшку піва
Узяўшы, прэч адчальваю імкліва.

Бо пад кіёскам люд калісьпрацоўны
Стаіць на варце, лютай смагі поўны,

І спакушае кожнага, хто смагне,
Зноў пабалохтацца ў густой і цёплай багне.

### *14. Ногі*

Дык вось і я прыстаў... Прысяду ля дарогі
І вып'ю за спрунжыністыя ногі,
Што гэтак доўга вобмацкам і бежкі
Мяне вялі па рытвінах і сцежках.

Тут хараша. Лагодны ветрык вее.
Цікуе васілёк, як жыта палавее.
І шэпчуць каласкі: “Спяшаўся ты дармо.
Лепш прычакай – мо прыйдзе штось само”.

## *ГАСТАРБАЙТ*

### *1. Матрац*

Так мала грошай і так многа працы...
Таму й ляжу на выцертым матрацы,
Сярод шумецця, як узбек той ці кіргіз,
Які ад крыўды кожнага б тут згрыз.

Ды ў іх ёсць Фергана і Ісык-куль,
А я сюды прыехаў ніадкуль,
І пляшка таннага віна ды спадысподу вата –
Адно, што мяне розніць ад прымата.

### *2. Васілёк*

Стракорчуць зычна конікі ля ганку
“Салёна прыгажосці”, дзе ад ранку
Дзяўчына з вёскі беларускай Петракі
Наколкі робіць і праколвае пупкі.

А недзе там лагодны ветрык вее,
Сінее васілёк і жыта палавее...
І ў забыцці выколвае рука
Замест пачвары кветку васілька.

### *3. Сіндбад*

Скажы мне, самотны Сіндбад-мараплаўца,
Ты ж марыў застацца калісь назаўжды
У белым ад ззяйнай сланоўкі палацы
На жоўтым пяску каля сіняй вады?

А тут жа ніводнай салёнае пырскі,
Сланоўкі й ядвабу няма й пагатоў:

Замест адаліскі паненка з Сімбірску
У брудныя міскі накладвае плоў.

А, зрэшты, я й сам не ўтрымаўся на бруку,
Што вёў між муроў да прыступак у схоў
Да цёмных абкладаў сівых старадрукаў,
Да скарбаў замкнёных нязведаных слоў.

### *4. Краявід*

У сеціве арматуры
Абыклы паўстаў краявід:
Вяршыня архітэктуры –
Закуты ў граніт "маналіт".

Малдоўцы, в'етнамцы, кіргізы –
Найноўшы з усіх Бабілон...
Няветлае неба, а знізу
Прысыпаны снегам бетон.

Спытацца б, каму вежы-гмахі
Стаўляе брат-гегемон?
Ды здрадлівы вецер пад пахі
Падхопіць, штурхне – і гамон.

### *5. Вераб'і*

Пад кумпалам чорнага неба,
Што крые чужую зямлю,
Рэшткамі белага хлеба
Чужых вераб'ёў кармлю.

Як ім, мне без розніцы, скуль я,
Што думаю й што раблю...
Мо зрэдчас уджаліць куляй
Нязвыклае слова "люблю".

### *6. Сам-насам*

Зіхнула сонца зыркім пасам –
І патанула.
Вось і застаўся я сам-насам
З маім мінулым.

На жаль, як сонца, другарадзь
Не запраменіш.
Шкада, нічога, што ні радзь,
Не пераменіш.

### *7. Маркіз дэ Сад*

Каля парожняе цыстэрны
Праз немач не моўкне брэх халерны
І крышыць слодачныя сны.
Мінуў і гэты век, цукровы...
Маркіз дэ Сад нахмурыў бровы
І ў куфры гладзіць бізуны.

У асвятленні электрычным
Чаруе вока бляск магічны
Выгафтаваных дзержакоў,
І, звітыя паводле нана-
адкрыццяў, цешацца ільсняна
Пруткі, спрагнёныя на кроў.
Каля парожняе цыстэрны
Праз ноч не моўкне брэх халерны...

### *8. Каляды*

Замест хоць раз сыпнуць мне сытнай манны,
Панастаўляў ты, горад велізманны,
Абапал вуліцы жалезныя платы,
Свае вартуючы ад прыхадняў палацы...
Рыпіць пад ботам снег. Я хукаю на пальцы.
Мне б завярнуць пагрэцца, ды куды?

У гуле-рэхаце нахабныя рэкламы
Дзікунскія па небатвары крэсляць плямы,
І засцяць зоркам зрок, а наўскасы
Над іхнім полыскам, заўсёдна і нязманна,
Птушыны Шлях кладзецца следам санным
На захад... ды рыпяць усё няісней палазы.

### *9. На Новы Год*

У пройме вакна толькі бляскі
Ды дым ад чужых феерверкаў.
Адслухаў я ззяйныя казкі
Пра скарбы адмкнёных куфэркаў.

І век мой якісьці нясрэбны,
І сум мой якісь незнікомы...
Нікому ніхто не патрэбны,
Ніхто не дасць рады нікому.

## НА ПАГАРЫ
## (Паводле Эдгара По)

Знекуль напоўз куродым,
Шашу засланіўшы спэс.
З задушлівага самахода
Спусціўся я ў Чорны Лес.

Хто б адказаў, куды я
Так доўга йшоў наўздагад
Цераз пагары тыя,
Той дурманлівы чад?

Згары мне на голаў сеяў
Попел. Дыміўся мох...
За праваднічкай Псіхеяй
Я не пайсці не мог.

Да нізкага выйшлі балотца,
Якога не ўзяў пажар.
Праз дым прабівалася сонца.
У цішы звінеў камар.

І хоць не ведаў, дзе я,
Ды гэта было канцом
Шляху майго, бо Псіхея
Збялела, як перад Чыстцом.

Раптам наўколле ўзрушыў
Крылаў траскотны гук –
З неба агністая птушка
Пала на зломаны сук.

Пала на сук сасонцы,
Як з яснага неба гром,
Пералівала на сонцы
Кожным сваім пяром.

Ад мяне невысока
Села яна насупроць,
Паліла пякучым вокам
Маю слемазарную плоць.

Ведаў: яна ўсім чужая,
Маўчыць і гнёздаў не ўе,
І толькі ўва мне ажывае
Палкі голас яе.

Ён пранікаў неаднойчы
У цела маё цераз скронь
І раздзімаў сярод ночы
Знутры іскрысты агонь...

Усё пра дзівосную птушку
Успомніў я, акрамя
Ейнай забытай мянушкі,
Сцёртага часам імя.

Пакуль падбіраў ёй назвы:
Страцім? Багрым? Вісажар?
Птушка, як згустак плазмы,
Зрынула ў чорны гушчар.

За папяловай завеяй
Глуха гула шаша...
Мовіла раптам Псіхея:
“Імя тваёй птушкі – Душа!”

Віктар Казько



…хай жывуць мурашкі,
і тля, і вужы, і нават гадзюкі
з кратамі і іх дзецьмі…

# Пра Моцю

***З нізкі апавяданняў***

*Працяг. Пачатак у № 54.*

### Моцю – вартаўнік і перабудоўшчык свету

Моця раскашаваў у вясковым быцці. Рэчка, сонца, неба без кроплі дажджу, вуліца такая доўгая, што і за дзень не абяжыш. Што яшчэ трэба. Толькі, як гэта заведзена, калі вам хораша, хораша, то будзе і блага. Неяк маці мовіла, што трэба яго далучаць да справы.

– А то адно толькі – лынды б’е. Расце пустадомкам, пад’есць і ў гулі.

– Начальнікам будзе, а то і прэзідэнтам... – змрочна ўставіла свае два грошыкі бабуля.

Бацькі толькі зыркнулі на яе, як не пачулі. Моця ж задумаўся, што такое лынды і як іх б’юць.

Вырашыць і дадумаць яму не дала бабуля:

– Вы толькі зірніце на яго, здалёк відно, чаго яно вартае. Трутняў памнажаць, мух-сцыкатух лічыць і на славянскі базар склікаць...

Бабуля ў Моці была адукаваная, тэлевізарам прасунутая. Не менш цяміла і ў вясковым жыцці, што адразу ж і пацвердзіла:

– Конікаў на сенажаці аб'язджаць. Мурашак пасвіць, мо малака дадуць...

Моця хацеў запярэчыць, што столькі работы – гэта ўжо занадта, трэба што-небудзь адно. А да ўсяго – малако даюць не мурашкі, а тля, якую яны вырошчваюць. Хацеў, але не паспеў. Дзе ты за дарослымі, асабліва за бабуляй, паспееш, надта ж хуткая розумам. А тут яшчэ бацька збіў яго з панталыку.

– А гэта слушна, – сказаў ён. – Пасвіць... Мы ж патомныя пастухі. Ты, маці, са свіней пачынала, я ў цябе гэтую навуку пераняў і пераўзышоў. У падпаскі тавару выбіўся. Хай жа і ўнук ідзе па тых жа слядах. У пастухі!

– У пастухі катэгарычна не пайду, – заўпарціўся Моця. – Не прэстыжна сёння. Хіба толькі пугу дасце, з вішнёвым чаранком і свінцовым гузікам на канцы.

– Будзе, будзе пуга, – запэўніў бацька.

– Доўгая і з ляскатам? – амаль здаўся Моця.

– А як жа, гучная. Друк і барабан.

Моця падазрона абвёў вачыма дарослых, адчуўшы нейкі падвох. З яго ж здзіўленнем на бацьку глядзелі і маці з бабуляй.

– Мо барабан ужо занадта? – пэўна, шкадуючы яго, засумнявалася маці. – І без барабана малога ўжо затуркалі. Не трэба барабана.

– Трэба. Іменна барабан. Бо ты, Моця, будзеш пасвіць птушак. Драздоў.

Бабуля нешта пачала цяміць, бо хуценька-хуценька заміргала вейкамі, што заўжды ў яе сведчыла аб напружанасці і працы галавы. Маці засталася недаўменнай і запытальна нерухомай тварам, што таксама сведчыла: думае. Тое ж самае адбывалася і з Моцем. Такая ўжо гэта была сям'я – усе галавастыя. І Моця ўдаўся ў яе пароду. Толькі з-за малых гадоў яму часам хібіла сачыць за нечаканасцю іх гнуткіх і пакручастых намераў: са сваім розумам не заўсёды паспяваў справіцца.

Бацька пачаў яму, а заадно жонцы з бабуляй тлумачыць:

– Птушкі, а менавіта лясныя дразды глумяць, ушчэнт жыўцом аб'ядаюць усе ягады...

Гэта было сапраўды так. Ягады чарэшні толькі-толькі пачалі насычацца сонцам усярэдзіне і вонку, чырванець, як з'явілася гэтая набрыдзь, абрынулася неўтаймаваная пошасць – нашэсце шэрых лясных драздоў. Спачатку над селішчам запырхаў адзін, а мо і парачка – баран ды ярачка – разведчыкаў. Агледзелі ўсё, разведалі, рассмакавалі. І пайшло, паехала, а хутчэй паляцела. З недалёкага невялічкага гаю, як яны там усе разам толькі ўтоўпліваліся – захапілі вёску. Дасягнулі і садоў, і агародаў, як Мамай Расію, і нішчылі ўсё запар, што толькі прабліснула ці пачынала праблісквацца на градах і дрэвах.

А праблісквала не надта. Поле за вёскай вясной нечым апрацавалі, як гаварыла бабуля, цыдамі. Ад тых цыдаў на полі і трава не расла. Яно ўчарнела і зжоўкла. Ляжала ў аблямцоўцы драўляных вясковых хат і недалёкага хвойнага бору, як нябожчык у не вельмі раднасай труне. Мёртвае поле, аціхлы лес, разгубленая вёска. Бо вецер, калі труцілі поле, дзьмуў якраз у бок яе. Сады зацвілі спужана і квола. Слівы зацяліся і амаль

зусім не далі квету, таксама ж і грушы. Больш таго, яны пачалі агаляцца, скідваць лісце і ўсыхаць. Некуды сышлі мышы, зляцелі мухі. Адно толькі слепні ды авадні, машкарэча, гнюс тлусцелі на крыві чалавека і худобы. Крывава лопаліся ад перасыці.

Да ўсяго і лета ўдалося спапяляльна спякотнае. Нішчымнае насельнікам лесу. Мо яшчэ і таму найбольш прадпрымальныя з іх. Птушкі, тыя ж дразды, кінуліся ў шкоду. Чаўночна пацягнуліся не па сваё, а халяўнае чужое, людскае. Хаця ў бабулі наконт гэтага меліся свае асаблівыя меркаванні: не птушкі вінаватыя, а людзі. Чалавек пачаў жыць жыватом. Жыццё пайшло спажывецкае, зладзейкаватае. Птушкі толькі бралі прыклад з чалавека: не ўкрадзеш – не выжывеш. Чалавек укараціў не толькі сябе, сваю долю, аб'еў яе, скараціў, аб'еў і долю ўсяго існага. Падгроб усё сабе пад свае чэрава, свой рот ды захлынуўся. Птушкі, звер толькі бяруць сваё, тыя з іх, што яшчэ выжылі, ацалелі.

А ацалелі далёка не ўсе. Перад тым, як Моцю сямейным рэем спадобіць у пастухі, да іх хаты завітала жанчына, што жыла аж на другім канцы вёскі. Ніколі не пераступала іх парога, а тут на табе. Моця перапужаўся і хацеў ужо лузнуць з хаты. Ды бабуля нешта як ведала, утрымала. А Моця быў вінаваты перад той жанчынай, вельмі вінаваты, паскудства сатварыў. Было так. Ён быў заняты прадчаканнем гульні на поплаве ў пекара. Амаль бег туды, а тут насустрач гэтая жанчына. Моця зірнуў на яе і, нічога не маючы ў галаве, выгукнуў:

– Коўбік!

Такая ў той жанчыны была вулічная мянушка. Яна і папраўдзе паходзіла на коўбік, апрануты ў чорнае адзенне. Ног з-пад спадніцы амаль не відно. Затое ўсё астатняе з усіх бакоў круглае і неабдымнае. Адна толькі маленькая галоўка з чорнымі вочкамі і тырчыць над гэтай неабдымнасцю.

– Коўбік, – нечакана для сябе і чаму паўтарыў Моця.

З яго як паперла, нястрымана і радасна:

– Коўбік, Коўбік, Коўбік...

Дакараў, саромеўся і дзівіўся з сябе, хацеў праглынуць свой язык, спыніцца, замоўкнуць, і не мог. Яго як заклініла. Жанчына ж заставалася спакойнай, здаецца, нават лагоднай:

– Падыдзі, хлопчык, бліжэй да мяне, а то я не дачуваю. Мо гэта ты нешта слушнае кажаш...

Моця з усіх ног кінуўся прэч. І не да сябрукоў на поплаў, а ў працілеглы бок, у алешнік, даверыўшы яму амаль на паўдня свой сорам, боль і недаўменне.

І цяпер ён курчыўся ў хаце, як у тым алешніку, наліваўся спякотай і чырванню. Але жанчына пра вулічнае здарэнне не абмовілася і слоўцам. Толькі ўсё пазірала на яго вугельчыкамі чорных вачэй. А гаварыла зусім пра іншае, пра мінулую зіму, якая была надта ж суровай.

– Мароз галашчок на голую без снегу зямлю. Прабраў яе так, што і краты ўсе вымерзлі ў мяне на агародзе. Аніводнага іх горбу. Прапалі ўсе да адзінага, вымерзлі.

– І дзеці таксама прапалі, вымерзлі? – зноў жа нечакана для сябе ўсклікнуў Моця.

– І дзеці, – жорстка сказала, як адсекла, жанчына.

І тут Моця, не ведаючы сам чаму, заплакаў. Ды, здаецца, не слязьмі, а пякучай гарачынёй крыві, што спавіла яго твар, горка і няўцешна. І не

таму, што надта ўжо шкада яму было тых кратоў і іх дзяцей. Усё ж шкоднікі. Шкада нечага значна большага і не зусім вытлумачальнага. У тым ліку і сябе чамусьці шкада, таго, што на хвілінку нечакана завіравала ў ім і апякло.

Жанчына з бабуляй як не прыкмецілі яго слёз, працягвалі сваю жаночую вясковую гаворку.

– Адна погань прапала, адышла, дзесяць новых аб'явілася. Так заўсёды ў нас бедакоў, – гаварыла бабуля. – Буслы куранят пачалі красці з падворку. Драбяза, шэрыя дразды помсцяць чалавеку за кратоў. Помсціць свет за сваю парушанасць. Помсціць, бярэ сваё.

Так гэта была ці не. Тычылася толькі падземнага, крацінага і паветранага, нябеснага птушынага царства, але драбяза, дразды ўпраўна бралі сваё. І каб толькі сваё, а то і яго, Моцева. Аб'ядалі яго чарэшню, адзіную, што ўцалела на ўсю вёску. А Моця любіў чарэшні не менш драздоў. Толькі даставалася яму мала іх, адзінкі, што адшкадавалі яму. І тое, пэўна, па слепаце ці ненажэрнай жарсці гвалту птушак. Цэлых з усіх бакоў зусім не заставалася. Ягада, якая лепшая, падзёўбаная, паклёваная, і на зямлі ўжо, у траве. Але і там шчыруюць над ёй мурашкі. Даядаюць аб'едкі. І малака ад іх, канечне, не дачакаешся. Таму Моця амаль без пярэчанняў пагадзіўся працягнуць патомную сямейную справу. Пайсці ў пастухі. Бо гэта было ўсё ж недзе і ганарова, так распавяла яму маці:

– Ты паглядзі толькі. У артыста сын – артыст. У спявачкі дачка без голасу, але спявачка. У самога прэзідэнта, немаўля яшчэ, а ляпеча: буду плезідэнтам. А ты што, горшы за іх?..

– Не абсевак жа ў полі, – гэта ўжо бабуля.

І бацька падтакнуў:

– Вырасцеш – ганарыцца будзеш. Ва ўсіх анкетах будзеш пісаць: з пастухоў.

Слушна было гэта, пераканаўча. І для будучага край як патрэбна. Толькі... Толькі сёння нешта трохі ніякавата. Як гэта ён прызнаецца сваёй вулічнай хеўры, што робіць пастухом. І пасе не каго-небудзь, а птушак нейкіх, шэрых драздоў. Зайцоў бы яшчэ куды ні ішло. Хаця лепей бы, канечне, ваўкоў, шэрых і злых ваўкоў. А так пастаўлены ў агародзе ці не замест звычайнага пудзіла.

І Моця, калі па шчырасці, нудзіўся сваім абавязкам наглядчыка і вартаўніка. Не па яго здольнасцям была шапка. І карцела, вельмі карцела працягваць біць лынды. А ён ужо ўведаў, што такое біць лынды – тое ж, што біць байды, бібікі біць. Байды, бібікі – гэта таксама не вельмі зразумела. Але добра, што ў яго ёсць дасціпная бабуля, растлумачыла. І байды, і бібікі – адна хвароба – гультаіць, пустадоміць. А вось з лындамі больш складана. Гэта ў каровы заднія ногі, каля каленаў. У спраўнай каровы яны разведзены трошкі і не цяруцца, не б'юцца адна аб адну, гожыя, гладзенькія, чыстыя. А ў ленай неахайнай, што ў каросце – змазоленыя і ў га...не, бо яна цярэ лынду аб лынду і з сябе кладзе на іх. І малака ад яе...

– Адным словам – пустадойніца... І ў няўдохі, у клышаногай каравай дзеўкі так сама ж. Галоўнае ж у нас, у жанчын, што – лынды. А яны, лынды, у яе... ну як табе сказаць...

– Няўжо абас...аныя? – здзіўлена падказаў Моця.

– Ну калі і не, то блізка да гэтага. Ты прыглядзіся, прыглядзіся да дзявочых лындаў.

– Прыгляжуся, – паабяцаў Моця. – Жонку буду выбіраць, каб ногі абручыкам.

– Во-во... Толькі...

– Абручыкам, – цвёрда мовіў Моця. – Як у суседскай Танькі.

– Абручыкам, як у суседскай Танькі, не бяры, – забараніла бабуля.

– Добра, я падумаю.

– Падумай, падумай. Бо лынды ў дзяўчынкі і ў дзеўкі – гэта не адно і тое ж. Тут адразу і не ўгадаеш. Тут галавой, а не вокам даходзіць трэба...

– Падумаю, угадаю, баба. Буду выбіраць з лындамі, як у цябе. У цябе ж яны гожыя?

– Гожыя, – коратка і з годнасцю адказала бабуля і пачырванела, як дзяўчынка.

– Ну, во, ёсць на каго раўняцца.

– Ды ўжо ж... – молада пацвердзіла бабуля.

Вось так пагаварылі і паразумеліся. Усё Моцю растлумачыла бабуля пра лынды. Гэта было нешта не вельмі прывабнае, мо нават і нягожае. Але ж Моцю, нягледзячы ні на што, чамусьці больш даспадобы было працягваць усё ж біць лынды з сябрукамі на вуліцы, чымсьці пільнаваць крылатых аглаедаў. Хаця з цягам часу яны нечым пачалі і падабацца яму. Была, была ў іх закладзена, пэўна, ад народзінаў неспатольная прага да задавальнення, смакаты, прыгожага і сытага жыцця. Амаль як і ў яго, Моці, такая ж прыхавана зладзейкаватая, зацята ўпартая. Таксама неўтаймаваная, калі яму нечага жадалася. Калі ён нечага вельмі і вельмі дамагаўся, тады ж і яго ніхто і нішто няздольныя былі спыніць. Як тыя ж дразды, ён тады не меў тармазоў, што было з аднаго боку і кепска, а з другога... няблага. Няблага, хаця часцяком і гарэлі вушы, але святкавалі жывот і душа.

У шэрых жа рабаўнікоў вушэй, як, пэўна, і душы, не было: адзін жывот. І Моцю дзівіла, як жа яны адным толькі жыватом абыходзяцца, і такія чуйныя не ў прыклад нават яму. Тут відавочна нейкая памылка, недапрацоўка прыроды і не на карысць яму. Няма іх за што і ўшчаміць, патузаць. Ён бы зрабіў усё наадварот. Увогуле на свеце шмат чаго няправільнага. Выпраўляць трэба, перайначваць. Узяць хаця б тых жа кратоў і іх дзетак. Навошта іх было нішчыць, марозіць. Прыроджаныя ж аратыя, трактарысты, хаця і без трактара. А калі б даць ім трактары, усю зямлю б перайначылі, перавярнулі, узаралі, пасеялі і прыбралі. І якія б гэта былі трактарысты. Што негры чорненькія і ў чорных камізельках і абавязкова пры белых-бялюткіх гальштуках. Сэрца мрэ, і дух прэ. А тых жа драздоў, калі іх зацугляць, нечага проста так лётаць і на ляту гадзіць, цаляючы патрапіць табе на галаву ці твар. Працаваць трэба, хаця б мэтанакіравана ўгнойваць палеткі і тыя ж чарэшні памнажаць, ствараць яму ж, Моці, прахалоду, каб паўсюдна і разам знікла патрэба ў вентылятарах і кондзіках. Гэта ж якая эканомія электрычнасці. А да ўсяго ж проста прыемна, каля цябе перайцам лашчаць.

Такім чынам, робячы вартаўніком, Моця навучаўся і думаць.

А заадно і любіць гэты няправільна створаны свет, непатрэбнасць, ад якой адна толькі шкода. Узяць хаця б тых гадаў паўзучых гадзюк, вужоў. Як гэта яны толькі рухаюцца. Без рук, без ног, перасмыкам, перасмыкам. І наперад, наперад, няма ў іх задняга ходу і перашкод. Што па вадзе, што па гразі, што па дрэву. Чалавеку б так, ён бы ўга куды сягнуў.

Заняты такімі думкамі Моця пільна прыглядаўся да тых гадаў. Гадзючцы,

што выпаўзла на ганак і грэлася на сонцы, наказаў сысці і не трапляць на вочы маці, бо будзе, будзе... Але сам яе ўзяць у рукі і некуды знесці не наважыўся, бо ведаў, што тут будзе, можа быць і яму. А вось вужа з жоўтымі вушкамі ўзяў. Узяў і схаваў у кішэні. Вуж вытыркнуўся з той кішэні бліскучымі чорнымі вочкамі, як у Коўбіка, і рудзенькімі вушкамі. Маці ўбачыла і спытала, што гэта ў яго.

– А матузок, матузок, – не разгубіўся Моця.

Маці пацягнула за той матузок. І што было далей, лепш прамаўчаць. Не разумеюць дарослыя сваіх дзяцей і іх павагі і дасціпнасці пазнаць свет, зашыла кішэні, як замкнула яго прагу да пазнання, што прывяло Моцю да высновы: не ўсякі матузок трэба хаваць у кішэні, а тым больш хапаць яго рукамі, прымусіла пайсці іншым шляхам, наблізіла і падштурхнула да вынаходніцтва. Што б ні гаварылі і ні рабілі дарослыя, з гэтым светам неабходна было неадкладна нешта самому прыдумляць і дзейсна перарабляць яго, а заадно і бацькоў.

Дарэмна ж, дарэмна наракала на тых жа мурашак бабуля, папікала за тое, што яны не даюць малака. А маглі б, маглі, можна было іх далучыць да гэтай карыснай справы. Стварыць ферму дробнай і не рагатай малочнай жывёлы: мурашкі-даглядчыкі, фермеры, дояры тлі. Малако той тлі неяк Моця смакаваў – смачнае, салодкае, а яшчэ...

Гэтых "яшчэ" ў Моці было процьма. І дай яму волю, развяжы рукі, ён бы шмат чаго здзейсніў, перарабіў, пераўтварыў. І не без таго, тое-сёе зусім бы звёў, знішчыў. Свет асабліва тут, у вёсцы, у яго агародзе перанаселены. Узяць хаця б тых жа самых шэрых драздоў. Навошта яны? Яго ягады, чарэшні яго, Моцевы, есці? З гэтым ён справіцца і сам. І вольны будзе гуляць у пекара, а не пастухаваць, гібець, як Адам пад чарэшняй. Хаця Адам, гаварыла бабуля, гібеў пад яблыняй.

Але ж усё роўна хай жывуць мурашкі, і тля, і вужы, і нават гадзюкі з кратамі і іх дзецьмі. А мо яшчэ і вераб'і, ён, як кажуць, з іх пароды. А вось драздоў не трэба, не трэба. Захоплены гэтым "не трэба" Моця падхапіўся з зямлі, затрос галавой, па-птушынаму ўзмахнуў рукамі і ўголас закрычаў: "Не трэба!"

Так, пастух з яго быў няўдалы. У градзе клубнікі зашылася і шчыравала над першай ягадай цэлая плойма драздоў, і Моця крыкам сваім узняў іх. Яны гарохам сыпанулі з грады, як з пераспелага стручка, ва ўсе магчымыя бакі. А адзін з іх трапіў у рукі Моці. Моця спачатку хацеў прыдушыць яго, але як толькі сцяў пальцы, нешта жывое і колкае торкнулася яму ў далоні. Моцю гэтае торканне было добра вядома. Так білася ў яго грудзях душа, калі яго прыхоплівалі на якой-небудзь шкодзе.

– Глядзі ты, – сказаў Моця, – глядзі ты. І ў цябе ёсць...

Прыпаў шчакой, вуснамі да гладзенькага бачка птушкі. І цяпер яму торкала ў твар. І так, што дасягала пятаў.

– Глядзі ты, глядзі ты, – паўтарыў Моця, але ўжо не ад здзіўлення торканнем – гэта было ў яго адзіным, узгодненным с птушкай і не выклікала здзіўлення. Пах, пах – вось што было невыказна і нязгадана дзіўным. У пешае імгненне Моця падумаў, што гэта пах птушынага страху. Але ж адразу адкінуў гэтую думку. Таму што ўзразумеў, гэта быў яго ўласны малочны пах, калі ён толькі прачынаўся сонечным ранкам. Такім жа пахам патыхала і ад пазухі маці, калі яна схілялася над ім. Так сухенька і малочна сачыла цяплом свайго дыху на яго бабуля.

Моця, разгублены, знямелы даў волю птушцы. Тая ўдзячна, а мо і няўдзячна мазнула яго кончыкам крыла па твары, па вуснах. Моця зааблізваўся і доўга глядзеў услед ёй і ў пустое ўжо сіняе неба, чуючы і не чуючы, як патрэсквае, набрыняе сонцам бярвенне ў сцяне хаты, як таксама шамаціць, распадаецца каля яго ног ссохлы пясок на градзе клубніц. Патрэсквае і з ціхім шолахам некуды асядае, ссыпаецца.

Ён захацеў дасведчыцца, куды яшчэ таму пяску можна сыпацца, дзе яго месцейка, дзе яго доля ў зямлі. Хацеў і не паспеў. Спатыкнуўся вокам на тым, што чарэшню, не абмінаючы і грады клубніц, шаруюць ужо не шэрыя, а чорныя дразды. Жахнуўся, не даючы веры вачам: ну, усё, вось да чаго даводзяць думкі і мроі. Не да дабра. Зляцеў з капылоў. Да болю сцяў вейкі, заплюшчыў вочы. Але калі расплюшчыў іх, дразды як былі, так і засталіся чорнымі. Ён зірнуў на мёртвае па-за яго агародам поле і кумільгам кінуўся ў хату.

– Дразды атруціліся! Зусім атруціліся і ўжо ўчарнелі. І галоўкі чорныя, і крылцы чорныя, і ножкі чорныя. Хутка зусім канаць будуць...

Маці з бацькам і бабуляй выйшлі ў агарод, наблізіліся да чарэшні. Дразды, занятыя гвалтам, нават не павярнулі галоў у іх бок. Як сапраўдныя і адзіныя гаспадары. І былі яны чорнымі, Моцю здалося, яшчэ больш чорнымі, чымсьці раней:

– Во, бачыце, канаюць.

Бабуля прыхіліла Моцю да сябе, пагладзіла па галаве:

– Дурненькі, вох і дурненькі. Сапраўды бяда не ходзіць адна, у яе таксама заўсёды ёсць пара. Нават буслоў Бог падзяліў на белых і чорных. Таксама і з драздамі. Ёсць дразды шэрыя, ёсць дразды чорныя.

Моця ўзняў галаву, адтуліўся ад бабулі. Павярнуўся да бацькоў, паглядзеў на чорных драздоў на чарэшні і пад ёй. Дразды дадзёўбвалі апошнія ягады. І Моця падумаў: “Не, нешта тут не так. На месцы Бога, якога ўпамянула бабуля, ён бы ўсё неадкладна перарабіў наноў. Усіх – у белае. У белае. Хаця, з другога боку, гэта значыць і сябе. І раней за ўсё сябе, бо ён жа таксама не толькі адзіна і спрэс белы і пухмяны. Ёсць і ў ім чорнае, гадзенька чорненькае. Ён жа таксама каляровы, шматфарбавы. А сябе яму аднакаляровым рабіць не хацелася. Па крайняй меры, сёння. Але пазней, пазней, некалі...”

## Моця асвойвае Сібір і знаёміцца з Йеці

Моця ўвесь чорны, як марэнны валун у пракаветнай таёжнай согры – сібірскай адвечнай дрыгве. У яго загарэлыя, здаецца, нават вочы, нібыта зоркі на небе ўначы, рудзенькія і бліскучыя. Гэта ўсё таму, што няўрымслівы, ні хвіліны не ўсядзіць на адным месцы, вёрткі, рухавы. Такая ўжо ў яго пасада. Гаспадарка надта вялікая. Няма калі сядзець. Пакуль абыйдзеш ды агледзіш усё, уга, сонечнага дня не хапае.

Падумаць толькі, чатыры буравыя, дызельная, помпавая станцыя, а колькі людзей – буравікоў, праходчыкаў, падрыўнікоў і шараговых геолагаў. А недзе з кіламетр ці два ад лагеру пчальнік. Таёжны мёд Моця паважае. Ужо на наступны дзень, як толькі пасяліўся ў геалагічным лагеры, наведаў пасеку. Сам знайшоў дарогу – пчолы навялі. Пчаляр – дзед Самойла, лічыўся трохі сугнеем, дзікаватым – шмат геолагаў дабіваліся ад яго дабрыні. А ён не паддаваўся. Моця адразу абратаў яго, знайшоў з ім

агульную мову. І з таго дня былы сугней шоўкавы яму. Замшэлы сібірскі пень, за барадой якога, здаецца, ні роту, ні вачэй, гэткі сівы і ласкавы таёжны Месяц падчас Поўні, ці то татарын, шорац, а мо і чукча. Моця дзеду – керн з буравых, каменьчыкі ад шурфоў, мядзвежую цыбульку – калбу-чарамшу з далін каля гор, лекавыя карэньчыкі ды былкі з тайгі і ракі, а той дзячыць яму мёдам. Пакуль Самойла займаецца гэтай яго данінай, Моця часу не марнуе, аплятае мёд, аж аблезлы, паспытаны сонцам на спажыўнасць нос ідзе ў прысядкі. Больш паважае мёд у сотах, бо ў тых сотах тоіцца нешта жывое, водарнае і рухомае, як сонца на небе на схоне дня – не ўгару і даль, а ўніз, па ўсім жываце і да пупа. Па ўсім целе, да пятаў – пах разамлелых на сонцы жаркоў, медуніц, белагаловак і крыху сумна задаволенага аеру, тых самых выхапленых з ракі карэньчыкаў аеру, якімі Моця пасаладзіў душу дзеду Самойлу.

Есць Моця нехапатліва, далікатна, адставіўшы малы палец убок, як гэта робіць, калі п'е гарачую гарбату. Хаця мёд яму ніколькі не прыпякае, гэта Моця так аддае павагу дзеду Самойлу і дэманструе перад ім сваю выхаванасць. Расціскаецца жыватом і мружыць ад задавальнення вочы, нібыта есць той мёд адразу не толькі ротам, але і вачыма, жыватом – усім, што яму дадзена. Таксама мружыцца і Самойла, свідруе з сівых зараснікаў барады шчылінкамі вачэй, усмешлівага роту, кропкай чырвоненькага носу. Пад лавай ціхмяна прарабляе тое ж самае і вялізны бухматы кот ці то з пакусанымі пчоламі бакамі, ці, як і Моця, пасмакаванымі сонцам – белай мецінай каля носа і ў такой жа белай сурвэтцы пад горла...

Усе прыгожыя і ўсім хораша. Моця ў дадатак да поўнай ужо згоды вучыць дзеда Самойлу, а заадно і ката сваёй роднай матчынай мове. Абодва яго вучні да навукі здатныя. Ды як жа інакш, калі ты сапраўдны татарын ці чукча, то беларускую мову засвоіць зусім не цяжка. А каты з маленства і паўсюдна ведаюць і паважаюць усе мовы краю, дзе жывуць. Разумнікі, не тое, што некаторыя людзі.

Моцю дзесяць гадоў, амаль дзесяць. І бацька яго начальнік геолагаразведвальнай партыі. Ну, а калі праўдзівей – атрада. Моця па сваім узросце даволі адукаваны. За плячыма яго ўжо тры гады вучобы і тры класы. У той дзень, калі гэта адбылося, ён цвёрда вырашыў: буду геолагам. Праўда, вырашыў гэта даўно, ды ўзрост волі не даваў, бацькі зноў жа. А яшчэ, калі надыходзіў час бацьку ехаць у яго геолагаразведку – у поле – Моцю зацягвала вуліца, вёска і сябрукі. Але цяпер ён вырашыў канча. Прыбег са школы ўзнёслы і натапырана рашучы і да бацькі:

– Бяры ў разведку. Вось табель.

– Так адразу ў разведку?

Моця пераканаўча хітнуў галавой.

– З трыма класамі? Сёння такіх у сібірскай тайзе не знойдзеш. Нешта, брат, ты загнуў...

– Нічога не загнуў. Па-першае, дамаўляліся. Па-другое... таксама, што і па-першае.

– Мудры ў мяне ўнучак, – улезла бабуля. – І па-трэцяе тое, што па-першае і другое. Бог тройцу любіць. Бяры, бяры яго, вязі хоць к чорту на рогі, каб вочы мае яго не бачылі, вушы не чулі. Адпачну хоць...

– Во, бачыш, бацька. Бабуля не супраць... Апроч таго, у вайну з трыма класамі сапраўдныя ўжо разведчыкі былі. Героі... – спатыкнуўся на апошнім слове і сціпла дадаў: – Па радыё і тэлебачанні на свае вочы

і вушы чуў і бачыў... А галоўнае, хто ў Сібіры не бываў, той свету не бачыў...

– Слушна, – згадзіўся бацька. – Бяру.

– Моця аж падскочыў:

– Бярэш?!

– З выпрабавальным тэрмінам. Будзеш пазнаваць свет і займацца рознымі гаспадарчымі пытаннямі.

За апошнімі словамі бацькі Моця выразна адчуў падвох:

– Гэта бульбу лупіць?

– Трэба будзе – і бульбу.

– Гэтым я магу заняцца і дома.

– Ну і заставайся дома.

– Не, назад ракі не ходзяць.

– Ну, вось і паразумеліся.

– А хто ж мне бульбу тут абіраць будзе? – падкалупнула бабуля. – Ужо ж такі ахвочы, такі гаротнік. Як жа тут без цябе, каларадскага жука?

Моця даравαў ёй і гаротніка, і каларадскага жука, галоўнае – ён дамогся свайго. Але тут умяшалася маці:

– Мо рана яшчэ на край свету. Аднаго чакаць – вочы праглядзіш. А адразу двух...

– Нічога, – сказаў Моця, – з вайны жанчыны заўсёды чакалі сваіх мужчынаў. Такая ўжо жаночая доля. Гэта ж добра, калі ёсць ім каго чакаць.

Мо гэтыя словы яго ўсё і вырашылі.

І так сталася, што Моця напоўніцу займаецца гаспадарчымі пытаннямі, пазнае Сібір, жыццё геолагаў, іх бытаванне сярод некранутай тайгі. Нельга сказаць, каб яму надта даспадобы бясконцае прынясі-падай, асабліва паварыхі з яе запасам нялупленай бульбы. Але куды падзенешся, як гавораць па-сібірску: назваўся груздом, лезь у кузаў. Яго так і клічуць тут усе – грузд. Мо таму, што ён сам лезе ў кожную дзірку. Ну, грузд дык грузд. Ён без пыхаў, бо ведае, што гэта не са зла, геолагі яго любяць і недзе нават паважаюць.

– Ну, брат, не ў хіпіш дзела, – гавораць яму буравікі. – Падыходзь сёння да нас на вышку. Керн падымаць будзем, будзеш унікаць.

У партыі ўсе браты. Гэта Моця ведае, а вось што ці хто такі хіпіш, не разумее. Закавырысты народ дарослыя, асабліва калі яны таёжнікі. Прыдумаюць жа – “хіпіш”. Але так гавораць усе. І Моця не лысы.

– Ты ўчоры, не ў хіпіш дзела, брат, зноў аварыю засадзіў, – з веданнем справы даводзіць ён буравіку. І той пагаджаецца:

– Было, брат, было, не ў хіпіш дзела.

Моця не паглыбляецца, супакойвае яго:

– Ну, ты, брат, асабліва не перажывай. Наступным разам я ўсю змену буду каля цябе...

Да праходчыкаў Моця ходзіць толькі зрэдку. Калі толькі ў дзеда Самойлы ўзнікае патрэба ў чарамшы, яна там, у гарах, сакавітая. Але ў тым і справа. Што там, у гарах. Далекавата. І сцежкі крутыя. А да ўсяго апошнім часам каля шурфоў мядзведзь, гавораць, атабарыўся. Праўда, нейкі незразумелы, шалы, дзікі. Ніхто яго не бачыў, а сляды былі. На жвіры каля шурфоў. І толькі нейкі цень засціць праходчыкам у шурфе. Нешта цёмнае навісала хмарай над імі, і холад, холад ахопліваў. Холад

і страх. Такі холад і жах, што, здаецца, сыходзіць ён адначасова аднекуль з глыбу, з нетраў зямлі, і з неба, з ценю, што засціць сонца. Жывот ледзянее.

Канечне, не ў тым справа, што Моця пабойваецца нейкага там шалага і дзікага касалапага, хаця і гэта ёсць. І Моця на ўсякі выпадак узброіўся. Тэрмінова запасся пачкам патронаў да мелкакалібернай вінтоўкі, хаця вінтоўка гэта не зброя, а больш забаўка тут. Але ж, але ж... У бацькі ёсць яшчэ і пісталет. Да мала чаго ёсць, і не толькі ў бацькі і ў некаторых яшчэ геолагаў. Моця разумее свой узрост і свае межы і не наракае. Прылюдна не наракае, што не адзначае, што ён такі ж заўсёды адпаведна выхаваны, свядомы і на самоце. Што яму ніколькі не карціць упаляваць мядзведзя, ад якога і ў дарослых ледзянее жывот.

Занятак варты сапраўднага мужчыны. Зусім не тое, як марнуюць час, займаюцца цяпер амаль усе яго аднакласнікі. Ці не ўсе яны па “Брыганцінах”, ”Ветразях”, “Марах”, “Зубронках” – па дзіцячых лагерах. Адзіны сапраўдны лагер – гэта ў яго, у Моці. І было б вельмі няблага пацвердзіць гэта мядзведжай скурай, здабытай ім самім. Толькі не лёс, не лёс.

Моця горка ўздыхае. Але думка пра сяброў-аднакласнікаў усцешвае яго. Бачыў ён іхнія лагеры. Падумаеш: стройцеся, стройцеся, па адным не хадзіць, у ваду глыбока не залазіць, хутчэй распранайцеся, мёртвы час... Сапраўды, мёртвае царства лайдакоў і бэйбусаў, не ў хіпіш дзела...

Моця рашуча кіруецца ўбок шурфоў. Сёння ў яго клапатлівы дзень. Выйшлі, закончыліся ўсе каменьчыкі. А дзеду Самойле абсмоктаную вадой гальку не панясеш. Стары, стары, а не надурыш, разбіраецца. А ў праходчыкаў, ён яшчэ ўчора даведаўся, выпаў у шурфах скарн. І не абы які, а гранатавы – збег, спалучэнне звычайнай горнай пароды з гранатам, што сведчыць аб наяўнасці недзе непадалёку руданоснай жылы. Шанцуе Моці, вельмі шанцуе, як і дзеду Самойлу. Парадуе Моця гранатавым скарнам яго, а заадно і сваю калекцыю ўпрыгожыць.

Толькі ў той дзень упрыгожыць яе ў Моці не атрымалася. Ужо на паўдарозе да шурфоў ён успомніў, што яму дадзена на сёння зусім іншае заданне. Якраз была сярэдзіна лета, і з вярхоўяў ракі пачалі спускацца харыўсы па пацяплелай вадзе. Адбіліся па восені, перазімавалі, а цяпер угрэліся і пайшлі на жор уніз па рацэ.

Ды вось няўдача, паблізу лагера харыўсы чамусьці неўзлюбілі “жыраваць”. Трэба было ісці тры ці чатыры кіламетры ўніз па рацэ. Бацька ж не дазваляў Моці так далёка адыходзіцца ад лагеру. Паабяцаў узяць яго з сабой на рыбалку ў нядзелю. А да гэтага папрасіў налавіць паўтоў. І вось ён ловіць іх, спачатку нешта незразумелае падалося яму, а на самай справе да прыкрасці зразумелае і астачарцелае яшчэ дома. Паўты ў Сібіры – гэта нешта іншае. Як тыя ж кравасмокі, слепні на Палессі, толькі больш агаладалыя, бо есці ім у Сібіры народу не хапае.

На думку Моці, чарвякі былі б больш прыдатнымі для рыбалкі, больш па-хатняму звыклыя. Але гэтую сібірскую рыбу, аказваецца, чарвяком не задаволіш, падавай ёй сібірскія ласункі.

– Дыета ў харыўса сёння такая, – патлумачыў Моцю бацька. – Як у нашай плоткі на вылет з вады падзёнкі.

Нічога, вось прыйдзе нядзеля, Моця такую дыету наладзіць гэтым харыўсам. Шведскі стол накрые... І вечарам у суботу ў яго ўжо было дзве каробачкі з-пад запальнічак, у якіх гулі злыя і галодныя паўты. Ловы былі

нялёгкія. Слепакі-то яны слепакі, але не дурні, самі ў рукі не даваліся, хаця і кусалі, пілі Моцеву кроў. Толькі і ён няпросты, лавіў іх не на сябе, а на конях. Коні паўтам падабаліся больш за Моцю. З іх дапамогай Моця справіўся з задачай.

Але ў нядзелю ранкам пра Моцю ці то забыліся, ці то пашкадавалі будзіць. Як бы тое ні было, прачнуўся, а сонца ўжо і вочы выела – высока, высока. І ў лагеры адна толькі паварыха з нязменнай бульбай у чаканні яго. Ад крыўды Моця яшчэ больш учарнеў, бо зморшчыўся. "Ну і добра, дбранька, дабрача, – прашаптаў ён пра сябе, а ў голас – паварысе:

– Вы ўжо тут без мяне ўпраўляйцеся, а я на рыбу... Не трэба мне іхняй юшкі.

– Куды ж гэта, на якую рыбу? – Давялі, сапсавалі дзіця...

Але Моця ўжо не чуў яе. Толькі мільганулі на мастку праз ручай жоўтыя пяты, дрыготка скалыхнулася белае воблачка налётных матылькоў, Моця быў ужо ў канюшні. Ні коні, ні слепні яго не падвялі і не надурылі. Схаваўшы з дзясятак слепакоў у каробачку з-пад запалак, прыкінуў: для рыбалкі хопіць, каб столькі рыбін было.

Шыбаваў да рэчкі напрасткі. Густая трава амаль цалкам хавала яго. Вытыркалася толькі вудзільна ды зрэдку, ужо сярод хмызу, мільгаў яго пакрыўджаны аблезлы нос. У-У-Ух, – ветрам дыхнула ў твар. Нейкі вялікі цень закрыў сонца. Мядзведзь? Шалы, дзікі, па яго? Моця прысеў на купіну. Глушэц. Цяжкі, груваcткі і добра ўжо абшчыпаны – якраз такой парой глушцы мяняюць пяро. Мяняюць, гэта Моця добра ведаў. Птушка бамбавозам прамільгнула ці не ў метры ад яго, села на чорны валун у согры непадалёку. Яе можна было ўзяць голымі рукамі. Толькі Моці было не да птушынага палявання. Так ён і сказаў глухару:

– Не да цябе, родны. Не да цябе. Жыві, пакуль я добры.

Кіламетры праз два ён вырашыў закінуць вуду. Насадзіў паўта і пусціў лесу без грузіла, паплаўка па плыні. Так харыўсу больш зручна і звыкла браць насадку – няпростая рыба, з прыхамасцямі. Аблізваў прыбярэжную гальку, шалёна бурчэў і пеніўся струмень горнай ракі. Звінела палуднёвым звонам тайга. Струменілі мёдам травы.

Першага харыўса Моця выхапіў на белы свет зусім нечакана для сябе. Ён вынырнуў, як з кіпня, з віру, гнуткі, вялікі, рашучы. Слізгануў па плыні, збоку хватка схапіў прынаду, зацвярджальна матлянуў хвастом і, валацуга, імкліва пабег прэч. І ўсё гэта на вачах у Моці. Ён ад здзіўлення аж здрыгануўся. Затрымцела, зазвінела лёска. Моця тузануў яе, што было сілы. Імгненне, не верачы таму, што адбылося, харыўс і Моця глядзелі адно на аднаго. Першым ачомаўся харыўс. Пругка палаcнуў паветра хвастом, выгнуўся ўсім целам, стракаты, рознакалярова зайграў луской, плаўнікамі. І па твары Моці дробненька заскакала срэбрам усмешлівае сонца. І Моця ласкава падумаў: Сібір усё ж жыватворны край. Усе карціны толькі масляныя і шматфарбавыя. А недзе тут ёсць і адметная – возера танцуючых харыўсаў. Вось бы яму туды, ён бы там ужо патанчыў, патанчыў...

Але пасля гэтых мрояў час пацёк марудна і тужліва. Харыўсы швэндалі па рацэ чародамі, трошкі танчылі, але не зважалі на Моцю. Як грэбавалі. Больш за тое, здаецца, нават здзекаваліся і пасміхаліся з яго і яго прынады. Заманьвалі да сябе ў ваду, нібыта ён быў іх пароды. Раптоўна і неспадзявана ўзносіліся над вадой, сцягвалі прынаду, паказвалі пакручасты хвост і ўцякалі. А потым з карчажын, бліжэй да процілеглага берага, нахабнымі

вачыма пазіралі на Моцю і лена перабіралі цёмнымі плаўнікамі, як струнамі скрыпкі ці балалайкі. Чакалі працягу, дабаўкі.

Моця толькі разгублена круціў недаедкамі саламяных валасоў, стрымліваў трапяткое сэрца. Кожнаму новаму харыўсу ў вадзе пранікнённа шаптаў:

– Ну што ж ты, родненькі, давай, давай, клюй.

І іншым разам той кляваў. Удзячна, як даланёй, памахваў хвастом і даваў нырца ўглыб, у цемру. Моця браў абяруч адзінага харыўса, доўга і пільна, як у люстэрка, глядзеў на яго. Пачынаў верыць, што ён не апошні. Але час ішоў... Ішоў – і нічога.

Скончылася прынада. Моця адышоў ад ракі ў пошуках паўтоў. Але яны як згінулі без знаку і следу. Скінуў майку, сеў на гнілое бервяно на беразе. Слепакі як аслеплі канчаткова, усе разам. Паўты, слепакі, авадні. Таёжны гнус кружляў убаку. Толькі не набліжаўся да яго, не спажыўнага нават таёжнай заедзі.

– Паспытайце мяне, паспытайце маёй крыві, яна ж, як і конская, салодкая і чырвоная. І сам я спраўны. – Выпінаў худыя лапаткі. – Я тлусты.

Гнюс адмаўляўся верыць яму. Моця перамяніў месца. Пайшоў з чыстага ў траву. І там яму, здаецца, пашанцавала. Над галавой нешта цяжка і бухмата загуло.

– Хутчэй, хутчэй, – амаль загадаў Моця.

Яго пачулі. Ён адчуў, як нешта села яму на галаву, заперабірала лапкамі ў валасах. Моця ўскінуў руку, зацяў у кулаку нешта мяккае і рухомае. І ў тую ж хвіліну ўскочыў, і зусім не ад радасці. Ад радасці так не скачуць. Яго ўкусілі, уджалілі, джыгнулі. Як дрынам аперазалі. Таўсматы чорны чмель корпаўся ў яго руцэ і быў гатовы кусаць яе.

– Мы так не дагаворваліся! – закрычаў Моця і пабег да ракі халадзіць уджаленую руку...

Вяртаўся Моця ў лагер, трымаючыся ракі, бо было неяк млосна і тлумна ў галаве, баяўся заблукаць. Над гарамі і тайгой прабегся лёгкі летні дожджык. І ўсё навокал парыла пасля дзённай спёкі. Недзе на паўдарозе ён выйшаў на шырокую і даволі доўгую паласу жвіра, пакінутую, пэўна, драгай – золатадабывальнай машынай. Ісці па гэтай паласе было лацвей, чымсьці па таёжных сцежках. А да ўсяго Моця ўбачыў і чалавечыя сляды.

Гэта ён спачатку так падумаў: чалавечыя. І чалавек ішоў босы. Моця ўзрадваўся, гэта мог быць дзед Самойла, які не прызнаваў абутку. Кінуўся даганяць яго. Але праз колькі крокаў убачыў свежаразгрэбаны мурашнік. І гэта не надта здзівіла яго, хаця нешта няпэўнае і працяла свядомасць. Мурашнікі рушылі тут і рыбакі. На мурашак і іх яйкі добра клявалі яльцы і чэбакі і тыя ж харыўсы. Але Моцю кінулася ў вочы, што ў чалавека, які прыпыніўся каля мурашніку, была вельмі вялікая нага – дзве Самойлавы ў адзін гэты след.

Так ён разважаў, не спыняючыся, працягваючы даганяць басаногага прахожага. Толькі праз хвіліну-другую зноў насцярожыўся. Яго спыніла куча, ладная такая куча. Можна сказаць, не чалавечая. Басаногі спадарожнік прысядаў тут, і прысядаў зусім нядаўна. Куча яшчэ парыла. Моця адчуў: дрэнь справа, у нешта ён уляпаўся ці вось-вось уляпаецца. Ці не на спатканне з мядзведзем спяшаецца ён, там самым, што ходзіць каля

шурфоў. Хаця след па велічыні не нагадвае мядзведжы – большы і не такі акуратны, шырокі, разлапісты.

Усё гэта імгнення прамільгнула ў галаве ў Моці, як хуткае кіно, мульцікі нейкія. Ён яшчэ паспеў павесці вачыма туды, дзе пракладзеная драгай паласа нырала ў кедроўнік. І ў тым пахмурным кедроўніку выразна ўбачыў... Не трэба і казаць, што Моця ўбачыў, лепей, што ён адчуў. А адчуў ён сябе харыўсам на кручку. Так усё ў ім трапятала, курчылася і дрыжэла. Скура, як курыная ці гусіная, і вельмі кароткая нават яго целу, працятаму жахам і холадам, хаця з мамантавага цяжкага і насупленага кедроўніку нехта свідраваў, паліў і пек яго агнём. Так, што ледзянеў жывот.

Парны туманок адскочыў ужо ад пракладзенай драгай паласы белага і жоўтага жвіру. Узняўся над ім ці не па калена Моці. А ў пахмурным кедроўніку, сярод лістоўніц і піхтаў – і на ўвесь яго рост, па пояс даросламу чалавеку. І дарослы чалавек, як плывучы на воблаку, і сам як воблака, сівым голубам пазіраў на яго з таёжнага, неабдымна першабытнага кедроўніку. І быў ён як параджэнне таго кедроўніку, сын і брат яго, а мо і бацька. Схаваны да палавіны тулава воблакам лятучага туманка, пагойдваўся, як падвешаны на суку векавога кедра. Пагойдваўся і, здаецца, з апошніх сілаў нешта нашэптваў Моцю шчылінай касматага роту, перасцярагаў ад нечага свідравінамі пякучых вачэй. “Вось табе і шалы, дзікі мядзведзь,” – паспеў яшчэ падумаць Моця, і закрычаў:

– Йеці, йеці, снежны чалавек... – Спахапіўся і стрымгалоў кінуўся невядома куды... У мінулае ці будучае. Бо час быў страчаны, як і свядомасць, і адчуванне самога сябе. Бо ён ці не сам стаў йеці, і яму трэба было бегчы, бегчы. І бегчы няспынна, стагоддзямі. Так, здаецца, некім было загадана яму...

У лагеры Моця з’явіўся ўжо на змярканні, без вудачкі і харыўса. Але юшка была, уначы ўжо, калі ён нікому і нічога не сказаўшы, стаіўся ў ложку.

Так уначы ён хлябаў юшку з харыўса. Йеці частаваў яго, ён частаваў і прыгаворваў:

– Кушай, ідіот. Гэта смачна.

Лупіў чамусьці на трасянцы. І вельмі, вельмі пры бялява касматай поўні, як татарскім бубне, некага нагадваў яму.

Васіль Макарэвіч



...Толькі б з домам нам не быць бяздомнымі,
Толькі б з мовай нам не стаць
Бязмоўнымі!..

# Атлантыда

***Паэма***

***1.***

Небакрай,
Нібы цырата, выліняў.
Ззяе брук, падэшвамі навошчаны.
Пахадзіў удосталь тлумнай Вільняю
Ды ў прадонне лезеш
Кнігасховішча.

Ціша вісне ў ім
Кужэльным полагам,
Не чутно ні вэрхалу, ні ляманту.
Быццам на раскопках, археолагам
Рыешся ў рэестрах
З фаліянтамі.

Над драбніцай,
З зерне, непрыкметнаю

Скнарай несусветнаю калоцішся, –
Ледзь зірнеш у часу апраметную,
Нібы ў прорву гулкага
Калодзежа.

Так, як і чакаў,
З штрышкамі, з крэскамі
Тое, што спакон пад бокам муляла,
Бы з імглы, то накідам, то фрэскаю
Праступае роднае
Мінулае.

Робіцца яно
Бліжэйшым, знакавым,
Хоць было калісь ад нас адчужана.
Гляньце, як зіхцяць падзеі з замкамі,–
Нашы пракаветныя
Жамчужыны!

***2.***

Княства, ўдумна
Хрышчанае Бібліяй,
У глушы з выжарынамі галымі,
Капытамі вытаўкла і выбіла
Конніца вятрыстая
Ягайлава.

Недзе побач,
Ля дзялянкі з чэмерам,
Кроіла ў дупле скрылі васковыя,
Хоць была стагоддзямі зашчэмлена
Між тэўтонскім ордэнам
З Масковіяй.

З доляю,
Нібы свякруха, злашчаю,
У аўчыне цёплай, з поўсцю воўчаю,
Дзідай карчаванае, бы лядзішча,
Слалася далёка княства
Вотчынай.

І Хрыстом
І Езусам хвалёнае,
Дабягала, ўсыпанае гліцаю,
Ад Смаленска смольнага хваёвага
Да Валыні ў валунах
З Галіцыяй.

Дымам
І смугою верасоваю

Свет, здаецца, засцячы навокала,
Гаварыла ды крычала совамі
Каля пушчы пушча
Вірлавокая.

Чуліся ўначы
Густыя воклічы
То пагрозна, то ласкава-прыязна.
Моўчкі туманы паўзлі ад моклішча,
Ля двароў стаялі,
Як на прывязі.

Бы гайдук
На маладым стаенніку,
З радасцю, нібы сініцай злоўленай,
Ранак вылятаў штораз з-за ельніку
Ў шапцы дзіўнай, набакір
Заломленай.

Каб кірмаш
І гандаль не сурочылі,
Абуджаючы куты мядзведжыя,
Галасамі сакатаў сарочымі
Цуг падводаў, з прымхамі
Заезджымі.

А паблізу,
Недзе за ляшчыннікам,
У гладышак, кірмашовы новенькі,
З вузкага надрэза, як са шчылінкі,
Цокаў і цурчэў струмень
Кляновіка.

Сохлі травы,
Цені ў лесе чэзнулі.
Каля рэк аер, як брытвай, рэзаўся.
І ксяндзы, нібы камлі, таўшчэзныя
Служак спрэс апорвалі
Для Езуса.

А дзядзькі,
Рэлігій розных вернікі,
Апасля імшы ў карчму прыпусцяцца,
Каб прыдбаць дзеля малечы пернікаў
І сустрэцца з горкаю
Спакусніцай.
Поплеч мова,
Як паненка стройная,
Без капрызу і нуды казённае,

У льняным андараку са строямі
Пахаджала вабнаю
Князёўнаю.

Яравая,
Шчодрая, насенная,
З казкамі і нават забабонамі,
Прымаўкі, замовы ў вёсках сеяла
І дружыла з каралевай
Бонаю.

Хіба раз
Са светлаю каронаю,
Па калдоўб'і сотні вёрст агораўшы,
Сярод роўных засядала роўнаю,
І на каліўца ад іх
Не горшая.

І ў Парыжы,
Дзе над поўнай місаю,
Спрэс мудрылі парыкі і мантыі,
Завітаўшы з ганаровай місіяй,
Цуд тварыла з паннай
Дыпламатыяй.

З ёй паўсюль
Аралі і скародзілі,
Раніцай, пасля малітвы, снедалі.
І нікому ў галаў не прыходзіла
Да сябе, на покут, зваць
Суседнюю.

А зацягне песню
Дзесь пад Стоўбцамі
Сельскаю гарэзнай весялухаю,–
Ля Варшавы вербы цесна стоўпяцца
І ў здзіўленні голас чысты
Слухаюць.

Пад яе матыў,
Каб мець што-кольвечы, –
Дзе густой лазой, а дзе асокамі,
З паляваннем выязджаў сакольнічы
Ды пускаў з пляча па дзесяць
Сокалаў.
Стрэлаў хмары
З крыкамі і лямантам,
Цецівой тугой у неба пушчаных,
Да зуброў ляцела, як да мамантаў,

Белавежскаю смалістай
Пушчаю.

Секачоў-дзікоў,
З клыкамі вострымі,
На дасвецці ядраным і выстылым,
Узнімаў загон, нібы на востраве,
І турыў іх стойбішча
Пад выстралы.

Ціш стаяла
Ў пушчы, як пад водамі, –
Ні вятроў, ні вэрхалу драчынага.
З палявання йшоў абоз падводамі,
А падводы – да адной! –
З дзічынаю!

І наўзбоч,
Абвітыя вяроўкамі
Дзеразы пакручанай ды роснае,
Крушні па-япручы сыта рохкалі
І кракталі, камнямі
Паросныя.

Княства іх,
Нібы арэхі, лускала,
А хлусню з зямлі каціла покатам.
І сядзела права Магдэбургскае
Ў гарадах і селішчах
На покуце.

Не вучыла –
Тут сагні, там вылămі!..
Хабару нідзе не паддавалася.
А таму Сапегі з Радзівіламі,
Як маршалкі, ў сеймы
Падаваліся.

Свет стагнаў,
Рыў рэчышчы з пячорамі,
Каб шчупак, нібы чурбак, бултыхаўся.
Наўпрасцяк Дняпро ішло да Чорнага,
А Дзвіна прыспешвала
Ў Балтыйскае.
Покуль раннем
Канура не цяўкала
І скрылёў у вуллях не паменшала,
Зайздрасць местачковаю вядзьмаркаю
Зелле-варыва ў катле
Памешвала.

З дробнай шляхтай,
З кракаўскімі ляхамі,
Не зважаючы на тлум і далечы,
Пушчаю глухою сквапна лахала,
Собаляў з куніцай
Выглядаючы.

Ноч не спала
Ля Бабра і Парычаў,
Свечачкай свірэла непагаснаю,
Плечуком каменным падпіраючы
Сцены княства з сілаю
Паганскаю.

А сыны
З пасольскаю сябрынаю
За мяжою не таўкліся блазнамі, –
Славілі свой край, зямлю зубрыную,
Што з канца ў канец калісь
Аблазілі.

Як пасланнік,
На падводах скрыўленых
Тут палямі, там ляснымі ўскрайкамі
Вёз Скарына скарб друкарскі скрынямі,
Блаславёны шчыра панам
Кракавам.

Ад гатычнай
Вастраверхай Чэхіі,
Дзе на гневе быў падзол замешаны,
Бадыллё па спіцах гучна чэкала,
Дні лічыла з вёрстамі
Замежнымі.

Падарожны
Ў бездані азёрныя
Узіраўся, гнуўся ў тры пагібелі,
Каб пабачыць зноўку кнігу зорную –
Ціснутую ім у Празе –
Біблію.
Сустракала
Вільня гожай паннаю,
Перазвонам, воклічамі зычнымі.
Біскупы і святары заспаныя
Са слязой віталі, шчасця
Зычылі.

Калі справа ёсць
З патрэбай пільнаю –

На фундатарства чаго скупіцца ім?!
Забірай стадолу млына з пільняю
Для друкарні са шрыфтоў
Капыццямі!

Што? Бабыль?
І трэба жонка-модніца?
А ці баба-гром, з касою сплеценай?
Дык чаго там доўга валаводзіцца –
У жытло вядзі ўдаву-
Кабеціну!

І, каб жыў з ёй,
Шчасцем сэрца поўнячы,
Што павінна плыць, ісці лавінаю, –
У дадатак хай грымяць да поўначы
Пад акном рулады
Салаўіныя!

Кажаш, надта звык
Да пожняў з краскамі,
І ў грахах з малітвай шчыра каяцца.
А цяпер, апроч станка друкарскага,
Больш табе не трэба
Ані каліўца!..

І, як выклік
Злыдням з супастатамі,
Больш, чым індульгенцыя чаканая,
І была Скарынай глыба Статута
Золатам друкарскім
Адчаканена.

Неба пела,
Гаманіла жаўрамі.
То пясок, то жвір рыпеў пад восямі.
Межы скрозь са знакамі дзяржаўнымі
Ў глыб Літвы вякі далей
Адносілі.

***3.***

А наводдаль
З хіжымі намерамі,
Каб на свеце зла і бед пабольшала,
Поле ветры ўздоўж і ўперак мералі
Для арэны грознага
Пабоішча.

Можа, калісь
Княствам надта собіла
На разлад і звады палановыя.
А таму і войны міжусобныя
Іх на кожным кроку
Падпільноўвалі.

Захінуўшыся
Шчытамі, полаўцы,
Межы часта ломячы набегамі,
Лезлі саранчой на ўзваллі Полацка,
Спапяліўшы Лукам'е
І Бегамле.

Каля Міра,
Ці яшчэ Наваградка,
Так, як Папу Рымскаму жадалася,
Вільня з Польскім Каралеўствам загрудкі
Бралася і з года ў год
Важдалася.

Спешна,
Бы пускаючыся ў запускі,
Спрэс грымелі бітвы і баталіі, –
Аж снягі марозныя па забарскі
Станавіліся ад барвы
Талыя.

На палях,
Што стрэламі завеяны,
Вершнікі імклівыя і ратнікі
Душы чужакоў ад цела веялі,
Ды ў капцы іх клалі
Акуратненька.

З драбязой,
Да неба панавітаю,
І чужым багаццем панапханыя,
Ледзь паўзлі падводы панавітыя,
З паланёнымі нярэдка
Ханамі.

А князькі
Ды каралі суседнія,
Дзе драмала цішыня ў завоінах,
З трона злезшы, як з пустога седала,
Зноў паўзлі на нашы землі
З войнамі.

Сунулася ў латах
Грозна з войскамі
Ды грымела, грукала і ляскала
З бойняй і агнём вайна Лівонская,
А за ёю след у след –
Ліфляндская.

Стрэлы з неба
На зямлю цярусячы,
Самі, як быльнёг асенні, голыя
З пікамі ішлі на княства русічы,
Татарвой падпёршыся
З манголамі.

Колькі жыццяў
Узялі ды ўходалі,
Шаблямі дастаўшы пад застрэшшамі,
Родныя для нас браты усходнія,
Што пасля мы назавём
Старэйшымі.

Продкі нашы
Грудаю за грудамі
Клалі ў дол прышэльцаў, шчыра кажучы,
Рыцараў тэўтонскіх каля Грунвальда
І пад Оршаю маскоўскіх
Княжычаў.

Бітвы і трыумф –
Касьба з дакоскамі –
У гісторыі Літвы пасконнае.
Меч галовы шаткаваў тэўтонскія,
Падступаўся і да сцен
Масковіі.

Ды з Крамлём
І вежамі аглохлымі,
Што стажкамі стылі востраверхімі,
Абкладалі горад скрозь аглоблямі
І ў дванаццаць столак
Тлумам з вэрхалам.

І масквітаў,
Як братоў і ворагаў,
Хітрыкамі бралі дапатопнымі, –
Тут да сцен кацілі бочкі з порахам,
Там – кадушкі са смалою
Топленай.

Ў хмарах дыму
Ды звуглелай копаці
Йшлі на прыступ, нібы хвалі, дружныя.
Меч іккласты з пекнай шабляй схопяцца –
Ў паядынку хто каго
Адужае?

Дзіда б'ецца
З ачасаным колікам,
Ёмкі дрын з аглобляй доўга возіцца.
Брагай пачастуюцца, накольнікі,
Ды заядла за гарматы
Возьмуцца.

І бярно-таран,
Агнём набухлае,
Дзе пасля разведкі, дзе і напытам
Не ў вароты, а ў стагоддзі бухала –
Абарона, адчыняй іх
Напята!..

А праз год ці два
Світаннем ядраным
Гэткая мітрэнга адбывалася, –
Дзідамі і вогненнымі ядрамі
Ад суседзяў самі
Адбіваліся.

На званіцах
Крыж ля крыжа ўздрыгвалі.
Дзень за днём, нібыта кросны, ткаліся.
Звады спрэс з дзяржаўнымі інтрыгамі,
Бы кальчугі, грозна
Сутыкаліся.

Д'ябал правіў
Торг красой дзявочаю,
Град зпаднеб'я сеячы напарсткамі.
Для князёў калом рыў ямы воўчыя,
Расстаўляў ім сеці густа
З пасткамі.

За няроўны шлюб
У спальні вошчанай
З каралеўнай вабнай, малалетняю
Уз'яднаннем і братаннем з Польшчаю
Заплаціў Ягайла ноччу
Летняю.

Цьмела ржышча,
Бы агнём пажатае,
Вараннё на вольхах гучна каркала.
Трапіў не ў абдымкі князь пажадныя,
А ў сіло густое пана
Кракава.

Хоць Ягайла
І не стаў чаляднікам,
Чарапкоў чужых нідзе не вылізаў,
Ды пяшчотнай каралевы ладанка
Для Літвы балюча бокам
Вылезе.

Гарады
Нямелі парадзелыя,
Замкі апусцелі, сталі пунямі.
Перадзел ішоў за перадзеламі,
Унія ганебная –
За уніяй.

З века ў век
Замуства невясёлае –
На зямлі і ў небе непагодзіла! –
З гарадамі, замчышчамі й сёламі
Княства з рук у рукі
Пераходзіла.

Пётр Першы
У камзоле чортавым,
Сатаны таўром употай мечаны,
Крамы ў Полацку таптаў батфортамі,
Шытымі дзесь бюргерскай
Нямеччынай.

Зведаў край
І гнеў святы Суворава –
Тыднямі скразной ляжала ранаю
На палях з жывога люду ворыва,
Ядрамі гарматнымі
Ўзаранае.

Раўнадушным
Хіба тут прытворышся,
З ножнаў меч не вырвеш, хоць і ступлены,
Калі сталі прахадным падворышчам
Землі княства, калісь
Непрыступныя?!

Пакідаючы
Вакол пажарышчы,
Войны то з французамі, то шведамі,
Грукатам гарматным ціш пужаючы,
На дарогах поўзалі
І швэндалі.

Бітвы адгулі,
Прышэльцы згінулі.
Далягляд заззяў бліскотнай шыбінай.
Ім на змену жудаснай князіняю
Мураўёў цягнуў крывую
Шыбельню.

Рабавалі,
Вешалі ды тузалі,
Слалі зверху пастановы, запыты.
Зноў уціскам мучылі, кантузіяй,
Покуль край не стаў
"Северо-Западный".

Люд не меў
Спакою ані каліва,
У жыцці не знаў ён і прасветліны.
Што там войны дробныя, лакальныя?!
Наце, дурні, бойню вам
Сусветную!

Мала Першай,
Са злавеснай дыбаю
І снарадаў выбухаў кадрыляю, –
Хто не бачыць, вунь Другая дыбае
Ды скародзіць неба
Эскадрыллямі!
Холад, голад
Ганчакамі цахкалі.
Галасы з трыбун зрывалі кормчыя.
У каторы раз спаўна цацанкамі,
Абяцаннямі дасыта
Кормячы.

На вачах былых
Каменных ідалаў
Да аблок, вятрамі ускалмачаных,
З далані ў далонь, бы вугаль, кідала
Кожны дзень гісторыя,
Як мачыха.

А калі
Гаркота палыновая

Есць, грызе душу – яна не спыніцца!
Не, не там бяда нас падпільноўвала,
Дзе яе чакалі пільнай
Пільніцай.

Можа, гэта лёс?
Пад зор гірляндамі,
Што глядзелі з-за хмурын, як скептыкі,
Так рвануў Чарнобыль, што ў Грэнландыю
Сыпануў, як з прорвы, пыл
З аскепкамі.

А услед паром
Прайшоў Харонавы.
Ў небе гром прагрукаў, нібы коламі.
На фасад дзяржаўнае харомiны
Успаўзлі, як змаршчакі,
Расколіны.

Тры тузы-браты
Без злога вымыслу,
Аргументы маючы адменныя,
Ў Віскулях прысуд Саюзу вынеслі,
Што не мог быць анікім
Адменены.

Вырваліся
З кіпцюроў сатрапавых
Сквапнае імперскай метраполіі.
А з-за глупства ўласнага патрапілі,
Як з агню пякельнага
Ды ў полымя.

Каб ізноўку,
Як братам, паверылі,
Штосьці мелі прazапас і ў сідары,
Люд і нашы землі суверэнныя
Прывучаюць к рэзруху
Й гармідару.

З нафтавымі
Шчодрымі усплёскамі
Дый гадоўлі нашай валацугамі
Прымяраюць знахары крамлёўскія
Дзеля нас аброць тугую
З цуглямі.

З вышынёй
Паднебнай і бяздоннаю,

Шэпчам мы заклён святы з замовамі, –
Толькі б з домам нам не быць бяздомнымі,
Толькі б з мовай нам не стаць
Бязмоўнымі!

А тым часам
З роснага сасонніка,
Над вярбою ў маладзенькіх коціках,
Не зважаючы на ўхабы, сонейка
Круглым колам у нябёсах
Коціцца...

*4.*

...Выбярэшся
Ўрэшце з кнігасховішча,
Дыбаеш па Вільні люднай вуліцай.
Гарадзішчы мрояцца, падворышчы,
Дапатопныя шынкі
З пітуліцай.

Ліст мітнецца
Граматай пасловаю.
Побач праплыве каўнер андатравы.
Век на век тут, як пласты, наслоены
Ды прашыты бліскавіцы
Дратваю.

Са смугой лясной,
З капустай зайцавай,
З ранішняй зары тугім аколышам
Контуры, здаецца, праразаюцца
Велічы і сілы нашай
Колішняй.

Можа, з нашай
Доляй пракаветнаю,
Што празвалі прадзеды планідаю,
З вечнасці нямой, як з апраметнае,
Усплывае край наш
Атлантыдаю?

Ранак чысты
Ў возеры адсвечвае.
Жураўлёў праводзіць восень-ключніца.
І выразна бачыш, як адвечнае
З будучым зліваецца
І лучыцца.

*1994, 2012.*

Уладзімір Сіўчыкаў



...як амаль што кожны, Уладзя С.
трапляе час ад часу ў камічныя сітуацыі,
але стараецца ставіцца да сябе з самаіроніяй...

# З “Уладзевых гісторый”

## Мімікрыя

Пасля заканчэння міжнароднага творча-вытворчага семінара, што праходзіў у Вільні, выправіліся выдаўцы на развітальную вячэру ў грузінскі рэстаран “Adria”, што непадалёк ад Радзівілаўскага палаца.

– Слухай, Уладзя, – загаварыў быў Барыс П. да Уладзіміра С. – Ты добра знаешся на грузінах, дык скажы мне: афіцыянт, які прыняў наш заказ, папраўдзе грузін?

– Ды не! – упэўнена адказаў той. – Ні ў якім разе!

– Адкуль ты ведаеш? – далучыўся да гаворкі Міхась Б. – Ён жа такі чарнявы – тыповы каўказец...

– Магу ў заклад пайсці, што гэта хутчэй гарадзенскі “грак”. Ды вы і самі зараз пераканаецеся, – заявіў Уладзімір, знакам паклікаў афіцыянта і спытаўся ў яго:

– Выбачайце, калі ласка, але мы тут паспрачаліся, хто вы па нацыянальнасці.

– Я – літовец, – не міргнуўшы вокам, адказаў той.
– Ну, дапусцім, – гнуў сваю лінію Уладзімір. – А адкуль родам ваша мама?
– Ну, знаеце, ёсць такі гарадок Петрыкаў...
– Ага, ужо добра! – шматзначна паківаў Уладзімір. – А з якіх мясцінаў ваш тата?
– Ну, знаеце, ёсць такі гарадок Астравец...
Тут выдаўцы не стрымаліся і грымнулі дружным рогатам.
– Вось бачыце, сябры, – бацькі ў яго беларусы, а пажыў у Вільні і мімікраваў – стаў пачувацца жмудзінам! – Уладзімір пераможна зірнуў на калегаў дый прадоўжыў маральную экзекуцыю: – А скажыце, калі ласка, гаспадар вашага рэстарана такі самы грузін, як вы літовец?
– Ну, не зусім, – яшчэ болей збянтэжыўся служка.
– Мабыць, ён габрэй і адзінае дачыненне, якое мае да Грузіі, дык гэта тое, што жыве ў Амерыцы, у штаце Джорджыя, – гэтым разам выказаў здагадку Міхась дый тым самым патрапіў не ў брыво, а ў вока.
– Адкуль вы ведаеце? – ушчэнт разгубіўся афіцыянт.
– Ну добра, – злітаваўся Уладзімір і падаў яму шанец на выратаванне: – Ну, хоць шэф-повар у вас грузін?
– Так, так – самы сапраўдны грузін! – стаў запэўніваць афіцыянт. – Не хвалюйцеся, кухня ў нас самая натуральная, каўказская! І сацыві, і лобіа, і чахахбілі падамо як мае быць!
– Ну добра, тады прынясіце нам у якасці аперытыву два паўлітровіка вашага чыста грузінскага, халоднага баржомі, які праз свайго галоўнага санітарнага ўрача не могуць спажываць нашыя з вамі, літоўцамі, суседзі-расіяне! – скончыў пікіроўку Уладзімір. – Як кажа дзядзька Рыгор, наш паэт-класік, акрамя бясконцай удзячнасці больш аніякіх прэтэнзій да вас не маем!

*3 верасня 2009 года*

## Піжоны

Прыснілася было Уладзю С., што адзін дзяржаўны дзеяч прачнуўся пахмурнае раніцы, устаў з левае нагі і падумаў: "Чаго гэта я буду ездзіць на службу са сваёй рэзідэнцыі па праспекце, які носіць імя канкурэнта па папулярнасці ў людзей сталага веку?! Хопіць ужо адной з самых ажыўленых і прыгожых магістраляў у сталіцы ўслаўляць ненавіснае імя!"
Спаслаўся ён на нібыта шматлікія просьбы тых самых ветэранаў, і ў адзін дзень праспект Машэрава стаўся праспектам Пераможцаў (чаму толькі не Пераможца, які амаль што два дзесяцігоддзі атрымлівае на выбарах адно толькі элегантныя перамогі?).
Затое Машэрава перакінуў хоць і бліжэй да цэнтра горада, але на менш прэстыжную транспартную артэрыю. Да таго ж, панізіў у статусе: усё ж вуліца, а не праспект, як гэта было раней.
А яшчэ надумаўся паставіць памятны знак Машэраву і адным стрэлам забіць двух зайцоў.
Па-першае, легітымізаваць, замацаваць у свядомасці мінчукоў і гасцей сталіцы новую назву замест Варвашэні.
Па-другое, адпрэчыць нават думку пра імаверны помнік Машэраву, маўляў, скульптурная адмеціна, хай сабе і барэльеф, ужо ёсць.

Але і сам гэты памятны знак стаўся аплявухай дачцэ колішняга партыйнага і дзяржаўнага кіраўніка, якая намервалася была выставіць на прэзідэнцкіхвыбарах сваю кандыдатуру, а таксама ўсім ягоным паплечнікам і прыхільнікам.

Паводле законаў манументальнага (не садова-паркавага!) мастацтва, выява мусіць быць большай за натуральны памер чалавека. А з Машэрава зрабілі паленца з метр вышынёю, гэткага Бураціну, хіба што не драўлянага. Ну ніяк не цягне тая выява на знакамітага і значнага дзеяча! Рука правадыра павінна была б паказваць як мінімум шлях у светлую будучыню. А тут атрымаўся піжон у модным плашчыку ды яшчэ з рукамі ў кішэнях! Хаця, можа, добра яшчэ, што не зрабілі калгасным кіраўніком з кошыкам бульбы.

А вось у плане піжонства паспрачацца з выявай Пятра Міронавіча можа хіба што скульптурная выява Уладзіміра Ільіча, што на галоўнай плошчы ў Заслаўі. Так званы правадыр сусветнага пралетарыяту з задавальненнем жыў у еўрапейскіх сталіцах на грошы партыі, а дакладней на буржуйскія грошы, на грошы такіх фундатараў, як Парвус ці мецэнат і аматар мастацтва Сава Марозаў.

Здаецца, вось-вось ступіць Ільіч на заслаўскі асфальт з лонданскага паба ці з брусельскага бістро. Левая рука ў яго вальяжна пачуваецца ў кішэні нагавіцаў, а пальцы правай фацэтна закладзеныя за борт моднай камізэлькі. Яму б яшчэ кіёчак пад паху дый “кацялок” замест кепкі на галаву!

*7 лістапада 2009 года*

## Крадуць, а прыемна!

Пэўны час працаваў Павал Касцюкевіч у газеце-штотыднёвіку і за літаратурнага аглядальніка.

Аднаго дня ў нібыта незалежнага выдаўца Уладзіміра С. ён спытаўся:

– А ведаеце, што кніжкі вашае фірмы, якія вы прыносіце нам на анонсы і на рэцэнзіі, знікаюць?!

– Гэта як? – спытаўся заінтрыгаваны выдавец.

– А так! Народу ў нас тут пракручваецца шмат. Акрамя нашай, месцяцца ў гэтым памяшканні яшчэ дзве рэдакцыі, а таксама і грамадская арганізацыя, што ёсць юрыдычнай гаспадыняю выгоднага пункта ў цэнтры сталіцы. Прыходзяць сюды і аўтары, і навучэнцы Калегіума, і наведнікі семінараў, майстар-класаў...

– Ну дык і што?

– Бывае, пакіну неабачліва кніжку на сваім працоўным стале, а праз якую гадзіну яе ўжо і знаку не відаць!

– Гэта вы намякаеце, каб надалей прыносіў я па два ці па тры асобнікі? – удакладніў выдавец.

– Можна рабіць і іначай. Да прыкладу, падпісваць кнігі рэдакцыі нашага штотыднёвіка або ставіць аўтограф, адрасаваны непасрэдна мне.

– Вы, Павал, нагадалі мне адну даўнюю літаратурную паказку. Найчасцей фігуруюць у ёй розныя асобы, але, дапусцім, пазычаў амерыканец Марк Твэн тамы са сваёй прыватнай бібліятэкі сябрам і знаёмым, а кнігі тыя мелі потым тэндэнцыю знікаць. Тады надумаўся ён замовіць мастакуграфіку экслібрыс з надпісам: “Гэтая кніга ўкрадзеная з бібліятэкі Марка

Твэна". Фаліянты з такой пазнакаю на тытуле ці на форзацы сталі даволі хутка вяртацца на родныя паліцы.

– Але я на вашым месцы толькі радаваўся б! – усклікнуў журналіст.

– Патлумачце, калі ласка!

– А што тут тлумачыць?! Бывае, возьмеш у рукі кніжку, пагартаеш і неўзабаве разумееш, што анічога не дадае яна беларускай літаратуры, – цешыць толькі самога аўтара, а ў лепшым выпадку і ягоных сваякоў з сябрамі. Ну а калі слоўнікі, даведнікі, зборнікі і анталогіі вашага выдавецтва крадуць, значыць, яны вартыя таго, значыць, яны карысныя і шмат каму патрэбныя!

*28 верасня 2010 года*

## Воблачка

Фарбаваная плацінавая бландзінка Наталля Жукоўская (у дзявоцтве Абрамовіч, а не Чубайс, дарма што з Барысава!) доўгі час працавала ў Доме быту, што пры Камароўскім рынку, на вуліцы Кульман у нашай сталіцы. Шыла і рапорвала яна там самыя разнастайныя рамяні, пасы і паясы, а праз гэта займела мянушку "Паясніца".

Па пратэкцыі сяброўкі, Уладзевай жонкі Раісы Ш., уладкавалася яна на Беларускае тэлебачанне ў пашывачны цэх. Апошнюю акалічнасць яна не дужа педаліравала і, калі знаёмцы пыталіся, дзе яна працуе, дык з гонарам адказвала:

– На дзяржаўным тэлебачанні!

Аднаго разу намерыўся быў Алесь К. ("творца", як паўіранічна менавалі ў пашывачным цэху рэжысёраў, сцэнарыстаў, акцёраў і вядучых) прыватным чынам замовіць Наталлі сякое-такое шытво і, каб паддобрыцца, агучыў ёй паэтычны камплімент:

– Вы, Наталля, такая лёгкая і светлая, нібыта воблачка!

– Што?! – угнеўлена ўперыла рукі ў бокі швачка. – Гэта я сухая вобла?! На сябе паглядзіся ў люстэрка! Прэч з цэха, і каб аніколі я цябе тут больш не бачыла!

*На жаночы дзень,*
*8 сакавіка 2011 года*

## Аптымістка

Напалову спаралюшаваная шмат гадоў, баба Вольга, хаця дакладней Уладзю С. яна цётка па кудзелі, бывала, казала:

– Чула я па радыё, што адзін нямко з-пад Барысава раптоўна загаварыў, пасля таго, як працяла яго маланкаю. Ды яшчэ як загаварыў – па-французску! Можа, ягоны які-небудзь прапрапрадзед пераходзіў з Напалеонам Бярэзіну? Вось і мне надумалася высунуць ногі ў вакно, як будзе навальніца. Раптам у іх рэзне маланка і зноў змагу я бегаць як у маладосці?!

А то, бывала, ні з пушчы ні з поля заявіць:

– Вавусь, кажуць, што збіраешся ты паехаць у Ерусалім. Дый хай бы прывёз ты мне са Святой Зямлі саван, бо хутка ўжо памру і лягу поруч са сваім Іванам. Там не зямля, а лёгенькі пясочак, а сёлета, казалі, панарасло грыбоў: і валнушак, і абабкаў, і сыраежак... І яшчэ адзін саван прывязі Кочарысе, што жыве каля рэчкі, у канцы нашага завулка...

Пражыла яна пасля таго яшчэ гадоў пяць, а яе суседка Кочарыха і дагэтуль на беразе Плісы сонцу радуецца.

Уладзю покуль што не лёсіла пабываць у Ізраілі, а вось кузіна ягоная, дачка бабы Вольгі Валянціна, летась праехала праз пяць краінаў, каб пабачыць Вечны горад і Ватыкан, а ад свайго сёлетняга паломніцтва ў Святую Зямлю проста ў невыказным захапленні.

*29 ліпеня 2011 года*

## Кавун

Набыў Уладзімір С. на Заслаўскім базары важкі, з паўпуда кавун.

Прывёз яго на сваё лецішча дый падкаціў у цянёк, у гарбузовую граду, пад лапушыстыя лісты, дзе глядзеўся той вельмі натуральна.

Завітаў да Уладзіміра на ўчастак сусед Іван Б. нібыта паглядзець тэмпературу паветра ў цяні, пад паветкаю, дый ледзь не аслупянеў, калі агледзеў паласатага таўстуна:

– Валодзя, дык а што гэта ў цябе наградзе? Кавун?!

– Ну кавун, а што?

Пенсіянер змяніўся з твару, не сказаў больш ані слова і пашураваў на свае соткі, бо, казалі суседзі, успрымаў чужыя сельскагаспадарчыя поспехі ледзь не як асабістую крыўду.

Другі сусед, Васіль Г., звыкла зайшоў пазычыцца па сякеру дый таксама не змог не запытацца пра пасястае дзіва.

– Гаспадыня ў мяне працавітая і дбайная, – увайшоў у ролю Уладзімір. – А лета, сам ведаеш, было спякотнае, дый дажджоў хапала. Вось і вырас такі прыгажун!

– Вольга! Каця! – не ўстрымаўся дый праз плот загукаў да жонкі з дачкою Васіль. – Займаецеся тут розным марнатраўствам, а ў людзей вунь кавуны павырасталі!

Пад вечар купілася на досціп і Уладзімірава братавая Ірына, якая прыйшла на сямейную вячэру з садовага таварыства “Лысая Гара”.

– А што, мой кавун, – дык дзе хачу, там і трымаю! – напаўжартам нібыта апраўдваўся перад сямейнікамі Уладзімір. – Пасмакуем у альтанцы на дэсерт, які ён сакаўны і салодкі.

*24 верасня 2011 года*

## Exchange*

Грамадзянін-суайчыннік захоўвае, а калі трэба дык набывае ці абменьвае замежную валюту... паўафіцыйна, бо заробак і іншыя прыбыткі на беларускіх прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях павінны выдавацца ў беларускіх рублях.

За савецкім часам за аперацыі з валютай увогуле можна было патрапіць за краты. А вось сёння ледзь не ў кожнага гараджаніна ёсць пэўная сума ў еўра, у амерыканскіх далярах ці ў расійскіх рублях.

Але досыць праблемна набыць нават афіцыйна, скажам, шведскія кроны! Іх найлепш загадзя замовіць у “Белзнешэканомбанку” ці ў іншым банку, але зусім не факт, што пашанцуе цягам тыдня ці двух!

* Абмен (*англ.*)

Шараговы грамадзянін практычна безабаронны і перад такой банкаўскай структурай, як абменны пункт.

Тыя банкноты, якія абменьваюцца, супрацоўнік банка правярае навобмацак і візуальна, з дапамогай лупы, а таксама тэхнічных прыстасаванняў. Штосьці будзе яму не да душы, і ён можа адмовіцца абмяняць банкноту, – заявіць, да прыкладу, што яна пабывала ў пральнай машыне.

Дый хто не спазнаў непрыемных імгненняў, калі банкаўскі клерк круціць і ўсяляк правярае, хіба што ня нюхае, купюру. Затое кліент мусіць забіраць і валютную рэшту, і свае рублі напавер – не насіць жа з сабою лупу альбо дэтэктар!

Нярэдка ў касах прыкрываюцца шыльдачкай, маўляў, прэтэнзіі па аперацыях не прымаюцца, калі наяўнасць не была пералічаная ў прысутнасці прадстаўніка банка. Дзе і калі хто бачыў таго прадстаўніка пры акенцы абменніка?! Ну, а калі кліент адступіўся хоць на два крокі, тады і ўвогуле спрачацца няма сэнсу!

А такую паслугу, як размен банкноты на драбнейшыя, дык зусім не хочуць аказваць.

Пару разоў Уладзю С. проста падманвалі ў Маскве.

Аднаго дня ў даволі значнай суме падсунулі пры Беларускім вакзале і несапраўдную 100-даляравую купюру. Высветліў гэта напэўна толькі ў Мінску, калі папрасіў знаёмага праверыць падазроную банкноту на спецыяльным абсталяванні. Давялося, у рэшце рэшт, падраць дый выкінуць яе, каб пазбавіцца спакусы збыць каму-небудзь і каб не рызыкаваць быць затрыманым і абвінавачаным у фальшываманетніцтве ці спробе збыту фальшыўкі.

Другога разу дзявуля ў абменніку на Старым Арбаце заявіла Уладзю, што даў ёй на абмен дзве 5-даляравыя паперкі, хаця той абсалютна дакладна ведаў, што здаваў пяцёрку і дваццатку! Спрабаваў настойваць, а яна заверашчала, што ў яе ў касе ўвогуле няма аніводнай дваццаткі, – нібыта можна было зайсці туды і спраўдзіць! Больш за тое, стала намякаць на Уладзева нібыта махлярства і гразіцца выклікаць міліцыю.

Якія правы можна абараніць у чужым горадзе дый пры заўсёдным цэйтноце?! Практычна любы міліцыянт мае права прыпыніць мінака, асабліва неславянскай знешнасці, каб праверыць дакументы і нават адвесці ў пастарунак, затрымаць на некалькі гадзінаў, каб высветліць асобу.

Мінулай восенню ў віленскім “Акропалісе” ўсё скончылася добра, але хвілінаў сем-дзесяць папераўжываў. Абменнік там цывільны – банкаўская служка запрасіла сесці, але і дзверы за Уладзевай спінаю зачыніла, націснуўшы на адмысловую кнопку. Доўга круціла пададзеную 200-еўравую залацістую купюру, а потым папрасіла прабачэння і... сышла з ёю!

Сітуацыя не дужа прыемная – сядзеў Уладзя зачынены ў катушку са сценамі з металу і таўшчэзнага шкла. Мінуты цягнуліся вельмі марудна, покуль служка-касірка вярнулася. За той час, покуль яе не было, падалося Уладзю, можна было не толькі згатаваць і выпіць філіжанку кавы, але і паспець папляткарыць з сяброўкаю. Яна ж толькі мімаходзь зазначыла, што не заладзілася ў яе з тэхнікай, а таму правярала дый разменьвала валюту ў калег.

А вось у Мінску Уладзя аднойчы атрымаў сатысфакцыю. У банку на плошчы Перамогі абменшчык не захацеў прыняць у шэрагу іншых расійскую 100-рублёўку, бо падалося яму, што занадта яна зашмальцаваная.

“Але ж дагэтуль банкнота абарочвалася, і я ў свой час прыняў яе як плацежаздольную. – думалася Уладзю. – Хай бы Дзяржказначэйства ці іншая адказная структура своечасова здымала з абароту састарэлыя, зацёртыя купюры! Чаму ў мяне яна павінна прапасці?”

Настолькі быў не ў гуморы, што пайшоў да начальніцы змены дый напісаў скаргу.

Праз пару тыдняў атрымаў па пошце ветлівы беларускамоўны адказ з банка, што вінаватаму на 15 адсоткаў знізяць месячную прэмію, а таксама правядуць з супрацоўнікамі дадатковыя заняткі.

Праўда, з “перамогі” той Уладзя не меў аніякае радасці.

*30 верасня 2011 года*

## “Jedno gronce mleczko!”*

Уладзеў цёзка, празаік Уладзімір А., расказаў быў гісторыю з часоў, як першага разу пабываў у Нямеччыне. Захацелася яму шыкануць і, каб пачуцца сапраўдным і незалежным еўрапейцам, замовіў сабе ў вулічнай кавярні кубачак кавы, а потым яшчэ папрасіў да тае кавы малака.

Якія ж былі ягоныя здзіўленне і прыкрасць, калі пабачыў у квітку, што мусіць заплаціць за духмяны напой паўтары дойчмаркі, а за малако – ажно пяць!

Уладзю тады прыгадалася ягоная “малочная” гісторыя.

Адпачываў колькі гадоў таму з сям’ёю на Каляды ў заснежаным і дужа марозным Закапанэ.

Падчасаднае з вечаровых шпацыровак зайшлі пагрэцца ў прыватную аўстэрыю.

Замовілі бацькам па глінтвейну, старэйшай дачцэ гарбату, а малодшая, Хрысціна, папрасіла малака, якога... не аказалася ў меню. Аднак гаспадыня, якая прымала заказ, не разгубілася і папрасіла счакаць колькі хвілін.

Праз акно пабачылі госці, як праз вуліцу кінуўся да бліжэйшае прадуктовае крамы падлетак без верхняе вопраткі, мабыць, гаспадынін сын.

А праз некалькі хвілінаў афіцыянт прынёс Хрысцінін заказ у надзіва прыгожым, нібыта ёлачнае ўпрыгажэнне, парцалянавым кубачку. І да яго на сподачку і сурвэтачцы – два кубічкі рафінаванага бялюткага цукру!

– Jedno gronce mleczko dla panienki!

Дачушка Уладзева была расчуленая такім клопатам і павагаю, тым болей, што і ў гардэробе яе футра патрымалі, сагрэлі перад каларыферам знутры і толькі потым падалі, дапамаглі надзець.

Мабыць, і засынала яна таго вечара са словамі “Jedno gronce mleczko...” на вуснах.

І, мажліва, той клапатліва здабыты і спагадліва пададзены кубачак гарачага салодкага малака шмат што вызначыў у яе жыццёвым лёсе.

*11.11.11.*

## «Вот какой рассеянный…»

Як амаль што кожны, Уладзя С. трапляе час ад часу ў камічныя сітуацыі, але стараецца ставіцца да сябе з самаіроніяй.

* Адно гарачае малачко (*польск.*)

Вось ужо некалькі гадоў ён папярэдне запісвацца па тэлефоне ў салон “Майстар”, што на галоўным праспекце сталіцы. Да душы яму, як працуе цырульніца, пераможца некалькіх прафесійных конкурсаў, а з нядаўняга часу і загадчыца салона, не сваячка, а ўсяго толькі цёзка па прозвішчы паэта Сяргея Грахоўскага – Аня Грахоўская, якую Уладзімір пацвельвае часам, нібыта памылкова называючы Грэхоўскай.

Падняўся быў аднае раніцы задаволены кліент з крэсла, надзеў свой палітон, узяў з паліцы шапку і разлічыўся каля касы за паслугі – фрызуру “класіка” і падстрыжаную бараду.

Не паспеў дайсці да аўтобуснага прыпынку, як пачуў, а потым і пабачыў на дысплеі мабільніка выклік ад Ані.

Адмахнуўся: падумаў, што толькі што бачыліся, і паўторны званок прайшоў памылкова.

Але выклік паўтарыўся, калі прыехаў Уладзімір на працу.

– Скажыце, калі ласка, – асцярожна спыталася Аня. – А навошта вы знеслі... чужую шапку?

– А божачкі! – стаў апраўдвацца Уладзімір. – Гэта ж і праўда, ішоў я да вас без шапкі, бо не хацеў папсаваць, змяць ёю новую фрызуру! А з вашае шафы механічна ўзяў і начаперыў чужую, бо яна рыхтык як мая фасонам і колерам! Дый памерам падыйшла! Праз пару гадзінаў, як скончу пільную справу, заскочу дамоў па сваю шапку, каб вы пераканаліся, наколькі яны падобныя, і адразу да вас! Выбачайцеся перад маім візаві – далібог, не хацеў браць граху на душу!

А ўвечары другога дня апусціўся быў Уладзімір на платформу метрапалітэна на станцыі “Плошча Перамогі” дый дужа дзівіўся, як на ёй цьмяна, якімі расплывістымі падаюцца контуры мармуровых калон.

“Мабыць, перапрацаваўся з паперамі альбо трэба менш сядзець перад маніторам кампутара!” – падумаў ён, але на ўсялякі выпадак выцягнуў з кішэні адмысловую хустачку, каб працерці лінзы і агледзеў, што ў руках у яго не акуляры для далі, а гэтаксама пазалочаныя акуляры для блізі, у якіх працаваў над рэдактураю!

Мімаволі згадаўся яму герой верша польскага дзіцячага пісьменніка Яна Бжэхвы пан Гіляры, які згубіў быў свае акуляры. Абшукаўся той няўважлівы пан па ўсім доме, покуль не знайшоў свае акуляры... на сваім жа носе!

А неяк пазнавата ўвечары, у шарую гадзіну выйшаў быў Уладзімір са свайго пад’езда і пабачыў, што на дваровай аўтастаянцы нейкі падшыванец круціцца каля ягонай “Audi-80” колеру сланавае косткі.

– А ну, прэч адсюль! – галёкнуў на таго Уладзімір, і падлетак спалохана кінуўся пад засень таполяў.

Памкнуўся Уладзімір адчыніць машыну ключом у вадзіцельскіх дзвярах, дый дзе там!

“Мабыць, паспеў нягоднік пакалупацца ў замку!” – з прыкрасцю падумаў Уладзімір.

Скіраваўся ён да другіх дзвярэй, але калі абыходзіў капот дык механічна кінуў позірк на нумарны знак і... здранцвеў – былі на ім гэтаксама чырвоныя на белым фоне, але зусім іншыя, чужыя, незнаёмыя лічбы і літары!

“Дык гэта што ж выходзіць, – я ламлюся ў чужую “аўдзюху”?! А дзе ж тады мая?! – ліхаманкава падумалася Уладзіміру. – Дык вунь жа яна, стаіць за

суседскім “Volvo”! Вось разявака! Дарма толькі напалохаў хлопца, які, мабыць, дачэкваўся бацькоў з Батанічнага саду ці з якое бліжэйшае крамы!”

*На Дзень дурня,*
*1 красавіка 2012 года*

## Тэатр пачынаецца з вешалкі

Аднаго дня затрымаўся быў Уладзя па справах у партнёрскай фірме, а перад сыходам зайшоў па патрэбе ў туалетны пакой.

– А што гэта вы, Уладзімір, у жаночую прыбіральню ходзіце?! – пасвойску гукнуў яго кіроўца Мікола, калі той выйшаў. – Мужчынская ж насупраць! Наша сакратарка Карына пазірае вам услед дакорліва, але спытацца саромеецца...

– Праўда? – збянтэжана перапытаў госць і тут жа перайшоў у атаку. – А скуль я ведаю, дзе ў вас тут якая?! Бідэ там няма, а на дзвярах ні шыльдаў, ні піктаграмаў, ні літар адпаведных! Маглі б патурбавацца, калі вы ўжо такія заможныя! У “Вагрыусе”, самі ведаеце, прыбіральня агульная, а на “Марціне” і ўвогуле адна ў канцы калідора на цэлы паверх, на некалькі фірмаў! Хаця... і ў нас саміх на дзвярах ані знаку!

*2 красавіка 2012 года*

## Залюляў

Укладваў Уладзя С. дачушку нанач, люляў яе на каленях у зацемненым пакоі, а каб хутчэй заснула, прыгаворваў замест калыханкі:

– Спі-спі-спіі...

А немаўляці пачулася зусім іншая просьба, іншы пасыл ці патуранне. Тое, якое азначаюць падобным гукаспалучэннем, калі высаджваюць маленькіх дзетак на гаршчок:

– Пісь-пісь-пісь...

Падгузнікі на той час былі рэдкасцю, а дачушка зрабіла тое, пра што яе прасілі, у пялюшкі дый праз коўдру проста на калені татку!

*24 верасня 2012 года*

## Sic transit gloria mundi*

Колішні Уладзеў выкладчык, жывапісец Альгерд М., быў чалавекам досыць эксцэнтрычным, а часам і безапеляцыйна рэзкім. Але і ягоны мастакоўскі аўтарытэт быў бясспрэчным. На выставачных камісіях, у вучэбных майстэрнях, на экзаменацыйных праглядах і на педагагічных саветах да ягоных меркаванняў прыслухоўваліся з вялікім піетэтам. Многія зайздросцілі ягоным таленту і поспехам, некаторыя пабойваліся, а злыя языкі па-за спінаю дражнілі Мальбертам Падрамавічам Умалішэўскім.

Калегі-педагогі з тэатральна-мастацкага інстытута раз-пораз загаворвалі да яго:

– Альгерд, ну што ты захраснуў у сваёй мастацкай вучэльні, што ты вазюкаешся там з дзецьмі?! Хадзі да нас, у тэатралку! Папрацуеш на адпаведным табе ўзроўні, а там, глядзіш, і вакансія адкрыецца – ачоліш у нас кафедру!

---

* Так мінаецца мірская слава (*лац.*)

Паслухаўся іх мэтр жывапісу дый падаў-такі заяву на конкурснай аснове ў БДТМІ.

Галасаванне на кафедры жывапісу было таемным, і ў выніку яго аказалася, што ўсе, хто мелі права голасу, прагаласавалі “супраць”! Не здагадаліся дамовіцца ўкінуць хаця б адзін белы шар дзеля блізіру, каб можна было потым казаць: “Альгерд, дык гэта ж я быў за цябе!” Кожны, мабыць, быў упэўнены, што знойдзецца на кафедры хоць адзін Альгердаў прыхільнік.

Тады знаны маэстра яшчэ раз пераканаўся, што лепей быць першым у вёсцы, чымся другім у Рыме. Зарокся ён, найперш на радасць ягоным навучэнцам-чацвёртакурснікам, тагачасным дыпломнікам, нават не спрабаваць патрапіць працаваць у тэатральна-мастацкі інстытут, як менавалася тады цяперашняя БелАМ – Беларуская акадэмія мастацтваў.

*12 верасня 2012 года*

## Нерухомая маёмасць

Даўні Уладзеў знаёмец Гена Р. набыў сабе машыну.

І не проста машыну, а шыкоўны, эфектны аўтамабіль з фарсістай назвай “Cadillac DeVille”, якую часам памылкова перакладалі на англійскі манер як “Кадзілак Д’ябал”. Лімузін быў чорнага колеру, з абабітым натуральнаю скураю салонам.

Набыў у габрэя, былога дырэктара Камароўскага рынка. Той пераканаў Генадзя, што пакупка вельмі ўдалая, бо такіх мадэляў на ўвесь Мінск усяго толькі дзве ці тры.

Але гэтая, на першы погляд, перавага, як аказалася, вельмі хутка абярнулася заганаю.

На пачатку давялося Гену самому скруціць з капота фірмовы знак і насіць яго ў кішэні, каб не зрабілі гэтага злодзеі-падлеткі пад заказ калекцыянераў. Ёсць, аказваецца, і такія, што збіраюць аўтамабільныя знакі!

На ноч пад пад’ездам такую машыну, ізноў жа, не кінеш – давялося Гену выдаткоўвацца на платную стаянку, а потым і ўвогуле гараж арандаваць.

Зайздросны сусед па пад’ездзе пры сустрэчы нібыта бязадрасна цытаваў Уладзіміра Маякоўскага:

Ешь ананасы и рябчиков жуй!
День твой последний приходит, буржуй!

Пятроль машына тая патрабавала найлепшы, а значыць, і найдаражэйшы, дый жэрла яго надзвычай прагавіта. Тое самае тычылася і алеяў: у рухавік, у каробку пераключэння перадач, у бачок гідраўзмацняльніка руля.

А з запчасткамі і ўвогуле была бяда: амаль што нерэальна было здабыць іх у беларускае сталіцы. Практычна любую дробязь даводзілася замаўляць з-за акіяна, са Злучаных Штатаў.

На адным з нямногіх аўтасервісаў, дзе браліся за рамонт, параілі яму аформіць заказ на пракладку ў рухавіку на сябе як на прыватную асобу, маўляў, так танней абыйдзецца.

Ну дык жа і сэканоміў на гэтым Генадзь! Выклікалі яго пасля растаможкі таго заакіянскага заказа ў падатковую інспекцыю. Там пацікавіліся, на якія сродкі Генадзь жыве і на якія грошы набывае эксклюзіўнае аўто,

папрасілі запоўніць і падаць дэкларацыю аб прыбытках за апошнія пяць гадоў, а працэдура гэтая дужа турботная і малапрыемная...

Дый нават калі “Cadillac” быў на ходу, рухацца на ім, як аказалася, было досыць праблемна.

Генадзеў пляменнік, які адслужыў тэрміновую вайсковую службу ў Мінску, папрасіў адвезці яго на дэмбель, каб ад зайздрасці суседзі і былыя аднакласнікі раты паразявалі.

Ну дык покуль даехалі да роднае Оршы, чатыры разы спынялі іх даішнікі, а кожны кіроўца ведае, як гэтыя супынкі псуюць настрой. Але Гену спынялі не за парушэнні, а з-за... цікаўнасці! Правяралі дзеля праформы дакументы, а потым распытвалі, колькі пятролю бярэ гэты чорны “д’ябал” на сотню кіламетраў, за колькі секунд разганяецца да ста кіламетраў на гадзіну, колькі мае катлоў (цыліндраў) у рухавіку і падобнае.

На адрас Генадзевай жонкі Іны знаёмцы перафразіравалі радок з вядомай на той час песні:

Чтоб любить эти ноги,  
Нужен чёрный “Кадиллак”!

А за спінаю ў яго сябры жартавалі і падсмейваліся: “Ты чуў, Гена Р. набыў нерухомую маёмасць?!”

*20 верасня 2012 года*

## Белыя

Аднаго дня вяртаўся Уладзя С. са службовай камандзіроўкі з расійскай сталіцы.

Дужа спяшаўся ён на цягнік, але прыпыніўся на Грузінскім вале каля кіёска, у якім гатавалі шаўрму і кур на грылі, бо за справамі не паспеў паабедаць і надумаў прыхапіць у дарогу ссабойку.

Смуглявы гандляр наадварот анікуды не спяшаўся. Загортваў апетытна падсмажаную тушку ў тонкі армянскі лаваш, шчодра паліваў часнычным соўсам, а потым і дзелавіта ўкручваў у фольгу. Запакаваў у поліэтыленавыя торбачкі і, беручы грошы, фамільярна спытаўся ў пакупніка:

– А ты хто?

– У якім сэнсе?

– Ну, хто па нацыянальнасці? Югаслаў?

– Няма такой нацыянальнасці. Дый чаму югаслаў? Я – беларус!

– Беларус? Белы рускі? – іранічна перапытаўся каўказец. – Чым жа ты адрозніваешся ад нас, расіян, ці ад рускіх?

– Ды хаця б тым, што я – белы! – знервавана і нечакана нават для сябе самога адказаў Уладзімір і толькі тады зразумеў, што рызыкуе быць абвінавачаным у расізме.

Рука гандляра з рэштаю застыгла ў паветры, а вочы ягоныя бліснулі гневам.

Неспадзявана сітуацыю выратаваў мужчына, што стаяў у чарзе следам за Уладзімірам, верагодна, пасажыр з Беларускага вакзала.

– Я таксама белы! – безапеляцыйна заявіў ён і ў адказ на запытальныя позіркі дастаў з нагруднай кішэні пінжака і разгарнуў пасведчанне беларускага міліцыянта на імя Віктара... Белага.

*23 лютага 2013 года*

## Спрытны на язык

Дасціпнік-лінгвіст Аляксандр Мікалаевіч Б. і ў ягоным пачэсным узросце слова не пазычае.

Да прыкладу, на пытанне Уладзі С.: “Як жывяце, як настрой?” вокамгненна і нават у рыфму адказвае:

– *Настрой* добры, калі *нас трое*: я, яна і бутэлька добрага чырвонага віна!

*На Міжнародны дзень пісьменніка,*
*3 сакавіка 2013 года*

## Паўнавартасны абмен

Працавала Света А. майстрам на тэлефоннае станцыі. Адсочвала рознага роду збоі, выпраўляла тэхнікаў на лінію, калі была на тое патрэба, наладжвала сувязь на паштамце і на падстанцыях, як паяўляліся праблемы пасля залеваў і навальніц.

Але былі сярод абанентаў два дзяды, якія жыцця не давалі. Адзін бясконца названьваў дый скардзіўся, што ягоны хатні нумар вельмі падобны на нумар чыгуначнай станцыі і да яго па некалькі разоў на дзень трапляюць заклапочаныя пасажыры, якія хочуць спраўдзіць расклад руху цягнікоў ці кошты на білеты.

Другі меў аналагічную праблему, толькі памылкова траплялі да яго замест гарадской лазні.

Абодва патрабавалі замяніць, даць ім іншыя нумары хатніх тэлефонаў.

Але на той час не было такой тэхнічнай магчымасці, і Света падзялілася сваім клопатам з мужам Ігарам і ягоным стрыечным братам Уладзем.

– Дык няма тут аніякай нявыкруткі! – вокамгненна азваўся Уладзя. – Памяняй ты ім нумары... паміж сабою!

– Як гэта? – спыталася заінтрыгаваная Света.

– А вельмі проста! Дай нумар “чыгуначніка” таму, што нібыта сядзіць у лазні, а “лазеншчыку” наадварот, закрасіруй адпаведны, “станцыйны” нумар! Хай толькі паспрабуе пасля адзін ці другі сказаць, што тэлефаністы не ўважылі просьбы!

Павагалася Света, але ўрэшце паслухалася парады.

І з таго часу не чула ад тых скандальных абанентаў ані скаргаў, ані нараканняў.

*1 красавіка 2013 года*

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць свайго сталага аўтара
Уладзіміра Сіўчыкава з чарговай юбілейнай датаю
і зычаць яму моцнага здароўя, аптымізму,
душэўнае трываласці і новых гісторыяў ды падарожжаў!

Валеры Дубоўскі



...Шлях не губляецца.
Губляемся мы...

# Першапачатак

* * *

У заўтра,
напоўненае світанкам і верай у рух,
бягу.
Множу рух.
Святлею прадчуваннем.
Не сустракаю анічога лішняга,
апроч світанка,
веры,
руху,
якія працягваюцца
і збываюцца
адлюстраваннем у вачах тваіх.

Ты ёсць з таго,
што ёсць рух.

* * *

Вочы.
Першапачатак пранікнення.

Душа.
Першапачатак збыцця.

Слова.
Першапачатак.

* * *

Даўняе ці будучае?
Запазычанае?
Сваё?
Асяродак? Абалонка?
Жыцця? Смерці?
Цень ценяў тых, зніклых?
Вымярэнне немажлівага?
Асалода беспадставовага?
Намер?
Заспакаенне?
Няўяўнае "бздынь"?
Глупства нікому не патрэбнага,
Але ўсімі запатрабаванага
Клёку?
Выгінастая вужака?
Стырно блішчастае і нязломнае?
Рухавы прамень?
(Пасля адлюстравання ён –
Ява, фікцыя?..).
Ён ад сонца ці ад
Вачэй тваіх?..

Слова, якое сёння
Прысніў.
І не запісаў.
Шукаю яго сэнс.

* * *

Сонца.
Небакрай.
Хлеб.
Кола.
Кока.

Так у дзяцінстве
мы называлі яйка.
У кожным бялку хавалася
маленькае сонейка.

Дзе б ні спыняліся мы
пасярод дня,
пасярод Свету,
бачны быў небакрай.

Можна было адкраіць лусту
жытняга бохана
з яго сонечным смакам шчасця.

Можна было глыкнуць
спатольнай прахалоды
хлебнага квасу.
Выцерці вусны
і паімчаць,
запусціўшы наперадзе
драцінай – чыркаўкай
гарэзнае
кола сонца.

...Менск
Спёка ў Траецкім.
Над Пярэспай звон.
Дзятва п'е
кока-колу.

* * *

"Мяняюць гарады –
не мяняюць калодзеж".

Мяняюць звычкі –
не мяняюць самасць.

Мяняюць галасы –
не мяняюць мову.

* * *

Ў зацятае маўчанне
Роздум збег.
Маўчання – з коптурам,
А смеху – з верхам.

Як рэха не адказвае,
Змаўкае смех.
Маўчанне –
Нерассмешанае рэха.

* * *

Ах, Божа ж мой,
на холадзе сабачым,
на гарадскім тралейбусным
прыпынку,
дзе лiтасць задрамала
на хвiлiнку,
дзе немагчымасць i спазненне –
усё магчыма,
дзяўчо,
якое расцвiце ў жанчыну,

анёлак плача...

* * *

А кон нам выштукоўваў
Да iсцiны дапасцi.
Ёй – з кодавага слова.
Мне – з кодавае жарсцi.

А кон нам падслугоўваў,
Прарочым знакам шчасцiў.
Мне – з кодавага слова.
Ёй – з кодавае жарсцi.

* * *

Укленчваеш вятрам скразным...
Яны – скразныя –
Век – вяком.
Яны трывожацца рыўком.
Яны раскачваюць званы.

Душой з такiмi не крывi.
Для iх i небадол – адхон.
Палёт –
Як клятва на крывi.
Наўзрыў.
Наўзгад.
I наўздагон.

## *АДЧУВАННЕ*

***1.***
Колькі ў доме ёсць м***у***зык –
зайграйце ўсе разам!

Гарм***о***ніста, фартэпіянна,
дудой душэўна – пагуднай –
гуд пачуць акіяна
і сцішанасць
гаманлівага люду.

Адчуванне м***у***зык выразна.

***2.***
Колькі ў доме ёсць музык –
краніце мяне паасобку!

Скрыпачкай сыпаніце,
тонам працяглым,
няскораным –
адчуць пранікнёнасць зліццяў
твайго і майго нораву

ва ўсялякім яго адсотку.

***3.***
Колькі ў доме ёсць музык –
не маўчыце ніводнаю
гамай!

Трымайцеся і трымайце
хату быццём не эстрадным –
у небе, а не на сайце,
лучнасцю, а не звадай...

Голасам кожнае
мамы.

** * **

Вага думак
у часе вагаецца.

Увасабляецца
то праўдай,
то няпраўдай.

* * *

Ты мяне,
я цябе парадаваў
весткай не новай,
вясёлы мінчук.
Ты гаворыш
балючую праўду.
Праўду гэтую я маўчу.

Тыражуй
невялікім накладам.
Засляпенне ў каго
ўваччу?
Ты гаворыш
банальную праўду.
Праўду гэтую
пракрычу.

* * *

У крывавым
Скарачэнні мышцаў
Сябе ці даганю, ці праганю...
У белым сне
Мне вершам белым пішацца...
Блакітнага світанку
Мне не лішні час...

Тры колеры здабытага агню.

* * *

Між ударамі сэрца –
дажджоў
крокі сціхлыя.
Сэрца хоча даверыцца
крокам высахлым
іхным.

Між ударамі сэрца
распазнанай трывогай
цішыня адгукнецца.
Ты маўчала
так
доўга.

Што кахання
замала,

насумнеў падаецца.
Ты ж напраўду кахала
між ударамі
сэрца.

* * *

Кропля жыцця.
Кропля выхаду.

Кропка сыходу.
Кропка небыцця.

* * *

Здрада і ноч
Раніцай
Аб сябе спатыкаюцца.

* * *

Адчуўшы зло,
мы за парэнчы зла
спрабуем ухапіцца.

Апірышча пустэчы.

* * *

Датуль душа чакае,
пакуль жывая.

* * *

Шлях не губляецца.
Губляемся мы.

* * *

Іду,
як дождж,
не даляцеўшы
да зямлі.
Я лісцем шапаткім –
табой
злоўлены.

* * *

Між белых снягоў –
зялёныя льды.
Зялёныя вочы –
між белай усмешкі.

* * *

Палонны замерзлага возера –
Ахрыплы трыснёг прамаўляе
Хоку колеру хакі.

* * *

І гэты дзень
аддаю
ночы...

* * *

...І заставацца
абяцаным.

* * *

*Маме*

След ранні
ўспыліць
следам познім.
Ды бомы,
бомы з-пад дугі! –
дарогі й песні зберaглі.
Жыццё,
кароткае як позех,
жывіцца
клопатам даўгім.

* * *

*Бацьку*

Ад
рос да аблокаў
падрос.
Не снег,
а сняжынкі
у жменю ўзяў.

У рос
і сняжынак
свой лёс –
быць аблокавай
завяззю.

Штодзень
на штодзень выменьваў
(час адпускаючы,
жменю разняў) –
як прысак
для будучага агменю
нейчага.

Для новае
завязі.

* * *

З прадзедаў, з дзедаў,
З бацькі і з маці,
З роду праз род,
З учора ў сёння,
З сёння ў заўтра,
З плыні ў плынь,
З думкі ў думку,
Нязведаным тропам...

Іду ад сябе да сябе.

* * *

Боль і баль яна,
мая, цымбальная, –
баляваць боль прымусь! –
мая одумна-спавядальная,
недакаханая
Беларусь.

* * *

Ці то канчатак мы,
Ці то зачын?
Здалёку мы,
З апошніх далячынь.



## Паліна Качаткова



...можа, мы дбаем пра прывіды,

каб ім было дзе існаваць...

# Люстэркі

***Навэла***

Сяброўкі, якіх выбіраем мы, сяброўкі, якія выбіраюць нас, сяброўкі, якіх для нас выбірае жыццё ці лёс...

Ёсць такія, якія ўвесь час "дастаюць", чапляюцца, лезуць, падстаўляюць эмацыйныя падножкі. Ёсць сярод іх і "змагары за праўду з мяшчанскім ухілам" (была такая трапная фармулёўка ў 60-я гады). Гэта штосьці накшталт хатняга пракурора ці злоснага следчага.

Абвінавачваюць, вядуць бясконцыя блытаныя маналогі. Гнеўныя шукальніцы праўды. Гаварыць можна ўсё, што заўгодна. Галоўнае – зрабіць балюча. Ступень блізкасці і сяброўства вымяраецца болем. У адказ на шчырасць – сама вінаватая, і таму будзеш пакараная. Бязлітасныя Эрыніі – дэманы помсты на крылах кажана, з пугаю ды паходняй у руках. З доўгіх вострых языкоў крапае кроў ахвяры. Такія "дзеля праўды" могуць лёгка патэлефанаваць мужу сяброўкі і распавесці пра яе каханкаў... Бязлітасныя носяцца ў цемры і асвятляюць сабе шлях паходнямі, каб

ніхто не схаваўся. Яны жахліва крычаць, пераследуюць і караюць іншых, тых, хто не такі, як усе. Яны прагнуць зрабіць усіх аднолькавымі. Пачвары. З іх доўгіх языкоў кроплямі падае кроў ахвяраў. Бясконца абвінавачваюць усіх ва ўсім. Ім патрэбныя гледачы і ўвага, і яшчэ – як мага больш людзей уцягнуць у сваю вар'яцкую гульню і пакараць.

І вось што падказалі мне разумныя людзі: спыніць гэтыя гульні можа толькі высвятленне крыніцы ўласнага мазахізму. О, крыніца мазахізму, гэта так паэтычна гучыць. А як яе шукаюць? Кажуць, што яшчэ ва ўнутрыўтробным развіцці.

Але не пра тых сяброўак я хацела распавесці. Ёсць іншы варыянт, ёсць іншыя сяброўкі, якіх бачыш, можа, не так часта, але да якіх можна звярнуцца з любым пытаннем і не адчуць сябе... кепска пасля гэтага.

Хачу распавесці пра Кацю. Каця – нашчадак усім вядомага доктара-фізіёлага, лаўрэата Нобелеўскай прэміі за 1904 год у сферы медыцыны, стваральніка тэорыі пра вышэйшую нервовую дзейнасць.

З Кацяй мы пазнаёміліся ў Адэсе ў кватэры яе бабулі. Я зайшла і... адразу ўбачыла люстэрка. Вялізнае, высокае пад столь, а столь у кватэры таксама высокая – я не бачыла такіх. Пра такія кватэры можна прачытаць толькі ў творах пра дарэвалюцыйнае дзяцінства прафесарскіх дзяцей – шмат пакояў, кабінет бацькі... Я прайшла з вітальні ў вялікі пакой, а там яшчэ адно люстэрка. Ручкі ў дзвярах старыя – медныя, а на вокнах таксама медныя ручкі. Мы ў свой час у музеі Максіма Багдановіча адбудоўвалі шляхецкую сядзібу, дык такіх аўтэнтычных ручак не знайшлі нават у калекцыянераў. У вялікім пакоі ля сцяны стаяў ровар. Ён губляўся ў вялікай кватэры, здаваўся зусім маленькім.

Пасля мы сустрэліся ў Крыме на пляжы, недалёка ад руінаў старажытнага Херсанэса. Пачатак кастрычніка. Бліскучае, блакітнае, празрыстае і спакойнае мора, такое самае блакітнае і ціхае неба. Сонца грэе, мы ляжым на драўляных насцілах і гаворым.

Кажуць, каб супакоіцца, трэба ўявіць сябе на беразе мора, пачуць шэпт хваляў. Музыка для рэлаксацыі – піяніна, шум мора, чайкі. Не трэба нам піяніна. Не трэба напружвацца. Гэта ж трэба прыкласці намаганні, каб уявіць сябе на беразе мора, калі ты на самай справе знаходзішся ў кабінеце псіхатэрапеўта Чыгначана ў паліклініцы ў Мінску. Цяпер уяўляць не трэба – мы і так на беразе мора, мы і адчуваем яго пах, і лёгкі-лёгкі ветрык, і восеньскі холад, які прабіваецца праз сонечнае цяпло.

– Скажы, ты ў магію верыш... у такую народную, што можна сурочыць і праклясці – чалавека ці дом? – пытаюся я ў Каці.

– Канечне, веру.

– Да ты што!

– А што? Не мушу?

– Ты ж нашчадак вялікага доктара-матэрыяліста. Таму... раз ты верыш, значыць праўда, ёсць яно.

– Так і што? Усе вялікія навукоўцы ўпіраліся ў містыку, розум чалавека абмежаваны.

– А як з гэтым змагаюцца? Напрыклад, калі ў доме жыць цяжка.

– Наколькі я ведаю, ёсць некалькі кшталтаў адмыслоўцаў... Адзін з іх – рэлігійны: дом асвяціць, гэта, як чалавека пахрысціць – новае жыццё ў дома пачынаецца. Але, калі ты пра свой дом, пытанне ў тым, у што ты верыш. Мая сяброўка, калі ўсе пачынаюць хварэць, прыбірае ў хаце, мые

падлогу з зёлкамі. Я веру, што ў кожнага чалавека ёсць магія, і калі ты сама сабе абрад прыдумаеш, які цябе абароніць і чужыя ўплывы прагоніць – ён можа спрацаваць. Ці ёсць у доме старыя рэчы, напрыклад, люстэркі?

– Ну, так сабе старыя... 40-50-я гады мінулага стагоддзя.

– Я адчуваю энергетыку ад рэчаў, таму, калі мне ад бабулі кватэра засталася, я найперш люстэркі прадала – яны вельмі энергетыку добра захоўваюць. Перад тым, як кватэру прадаць, я спачатку рэчы прадавала, а то ў мяне было адчуванне, што бабуля з кватэры не сыйшла і што яна б не дала мне кватэру прадаць.

– Я памятаю тыя люстэркі, яны па чатыры з паловай метры вышынёй.

– Так, вялізныя былі. Я ўжо не памятаю, прадала іх ці то ў музей, ці то ў тэатр. А можа, і бясплатна аддала.

– Фантастычныя люстэркі былі.

– Ну, гэта не клас, там усяго 4-6 свечак адбівалася, а класныя лічацца калі 10-12 адбіткаў.

– А ты лічыла ў люстэрках свечкі?

– Вядома, запалі свечку і паднясі да люстэрка, у сучасным люстэрку ты ўбачыш 1-2 адбіткі. А старыя люстэркі – тоўстыя, там больш пераламленняў выявы.

– А што, дзеля гэтага свечку трэба ставіць насупраць люстэрка ці як?

– Свечку ставіш перад люстэркам, а глядзіш трохі збоку, як бы ў перспектыву...

– Я праверу, калі застануся цёмным восеньскім вечарам адна ў доме. Напрыклад, перад Дзядамі – днём ушанавання памерлых.

– Так... Вяртаемся да твайго дому – мне здаецца, гэта пытанне кошту, які ты сама заплоціш. Калі ты маеш магчымасць паўсюль змяніць падлогу і абнавіць сцены, – гэта дапаможа. Гэта не кансультацыя, гэта парада з практыкі.

– Я так думаю, што ад дому, у якім нарадзіўся і жыў у дзяцінстве, трэба трымацца далей. З'ехаць куды-небудзь і заязджаць зрэдку, а яшчэ лепей у снах. Я табе таксама распавяду гісторыю пра раптоўную смерць жанчыны і люстэрка... Мне яе распавялі ў цырульні... У раённай паліклініцы паставілі новыя камеры назірання. І вось адна жанчына ішла па лесвіцы ў паліклініцы і памерла. Супрацоўнікі паглядзелі гэта ў запісе і ўбачылі наступнае – ідзе жанчына па лесвіцы, а за ёй нешта цёмнае – ці то цень, ці то пляма цягнецца. Жанчына падае, гэтае цёмнае аддзяляецца ад жанчыны, пачынае мітусіцца, а пасля шугае ў люстэрка. Запіс з камеры паказалі галоўнаму доктару, ён сказаў люстэрка замяніць і запрасіць святара. Гэта нядаўна было. Сёлетняй восенню. А размова пачалася з таго, што "камеру не падманеш".

– Новая гарадская легенда.

Каця пазбылася сваіх люстэрак, прадала кватэру ў цёплай Адэсе і з'ехала ў Пецярбург, дзе працуе ў арганізацыі, якая займаецца экспертызай старых будынкаў.

Дом, як дамавіна. Гэта аднакарэнныя словы – так? Калі мы клапоцімся пра захаванне старых дамоў, можа, гэта не зусім пра архітэктуру, можа, мы дбаем пра прывіды, каб ім было дзе існаваць?

І яшчэ кажуць, што сапраўдных сяброў чалавек можа знаходзіць толькі ў юнацтве. І тыя, што з юнацтва, яны сапраўдныя... Няпраўда, чалавек можа знаходзіць новых добрых сяброў у любы момант свайго жыцця.

Ганна Аўчыннікава



...Ты ніколі не будзеш маім,
Я тваёю не буду ніколі...

# Не зрокам, а сэрцам

## *ТЭАТР*

Я прымаю шаленства і грым
І жыццё называю гульнёю...
Ты ніколі не будзеш маім,
Я ніколі не буду тваёю.
Mea culpa! Прымаю за грэх
Нашых думак і рухаў нязгоду,
І на масках, бялейшых за снег,
Чорнай сажай малюю разводы...
Адгуляем, і стане лягчэй!
У паўзмроку, навокал разлітым,
Я не ўбачу чароўных вачэй,
Што пазычылі ў неба блакіту.
А тады – хоць ты смейся, хоць плач –
Мне ўсё роўна, і дзе ты, і хто ты!
На спектаклі сумуе глядач,
Ды працягвае фарс адзінота...

Я прымаю шаленства і грым.
У тэатры падзелены ролі:
Ты ніколі не будзеш маім,
Я тваёю не буду ніколі.

* * *

Мы будзем губляць хвіліны –
І разумець іх вартасць,
Без веры і самападману,
І ўсякай пільнай патрэбы.
Сапсаваныя ўспаміны
Хаваць у сабе, як зярняты,
Таксама без спадзявання,
Што вырасце з іх што-небудзь.
Жыць шчасцем тым,
Што не зможа
Прайсці скрозь шум аднастайны
Дзён, як голас ратунку,
Нам душы напоўніць да краю,
Вярнуўшы сапраўдную радасць
Пачуццяў, глыбока схаваных,
І страчаных пацалункаў.

### АСАЦЫЯЦЫІ З ЛІСТАПАДАМ

Падслухай фінальны акорд
На дне абарванага смеху,
Чытай цераз запісы зверху
Палімпсесты схаваных грахоў
Пад лісцем, на чорных палях...
Ты ўбачыш не зрокам, а сэрцам,
Як нізка прасела зямля,
Як неба – шырэйшым здаецца.

* * *

Даруем каханым сваім
Рахункі, не вартыя стратаў,
І будзем размешваць гарбату
З лістоты, гаркавай, як дым,
І піць, і ўсё думаць пра час,
Што нас пакідае ў самоце,
Што нас пакідае на потым –
Калі і не будзе ўжо нас...

* * *

Калі апусцее ў дамах,
Захочацца раптам на холад,
Захочацца неба схаваць
У позірках, сцертых і змоўклых.
І марыць, каб у лістапад
Прасыпаўся дробнаю соллю
Калючы, растрэсены снег...
Адважыцца ўрэшце спытаць,
Не просячы болей дазволу:
“Ці думала ты пра мяне?” –
“Ці думаў ты пра мяне?..”

* * *

Калі адпачыла зямля
Пад снегам ад першага болю,
Зрабілася нам размаўляць
Так лёгка з табой, як ніколі.
І з неба зрываецца гук,
Ледзь чутны ў празрыстым суцішшы,
Як быццам бы падае з рук
Зламаная срэбная лыжка...

Віктар Сазонаў



...адна праўдзівая фраза
можа стаць мацнейшай
за ўсю падманную прапаганду...

# Дзядоўскія мудрасці

***Абразкі***

## На ўсё жыццё

Хіба толькі маладыя, з-за сваёй маладзёвай дурноты, чакаюць ад вяселля і будучага паслявясельнага жыцця доўгага і пяшчотнага шчасця, насычанага вечнай узаемнай павагай і паразуменнем ды іншымі немажлівасцямі. А таксама кахання, перасыпанага дабрабытам ды дастаткам, якія няведама адкуль павінны ўзяцца, але абавязкова мусяць прысутнічаць у колькасці, прама прапарцыянальнай іх бязглуздым жаданням.

Усе ж астатнія людцы, асабліва блізкія сваякі, пачынаюць праяўляць цуды празорлівасці і як чарадзеі ў трэцім калене выразна бачаць будучыя непераадольныя праблемы маладой пары. На іх думку, якая грунтуецца на жаданні не даць іншым шчасця больш, чым маюць самі, гэтыя цяжкасці абавязкова мусяць проста з неба зваліцца на галаву закаханай пары ў такім аб'ёме, які ў некалькі разоў перавысіць іх каханне і здольнасць супрацьстаяць няшчасцям.

У дадатак, усе навокал, аж да моманту шлюбу, калі на кароткі час мяняюць свае перакананні на супрацьлеглыя, яскрава бачаць, што маладыя аніяк не падыходзяць адно аднаму. Пры гэтым сваякі маладога ўжо ведаюць усе фізічныя недахопы маладой у такой колькасці, якая ў аднаго чалавека не можа змясціцца фізічна. Іх, тых недахопаў, магло б хапіць на ўсю нацыю і яшчэ на суседнія малыя і вялікія народы.

Галоўная выснова, якая адначасова прыходзіць у галовы ўсёй радні адразу, гэта што маладая не падыходзіць іх прыгожаму хлопцу ні па адным параметры знешнасці. А пра выхаванне і гаварыць не хочацца. І гультайка, як яе маці, і неахайная, як даўно забытая ўсімі цётка, што выйшла замуж за ваеннага і з'ехала адсюль яшчэ трыццаць гадоў таму, і каб не гэтае вяселле, то ніхто пра яе і не ўспомніў бы. Карацей гаворачы, дзяўчына сабрала ўсе недахопы сваёй нядбайнай радні ажно да сёмага калена ў глыбіню вякоў.

Сваякі ж маладой ужо раскапалі ўсе злачынствы і пачварствы радні маладога, якія тыя нарабілі аж па сённяшні дзень, пачынаючы адлік ад Адама і Евы. І калі ва ўсё гэта паверыць, то ні адно злачынства на свеце не адбылося без іх прамога ўдзелу, уключаючы ўсе сусветныя і несусветныя войны, знішчэнне канкістадорамі культуры майя ды навядзенне сурокаў на суседскіх свіней. Яны гатовыя абгаворваць радню маладога да бясконцасці, пацвярджаючы тым самым выказанае некім меркаванне, што праўдзівымі людзі толькі нараджаюцца, а жывуць і паміраюць хлусамі.

Толькі закаханыя не бачаць, якія жарсці бушуюць вакол іх, і паводзяць сябе як дурненькія авечкі, якія нават пры прыстаўленай да горла касе мяркуюць, што іх проста хочуць пакарміць.

Найпрасцей пераносяць шок ад заканчэння нармальнага жыцця сваіх дзяцей іх таткі. У гэтых незадаволенасць выбарам дзетак доўжыцца толькі да першага сумесна выпітага кілішка. Пасля, з мудрасцю і логікай, уласцівымі выключна мужчынам, якія ўжо зведалі пратэстнасць і няўдзячнасць сваіх дарослых нашчадкаў і супакоілі нервы саракаградуснай вадкасцю, яны будучыя беды сваіх дзетак пачынаюць успрымаць па-філасофску, усё спісваючы на фатум.

З матулямі больш складана. Маці маладога амаль заўсёды перакананая, што яе нявіннага дзіцёнка нейкая разбэшчаная дзеўка абдурыла, як буфетчыца піяку. Хіба яны мяркуюць па сабе, успамінаючы, як абышліся з бацькамі сваіх сыноў. Маці ж маладой ненавідзіць усіх ужо з-за таго, што цешчы мусяць быць такімі злымі па даўно складзенай народнай традыцыі. А традыцыі шанаваць трэба. А яшчэ будучая цешча не можа змірыцца з думкай, што жыццё ўжо прайшло і хутка яна будзе бабуляй. І менавіта гэты факт пакажа ўсяму чалавецтву, што яна ўжо кабета не маладая, хоць і лічыць сябе юначкай. Таму перад вяселлем яна не знаходзіць сабе месца, як шалёны сабака, у якога за сняданкам адабралі міску з засмажаным катом.

Пра дзядзькаў, цётак і больш далёкіх сваякоў, якія маладых упершыню ўбачаць толькі на вяселлі і да канца не ведаюць, хто ім радня, малады ці маладая, увогуле гаварыць не даводзіцца. Яны заўсёды гатовыя ўгледзець у іншай радні злодзеяў і ашуканцаў, якія і падарункаў нармальных маладым зрабіць не ў стане, і ядуць ды п'юць зашмат, і ўвогуле на людзей мала падобныя.

Добра, калі хоць нехта талковы з'яўляецца сярод усёй радні. Тады хоць нейкі шанец ёсць, што маладыя не ўзненавідзяць свой будучы лёс і

будуць сваё сумеснае існаванне праводзіць не пад цяжкія ўздыхі родных цётак, уздыхі, якія суправаджаюцца словамі: “А я ж гаварыла! Але ж мяне ніхто не слухаў!”.

Васілю з Ларысай пашанцавала. Сярод перадвясельнай мітусні і дэманстратыўных стогнаў усёй радні з абодвух бакоў, калі нават суседзі лічаць сваім абавязкам хоць раз даць мудрую на іх думку параду кшталту “А куды ж ты, дзетачка, лезеш?!”, або “Ці ўсё ты добра абдумаў?!”, быў адзін чалавек, які не сказаў ні слова. Гэта быў дзед Васіля. Ён толькі слухаў ды пасміхаўся сабе. Ні з кім у размовы не лез, не спрачаўся і не паддакваў. Як бы чакаў свайго часу, каб сказаць мудрасць тады, калі дурні ўжо нагаворацца і ўсе глупствы скажуць па тры разы.

А глупствы сыпаліся як снег вайной. Ужо і маладыя пачалі сумнявацца, ці добра яны робяць. Ужо і кінулі б адно аднаго ды разбегліся ў розныя бакі, каб толькі не чуць таго і не бачыць. Ды каханне іх трымала разам. А маці Васіля выкарыстала тайную зброю, што трымала на самы крайні выпадак – мужа.

– Ідзі, дурань, з сынам пагавары, – пачала яго падбухторваць. – Родненькае дзіцятка жыццё губіць, а ён п’е як конь! А яму абы напіцца!

Бацька Васіля сапраўды паспеў ужо прызвычаіцца да рашэння сына і з бацькам Ларысы ўжо абмяркоўваў за кілішкам, як унукаў называць будуць. З жонкай паспрачацца забаяўся. Таму напружыў мужчынскую логіку і прыдумаў, што сыну сказаць. Думаў, фраза будзе разумная і насцярожлівая.

– Ці добра ты падумаў? – пытаецца ён, абняўшы сына за плечы. – Ты добра падумай, сынок. Гэта ж на ўсё жыццё!

І тут выказаўся дзед. І пасля яго слоў усе спрэчкі спыніліся, і людцы, змірыўшыся з лёсам, сталі шукаць добрыя рысы ў абранніках іх дзяцей.

– Не слухай, унучак, гэтага малакасоса, – выгукнуў дзед. – Што ён кажа. Усё жыццё. На ўсё жыццё. Нават галаву не задурвай сабе такімі сумневамі. Бо ўсё жыццё – гэта не так ужо і доўга. Праляціць імгнення. Таму не бойся на ўсё жыццё штосьці зрабіць.

## Камяні

Бульбу справядліва хтосьці назваў бічом беларускай нацыі. І справа не ў тым, што яе беларусы зашмат ядуць. Яны, нібыта, такія рахманыя і спакойныя, бо бульба сама па сабе сродак супакойваючы, і таму, як быццам бы, кожны беларус, на працягу ўжо трох сотняў гадоў, штодзённа прымае супакойваючых сродкаў у эквіваленце, роўным тром таблеткам дымедролу.

Прыдуманае гэта дзеля смеху, ці можа які звар’яцелы прафесар сапраўды паверыў у сваё бульбяное вынаходніцтва і цяпер чакае дзяржаўнай прэміі, – сказаць цяжка. Калі яго ўзнагародзяць, то толькі бульбяным ордэнам. Але ёсць яшчэ адна думка. Невядома, верыць у тое ці не, што з-за бульбы наша нацыя стала абыякавай да таго, якая ўлада ёй кіруе. Маўляў, нам да ўлады аніякай справы няма. Нам абы бульба была. А будзе бульба, то будзе і сала. А значыць, неяк пражывём, і хто там намі кіруе, нас цікавіць не больш, чым каларадскага жука яго гістарычная радзіма. Нам, маўляў, як таму жуку, каларадскаму, абы бульба была.

Усё гэта гучала б смешна, каб не было такім сумным. Але ў нейкім

сэнсе бульба сапраўды апраўдвала назву “біч нацыі”. Бо былі часы, калі вясковы жыхар бульбай не толькі выжываў, але і жыў. Калі яе садзілі або капалі, то мусілі ўсе родныя прыехаць на гэтую імпрэзу, як паганцы на танец вакол вогнішча. І паспрабуй толькі не з’явіцца! Гэта ўсе ўспрымалі як абразу для бацькоў.

– А што ж людцы скажуць, калі вы, дзеткі, не прыедзеце, – лямантавалі старыя бацькі, калі дзеці ім тлумачылі, што прыехаць не могуць, бо іх з работы папруць за прагул.

Ніхто аніякіх апраўданняў і слухаць не хацеў. Бо бульба – гэта святое. А на тлумачэнні дзяцей, што можна знайсці якую больш карысную культуру для апрацоўкі і больш лёгкую ў вырошчванні, старыя бацькі адказвалі фразай:

– А табе абы не працаваць!

Пасля такога аргумента сказаць не было чаго, як няма чаго сказаць сваёй жонцы мужу, які пайшоў вечарам у краму па хлеб і вярнуўся толькі раніцай і без хлеба. Заставалася толькі ўсе справы кідаць і, праклінаючы бульбу, ехаць яе капаць.

А ўжо калі хто асмельваўся сказаць, што на паліва больш грошай расходуецца, каб даехаць да тае бульбы, чым увесь яе ўраджай каштуе, то гэта была трагедыя, і такі ўчынак не меў ніякіх апраўданняў. Таму на капанне бульбы людзі прыязджалі нават з Сібіры, прыляталі на самалётах, хоць на адзін дзянёк, а то не дай Бог праклянуць яшчэ ды адракуцца, калі з гачкай у адной руцэ і з кашом у другой не будзеш стаяць ракам на полі ў азначаны час, побач з астатняй раднёй, якая прыме дакладна такую ж позу, як і ты, і зарыецца ў зямлю ў пошуках некалі экзатычнай культуры.

У Беларусі, у тыя савецкія часы, на час капання бульбы спынялася ўся іншая дзейнасць. Войска пераставала ахоўваць межы вялікай краіны і строем, як і мусяць жаўнеры, рухалася на калгаснае поле. Студэнты пераставалі вучыцца і таксама, як краты, рылі бульбу то на калгасных плантацыях, то на бацькоўскіх сотках. Іх выкладчыкі рабілі тое самае, з вялікай неахвотай і лянотай падбадзёрваючы сваіх студэнтаў і з сумам натхняючы іх на вялікія працоўныя дасягненні.

Нават школьнікаў выганялі на калгаснае поле. І яны, як і ўсе астатнія бульбакапальнікі, начытаўшыся пра неэфектыўнасць выкарыстання рабскай працы, даказвалі гэта сваімі паводзінамі, пакідаючы ў зямлі большую палову ўраджаю.

Як бульбу выкопвалі, то ўсе вярталіся да сваіх спраў. Толькі не ў нас, на Ашмяншчыне. У нас пачынаўся другі этап здзеку са школьнікаў. Нас выганялі на калгаснае поле збіраць камяні. Ашмяншчына – мясцовасць гарыстая і камяністая. Там тых камянёў больш, чым бульбы. Я ў дзяцінстве нават думаў, што яны таксама растуць. Зрэшты, пасля пераканаўся, што так яно і ёсць.

– Эх, што ж вы робіце, – уздыхнуў неяк дзед Яська. – Што ж вы зямельку губіце, – кажа.

– Як гэта губім? – пытаюся я.

– Навошта вы ад яе камяні забіраеце? – цікавіцца дзед.

– От, дзядуля, – адказваю я. – Нічога ты не разумееш. Мы жывём у краіне прагрэсу. У нас на поле ўжо не коні выходзяць, а тэхніка выязджае. Камбайны розныя, бульбакапалкі. Яны ад тваіх камянёў псуюцца. Таму камяні з поля прыбраць трэба, каб тэхніка магла працаваць.

– Што ж гэта за тэхніка, як яна ад каня горшая, – уздыхнуў дзед. – Я табе, унучак, вось што скажу, – працягвае ён. – Не мы свет стварылі, не нам мяняць яго. Вось, прыкладам, на тарфяной раўніне – як камень не патрэбны, то яго там і няма. А ў нас калі ён ёсць, то без яго нельга. У нас пагоркі. Камень днём награецца, і ў ночы, як замаразкі спускаюцца на вяршыні, не дае зямельцы перамерзнуць. А за ноч сам астыне, і назаўтра ўдзень не дае зямельцы перасохнуць. Бо на пагорках, як зямля перамерзне ды перасохне, то з яе вецер усё карыснае выдзьме. І з гадамі не толькі бульба, а і крапіва расці там не будзе. Бо камяні на полі баланс падтрымліваюць. Запомні, што я кажу. Як прыйдзе час, вярніце камяні назад.

Пасля памаўчаў – і дадае:

– Вось так і з душамі людскімі. Чалавек лічыць, што яму жыць лягчэй трэба. І хоча камяні, якія яму перашкаджаюць жыць без клопатаў, павыкідваць. Вера перашкаджае яму, бо шмат да чаго абавязвае. Традыцыі перашкаджаюць, бо мусіш іх трымацца. Вось, прыкладам, каб не прыезд на капанне бульбы, то родныя людцы адзін другога гадамі не бачылі б. А так мусяць на бульбу прыехаць ды хоць бацькоў пабачаць. А выкінь з людскіх душаў гэтыя камяні – што тады там баланс падтрымліваць будзе? Адзін чарнобыль расці пачне, і чалавек бутэльку гарэлкі шанаваць будзе больш, чым сэнс жыцця.

Шмат гадоў прайшло з тае размовы. Усе сабакі, якія нарадзіліся тады, даўно ўжо перадохлі. Успамінаю яе цяпер заўсёды, як еду па Ашмяншчыне і гляджу на пагоркі, з якіх вецер усё карыснае выдзьмуў. Пясок там ды палын. І не здзіўляюся, чаму мы так і не вызначыліся з гістарычным выбарам: на ўсход ісці ці на захад. І чаму мы як нацыя яшчэ не з'ядналіся. І чаму мовы не шануем належным чынам і традыцый. Зашмат хіба камянёў павыбіралі з нашых палёў за савецкія часы.

І думаю, якім мудрым быў дзед. Трэба вяртаць тыя камяні. І тады, з гадамі, адродзіцца “баланс”. І там, дзе расце палын, зноў пасадзяць бульбу. А мы прыедзем яе капаць, каб чарговы раз сустрэцца з роднымі.

## Піянерскі гальштук

Усе аднакласнікі Віктара яшчэ ў школе ўступілі ў камсамол, як авечкі, якіх воўк хвастом гоніць да сваёй зграі, а яны мяркуюць, што гэта пастух вядзе іх да новай пашы з сакавітай травой. А як па-іншаму? Краіна такая была, якая ад сваіх грамадзянаў патрабавала абсалютнай паслухмянасці, аднолькавасці ў выглядзе і падабенства ў думанні. Нібыта гэта не людзі былі, а плот, роўненькі такі ды аднолькавы да болю ў зубах. І за якім так утульна было хавацца кіраўніцтву той краіны ад цэлага свету. Але ж як не намагайся, хай хоць морда трэсне, заўсёды знойдзецца нехта, хто не захоча быць ляскай у плоце, нават калі плот агульны ды пафарбаваны ў аднолькавы колер.

А ў камсамол уступалі па розных прычынах. Большасць ішло туды з таго, што так было трэба. Каму гэта трэба было? Ніхто такім прымітыўным для таго часу пытаннем не перагружаў сабе галаву. Не было ў галаве для гэтага месца. Трэба было ёй асвойваць абавязковую праграму сярэдняй школы.

Ды некаму ж было тое трэба. А ці патрэбна гэта табе канкрэтна? Вось з гэтым пытаннем усё значна складаней. Бо некаторыя нават нараджаюцца з разуменнем неабходнасці адбудовы сваёй кар'еры і яшчэ ў

маміным жываце ведаюць, што такое камсамол і нашто ён ім патрэбны, каб па кар'ернай лесвіцы апярэдзіць усіх, з кім разам ляжаў у радзільным доме.

Другіх бацькі намовілі. Маўляў, па-іншаму нельга, бо так усе робяць. І Віктар так зрабіў бы, каб не яго дзед Валодзя.

А пачалося ўсё яшчэ з піянерскай эпапеі. Маленькія хлопчыкі і дзяўчаткі, як кураняткі, стаялі на школьнай лінейцы і чакалі, калі іх прымуць у піянеры. Выглядала ўсё так урачыста на той момант, наколькі смешна і абсурдна ўспрымаецца гэта цяпер. Найбольш камічна глядзелася піянерская важатая. Цётка ўжо ў такіх гадах, калі прыдурвацца не дазваляе ўзрост. Але яна пачапіла на карак піянерскі гальштук і, як прыдзіцянелая, салютавала направа і налева піянерскім салютам, паказваючы ўсім, што інтэлектам яна з піянерскага ўзросту не толькі не выйшла, але ўжо няма надзеі, што хоць некалі гэта ў яе атрымаецца.

Не менш бязглузда выглядаў і сівавалосы дырэктар, які, запінаючыся, расказваў небыліцы пра тое, як піянеры зашывалі гальштук на сэрцы падчас вайны, каб кавалак чырвонай матэрыі не дастаўся ворагу. Пра тое, што вораг таксама меў у сімволіцы чырвоны колер, дырэктар палічыў неабходным не нагадваць.

Нешта плёў і завуч. Але Віктар, як і ўсе рамантычныя дзеці, чакаў галоўнага: калі яго прымуць у піянеры. Баяўся, каб настаўнікі не забыліся пра яго. Тыя не забыліся. Каб забыліся, то настаўнікамі не былі б ужо назаўтра. І пад грукат барабанаў і пішчанне трубаў хлопчыку павязалі на шыю піянерскі гальштук.

Колькі было з таго радасці, як у сабакі з вязанкі сасісак! Дзіцянё ляцела па вуліцы сваёй вёскі, як усходні вецер, мяркуючы, што ўсе яго бачаць і ўсе зайздросцяць, што ён піянер. Нават куры зайздросцяць. І сабакі, і каты, і карова бабкі Ганны. Ну а людзі яшчэ больш. Такая падзея вялікая ў яго жыцці. Прынамсі, піянерская важатая, як дарослы чалавек, якому мусіў верыць, сказала, што падзея гэта самая вялікая. Іншыя настаўнікі гэтага не аспрэчылі.

– Тата, тата!!! – закрычаў Віктар, убачыўшы ля сельсавета бацьку. – Глянь, што мне далі, – паказаў ён на піянерскі гальштук. – Я цяпер піянер, малодшая змена камсамольцаў.

– Добра, – пахваліў яго бацька, пагладзіўшы па галаве. – Маладзец. Глядзі цяпер – вучыся яшчэ лепш.

– Так, так, – сталі падыгрываць бацьку Віктара навакольныя. – Вучыся добра, а то гальштук забяруць.

А хлопчык куляй ужо ляцеў на работу да маці, каб і там пахваліцца сваім піянерствам.

– Маладзец, сынок, – ласкава пахваліла яго маці, як быццам бы было хоць крыху яго заслугі ў тым, што яму павязалі на шыю дзіцячы сімвал камуністычнай улады. – Бачыш, ты ўжо стаў вялікім. Таму слухайся бацькоў, настаўнікаў і добра вучыся.

Якая сувязь паміж тым, што ён стаў вялікім, і гэта абавязвала яго кагосьці яшчэ больш слухацца, Віктар не зразумеў. Ён і хацеў вырасці хутчэй, каб можна ўжо было нікога не слухацца. А то абрыдла, як штодзённа цябе вучаць жыць усе, каму не лянота. Адзін дзед ніколі не павучаў. Дарэчы, хлопчык узгадаў, што яшчэ яму гальштукам не пахваліўся.

Прыбегшы на свой падворак, ён, як певень, выпучыў грудзі наперад,

мяркуючы, што дзед сам заўважыць гальштук. Толькі замест чаканага хвалення той незадаволена выгукнуў:

– А што гэта за анучу ты пачапіў на карак сабе. І не сорамна так паміж людзей паказвацца?

У Віктара ажно дух пераняло, як у старога-прыстарога пеўня, які ўзяў для свайго ўзросту завысокую ноту і яшчэ да ўсходу сонца.

– Ты што, дзед, – пачаў спрачацца ён. – Гэта неануча! Гэта ж часцінка нашага чырвонага сцяга.

– Нашага, кажаш, чырвонага, – адгукнуўся дзед. А пасля адной фразай дадаў, як адрэзаў: – А наш не такі.

І не сказаў больш ні слова. Толькі гэта так моцна было сказана, што захацелася разабрацца насамрэч, які ж тады наш сцяг.

І разабраўся. І ў камсамол ужо і за кар’еру ісці не захацеў. І ні за што не захацеў.

Так адна праўдзівая фраза можа стаць мацнейшай за ўсю падманную прапаганду. З тае пары хлопец усё жыццё быў удзячны дзеду за мудрасць. Аднаго толькі Віктар шкадаваў праз усё жыццё: што не ўсім так з дзедам пашанцавала.

## Тэст на шляхецтва і эстэцтва

Госці бываюць розныя. Хтосьці стараецца паводзіць сябе шляхетна, культурна, з падкрэсленай ветлівасцю ды ўдзячнасцю, нібыта на сцэне грае п’есу. Але некаторыя з іх зрабілі ўсё, каб гаспадары не любілі гасцей аніякіх, як не любяць людзі праблем у сваёй хаце. Асабліва гаспадары не церпяць гасцей няпрошаных. Народная мудрасць сцвярджае, што няпрошаны госць горш за татарына. Праўда, некаторыя даследчыкі ўдакладняюць, што гэта сказаў сам татарын, каб падкрэсліць, што на свеце ёсць яшчэ нешта горшае за яго.

Але акрамя няпрошаных, ёсць і напрошаныя госці. Якія самі так напрошваюцца ў хату, што адмовіць няма мажлівасці, як няма мажлівасці пасля яго выпхнуць з хаты, пакуль ён не ўсё яшчэ з’еў і выпіў і не стаў пры малых дзецях спяваць саромныя песні і распавядаць непрыстойныя анекдоты. Такі госць хіба што горшы і за татарына, і за няпрошанага, і за чужака нават.

Ёсць госці, якія адчуваюць сябе ў гасцях, як гаспадары, і тады гаспадары збянтэжана пачынаюць сябе паводзіць так, нібыта яны ў гасцях, а не ў сябе ў хаце. Такія госці паказваюць усім сваім выглядам, што яны робяць ласку, што завіталі да вас, а таксама дэманструюць нічым не падгрунтаваную абразлівасць з кожнай нагоды.

Зрэшты, людзі ад гасцей ужо гадоў трыста стомленыя, як ад жыцця. Але па нейкай старадаўняй традыцыі робяць выгляд, што кожнаму з іх цешацца, як выйгрышу ў латарэю ці нечаканай вялікай спадчыне ў выглядзе кучы наяўных грошай, вялікай нерухомасці і таго-сяго яшчэ з рухомасці.

А вось дзед Яська зусім па-іншаму да ўсяго гэтага ставіўся. Казаў, што няма чаго прыдурвацца. Не ў цырку. І калі хто не падабаецца, то так і сказаць трэба, а не корчыць морду ў ліслівай усмешцы, ад якой званітаваць можа і гасцей, і саміх гаспадароў. Але калі чалавек быў даспадобы, то яму такі прыём рабіўся, якога хіба і ў царскіх палатах не кожнаму могуць аказаць.

У людзях дзед Яська разбіраўся, як цыган у конях. А аднаго разу вырашыў і ўнука навучыць, як прыстойнага чалавека ад хама адрозніваць.

– Трэба, унучак, у людзях навучыцца разбірацца, – сказаў ён. – Як чаго не ведаеш, то мяне пытайся, а не бабку, – жартуе так. – Я жыццё пражыў, тое-сёе ведаю. Тут усё проста. Як кажуць, бачна пана па халявах. А з іншымі трэба так сябе паводзіць, як народная мудрасць патрабуе: з панам па-панску, а з хамам па-хамску. Да тых мудрасцяў прыслухоўвацца варта. Іх вякамі адшліфоўвалі і правяралі жыццём. Аднойчы, – працягваў ён, – яшчэ ў трыццаць дзявятым годзе завіталі да мяне ажно цэлых два савецкія афіцэры. Адразу было відаць, хто такія. Бо яшчэ праз вакно заўважыў, што коні ў іх худыя, як чахотныя сабакі перад смерцю. А калі чалавек сваю жывёлу не шануе, то што ад яго чакаць, акрамя клопатаў? Заходзяць, значыць, да мяне, і кажуць, што ў нашай вёсцы іх вайсковая частка будзе дыслацыравацца, каб яе трасца ўзяла, тую частку. Як быццам мы яе клікалі сюды. І не пытаючыся – за стол сядаюць. Хацеў я адразу сякеру ўзяць ці пугу, але дай, думаю, пагляджу на іх паводзіны. А яны як у сябе ў хаце. Ды дзе там – як у хаце. Як у хляве разваліліся, і аніякай прыстойнасці. Я сабе думаю, што непатрэбна нам ні такой культуры, ні такой улады, і ні такога войска. Але сачу далей, што ім у тупыя мазгі стукне, чакаю. Пачалі яны кілішкі прасіць. Выпіць захацелася. Недзе ўжо і гарэлку сцягнулі ці адабралі ў каго. У аднаго бутэлька была ў кішэні, а ў другога ў рукаве. Я паставіў кілішкі, шляхетныя такія, прыгожыя. На ножках. Каб праверыць, як зрэагуюць. Два паставіў. Думаю, зараз прапануюць, каб трэці данёс, для гаспадара. Але не туды тое. Яны вылупілі вочы, як і іх галодныя коні, ды кажуць: "А што гэта ты нам паставіў? Гэта ж мензуркі! Ты нам дзвесцеграмовыя пастаў шклянкі. Як дзвюх не маеш, то нам і адной хопіць". Вось пасля гэтага, унучак, ніхто ўжо не мог мяне пераканаць, што такіх гасцей цярпець трэба. Тым больш шанаваць.

Маленькі ўнук запомніў тое, і як у хату да яго бацькоў завітаў госць, стаў прыглядацца да яго паводзінаў так уважліва, як біёлаг на закаханага вожыка.

А госць быў як франт разадзеты, спіну трымаў роўна, гаварыў гучна. І як кілішкі на стол паставілі, узяў ды запярэчыў:

– Ну што гэта за шклянкі? – кажа – Мы ж каньяк будзем піць. А гэта напой шляхетны. Ён шляхетных фужэраў патрабуе.

Гаспадары паставілі на стол фужэры, а ўнук куляй паляцеў да дзеда.

– Дзед, – крычыць. – Там дзядзька ў нас у гасцях. Запатрабаваў фужэры. Відаць, чалавек шляхетны.

– Не, унучак, – адказвае дзед. – Ведаю я таго дзядзьку. Ён заўсёды з сябе эстэта корчыць. Але ніякі ён не шляхетны. Заўтра я пакажу табе.

І назаўтра, узяўшы ўнука за руку, пасунуўся да хаты тога госця. Прывітаўся з ім ды кажа:

– Пазыч, сусед, два фужэры. Чакаю гасцей важных, хачу ўсё культурна зрабіць.

– Ды няма ў мяне ніякіх фужэраў, – адказвае той. – І не было ніколі.

– Ну няма дык няма, – уздыхнуў дзед Яська і павалок унука назад. А па дарозе тлумачыць яму: – Шляхетны чалавек, унучак, у гасцях п'е з таго, што яму гаспадары паставілі. Таму гэты госць быў хамам, і запрашаць яго больш не трэба. І нават не эстэт ён. А вось бацькі твае і шляхетныя, і яшчэ ў дадатак эстэты. Бо эстэт не той, хто запатрабаваў фужэр для добрага напою ў гасцях, а той, хто ў сваёй хаце мае і шляхетны напой, і адпаведны келіх.

Мікола Кандратаў



...шукаю вечнасці ў вачах...
І надараецца – знаходжу...

# Новае віно

* * *

На шалі душы маёй
вечнае ляжа,
як вобраз і думка –
што з іх пераважыць?

Як водбліск і рэха,
як голад і смага...
А сэрцу, як цэнтру,
мілей раўнавага.

* * *

Ліць у мяхі старыя новае віно.
Хоць Ён жа гаварыў, што так рабіць не трэба.

Не вінныя мяхі, што час імкне на дно,
што ёсць віна кругі – не вінавата глеба.

Мяхі, што прагнуць зноў, не сцёрліся да дзір,
а новае віно старыя раны лечыць.
Глядзіць на белы свет Нябесны Правадыр
вачыма зор і вер, чакаючы сустрэчы

з усімі, хто прыйшоў у гэты светлы сум
мо з Каралеўства Сноў, што існуе наяве.
У сораме сады чакаюць Боскі Суд,
але віно затым, што еднасці спрыяе.

Пакуль мяхі прымаюць радасна яго,
сярод трывог і мар магчыма быць пачутым.
Хай свет у днях зямных састарыцца, як гольд,
віно ў мяхах старых не зробіцца атрутай.

* * *

Адкуль бяруцца словы – з думак ці
з расы, празрыстых позіркаў і промняў?
Сядае слова птушкай ці ляціць
стралою з недасяжных нам узроўняў?

Адкуль бяруцца словы – з нематы
ці з мітусні і ранішняга тлуму,
ці з рэха, што арэхам на сады
скацілася?..
Ці гэта Бог падумаў?

Адкуль бяруцца словы – з глыбіні
ці з тых краёў, што блізкія да раю?
Альбо іх нараджаюць камяні,
што з нашых сэрцаў іскры выкрасаюць?..

Для іх будуюць людзі гарады,
высокія бажніцы і грабніцы.
А з іхняй шматмільённае арды
маланкі б'юць, каб нам не заблудзіцца.

* * *

Заблішчаць купал*ы* на Купалу
ад высокіх паганскіх кастроў,

нібы з даўніх стагоддзяў паўсталых,
каб сагрэць нашу кволую кроў.

І ў глыбінях душы адгукнецца
патаемнае нешта, як звон.
Сэрцу некуды будзе падзецца,
сэрца мусіць скакаць праз агонь.

Вусны вуснаў кранУцца нясмела,
сэрцы смеласці вуснам дадуць.
А пасля, распрануўшыся, целы
у купальскую ступяць ваду...

У сучаснай заблытанай драме
нібы краты над намі вісяць.
Толькі наша спрадвечная памяць
прагне Папараць-Кветку шукаць.

### *ПАЛАЦ РЭСПУБЛІКІ*

Засціць маленькія вулачкі
масай вялізна-пачварнай –
вылез Палац Рэспублікі,
нібы скула на твары.

Збоку Кастрычніцкай плошчы
спрытна кляшчом прысмактаўся,
пучыць шкляныя вочы,
моцна за глебу трымаецца.

Быццам зладзеі ў законе,
пыхай аброс, нібы мохам,
шчэрыць, як зубы, калоны,
пэўна, імкнецца спалохаць.

Пырскаць сліны фантанамі
месца яму замала:
з марай ніяк не расстанецца –
знішчыць старыя кварталы,

каб узвышацца над долам,
вочы мазолячы Менску...
Вось бы з’явіўся зноў Волат –
знёс яго ў іншае места.

## *СКАРПІЁН*

*вакол суму майго*
*запляліся галіны ў вянок*
Анатоль Сыс

Кастрычніка кастрамі не сагрэеш,
і застаецца думаць пра экстрым.
А неба так марозна ружавее
і пасыпае шэранню двары.

Такой парой прыспела нарадзіцца,
калі лістоту скінулі лясы
на Пакацігарошкавай радзіме,
і бедны край ад холаду азыз.

Цяпер для ўсіх нібыта аксіёма,
што лёс яго маланка апякла,
загартаваўшы джала Скарпіёна,
што прабівала сэрцы, як страла.

Быў час нядоўгі – дні яго мінулі –
гучалі з вуснаў словы ад багоў.
А ў горычы пустой з імпэтам кулі
хандра змяёй уджаліла яго.

Такім, як ён, лягчэй у цемру скону
сысці, чым жыць у звыклай тут журбе.
Кароткі часам век у Скарпіёна,
што ў роспачы палюе на сябе.

*** * ***

*Памяці Андрэя Вазнясенскага*

Калі памірае паэт,
становіцца свет бяднейшым.
Хай лічыць прыхільнік манет,
нібыта не золата вершы.

Яму не пачне балець,
што свет без паэтаў псее.
Калі памірае паэт,
Зямля, як дзіця, сірацее.
Зямля апранаецца ў ноч,
дзе светляцца зорныя словы...

Пакуль у краіне адной
паэт не народзіцца новы.

* * *

У дзень народзінаў Максіма
здымае сонца капялюш –
з-за хмар, нібы з палонкі сіняй,
імкнецца глянуць на зямлю.

Але ці знойдзецца той вецер,
які б сутонне з неба знёс?..
І дзень перацякае ў вечар –
кароткі, як Максімаў лёс.

Зямля, што нарадзіла сына,
святлом па Свіслачы плыве.
Святая м*а*ксіма Максіма
у сэрцах водбліскам жыве.

З ёй нам не цёмна і не зімна,
хай нават снег на сэрца лёг...
У час народзінаў Максіма
заўсёды радуецца Бог.

### *ЧАС ХАМЕЛЕОНА*

Наіўны свет, дзе ўсё наадварот,
пакуль не прызнае сябе наіўным,
бо на працягу мо мільёнаў год
хамелеонам існаваць павінны,

змяняючы прыхільнасці свае
пад колер перамоглага закона.
Таму мана так часта паўстае,
як ісціна ў вачах хамелеона.

Але, так напісана на раду,
яму, каб не згубіцца ў зорным хлудзе,
прайшоўшы – у мінулым – праз ваду,
і праз агонь прайсці патрэбна будзе.

Надыдзе час – і вернецца Сварог,
што, прачытаўшы залатую мантру,
зрабіць зямны здалее паварот –
з хамелеона створыць саламандру.

## НА БАЛІ

> Я не ганю і не ўхваляю – я назіраю.
> *Стэндаль*

На выкшталцоным балі існасці,
там, дзе лілася акавіта,
кактэйль высокага і нізкага
па звонкіх келіхах разліты.

Нязвыклым смакам, рэдкім водарам
ён вабіць розумы і сэрцы:
хай блісне лёс на сонцы возерам,
што не пад сілу выпіць смерці!

І госці, злёгку ап'янелыя,
у коле кружацца вясёлым.
Між іх пад маскай анямеласці
таемна танчыць нават Воланд.

Між іх пад маскамі нявіннасці
размовы свецкія вядуцца.
Тут можна зоркаю прыкінуцца
і моцным слоўцам замахнуцца.

Бо на прыступках да бясспрэчнасці,
недасягальнай для зямнога,
так хочацца прыгубіць вечнасці,
але не хочацца да Бога.

## ПАЭТ-КАМІКАДЗЭ

Вымагае эпоха глынуць мухамораў сухіх,
каб зайсціся ў шчаслівым экстазе.
І на змену ямбічна-харэйнаму культу
прыходзіць паэт-камікадзэ.

Ён гатовы ўзарваць гэты свет састарэлы,
чуллівы і рытмізаваны,
і ідуць праз пустэльні стагоддзяў былых
дзёрзкіх вершаў яго караваны.

Бы павук – павуту, ён звівае са слоў маладых
чорна-белае дзіва.
Нібы з Нілу, з яго выплывае драпежна
зялёная здань кракадзіла

да Венеры з аголеным станам,
што лашчыцца ў хвалях атласных.
Зараз шчоўкне зубамі – і кроў афарбуе сусвет
у вачах ашалелых і жарсных.

Рым стары задрыжыць, заімгляцца шляхі,
што вядуць да яго, і дарогі.
Засмяецца злавесна з глыбіняў прадоння
спадар казланогі –

перамозе чарговай сваёй
і часова прыніжанай праўдзе,
калі крыкне ўласнаму лёсу: “Банзай!”,
нібы зомбі, паэт-камікадзэ.

* * *

Ёсць думкі непрывабныя наўздзіў,
ёсць словы, як цвікі ў Хрыстова цела, –
душа ў іх геніяльна звар’яцела,
забыўшы пра Таго, хто нарадзіў.

У іх маўчыць зямная глухата,
крычыць імкненне цэнтрам стаць Сусвету,
спіць страх знікнення: не прайсці над Летай –
зваліцца ў бездань з вузкага маста.

* * *

Дождж лінуў свае першыя слёзы,
пацяплела душою прырода.
А для сэрца людскога заўсёды
прыцягальны размах крыгаходу,
скокаў ліўня азарт больш жаданы,
чым сляпога дажджу спавяданне...

Заглушаюць дуду барабаны,
і трызненне гучыць, як прызнанне,
што і ў гэтай краіне адталай,
дзе яшчэ салаўі не спяваюць,
заўважаюць чамусьці купалаў,
багдановічаў не заўважаюць.

* * *

Лягчэй судзіць чужыя лёсы, чым
апекавацца ўласнай доляй.
Я развучыўся цалаваць жанчын,
нібыта і не ўмеў ніколі.

Я развучыўся мілаваць жанчын,
душой пяшчотна лашчыць цела.
Там, дзе вясна квітнела, – сумны дым,
за летам восень не паспела.

О, як было цячы жывой вадзе
з крыніцы нашага натхнення!..
Цяпер мы хмары ў грому ў барадзе –
непажаданае збліжэнне.

Чаму ўсё так, каханая, скажы?..
Жыццё кароткае, як скерца, –
не паспяваеш навучыцца жыць.
Заўжды дзе тонка, там і рвецца.

## ШУКАЮ

*Аксане Спрынчан*

Шукаю радасці ў журбе,
шукаю вартасці ў Айчыне,
шукаю смеласці ў сабе,
шукаю светласці ў жанчыне.
Шукаю праўды, як вар'ят
у бочцы з дзёгцем – лыжку мёду.
Нібы ў граху – цнатлівасць, я
шукаю сонца ў люстры лёду.

Чытаю зорныя сляды –
шукаю тлумачэнняў болю.
Гады гудуць, як правады,
а я шукаю ветру ў полі.

Шукаю рэха – у гарах,
шукаю бляску іскры ў кожным,
шукаю вечнасці ў вачах...
І надараецца – знаходжу.



Яўген Мартыновіч



...Пагавары са мной.

Прашу цябе!

ПагаварыСАМной!..

# Вялікі чалавек

***Зацемкі***

## Ён і Яна

*1*

Мы ўжо даўно перасталі ездзіць разам на электрычцы ў прыгарады і паркі... (Мы наогул перасталі хадзіць і ездзіць куды заўгодна). Радасць ад таго, што мы можам быць толькі ўдваіх, кудысьці знікла, разам з нашымі паштоўкамі і фотаздымкамі, якія мы дарылі адно аднаму пры сустрэчах (з нагоды і без...).

Я ўжо не задаваў табе пытанні (я развучыўся вымаўляць словы... вельмі шмат словаў). Але я яшчэ памятаю тую радасць (простую радасць) нашых першых сустрэч. Ты пахла фісташкавым марозівам! А я? А я не ведаю, чым пахнуў, але ты казала мне, што вельмі-вельмі смачна, і спрабавала мяне ўвесь час укусіць. Цяпер мы пахнем аднолькава...

Ці хацеў бы я вярнуць мінулае? Вядома ж, хацеў! Замерці ў ім, націснуць на кнопку “save” (калі б такая кнопка была ў жыцці) і вярнуцца да таго моманту, калі можна было б хоць нешта змяніць... А раптам бы атрымалася?

Ты нацягнула мой стары швэдар і майку (яны ўжо не належалі мне) і наліла келіх нейкага таннага віна... З кухні я пачуў:

“Набудзь яшчэ!”

Я памятаю, як тузануўся ад гуку тваіх слоў. Яны былі першымі за гэты дзень.

“Добра”.

І я іду кудысьці, дыхаю чымсьці, сумую па кімсьці...

І я не хачу вяртацца да цябе, але вяртаюся.

І мы п’ем віно і засынаем разам. Толькі так мы і можам заснуць.

На наступную раніцу нам зноў не хапае віна. І ты вінаваціш мяне ў гэтым. Ты крычыш і лаешся, але я цябе ўжо не чую.

Ты кідала ў мяне пустыя бутэлькі. Ужо каторы раз пагражаючы, што кінеш мяне. Але я цябе не чую!

Ты мяне, як заўсёды, не кінула...

На жаль.

І мы засынаем.

На жаль!

***2***

Яшчэ нядаўна мне для шчасця хапала пачуць гук тваёй электрабрытвы... Цяпер гэтага стала вельмі мала, невыносна мала, па-вар’яцку мала...

Мы хацелі аб’ездзіць паўсвету, але мы прызвычаіліся сядзець кожны вечар у нашай кватэры. Я не хачу скардзіцца. Аднак гэта ў мяне атрымліваецца неяк само сабой.

Мы хацелі набыць сабаку, але ён аказаўся “за мяжою нашых матэрыяльных магчымасцяў і нашай душнай кватэры”. Як жа я ненавіджу гэтую кватэру!

Мы святкавалі ў ёй усе нашы дні нараджэння і “юбілеі”. Мы гулялі ў “словы” і ў “краіны” (і я заўсёды прайгравала на “ЯПОНІІ” – не самы горшы варыянт).

Я тады была дзіўная! І ты быў дзіўны. А зараз мы аднолькавыя... Падобныя на халодныя рэйкі.

Як жа ўсё ж такі добра, што мы не набылі сабаку!

Як жа добра, што для яго не знайшлося месца!

І зноў гэтая невыносная цішыня. І зноў гэтая бессэнсоўная “**ціШыня**”.

“Пагавары са мной. Прашу цябе! ПагаварыСАМной!”

***

Раней мне было дастаткова пачуць толькі адзін гук... Каб быць упэўненай.

Але я яго не чую. І ты яго не чуеш.

Але мы пакуль яшчэ разам.

На жаль.

Але мы пакуль яшчэ...

На жаль...

## Вялікі чалавек

Вялікі чалавек прачнуўся.
Вялікі чалавек ведае, што наперадзе будзе вельмі Вялікі дзень.
Вялікі чалавек ведае, як падкрэсліць сваю веліч.
Вялікі чалавек глядзіцца ў люстэрка.
Вялікі чалавек вельмі задаволены сваім адлюстраваннем.
Вялікі чалавек упэўнены ў сваім адлюстраванні.
Вялікі чалавек ведае, што ён Вялікі.
Вялікі чалавек выйшаў на вуліцу.
Вялікі чалавек накіроўваецца да сваёй Вялікай машыны.
Вялікаму чалавеку па кішэні Вялікая машына.
Вялікаму чалавеку падабаецца яго Вялікая машына.
Вялікі чалавек прыязджае на працу.
Вялікі чалавек любіць сваю працу.
Вялікі чалавек упэўнены, што робіць Вялікую справу.
Вялікі чалавек кажа.
Вялікі чалавек умее зрабіць уражанне...
Вялікаму чалавеку трэба часам схадзіць “па вялікай”.
Вялікаму чалавеку часам сумна...
Вялікі чалавек сумуе...
Але сум праходзіць хутка, і Вялікі чалавек зноў адчувае сябе Вялікім!
Вялікі чалавек засынае.
Вялікі чалавек ведае: заўтра будзе Важны дзень!
Заўтра будзе Выдатны дзень...
Заўтра будзе...
Заўтра...
Вялікі чалавек заснуў.

## Дробязі жыцця

Мае сінія ад холаду пальцы не могуць зашпіліць апошні гузік на тваёй сукенцы. Чорт бы пабраў гэты холад! Але ты кажаш, што “яшчэ рана заклікаць на дапамогу чарцей” (і далей: бла-бла-бла..). Я згаджаюся з табой і раблю высілак, каб давесці да канца пачатае, але не магу нават зашпіліць гэты апошні гузік на тваёй сукенцы. А ты смяешся і кажаш мне: “Якія дробязі...” А я зноў заклікаю чарцей.

“Як жа ты можаш так спакойна ставіцца да дробязяў? Навучы мяне! Чаму ты думаеш, што ўсё гэта ДРОБЯЗІ?”

Але ты смяешся... Ты заўсёды так сыходзіш ад адказу, а я працягваю важдацца з тваёй сукенкай. Дыхаю на пальцы, ты дыхаеш на пальцы, але яны не саграваюцца... Мае безнадзейна сінія пальцы не хочуць нас слухацца. Але я працягваю вазіцца з гэтым чортавым гузікам! А ты – смяяцца...

## Лайдак

Справы... У кожнага чалавека ёсць нейкая справа. А бываюць моманты, калі справы няма. Але амаль заўсёды мы адразу ж пачынаем яе шукаць. Мітуслíва, няёмка, з падскокам! Ну як жа гэта так: чалавек без справы?

– Лайдак!!!

– Не хачу так называцца!

– А хто хоча?!

Бо чалавека, у якога няма справы, не паважаюць. Ён не прызнаны грамадствам, ён не прыносіць карысці, ён не ўдзельнічае ў барацьбе за падтрыманне ўстойлівага росту ВУП. А што можа быць важней за рост ВУП? Гэты акт "грамадзянскай адказнасці" будзе круцейшы за полавы... круцейшы за ўсялякую "Віягру"!

Колькі ж гэтых лайдакоў распладзілася: музыкі, паэты, мастакі, рэжысёры...

"Гэй ты, багема, давай народу шэдэўры! Дзе яны? Пакажы майстар-клас, вырасці ў двары ананас! Што такое? Не атрымоўваецца?! Нахлебнікі! Усё зразумела... Толькі ведаюць – што піць свой "Абсэнт" са шкваркамі. Для натхнення?! Вось і атрымліваюцца адны "выкідкі" ў вас! Шэдэўры павінны рабіцца на цвярозую галовачку".

У Васі не было грошай. У яго ўжо даволі даўно выпрацаваўся да іх адсутнасці ўстойлівы імунітэт. Вася навучыўся карыстацца дарункамі іншых матэрый, грошы перасталі мець для яго якое-небудзь значэнне. Вася спрабаваў уявіць гэты свет без іх. Ён лічыў, што свет без грошай быў бы чысцейшы і ахайнейшы (а чысціня – "залог здароўя"). Яму падабалася гэтак "разумна" памарыць-паразважаць...

Вася шмат піў... Апраўданнем гультайства і непрабуднага п'янства было тое, што ён не бачыў перад сабой сапраўднай справы, чагосьці вартага!..

"Ну няма яе! Дзе знайсці? Усё астатняе – марнасць і мышыная валтузня. Навошта ж памнажаць сутнасці і размазваць па сценах даўно "збітае і недабітае".

У такіх вось салодкіх марах Вася засынаў...

А сніліся яму заўсёды адны і тыя ж дзіўныя сны. У гэтых снах людзі былі празрыстыя, а іх асобы былі размытыя, бяскроўныя. Яны не былі падобныя да тых шчаслівых ружавашчокіх "балванчыкаў", якія ўсміхаюцца з кожнага "білборда". Не людзі, а разварАныя макароніны. Празрыстыя людзі, прывідныя людзі... Людзі "нізкай шчыльнасці". Яны хадзілі па вуліцах горада, з адсутным выглядам стаялі ў чэргах. А па начах, калі станавілася зусім сумна, спрабавалі ўспомніць, кім жа яны былі раней? І не маглі. Яны, як згубленыя дзеці, толькі і рабілі, што ціха плакалі. Ці аплаквалі кагосьці... Але каго? Сябе, напэўна... Але заспакаенне прыходзіла з першым авансам. І ўсе нягоды забываліся. І людзі зноў сыходзілі ў туман сваіх дэкарацый...

Вася прачнуўся... Усё як заўсёды: зашмальцаваны пакой, зашмальцаваныя рэчы, зашмальцаваны вечны бег па коле. Чортава кола!

Як жыць? Як жыць далей?! Немагчыма! А ці трэба?.. Складаецца такое ўражанне, што жыццё наша пішуць некалькі пісьменнікаў. Часам усё так гладка і правільна, як у творах Чэхава ці Талстога, а часам так нудотна, як быццам ты спісаны з гэтага жыцця, як героі раманаў Салжаніцына або Венедыкта Ерафеева. Усё ўжо напісана, застаецца толькі пачакаць з'яўлення новых персанажаў.

– Так, зацягнуўся мой антракт!

– Хачу я гэтак жыць?

– Не ведаю.

– З кім ты размаўляеш, Вася?

– З пустой бутэлькай і недаедзеным паштэтам...

– То-та я гляджу, у цябе думкі невясёлыя.

– А ну-ка бяжы за новай!
І Вася пабег... пабег.

## Не твая кватэра

Калі вяртаешся праз тыдзень-другі з адпачынку (ці з якой-небудзь далёкай вандроўкі) у сваю кватэру, – не пакідае адчуванне таго, што яна табе ўжо не належыць!

Усё здаецца ў ёй інакшым: пахі, рэчы не на сваіх месцах, а некаторых (рэчаў) так і ўвогуле няма ў хаце; усё знаходзіцца ў нейкай таемнай змове паміж сабой.

Яны, рэчы, як быццам, звяртаюцца да цябе:

“Ты больш не наш гаспадар...

Ты больш не наш гаспадар!..

Ты больш не маеш над намі ўлады”.

Рэчы бунтуюць, хаваюцца, здраджваюць.

І ты нічога не можаш зрабіць з гэтым.

Ты прыносіш у ахвяру некалькі пакетаў са смеццем, каб іншыя рэчы бачылі, які круты нораў у іх Гаспадара! Але яны цябе ўжо больш не баяцца! Яны ўжо адчулі пах свабоды. Яны ўжо перамаглі цябе і зразумелі, што могуць спакойна жыць без Гаспадара-Цара-Тырана, які без павагі і ўдзячнасці карыстаўся імі (як быццам, так і павінна быць).

А што рабіць далей?

Ты можаш набыць новыя рэчы, зноў пабудаваць сваю маленькую ІМПЕРЫЮ, але ўсё ўжо будзе інакш...

Не будзе адчування той уседазволенасці і нахабства, з якімі ты жыў раней, з якімі ставіўся да гэтага жыцця і рэчаў.

Спачатку...

А потым...

Бываюць такія моманты ў жыцці, калі і ў рэчаў можа скончыцца цярпенне.

## Помнік трасянцы

У вёсцы N М-га раёна вырашылі паставіць замест Леніна помнік Трасянцы. Калі спыталі ў Трасянкі, ці хоча яна, каб яе ўвекавечылі ў бронзе, Трасянка нічога не адказала, толькі плячыма паціснула (маўляў, мне ўсё роўна).

– А што? Даўно пара! – казалі мясцовыя жыхары. – Пара ўжо Леніну пасунуцца. Адслужыў сваё, таварыш! Хто ён такі цяпер? А вось Трасянка... яна ж, як маці родная: у кожнай хаце гаспадыня.

І паставілі Трасянцы помнік. Нават галубы саромеліся с...ць на яго, такі прыгожы ён атрымаўся. Усім падабалася Трасянка, толькі Ленін быў незадаволены і страшна дзьмуўся: “Колькі гадоў стаяў на адным месцы, а тут, у адно імгненне, мяне прыбралі і паставілі гэтую пігаліцу. Хто ЯНА такая?! Маць яе перамаць!”

– А ну-ка прэч, Трасянка, з майго месца!

– З чаго б гэта?

– А з таго, што ты дурніца!

– Я дурніца?

– Ты дурніца!
– Сама ты дурніца!
– Не дурніца, а дурань!
– Ха-ха-ха! Ленін – дурань, Ленін – дурань! Людзі, чуеце, Ленін прызнаўся, што ён дурань! Ніхто цябе за язык не цягнуў! Сам прызнаўся! Ха-ха-ха!!!

Так вось перамагла Трасянка Леніна. І з тых часоў, стаіць прыгажуня Трасянка на сваім заслужаным месцы. І ніхто нават падумаць не адважваецца, каб яе праганяць!

## Раскажы мне пра Італію…

Раскажы мне пра Італію... Я мала што пра яе дакладна ведаю. Кажуць, што там жыве Чэлентана і ўсе ядуць спагеці з піцай і п'юць ад "мала да вяліка" смачнае чырвонае і белае віно. Але я гэтага не бачыў, таму сам раскажы мне пра Італію.

Я чуў, што там усе гуляюць у футбол (нават дзяўчынкі), а па вуліцах блукае мафія, а за ёй па следзе ходзіць бессмяротны камісар Катані (La Cattani immortale).

Мне снілася, што ў Італіі круглы год свеціць сонца, а пад ім, пад сонцам, стаяць тысячагадовыя гарады, ахінутыя пылам і попелам Везувія... Неўміручы Рым-ганарлівец, састарэлая какетка Венецыя, напарфумлены і прыўкрасны жыгала Мілан... Ды шмат каго яшчэ можна сустрэць там! Уся Італія – СВЯТА, якое на жаль, не са мной.

Я чытаў, што там кожны першы паэт альбо оперны спявак (адначасова). А як інакш (навошта?) у Італіі жыць? Але ты сам скажы, ці гэта ўсё праўда? Бо я ніколі не быў у Італіі... Таму мне толькі і застаецца, што аб ёй марыць.

## У метро

Раніца ў метро. Мой надзейны турнікет ужо чакае мяне. Я заўважаю за сабой дзіўную звычку "карміць" жэтонамі менавіта гэты турнікет. Ён ненажэрны, як паганскае боства. Ён патрабуе новых ахвяр. І я прыношу яму гэтую ахвяру ў выглядзе сцёртых ружавата-чырвоных "круглячкоў" (мой пропуск у падзямелле). Ён прымае даніну і прапускае мяне. Усе шчаслівыя.

Ранішні крос у метро прымушае мяне рухацца ў адным тэмпе з натоўпам... У тэмпе presto! Некаторыя асобы і пахі ўжо сталі такімі роднымі і знаёмымі, што можна ўжо не хваляваца за свой лёс...

І вось, пад'язджае мой родны старэнькі вагон. Удых-выдых, і я ўжо не заўважаю, як імчуся кудысьці па вельмі важнай справе!

Вагон – мая шчаслівая звар'яцелая сям'я. Ён мірыць мяне з маімі недахопамі і худым кашалькам (але, на ўсялякі выпадак, я ўсё ж такі трымаюся за кішэню і шукаю позіркам "бясхозныя рэчы", пра якія пастаянна нагадвае электрычны голас).

Чырвоная лінія... Я вельмі задаволены, што не трэба перасаджваца на сінюю! Я шчаслівы, што мая праца знаходзіцца дзесьці (недзе?) у сярэдзіне гэтай метрапалітэнаўскай нітачкі. Ах..ць як шчаслівы! І я задаволена ўсміхаюся.

Мне не трэба для шчасця многага!

Толькі б праезд не даражэў!



Кірыл Мяцеліца



...мы зрастаемся,
як аскепкі
пераломленай
жыццём
косткі...

# Мары аб Іспаніі

* * *

Я
ізноў
вінаваты.

Музыка сканчаецца, калі
пляскаюць вечкам
фартэпіяна,
а жыццё,
калі вечкам труны.

Напэўна,
гэта да лепшага,
што губляць
мне няма чаго,
акрамя цябе.

Ты выразаная
ў мяне
на папілярных
лініях,
выціснутая ў вачах,
цвікамі прыбітая
да запясця.

Відавочна,
я не лепшае з таго,
што магло б
табе дастацца.
Я занадта шмат
казаў,
абнадзейваў,
забываўся,
а ты плакала,
плакала,
плакала...

Даруй,
што ты стала паперай,
якая трывае
любое маё
абяцанне.

Калі хочаш,
стукні мяне,
абдзяры твар,
задушы панчохамі.
Усё так проста,
сапраўды?

...Я палю на вакзале,
і рэйкі
выбіваюць марзянкай
сігнал
пра выратаванне
маёй душы.

* * *

*Д.С.*

Дарагая мая,
той ноччу
ў вакне насупраць
святло ўсё ніяк не згасала,

і консул
адной прыбалтыйскай
дзяржавы
заснуў за сталом,
кінуўшы сябе
на дакументы.
Дакурваючы
на гаўбцы
пад зоркамі
і п’янеючы,
мы ўвальваліся
ў цёплы пакой,
уцягваючы за сабой
прахалоду.

Ты казала,
што гэта гульні,
але я пакідаў сінякі
на тваіх запясцях
як знак
нерашучасці,
і ў гэтым –
удар дылетанта
па клавішах
фартэпіяна.

Крыху пазней,
вяртаючыся дахаты,
я думаў,
што мы нашмат
бліжэй,
чым мне здавалася.

Я думаў,
што мы зрастаемся,
як аскепкі
пераломленай
жыццём
косткі.

### *МАРЫ АБ ІСПАНІІ*

Гэты тарэра
не справіўся
з быком.
Занадта ўжо ён
махаў
чырвонай анучай
жыцця.

Іспанія
засела ў ім,
як іголка,
што тырчала з вены
ў дзень,
калі ён быў знойдзены
мёртвым
на здымнай кватэры
ў Маскве.

Першы нумар
у спісе
маіх мерцвякоў.

Што ж,
у рэшце рэшт,
галіны
ў дрэва жыцця
моцныя настолькі,
што вытрымаюць
яшчэ не аднаго
павешанага.

Праз два гады
я знайшоў
сярод кніг
паштоўку –
грудастую дзеўку,
якая стаіць на Гран Вія.

На абароце надпіс:
“Фіеста даўжынёю ў жыццё”.

Я выкінуў яе
да чорта.
Мары аб Іспаніі
скончыліся
на перадозе.
Гераінавая фіеста
даўжынёй у паўгады.

...Памятаю,
мы пілі віно,
смяяліся,
і нашыя вочы
бегалі,
як пацукі
па кутах.

Віктар Баранаў



…твае грамавыя словы,
узмоцненыя мегафонам, ляцелі ў твары,
сцягі, транспаранты і звыш усяго таго –
далей над галовамі і сцягамі…

# Прытула

***Раман***

***Притула*** – сарай для скота или иных хозяйственных надобностей под одной крышей с хатой.

*(Слоўнік Барыса Грынчанкі)*

## I

Сніш: быццам ты прачынаешся ў вялізным пакоі з высокай столлю, аздобленай мудрагелістай лепкай, праз празрысты цюль на высокіх венецыянскіх вокнах праглядвае марозная светлая раніца, у садзіку, што падступіў пад самыя вокны, весела грэюцца сініцы, стрэсваючы з галінак хмаркі шэрані, а тут, у пакоі, на шырачэзным ложку, на адлегласці не працягнутай табой рукі, ляжыць жанчына нябачанай прыгажосці і прыкідваецца, нібыта яшчэ спіць. Аднак і ўва сне ты адчуваеш, што сон твой – саладкаватая ідылія, таму і з адценнем тлуму, падсвядомае трывогі.

Цераз гэты неспакой ты зрэшты і прачынаешся. Нейкі час адхілена разглядваеш мудрагелістую лепку на высокай столі, пазнаючы ў ёй антычныя букалістычныя

*Пераклад з украінскай – Валера СТРАЛКО.*

сюжэты – бедны пастух, авечая атара, няшчыры ўсмех хітраватага Пана з-за найбліжэйшага дрэва і яшчэ штосьці такое, што можна пазнаваць хіба ў першыя хвілі абуджэння, асабліва ж у такую раніцу і дзень, калі над табою не вісіць, не ляскае над вухам бізуном адвечнае “трэба” і калі можна дазволіць сабе бездакорнае гультайства, прыемнае тамленне думкі і цела; зараз і ёсць сапраўды такі “бястрэбны” дзень, нядзеля. Дык вось ты лянотна прыкідваешся, быццам бы яшчэ не выветрыўся з цябе сон, ды ўжо абуджана прыслухоўваешся да пераклічкі сініц у садзіку, паволі ўбіраеш ранішнюю святлынь за вокнамі і думаеш аб тым, што варта працягнуць руку – і дакранешся да рукі жанчыны, прыгажосць якой дагэтуль не асэнсавана табою цалкам, таксама як і тая незразумелая акалічнасць, чаму гэтая прыгажосць павінна належаць якраз табе, Прытуле.

У сне ты не ўбачыў Рэма, дый чаго б ён табе прысніўся? Але зараз ты ўжо хінешся думкай да яго, бо ніяк не можаш пазбыцца адчування “трэцяга лішняга”. Ты не глядзіш у той бок, аднак наяве ўяўляеш, як Рэм ляжыць на тоўстым зялёным дыване, бы на пухкім травяным газоне, і чакае, калі ўжо на ложку вы кінеце строіць з сябе сонь і ўзнагародзіце яго нядзельную цярплівую далікатнасць хоць бы словам. Рэм – сабака разумны і выхаваны, як і ўсе з гэтай пароды, вадалазы: флегматычныя, разважныя, павольныя ў рухах. Гэта калі яны заміраны, прыгалублены. Рэм – прыгалублены. Ён ляжыць на дыване і таксама, каб не патрывожыць паслясоннай нядзельнай разамлеласці, прыкідваецца, нібы дадрэмлівае сабе і ні аб чым думкі не мае. І гэта пасля таго, як усяго некалькі гадзінаў таму быў нядрэмным сведкам позніх і працяглых любошчаў тваіх, Прытула, з жанчынаю незямной прыгажосці, якая ўжо здагадваецца, што ты нядаўна прачнуўся, аднак не квапіцца азвацца першай.

Калі яна ўпершыню прывезла цябе сюды і ўпершыню падзяліла з табою гэтую пасцель (якую ў думках ты назваў палігонам: такой была яна нязвыкла вялікай для цябе), Рэм назіраў за вамі са свайго дывана-газона. Гарэлі свечкі, і было відно амаль як удзень. Прысутнасць вадалаза раздражняла цябе, ты ніяк не мог пазбыцца адчування чужога вока, ды яшчэ й сабачага. Марына тады здагадалася, перастала палка песціць цябе, сказала:

– Ну чаго ты, дурненькі! Няхай сабе глядзіць. Ён гэта любіць.

Цябе кальнула тады непрацяглай абразай, што Марыне і ў галаву не прыйшло, а ці любіш гэта ты, тады яшчэ і не Прытула, а чалавек з іншым прозвішчам, але што табе з таго: галоўнае – то быў такі ты. А між іншым, абраза якраз і стала нечаканаю нагодаю абстрагавацца ад Рэмавай прысутнасці, і надалей ты ўжо безаглядна шалеў у любошчах, запрапанаваных ці й навязаных табе Марынай і ўспрынятых табой як нешта такое, на што ты зусім не разлічваў і чаго, можа, не варты, тым не менш, калі яно табе выпала, то прыняў ледзь не за шчасце.

З часам іх, любошчаў, было на здзіўленне многа, вось як і гэтай ноччу, якая перастала для вас існаваць, калі вы, знямоғаныя, паснулі. Было так шмат і так непаўторна, што ў нейкі міг ты спыніўся на думцы: вы з Марынай дагэтуль адно аднаму не абрыдлі, узаемна не астылі. Так не можа быць бясконца доўга, усё мае свой пачатак і свой край. Але ж у вас так ёсць! І краю ніяк не прадбачыцца. І ты ўжо здатны далучыцца да думкі, што, можа, тут якраз і спрацоўвае эфект прысутнасці вадалаза Рэма, што гэта Рэмава нявыдаткаваная сіла пераліваецца ў цябе і ў Марыну, прымешвае да вашых чалавечых пестаў нешта жывёльнае, загадкавае, а

паколькі загадкавае, то й надзвычайнае і невычэрпнае. З таго моманту, як ты гэта асэнсаваў, Рэм стаў для цябе амаль сябрам...

Калі вы снедалі, Марына трымала на твары нейкую таямніцу ці неспадзеўку, прызапашаную для цябе. Урэшце азвалася:

– Мне сёння трэба быць у горадзе.

– У выхадны?

– Мне трэба, – настойвала Марына.

– Ты ж ніколі не ездзіла ў горад у выхадны.

– А сёння трэба.

– Нешта вялікае ў горадзе здохла? – спрабаваў ты жартам выведаць Марыніну таямніцу.

– Прытула! – суха і з націскам сказала Марына.

Рэм падышоў да цябе і паклаў свой цяжкі галаў табе на калені. Калі б ён умеў гаварыць, падумаў ты, то таксама называў бы цябе толькі Прытулам і ніяк інакш.

Марына зазбіралася.

Уначы неба расшчодрылася на новы снег, і ты ўзяўся прачысціць выезд ад гаража да варот. Ты любіў, і рабіў гэта з радасцю, адкідаць снег яшчэ з маленства, і цяпер перад вачыма замільгалі карціны прызабытага сельскага дзяцінства: бацькоўская хата і двор; самаробныя драўляныя саначкі, на якіх ты злятаў з пагорка за доўгім вузкім гародам, у канцы якога лёт саначак тармазіўся непрыбраным яшчэ з лета бадыллём кукурузы ды безгаловага сланечніку; лагодная, амаль сардэчная карова Марта, якая вось-вось павінна ацяліцца, і ты, тады хлопчык Сцяпанка, ужо аблізваўся ў прадчуванні салодкага малозіва, згатаванага мамаю ў печы; і гарачая чарэнь тае печы ў хаце, дзе ты адаграваўся пасля лятання ўволю на саначках... Ураз адагнаў тое відовішча гук рухавіка: Марына завяла “Мерсэдэс” у гаражы, час адчыняць вароты.

– Не ведаю, калі буду. Але не позна. Вы з Рэмам тут не нудзіцеся, – загадала Марына з машыны ўжо за варотамі, апусціўшы шкло пярэдніх дзверцаў.

Гэта азначала, што ты павінен выгуляць Рэма ў лесе.

У лесе вы з Рэмам размаўлялі. Ты – словамі, вадалаз – дзеяннем на твае словы, вачыма, у якіх штораз блішчэла штосьці іншае, чым хвілю таму, скупым гаўканнем; часцей за ўсё – інтанацыйным павіскваннем. Аб тым, што Рэм разумее людскую мову цалкам, а не толькі адмысловыя каманды, ты здагадаўся аднойчы, калі вы з ім збіраліся на шпацыр, а ты недзе прыткнуў звязку ключоў і ўсё ніяк не мог яе знайсці. Пераходзіў з пакою ў пакой, з ваннай у спальню, з гасцёўні ў кухню, падымаўся на другі паверх, загадкавы для цябе, бо стаяў пустым, але ў трох вялікіх пакоях выразна адчуваўся дух абжытасці, быццам тутэйшыя жыхары толькі што падаліся на працу ці яшчэ кудысьці; вось так вымушана абследаваў незлічоны метраж раскошнага асабняка, і Рэм (які паводле звычнага парадку павінен быў ужо раскашаваць на лясных сцежках і прагалах, а тут яго прагулянкавы напарнік чамусьці марудзіць) не даваў ступіць кроку, блытаўся пад нагамі, спачувальна сцябаў цябе вялікім і цяжкім хвастом. Аж ты зрэшты гаркнуў са злосці:

– Ну што ты прыліп, як смала! Дапамог бы лепей ключы знайсці.

І Рэм уміг перамяніўся, няспешна, аднак і не надта марудліва, самапаважна і абражана ў той жа час – маўляў, хіба раней нельга было сказаць! – падаўся ўглыб пакояў і хутка вярнуўся, несучы ў зубах ключы.

Уражаны, ты стаў на адно калена і ўпершыню абняў Рэма за шыю. Той самазадаволена лізнуў цябе ў вуха. Стуль ты пачаў гаварыць з Рэмам, як і з Марынай.

...Вы з Рэмам выходзіце за вароты і йдзяце нешырокаю, ужо ўпарадкаванай дарогай. Пасля начнога снегападу на дадачу да тых снягоў, што выпалі раней і ўжо паспелі зляжацца, хтосьці нябачны і нячутны ўмудрыўся расчысціць дарогу і сцежкі, нават тыя, што вядуць да лесу.

Час ад часу ты спатыкаешся аб думку, што, пражыўшы тут некалькі тыдняў, дагэтуль не ведаеш, дзе, у якой геаграфічнай кропцы і адміністратыўным раёне ляжыць гэты амаль спрадвечны лес, што маскіруе ў нетрышчах сваіх Марынін будынак. Марына прывезла цябе сюды познім вечарам, расчырванелага ад выступлення на запоўненым людзьмі пляцы, дзе твае грамавыя словы, падмоцненыя мегафонам, ляцелі ў сцягі, твары, транспаранты і над усім гэтым – далей над галовамі і сцягамі, у халодны, настоены на сталых зацятых марозах прыцемак начнога горада, б'ючыся і адбіваючыся ад муроў, будынкаў, коцячыся па бруку і асфальце. Марына прывезла цябе сюды – немаведама куды. І ты знік тут, нібы залёг у бярлог дасынаць зіму і прапаў для цэлага свету. Вось нібыта і барозніш слядамі белы лес разам з Рэмам, але Рэм, гэты сабака з пароды вадалазаў, быў і застаецца вадалазам Рэмам, а ты існуеш у абліччы Прытулы, які з'явіўся з тых часоў, як Марына, вярнуўшыся неяк позна вечарам, падала табе новую сінюю кніжачку з адзіным словам на вокладцы: пашпарт. Ты разгарнуў яе, убачыў усярэдзіне ўласны фотаздымак і прачытаў: Прытула Валерый Сяргеевіч.

Першым рухам тваёй душы было нават не здзіўленне тым, што, не спытаўшыся тваёй згоды ці парады, цябе перахрысцілі ў якогась Прытулу. Перш за ўсё цябе абурыла – чаму менавіта Валерый? Чаму не Рыгор, не Васіль, Пятро, Дзмітро, Андрэй? Нібы хто наўмысна ўчапіў табе таго Валерыя, пэўна ведаючы, што гэтае імя ты не церпіш змалку. Ты й сам не ведаеш – за што: не церпіш і баста. Нейкая ўстойлівая, закарэлая, вынесеная яшчэ з дзіцячых дзён алергія. Магчыма, праз тое, што калі ў вашае сяло прыехалі чужыя людзі і на нейкі час пасяліліся ў хаце – нічыёй, занядбанай і недагледжанай на пустцы побач з вашым дваром, – то ў іх сям'і быў хлопчык Валерык: як жа вы з ім не мірыліся!.. І вось тым, абрыдлым і прыпечаным тваёй нянавісцю імем, якраз узнагародзіла цябе Марына – быццам таўром прыпекла. Ды гэта яшчэ азначала, што з таго вечара перастаў існаваць Казачышын Сцяпан Маркавіч.

Рэм любіў гэтыя лясныя прагулянкі. Гойсаў цераз сумёты, правальваўся ў снезе (важыў жа з добрае цялё!), з разгону наскокваў на цябе, збіваў з ног, аднак неяк мякка і асцярожна, і, не азіраючыся і не цікавячыся наступствамі сваёй сяброўскай агрэсіі, мчаў сабе куды вочы глядзяць, упэўнены, што трасца цябе не возьме: падымешся, абтрусішся, сачыцьмеш за маім безаглядным гойсаннем, а я тым часам паганюся за вавёркаю, хаця нашто мне такое малое, нікчэмнае стварэнне, ну ды ўсё роўна няхай пільнуе і не вельмі выхваляецца сваім уменнем лётаць з галінкі на галінку, з дрэва на дрэва; а вунь на кусце глогу панадымаліся снегіры, і зараз мы ім пакажам, як самазакахана драмаць у разгары такога цудоўнага дня... Але дзе ж той Прытула і чаму ён сёння не хоча са мной гаварыць?

Рэм стрымгалоў скача да цябе, але не валіць долу, а тыцкаецца пысай у твой заснежаны кажух-дублёнку. Глядзіць, падняўшы галаў, і чакае ад цябе словаў. І ты мусіш спраўдзіць яго жаданне:

– Ты не ведаеш, што яна прывязе нам сёння?

Вадалаз разумее гэтыя словы па-свойму, па-сабачы. Яму відавочна запахла смачным гасцінцам ад гаспадыні, ён радасна падае голас, у якім улоўліваецца прадчуванне задавальнення, перш-наперш гастранамічнага, таму можна смела транжырыць нерастрачаную нідзе, апроч лясных прагалін, сілу і нагульваць апетыт; і Рэм зноўку ляціць праз сумёты палохаць дробную лясную зверыну і затоенае, выстуджанае на зімовых скавышах птаства.

Ты прымаешся абтрэсваць снег з дублёнкі. Абтрэсваеш і абтрэсваеш, ужо на кажусе не засталося ніводнай снегавай парушынкі, а ты раз-пораз і далей б'еш рукой аб полы і ўжо не асэнсоўваеш, што робіш і навошта робіш... А перад вачыма – відовішча...

## II

– Заўтра пахаванне. Хочаш пабываць?

Вы вячэраеце, як заўсёды, утраіх, толькі Рэм не за сталом, а ля стала – так блізка, што вячэра пададзена на траіх, і Рэм у ёй удзельнічае на правах роўні. Цябе гэта раздражняе, ты яшчэ толькі тыдзень знаходзішся ў сховішчы, куды цябе прывезла Марына, прысутнасць Рэма скрозь і заўжды яшчэ выдаецца табе ненатуральнай, але Марына ўпарта і настойліва яе прапагандуе, "праштурхоўвае", і ты мусіш скарыцца.

Цэлы тыдзень Марына прывозіць табе газеты, якія на самых бачных месцах адна за адною шумліва выплюхваюць на абывацельскія галовы сенсацыйную навіну пра загадкавае знікненне аднаго з галоўных дзеячаў апазіцыі Сцяпана Казачышына. На працягу цэлага тыдня гэтая навіна засланяе сабою ўсе іншыя. Нават далёка не апошняя па важнасці інфармацыя пра сустрэчу трох прэзідэнтаў адносна далейшага лёсу ядзернай зброі ў краіне ўдастойваецца толькі другіх старонак перыёдыкі.

Сем дзён ты трымаў у руках тыя газеты, пераключаў тэлевізійныя каналы, набачыўся, наслухаўся, начытаўся пра сябе самога столькі, колькі не чуў і не бачыў за ўсё папярэдняе жыццё. Безліч разоў тэлеэкраны мігцяць, стракацяць, грукочуць кадрамі з тваім вобразатворам і голасам: вось ты на трыбуне ўстаноўчага з'езду апазіцыйных сілаў; вось ты ў натоўпе людзей, усхваляваных і абуджаных часам, парою, эпохаю і, можа, – крышку й табою; вось ты стаіш у жывым ланцугу ў дзень Злучэння, тыя двое абапал цябе, якія трымаюць у сваіх далонях твае рукі, аж свецяцца шчасцем быць у гэты момант поруч з табою; вось ты нясеш цераз залу парламента адозву апазіцыі да прэзідэнта, старшыні ўрада і спікера, і ў спіну табе нацэленыя погляды невынішчальнай большасці, якая яшчэ ў сіле, аднак сытым нутром адчувае надыход вялікіх зменаў, і гэта ўжо не якаясьці там камуфляжная перабудова, а паварот грандыёзны, пакуль што не ўяўляльны і не прадбачваны ва ўсёй сваёй паўнаце, таму як бы гэта не выляцець з наседжанага месца пад нечакана раскілзаны галас апазіцыі... Вось ты, азораны ўсмешкай і вясёлы, поруч з жонкаю, на прыродзе, ля вогнішча – гэта ўжо кадры па-сапраўднаму хатнія, "для ўнутранага ўжытку", зафільмаваныя кімсьці з сяброў аматарскаю камерай: і іх раздабылі і апрылюднілі ўсюдыпралазныя тэлевізійшчыкі, далучылі да раздзьмуханай сенсацыі...

Нарэшце, праз тыдзень усяго таго газетна-эфірнага вэрхалу, выплыла новая сенсацыя: знойдзены Сцяпан Казачышын. Нежывы. Знявечаны да

непазнавальнасці. Цела і асобу апазіцыйнага дзеяча ідэнтыфікавалі пасля дакладнай шматразовай экспертызы малекулы ДНК. Вызначаны дзень пахавання і старшыня ўрадавай камісіі па пытаннях пахавання.

І вось Марына пытаецца, ці хочаш ты пабываць... Спярша ты млява супраціўляешся і робіш выгляд, нібы не разумееш, пра што гаворка, і з пункту гледжання здаровага сэнсу тут усё правільна, бо йдзецца – пра пахаванне Сцяпана Казачышына, нядаўняга цябе. Падзеі апошняга тыдня агаломшылі цябе, разарвалі на часткі тваю здольнасць успрымаць іх, сябе і ўвесь белы свет (сапраўды ж такі белы ў гэтым заснежаным лесе, які і стаў цяпер для цябе ўсім светам) так, як ты гэта здольны быў рабіць яшчэ сем дзён таму – раскладаў па шуфлядах і палічках "шэрага рэчыва", імгненна аналізаваў і вылічваў магчымы вынік, тут-такі знаходзячы найвыгаднейшы для вашай справы, прыводзіў у парадак імклівую плынь інфармацыі і яшчэ больш імклівую – дэзінфармацыі, за што цябе і паважалі аднадумцы, заражаныя ідэяй гэтак сама, як і ты, але ці то надта азартныя, ці паспешныя, ці перакананыя ў дарэмнасці халоднай логікі ў такі гарачы час, а можа, і лайдакаватыя ад прыроды ды ад шматгадовай непатрэбнасці сваіх сілаў для грамадства, якое пераймалася абы-чым, толькі не вашымі ідэямі.

Дык вось, агаломшаны і разарваны на часткі бачаным і чутым, ты маўкліва глядзіш у разгорнутыя старонкі новага пашпарта, і твой здымак над прозвішчам "Прытула" не дазваляе табе зразумець своечасова для Марыны, якога адказу яна ад цябе чакае. І яна тваё маўчанне вытлумачвае па-свойму:

– А я паеду. Ты ж ведаеш: я павінна там быць.

Ты сапраўды ведаеш, што Марыне неабходна там быць. Яна ўжо даўно... як гэта сказаць сёняшнім слэнгам, аднолькава пашыраным як сярод паўадукаванай шпаны, так і найноўшай эліты?.. О, Марына – "прасунутая"; з нейкага часу яна ўжо грае далёка не шараговую ролю ў вашай апазіцыі, і ёй сапраўды належыць месца ў дзействе пахавання цябе, Сцяпане Казачышын.

Гэтай ноччу Марына ўпершыню, з тых часоў, як вы тут разам, не дамагаецца тваіх пестаў. Дакладней – не прапануе іх табе. Рэм наогул паклаўся на дыване галавой ад вас, і калі б яго больш настойлівая воля, падаўся б прэч з вашай фешэнебельнай спальні: зрэшты, гэта, можа, толькі твой домысел, прынамсі, табе такое пабачылася ў ягоных вачах, калі ён адварочваў сваю вялікую і таму цяжкую галаву перад выключэннем святла, а свечак у гэты вечар вы не запальвалі. Сказана ж – ноч перад пахаваннем.

І ты ляжыш у такой самоце – жудасна проста. Калісьці даўно (а ўсё, што было даўно, – сапраўднае і вечнае, бо яго ніхто не пераробіць і не перадзыме на экране ўласнай памяці) ты яшчэ малым Сцяпанкам прачнуўся ноччу на печы, мама паклала цябе на радніну паверх збожжа, што сохла на чаране, каб ты не застудзіўся ад нястрымнага лятання-гойсання па цёплых лужынах у высокім спарышы пасля спорнай летняй залевы; ты ляжаў скронню да падушкі, у скроні пульсаваў прожылак, яго пульсаване адбівалася ў галаву, і табе здавалася, што хтосьці нябачны і невядомы (а раптам дамавік, аб якім так пераказана дарослымі?) рытмічна бухае недзе ўсярэдзіне печы, і было тады страшна. Ці не падобна й цяпер?..

...Яна прыйшла ў штаб-кватэру апазіцыі і чамусьці дапытвалася якраз цябе. Яе да цябе і прывезлі – маладую, да д'ябла прыгожую, падкрэсле-

на не размаляваную касметыкай. Апранутая ў джынсы, непрыкметную шэрую куртачку-вятроўку паўзверх бэзавага швэдарка; на фоне швэдарка вылучаўся крыжык на ланцужку – можа, й залаты. Так сказаць, форма адзення – для буднай штодзённай працы.

– Такі крыжык носяць на целе, – замест прывітання сказаў ты.

Яна, з усмешкай на твары й нібы аж задаволеная тваёй заўвагай ці падказкаю, моўчкі ўклала крыжык запазуху, адкрыўшы на хвілю высокую, прыгожую, яўна пешчаную шыю, і ты заўважыў: вопратка яе не вельмі пасуе да гэткай прыгажосці; яна блізкая да ўніформы былых гасцінічных швейцараў або нават лёкаяў, што прыслужвалі ў англійскіх родавых замках.

– Марына, – падала яна руку цераз стол. – Хачу паслужыць вашай справе. Пра вас чула даўно. Мы вучыліся на адным факультэце. Толькі я заканчвала пазней. Дык як, бераце?

Сцяпан Казачышын сказаў тады, што ім сапраўды не лішняе "новае віно ў яшчэ не старыя мяхі", а галоўнае – смелыя і адданыя людзі (Марыне гэты моўны штамп міжволі расцягнуў вусны ва ўсмешку з ледзь прыкметнай пазнакай іроніі), і калі яна асэнсоўвае, на што ідзе, стаючы пад сцягі апазіцыі, то ёй праца знойдзецца, аднак няхай яна потым не наракае.

Ты, Прытула, добра памятаеш той дзень і тую размову. Марына сапраўды пранялася вашымі справамі, не пнулася на вочы кіраўніцтва, з той самай, ужо знаёмай табе ўсмешкай бралася выконваць усякую работу, нават няўдзячна чарнавую (напрыклад – расклейванне вашых агітак, для чаго ў апазіцыйнай касе бралася крыху "капусты" і лёгка наймаліся студэнты з вечным гастранамічным комплексам). Марынаю пастаянна апекаваўся і меў яе пад сваёй рукою кіраўнік штаба мясцовай арганізацыі, і ты, заклапочаны, заторганы безліччу праблемаў і праблемачак, вечна нявыспаны і незаўсёды своечасова накормлены, як тыя "капусныя" студэнты, згадваў пра Марыну ад разу да разу, часам ловячы сябе на думцы, што чаму ж яна, звярнуўшыся насамперш да цябе й ні да каго іншага, надалей паводзіць сябе адстаранёна і падкрэслена абыякава (зноў жа найноўшы слэнг: "фіялетава") да цябе. Нешта падобнае на вострыя імгненныя ўспышкі рэўнасці, але рэўнасці, калі можна так сказаць, чыста службовай, дзелавой. Напрыклад, калі кіраўнік бывае абыйдзены ўвагай таленавітага падлеглага і міжволі жадае наблізіць таго да сябе, адчуваючы ў ім магчымага канкурэнта ў якойсьці яшчэ не вызначанай годам, днём і гадзінаю, але пагражальна няўхільнай будучыні.

Між іншым, час ад часу табе наяве ўзнікаў у памяці эпізод: Марына леваю рукою адхінае каўнерык швэдрыка і праваю засоўвае за яго ланцужок з крыжыкам; крыжык чапляецца за шорсткую тканіну, і Марыне даводзіцца болей агаліць проста перад тваімі вачыма высокую белую шыю, гэты лапік маладога жаночага цела, што ўварваўся ў цябе на спадзе грукатлівага, складанага працоўнага дня – уварваўся лісліва, па-добраму дзёрзка, падсаладзіўшы тваю свядомасць абуджэннем эгаістычнай самазадаволенасці: а ты, Сцяпане, яшчэ здольны рэагаваць на жаночыя прынады, палітыка яшчэ не дазвання прытлуміла ў табе мужчынскую сутнасць.

З таго моманту ты пачаў лавіць сябе на тым, што хацеў бы мець Марыну як жанчыну. Нейкі час гэта раздражняла цябе, ты злаваў на сябе і загадваў сабе не зважаць на тыя прыступы наравістага капрызу, што паўтараліся ўсё часцей, да таго ж – у моманты найнезручнейшыя, даверху напакаваныя мітуснёю, вечнай заклапочанасцю, людзьмі, тэлефоннымі званкамі

і яшчэ халера ведае чым. Аднак з часам ты адчуваеш: юрлівае думанне пра Марыну прыносіць адпачынак твайму ўзбуджанаму мозгу, які даўно ўжо працуе ў рэжыме нявыключанага кампутара. Некалькі хвілек уяўнай блізкасці з Марынай – і ты нібы падыхаў прахалодным вячэрнім брызам на беразе мора, якое непарушна накочвае на твае босыя ступні плюхоты невычэрпнага спакою, прыхаванай ад людскога вока і душы таямніцы быцця ўсяго існага на свеце, замірэння. І ты дазволіў сабе не адганяць думак пра Марыну.

У той жа час ні ты, ні яна нічога не рабілі для таго, каб твае спарадычныя прывіды сталі рэчаіснасцю. Не траплялася аніякай слушнай нагоды (ты ў дзённай безупыннай калатні сам па сабе – і яна, таксама не сярод гультаёў, – сама па сабе), не было і тваёй ініцыятывы стаць зачыншчыкам граха. Ты любіў жонку, маці тваіх сыноў, і жонка цябе абагаўляла; можа, якраз болей абагаўляла, чым любіла, бо з некаторага часу пачала бачыць у табе не так каханага мужа, як ледзь не нацыянальнага героя, асобу харызматычную, аднаго з правадыроў народа, чалавека, каторы належыць ужо і не радні – належыць цэламу страсянутаму часу і айчыне.

Жонка даглядала цябе лепей, больш уважна і нават дагодлівей, чым дзяцей. Яна выправаджвала цябе ўранні і сустракала штораз, пераважна позна вечарам ці й ноччу, ціхай неафішаванай радасцю, абавязковым пацалункам, цешачыся шчасцем ад праведзеных з табою куртатых хвілінаў, і ты ніколі не бачыў на яе твары слядоў стомы, а ў вачах – неспакою, раздражнення ці дакору за такое жыццё ў шлюбе з каханым мужам. І гэта цябе натхняла на працу і барацьбу; яно ж выключала магчымасць усялякай сямейнай здрады.

І аднак на непрадбачваным перапляценні тваіх сцежак-дарожак ужо з’явілася Марына. Ты ішоў наперадзе – адзін з галоўных, сярод тых, у каго яшчэ не перастала балець сэрца за гэты разбураны край, за ў соты ці ў тысячны раз абкрадзены і абдураны люд, адзін з тых нямногіх, хто адкрыта стаў супраць новай улады, на верхатуры якое паўсядаліся тыя самыя і якая гэтак жа заставалася варожаю да народу і краіны, якую яна па-фарысейску здзекліва прадстаўляла перад светам і ганьбіла яе ж у вачах абыякавага свету. Ты ішоў безаглядна (калі табе азірацца?! дый хіба дазваляць абставіны?!), але пэўна ведаў, што недзе там за табою, разам з тымі, каго не спаіла хлусня папяровай волі і не атруціў дурман афіцыйнага словаблудства, пераймае твой крок Марына – твая найвялікшая таямніца і загадка, тваё прыглушванае табою самім жаданне, а можа нават – твой лёс ці фатум.

Між тым, улада, не жадаючы болей цярпець напору з боку апазіцыі, перастала гуляцца ў дэмакратыю. Былыя сталі надзейнымі сённяшнімі; адных малых правадыроў улада дапусціла да дзяржаўнага карыта, і тыя на дзіва лёгка да яе падсунуліся, другіх уладкавала на дыпламатычную службу далей ад бацькоўскіх пенатаў, дзе яны дабратворна адпачывалі ад бурлення палітычных страсцей і сноў аб найноўшым абсталяванні маладой краіны, а трэціх адкрыта запалохала. З некаторых часін пачалі з’яўляцца і чацвёртыя: гэтых знаходзілі ў моргу, у зашмаргу, у ваннай уласнага памяшкання з перарэзанымі венамі, недзе ў разбураных будоўлях на ваколіцах гарадоў і мястэчак. І тады да цябе ў другі раз прыйшла Марына. Была ў вячэрняй сукенцы, наведзеныя бровы, падчорненыя вейкі, цёмная памада на вуснах, пазногці налакаваныя ў такі колер, што і назвы яму няма. Ты ўстрывожыўся, бо ў думках пра яе зайшоў ужо надта далёка.

– Слухаю, – мовіў ты як мага суха, рукою паказаўшы сесці.

– Я баюся за вас, – ціха прамовіла яна.

– І гэта ўсё, што вы хацелі мне сказаць? – няшчыра бестурботна прымружыўся ты.

– Пане Сцяпане, я нешта ведаю. Мой брат мае пасаду і доступ да інфармацыі.

– Дык гэта ж цудоўна! – усё яшчэ намагаўся ты адбыць жартамі.

– Не трэба так легкадумнічаць. Я пакуль не магу вам казаць усяго, але я дакладна ведаю, што над вамі завісла пагроза.

– Пані Марына! Мы ад самага пачатку ведалі, на што ідзём. І вы, паверце, аніякага сакрэту мне не адкрылі. Ці, можа, маеце якуюсьці іншую мэту візіту?

– Маю.

Ты зноў крыху прымружыўся; Марына, як быццам, патлумачыла гэта як замену твайго афіцыйна-рабочага погляду на дапытлівы, выведвальны.

– Маю, – паўтарыла. – Але яе адкрыю іншым разам. Да пабачэння.

Яна паднялася і рушыла да дзвярэй кабінета.

“Чакайце, – сказаў ты ёй услед. – Так не бывае між супольнікамі. Калі вы сапраўды нешта ведаеце, то павінны адкрыць карты да апошняй. Мабыць, я не так вас зразумеў”. – Марына супынілася за крок да дзвярэй: “У мяне сёння дзень народзінаў. Хацела адзначыць яго разам з вамі”. – Ты перамяніўся тварам: “Віншую! Але на рэстаран не маю ніводнай секунды. Хіба, можа...” Ты падняўся, выйшаў з-за стала, дастаў з шафы-серванта пляшку чырвонага віна, два келіхі, непачатую кардонку цукерак, паставіў усё тое на прыстаўным століку. – “Сядайце, я з вялікім задавальненнем вып’ю за вашае здароўе, за вашую прыгажосць і шчаслівы лёс. Будзьма!”

Калі Марына ішла да дзвярэй, табе страшэнна хацелася, каб так яно ўсё і адбылося: налітае віно, тост, дзве рукі – яе і твая – з келіхамі набліжаюцца адна да адной, крышталёвы звон і даўкі прысмак “Аксаміту Украіны”... Але Марына выйшла, пакінуўшы ў кабінеце тонкі пах далікатных парфумаў. Ты забыўся пра іх праз колькі секунд: азваўся тэлефон, да цябе прабілася твая малая радзіма, голас у трубцы паведамляў, што ў абласным цэнтры невядомыя злачынцы ўчынілі пагром мясцовай штаб-кватэры апазіцыі, заведзеная крымінальная справа, але які сэнс, калі знішчаны ці выкрадзены спісы, грошы, кампутарныя дыскеты, дакументацыя...

“Адкрываць справы яны навучыліся добра...”, – яшчэ паспеў ты падумаць у той момант. А назаўтра выехаў аўтамабілем на сваю малую радзіму. Прадстаўнік улады ў вобласці сустрэў цябе як брата роднага, абяцаў і пераконваў, замала не біў сябе ў шырокія грудзі над тлустым жыватом (“Злачынцы будуць знойдзеныя, хай мяне Гасподзь пакарае!”), але ты ўжо ведаў: усё пойдзе ў пясок, справу спусцяць на тармазах, хутчэй рак на гарэ свісне, чым прад ясны вочы правасуддзя стануць вінаватыя. Тваё перакананне ў гэтым узмацнілася, калі мэр абласнога цэнтра, з якім ты меў размову ў той жа дзень, вельмі бедаваў, што ўсе памяшканні, прыдатныя для абсталявання штаб-кватэры мясцовай апазіцыі, ужо раздадзеныя ўсялякім структурам, вось хіба што з дня на дзень павінны закрыць дзіцячы садок у “спальным масіве” (“Самі ведаеце, моладзь разленавалася, не хоча нараджаць...”; ты заткнуў мэравае бедаванне дэмаграфічнымі праблемамі простым пытаннем: “А колькі ваша ўлада дае маладой маці за народжанае дзіця?!”), то, можа, неяк удасца выдзяліць пакойчык-другі...

Кіраўнік абласнога аддзела апазіцыі, нізкі, лысы і гладкі чалавечак,

які паспеў тройчы пашлюбіцца і тройчы выблытацца з Гіменеевых вузаў, жывучы ўжо з чацвёртаю жонкай "на веру", лісліва бегаў вакол цябе, штокрок наракаў на нясцерпныя ўмовы дзейнасці і слёзна намякаў, ці не маеш ты змогі забраць яго пад сваё крыло ў цэнтр – быццам бы ў тым цэнтры ўсе пад Богам ходзяць і там не дзейнічаюць тыя самыя правілы гульні ўлады з апанентамі. Усвядоміўшы з тваіх рэплік, што цэнтр яму пакуль што не ўсміхаецца, бо хто ж тады працавацьме ў вобласці, той чалавечак перакінуўся на тэму грашовай узнагароды за рызыку падстаўляць уласны галаў пад уладны меч і тым канчаткова зганьбіўся перад табою; між іншым, ужо да канца года ён такі апынецца ў цэнтры, аднак не ў лагеры апазіцыі, а ў калідорах Сістэмы, рашучае змаганне супраць якой ён актыўна імітаваў дагэтуль. Менавіта ў калідорах, бо да кабінетаў не будзе дапушчаны і блізка, хоць і на гэтым лёкайскім (але ж сталічным, сталічным!) узроўні той чалавечак спазнавацьме шчасце дасягнення выпешчанага ў марах.

Ты вяртаўся з бацькаўшчыны з надарваным сэрцам. Усю дарогу тваё аўто пераследаваў спорны халодны дождж ды з надзвычайнай перыядычнай паўторанасцю карціны перавернутых легкавікоў: яны ляжалі то па адзін, то па другі бок шашы, чамусьці дагары коламі, і табе, і твайму кіроўцу жудасна павявала за каўнерам ад стабільнай адсутнасці людзей на месцах аварыяў. Быццам бы нейкая вышэйшая сіла дэманстратыўна параскідвала тыя легкавікі ўздоўж твайго шляху.

За ўсім тым другі візіт Марыны забыўся, прыцярушаны ў памяці паездкай, дажджом, новымі клопатамі пасля вяртання...

...Цяпер вось яна ляжыць на адной пасцелі з табою, спіць бестурботна ці прыкідваецца, быццам спіць; ёй трэба выспацца, бо заўтра яна павінна быць на пахаванні Сцяпана Казачышына – так загадвае яе саратніцкі доўг, сумленне аднамысніка, абавязак праводзіць у апошні шлях таго, чые высокія ідэалы яна падзяляла і пайшла за іх на барацьбу.

А ты, Прытула, ніяк не можаш сплюшчыць вочы, корпаешся сам у сабе і сам па сабе, крывадушна спрабуючы ўцячы ад уласнай раздзёртасці ва ўспаміны; і куды ты ўцячэш, ідучы праз невычэрпную чарнату гэтай ночы, пасля якой надыдзе адразу дзень, калі хавацьмуць і цябе, і ўсё пражытае і зробленае табой за сорак сем няпоўных гадоў...

"Паеду", – раптам вырашыў ты, і займеў спакой, і Рэм праскавытаў на дыване, па-свойму, па-сабачы пракаментаваўшы вокамгненны сон, і Марына зварухнулася на адлегласці не працягнутай табою рукі. І калыхальнай хваляю накаціўся на цябе сон, а мо й не сон, а трызненне ці прывід – шчымлівы і салодкі, ты піў яго з прагнасцю і асалодаю, бо гэта вярнулася да цябе вашая першая ноч.

## III

Твае грамавыя словы, узмоцненыя мегафонам, ляцелі ў твары, сцягі, транспаранты і звыш усяго таго – далей над галовамі і сцягамі, у халодны, настоены на сталых зацятых маразах прыцемак начнога горада, б'ючыся і адбіваючыся рэхам ад сценаў і будынкаў, коцячыся па брукаванках і асфальтах.

Ты стаяў на подыуме-ўзвышэнні, збітым з дошак незадоўга перад пачаткам мітынга пасярод плошчы, асвечанай імем святой Сафіі; разам з табою стаялі галоўныя дзеячы апазіцыі, перад вамі аж да самых пабудоў

па перыметры плошчы тоўпілася зборышча – пасля першых вашых слоў ужо і не зборышча ці натоўп, а сіла людская, што верыла ў вас, а вы ў яе, і ад гэтага рабілася ўзаемна радасна, шчасліва, урачыста, быццам у храме; кожнае людское сэрца налівалася вераю, пэўнасцю, рашучасцю ісці за вамі, выразнікамі народнага гневу і патрэбы справядлівасці ды праўды. І не хацелася думаць, што праз які час, калі абязлюдзее плошча, кожны тут прысутны апынецца адзін на адзін з халодным вечарам і ўласным лёсам, нікому наогул не патрэбным і жалю вартым, як вартай жалю бывае саспелая галава сланечніка, сарваная са ствала і пазбаўленая свайго месца ў гурце іншых галоў на полі.

Ты яшчэ ўглядваўся ў гэтыя расчырванелыя твары, услухоўваўся ў напружанае, напоўненае моцай, гудзенне плошчы – гулі людскія сэрцы і каменні пад нагамі, гуў купал нябеснай сферы, ты ўжо амаль гатовы быў ашчасліўіцца магчымым хуткім здзяйсненнем усёй вашай справы (з вамі ж во колькі народу, і якога народу – залатога, шчодрага, мудрага і свабодалюбнага!), але ў той жа час ты, даўно не наіўны рамантык, ужо адчуваў пад сэрцам зімнае вастрыё мінору. Ты ж бо добра ведаў, якія мы ёсць не ў гурце, не ў грамадзе, а з вока на вока з будзёншчынай, адзін на адзін з адвечнай думаю, што яе як не думай і перадумвай, а ўсё адно паверне на журбу і маркоту, і тады нікому няма клопату да яшчэ не схаладнелага пляцавага братэрства і яднання, аднадумства і рашучасці – тады кожны валтузіцца саматугам, і паняцце "народ" губляе сілу, а слова "натоўп" набывае сапраўды арыфметычнае значэнне, як мноства адзінак і не болей за тое.

Ты любіш гэтых людзей – і іх жа баішся. Яны са шчыраю вантробнаю радасцю ўспрынялі вас як правадыроў, зацята і ўпарта не ўяўляючы сябе ў гэтай ролі і ўсяляк адганяючы нават думку пра гэткае; яны палохаюцца такой думкі, песцячы ў генах сіндром вечна вядзёных, але такіх, якім прагнецца справядлівасці і якія здольныя марыць аб ёй з пакалення ў пакаленне, але толькі марыць – і ні на рух мезенца болей. Яны глядзяць на вас, галоўных апазіцыі, слухаюць вашыя ўзвіхраныя прамовы і хочуць чуць у іх тое, што разганяе ім застаялую кроў і абуджае з адвечнай звычнай дрымоты найтаемныя спадзяванні жыць у свеце справядлівым і жыць усім па праўдзе, аднак яны болей лічаць за лепшае хацець гэтага, чым нешта зрабіць дзеля гэтага ўласнаручна. Ім хочацца правадыроў, каб тыя ўзялі іх за натруджаныя парэпаныя рукі і пад сурмавыя маршы перавялі з плошчы ў райскі кут, створаны кімсьці іншым для кожнага з іх, дзе ўсяго ўдосталь і дзе правіцелі ў такіх жа дакладненька кутах на аднолькавых правах, лыжкаю з такога самага металу і такога самага памеру сёрбаюць гарачае варыва з аднаго на ўсіх катла. Ім патрэбны правадыр – іхні аднадумнік, здольны апусціцца да іхняга разумення агульнага дабра, да ўзроўню іхняга душэўнага болю, да іхняга інтэлекту – аднак не вышэй і не болей ні на ёту. Яны, млеючы знутры, аддаюць вам, кіраўнікам апазіцыі, сваё законнае права спытаць ва ўлады, калі ж нарэшце настане абяцанае працвітанне; ды калі вам не ўдасца дастукацца ў дзверы ўлады, або калі яна, добра ўсведамляючы, хто і ад імя якога народа стукаецца, не захоча адчыніць вам дзверы ці й наогул спусціць на вас цэрбераў з ланцугоў – вось тады не даруюць вам вашага бяссілля перад уладай: бяссілля, адзінаю і найпершаю прычынаю якога ёсць іхняя надзвычайная, тупая, закарэлая абыякавасць да ўласнага лёсу. О, народзе! – думаеш ты і сам не ведаеш, што трэба разумець пад тым народам. Ці ганарыцца ім, ці яго праклінаць.

Што ж гэта за люд найдзівосны, які не ведае і ведаць ужо не жадае сваіх продкаў, адсекшы памяць аб іх на трэцім (і не далей!) калене, а пад абрусам на адзіным у хаце стале хавае выпадкам зробленыя грошы: дык ты ж далей руку пад той абрус прасунь – а раптам знойдзеш там даўнюю метрыку і дакранешся да таямніцы радаводу свайго, і адкрыецца табе адно з імёнаў дрэва, на адной з галінак якога выкалыханы і ты ў перадаванай у спадчыну калысцы, і табе, радасна ашаломленаму тым адкрыццём, прасцелецца сцежка да забытай, задзірванелай і закуставанай, ужо амаль нічыёй магілы, і ты пойдзеш на яе бязгучны голас, станеш над ледзь ацалелым грудком зямлі, і душа твая заззяе ад нікому, апроч цябе, не чутнага голасу з-пад тоўшчы зямное, на покліч якога ты прыйшоў, і ты ўсвядоміш па-новаму, глыбінна і ўжо ніколі не забыўна, што на гэтай зямлі ты не ўзяўся ніадкуль, што ты тут не байструк гісторыі, што карані твайго роду вечныя ў часе і прасторы і што пакуль гучацьме табе той голас продкаўскі, датуль і зямля гэта, і свет гэты ў часе і прасторы ёсць твае, і нават хай цябе, народзе загадкавы, заб'юць і скуру здзяруць у каталажцы – ты ўсё адно застанешся тут вечна, бо ніхто цябе не заменіць, бо ніякіх заменнікаў ні з якіх іншых земляў не ўспрымуць косткі тваіх продкаў, а голас іхні гудзецьме ў вушах прыхадняў, пакуль не давядзе іх да вар'яцтва.

Ты, народзе надзвычайны, за схаванымі для сябе заўтрашняга (але ад сябе сённяшняга!) некалькімі паперчынамі з партрэтамі гетманаў, не бачыш нічога іншага, апроч саміх партрэтаў; а там жа – “вывад правоў і вольнасцяў”, і якраз правы на тыя вольнасці, занядбаныя з часам недалужнымі павадырамі ды тваёй валовай абыякавасцю (ідуць валы запыленым шляхам, капыты размерана-наканавана апускаюцца ў нагрэты пыл: пых! пых! пых! – уздымаюцца над капытамі клубікі пылу і зноў садзяцца на зямлю, вырачаныя на доўгае і пакорнае ляжанне; *cinis et umbra sumus*) і нахабна занядбаныя ад чужога да яшчэ больш чужога цара. Царскія знакі на тваёй зямлі яшчэ і цяпер ахоўваюцца законам суверэннай быццам бы дзяржавы, замест гэтага твае гетманы спачываюць (дзе там спачываюць – мардуюцца на тым свеце!) невядома дзе, па чужых краях, і хто і калі збярэ тое, што ад іх засталося, у адзіны ўкраінскі пантэон: тут вось Піліп Орлік, тут Іван Сірко, тут Мазэпа, за ім Канашэвіч-Сагайдачны, Дарашэнка адзін і Дарашэнка другі, Іван Выгоўскі, Багдан-Зіновій Хмяльніцкі, Калнышэўскі Пятро, Скарападскі Паўло... Розныя яны, не аднолькавыя роздумамі пра твой лёс, народзе, але ж думы іх былі пра цябе і Украіну, хоць і паклалі яны на яе алтар болей ці меней свайго сэрца і мазалёў.

Ідэя пантэона выштурхнула вас, на той час пакуль і не галоўных у апазіцыі, у Маскву. Тады яшчэ ўсесаюзны Крэмль займаўся харчовай праграмай і дамаляваннем “людскога твару” да даўно прасмярдзелага, забруджанага бальшавікамі сацыялізму, і на Кіеўскім вакзале Масквы вас нечакана сустрэла родная дыяспара ў выглядзе стыхійных базарных радоў уздоўж ходнікаў і гранітных парапетаў. Тут паўнакроўна раскашавала мова твайго люмпен-пралетарыяту, любоўна выпешчанага яшчэ “Вялікім Кастрычнікам”: семечкі, гаўядзіна, руб, дохтарськая каўбаса, почкі, пічонка... Твая Украіна стаяла на маскоўскіх асфальтах як апошняя перакупшчыца, якая сваё ж і прадае за бесцань, ад рота ўласнага адарваўшы, а ў гэты час недзе ў палітычнай падваротні белакаменнай накормлены з вялікадзяржаўнай цыцкі вырадак разводзіў чарніла, якім праз год-другі напэцкае на кавалку фанеры лозунг і выйдзе з ім на Старую плошчу: “Ельцын! Заставь

хохлов накормить Москву!” Каля Крамля ты пачуеш замучаны голас ушчэнт абыякавага экскурсавода, які распавядае чарговай групе турыстаў пра Кутаф'ю вежу і не можа толкам растлумачыць, адкуль пайшла тая назва (“Видите, она какая-то неуклюжая, отсюда и называется Кутафья”), аж табе захацелася крыкнуць ашуканым экскурсантам, што тая вежа кутняя, куткавая, таму так і завецца, а “неуклюжесть” ваша маскоўская – ад невуцтва і нежадання прызнаць, што і мова, і вера, і асвета з навукаю, і чароўныя спевы з непараўнальнай музыкай прыйшлі да вас з Кіева, з Украіны, якой вы з часам і адплацілі ад шчодрасцей сваіх варварскіх. Ды нават назва народу вашага і краіны ўкрадзены ў нас, прыватызаваныя на вечные времена.

Ды вам не да Масквы ў той час. Недзе там пад Валакаламскам, гэта дарогаю ўбок Смаленска, у Ярапольчым сяле, перакручаным у Ярраполец, спачывае ад юдолі зямной Пятро Дарашэнка, з радавога гнязда якога – і прыгажуня Наталі Ганчарова, Пушкіна жонка і маці яго чатырох дачок. Вы доўга едзеце “Ікарусам”, дадзеным украінскім таварыствам у Маскве “Славуціч” (сам старшыня таварыства Паўло Раманавіч удзяліў вам колькі хвілінаў для фуршэтных зносінаў, прыбыўшы на сустрэчу ў суправаджэнні з яшчэ адным земляком – намеснікам Рафіка Нішанавіча ў палаце ўсесаюзнага парламента, сябрам сям'і самога кампартыйнага памазаніка; на фуршэце той другі зямляк падыдзе да цябе з фужэрам мінеральнай і па-сяброўску даверліва наракацьме, што нейкая ўкраінская газета назвала яго проста паэтам, апусціўшы цяперашнія яго высокаслужбовыя тытулы, а гэта ж патрэбна не яму асабіста – дзеля прэстыжу Украіны патрэбна, а яны, пісакі-недарэкі, лопухамі вушы панакрывалі і іх “не прашыб'ёш”), у дарозе цябе ўразяць нябачанай вышыні бярозы ў гушчары прышашэйнага лесу ды мілае шчабятанне жанчынкі-функцыянеркі са “Славуціча”: аж не верыцьмецца, што можна дзесяцігоддзямі жыць у Маскве і зберагчы такое прыгожае, такое прыроднае ўкраінскае вымаўленне.

У Ярапольчым кіроўца без падказкі (пэўна, гэта яму не ўпершыню) кіруе да плошчы ў цэнтры сяла, вы самлелымі нагамі ступаеце на зямлю, у якой ляжыць вялікі ўкраінскі гетман, ашуканы, як і амаль усе гетманы, царом. У невялікай агароджы з металічных прэнтаў – камлыга калісьці белага, а цяпер ужо сшарэлага ад стагоддзяў вапняку, мечаная дажджамі, градам, зацятымі паўночнымі завірухамі і чыімісьці неразумнымі рукамі; вычаканеныя на ёй літары ўжо не чытаюцца; у адным з куткоў агароджы вольна раскашуе куст бэзу; сіняя фарба на прэнтах узялася аблупінамі. “Вось гэтак яны даглядаюць магілу гетмана?!” – хочацца табе закрычаць, але – да каго: апроч вас да гетмана нікому няма справы, дый чаму мела быць, калі чужы ён тутэйшым абарыгенам, а перад чужым чые ж сэрца здрыганецца, вось паедзеце вы адсюль – выкалышацца бэзавае галлё ўвысь і ўшыркі, затуліць сабою і агароджу, і пашарэлы вапняк над касцьмі Пятра Дарашэнкі. Ярапольчае праймецца сваімі згрызотамі, вунь у сельмагу, драўлянай пабудове на высокім каменным падмурку, за нейкіх дваццаць метраў ад магілы, якраз “выкінулі” кансерваваную кільку ў тамаце, для сельскай глыбінкі – супердэфіцыт, і берагіні вашага гетмана, такія саменькія жанчынкі і бабулькі, як і ва ўкраінскіх сёлах, у такіх звычных твайму воку і аж родных кухваечках, прыступам бяруць магазін і з часам задаволіўшы свае матэрыяльныя патрэбы сеткаю кансерваў, ад няма чаго рабіць (і чаго яны ўсё прыязджаюць да тае камянюкі!) падыходзяць да вашага гурта. Кабзар сама спявае “Повіяв вітер степовий ...”, разносіцца

нязвычны для абарыгеннага вуха пераразвон струнаў бандуры, бабулі стаяць воддаль адасобленым гуртком, і на старэчых, збрыджаных векавым выгляданнем лепшае долі абліччах выразна прачытваецца запытальнае здзіўленне: няўжо недзе ў свеце людзі гавораць не так, як яны? Ох уж эти хохлы: вечно им неймется.

Гэтую фразу ты пачуў бы, нават калі б напіхаў у вушы ваты. Кінутая зноў жа такі ад нечага рабіць, яна ўгрызлася ў цябе, уелася кляшчом, пекла цябе ўсю дарогу да Масквы і ад яе да ўкраінскай, дагэтуль не існуючай мяжы, яна даймала цябе тым балючай, што моўлена была не палітыканам-шавіністам, не зацятым вялікадзяржаўніцкім ротам (“Ельцын, заставь хохлов накормить Москву!”), не падазроным перабежчыкам-маларосам – яе спакойна, бясколерна, незласліва і менавіта праз гэта страшна для тваёй украінскай сутнасці прашамкацелі губы падмаскоўнай бабулькі ў задрыпанай кухваечцы, праз рукаў якой звісае сетка, поўная дэфіцытнага ў гэтых краях далікатэсу – кансерваванай кількі ў тамаце, па трыццаць сем капеек за бляшаначку, на якую ва ўкраінскам сяльмагу ніхто і вокам не маргне, за путны харч не лічачы.

Ты вяртацьмешся з Масквы і зажыўляцьмеш прычыненую рану шчымлівым суцяшэннем, што твой народ – не такі, што ён і гасцінны, і міласэрны, і да іншаземцаў цярпіма-талерантны (хоць, можа, не кожны дзядзька і чуў такое слова), а што песень незлічоную процьму ўжо навыспеўваў сабе і ўсяму свету! – дзе яшчэ знойдзеш такі практычна ідэальны народ.

Дык чаму ж ты яго баішся, чаму пачуваеш сябе амаль самотным ваўком сярод гэтай шматлюднай плошчы, чаму пад сэрцам угняздзіўся холад не ад прымарожанай вячэрняй часіны, а ад незразумелага неспакою за ўсю вашую справу, у якую ты і сам часам верыш небезаглядна, бо ж не ўзяўся зніадкуль той халодны скавыш, што выстуджвае спярша думку, а далей і душу.

І ў тваёй памяці сплывае майскі Канеў, міжнароднае Шаўчэнкаўскае свята; вы, яго афіцыйныя ўдзельнікі (складзены адпаведныя імянныя спісы), падымаецеся прыступкамі на Чарнечую гару, кожнаму загадана прышпіліць на віднаце бірку-візітку (нехта сказаў пра яе “пэйджык”, гэта ад англійскага “page” – старонка, аркушык, але хіба няма ўкраінскага адпаведніка?) з эмблемай свята і прозвішчам удзельніка, і па той бірцы вас, быццам авечак да кашары, прапускаюць шчыльныя міліцэйскія кардоны, і хтосьці з іхняга начальніцкага рангу, нягледзячы на прысутнасць замежных гасцей, перадае па рацыі сваім шматлікім падначаленым уздоўж усяго шляху на Гару па ўсходах: “Отсекай лишних! Лишних отсекай!..” Лішнія – гэта па-святочнаму ўбраны люд каля падножжа Гары, яму не положено ісці на самую Гару да магілы Прарока, бо там чакаецца прыезд Прэзідэнта; для іх, тых, што без “пэйджыкаў”, але ў разнастайных нацыянальных строях, у святасць якіх яны яшчэ надзіва не зняверыліся, панатулена ўнізе на прасторных травяністых палянах усялякіх палатак, стылізаваных карчомак, проста немудрагелістых “забягайлавак”, у якіх шараварна прыбраныя рускамоўныя гандляркі запрашаюць выпіць гарэлачкі і закусіць чым Гасподзь паслаў.

Ты аглядваешся на таго, хто перыядычна і адкрыта вымагае “отсекать лишних”, і дзівішся: не, быццам бы і не падобны ён на прысланага з Маскоўшчыны міліцыянта, свой такі, дамарослы, хара твару выдае яго гарантаваную дамарослaсць, але – маларос ад форменных чаравікаў сорак чацвёртага памеру да кукарды на картузе.

Калі вы, мечаныя біркамі ўдзельнікі свята, падняліся на Чарнечую, а з нейкага часу Тарасаву, гару, Прэзідэнт паспеў ужо тут пабываць, яго з'яўленне адфільмавалі наспех для паказу ў вячэрніх тэленавінах, і гарант хапатліва адбыў для далейшага вырашэння спраў дзяржаўнай вагі; сапраўды, не будзе ж ён, абцяжараны лёсаноснаю харызмаю, чакаць, пакуль "отсекут лишних" і вы, таўраваныя "пэйджыкамі", пераадолееце нарэшце прыступкі да магілы Генія. Вы мелі яшчэ адну нагоду сустрэцца з Прэзідэнтам – на адкрыцці помніка Шаўчэнку ў Корсуні, куды вы ехацьмеце двума аўтобусамі, але на нейкім кіламетры між Каневам і Корсунем вашыя аўтобусы загоняць на палявы прасёлак, адкуль вы назірацьмеце, як трасай на шалёнай хуткасці прахурчыць прэзідэнтскі картэж – ты налічыш каля двух дзясяткаў іншамарак, і з якойсьці з іх памахае ў ваш бок гарант. Праз хвілінаў дзесяць вам дадуць дазвол на працяг руху; прыбыўшы ў Корсунь, вы застанеце самотныя мікрафоны, падобныя на адзінкавыя сланечнікі з адсечанымі галовамі, каля ўжо адкрытага помніка, і люд разыдзецца, калі яго наогул збіралі ў гонар прыбыцця першай дзяржаўнай асобы, што аддае перавагу ў такім разе абыходзіцца без лишних.

Яшчэ на Чарнечай гары вам разане прамова тагачаснага спікера, яго "новае слова" ў Шаўчэнказнаўстве ("Тарас схіляўся перад Пушкіным"); асабліва шакуе прысутных фраза прамоўцы (нехта ж з памочнікаў тую прамову пісаў!) "мастак Мікешэвіч маляваў Кабзара на смертнай лоджыі" – ты зафіксуеш яе дыктафонам, падасі ва ўласнай газетнай публікацыі і доўга не сціракцьмеш запіс на выпадак апратэставання спікерам твайго на яго "паклёпу".

І вось гэта твой народ? Чым жа яго вусны больш дабратворныя за шамкаючы рот старой бабы з падмаскоўнага Ярапольчага? І гэта дзеля яго, такога народа, ты аддаў сябе на алтар вашае справы?

Але ты ўжо не здольны саступіць са сцежкі, якою пройдзены добры кавалак жыцця. Ты ўжо не рамантык, ды нешта не дае табе кінуцца зняверы ў абдымкі, ёсць жа сярод іх у гэтым натоўпе светлыя галовы – акадэмікі, пісьменнікі, настаўнікі, духавенства; гэтыя ж павінны быць з вамі ад пачатку і да канца, так ім Госпадам прызначана. Павінны! Ды пакуль што – не настолькі, каб вам разам адчуць сябе сілаю, здольнаю выйграць паядынак з уладаю.

Перадвячэрні мароз усё мацнее, а ў цябе чамусьці ўсплывае ў памяці дысанансам да загуслага халоднага вечара забытая жнівеньская субота – дзень адкрыцця палявання на птушыную дзічыну. Ты ніколі не быў паляўнічым і ніколі ўжо ім не будзеш; на паляванне цябе завабіў твой аднакурснік-палтавец, весялун і непапраўны аптыміст, майстар бясконцых апавяданак на абы-якую тэму (у студэнцкія гады вы называлі Міколу артыстам арыгінальна-брахлівага жанру). Мюнхгаўзэн мясцовага маштабу, у чыіх вуснах, калі мова заходзіла пра паляванне, зброя сама выстрэльвала на шамаценне крылаў крыжака над галавой, а звараная звечару з гуртавой здабычы юшка застывала на ранак гэткім найгусцейшым халадцом, што яго можна было хіба што сякераю ўрубаць.

Мікола табе патэлефанаваў, запрапанаваў "дывертысмент для душы", і ты даў згоду, спакусіўшыся на яго легенды, на абяцаныя райскія тры дні. Сустрэча была прызначаная ў Ліпавым – першым сяле Палтаўшчыны, як ехаць аўтобусам з Кіева на Крамянчуг, тут Сула разлогім ліманам далучаецца да левага берага Крамянчугскага вадасховішча. Мікола правёў падрыхтоўчую работу, дамовіўся з мясцовым егерам, і той перавёз вас –

досыць шматлікі гурт аматараў дывертысментаў на прыродзе – кудысьці на выспы ў глыбіні ці то лімана, ці вадасховішча, дзе вы апынуліся адрэзанымі ад свету (праз пару дзён, калі скончылася прывезеная ў каністрах пітная вада, вы пілі чысты спірт і запівалі гарэлкаю, "каб не пякло").

Табе далі чыюсь даўно не выкарыстоўваную і тым больш не прэстыжную аднастволку, дзіцячую забаўку ў параўнанні, скажам, з бельгійскай пяцізарадкай, якой выхваляўся ўчарашні воін-інтэрнацыяналіст Слаўко, расказалі, калі і куды можна і куды нельга страляць – і разышліся "па кропках". Інструктаж выявіўся лішнім, бо за ўвесь вечар, на працягу якога вакол шалела няспыннае бабаханне, пахла спаленым порахам і час ад часу непадалёк з шоргатам падаў з вышыні шрот, ты ніводнага разу не націснуў на спускавы кручок. Чакаў таго, дзеля чаго, уласна, ехаў сюды: гуртавой вячэры і паляўнічага фальклору, спрэс настоенага на выдумках і легендах, затое ж якіх!..

Была дзівосная на смак юшка з дзічыны, пілася добрая чарка, і гэта не раз, не двойчы, палымнела вогнішча да позняе ночы, і вострая на слова садружнасць не расчаравала цябе, нагаварыўшы ўсяго столькі... Ды на раніцу ў памяці тваёй зеўралі дзіркі, і засталося толькі ўражанне – цёплае, кранальнае, чароўнае.

На наступны дзень вы падняліся на зары (начавалі ў некалькіх намётах пад тысячагалосы гуд камароў, намазаўшы адкрытыя часткі цела "Тайгою") і яшчэ гадзіны дзве палохалі дзічыну бабаханнем і ваяўнічымі пераклікаsuccessіннямі з чароту, але неяк млява, па інерцыі; птушкі, навучаныя ўчарашнім, ужо вас абміналі, а вячэрняе "адпусканне тармазоў" за чаркаю ў добрым таварыстве ўсё настойлівей хіліла да думкі пра сняданак. Дык вось неўзабаве вы – па двое, па адным – пачалі сцягвацца да "штаба": даядаць і дапіваць рэшткі вячэры.

І тут ні адсюль, ні адтуль каля вас дзядзька на кані. Спешыўся, без непатрэбнай дыпламатыі падышоў да гурта, далікатна, аднак неяк надта "пасвойску" прывітаўся (відаць, у такіх таварыствах бываць яму не ў навіну, і выраз яго засмяглага цыганаватага твару наяве выдаваў прагу скласці вам кампанію за сталом у выглядзе прасцеленай на зямлі брызенціны. Яму і сапраўды налілі (сказана ж бо: у дэфіцыце апынулася чыстая пітная вада, а не спірт-гарэлка), заахвоцілі, да слова і ён прамовіў: "Дай бог паміж ног крэпкага здароўя!" Недзе пасля трэцяй паднесенай яму чарчыны дзядзька, падбадзёраны поспехам свайго тоста, перахапіў слоўную ініцыятыву і, добра ўжо нахмелены, згубіў пачуццё меры, робячыся яўна дакучлівым. Яму далі зразумець, што, шаноўны, візіт ваш зацягнуўся, чакаюць вас вялікія справы, а мы ўжо неяк самі дабудзем тут сваю паляўнічую місію. Дзядзька рэзка падняўся, выцер далонню рот і вачыма пачаў шукаць каня; той, пакінуты без нагляду, заглыбіўся ў зараснік – таксама, пэўна, трапезнічаў. "Гнядко, Гнядко!" – паклікаў дзядзька, і конь падаў голас з гушчару, а праз хвільку і сам аб'явіўся на покліч гаспадара. Дзядзька падышоў да Гнядка, леваю рукой ухапіў аброць, а правай раптам ударыў каня наводмаш па губах – і раз, і яшчэ, і ва ўсёй дзядзькавай паставе вы ўбачылі здзічэлага звера, які сам не ведае, што робіць і навошта. Гнядко асадзіў назад, але гаспадар утрымліваў яго за аброць на адлегласці, з якой яго рука магла дастаць да конскай пысы.

На імгненне вы аслупянелі, уражаныя неспадзяванай дзядзькавай лютасцю: толькі ж што ён быў часцінай вашага таварыства, еў-піў з вамі, жартаваў, здаваўся вам такім тыповым прадстаўніком роднага і любімага

народа, ажно хацелася цалаваць яго ў засмяглыя шчокі і ціснуць жылістыя рукі – а ён гэтай працавітай рукою нізавошта калашмаціць такую самую працавітую жывёліну. Найхутчэй апамятаўся воін-інтэрнацыяналіст Слаўко. У два-тры скачкі падляцеўшы да дзядзькі, перахапіў таму правую руку, гатовую і далей хвастаць бязвінную скаціну, так яе сціснуў (нямарна ж прайшоў ніштаватую вывучку ў абмежаваным кантынгенце войскаў) і так зірнуў на дзядзьку, што той у вокамгненне працверазеў, умольна вызваліў руку, скочыў у старое, усё чыста ў лапіках сядло, і за ім аддалілася тупанне капытоў, пакуль і зусім не сціхла. Вы зазбіраліся, хоць егер яшчэ не хутка меўся па вас прыбыць – вось гэтак па-дурному закончыўся "дывертысмент для душы на ўлонні прыроды".

Табе прыгадаўся той жнівеньскі дзень, і ты зараз, перад уражваючым мнагалюддзем на плошчы, з гаркотай думаеш, што вось гэта ж і ёсць ён, твой народ: ён адначасова і невядома чаго азвярэлы дзядзька, і нізавошта адлупцаваны дзядзькам конь. Няшчасны, пагарджаны, без аніякага ведання аб тым, якая прыгода, зачэпка, паварот лёсу выпадзе яму праз гадзіну, праз дзень, праз год, кім ён ёсць сёння і кім будзе заўтра, якія подыхі душы скіруюць яго на тое ці іншае дзеянне, увогуле ж – на бяздзеянне, бо хіба ж можна ўзвесці ў ранг дзеі дзікае збіццё ўласнай аддана́й жывёліны, у якую паволі ператвараешся і сам. Табе шкада яго, гэты народ, да нерастопліванай халадэчы ў мозгу. І ты ўжо гатовы дараваць яму ўсё: і залішнюю сентыментальнасць, і флегматычную маруднасць, і генетычна перададзеную нерашучасць ды асцярожнасць, і ненавісную табе філасофію "неяк яно будзе, бо яшчэ ніколі не было, каб не было неяк", і апатыю ды абыякавасць да ўсяго, што з ім чыніла век і чыніць сёння ўлада і дзяржава.

Бо гэты народ – твой і такі, і калі ты хочаш зрабіць штосьці разам з ім, ты мусіш мець жалезнае цярпенне, мусіш прыпадобніцца скульптару, што рукамі, на якіх няма і не павінна быць накрухмаленых манжэтаў, адкрышвае ад гранітнай камлыгі непатрэбнасць да тых пор, покуль застанецца плод задуманага.

Віруе натоўп, калышацца маса людскіх целаў і галоў, гарацьвочы, запаленыя яшчэ адным прамоўцам ад вашай апазіцыі, і тут твой пакутлівы ўнутраны маналог абрываецца зваротам да цябе: "Пане Сцяпане! Пане Сцяпане!.." Ты азіраешся на голас: Марына. Зноўку ў джынсах, бэзавым швэдарку, што віднеецца з-пад не зашпіленага на верхні гузік кажушка, але ты чамусьці шукаеш крыжык на яе грудзях, ды крыжыка няма, і гэта цябе крыху расчароўвае. Ты не ведаеш, што ёй казаць, надта неспадзявана стаўся пераход ад тваіх роздумаў да з'яўлення Марыны ўнізе за подыумам-узвышэннем. Марына таксама нічога болей не кажа, толькі працягвае табе руку, запрашаючы спусціцца да яе. Ты пакорліва выконваеш яе маўклівую волю, здзіўлены яе гарачай для такой пары пешчанай рукою, да якой ты ўпершыню дакранаешся.

Далей працягваецца мітынг, раскаціста грукоча мегафон, пераходзячы з рук у рукі, натоўп гіпнатычна рэагуе на чарговага прамоўцу, дубеюць на марозе галоўныя апазіцыянеры ў сваёй інтэлігенцкай абуўцы і апранасе, маючы на ўвазе хуткую вячэру ў недарагім рэстаранчыку, дзе ўжо замоўлены стол і дзе чакае крэсла таксама і цябе – а ты крадком адольваеш неасветленыя мітынговыя тылы ззаду подыума, і толькі шарэнга міліцэйскіх афіцэраў, у якой няма чына меней маёра, абыякава суправаджае цябе стомленымі вачыма.

У найбліжэйшым завулку, бязлюдным і настылым, Марына расчыняе перад табою дзверцы “Мерсэдэса”, сама сядае за руль. “Што здарылася”, – кажаш ты без ніякай запытальнай інтанацыі, нібыта нехта трэці адстаранёна фіксуе гэтую непрыкметную для рэшты свету падзею. Марына вядзе машыну ад завулка да завулка, нарэшце выбіваецца на адну з перапоўненых транспартам і людзьмі вуліцу, робіць выгляд засяроджанага кіроўцы і на тваё паўторнае, таксама бясколернае “што здарылася” адчапляецца механічным “потым, потым...” Раптам ты спахопліваешся ад дзівоснасці амаль нерэальнай: Марына рулюе, абмінаючы легкавікі, тралейбусы, маршруткі, і робіць гэта даволі ўмела, але яе левая рука моцна заціснутая тваёй, таксама леваю, і вашым дзвюм рукам няёмка пад правым рукавом Марынінага кажушка, але ж вы і так едзеце, і досыць хутка.

“Што здарылася?” – на гэты раз словы набываюць запытальны змест, толькі ты ўжо пытаеш у думках і ў самога сябе. Адказу чакаеш ад кагосьці трэцяга, ды яго няма з вамі, і ты мусіш адказваць сам. Гэта цябе, Сцяпане, выкралі, банальна ўзялі ў палон і кайданы начапілі. Добра, што сёння на мітынгу не было тваёй жонкі; ты канстатуеш гэты факт і тым самым пазначаеш якуюсьці віну за сабой. Якую? У чым яна палягае? Якая за яе чакае цябе расплата? Ты асцярожна выпускаеш са сваёй рукі Марыніну, утароплена глядзіш перад сабою, святло ад фар слізгае па заснежанай наезджанай дарозе, вы ўжо недзе за горадам, гэтай дарогай ты ніколі не ездзіў, аднак пакладаешся на чыюсьці волю, кагосьці трэцяга, якога няма між вамі, самога Усявышняга, на якога пакладаюцца ўсе і якраз тады, калі ад іх ужо нічога не залежыць. Значыць, не залежыць і ад цябе?..

...Заснежаная дарога, з нейкага часу – лес абапал яе, высокія вароты, у якія ўперліся фары “Мерсэдэса”; Марына кранула нешта там на “тарпедзе” аўто – вароты аўтаматычна расчыніліся. Вы ўвайшлі ў будынак. “Пасядзі”, – сказала Марына, і да цябе не адразу дайшло, што да “пасядзі” яна не дадала “...це”; выходзіць – такі сапраўды палон і кайданы. Яна пакінула цябе ў вялікім пакоі (відаць, гасцёўні), ты міжволі разглядваешся, бо трэба ж нечым запоўніць чаканне Марыны, пакуль яна недзе там гаспадарыць у глыбіні будынка, знікнуўшы за выразанымі дзвярыма, аднымі з трох, што вядуць з гасцёўні яшчэ кудысьці, і раптам у праёме дзвярэй, якія ўлева ад тых, за якімі знікла Марына, з’яўляецца вялізная галава звера, ён ідзе проста на цябе і за колькі сваіх крокаў супыняецца, сядае і часта дыхае, не зводзячы з цябе запытальнага погляду, і ты ўжо нічому не дзівішся, індыферэнтна думаючы сабе: вось дык сабачка! Яшчэ праз імгненне ты чуеш голас Марыны: “Вы ўжо пазнаёміліся? Цудоўна. Гэта Рэм”, – яна нібы і не выходзіла нікуды, была тут з табою ўсе гэтыя хвіліны, ты перакідваешся ўвагаю на яе – яна ўся такая самая, як падчас другога візіту да цябе ў штаб-кватэру апазіцыі: вячэрняя сукенка, падведзеныя бровы, зачорненыя вейкі, налакіраваныя ногці. І ты не ў стане пазбыцца думкі, што менавіта пасля другога яе візіту ты пачаў хацець Марыну як жанчыну...

Яна дастае з серванта і ставіць на ідэальна белы з адасобленымі ўзорамі кветак, якіх няма ў прыродзе, стол, пляшку чырвонага віна, два фужэры, цукеркі. “Распранайся”. Ты разумееш гэта як запрашэнне скінуць паліто, і ты яго скідаеш. Вы п’яце віно, вы наліваеце паўторна, вы б і ў трэці раз налілі, але для трэцяга разу віна не засталося ў пляшцы, вы адначасна падымаецеся з розных бакоў стала, сходзіцеся блізка, ты бярэш яе на рукі – дакладней, бярэш яе ў рукі, як неспадзявана выйграную па латарэі дарагую рэч, табе хочацца мець яе ў руках, адчуваць вагу яе неймаверна

прыгожага цела, усведамляць яе матэрыяльнасць, магчымасць мець з яе выгаду і задавальненне, і ты гатовы несці яе да месца яе прызначэння. Марына рукой указвае на тыя дзверы, адкуль выйшаў Рэм: там – спальня...

## IV

Чорны "Мерсэдэс" з зацемненым шклом заўчасна пастаўлены каля суседняга пад'езда, і ў ім натоплена: Марына ўсю дарогу "качагарыла" печку. Выключыўшы рухавік, яна нейкі час моўчкі сядзела за рулём, выкурыла цыгарэту. Ты ўжо ведаеш, адкуль у яе іншамарка і раскошны будынак у лесе. Эвеліна папрасіла даглядаць Рэма, бо не возьмуць жа яны з мужамдыпламатам гэтага вадалаза ў працяглую замежную камандзіроўку. Табе абсалютна няўцям, хто такая Эвеліна; імя гэтае было названа як бы між іншым, наўмысна будзённа, як нешта само сабою зразумелае ў вашых суадносінах з рэштаю свету, і ты здагадаўся, што далей пра валадарку таго імя распытваць не варта, усё адно інфармацыі звыш таго дабыць табе не ўдасца. "Мерсэдэсам" Марына кіруе згодна з натарыяльна аформленым даручэннем; яна любіць вялікія хуткасці, смела ідзе на абгон. Вядома – мець такое аўто і плесціся ў хвасце нейкага там "Жыгуля" ці "Волгі" і забіваць нос іхнімі адпрацаванымі газамі. Марына і сёння, хоць зімовая дарога за горадам не з лепшых, разагнала была машыну, нібы застоенага жарэбчыка, недзе пад сто трыццаць, і яны прыбылі крыху рана.

Ты сядзіш на заднім сядзенні і тупа глядзіш на дзверы пад'езду, з якіх выходзіў і ў якія заходзіў незлічоныя разы. Мінулай ноччу ты вырашыў быць на пахаванні, уласна, назіраць нейкую яго часціну зблізку, і калі далучыўся да гэтай думкі, то палегчана заснуў і выспаўся, а дарогай сюды загадаў сабе звязаць у тугі вузел эмоцыі і глядзець на ўсё, што будзе, адно толькі вачыма, але ж не сэрцам. Цяпер ты прыслухоўваешся да сябе і пераконваешся, якое слабае стварэнне – чалавек. Не здольны сам сабе даць рады, сам сябе паслухацца. Цябе пачынае біць дробная гарачка; гэта ад холаду – заспакойваеш ты сябе, хоць у салоне можна сядзець і ў летнім адзенні.

Марына таксама нервуецца. Рэзка паднесла руку з гадзіннікам да вачэй, выцягнула ключ з замка запальвання:

– Мне час. Не нарабі глупстваў.

Зачыніла за сабою дзверцы, націснула кнопку на пульце цэнтральнага замка, заблакавала ўсе дзверцы, і калі б ты захацеў выйсці з аўтамабіля, то загалёкала б сірэна сігналізацыі.

Праз імгненне пад'ехала яшчэ адна іншамарка, таксама з зацемненымі шыбамі, і з яе ажно да самага заканчэння так ніхто й не выйшаў. Зразумела, цябе пасуць, каб ты сапраўды не ўчыніў чагосьці несусветнага, не сапсаваў кімсьці там напісаны сцэнар. Ад няма чаго рабіць ты спрабуеш адгадаць, вылічыць яго галоўныя хады і павароты, і калі гэтае паказальнае ці паказушнае дзейства рушыць ад альфы да амегі, твой прагноз амаль цалкам спраўдзіцца. Да пад'езду падвязуць з моргу ўжо забітую цвікамі труну (раскошную, нібыта скапіраваную з амерыканскіх кінафільмаў, з адпаліраваным і налакіраваным векам – браткі-аднадумцы не пашкадуюць партыйнай "зеляніны"!), яе ні за якою падставаю не адкрываць муць, і правільна, па афіцыйнай жа версіі, пашыранай следчымі органамі для сродкаў масавай інфармацыі, твар і цела нябожчыка знявечаныя да непаз-

навальнасці, дык навошта прычыняць боль родным Сцяпана Казачышына. Труну выймуць з аўтобуса рытуальнай службы, паставяць перад дзвярыма пад'езду, якія акажуцца завузкімі, каб яна ў іх магла прайсці, і ў хатні твой пакой цябе не занясуць, а выклічуць з кватэры жонку і дзяцей. Выйдуць яны, і суседзі – хвосцікам за імі, і момант іхняга з'яўлення на парозе пад'езду агучыць тужлівая жалобная мелодыя: некалі, пры Сістэме, такую гралі хіба што на пахаваннях генеральных сакратароў ды іншых высокіх дзяржаўных чыноў; цяпер жа, у часы татальнай дэмакратызацыі, пад яе высокамастацкія пераліванні ў апошні шлях праводзяць ужо і працаўнікоў пунктаў прыёму шклатары, і свет ад гэтага, як бачым, не перавярнуўся. Дзе тваё месца, Сцяпане Казачышын, у гэтым прамежку, на гэтай грамадскай дыстанцыі ад генсека да начальніка над парожнімі пляшкамі? Да каго – да першага ці да другага – ты сёння бліжэйшы? Мабыць, усё ж такі да генсека: "крыштальніку" столькі вянкоў, як вось цяпер, не прынясуць.

Далей музыканты прыцiхнуць, замест іх пачнуцца і хутка скончацца кароценькія прамовы – ад улады, ад апазіцыі, ад "грамадскасці", і ты яшчэ раз падзівішся, якімі безаблічна аднолькавымі словамі прамаўляцьмуць прадстаўнікі лагераў, якія ва ўсім іншым, апрача смерці, зайшлі ў лютую контру, і як лёгка, як на дзіва адзінадушна яны ідуць на міравую тады, калі стаяць над чыёйсьці (неістотна, з якога лагеру) труною. Дык няўжо і сапраўды адзінай крыніцай прымірэння ўсіх на свеце супрацьлегласцяў і ўсяго варожага адно аднаму адвеку была і давеку заставацьмецца смерць?..

Глядзі, кажаш ты сабе, глядзі і запамінай, бо так выпраўляюць з гэтага свету цябе, Сцяпана Казачышына, праз нейкую гадзіну ўвапхнуць труну ў зямную пельку, нагорнуць горбік, абкладуць яго кучай вянкоў і кветак – і ўсё: вечная табе памяць, Сцяпане Казачышын; душа твая яшчэ раней усялілася ў Прытулу, але то ўжо іншая душа, зусім іншая, такая іншая, што аж не здатная выляцець з гэтага астылага ўжо "Мерсэдэса" і зайціся крыкам, адчаем, усёачышчальнаю просьбай: "Няпраўда! Не верце, людзі добрыя, бо каля вас – фарысеі, крывадушнікі, грэшнікі! Няўжо вы не чуеце, як ад іх патыхае серкаю і паленай шчэцию, няўжо вам дагэтуль не спала палуда з вачэй і вы так жа пакорна аддаяцеся ў палон іхнім словам, паўпоглядам спадылба, іхняй фальшывай жалобе па ўбіеннаму імю, якое ім так дапякала, аж давялося труну заказваць..."

Але душа твая, ужо душа Прытулы, нямее і маўчыць; ты апускаеш вочы, каб не бачыць: стаіць бледная як смерць жонка, да яе ціснуцца з абодвух бакоў па сыне, і што ім адпаліраванае века пад жывымі кветкамі, што словы стылю высокага, што тая арыстакратычная мелодыя, легалізаваная ўжо і для народа. Ад сёння ў іх няма мужа і бацькі. Ды найстрашнейшае – яны ніколі не знацьмуць праўды, яны хадзіцьмуць на магілу, з якой спрытныя далакопы, якія без ніякіх эмоцыяў (прафесійная звычка!) аўтаматычназавучана адпрацуюць сёння свой кавалак шынкі і сваю гарэлку, яшчэ да надыходу ночы пакрадуць і прададуць раскошныя вянкі, толькі стужкі з пяшчотнымі надпісамі пазрываюць, – твае родныя і самыя любыя людзі бессалвесна гаварыцьмуць туды, углыб магілы, свята верачы, што ў думках вы гэтак вось размаўляеце, што ты іх там чуеш і ў адказ падаеш якісьці зразумелы толькі вам адным знак; насамрэч гаварыцьмуць яны невядома да каго, і гэта будзе не іхні самападман – гэта найсапраўднейшы падман, зачыншчыкам якога ёсць ты, цяпер ужо Прытула.

Халодны дзень пасля выстуджанай неміласэрным сіверам ночы ква-

піць, падганяе распарадчыкаў жалобнага дзейства; гэтая частка спектаклю імкліва набліжаецца да антракта, месца наступнай дзеі – могілкі. Пададзены аўтобусы, аўто, іхнія кіроўцы па чыёйсьці там камандзе агучваюць хрыплымі сігналамі развітання цесны квадрат двара, які абступілі высотныя будынкі, праз хвіліны транспарт запакоўваецца людзьмі, вянкамі, труною, аркестрам, і вось ужо толькі кветкі, рэдзенька параскіданыя на маленькай пляцоўцы каля пад'езду, самотна і пакінута слухаюць густую зімовую цішу, назіраюць бязлюддзе. Ты вачыма знаходзіш на шостым паверсе знаёмыя вокны, шчыльна запнутыя знутры знаёмымі шторамі. Недзе там стаіць твой партрэт, наўскос аперазаны стужкаю чорнай паперы, і гарыць свечка. Ты ўяўляеш, як яна гарыць, і чамусьці табе пачынае здавацца, нібы яна там, у кватэры на шостым паверсе, сагнулася, аплавіўшыся з аднаго боку, вось яна ўжо перахілілася і ўпала, ад яе заняўся абрус на стале, ад абруса – сам стол, і рамка вялікага, зробленага па замове жонкі люстра на сцяне, накрытага ў гэтыя дні жалобы цёмным покрывам, вось агонь перакідваецца на мэблю, вопратку, цюль і шторы на вокнах, усё яно там дыміць, трашчыць, палае, гулка лопаецца шкло на тваім партрэце, за ім растрэскваецца на калючыя кавалкі люстра пад покрывам, не вытрымлівае агнявой віхуры акварыум, у якім ужо плавалі дагары амаль звараныя ў кіпені залацістачырвоныя мечаносцы, паласатыя суматранскія барбусы, флегматычныя вэлюмахвосты, яскравыя неончыкі, фанабэрыстыя скалярыі, плямістыя дыяментавыя цыхлазомы... Табе чамусьці асабліва шкада цыхлазомаў: у нас іх практычна немажліва купіць, але як толькі дзеці вычыталі такую назву ў кніжцы і пабачылі новых для іх і прыгожых рыбак, ты прывёз некалькі цыхлазом з замежнай паездкі... А агонь ужо падступіў да кніжак – гарыць твая бібліятэка, збіраная па томіку, па зборнічку яшчэ з куцых студэнцкіх стыпендый (на зімовыя і летнія канікулы ты адвозіў дадому ў сяло чамаданы купленай літаратуры, мама пляскала ў далоні і, нічога не мовячы, уяўляла, як ты там саджаў “на дыету” страўнік праз тыя кніжкі); абвуглююцца вокладкі, у дым ператвараюцца думкі вялікіх мудрацоў і метафары геніяльных паэтаў, недзе там і колькі тваіх манаграфій, ды артыкулы ў перыёдыцы, ды лісты да каханай дзяўчыны – будучай маці тваіх дзяцей – з батурынскіх лясоў, дзе вы, пяцікурснікі-юрысты, адбывалі лагерны збор пад нядрэмным вокам афіцэраў з кафедры вайсковай падрыхтоўкі. Усё пажарэ, нічога не памілуе стыхія непадкантрольнага агню, і з суседзяў ніхто не пакліча доблесных пажарнікаў, бо суседзі едуць у гэты момант на могілкі, сунімаючы слязу па табе ўбіенным...

Ты здрыгаешся, стрэсваючы з сябе насланні-прывіды, прыслухоўваешся, як сэрца паволі выблытваецца з пасткі надрыўнай калатнечы, вяртаецца да свайго звычнага рытму; табе трэба адысці ўвагай ад уяўнага пажару, які бушаваў у тваіх скронях гарачымі ўдарамі крыві, ты шукаеш, за што можна зачапіцца вокам, азіраеш салон “Мерсэдэса” – позіркам натрапляеш на ламінаваную картку правоў кіроўцы. Яна выклікае ў памяці маленькую прыгоду сённяшняга ранку, што адбылася пры пад'ездзе да горада. Марына, як заўсёды, вяла аўто з адкрытым парушэннем хуткаснага рэжыму, і малады, але ўжо прыкметна адкормлены інспектар (як ён адрэкамендаваўся – старшы сяржант Майбожанка!) не мінуў нагоды паразмаўляць з чароўнай дамаю за рулём. Зрэшты, дама адбілася дзясяткаю “капусты” і пасля вычарпанага інцыдэнту дэманстратыўна стукнула дзверцамі перад носам старшага сяржанта, бо на гэты раз яе прыгажосці і ўсіх звабных прынад выявілася замала для вуснага папярэджання з боку руплівага ахоўніка

правілаў дарожнага руху, а вось канвертаваную валюту Майбожанка ахвотна прыраўняў да такога папярэджання ці адымання вадзіцельскага пасведчання, якое Марына, сядаючы ў аўто, незадаволеная дыялогам не на сваю карысць, са злосці кінула на сядзенне побач з табою. Дый, пранятая ўжо іншымі клопатамі, адразу на тое пасведчанне забыла. Адтуль і ўзяў ты яго, заціснуўшы двума пальцамі – вялікім і сярэднім – за супрацьлеглыя рэбры-краі. Паднёс картку да вачэй і прачытаў: Сысоева Надзея Яўгенаўна. А з каляровага фотаздымка глядзіць на цябе ... Марына.

Коратка і гулка яўкнула сігналізацыя, пстрыкнула прылада аўтаматычнага разблакавання дзвярэй, і ты, заспеты на шкодзе, па-зладзейску хутка кідаеш картку на месца, дзе яна ляжала дагэтуль. Марына (Марына?!) умомант сядае за руль, і вы рушыце даганяць працэсію. Ты на куцы міг азіраешся – іншамарка, што стаяла ўвесь час побач з “Мерсэдэсам”, таксама рушыць, але не за вамі; мяркуючы па напрамку, што выбрала Марына, лавіруючы на вуліцах між плынямі транспарту, хавацьмуць цябе на галоўных могілках – улада пайшла насустрач апазіцыі, выдзеліла ўчастак хоць далёка і не на цэнтральнай алеі, аднак у даволі прэстыжным месцы, недалёка ад магілаў вязняў сумлення, якія вярнуліся на бацькаўшчыну з мардоўскіх лагераў нацыянальнымі героямі, праўда, у трунах. Табе міжволі згадалася даўняе, вечнае, мудрае: “Найлепшы вораг – мёртвы вораг”.

На могілках табе не дазволена і блізка быць каля магілы, ды ты гэтага і сам не хочаш, і адзінае, чым ты пацікавішся, калі Марына, яшчэ раз цябе пакінуўшы ў машыне, вярнулася, каб ехаць ужо дамоў, у лясны твой палон, – гэта нумар магільнага квартала-ўчастка. Марына яго назвала, аднак ты так і не вырашыў для сябе, праўду яна сказала, ці адказала наўздагад; а мо й свядома зманіла.

## V

Калі ты занёс яе ў спальню, вы адарваліся адно ад аднаго вуснамі і рукамі не хутка, дый то выключна праз тое, што ты меў вызваліць Марыну з вячэрняй сукенкі, у другі раз апранутай знарок для цябе. Ты не ўтрымаўся ад запытання, якое свідравала табе мозг яшчэ там, у гасцёўні, дзе ты сядзеў у паліто і напружана трываў час Марынінага пераапранання і дзе на цябе выйшаў Рэм:

– У цябе зноў дзень нараджэння?

– Гэта ў цябе сёння дзень нараджэння, – усміхнулася Марына.

Змест свайго адказу яна расшыфравала пазней, пасля таго, як сцішылася шаленства першых любошчаў; у тым шаленстве ты зведаў нешта новае, апрача вядомага дагэтуль фізічнага задавальнення ад блізкасці з жанчынай. Табе здалося, што Марына не проста ўмела, без ніякіх комплексаў і адначасова самааддана песціла цябе, не толькі ўразіла цябе незямною прыгажосцю, без ілжывага сораму адкрытай табе ў ззянні некалькіх трывалых араматызаваных свечак, – здалося, што гэтая жанчына спавівае цябе нейкаю магутнаю, дзевяцібальнаю эмацыйнаю хваляй, і ты сябе не кантралюеш, як гэта бывала ў цябе дагэтуль падчас любошчаў (ты прыслухаешся да каханай, улоўліваеш яе гатоўнасць да мацнейшых пестаў, наладжваешся на яе рытм або пабуджаеш яе наладзіцца на свой, стрымліваеш сябе і аддальваеш у часе момант найвышэйшай асалоды, каб даць і ёй магчымасць дайсці да такога ж піку); ты проста расчыняешся ў неймавернай, даведзенай да вышэйшай асалоды пажадлівасці, самаза-

быўна паглыбляешся ў новы, не спазнаны дагэтуль свет жаночых чараў, магіі маладога, дужага і пяшчотнага адначасна, нерастрачанага цела, ты не міргаючы глядзіш на яе ўсю, і ў вочы табе паволі, але імклíва і магутна прабіваецца заварожлівае свячэнне.

У думках вяртаючыся да яго, калі вы ўжо надкусілі грэшна-мядовы яблык і адчулі яго першы смак, калі вы ляжыце поруч – разамлелыя, аднак яшчы поўныя сілаў, жадання, прадчування далейшай асалоды адно адным, ты ловіш сябе на тым, што такое ж свячэнне бачыцца чалавеку ў стане клінічнай смерці, падчас торгання яго душы між целам і прастораю па-за ім; прынамсі, аб гэтым сведчаць тыя, хто апынаўся на мяжы зямнога быцця ды "свету лепшага" і каму даравана было вярнуцца з тае мяжы ў гэты свет.

Параўнанне шакуе цябе, ты млееш думкай, аднак і гэты стан афекту мінае хутка, няўмольна саступіўшы месца запытанню, якога ты ўжо не можаш пазбыцца і якое прашапталі твае на якісьці міг не занятыя вусны:

– Што гэта за мой дзень нараджэння?

Марына памаўчала. Выдыхнула:

– Цябе сёння пасля мітынгу меліся забіць.

– Хто?

– Калі б знаць... Але інфармацыя дакладная.

Як яна можа так гаварыць?! – бунтуешся ты ў сабе. – Як яна можа ў такія хвіліны прамаўляць такія казённыя словы? – "інфармацыя дакладная..." Аднак твой бунт так і застаецца ў табе, не выплюхнуты навонку рэзкім парывам ці голасам; замест гэтага Марыне зноў дастаецца твая рука, твае разамлелыя да немагчымай пяшчоты пальцы, зноў нецярплівыя і настойлівыя; у адказ Марына дазваляе сваім рукам і вуснам рабіць усё, і ты ўжо папракаеш сябе за такое лішняе ў гэты час, пустое і неразумнае пытанне, але і папрок гэты з прысмакам самаганьбы праз імгненне выветрываецца з тваёй свядомасці, маланкава выцеснены не зведваным раней раяваннем ужо й не плоці, а ўсяго таго, што бадай на крыху мае права называцца табой, хоць і назвы яму няма...

Мінецца гэтая ноч, Марына ранічкай, загадаўшы табе і Рэму сябраваць узаемна, паедзе ў горад, і ты мецьмеш досыць часу абмеркаваць тое, што адбылося. Найперш табе здасца ненатуральнай сама магчымасць мець вольны час; такой раскошы ты не зведваў гады і гады. Ты намагацьмешся асэнсаваць падзеі апошніх дзясятка з лішнім гадзінаў – ад учарашняга мітынгу да толькі што запрапанаванага табе сябравання з вадалазам Рэмам – і ў цябе нічога не выйдзе. Бо тое, што здарылася, не ўкладваецца ні ў якую логіку. Нейкая найвялікшая ў свеце бязглуздзіца, недарэчнасць, такога ўвогуле з табою не можа быць ні пры якіх абставінах, і здаровы розум не ў змозе нарадзіць ну ніякага паяснення.

Чаму ты тут, навошта ты тут, як ты мог паддацца на такую грубую, такую прымітыўна-танную прынаду ў абгортцы Марынінага намёку на нейкую там пагрозу тваіму жыццю? Хіба ж тая пагроза ўзнікла толькі ўчора? Ды яна ходзіць за табою крадком невядома з якога часу, ты ўсведамляў яе розумам і адчуваў сёмым, дзясятым ці яшчэ якімсьці па ліку чуццём, а найвыразней пабачыў яе не ўчора на плошчы – пабачыў і адчуў амаль на дотык тады, калі ў халодную слоту вяртаўся з бацькоўскага краю, дзе ў абласным цэнтры быў учынены пагром вашай штаб-кватэры. Вось тады небяспека біла цябе ў вочы, у мозг, у кожную клетачку цела тымі парасстаўлянымі дагары коламі аўтамабілямі абапал трасы, каля

якіх і людзей не было, і ніводнай ахвяры ты не ўбачыў, і нічога не здаралася ў тваёй прысутнасці, а ўсё было спланавана і прыгатавана загадзя. Табе, Сцяпане Казачышын, у той дажджлівы дзень з усёй адкрытасцю і цынічнай прасталінейнасцю давалі ўсвядоміць, якім можа быць твой жыццёвы фінал.

Гэта ж ты першым сярод аднадумцаў вылавіў на інтэрнэтаўскім сайце інфармацыю з нейкай штатаўскай газеты, што ў тваёй краіне кілерскай зброяй нумар адзін з’яўляецца не снайперская вінтоўка, не атрута і не выбуховая прылада, а грузавы аўтамабіль з прычэпам. Ведаючы гэта, ты ўсё адно сядаў штодзень у свой службовы, бывалы ў пераплётах “Форд” і думаў у першую чаргу не аб рэальнай пагрозе быць збітым нейкім “КрАЗам”, у якога раптам адмовілі тармазы і сістэма кіравання адначасна, а аб тым, дзе цябе сёння чакаюць людзі і справа. Дык як жа ты мог клюнуць на мякіш, кінуты табе ўчора Марынай? А можа, і не ўчора; можа, яшчэ тады яна закідала вуду з нажыўкаю, калі прыходзіла да цябе ў кабінет, распускаючы ва ўсе бакі непаўторны і непараўнальны водар парфумаў, выпраменьваючы магнетычную і магічную аўру, прызначаную адзіна табе. Дык як жа яно так здарылася?..

Не знайшоўшы ніякага тлумачэння свайму бязглуздаму становішчу, нават найменшай зачэпкі за нешта лагічнае і матываванае, ты адчуў страх. Страх перад суцэльнаю невядомасцю, нявызначанасцю, абсалютным бяссіллем даць рады сабе ўласнымі сіламі. Ад цябе тут нічога не залежала. І гэта ад цябе, ад цябе! – лідэра ўсенароднага маштабу, чалавека жалезнай волі, з якім і найлюцейшыя недругі прызнавалі за лепшае лічыцца, чым станавіцца ў рожкі; чалавека, чые словы адгукаліся рэхам у душах сотняў тысячаў суайчыннікаў, гуртавала іх і рабіла гатовымі ісці на барыкады. Дык у імя якой ідэі ты зараз тут, Сцяпане? За кім ты пайшоў, куды цябе прывялі і павядуць далей?..

Страх твой вырас удвая, утрая, удзясяцера, як толькі ты агледзеўся ў новай для сябе прасторы – у вялізных пакоях вялізнага будынка, тваёй, як ты ўжо здагадаўся, ненавязлівай турмы, дзе за табою вонкава ленавата-меланхалічна, а насамрэч нядрэмна і надзейна пільнуе сабака з пароды вадалазаў. Ты чагосьці падумаў, што, кажуць, на сабак не дзейнічае газ з балончыка ці з газавага пісталета. І яшчэ падумаў: усталяваўся стэрэатып, нібыта асабліва жорсткаю караю для вязня ёсць яго працяглае знаходжанне ў цеснай камеры без адзінай іншай жывой душы. Нібыта працяглая адзінота сярод чатырох голых сценаў камеры, адлегласць між якімі можна вымераць разведзенымі ў бакі рукамі выклікае псіхічны разлад. Хто ведае! Не ведаеш дакладна і ты. Але хто скажа, што цяперашняе тваё зняволенне ў вялізным будынку з безліччу пакояў, дзвярэй, вокнаў, калідораў і калідорчыкаў, кладовак і ўманціраваных шафаў, з дарагою мэбліроўкай і падкрэслена вытанчаным інтэр’ерам – гэта меншае выпрабаванне псіхікі, чым камера для адзіночніка? Вось гэта распасцёртая квадратура і кубатура асабняка, габарытнага ўдоўж і ўшыркі і праз тое, нягледзячы на два свае паверхі, аж прысадзістага, гэты фетыш унутранага начыння, гэтыя дарагія “трыбухі”, дзе кожная рэч – самадастатковая ва ўласнай выключнасці, падкрэсленасці і (што цябе найболей злуе і прыгнятае) амаль ідэальнай карыснасці; гэтая адгароджанасць ад усяго свету не так ужо й высокім мурам, як невядомасцю пра адлегласць да першага найбліжэйшага чалавечага жытла; гэтая твая дробнасць перад груvasткаю спарудай і ў яе вялізным нутры; гэтая змярцвелая ціша зімовага лесу, у якім толькі й гукаў, што

хрусне на марозе галінка, ці крыкне спалоханая чымсьці птушка; гэтае тваё выпаданне з тлуму-гаму-кругавароту, выключэнне з людскога віру, адарванне ад пастаяннай унутранай напругі пад знакам агульнага “трэба” – хіба ўсё гэта не можа не ціснуць на тваю псіхіку, разладзіць здольнасць мысліць лагічна і халодна-адхілена, зрэшты, не раструшчваць тваё “я”, якое з гэтага часу ўжо і з малой літары пісаць азначае звяртацца да надта смелай гіпербалы?

Рэм хадзіў за табою “хвосцікам” (якім там “хвосцікам”? – сапраўдным “хвастом”, зважаючы на яго вадалазавыя памеры): куды ты – туды і ён, і гэта таксама дадавала табе дыскамфорту, ты раздвойваўся ў ацэнцы вадалазавых паводзінаў: ці гэта ён выяўляе безумоўную прыхільнасць да цябе, ці выконвае, быццам ідэальна паслухмяны салдат, даручэнне гаспадыні не адпускаць цябе ні на крок адлегласці і ні на міг часу.

Тады, у тыя гадзіны, калі ты лічыў, нібы застаешся ў адзіноце, хоць насамрэч было вас тут двое, ты правальваўся ў бездань адчаю і разгубленасці, падаў у прорву пякучай злосці ад уласнага бяссілля змяніць бадай што-небудзь, даць цячэнню часу новую кропку адліку, якая пачыналася б, як і пасля нараджэння Ісуса, з твайго імя і звалася б, прынамсі для цябе самога, тваёй эраю. То былі гадзіны самакатавання, самазнявагі, амаль самазнішчэння. Але вечарам вярталася Марына, прывозіла свежыя газеты і часопісы, стравы і напоі, прывозіла зрэшты сябе і паводзіла сябе так, нібы ў тваім існаванні не адбылося анінайменшай змены, нібы вы тут жывяце адвечна, так гэта заўсёды было і не можа быць неяк інакш. Марыніна запраграмаванасць на такі status quo цябе абеззбройвала і адначасова лячыла ад дзённых сеансаў шокавай псіхатэрапіі, што ты сам сабе ўчыняў. Вы вячэралі ўтраіх (Рэм не за сталом, зразумела, але з вамі безумоўна), аўтаматычна прамаўлялі адно аднаму нейкія элементарныя словы, фразы, Марына ўмела дырыжыравала вячэраю, назіраючы, каб твой келіх не быў парожні і доўга не застойваўся поўным, а ночы вашыя пачыналіся неадменнымі любошчамі, і вы заплывалі ў іх далёка за яе, ночы, сярэдзіну.

З часам ты здолеў растлумачыць сваю залежнасць ад Марыны. Яна бясспрэчна зналася з магіяй (о, калі б ужо тады кінулася табе ў вочы абгарэлая запалка ў Марыніным чайным кубку!). А іначай – адкуль жа ў вас абодвух столькі энергіі, нястомнасці, колькігадзіннай жагі, непагаснага жадання зноў і зноў атрымліваць і дарыць узаемнае задавальненне ад такой шчырай блізкасці, калі між вамі няма слова “не”. Дый не толькі гэта. А яе псіхічная вышэйшасць над табою, відавочная і такая, што не падлягае абмеркаванню, у час між вашымі любошчамі? Ты адчуваеш уласную прыгнечанасць, поўны параліч волі і здольнасці супрацьпаставіць хоць нешта Марыніным капрызам, яе ўяўленню пра тое, што ты маеш рабіць зараз, заўтра, праз дзесяць дзён, і ты выконваеш загаданае табе на ўсе сто адсоткаў, выконваеш без наракання і не выяўляючы волі да найбязвіннага бунту. Ты – нішто перад Марынінай магічнаю сілай. Яна – твой абсалютны манарх.

Ты канчаткова пераканаўся ў гэтым, калі, выгульваючы Рэма (ці, можа, то Рэм вывеў цябе, нібы вязня з камеры – падыхаць свежым паветрам), блукаў у лясных нетрах, расчэрчаных на строгія квадраты, невядома кім дагляданых, утрымліваных амаль у ідэальным парадку. Тады, нясквапна крочачы прачышчанаю ад снегу прасекаю, ты спатыкнуўся аб спогад пра сям’ю. На белым экране зімы праступалі аблічча жонкі, сыноў. Чаму

цябе ніколі не праведвае згадка пра іх? Чаму яны ніколі не прыходзяць у твой сон? Чым патлумачыць такую тваю "забыўлівасць"? Наогул – як ты можаш увесь час жыць без іхняй штодзённай прысутнасці, блізкасці і нават без успаміну пра іх? А жывеш жа! І не праведваеш іх згадкай. І ў снах не сустракаешся з імі. І не пераймаешся – як жа яны там без цябе? Ты ж быў слупом сям'і, значыць, цяпер яны – сіраты, абсела іх чорная бяда, сэрцы іх абвуглены ад тугі па табе і ад уласнай неабароненасці перад неміласэрным светам. Дык ты забыўся пра іх – ці хтосьці ўладным і жорсткім жэстам выцер з тваёй памяці іхнія імёны, твары, словы, іхнюю любоў да цябе і тваю да іх? Марына!.. Ты, Прытула, – зомбі, выкланаваная ёй істота, самец без памяці, сэрца, душы, запраграмаваны на задавальненне фізічных патрэбаў.

Ты непарушна стаяў на лясной прасецы, куды, пэўна, не дасягала сілавое поле Марынінай магіі, прышпілены ад цемя да абцасаў праблiскам згадкі пра сям'ю; ты шукаў апраўдання ці бадай тлумачэння сваёй першай і найвялікшай у жыцці здрады, і ты знайшоў. Табе здаўся пераканаўчым толькі што здабыты з палаючых роздумаў аргумент. Не, з Марынаю ты не здрадзіў жонцы і дзецям; пры чым тут Марына ўвогуле? Гэта здарылася намнога раней, і мянушка табе не здрада, а занядбанае, выцесненае ідэолагамі двухмоўнасці ўкраінскае слова "офіра" (ахвяра). Хіба ж ты свядома не зрабіў сваіх родных і найлюбімейшых людзей закладнікамі тваіх палітычных амбіцый, твайго валюнтарысцкага выбару на карысць вашай справы, – выбару, які нават гіпатэтычна не мог быць прадметам абмеркавання на сямейнай радзе? – бо так вырашыў ты. Тады табе пра нейкае нават падабенства здрады і йсці не магло: свяцілі высокія ідэалы, у вір палітыкі ты кідаўся не дзеля ўласнай выгады, а адзіна з думкаю пра будучыню народа і краіны, ты ж і сам сябе ахвяраваў "для агульнага дабра". Ды не прыходзіла табе тады на думку адзінае: мусіш выбіраць між сям'ёй і палітыкай. Выбраўшы палітыку, ты здрадзіў сям'і.

Шукаючы дашок самазаспакаення, ты цешыўся тым, што вылучыў жонцы і дзецям утульнае месца ў засені свайго аўтарытэтнага і аўтарытарнага "я", чамусьці ўпэўнена лічачы, быццам на тым месцы ім зручна і камфортна, бо каля такой постаці, як ты, па-іншаму і адчуваць сябе нікому не дадзена. Тваё стаўленне да сям'і здавалася табе ці не верхам высакароднасці; насамрэч паставіў ты тады нагу на першую прыступку здрады. Жонка і дзеці перасталі быць эпіцэнтрам твайго быцця. Ты, нібы закончаны ўласнік, эксплуатаваў іхнюю непрытворную любоў да цябе, іхнюю чыстасардэчную стараннасць прыслужваць табе, высакароднаму слузе вялікай ідэі. Але ўжо тады нейкі неафішаваны аўтар узяўся пісаць з цябе найноўшую драму. І калі яна пачала інсцэніравацца, табе дасталіся ўжо і не словы – дасталіся аўтарскія рэмаркі да тваёй марыянеткавай нямой ролі. І твая здрада з Марынай стала апошнім штрыхом у вялікім коле падзеяў, пра існаванне якога ты і не здагадваўся і якое ўрэшце замкнулася ў цябе на шыі надзейна-неразрыўным арканам – уласне, пятлёю.

Ты памятаеш тое свячэнне пасля найпершага шаленства любошчаў з Марынаю? Што табе ўбачалася тады ў яго асляпляльнасці? Прыгадай, прыгадай!.. Вузкі доўгі тунель, недзе там спераду мае быць выхад (але куды?), ды ты яго не бачыш, аслеплены змярцвелым бела-сівым ззяннем, мігцяць цені ад кагосьці ці ад чагосьці нераспазнавальнага, табе здаецца, што ты стаіш у тунелі нерухома, а душа твая ўжо недзе там, каля нябачнага выхаду, яна вернецца да цябе, як толькі свячэнне згасне, і ты цяпер

думай-гадай, муч сваю найгалоўнейшую, найстрашнейшую і найбалючэйшую думку: ці надоўга?

## VI

Табе сніцца: ты прачынаешся ў сваёй кватэры, поруч, намагаючыся і ў сне дыхаць амаль нячутна, спіць жонка, цалкам аддаўшыся гадзінам начнога адпачынку, бо іншага часу, каб адпачыць, яна за штодзённым няспынным “няма калі” не мае, і на яе расслабленым твары ты прачытваеш агульны настрой таго, што ёй у гэтую хвіліну сніцца. На тумбачцы каля твайго ўзгалоўя стаяць півоні, сарваныя ў раскрыванні іхняе красы і сілы; жонка адзіны раз насмелілася на крамолу – прыбрала з тваёй тумбачкі стос кніжак, нататнік з закладзеным пасярэдзіне алоўкам, газеты і паставіла ў крыштальнай масіўнай вазе чырвоныя і белыя півоні. Гэта кветкі вашага кахання, вашага шлюбу, якія яна выбрала сярод традыцыйных руж, калаў, хрызантэм, вы з імі йшлі пад вянец (вашае вянчанне сапраўды было таінствам – таямніцай ад ахоўнікаў ідэалагічнай цноты, дбайных прыслужнікаў Сістэмы, гатовых “прасігналіць” пра самую нязначную крамолу, учыненую бліжнім); ты прыносіў півоні жонцы ў радзільню раз і яшчэ, пасля нараджэння першага і другога сыноў, гэтая кветка стала абавязковым атрыбутам вашых сямейных урачыстасцяў, а з таго часу як з’явілася песня са шчымлівым прыспевам “аблятае півоня меладыйна, бы вальс”, яна стала вашай улюбёнай.

Ты вяртаешся поглядам ад кветак на тумбачцы да аблічча жонкі, табе хочацца нячутным пацалункам прытушыць яе растрывожанасць чымсьці ўва сне, ты апіраешся на локаць – і прачынаешся...

Над табой – шэры прастакутнік столі з казённым плафонам над лямпачкаю, поруч з тваім казённым ложкам на казённай тумбачцы – пластыкавая пляшка мінеральнай “Міргарадскай”, ты вызваляеш руку з-пад казённай коўдры і бачыш рукаў казённай паласатай піжамы. Ты ляжыш у клінічнай палаце; табе зрабілі пластычную аперацыю, пасля якой (аб гэтым ты даведаешся пазней) ты праляжаў пад наркозам сем начэй і сем дзён. Гэтая апошняя ноч была першай, калі цябе ўжо не калолі, даўшы табе “адысці” ад дзеяння моцных прэпаратаў. Твар амаль не баліць, і спалася табе гэтай ноччу, як кажуць цяпер усе чыста, ад малога з ясельнай групы да лядашчага акадэміка, “нармальна”, бачыш, нават сон раскошны прысніўся, але той твар не твой. Быццам, маску табе наклалі і забылі зняць, і яна муліць, пастаянна нагадвае пра ўласную непатрэбнасць, прымушае кранацца да яе кончыкамі пальцаў, якія адчуваюць скуру на твары, ды ўжо не знаходзяць у ёй крэўнай радні.

Марына тонка адчула першыя подыхі перамены ў табе. Чым ты іх выдаў – вызначыць немагчыма: прынамсі табе здавалася, што вонкава ўсё засталося нязменным, замацаваным, “наезджаным”, і паводзіны твае падобныя былі на роўненькую прастору на месцы высахлага салянога возера. Дый для цябе самога яшчэ зусім ніяк не сфармаваўся ў нешта канкрэтнае і выразна акрэсленае тваё ўнутранае супраціўленне новаму твайму status quo, твой бунт у глыбока эмбрыянальным стане – дык якія знакі маглі з’явіцца на паверхні вашых з Марынай адносінаў? А яна нешта адчула. Які дух ці злы твой геній нашаптаў ёй словы падазрэння? Тут не абысціся без фантасмагарычнай здагадкі, што Марыне на цябе даносіць Рэм. Ён – адзіны сведка твайго стану нерухомасці на лясной прасецы,

калі ты спатыкнуўся аб здагадку пра Марынінае пасвячэнне ў сакрэты магіі: белай, чорнай, яшчэ якой хочаце. А ты лічыў дагэтуль, быццам бы з Рэмам паразумеліся і завялі шчырае сяброўства. Між іншым, як бы там ні было, рэальным фактам пакуль што застаецца тое, што Марына здагадалася пра тваё магчымае супраціўленне яе ўладзе над табой і яе аднаасобнай волі.

І яна ўрэшце завяла гаворку.

– Колькі табе так вось сядзець анахарэтам?

“О! – падумаў ты. – Якое слоўка ведае!”

– На ўсё ласка Гасподняя, – унікліва адказаў ты і выдаў сябе гэтай фразай, якая падштурхнула Марыну да размовы без хітрыкаў.

– Ты тут памрэш без людзей і свету. Хіба ж дзеля гэтага я ратавала цябе ад небяспекі...

“Вунь як!” – у думках здзівіўся ты, бо і Марына двума сказамі выдала сябе, а калі так, то і ты атрымаў права гаварыць без эўфемізмаў:

– І што ты ў такім разе прапануеш?

– Аперацыю.

– Яшчэ адно пахаванне Сцяпана Казачышына?

– Называй гэта як хочаш, Прытула. Я толькі прапаную адзін з варыянтаў твайго вяртання ў грамадства.

– Кім? Суайчыннікам, які вярнуўся на родную зямлю пасля пакутаў па краінах і кантынентах? Бамжом без пашпарта і прапіскі? Місіянерам ад заакіянскага цэнтра адвентыстаў сёмага дня? Кім, Марына?

– Гэта пытанне трэцяе. Яно вырашаецца элементарна. Патрэбна толькі твая згода на пластычную аперацыю.

– Што ж, можаш лічыць, што маеш такую згоду. Толькі пакажы, на каго прыблізна я буду падобны.

– Ні на кога. Але ты мецьмеш магчымасць бываць на людзях і не прыцягваць да сябе іх падазронай увагі. Не абавязкова ж табе на ўсякіх зборах называць сябе!

Вось такі адбыўся дыялог – адзін з нямногіх між вамі, з неадменнай прысутнасцю Рэма, твайго вартаўніка, ахоўніка і выведніка твайго настрою ў гадзіны шпацыраў заснежаным лесам, тваёй ілюзорнай адзіноты. Вы з Марынай увогуле судакранаецеся пераважна ў ложку, але за вамі і тады назіраюць прымружаныя, прытворна сонныя Рэмавы вочы; у іншай сітуацыі (за вячэрай, пераглядам тэлеперадач, чытаннем свежай перыёдыкі) сувязнымі між табой і Марынаю служаць адрывістыя фразы ні аб чым, банальныя слоўныя кладкі-мосцікі, узаемны абмен “інфармацыяй” на ўзроўні першай сігнальнай сістэмы. Ты ніколі не пытаўся ў яе пра вашыя справы, дый навошта пытацца, калі яны перасталі быць тваімі, і Марына ніколі ніводным намёкам не прарвалася, чым жыве (і ці жыве яшчэ?) апазіцыя, хто заняў тваё месца ў ёй, ці яшчэ хто сярод вашай грамады згадвае Сцяпана Казачышына бадай выпадковай рэплікай. Што ж, такая людская прырода: жывым думаць пра жывое, а для памяці пра памерлых існуе ўсенародны памінальны дзень, адзін дзень у годзе, ды яшчэ ў кожнай мёртвай душы – дата, калі яна пакінула супакоенае цела, але ў гэтым выпадку ўсё залежыць ад нябожчыкавай радні: ці яна пільна шануе гэтую дату, ці, як бывае нярэдка, праз год-другі ўжо і магілу знаходзіць не з першага разу.

Аперацыю зрабілі праз тыдзень пасля вашага з Марынаю нязвычна багатага на словы і ўзаемную адкрытасць дыялогу. Цябе прывезлі сюды

цёмначы, у чорным джыпе з зацемненымі шыбамі, правялі да аперацыйнай праз “чорны” ход, і ў гэтым інтэнсіўным дзействе белымі былі хіба што халаты на хірургу ды яго асістэнтах. Ты лёг на аперацыйны стол, і далей зноў была цемра-чарната працягласцю ў сем сутак, і вось ты абудзіўся з яе, нібы выйшаў з начнога ляснога беспрасвецця на асветленую месяцам паляну. Галава твая цяжкая і нейкая тупая, ты паварочваеш ёю з боку ў бок, а здаецца – галава не рухаецца, замест яе ўсё цела, усё тулава з прымацаванымі да яго чужымі рукамі і нагамі паварочваецца ўздоўж хрыбта, нібы вакол восі, разам з чужым казённым ложкам. І праз гэта баліць табе не цела, а толькі галава. Але ты ўжо ўсведамляеш, што, змушаны прызвычайвацца да свайго новага становішча, павінен нешта рабіць у межах неабходнага і дазволенага. Для пачатку даследуеш поглядам палату; яна абстаўлена для аднаго пацыента. Насамрэч, дзе там абстаўлена: ложак, тумбачка, стандартная металічная вешалка з “рожкамі” вакол нікеляванага стаяка, дыванок на падлозе, на сцяне ў галавах – свяцільнік-бра. Нават шафы няма (дзе тваё адзенне, у якім цябе сюды прывезлі?). Тэлефона і тэлевізара таксама. Справа ад узгалоўя – кнопка выкліку медперсаналу, якая, відаць, не дзейнічае, бо заседжаная мухамі яшчэ ад лета, і добра, што мух цяпер, зімою, няма.

Ты ўстаеш з ложка, холадна азіраеш паласатую піжаму на сабе (чым не арыштант!), не можаш не адзначыць, што ўпершыню ў жыцці ўбраўся ў бальнічнае барахло, бо не даводзілася дагэтуль зведаць такой раскошы, як вылежвацца ў палатах пад наглядам урачоў, і йдзеш цераз палату, шукаючы калі не ваннай, дык хоць умывальніка.

Так, тут ёсць ванны пакой, ты ў яго ўваходзіш, і ў шырокім люстры над ракавінаю бачыш, што і спадзяваўся пабачыць і дзеля чаго, уласна, шукаў гэтае люстра. На цябе тваімі вачыма вяла глядзіць незнаёмы мужчына, у якім і за найбольшую ўзнагароду наўрад ці хто пазнаў бы Сцяпана Казачышына. Ты глядзіш, таму што мусіш прывыкаць да такога сябе цяперашняга, і раптам заходзішся гамерычным выбуховым рогатам; ці помніш, калі ў апошні раз смяяўся так самазабыццёва. Ды не праходзіць і хвіліны, як за спінай у цябе, у праёме дзвярэй (люстра сапраўды шырачэзнае), вынікае постаць чалавека ў белым халаце, з кніжкаю ў руках, вокладка якой выдае яе серыйна прадукаваны ў дужа блізкім замежжы змест, гэта вельмі займальная танная чытаніна ад чарговай Марынінай, ці Дашковай, ці Паляковай для “масавага спажывальніка”, нешта накшталт папулярнага мыла “Duru” ці в’етнамскіх аднаразавых шкарпэтак; “літаратура” такога гатунку мае толькі адно прызначэнне – дапамагчы марнаваць вольны час без гарэлкі ці тэлевізара. Вось і чалавек у белым халаце ззаду цябе якраз гэтым і займаецца, маючы да медыцыны такія ж адносіны, як ты, скажам, да стрыжкі танкарунных авечак на высакагорнай пашы Алтаю.

– З вамі ўсё нармальна? – пытаецца чалавек у белым халаце, калі ты вымушана спыняеш рогат.

– Так, не турбуйцеся. Гэта ў мяне сеанс смехатэрапіі. Хірург раіў болей смяяцца, дзеля гімнастыкі мускулаў твару.

Нічога такога хірург табе не раіў; калі б гэта ты паспеў пагаварыць з кімсьці пасля абуджэння. Чалавек у белым халаце хавае ў кішэню халата кніжку, неабачліва засвечаную ў момант спешнага рэагавання на нештатную сітуацыю, выкліканаю тваім рогатам (малады яшчэ, недасведчаны найміт, выканаўца волі заказчыка-гаспадара, спакушаны салідна сумаю ўзнагароды за пільную службу; гэта з таго пакалення, якое ва ўмовах

суцэльнага хаосу і ўседзяржаўнага пафігізму выбірае далёка не пепсі-колу, як пераконвае рэклама). Заспакоены пабачаным і пачутым з тваіх паноўленых вуснаў, маладзён знікае з квадрата дзвярэй, праз хвілю ён зноў сядзецьме пад акном у канцы калідора і чытацьме сабе далей, краем вока пазіраючы ў бок тваіх дзвярэй, і калі ты выйдзеш з палаты праверыць сваю здагадку адносна яго місіі ў сценах гэтай клінікі, здагадка пацвердзіцца. Чалавек у белым халаце пад калідорным вакном – тое самае, што Рэм у загарадным Марыніным (але ты ўжо пэўна ведаеш: ну ніяк не Марыніным) асабняку.

А зарагатаў ты па іншай прычыне. Ты хвіліну-другую ўглядаўся на сябе такога ў люстры, твой новы твар ніяк не хіліў да смеху, проста тут табе згадаўся эпізод з агульнавядомай гісторыі пра Рабінзона Круза, калі той ачуняў пасля цяжкай хваробы падчас сезона дажджоў, адзін-адзінюткі ў глыбіні незаселенай выспы, і найпершае, што пачуў, былі чалавечыя словы, гавораныя міласэрным папугаем: “Няшчасны Робін! Што з табою? Як ты тут апынуўся?” Хіба ты думаў, чытаючы тую захапляльную казку Даніэля Дэфо для дарослых, што драматычная сітуацыя, у якую патрапіў “няшчасны Робін”, можа выклікаць у “нармальнага” чалавека прыступ рогату? Як бачыш – выклікаў.

Прыходзіў і хірург. Ветлівы такі (а яму колькі “нашаткавана капусты?”), паслужлівы... Вось тут не баліць? Не? А тут вось не турбуе?.. Таксама не? Расцудоўна! А зрабіце спалоханае аблічча... Ну, шырока расплюшчыце вочы і рот раскрыйце, быццам на вас выскачыў з-за куста афрыканскі леў. На скронях скуру не падцягвае? Ну, вы ў мяне герой і маладзец. Я яшчэ толькі ваш нос абследую, дык вы ўжо пацярпіце, ласкавы пане. І не майце сумневу: яшчэ на вас шаснаццаткі заглядацьмуцца!

Праз дзень пасля візіту хірурга, які застаўся табою задаволены, цябе, зноў-такі ноччу і ў тым самым джыпе, перавезлі пад нагляд Рэма. Ты ступіў у гасцёўню, чакаючы ад вадалаза адпаведнага рэагавання на твой новы выгляд. Сабака наблізіўся да цябе на нейкі метр і з гэтай адлегласці адчуў: ты той самы Прытула, новая маска на твары – гэта толькі маска, дух жа твой застаўся нязменны, вядомы Рэму з моманта першай вашай сустрэчы ў гэтай самай гасцёўні.

Яшчэ праз дзень Марына прывезла замежны пашпарт, і на фотаздымку ў ім ты ўжо быў вось такі. Калі яны паспелі зрабіць з цябе здымак?.. Пашпарт выпісаны ўсё на таго ж Прытулу Валерыя Сяргеевіча, такога-та года нараджэння (тут усё супадае), месца нараджэння – Чарнігаўская вобласць (вось гэта святая хлусня!), сяло Дзмітраўка (яго, відаць, і на адміністратыўнай карце няма). Дык падобна на тое, што сцелецца табе дарога дальняя і можаш заказваць “Развітанне славянкі” кампазітара Агапкіна...

Марына, як заўсёды, непахісная: каментаваць з'яўленне замежнага пашпарта яна не збіраецца. Адсюль выплывае лагічнае: што было – бачылі, што будзе – пабачым.

## VII

Рэм злёг раптоўна. Яшчэ звечара не адступіў ад усталяванага сузірання вашых з Марынаю любошчаў, якім на дзіва не выпадала перапынку (за выключэннем сямі начэй, перабытых табой у клініцы, ды ночы перад пахаваннем Казачышына), а раніцой адмовіўся снедаць з вамі. Марына ўпершыню мела разгублены выгляд.

– Давядзецца везці на абследаванне, – зразумелая справа, Марына пакідала гэтую працэдуру за сабой, але ў голасе і поглядзе яе не было звычайнай упэўненасці, выразнасці. Сітуацыя, гаворачы банальна, выходзіла з-пад яе кантролю. Марына замітусілася, і гэта не прайшло міма тваёй увагі. Для цябе ўжо стала відавочным, што гэтая форсмажорная акалічнасць з Рэмам наяву разладжвае заведзены кімсьці механізм дзеяў, даглядальнікам якога прызначана Марына. Але ты не павінен выкрыць сябе, сваё веданне пра ўсё тое, і ты, каб не маўчаць, не раскрыцца радаснай зласлівасцю на масцы-твары, што і Марыніна магія не ўсёмагутная і не пастаянная ў часе, кажаш:

– Трэба на чымсьці перанесці Рэма да машыны.

Удваіх вы ледзь дастаўляеце Рэма да дзверцаў на грубай коўдры, амаль валочачы няшчасную жывёліну. За “Мерсэдэсам” павеялася снежная замець і хутка ўляглася. Ужо не чуць шуму рухавіка. Ціша. Вялізны будынак на вялізнай, абнесенай мурам дзялянцы лесу. І ты тут адзін. Цябе так і кідае на думку, што мусіш тэрмінова нешта зрабіць, бо другой такой нагоды табе не выпадзе. Можаш, прынамсі, выведаць, куды сцелецца тая дарога, якою Марына павезла Рэма.

Ты ўжо ўяўляеш, як ідзеш гэтай дарогай, і табе ўсё карціць перайсці з размеранай хады на бег хоць бы трушком, якраз і настоенае на застаялых маразах паветра спрыяе тваёй больш актыўнай рухавасці, ды вось даволі хутка перад табою разлягаецца ўправа і ўлева шырокая шаша, погляд твой шукае і знаходзіць дарожны ўказальнік са знакам аўтамагістралі М-20: гэта і ёсць прамы шлях на сталіцу.

Вось у далечыні з’яўляецца нешта падобнае на мікрааўтобус, з яго набліжэннем ты пераконваешся, што гэта “Газель”, малагабарытны грузавічок з кабінаю на тры месцы, кіроўца ў кабіне сам-адзін, ён ахвотна прытарможвае на тваю паднятую руку, і калі ты лёгка заскокваеш на прыступку і ўмошчваешся на сядзенні, кіроўца для завязкі бяседы (усё роўна трэба неяк траціць час!) пытаецца: “Як гэта вы ў гэткі мароз апынуліся ў такой глухамані?” І з яго пытання табе стае зразумела, што Марынін будынак добра-такі засакрэчаны, бачыш – нават усяведы-кіроўцы не здагадваюцца пра існаванне якогасьці жылля за колькі кіламетраў ад трасы.

Праз нейкі час ты ўжо арыентуешся, з якога боку вы пад’язджаеце да сталіцы. Ты просіш “выкінуць” цябе недзе паблізу метро, кіроўца – малады хлапчына з невыпраўных аптымістаў і жыццялюбаў, усю дарогу сыпаў анекдотамі дваццацігадовай даўнасці і сам рагатаў з іх, быццам толькі што ўпершыню пачуў – рэагуе на тваю просьбу рэплікай “я паўз метро якраз і еду”, і вось ты ступаеш на сталічны ходнік і адчуваеш падэшвамі яго намёрзлую сутнасць, хоць ты спадзяваўся, што ў горадзе ўсё ўраз растане дзякуючы самому твайму з’яўленню, таму што табе самому ў сабе горача ад гэтай даўно жаданай сустрэчы з горадам і гэты жар мог бы растапіць ходнік пад табою.

Табе і думаць ці згадваць не варта, куды ты пойдзеш перш за ўсё. Ты пойдзеш у той самы будынак, на той самы шосты паверх, да тых самых дзвярэй. Ты націснеш на гузічак электразванка і чакацьмеш, што нехта табе адчыніць. Ты стаяцьмеш знякемлены, здравянелы, неадчувальны самому сабе, і, як пішацца ў кніжках, рука твая ўчыніць непаслухмянасць і не падымецца ў другі раз пазваніць у тыя самыя дзверы. Калі адчыніць жонка, ты прыкінешся глуханямым і на мігах папросіш прынесці вады. Жонка пазнала б цябе па голасе, таму ты маўчацьмеш, каб не выдаць сябе.

Яна спачувальна вынесе глуханямому бамжу кубак вады, і ты вып’еш яго, хаваючы вочы пад шапкаю, бо і вочы твае, як і голас, яна не пераблытае ні з чыімі іншымі. Калі жонкі дома не будзе, табе не адчыняць. Сыны раз і назаўсёды табою папярэджаныя: абы-каму не адчыняць ні пры якіх угаворах, абяцанках, запэўненнях. А сыны ў цябе паслухмяныя. І зараз ты для іх – якраз той самы “абы-хто”...

Табе ніхто і нішто не замінае ўчыніць так, як усё яно бачыцца табе тут, перад варотамі, з якіх дзесяць з лішнім хвілінаў таму выехаў “Мерсэдэс” з Марынай і Рэмам. Дакладней – табе здаецца, што ніхто і нішто не замінае. Але ты стаіш, не здатны зрушыць з месца і ажыццявіць толькі што накрэслены план. Табе мала верыцца ў яго здзяйсненне. Табе проста не дадуць на тое часу. Найверагодней, недзе лясною прасекаю з горада сюды ўжо імчыцца аўто з чалавекам у белым халаце за рулём. А калі нават не, калі сапраўды намысленае табою можна рэалізаваць – што далей? Куды ты падзенеш сябе потым, пасля таго, як нап’ешся вады з рук жонкі ці вымушана адступіш ад дзвярэй, не адчыненых табе тваімі дзецьмі? Куды табе падацца, хто цябе пазнае, хто паверыць у тое, што знікненне тваё і пахаванне з пышнотамі і ўшанаваннямі – гэта выдумка, удала разыграная інсцэнізацыя? Каму ты даказвацьмеш, што ты і ёсць жывы Сцяпан Казачышын, толькі на абліччы ў цябе – чужая маска? Каму ты цяпер патрэбны на гэтым свеце? Нікому не патрэбны. Што ж застаецца табе? Не можаш даць сабе адказу, які добра ведаеш: застаецца табе, Прытула, свячэнне падчас любошчаў з Марынаю, калі душа твая мітусіцца ў асляпляльным тунелі, штораз далей далятаючы да выхаду, якога не відна, але які абавязкова існуе, і то адзіны твой выхад, і ты даўно гэта зразумеў, таму забудзь пра Сцяпана Казачышына, пра шосты паверх і знаёмыя дзверы з гузікам званка на іх, бо з гэтага часу і на ўсе дні, што табе суджана прабыць на гэтым свеце, ты беспаваротна – ужо Прытула, аб якім ведаюць толькі Марына і Рэм. Ды яшчэ сёй-той.

Кудысьці вядзе дарога ад варот, з якіх не так даўно выехаў “Мерсэдэс”, але ты ёй не пойдзеш. Ты чакацьмеш вечара, калі вернецца з горада Марына, пабачыць цябе на месцы і ціха, затоена, глыбока ў сабе парадуецца твайму бяздзейнаму чаканню яе і Рэма, далей яна ўжо не зможа стрымацца, і яе дзённая небеспадстаўная трывога выплюхне бурнаю радасцю, што ты яе сёння не падвёў, але яна спіша сваю радасць на Рэмаву хуткую папраўку (“усё добра, нічога сур’ёзнага няма, во выпісалі нам гару таблетак – і праз тыдзень пройдзе”). Аднак ты ўжо знацьмеш, што бурная радасць, непаседлівасць, гаварлівасць – ад Марынінага перанервавання і ўнутранай калатні па тым, абы толькі ты, застаўшыся ў адзіноце, не выкінуў “фортэля” і не патрушчыў на кавалкі заведзены кімсьці механізм падзеяў, у якіх вы з Марынаю – абое ігракі, але з далёка не раўназначнымі ролямі.

А вечарам Рэм зноў сузіраў чалавечыя любошчы, і Марына здалася табе асабліва палкай і вынаходлівай, таму знаёмае свячэнне бачылася табе таксама адмыслова.

## VIII

Якая ўсё-ткі ашаламляльная розніца між лесам зялёным і лесам белым! І што болей няшчырае ў прыродзе, чым яе вясновае абуджэнне. Яно цябе заманьвае, зваблівае заварожвае, ператварае ў даверлівае дзіця, захоплена-адкрытымі вачыма якога ты ўбіраеш колеры, сярод якіх вяршэнствуе

зялёны шоўк, адкрываеш свет быццам бы ўпершыню і не можаш вытруціць з сябе салодкую ілюзію – надзею на нешта новае, што абавязкова мае адбыцца гэтай вясною: вунь жа якая яна, бач, імклівая і шчодрая, як ніколі.

Яна ж, вясна, і дапамагла Рэму “ажыць”, бо таблеткі, за якія ў аптэцы сабачай паліклінікі Марына выклала звыш сотні “зялёных”, хоць і далі Рэму дачакацца цёплых дзён, але дзейнічалі на арганізм вадалаза млява, быццам бы нехаця. А з першым выбухам зеляніны Рэм сам знайшоў у лесе гаючае зелле, і ты ўжо дзівішся, як ён самазабыўна гойсае між кустоў і дрэў, і яго зімовы энтузіязм, калі ён з разгону налятаў на цябе і збіваў у снежныя гурбы, цяпер здаецца табе гарэзлівымі гульнямі малога шчанюка. Зараз Рэм – непадзельнаўладны гаспадар усяго жывога ў лесе. Ачуняў, як казалі ў тваім сяле, “вылюднеў”, пасля гэтага жыцьме сто сваіх сабачых гадоў.

Ты радасна праймаешся Рэмавым раяваннем сярод зялёна-маладога разнатраўя, разнаквецця і разналісця, ты і сам бы хацеў напоўніцца тым усеабуджальным уваскрасальным настроем, дазволіць сабе раскошу безагляднага расчынення ў гэтым вясновым дні, у гэтым лясным каралеўстве, у паветры і праменні, што мігціць-дрыгаціць лунаннем пяшчотных, яшчэ ліпкіх на дотык лісцікаў на букавых галінках. Бук – дрэва карпацкае; калісьці даўно Карпаты былі парослыя цісам, а як чалавечая прагнасць вызваліла гэты горны край ад наяўнасці цісу, на яго месца замацаваўся бук у сяброўскім таварыстве хвойных парод. Аднак чалавечай прагнасці няма пераводу. Знікае ў Карпатах ужо і бук, затое штогадовыя паводкі ў Закарпацці калоцяць усю краіну. І хто і калі спытае ў алігархаў за вывезены і прададзены ў блізкім і далёкім замежжы карпацкі бук?

Цябе, Прытула, і самога хутка вывезуць, хіба толькі не прададуць, бо на цябе і пакупніка не знойдзецца. Але што вывезуць – у гэтым не сумнявайся. Навошта тады замежны пашпарт, пластычная аперацыя... Марына вунь развіла нейкую ўсеабдымна-бурную пакупніцкую дзейнасць. Штовечар прывозіць нешта з горада – пераважна адзенне, абутак, дробныя рэчы хатняга ўжытку. Днямі прыпёрла вялізны чамадан на кольцах. Ну і вытрымка! Бачыць жа, як табе карціць спытаць у яе пра прызначэнне купленых манаткаў, пра твой заўтрашні дзень і наогул пра тое, да чаго яно ўсё ідзе. Бачыць – і сваіх прыгожых вуснаў не растуліць, каб задавальніць тваю цікаўнасць.

А цікавіцца ёсць чым. Справа знікнення Сцяпана Казачышына выйшла на новы віток грамадскага ўзрушэння. Газеты напоўнены публікацыямі з ідэяй незалежнага журналісцкага расследавання. Народныя дэпутаты гатовыя прагаласаваць за стварэнне парламентскай следчай камісіі. Генеральная пракуратура яшчэ стаіць у абароне афіцыйнай версіі (цела аддадзена зямлі – справа закрытая, і забудзьце пра яе!), але адбіваецца ад наскокаў прэсы ды дэпутатскіх запытаў з апошніх сілаў. Настойліва прабівае сабе дарогу прапанова былога міністра юстыцыі аб эксгумацыі цела Сцяпана Казачышына. Тэлеканалы зноў навыперадкі круцяць здабытыя з архіву плёнкі, на якіх – твой былы вобраз, вобраз аднаго з лідэраў тагачаснай апазіцыі, і ты, Валерый Сяргеевіч, ужо паволі звыкаючы да свайго цяперашняга выгляду, глядзіш на Сцяпана Казачышына як на свайго ідэйнага аднадумца, найвярнейшага таварыша, на сваё другае “я” (першае, першае тваё “я”!), але глядзіш ужо халодным, адхіленым вокам. Быццам усё гэта было ў тваім папярэднім жыцці, і душа твая перасялілася ў Прытулу, вось

толькі навошта, дзеля чаго, і якім ёсць прызначэнне гэтага Прытулы на белым свеце?

Цябе, тым часам, не кранае вэрхал, узняты ў другі раз вакол імя Казачышына. Бо ты пэўна ведаеш, што газетчыкі і тэлевізійшчыкі зарабляюць на гэтым свой хлеб, а дэпутаты – палітычныя дывідэнды. Зубры і зубраняты масавай інфармацыі нейкі час панапружваюць галасавыя звязкі, далей дадуць ім адпачыць дзень-другі, потым накінуцца на новую сенсацыю, пераступіўшы цераз папярэднюю, і зноў эфір захлынацьмецца трывожнымі "развянчальнымі" інтанацыямі, абвінавачаннямі ўлады ў бяздзейнасці, гнеўнымі папрокамі на адрас інертнай прытлумленай беспрасветным хаосам грамадскасці. Нібы ад тае грамадскасці што-небудзь калі-небудзь залежала. Як і ад "чацвёртай улады", увасабленцы якой (у апошнія гады – у пагражальнай тэндэнцыі пераважна з маладзейшага адыпломленага папаўнення, цынічныя і прагматычныя хлопцы і дзяўчаты, кепска навучаныя камерцыялізаванымі "альма-мацерамі", ачольванымі абыякавымі да ўсяго, апроч канвертаванай – у канвертах – валюты "альма-фатэрамі") даўно бачацца табе ў прафесійнай уніформе – будзёнаўках на галовах. Анекдот-загадка: навошта ў будзёнаўкі характэрнае вастрыё зверху? Адгадка без анекдота: а каб пара выходзіла, калі "кипит наш разум возмущенный". У часы твайго студэнцтва за такі анекдот можна было загрымець з інстытута. Сёння ў краіне, якая ўсё інтэгруецца, інтэгруецца, трымаецца шматвектарнай вонкавай палітыкі, адной рукою вымольвае газ і нафту на Усходзе, а другой намагаецца ўхапіць за рукаў імпазантнага функцыянера з НАТА, прынцып будзёнаўкі стаў асноўным прынцыпам сродкаў масавай інфармацыі як першая ступень іхняй масавай прадажнасці. Журналістаў шмат, тэлеканалаў – як нярэзаных сабак, кіяскёры сядзяць у кіёсках, па вушы заваленыя прэсаю – а ад "чацвёртай улады" Гасподзь нас пасьяхова ўбярог. Таму справа Сцяпана Казачышына як выплыла на хвалі тэлевізійнай ды газетнай істэрыі, гэтак жа хутка і булькне на дно, адкуль яе дастануць, калі будзе спушчана каманда прашунціраваць грамадскі мозг чарговай сенсацыяй.

Ты не верыш таксама і ў ілюзорную магчымасць стварэння дэпутацкай следчай камісіі. Цяперашні парламент настолькі "структурызаваны", што сярод фракцый і груп, камітэтаў і падкамітэтаў не засталося месца для здаровага глузду, элементарнай логікі і самага звычайнага сумлення, прыстойнасці. Няхай ты будзеш свяцейшы за Папу Рымскага, хай тваімі жыццёвымі прадпісаннямі будуць дзесяць запаветаў Господніх, няхай паклянешся ты перад выбаршчыкамі здароўем дзяцей сваіх – у парламенце свой "папа", свае запаветы і свае клятвы. Хіба ж не так адбылося з тваімі былымі аднадумцамі, галоўнымі апазіцыі, з якімі станавіўся на шлях барацьбы супраць рэжыму? Дзе яны цяпер? У парламенце. А хто не паквапіўся ў партыйныя спісы, тых купілі міністэрскімі партфелямі, ордэнамі і званнямі... Не стала цябе ў шэрагах апазіцыі – не стала і самой апазіцыі. Ты ж цалкам усведамляеш, што між вамі і тады не было поўнага адзінства і ваша еднасць трымалася фактычна на табе ды яшчэ на некалькіх бяссрэбраніках. Гэта ты іх усіх мірыў, саджаў поруч у прэзідыумах сходаў, інспіраваў публічныя палкія поціскі рук, прабіраў празмернасць асабістых амбіцый кожнага, калі галоўнае – вашая агульная справа, не даваў развівацца парасткам правадырства сярод пярэдніх, і цяпер яны ўсе павінны б нарэшце зразумець, што ў саслоўі апазіцыі роль цэнтральнага стрыжня заставалася за табою, хоць ты і не быў першаю асобаю. А хто цяпер зай-

мацьмецца такімі драбніцамі, як “разборы палётаў”, якім не наканавана паўтарыцца? – таму і “разборы” страцілі сэнс. Калі нават стварыць дэпутацкую следчую камісію запрапанавалі не нардэпы з ліку тваіх, Прытула, аднадумцаў. Так, выскачыў адзін-другі, ім, каб усе бачылі маналітнасць фракцыі, падтакнулі трэці-чацвёрты, пракукарэкалі “на тэму дня” (вунь жа тэлебачанне і газеты кіпнем пісяюць пры новых сенсацыйных паваротах у справе Казачышына) – і што ж далей? Парламенцкі “папа” як захоча, так і зробіць, а захоча ён так, як яму загадана будзе яшчэ больш высокім “папам”, і ўсе гэта расцудоўна ведаюць, і ўсе верныя клятве нардэпа, але рука заканадаўца, якая мела б асвяціцца дотыкам да Святога Пісьма ды Канстытуцыі, ужо мала-памалу звыкла да прыемнага маніпуліравання, у выніку якога здабываецца бальзамны шолах новенькіх асігнацый.

А адсюль, Прытула, выплывае адзіна правільнае: Марына наўмысна перабольшвае значэнне шуму вакол справы Казачышына і памеры той мыльнай бурбалкі, што з яе выдзімаюць журналісты і дэпутацкі корпус. Разумная і разважная, Марына, як і ты, бачыць як на далоні ўсю гэтую “тэатральную пастаноўку з пераапрананнем”, але спрытна раздзьмухвае ў табе заклапочанасць: а раптам усё пачне раскручвацца наноў; раптам пракуратура пад ціскам “грамадскасці” паверне закрытую справу на даследаванне, ды яшчэ й патрапіць тая справа ў рукі якогасьці “непадкупнага” следчага (кажуць, такімі ў юрыдычных колах даўно і мухі грэбуюць), і той дапетрыць-дашурупае, што ж насамрэч сталася са Сцяпанам Казачышыным. А каму яна, тая праўда, цяпер патрэбна, Прытула? Табе яна патрэбна, Прытула?

– Не, – адмоўна варушыш ты галавою ў адказ на рэзоннае пытанне Марыны.

– Мне таксама не. Мне патрэбен ты, Прытула. А табе – я. Хіба нам кепска? Хіба мы не зведваем нірвану штоночы, належачы адно аднаму? Хіба ёсць на свеце штосьці большае, лепшае, вышэйшае?

– Не, – у другі раз адказваеш ты, адчуваючы цёплую гіпнатычную хвалю, што струменіць ад Марыны да цябе праз стол; яна сядзіць насупраць, заціснуўшы абедзвюма далонямі вялікі кубак з гарбатай, і погляд яе вачэй расчулена-ўмольны, аж хочацца яе пашкадаваць, прыгалубіць, заспакоіць, хоць насамрэч ён распасцірае магічную сілу гэтай непараўнальнай жанчыны, прыгажосцю якой ты не перастаеш захапляцца, і ты скараешся гэтай сіле, як скараўся на працягу некалькіх ужо месяцаў.

Заспакоеная двума тваімі безвагальнымі “не”, якія, нягледзячы на адмоўны змест, толькі сцвердзілі ў Марыне тваё вернападданства, яна ідзе да ваннага пакою; нейкі час ты спустошана ўтаропліваешся ў прастакутнік абруса на стале перад табою, потым вылучаеш на ім рэльефныя вышытыя ўзоры – штосьці стылізаванае пад кветкі, якіх, напэўна, і ў прыродзе не існуе, – далей твой погляд натрапляе на кубак, які толькі што трымала Марына ў далонях, нібы хацела пагрэць рукі, аўтаматычна ты падсоўваеш кубак бліжэй да сябе і бачыш на дне абгарэлую запалку. Адкуль яна тут узялася? – Марына ж налівала гарбату ў два кубкі, свой і твой, ты сваю гарбату выпіў, а яна і вуснамі не дакранулася. У гэтым доме табе наогул ніводнага разу не трапляліся запалкі, замест іх служылі ўсякія запальнічкі – газавыя, электрычныя, на п’езаэлеменце. І раптам – апаленая запалка, выгнутая дугой, быццам пачарнелы на сонцы дажджавы чарвяк...

“Пастаў кубак на месца”, – загадваеш ты сабе, ці гэта загадвае чыйсьці ўсеўладны голас, працяўшы тваю свядомасць кароткім ударам току; ты

хутка апамятваешся, цверазееш, пазбываешся хвіліннага стану нерухомасці і зноў амаль перажываеш шок. Гэта Рэм з неўласцівай для вадалаза спрытнасцю тыцнуў цябе ў калена цяжкай і мокрай пысай, і ты ўжо зразумеў, што гэта ад яго прыйшла табе каманда паставіць кубак на месца, і ты гэта робіш неадкладна, але асцярожна.

Марына вяртаецца з ваннай, сядае да стала і аж цяпер заходзіцца піць гарбату са свайго кубка, і яна яе насамрэч, не прытворна п'е, а табе налівае віна, ты адчуваеш даўкі смак непадробленага найноўшымі "вінаробамі" "Кабернэ" і ўжо гатовы паверыць (але ж Рэм, Рэм!..): запалка табе здалася. Па-другому і быць не магло. Псіхічнае перанапружанне, агульная стома ўсяго арганізма, ты сам прадбачыў, што некалі гэткае можа здарыцца. Супакойся і ўціхамір сябе.

Але Рэм ці не паспеў адысці ад цябе, дзе яму ў такім разе належала быць, ці не схацеў другі раз пры патрэбе паказваць свой спрынтэрскі талент – і ўжо Марына нешта запрыкмеціла, схавала пад раптоўна прымружанымі павекамі здагадку-падазрэнне пра тваю, Прытула, з Рэмам агульнасць; гэта была вашая агульнасць адносна яе. І гэта вам так не мінецца.

Пасля гэтага Марына відавочна нешта намысліла; можна і здагадацца, што менавіта: твой (разам з ёй) ад'езд за мяжу. Ты не можаш не бачыць, як актыўна да гэтага ўсё ідзе, і адначасова не можаш не дзівіцца, навошта гэта ім. Няўжо яны не здатныя разабрацца з табою тут? Ім жа нішто і ніхто не стане замінаць – ні Закон, ні органы правапарадку, ні "грамадскасць". І хіба ты першы ў спісе на гарантаванае знікненне, бясследнае і беспакаранае? Імёны ў гэтым спісе вядомыя не толькі табе, і пераемнікі твае не затрымаюцца з'явіцца – і ўсё гэта тут, у тваёй роднай чужыне, у краіне, найпершы артыкул Канстытуцыі якой абвяшчае ўсю паўнату ўлады за народам. Дзіўны народ, які мае гэткую, амаль ідэальную Канстытуцыю і гэткую паўнату ўлады!

"Яны цябе – за мяжу. Куды і навошта? Каму ты там патрэбен, калі тут не патрэбен нікому, апрача іх".

## IX

Штосьці-такі разладзілася ў заведзеным кімсьці механізме. Рэм "падвёў" сябе ў другі раз, і зноў вы з Марынай цягнулі яго на пакрывале (хіба ўжо толькі не па мёрзлай зямлі) пад дзверцы "Мерсэдэса", зноў яна павезла захварэлага вадалаза да "сабачых эскулапаў", але на гэты раз назад не прывезла.

Пад вечар вярнулася прыгнечаная, счарнелая, чужая. На тваё нямое пытанне кінула коратка: "Няма болей нашага Рэма". І ўсё. Пытай – не пытай. Ты, ведаючы яе натуру, і не распытваў. Перажывала страту твайго ахоўніка – па табе б так не гаравала. Ты чакаў, што вельмі хутка яна падрыхтуе Рэму годную замену. Не сталася і гэтага. А тут яшчэ ўпала на тваю галаву навіна і заглушыла ўсякія думкі пра штосьці іншае, апроч яе, навіны.

Па настойванні апазіцыі (Госпадзі, няўжо яна яшчэ засталася ў гэтай краіне віртуальнага народаўладдзя!) здзейснена эксгумацыя магілы Сцяпана Казачышына. Аб гэтым паведамлена ва ўрадавай газеце і болей нідзе. Інфармацыйны эфір загуў здагадкамі, каментарамі. Але – ніводнага відэасюжэта па тэлеканалах. Ніводнага прозвішча з тых, хто прымаў удзел у тым магілкавым дзействе. Сухое, пратакольнае паведамленне з

афіцыйным вынікам судовай медыцынскай экспертызы: “...кампетэнтныя спецыялісты пацвердзілі факт пахавання былога народнага дэпутата Казачышына Сцяпана Маркавіча”. І подпіс пад паведамленнем: “Прэс-служба Кабінета Міністраў”.

Урадавую газету Марына падала табе моўчкі, са слядамі жалобы на аблічча і ўсёй паставе па Рэме, за якога ёй яшчэ належыць неяк адказаць перад яго сапраўднаю гаспадыняй, Эвелінай – жонкай дыпламата-міжнародніка, які ў гэты час недзе там на далёкіх паралелях і мерыдыянах гераічна пpаторвае для роднага народа шлях да сусветнай супольнасці. Марына паклала табе газету і нават не захацела каментаваць прачытаную табою карэспандэнцыю пра эксгумацыю. І не заўважыла (або зрабіла выгляд, што не заўважыла) тваю жудасную хвіліну, калі ты не здольны быў успрымаць гэты свет як нешта рэальнае, рэчыўнае, дадзенае нам у адчуваннях.

І пачалі табе сніцца сны. Уласна, сніўся табе адзін і той жа сон; сюжэтна паўтараючыся, ён толькі дэталямі напаўняўся штораз іншымі.

Пачынаецца ўсё так. Па цябе прыязджаюць у аўтамабілі з дзяржаўнымі нумарамі, прапануюць паехаць для правядзення следчага эксперымента. Вязуць цябе на могілкі, дзе па камандзе тых, хто прывёз, раскопваецца магіла. Ні нумароў аўто, ні твараў тваіх у сне ўладароў ты не запамінаеш, дый не яны запаўняюць тваю ўвагу. Дык вось, на магіле раскідаюць у розныя бакі зямлю маладыя і мардастыя далакопы, вось яны выцягваюць з ямы труну, падважваюць яе века і табе адкрываецца аблічча... тваёй жонкі – чыстае, маладое аблічча, улюбёная твая прычоска на галаве з наўмысна нядбалай пасмачкай валасоў, што спадае на лоб, у вушах – падараваныя табою завушніцы, а губы такія жывыя, што гатовыя вось-вось растуліцца... Другім разам, у іншым сне, падважанае века труны адкрывае тваім вачам двух тваіх сыноў, якія ляжаць, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго. Сняцца табе таксама ў падобных акалічнасцях, у трунах, выцягнутых з-пад зямлі, бацька, маці, брат або яшчэ нехта са шматлікай тваёй радні. Ты ўскідваешся ад такога жорсткага сну, і сэрца тваё так бухае, што, здаецца, чутно яго калатню і па-за мурам вакол гэтага вялізнага будынка. Але Марына нерухома спіць, і за вокнамі чорная прорва ночы ніводным гукам не азываецца на крыкі твайго надарванага сэрца.

Застаючыся на цэлы дзень без Марыны, ты прыходзіш у шаленства, мала не вар’яцееш ад гэтых начных прывідаў-насланняў, ад гэтай аднасюжэтнай неміласэрнай хімеры, табе хочацца або напіцца да зялёных чарцянят, або засіліцца ў лесе, або знайсці ў гэтым будынку зброю (яна тут абавязкова ёсць, проста не можа не быць!) і ўчыніць нешта несусветнае, ад чаго здрыганецца лес і дом гэты, і неба ўпадзе і накрые месца ўчыненага табою, толькі б ніхто не пабачыў і не жахнуўся да вар’яцтва. Ты ўжо ледзь стрымліваеш сябе, пакуль прыедзе Марына з горада, і яна самым толькі поглядам прыгожых бяздонных вачэй, у якіх немагчыма расшыфраваць іхні глыбінна-загадкавы змест, вылівае з цябе тваю цэладзённую муку. Некалькі гадзінаў тваё сэрца адпачывае, і ў гэты час ты думаеш, што, можа, якраз вось такім і ёсць сапраўдны стан нірваны – вышэйшай асалоды, якую паказаў Буда.

А праз дзень, пасля чарговага жудаснага здзеку новымі снамі, – зноў усё спачатку. Час Марынінага вяртання ўсё болей аддаляецца да крытычнай мяжы, а новыя прыступы шаленства падбухторваюць цябе да нейкай яшчэ не асэнсаванай дзеі. І нарэшце настае дзень, калі ты не здольны ні аб чым

думаць, мозг твой адмаўляецца ўспрымаць і засвойваць хоць які сігнал з вонкавага свету, і ў ім балюча гарыць адно-адзінае пытанне, навязанае табе шматразова тым самым прывідам: “Каго яны паклалі ў труну пад імем Сцяпана Казачышына? Каго і за што?..”

Гэтае пытанне, як ліпучая духата гарачай ліпнёвай ночы, цемра якой спараджае безнадзею і страх у кожнае імгненне бясследна ў ёй прапасці, абступіла цябе так, што ты адчуваеш яго на дотык, нібы скопішча ваяўнічых тэрмітаў; вось яны абселі цябе ад падэшваў да макушкі галавы, грозна валтузяцца пад калошамі, запаўзаюць за пазуху, скучваюцца за каўнерам, ты не паспяваеш іх стрэсваць, скідаць з сябе поўнымі жменямі – яны ўсё лезуць і лезуць, здаецца, ужо і не з зямлі, а яшчэ і з паветра, і цела ўжо тваё зменшваецца ад жалезных іх зубоў.

Гоніць магутныя сокі ў голле сад пад акном вашай з Марынаю спальні, дзе вам так нірванна ўначы; ты сядзіш у альтанцы, сярод руплівай зеляніны толькі што народжанага траўня з яго ўсёпранікальным духам сусветнага абнаўлення; у альтанцы, дзе сталом служыць вялікі пень, а крэсламі вакол яго – меншыя пянькі, на адзін з якіх ты і апусціўся, адчуўшы немач змагацца з агрэсіяй думкі-пытання.

Ты фізічна адчуваеш, што ў гэтым садку, зусім блізка ад гэтай альтанкі, аплеценай учэпістымі парасткамі-шчупальцамі дзікага вінаграду, ходзіць тваё вар’яцтва – ці твая разумовая смерць, ці выратаванне, і ты ўжо амаль згодны яго прыняць. Але што прабіваецца з падсвядомасці, працінаючы тоўшчу безнадзеі, апошні магчымы парастак твайго былога “я”. Ён вяртае табе здольнасць мысліць, і ты хапаешся за яго, пакуль яго не зламаў чарговы смерч шаленства мозгу.

Што з табою, Прытула? Ты ж так бясхмарна-бестурботна жыў усе гэтыя месяцы, ушчэнт напоўнены цішаю, спакоем, незямною асалодаю ад сузірання і спажывання Марынінай прыгажосці, ад фантастычных любошчаў з ёю, якіх дагэтуль не меў і ўжо болей ні з кім не мецьмеш. І так магло быць вечна, бо вы гэтага хацелі абое. Ты дазволіў адзець на сябе панцыр непранікання анічагенькі з таго свету, рабом і заложнікам якога ты быў на самай справе ў знешнім выглядзе Сцяпана Казачышына, хоць і лічыў сябе сціплым творцам нейкіх мізэрных на фоне вечнасці новабудоў; таму забудзь пра гэты свет, як і ён забыў цябе дарэшты і толькі час ад часу гандлюе тваім усмерчаным імем. Так павінна быць давеку.

Але панцыр непранікнёнасці чамусьці страціў сваю сілу, дапусціў да цябе прывід вар’яцтва, і калі ты не збярэшся з сіламі зараз, у гэты адзіны адпушчаны табе момант, на ўчынак – ты перастанеш існаваць, хоць і плоць твая заставацьмецца яшчэ нейкі час на зямной паверхні, ногі твае яшчэ таптацьмуць зямлю, а душа ўжо ляцецьме на сляпучае ззянне ў тунелі, усё бліжэй дасягаючы да выхаду, дакладней – да ўваходу ў нікуды.

І ты падымаешся, пакідаеш у альтанцы сваё здранцвенне і выходзіш за вароты. Ты покуль не ўсведамляеш, у чым палягацьме твой учынак. Стаіш і прыслухоўваешся да самога сябе. Тэрміты адступілі, мозг паволі ахалоджваецца пасля напаўвар’яцкай гарачкі, і ў цябе нарэшце выкрэсліваецца план. Ты вяртаешся ў дом, са зладжанасцю запраграмаванага аўтамата знаходзіш патрэбную шуфляду і кладзеш у кішэню пінжака грошы і залаты пярсцёнак з дыяментам.

За варотамі ты стаіш нядоўга, і паяўленне легкавіка-іншамаркі (найпершага аўто, апроч Марынінага “Мерсэдэса”, з таго часу як ты тут) цябе ні трывожыць, ні дзівіць. Легкавік спыняецца, апускаецца шкло пярэдніх

дзверак, і кіроўца з тварам, што здаецца табе знаёмым, пытае, як яму выехаць на трасу. Ты ўказваеш рукой у той бок, куды заўжды ад'язджае Марына, і дадаеш: "Лепей я вам пакажу". Сядаеш каля кіроўцы, і ён рушыць, ні аб чым далей не распытваючы. Вось аўтамагістраль, таблічка з паказальнікам напрамку на сталіцу, вы едзеце, нібы ўсё між вамі загадзя дамоўлена, вы маўчыце, як тыя змоўшчыкі, што адважыліся "на дзела" па-буйному.

– Я тут выйду, – кажаш ты, калі кіроўца вымушана спыніў аўто перад першым у горадзе сігналам светлафора.

Вадзіцель ківае ў знак згоды, ты пакідаеш яго ў нахалоджаным нутры іншамаркі і ўжо пэўна ведаеш, куды ляжыць твой далейшы шлях.

На могілках ты знаходзіш брыгаду далакопаў – маладых і чырванашчокіх, з такім выразам твараў, што калі б гэтых хлопцаў распрануць, то недзе на передплеччы ў кожнага можна было б прачытаць татуяванне: "Своею жизнью я доволен!" Яны натурацца ў адказ на тваю просьбу ("Ну, ты, чувак, даёш! На цэ трэбуецца разрэшэніе пракуратуры"), і ў адказ на іх капрызы ты дастаеш з кішэні і кладзеш ва ўдзячна падстаўленую далоню брыгадзіра масіўны залаты пярсцёнак з дыяментам. Пасля гэтага хлопцы гатовыя выконваць хоць які твой капрыз. Ты просіш рыдлёўку, сякеру і каб ніводная жывая душа не замінала табе на працягу дзвюх гадзін. Далакопы, у думках ужо напружыўшы мускулы для фізічнай працы, выяўляюць глыбокае задавальненне тым, што ты абыдзешся без іх, і з палёгкай ставяць на стол гранёнікі: прыспеў абедзенны час. Адзін з іх ідзе з табой і завешвае паласатаю стужкаю (уваход забаронены!) межы могільнікавага ўчастка, у глыбіні якога ты застаешся адзін.

Вясновая зямля пад памятным знакам, які ты лёгка кладзеш на бок (халтура і тут, у царстве ценяў), прагна ўпускае ў сябе лязо рыдлёўкі, капаецца табе лёгка, а з нецярпення-трымцення яшчэ і хутка. Пакладзены лежма, назірае за тваім стараннем вычаканены на адпаліраваным камені "габро" партрэтны вобразатвор Казачышына Сцяпана Маркавіча. Тады, зімой, падчас пахавання, стаялі лютыя маразы, і далакопы паленаваліся дасягнуць належнай глыбіні, труна апушчана на нейкія паўтара метры, таму неўзабаве лязо рыдлёўкі ўпіраецца ў века. Закалаціла ў грудзях, дробна дрыжыць усё цела, ты адкідваеш убок рыдлёўку і ўжо самымі нецярплівымі скурчанымі пальцамі зграбаеш зямлю з труны, падымаеш века сякераю – яно лёгка падаецца – і стрымліваеш, супыняеш рух рукі. Цябе працінае жах, ты міжволі думаеш, што вось бы папрасіць гэтых файных хлопцаў, няхай прыкідаюць цябе тут, над нераскрытым векам, і тады надпіс на памятным знаку адпавядацьме ісціне. Ты пераадольваеш страх, адганяеш недарэчную думку, сякера зноў рухаецца ўздоўж века, і пад ім адкрываецца табе нарэшце тое, што было схаванае ў зямлі. Ты глядзіш дзіка, ты не можаш усвядоміць пабачанага, сэрца тваё супыняецца ад гневу, бяссільнае лютасці, ты гатовы запусціць сякеру ў каго папала і што папала, здатны раўсці смяротна параненым ваўком, злоўленым у пастку лісам, здзічэлым бяздомным сабакам, які хоча вярнуцца да людзей і ўжо не можа гэтага зрабіць.

У труне ты бачыш Рэма – твайго адзінага суцяшальніка на працягу апошніх пражытых табою, Прытула, месяцаў; таго самага Рэма, па якім так несуцешна тужыла Марына, калі другі раз павезла яго ў горад і вярнулася вечарам без яго... Табе дзіка бачыць мёртвага сабаку, пакладзенага ў чалавечую труну, – замест цябе пакладзенага ў яе чыімсьці жорсткім капрызам, чыімсьці нялюдскім загадам: і ў чыю толькі звыродную свядомасць магла

прыйсці такая сатанінская выдумка! Вялікая галава Рэма яшчэ не пачала раскладацца, і таму цябе зацэментоўвае яшчэ большы жах. Каго хочаш і што хочаш ты спадзяваўся пабачыць пад толькі што паднятым векам – толькі не гэты астылы труп вадалаза, зачыншчыкам смерці якога з'яўляешся ты, Прытула. Бо для цябе ўжо і сабачае таварыства і спагада – недазволеная раскоша. Яны забралі ў цябе нават Рэма. І тут ужо сапраўднае вар'яцтва накрывае цябе ад галавы да пятак, ты дранцвееш так, што не адчуваеш ані сваёй фізічнай прысутнасці на гэтым свеце – і ўсяго цябе раздзірае, растармошвае твой вар'яцкі дзікі крык: "Рэм! Рэ-э-эм!!! Рэ-э-э!.."

Ты не ўсведамляеш, ці сапраўды крычыш у сталую могільнікавую цішу, ці ты нямым крыкам спапяляеш сябе знутры, і ён яшчэ доўга коціцца рэхам праз твой запалёны мозг, а калі ўрэшце сціхае паволі і свядомасць твая балюча размярзаецца, ты неспадзявана знаходзіш сябе ўверсе над раскапанаю ямай, і рукі твае сціскаюць сякеру – гэты казённы могільнікавы інвентар, дадзены табе для часовага карыстання – з такою сілаю, што кісці знякровелі ад нялюдскага напружання.

Праз міг ты заўважваеш нейкі аддалены і нязвычны для гэтага мёртвага царства (бо надта неспакойна-задзірлівы) рух, мігценне чалавечых постацей, але не хлопцаў-далакопаў. Нарэшце ты выразна бачыш: іх трое; бягуць паміж могільнікавымі дзялянкамі-кварталамі, то знікаючы, то з'яўляючыся з-за дрэў, кустоў, крыжоў, помнікаў, каплічак, абеліскаў... Ты распазнаеш Марыну па яе звычнай рабочай вопратцы – джынсы і швэдрык пад расхрыстанай ад бегу куртачкай, яна і цяпер чароўна-прыгожая, але табе ніколі не выпадала бачыць, як яна бегае, таму табе цікава назіраць яе ў такім імклівым руху, і ты здагадваешся, што так бяжыць ужо і не Марына, а Сысоева Надзея Яўгенаўна; з ёй двое хлопцаў, высокіх і магутных, апранутых надта цяжка на гэты вясновы час ("Вось бы ім пасавалі белыя халаты", – думаеш міжволі ты), таму Марына іх апярэджвае, але адлегласць між ёю і імі паступова змяншаецца, і да раскапанай магілы яны падбягуць разам.

*Кіеў – Раўжы, 2002 г.*



## Васіль Быкаў – Зінаіда Гімпелевіч



...я збіраюся
працягваць пісаць,
і гэта мая адзіная
мэта ў жыцці...



# “Я заўсёды пішу па-беларуску”

***Вытрымкі з гутаркі Зінаіды Гімпелевіч з Васілём Быкавым***

***Паштальён прынёс пасылку з Масквы. У ёй было некалькі копій новай рускай анталогіі Васіля Быкава, куды ўвайшлі тры яго аповесці, аб’яднаныя пад назвай адной з іх – “Яго батальён”. Быкаў пераклаў іх з беларускай мовы сам. Я задала Васілю Уладзіміравічу пытанне, якое ён ад мяне неаднаразова чуў у мінулыя гады. Я вырашыла закрануць гэтую тэму зноў – з-за таго, што яе працягваюць абмяркоўваць не толькі чытачы, але і некаторыя даследчыкі...***

***Зінаіда Гімпелевіч:*** Васіль Уладзіміравіч, прабачце, калі ласка, за паўтарэнне пытання: вось гэтая кніга – дарэчы, цудоўна выдадзеная, – гэта пераклад ці вы напісалі яе па-руску?

***Васіль Быкаў:*** Я заўсёды пішу спачатку па-беларуску, а пасля перакладаю на расейскую мову; часта я раблю гэта сам.

***З.Г.:*** Вы лічыце, што можна дабіцца ідэнтычнага перакладу ў мастацкай літаратуры?

***В.Б.:*** Не, я думаю, што гэта немагчыма з-за блізкасці расейскай і беларускай моваў. Тут уваходзіць у сілу такая вялізная

*Пераклад з рускай – Сюзанны ПАЎКШТЭЛА.*

колькасць нюансаў, а таксама фанетычнай і марфалагічнай непадобнасці, што замест збліжэння часта адбываецца лексічнае адштурхоўванне. Канечне ж, гэта ні ў якой меры не азначае, што адна мова лепш, багацей ці горш, бядней за другую. Гэтага проста не бывае. Кожная мова – самая лепшая для таго, каму яна дадзена ад нараджэння. Проста вельмі нялёгка падабраць слова, якое змяшчае ў сабе такое ж багацце сэнсаў, як у мове арыгіналу. Пры гэтым, чым мовы бліжэйшыя, тым складаней.

***З.Г.:*** Сапраўды, у іншых мовах можна, напрыклад, знайсці ідыёму, а ў блізкіх мовах менавіта іншае адценне слова не дазволіць дасягнуць таго ж эфекту. Гэта, відаць, як з сінонімамі – яны ж ніколі цалкам не супадаюць па адценнях значэнняў.

***В.Б.:*** Менавіта так. Аднак ёсць яшчэ адна сур'ёзная прычына ў тым, што на роднай мове ўсё даецца лягчэй, уключаючы і пераклад. Ведаеце, я пішу па-беларуску з нейкай генетычнай лёгкасцю. Калі ж перакладаю – жахліва пакутую; кожны склад, кожнае слова даюцца з цяжкасцю. Я ніколі не ўпэўнены на сто адсоткаў, што сказаў менавіта тое, што хацеў. Нават калі ў мяне гатова некалькі варыянтаў перакладу і я выбраў з іх толькі адзін, я ніколі да канца не ўпэўнены ў гэтым варыянце і непакоюся, што сучаснаму рускаму чытачу з добрым літаратурным густам не спадабаецца мой твор менавіта з-за мовы.

***З.Г.:*** А чаму вы думаеце, што вам патрэбна самому перакладаць свае творы? Павінны ж быць выдатныя перакладчыкі ў Беларусі.

***В.Б.:*** Таму што амаль ні разу не пашчасціла знайсці перакладчыка, праца якога мяне б задаволіла.

***З.Г.:*** Адным з вашых перакладчыкаў быў цёзка Міхаіла Гарбачова.

***В.Б.:*** Так, Міхаіл Васільевіч Гарбачоў, беларус, наш зямляк. Ён вельмі добры чалавек, але перакладаў мае творы даволі слаба. Пасля яго мяне перакладалі некалькі выдатных рускіх пісьменнікаў, але таксама не здавальняюча.

***З.Г.:*** І пасля гэтага вы прыйшлі да рашэння перакладаць самому?

***В.Б.:*** Я пачаў задумвацца аб гэтым пачынаючы з 1965 года. Твардоўскаму не спадабалася, як Гарбачоў пераклаў "Мёртвым не баліць". Калі я прыйшоў да яго са сваім новым творам "Праклятая вышыня" (1968), у часопісе "Новый мир" была нарада, на якой Твардоўскі і яго рэдкалегія настаялі на тым, каб я пачаў перакладаць свае творы сам.

***З.Г.:*** Значыць, воляй рэдкалегіі з пісьменніка можна зрабіць і перакладчыка?

***В.Б.:*** Гэта было рашэнне не ад добрага жыцця. Адзін з рэдактараў прапанаваў Дудзінцава ў якасці перакладчыка. Між іншым, Дудзінцаў – выдатны рускі пісьменнік, таксама быў не ў фаворы ва ўладаў у той час. Твардоўскі неадкладна адрэагаваў: "Якую цудоўную апальную троіцу вы прапаноўваеце: Быкаў – пісьменнік, Дудзінскі – перакладчык, Твардоўскі – рэдактар. Я ўпэўнены, што члены Цэнтральнага Камітэта партыі неверагодна ўзрадуюцца гэтай цудоўнай камбінацыі! І якім гэта чынам, вы думаеце, нам удасца гэту працу апублікаваць? Ды ніхто ніколі ў жыцці нам не дазволіць гэтага! Хай Васіль сам папрацуе над перакладам. Мы дапаможам". Так я і паехаў дадому і ў хуткім часе вярнуўся з перакладам.Трэба сказаць, што мая першая спроба аказалася даволі слабай. Рэдкалегія адрэдагавала маю працу і апублікавала яе пад назвай "Атака з ходу". З той пары мне няма каго вінаваціць у няўдачах перакладу, акрамя сябе самога.

***З.Г.:*** А наступным што было?

***В.Б.:*** "Круглянскі мост" (1969. – *ЗГ*).

***З.Г.:*** Праца ішла крышку лягчэй?

***В.Б.:*** Не, ніколькі, я перарабляў пераклад сем разоў, і да гэтага часу ён мяне не задавальняе.

***З.Г.:*** Думаю, вы празмерна строгі да сябе. Вашыя апошнія пераклады на расейскую мову – абсалютна выбітныя. Канечне, тыя, каму пашанцавала, як мне,

чытаюць вашыя творы ў арыгінале. І яшчэ, Васіль Уладзіміравіч, вы, відаць, цяжка перажываеце той факт, што на еўрапейскія мовы вашыя творы перакладаюць у асноўным з расейскай?

***В.Б.:*** Так, з гэтым мне нялёгка змірыцца, асабліва крыўдна за раннія творы. Наколькі мне вядома, за амаль пяцьдзясят год маёй пісьменніцкай дзейнасці, толькі два перакладчыкі, адзін з Германіі, другі з Балгарыі, перакладалі мае творы з беларускага арыгіналу. Усе астатнія, большай часткай, перакладаюць з рускага...

***

***З.Г.:*** Ведаю, што вы пішаце цяпер новую рэч. Як яна называецца?

***В.Б.:*** "Балота".

***З.Г.:*** Як я разумею, гэтая назва – сацыяльна-палітычная метафара дрыгвы, твані, застою і бруду...

***В.Б.:*** Я выбраў гэтую назву ў надзеі перадаць самыя розныя значэнні гэтага слова. Гэта аповесць пра выпадак, які адбыўся падчас вайны з немцамі. Пра беларускі партызанскі рух. Галоўная тэма, як і ў большасці маіх твораў, – тэма маральнасці, яна ляжыць у аснове сюжэту. Магчыма, я паўтараю сябе...

***З.Г.:*** Падазраю, што гэта, як часта ў вас, не паўтарэнне, а паглыбленне тэмы. Бо кожны пісьменнік бесперапынна шукае ісціну, і часцей за ўсё гэты пошук вядзецца ў аднойчы абраным ім напрамку. Але ў мяне іншага плану пытанне. Якое вашае стаўленне да літаратуразнаўства, да крытыкі? Ці змянілася яно за апошнія гады?

***В.Б.:*** Змянілася. На працягу гадоў існавала два тыпы літаратурнай крытыкі. Першы тып, які зыходзіў ад савецкага кіраўніцтва, мяне ніколі не турбаваў. Хаця такая крытыка і папсавала мне крыві, я ніколі не прымаў яе асабліва блізка да сэрца. Але затое і на першым часе, і пасля мне вельмі дапамагла і станоўчая, і, больш за тое, адмоўная крытыка з боку прафесіяналаў. У тыя дні было нямала адметных літаратуразнаўцаў і крытыкаў, да меркавання якіх пісьменніку варта было прыслухацца. Я прыслухоўваўся. Такія людзі, як Твардоўскі і рэдактары яго часопіса, былі вельмі патрабавальныя і строгія. Іх школа прынесла мне вялізную карысць. Я таксама бязмежна цаніў меркаванне майго сябра і цудоўнага крытыка Алеся Адамовіча. Як правіла, ён быў маім першым чытачом. Яго ўплыў на мяне складана пераацаніць. Ну і, канечне, Ірына Міхайлаўна да гэтага часу застаецца самым галоўным крытыкам усіх маіх твораў. Спачатку яна была празмерна паблажлівая да мяне. Памятаю, яна нават хацела даслаць адно з маіх першых апавяданняў Шолахаву. Да гэтага часу цешуся, што не згадзіўся.

***З.Г.:*** Першая крытыка ад прафесійнага пісьменніка – гэта ці не самыя важныя словы ў жыцці кожнага аўтара. Ці была першая ацэнка вашай творчасці станоўчай?

***В.Б.:*** Не. Калі я быў у арміі, то даслаў тры мае апавяданні Міхасю Лынькову. Ён ласкава згадзіўся іх прачытаць і напісаў мне свой водгук. Калі я прачытаў гэтую самую першую ў маім жыцці рэцэнзію, жаданне пісаць у мяне адпала надоўга. Канечне ж, першыя водгукі крытыкаў вельмі важныя, але калі яны негатыўныя – а звычайна гэта так і адбываецца, – то яны могуць адпужнуць патэнцыйна таленавітага пісьменніка.

***З.Г.:*** Але вас, дзякуй Богу, водгук Лынькова не спыніў. Відаць, вашыя тэмы, так сказаць, кіпелі ў вас і патрабавалі выхаду.

***В.Б.:*** Напэўна, так. Калі ласка, зразумейце мяне правільна, я не ў крыўдзе на той цэбар ледзяной вады, які пісьменнік выліў на маю далікатную ў той час самасвядомасць. Лынькоў быў і застаецца адным з самых маіх любімых беларускіх пісьменнікаў. Ну, а з нядаўняга часу я неяк стаў больш абыякавым да меркавання літаратуразнаўцаў: быць можа, гэта ў мяне ўзроставае, ці якасць літаратурнай крытыкі змянілася, цяжка сказаць...



*Зінаіда ГІМПЕЛЕВІЧ і Ірына БЫКАВА.*

***З.Г.:*** Вы цяпер працуеце яшчэ над апавяданнем, ці не так? У яго ёсць назва?

***В.Б.:*** Так, яно называецца "Палон".

***З.Г.:*** Гэта вялікае апавяданне?

***В.Б.:*** Думаю, што калі скончу, у ім будзе крыху больш за трыццаць старонак.

***З.Г.:*** Іншымі словамі, апавяданне і навела ўсё яшчэ вашыя любімыя жанры?

***В.Б.:*** Твардоўскі часта паўтараў, што яго не вельмі цікавяць сучасныя раманы. Ён амаль ніколі не друкаваў раманы ў "Новом мире". Яму больш падабаліся малыя жанры – апавяданні, навелы, аповесці. Не ведаю чаму, але ў мяне заўсёды было падобнае стаўленне да літаратурных жанраў. Верагодна, таму, што малыя формы даваліся мне лепш. Аднак у апошнія гады сітуацыя радыкальна змянілася: стала практычна немагчыма апублікаваць творы малых жанраў менавіта з-за іх малога памеру. Выдавецтвы патрабуюць раманаў, таму што ім гэта, відаць, падыходзіць з камерцыйнага боку.

***З.Г.:*** Васіль Уладзіміравіч, літаратура заўсёды грала асаблівую ролю як у Расіі, так і ў Беларусі, і не ў апошнюю чаргу з-за сваёй, так мовіць, маральнай місіі. Цяпер, калі ў выніку дэмакратычных зменаў палітычная сітуацыя на прасторы былога СССР змянілася, ці змянілася адначасова з ёй і гэта традыцыя літаратуры?

***В.Б.:*** Па-першае, я не лічу, што Расія, а тым больш Беларусь абралі дэмакратыю як спосаб палітычнага і сацыяльнага развіцця для сваіх краін. Дэмакратыя, так сказаць, не замацавалася ў гэтых краінах. Чаму не прыжываецца дэмакратыя ў Беларусі, Расіі? Таму што, як калісьці часта паўтараў акадэмік Ліхачоў, дэмакратыя можа прыжыцца толькі ў тых краінах, дзе гісторыя ўскопвала для яе глебу і прарошчвала зерне.

Я з ім цалкам згодны: пры адсутнсці глебы для дэмакратыі – а ў гісторыі ні

Расіі, ні Беларусі яе амаль не было – проста немагчыма прыйсці да дэмакратыі знаёмым нам заходнім шляхам. У адносінах да літаратуры я паўтару словы аднаго рускага мысляра: “Спадчына савецкіх лідараў – гэта не літаратурная тэма”.

***З.Г.:*** А хто гэта сказаў?

***В.Б.:*** Гэта любімая фраза Барыса Парамонава.

***

***З.Г.:*** Васіль Уладзіміравіч, хачу ў вас спытацца пра генерала Уласава. Мой бацька быў даволі высокага меркавання аб ім і лічыў яго героем і ахвярай абодвух бакоў – і Саветаў, і нацыстаў. Як вы ацэньваеце Уласава цяпер, калі ў нас больш інфармацыі?

***В.Б.:*** Бачыце, незалежна ад сябе ён стаў палонным жахлівых абставінаў пачварнага ваеннага часу; у адпаведнасці з імі ён і дзейнічаў, таму я і не лічу яго ні здраднікам, ні героем, а, хутчэй, ахвярай сітуацыі... Так, Другая ўдарная армія... Уласаў зрабіў даволі галавакружную ваенную кар’еру – малады генерал, герой і абаронца Масквы і г.д. Як бы там ні было. Сталін паставіў перад Уласавым невыканальную задачу, якую ніхто б не змог здзейсніць у той час. Кожны быў бы разбіты, нават легендарны Жукаў. А ва Уласава заставаўся невялікі выбар: першы – застрэліцца, другі – падставіцца пад варожую кулю, трэці – здацца. Ён выбраў апошняе. За што ж асуджаць ці хваліць яго? Амаль шэсць мільёнаў людзей трапілі ў тое ж самае становішча, большасці прыйшлося горш, чым Уласаву, у многіх наогул не было выбару. Не думаю, каб ён асабіста быў прагітлераўцам ці антысталіністам. Ён быў проста ахвярай цяжкіх абставінаў. Цяпер, уявіце, Уласаў у палоне. Як яму паступіць? Вы ж разумееце, што ў прынцыпе не было вялікай розніцы паміж канцлагерамі Гітлера і Сталіна.

***З.Г.:*** Калі верыць кнізе Гросмана “Жыццё і лёс” – не было...

***В.Б.:*** І Гросман меў абсалютную рацыю ў гэтых адносінах. Трапіць у лапы сакрэтных службаў было ўсё роўна, што апынуцца ў абдымках удава. Канечне, Уласаў мог бы пакончыць з сабою, але ён не стаў гэтага рабіць. Можа быць, ён спадзяваўся перахітрыць гітлераўцаў, але гэта таксама было безнадзейна... Немцы не далі яму магчымасці захаваць армію. Яго армія была расфарміраваная, і асобныя падраздзяленні былі раскіданыя па розных нямецкіх франтах і частках.

***З.Г.:*** Я чула ад асабістай сакратаркі Уласава і кіраўніка яго разведкі, што Уласава вельмі любілі і паважалі яго салдаты (гэтыя людзі жылі доўгі час у Атаве, цяпер не ведаю, што з імі).

***В.Б.:*** Усялякая вайна стварае паданні і міфы. На самай справе савецкі генерал не мог выклікаць нават звычайнай сімпатыі ў падначаленага, не кажучы пра пачуццё любові. А Уласаў, якім бы ён ні быў чалавекам, заставаўся перш за ўсё генералам савецкай закваскі. Ён урос у гэты стыль камандавання за многія гады, праведзеныя на вайсковай службе. Я, канечне, не ведаю асаблівасцяў яго характару, але, думаю, у цэлым разумею людзей гэтага тыпу.

***З.Г.:*** Мой бацька называў нашых генералаў “дэгенераламі”.

***В.Б.:*** Савецкае вышэйшае камандаванне – складаны феномен. Гэтыя людзі валодалі вялізнай уладай у перыяд вайны. Яны таптаалі сваіх падначаленых з нагоды і без нагоды. А пасля вайны, асабліва ў часы Брэжнева, большасць з іх сапраўды ператварыліся ў “дэгенералаў”.

***З.Г.:*** Васіль Уладзіміравіч, я памятаю ваша апавяданне “Палкаводзец”, дзе вы сказалі, што вайсковыя кіраўнікі савецкага часу, асабліва падчас вайны, дзейнічалі па прынцыпе: “Людзьмі, збянтэжанымі і апантанымі страхам, можна кіраваць, толькі прыціснуўшы іх яшчэ большым страхам”. Мудрае назіранне! Ці быў нейкі канкрэтны палкаводзец прататыпам для вашага апавядання?

***В.Б.:*** Так. Гэта быў маршал Жукаў.

***З.Г.:*** О, легендарны маршал...

***В.Б.:*** У сапраўднасці гэтае апавяданне ўсяго толькі накід...

***З.Г.:*** Асабіста я задумалася над паняццем страху, калі была пад вельмі моцным уражаннем ад гэтага вашага “накіду”. Мяне, як і многіх іншых, хто вырас пры Саветах, адзін час прыцягвала асоба Жукава, хаця разумею цяпер, што гэтая цікавасць была падагрэтая ўмелай прапагандай.

***В.Б.:*** Яны стварылі з яго ікону, стварылі культ, панаставілі помнікаў... Ім патрэбны быў свой, савецкі Георгій Пабеданосец. І сёння так званыя патрыёты часцяком карыстаюцца яго імем для скажэння фактаў. Звычайная фальсіфікацыя. Я памятаю гэтага генерала з часоў вайны і павінен сказаць, што рэальны генерал Жукаў быў увасабленнем жорсткасці.

***З.Г.:*** Вы калі-небудзь сустракаліся з ім падчас вайны?

***В.Б.:*** Не, у час вайны не давялося, але я ведаў многіх афіцэраў, якія яму падпарадкоўваліся, а эпізод, які я апісаў у апавяданні, абсалютна дакладны. Менавіта ўдзельнікі таго выпадку і расказалі мне гэтую гісторыю.

***З.Г.:*** А вам не даводзілася бачыць Жукава зблізку?

***В.Б.:*** Так, і не раз. Пасля вайны, як я ўжо расказваў, я нядоўга служыў у Нікалаеве, а Жукаў у той час – ён як раз знаходзіўся ў няміласці ў Сталіна – кіраваў Адэскай ваеннай акругай. Аднаго разу ён наведаў з праверкай нашую вайсковую частку. Вось тады ў мяне і была магчымасць назіраць яго метады працы і звычкі: яны былі проста агідныя!

***З.Г.:*** Ён паводзіў сябе як начальнік сталінскай закваскі?

***В.Б.:*** Так, і прычым самага нізкага кшталту: па-першае, ён атачыў сябе стукачамі. Па-другое, з’яўляючыся адным з вышэйшых ваенных чыноў і агульнапрызнаным героем вайны, ён абыходзіўся з баявымі афіцэрамі, сапраўднымі героямі, якія цудам выжылі ў гэтым крывавым пекле, як з граззю. Дайце, я раскажу толькі адзін выпадак, сведкам якому я быў. Кожную восень афіцэры арміі павінны былі праходзіць так званую атэстацыю. Гэтая атэстацыя пачыналася з фізічных практыкаванняў на гімнастычных снарадах. Ну вось, уявіце сабе, што ўсіх афіцэраў нашага аддзялення вывелі ў поле і далі каманду скакаць праз “казла”. Гэта была восень 1946 года, многім афіцэрам было ўжо за пяцьдзясят, большасць з іх перанеслі раненні. Яны марылі аб дэмабілізацыі і не былі фізічна падрыхтаваныя да такіх скокаў. Жукаў быў асабліва жорсткі да тых, хто меў высокія ўзнагароды і раненні, і прыніжаў кожнага з іх асабіста абразлівымі словамі. Жукаў прымушаў іх скакаць зноў і зноў, суправаджаючы каманды вокрыкамі і адборнай лаянкай. Ён лаяўся горш за басяка, абражаючы прыстойных людзей, якія аслаблі ад пастаяннага недаядання. І гэта толькі адзін выпадак – тыповы, урэшце... Жукаў, як і іншыя генералы Савецкай арміі, не атрымаў у спадчыну нічога з маральнага кодэксу афіцэра арміі дарэвалюцыйнай Расіі. Савецкія камандзіры ніколі нават не спрабавалі ставіцца да салдат па-чалавечы. Яны аддавалі перавагу метадам страху і запалохвання. Віктар Астаф’еў прааналізаваў і апісаў сапраўдны характар Жукава ў сваіх творах. За гэта ён быў абвешчаны “здраднікам вялікай рускай нацыі”.

***З.Г.:*** Хацелася б ведаць, кім? Пуцінцамі-распуцінцамі?

***В.Б.:*** Так, імі... Я люблю і глыбока паважаю яго: Віця піша праўду. Я захапляюся яго мужнасцю, я заўсёды буду ўзгадваць, як ён абараняў Беларускі Народны Фронт і мяне асабіста.

***З.Г.:*** Што гэта за гісторыя – я не ведаю.

***В.Б.:*** Памятаеце выпадак з “Дзядамі” ў 1988-м? Гэта было культурнае мерапрыемства, арганізаванае Беларускім Народным Фронтам. Мірных дэманстрантаў, якія неслі лозунгі пра культурную спадчыну беларусаў, міліцыя сустрэла слезацечным газам і дубінкамі. Гэтае нападзенне на людзей было арганізавана Сакаловым, першым сакратаром ЦК КПБ у той час.

***З.Г.:*** Я памятаю гэты выпадак. Вы былі на гэтым шэсці?

***В.Б.:*** Не, на жаль. Я быў за мяжой, але як сябра Беларускага Народнага Фронту быў добра праінфармаваны аб усім, што адбываецца, і пасля напісаў у “Огонёк” пра гэтае бясчынства і пра тое, як беларускі ўрад парушае правы свайго народа. Зрэшты, нашыя босы даклалі сваім босам у Маскве – і, канечне, Гарбачову, – што ў Мінску мела месца спроба мецяжу. Я быў выкліканы на сустрэчу ў Крэмль, не маючы ўяўлення, з якой нагоды мяне выклікаюць. У залі знаходзілася каля ста пяцідзесяці чалавек: былі прадстаўнікі інтэлігенцыі з усіх рэспублік, сярод іх некалькі пісьменнікаў. У прызначаны час Гарбачоў і ўсе члены Палітбюро з’явіліся ў зале і занялі месцы на сцэне, падрыхтаваныя для іх загадзя. Усе змоўклі, ніхто не разумеў, навошта нас сабралі. Гарбачоў пачаў сваю прамову на тэму перабудовы і развіваў яе даволі доўга: гаварыць ён умее, гэтага ў яго не адняць. Раптам без усякага пераходу ён павярнуўся да мяне і сказаў: “Васіль Быкаў, вы растлумачце нам лепш, што там здарылася ў Мінску і чаму”. Я быў заспеты знянацку. Я ведаў, што Гарбачоў цікавіцца не афіцыйнай версіяй падзеяў – лідары кампартыі і КДБ Беларусі ўжо даклалі яму аб усім. Таму я ўстаў і распавёў яму пра тое, як тысячы невінаватых людзей сталі ахвярамі ўрада Беларусі. О, Гарбачоў – гэта майстра маніпуляцый! Ён выслухаў мяне, не паказваючы ні спачування людзям, ні асуджэння дзеянняў улады, і падсумаваў: “Я не магу зразумець, як гераічны беларускі народ мог выступіць супраць свайго ўласнага, дэмакратычна абранага ўраду...” Я быў агаломшаны гэтай фразай і моўчкі сеў на сваё месца. Віця Астаф’еў, які сядзеў недзе ззаду і з якім у мяне не было магчымасці перамовіцца словам, выйшаў наперад і горача стаў гаварыць аб савецкіх метадах ціску на людзей, пералічыўшы апошнія факты на прыкладах таго, што адбывалася ў Расіі і ў Беларусі. Ён адкрыта назваў масу выпадкаў, калі ўлады папросту ілгалі, і гаварыў пра жорсткасць савецкай міліцыі. Ён быў смелы і пераканаўчы ў сваёй прамове. Астаф’еў так горача гаварыў пра беларусаў, што ў мяне слёзы выступілі на вачах. А вялікія начальнікі засталіся цалкам абыякавыя. Сядзелі з пустымі тварамі і рабілі нейкія пазнакі для сябе...

***

***З.Г.:*** Мы ўжо казалі, што страх – важны псіхалагічны фактар у жыцці любога чалавека. І ў мірны час, а ў ваенны – што і казаць. Усё напісанае пра вайну, што ў дакументальнай, што ў мастацкай літаратуры, так ці іначай закранае тэму страху. На ваш погляд – хто з сучасных пісьменнікаў даследаваў гэту тэму глыбей і мацней іншых у мастацкім плане?

***В.Б.:*** Калі вы маеце на ўвазе “ваенных” пісьменнікаў, то цяжка выдзеліць аднаго “самага магутнага”. Ува ўсіх пісьменнікаў знайшлося дастаткова таленту, каб шчыра і з веданнем справы падысці да гэтай тэматыкі. Думаю, адказ на вашае пытанне шмат у чым залежыць ад літаратурнага густу. Асабіста мне падабаюцца Някрасаў, Бондараў, Бакланаў больш за іншых. Адзначу таксама раман “Маскоўская вуліца” Барыса Ямпольскага. Ён быў вельмі добрым рускім пісьменнікам з Крыма, але не вельмі вядомым, на жаль. Яго “Маскоўская вуліца” – выдатнае літаратурнае даследаванне тэмы страху.

***З.Г.:*** Васіль Уладзіміравіч, вы прыйшлі ў літаратуру напярэдадні дваццатага з’езду партыі. Гэта быў перыяд некаторай лібералізацыі, ці не так? І калі ўзнікла паняцце “лейтэнанцкая проза”, крытыка адразу ж запісала вашыя творы ў гэты разрад. Але “лейтэнанцкай прозе”, наколькі я разумею, даводзілася яшчэ як змагацца за сваё права на існаванне. Дык вось, хто з “братоў па зброі” вам бліжэй за ўсё па духу?

***В.Б.:*** Нас была цэлая група – тых, хто працаваў у жанры ваеннай прозы, – група людзей майго пакалення: Бакланаў, Бондараў, Астаф’еў, Васільеў, Курачкін, Данііл Гранін і многія іншыя. Нягледзячы на тое, што мы натуральным чынам адрозніваліся адзін ад аднаго, прафесійнае адзінадушша паміж намі прысутнічала

заўсёды, асабліва спачатку. Гэтая блізкасць была, без сумневу, умоўнай, і яна грунтавалася на двух ключавых момантах: мы належалі да адной узроставай групы і нас аб'ядноўвала агульнае ваеннае мінулае. Гэта адрознівала нас ад аўтараў, якія належалі да больш ранняга пакалення, вельмі здольных пісьменікаў, такіх як Бек ці Казакевіч.

Да гэтага атраду аднадумцаў трэба яшчэ дадаць блізкіх нам па духу літаратуразнаўцаў. Сярод масквічоў гэта быў перш за ўсё Лазар Лазараў, і, канечне, наш беларускі пісьменнік і крытык Алесь Адамовіч. Нашае літаратурнае братэрства праіснавала некаторы час, але ў 1980-х яно паступова распалася. Некаторыя, на жаль, памерлі, іншыя змоўклі. У некаторых адносіны паступова разладзіліся. Асабіста я да гэтай пары адчуваю ўнутраную блізкасць да многіх з іх, у прыватнасці, да Віктара Астаф'ева, які працягвае ствараць цудоўныя творы там у сябе, у Краснаярску. Працягваецца і нашае сяброўства з Баклановым, хаця ён ужо адышоў ад нашай былой агульнай ваеннай тэмы.

***З.Г.:*** Але затое стаў рэдактарам аднаго з лепшых расійскіх часопісаў – "Знамя".

***В.Б.:*** Так... То бок ужо не – ён добраахвотна сышоў з гэтага паста, вызваліўшы дарогу для больш маладых, і засярodзіўся на сваёй прозе... Хаця з Юрыем Бондаравым мы ў палітычным плане знаходзімся па розныя бакі барыкадаў, я працягваю лічыць яго выключна добрым рускім пісьменнікам. Я высока цаню і шчыра люблю ўсе працы Данііла Граніна...

***З.Г.:*** Васіль Уладзіміравіч, гэтыя людзі былі блізкія вам па родзе вашай літаратурнай дзейнасці. Жывапіс вам таксама неабыякавы – яшчэ з часоў вашага юнацтва. А якія вашы густы ў іншых відах мастацтва, скажам, у музыцы?

***В.Б.:*** О, музыка... Па-першае, я павінен сказаць, што, хаця фізічна я яшчэ не зусім глухі, у музычным плане я не толькі абсалютна глухі, але і ў дадатак дрэнна адукаваны. Маё веданне і разуменне музыкі вельмі сціплае, хаця адным з найлепшых маіх сяброў у Беларусі быў беларускі кампазітар Глебаў. Вы пра яго чулі?

***З.Г.:*** Канечне – ён быў частым госцем у нашым доме, калі я была дзіцём. Яшчэ я памятаю, што айчым высока цаніў талент Глебава. Праўда, моцна засмучаўся з-за яго алкагалізму. Ён спіўся, ці памяць мяне падводзіць?

***В.Б.:*** Не, не падводзіць. У Глебава была гэтая згубная схільнасць, ад якой неймаверна пакутавалі і ён сам, і яго блізкія. Як бы тое ні было, у цвярозым стане ён быў самым абаяльным чалавекам з душой, якая ўсё разумее, душой вялізнай і пяшчотнай, лёгка ранімай – аб такім сябры можна толькі марыць. Мне яго вельмі не хапае... Мы пасябравалі яшчэ і таму, што нашы погляды на рэжым цалкам супадалі. Даволі часта нас абодвух лаялі за наш "апартунізм". Але Глебаў у сваім непрыняцці рэжыму і наогул становішча рэчаў быў нашмат больш просталінейным, чым я: ён ніколі не прапускаў выпадку выказаць свой пункт погляду. Многія не любілі яго за гэта, называлі нястрыманым і сварлівым чалавекам. Іншыя – і я ў тым ліку – лічылі яго чалавекам высокіх прынцыпаў. І нягледзячы на гэта, яго ўцягнулі ў партыю. Гэта быў чысты анекдот. Аднойчы ён прыйшоў да мяне і кажа: "Васіль, хочаш – вер, хочаш – не, але насуперак майму жаданню, я – член партыі". Я пытаю, як жа так выйшла, а ён сказаў, што не можа ўзгадаць, з чаго гэта пачалося: зусім магчыма, што ён сам і напісаў заяву, калі быў пад моцным градусам. Што ён запомніў, дык гэта само сумоўе перад уступленнем. Гэтыя іспыты праводзіліся, як вы ведаеце, групай вярхоўных жрацоў "камуністычнай царквы", сівагаловых старых, упрыгожаных ордэнамі і медалямі. Яны сталі задаваць яму звычайныя пытанні: калі і дзе адбыліся першы і дваццаты з'езды кампартыі... Ён не ведаў. У канцы яго спыталі, калі адбылася Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя. Ён і тут памыліўся. Камітэт проста анямеў ад такога "багахульства". Яны адправілі яго назад з вердыктам аб непадрыхтаванасці. Якім жа было здзіўленне

Глебава, калі праз тыдзень ён даведаўся, што, аказваецца, паспяхова здаў іспыт і быў прыняты ў партыю! Зрэшты, гэта адбылося ўжо ў канцы 80-х, калі членства ў партыі стала само па сабе анекдотам. Як бы там ні было, гэта адзіныя блізкія адносіны з чалавекам музычнага свету, якія ў мяне былі. І, магчыма, так як я любіў яго, я любіў і яго музыку таксама. Ён быў вельмі таленавіты кампазітар, і гэта прызнаюць людзі, якія больш за мяне разбіраюцца ў музыцы.

***З.Г.:*** А як наконт Лучанка? Ён быў вельмі актыўным пры Саветах і, здаецца, і цяпер застаецца набліжаным да беларускага кіраўніцтва. У мяне да яго асабістая антыпатыя. Калі мой айчым з'ехаў з Беларусі да нас у Канаду, Лучанок аддаў загад ліквідаваць яго музычныя архівы і забараніць яго музыку для выканання. У той жа час прызнаю, што ён з'яўляецца адораным кампазітарам-песеннікам. Мой айчым, Дзмітрый Камінскі, калі быў старшынёй Саюза кампазітараў, часта дапамагаў "маладому і здольнаму Ігару". Праўда, ён дадаваў: "Шкада толькі, што ў яго такая камсамольская жылка, здольны ж хлопец, мог бы абысціся і без гэтага!"

***В.Б.:*** У гэтым увесь Лучанок. Ён быў яшчэ і зацятым ворагам Глебава. Я ўжо казаў, што заўсёды імкнуўся пазбягаць бессэнсоўных палітычных спрэчак, асабліва з тымі, хто, як я ведаў, быў глухі да такіх тэм – за што Глебаў іранічна празваў мяне "голубам міру". Нашае сяброўства, зрэшты, ад гэтага ніяк не пацярпела.

***З.Г.:*** Я хацела вас спытаць пра Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава. Вы ж, здаецца, былі з ім знаёмыя.

***В.Б.:*** Я быў у яго дома літаральна за некалькі дзён да яго раптоўнай смерці. Божа мой... мне пашчасціла быць яго сябрам... Я таксама працаваў з Кавалёвым, які нейкі час быў бліжэйшым партнёрам Сахарава ў барацьбе за правы чалавека.

***З.Г.:*** Я ведаю, што нейкі час вы былі даволі цесна звязаныя з рускімі дэмакратамі.

***В.Б.:*** Не з усімі. Сучасны рускі дэмакратычны рух такі ж неаднастайны і цяпер, як было ў пачатку перабудовы. Думаю, мае погляды на гэтую тэму як мага больш ясна выказаныя ў маіх публічных выступах. Вось, паглядзіце, калі ласка, урывак з аднаго такога... *(Васіль Уладзіміравіч адкрыў старонку "Крестного пути", дзе напісана наступнае: "Мы любім і паважаем вялікую рускую нацыю з яе выбітнай культурай і цяжкай гісторыяй. Мы – за Расію Сахарава і Кавалёва, яе вядучых дэмакратаў і гуманістаў мінулага і сучаснасці. Але мы ніколі не прымем чырвона-карычневай Расіі, якая бязлітасна знішчае перш за ўсё саміх рускіх, вынішчае вольналюбівы і гераічны чачэнскі народ і мае намер падпарадкаваць сабе іншыя нацыі. У тым ліку і беларусаў. Мы не можам падтрымліваць рускіх імперыялістаў хаця б толькі таму, што мы цалкам на баку рускіх дэмакратаў".)* Такой была мая пазіцыя ў 1996 годзе, і яна застаецца нязменнай сёння.

***З.Г.:*** Якое вашае асабістае становішча ў Беларусі сёння. Ці адрозніваецца яно ад 1996 года?

***В.Б.:*** Тады, у 1996 годзе, улады зрабілі мяне ганаровым грамадзянінам Ушацкага раёна, месца, дзе, як вы ведаеце, я нарадзіўся. Сёння яны абыходзяцца са мной, як з якімсьці злачынцам. Я ж казаў вам – яны знайшлі нейкага майго цёзку, ён нешта там нарабіў, і вось ужо цэлы тыдзень яны трэплюць маё беднае імя па радыё, выдаючы яго за мяне. Мае землякі слухаюць іх праграмы, пабудаваныя на хлусні і прапагандзе, і думаюць, што я сапраўды маю дачыненне да гэтага выпадку.

***З.Г.:*** Я ўпэўнена, што людзі ў Беларусі ведаюць вас лепей, чым вы мяркуеце.

***В.Б.:*** Вы недаацэньваеце сілу дэзінфармацыі. Лыжка праўды ў бочцы хлусні можа зрабіць праўдападобным усё, што заўгодна. Простае супадзенне імёнаў – як у гэтым выпадку – можа стварыць цуд. Бо ж жыхары Ушацкага раёна глядзяць тэлевізар і слухаюць радыё...

***З.Г.:*** На жаль, вы, напэўна, маеце рацыю. Але ж уся гэтая хлусня – не больш чым аднадзёнка, век яе кароткі.

***В.Б.:*** Паслухайце, вось яшчэ адна гісторыя. Міліцыянты прыйшлі да Чыгіра дамоў. Яго жонка не пускала іх у кватэру. Тады яны скруцілі ёй рукі, а яна, супраціўляючыся, укусіла аднаго з іх за вуха. Разбіральніцтва цягнулася некалькі месяцаў, пакуль не быў вынесены прысуд: жонка Чыгіра атрымала хай умоўны, але ўсё ж такі тэрмін – яе абвінавацілі ў жорсткім нападзе на “беднага” міліцыянта.

***

***З.Г.:*** Можна спытацца, што вы думаеце пра пісьменнікаў-эмігрантаў? Хто з іх вам больш блізкі па духу, калі можна так сказаць?

***В.Б.:*** Я высока цаню грамадзянскую мужнасць, палітычную пазіцыю і, канечне, літаратурныя творы Георгія Уладзімава і Уладзіміра Вайновіча. Яны абодва належаць да пакалення, якое маладзей за маё, я паважаю іх прынцыпы і ўменне пастаяць за іх. Я цаню літаратуру эміграцыі ўсіх пакаленняў. Цяпер лепш, чым калі-небудзь, я разумею, праз што прайшлі гэтыя пісьменнікі і чаму яны былі вымушаныя пакінуць радзіму. Асабліва блізкі мне нябожчык Віктар Някрасаў, Віка, як усе мы яго называлі. Таксама, дарэчы, аматар “малога жанру”...

***З.Г.:*** Але ж вы паспяхова працуеце не толькі ў “малым жанры”. “Мёртвым не баліць”, “Кар’ер” і “Знак бяды” – гэта ж усё раманы.

***В.Б.:*** Ну... Па меншай меры, крытыкі пагадзіліся іх так называць.

***З.Г.:*** Кажуць, што бацькі любяць самых малодшых сваіх дзяцей больш, чым старэйшых. Ці адчуваеце вы падобнае ў адносінах да сваіх нядаўніх твораў? Ці ёсць у вас любімыя творы – не важна, якога перыяду?

***В.Б.:*** Не, наўрад ці. Я ніколі не адчуваў нейкай асаблівай прыхільнасці да таго ці іншага твора. Канечне, пабачыць недахопы твора заўсёды лягчэй, калі ён ужо апублікаваны. Чытаеш надрукаваны тэкст, і нейкія пустоты, бясколерныя словы адразу ж кідаюцца ў вочы. Але я рэдка вяртаюся да ўжо напісанага. Адзінае, што стараюся рабіць, – гэта ўлічыць свае пралікі ў будучай працы і не паўтараць былых хібаў. Зрэшты, гэта мне рэдка ўдаецца...

***З.Г.:*** Вашыя чытачы наўрад ці з гэтым пагодзяцца. Дык вы не можаце назваць ні аднаго свайго любімага твора?

***В.Б.:*** Не, любімых у мяне няма. Некаторыя рэчы я не люблю, напрыклад, з-за іх назвы. Два мае творы называюцца вельмі падобна – “Воўчая зграя” і “Воўчая яма”. Калісьці мне гэтыя назвы падабаліся, цяпер не. Ці, скажам, “Сотнікаў”. Я не хацеў так называць гэты раман... Гэта была ініцыятыва Твардоўскага. І нават цяпер я думаю, што мой першапачатковы загаловак – “Ліквідацыя” – лепш бы паказаў сутнасць твора. За гэтым словам, якое шырока выкарыстоўвалася ў перыяд вайны, – сапраўдныя падзеі і рэальныя паняцці. Ці бачыце, і нямецкая, і беларуская паліцыя не спраўляліся са следствам па справах у час, і часта пад арыштам апынялася больш людзей, чым маглі змясціць турмы. Тады паліцэйскія адбіралі групу зняволеных – чалавек пяцьдзясят-шэсцьдзесят – і змяшчалі іх у які-небудзь хлеў пад узмоцненую ахову. Час ад часу яны хапалі некалькі першых, хто трапляўся, вязняў і знішчалі. Такія пакаранні на мове паліцэйскіх называліся страшным словам “ліквідацыя”. У мяне ў рамане ёсць эпізод, дзе якраз і апісваецца падобная сітуацыя. Ну і акрамя таго, які сэнс даваць твору назву толькі аднаго з галоўных герояў – “Сотнікаў”? Бо ж асноўны драматычны канфлікт сюжэта роўным чынам падзелены паміж двума героямі – Рыбаком і Сотнікавым. Калі ўжо выкарыстоўваць у назве імя ўласнае, то іх павінна быць два. Я разумею, што Твардоўскі імкнуўся такім чынам супакоіць цэнзараў, але ўсё роўна лічу назву “Сотнікаў” няўдалай, слабай. Але я не хачу ўжо нічога змяняць. Хай застаецца, як ёсць.

***З.Г.:*** Вашыя ўзаемаадносіны з некаторымі былымі калегамі па пяру, якія ў свой час выступалі за лібералізацыю савецкай палітыкі ў галіне мастацтва, сёння даволі складаныя, ці не так? Я маю на ўвазе адносіны з Распуціным, Бяловым, Праскурыным і іншымі.

***В.Б.:*** Наадварот, яны вельмі простыя. У цяперашні час гэтыя людзі – некаторыя з іх сапраўды былі калісьці маімі сябрамі – займаюцца тым, што ганьбяць усё, што я адстойваю, і ў той жа час яны ўсхваляюць Лукашэнку. З іх пункту погляду, ён – адзіны абаронца сапраўдных славянскіх каштоўнасцяў. Яны пастаянна публікуюць у беларускіх і маскоўскіх газетах артыкулы, у якіх пішуць, што беларускі прэзідэнт – адзіная апора славянства, у той час як Быкаў – здраднік беларускага народа. Канечне, непрыемна чытаць усё гэта, але, з іншага боку, мне шкада і балюча за іх слепату. Таму, быць можа, сапраўды маё расчараванне ў іх дзеяннях – не такое простае пачуццё.

***

***З.Г.:*** Васіль Уладзіміравіч, мы абмеркавалі шмат тэмаў, а вашага ўдзелу ў палітыцы практычна не крануліся. А вы ж актыўна ўдзельнічалі ў ёй больш за два дзесяцігоддзі. Цяпер вы імкнецеся пазбягаць гэтага роду дзейнасці. Ці можна спытаць – чаму?

***В.Б.:*** А чаму я не ў Беларусі, а тут? Калі з’явілася надзея на станоўчыя змены на радзіме, я сапраўды стараўся падтрымаць гэтую надзею рэальнай працай. Я браў удзел у кіраўніцтве Народным Фронтам, шмат пісаў, выступаў на мітынгах і дэманстрацыях, якія маглі дапамагчы справе... А калі зразумеў, што наш народ на гэты момант аддае перавагу старому ладу жыцця, блізкаму да савецкага, калі не горш, я вырашыў спыніцца. Стала немагчыма і бессэнсоўна працягваць такую працу. Беларускае кіраўніцтва адрэзала ўсе шляхі зносінаў з народам, пастаралася стварыць мне рэпутацыю літаральна злачынца. Тады я з’ехаў за мяжу, каб працягнуць пісаць. Можа быць, такім шляхам я змагу быць карысным нашаму народу. Час рассудзіць...

***З.Г.:*** Ён ужо цяпер расстаўляе ўсё па сваіх месцах. Вы займаеце законнае пачэснае месца ў беларускай гісторыі і беларускай літаратуры.

***В.Б.:*** Я ў гэтым не ўпэўнены. А калі вы пра вядомасць, дык яна ў сапраўднасці не мае значэння. Я збіраюся працягваць пісаць, і гэта мая адзіная мэта ў жыцці.

***З.Г.:*** Васіль Уладзіміравіч, вы ўжо прабачце мяне за патэтыку, але ж і сапраўды многія рускія пісьменнікі лічаць вас гонарам пасляваеннай літаратуры. І ў вас цудоўная руская літаратурная мова. Тым не менш вашай працоўнай мовай заўсёды была беларуская, і раней вы ніколі не думалі мяняць яе на расейскую. Магчыма, цяпер, калі ў Беларусі склалася для вас такая цяжкая сітуацыя, а ў Расіі больш чытачоў адкрытыя вашаму слову, вы б падумалі аб тым, каб перайсці на расейскую?

***В.Б.:*** Я ніколі гэтага не зраблю. Канечне, мая расейская цалкам адпавядае таму, каб на ёй пісаць. Яна палепшылася дзякуючы маёй перакладніцкай практыцы. Але навошта мне гэта рабіць? Дзеля чаго? Я лічыў бы такі “пераход” жахлівай здрадай у адносінах да майго роднага слова і, канечне, у першую чаргу да сябе самога.

***З.Г.:*** Вы заўсёды былі талерантны да беларускіх пісьменнікаў, што пішуць па-расейску.

***В.Б.:*** Я і працягваю думаць так: у кожнага беларускага пісьменніка ёсць права на выбар мовы: расейскай, яўрэйскай, татарскай ці беларускай. Асабіста я выбраў сабе права пісаць на сваёй роднай, на беларускай.

*Люты 2001 г.,*
*Франкфурт-на-Майне.*

Мікола Нікалаеў



...павага да літаратараў –
агульная рыса
савецкіх грамадзянаў...

# Першы японец у Савецкай Беларусі

Калі пачаліся культурныя кантакты паміж Беларуссю і Японіяй і хто быў іх ініцыятарам? Хто першы з японцаў пабываў на Беларусі і як расказаў сваім землякам пра гэта?

Гісторыя падрыхтоўкі гэтай публікацыі заслугоўвае, каб напачатку прыгадаць некалькі яе фрагментаў. Пачалося з таго, што ў канцы 20 стагоддзя ў Санкт-Пецярбургу аўтар гэтых радкоў разам з двума даследчыкамі з Токіа рыхтаваў публікацыю газетных матэрыялаў, прысвечаных першым пасольствам з Японіі ў Расійскую імперыю. У тых газетных нататках часта ўспаміналі перакладчыка з японскай, беларуса Іосіфа Гашкевіча. Я з гонарам расказваў калегам біяграфію свайго земляка (добра вядомую, дзякуючы прафесару А. Мальдзісу і іншым беларусістам). Ад Гашкевіча і яго маці (а не ўсе ведаюць, што маці нашага падарожніка жыла з ім у Японіі) японцы маглі пачуць пра Беларусь. А калі першы японец пабываў у нашых краях і што, вярнуўшыся на радзіму, расказаў землякам? – задаваў я пытанне. І атрымаў адказ: прафесар Такуакі Баннай і яго жонка, перакладчыца (і выкладчык) рускай мовы Тамока Баннай

прывезлі ў падарунак бібліяграфічную, як на сённяшні дзень, рэдкасць – кнігу Удзяку Акіта «Маладая Савецкая Расія». Кніга выйшла ў Токіа ў 1928 годзе, і ў ёй напісаны не радкі – старонкі – прысвечаныя Беларусі.


*Удзяку Акіта.*

Калі ж пачаў кнігу гартаць – раптам убачыў фотаздымкі беларускіх пісьменнікаў разам з аўтарам. Там і Кандрат Крапіва, і Змітрок Бядуля, і Паўлюк Шукайла, і Пятро Глебка... Удзяку Акіта ў свой час быў вельмі вядомым драматургам – 15 ягоных п’ес ішлі ва ўсіх такійскіх тэатрах. Ён наведаў Беларусь у 1928 годзе, падчас візіту ў СССР. Яго прымалі літаратары, пра яго пісалі газеты, у часопісах з’яўляліся фотаздымкі. Вярнуўшыся на радзіму, ён напісаў падрабязную справаздачу (кніга адразу ж была надрукаваная) – Японія хацела ведаць, як жыве яе заходні сусед і для выведкі паслала вельмі вартага і – што немалаважна – добразычлівага назіральніка. Пазней, калі Акіта памёр (а дажыў ён да 1963 года), выйшла пяць тамоў яго мемуараў: «Дзённік». Т. 1-5. Токіа, 1965-1967.

Дзённік, у адрозненне ад літаратурных (ці публіцыстычных) твораў, пішацца шчыра і для сябе. Дзякуючы прыжыццёвым кнігам (акрамя згаданай «Маладой Савецкай Расіі» гэта яшчэ і «Аўтабіяграфія». Токіа, 1953. – 355 стар.) і пасмяротнай публікацыі «Дзённіка» Удзяку Акіта мы можам паглядзець на Мінск канца 1920-х гадоў вачыма далёкага госця. Хай сабе побыт кароткачасовы, а знаёмствы павярхоўныя. Аднак вострае вока мастака спыняецца на дробязях (часам натуралістычных – як коні выпусцілі газы перад выездам з гораду, як клоп паўзе па кажуху вазніцы), альбо не заўважных для нас культурных адрозненнях (Акіту дзівіць, што дзеці ў вёсцы ўскочылі ў чужыя санкі, каб падкаціцца) даюць багаты малюнак беларускай рэчаіснасці і дапамагаюць зразумець душу назіральніка – японскага інтэлігента. Дарэчы, пра малюнкі: калі я ўважліва, з лупай, разглядаў японскую кнігу 1928 года, пад некаторымі малюнкамі ўбачыў манаграму «ГЗ» – гэта манаграма выдатнага беларускага кніжнага мастака-рысавальшчыка Генадзя Змудзінскага. Пра яго ў кнізе і ў той частцы «Дзённіка», які падрыхтаваў да друку Такуакі Баннай, успамінаў няма. Аднак малюнкі – вось яны, цалкам адпаведныя малюнкам Г. Змудзінскага ў «Букварах» і «Лемантарах» для непісьменных, што выдаваліся масавымі накладамі ў Мінску і Гомелі. Прасвятліць сітуацыю маглі б матэрыялы з музея-архіва Удзяку Акіта ў горадзе Кураісі (прэфектура Аоморы) аднак музей у гады апошняга фінансавага крызісу быў зачынены...

Напярэдадні візіту Удзяку Акіты ў Мінск японская культура і літаратура не былі для беларускага чытача *terra incognita*, невядомай краінай. Прынамсі, у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі ў 1927 г. выйшла асобнай кнігай паэма-фантазія Міхася Чарота «Чырвонакрылы вяшчун», дзе ёй былі прысвечаны такія радкі:

Японія...
Край узыходзячага сонца,
Пад пропэлера перазвоны
Быў асьвечан Фузі-Ямай.
Помню я:
Гарады заліты
Выбухам з вогненай ямы
Гаручага чырвонца...
Край усходзячага сонца –
Сілы падземнай ахвяры...

У тым жа 1927 г. з'явіліся публікацыі Змітра Снежкі[1]. Сярод аглядаў замежнай літаратуры была публікацыя (падпісаная толькі ініцыяламі), прысвечаная літаратуры японскай[2]. Асобныя творы японскіх аўтараў з'яўляліся ў беларускіх перакладах, прытым для перакладаў абіралі творы пераважна пралетарскіх пісьменнікаў[3]. У 1930 г. асобнай кнігай выйшла апавяданне Сэйкіці Фульдзіморы "Уцякач", а праз два гады ў перакладзе Алеся Пальчэўскага[4].

Значная колькасць кніг японскай тэматыкі мела ідэалагічную накіраванасць, аднак і ў гэтым выпадку яны знаёмілі беларускага чытача з далёкай краінай[5].

Для беларускага чытача былі даступныя і арыгінальныя тэксты японскіх аўтараў[6].

Эпоха сталінскіх рэпрэсій практычна спыніла працу над перакладамі японскіх аўтараў на Беларусі – хаця і не цалкам, пра што сведчаць выданні канца 20 стагоддзя: *Коба Абэ* "Жанчына ў пяску"; Чужы твар. Раманы. – Мінск, 1986. *"Медуза і малпа"*. Японскія казкі. – Мінск, 1988. Да гэтых двух пазіцый мы можам дадаць хіба што плакат, выдадзены ў Віцебску ў 2003 г.: *Коба Абэ*. "Жанчына ў пясках": Сучасная прыпавесць на 2 часткі. Нацыянальны драматычны тэатр імя Якуба Коласа. Рэжысёр І. Баярынцаў.

---

[1] *Сьнежка Зьм.* "Літаратурная Японія: нататкі аб літаратурным жыцці Японіі па лістох, што атрыманы з Японіі на мове эсперанта". // Узвышша. 1927. № 3. – С. 176-180. *Сьнежка Зьм.* "Японскі пісьменнік Ужаку Акіта". (Матар'ял для гэтага артыкулу атрыман ад самога пісьменніка)// «Чырвоны сейбіт». Двухтыднёвы літаратурна-мастацкі дадатак да «Беларускай вёскі». Студзень, 1927 г. № 2 (22). – С. 12. Апошні сказ гэтага артыкула быў такі: «Ужаку Акіта каб пазнаёміцца з культурным жыцьцём БССР, неўзабаве прыяжджае ў Менск.». Трэба сказаць, што пасля візіту імя пісьменніка ўжо пісалі больш адпаведна аргыгіналу: Удзяку Акіта.

[2] *В.С.* "Аб японскай літаратуры"//Маладняк. 1927. № 9. – С. 105-106.

[3] *Хаяма Йосікі.* "Ліст з цэмантовае кадушкі" [пераклад з японскае мовы К.Т.] // «Чырвоны сейбіт». Літаратурна-мастацкі дадатак да «Беларускай вёскі». Жнівень, 1928 г. № 8 (28). С. 13-14. Ад імя аўтара пры загалоўку зроблена адсылка: *Хаяма Іосікі – японскі пролетарскі пісьменнік.*

[4] *Кадзуо Като.* "Пад націскам хваляў". (Раман з японскага жыцця). Менск, Юндзетсектар БДВ. 1932. – 128 с.

[5] *Дашынскі С.* "Японія ў Манчжурыі". ДБВ. 1929. [Дашынскі С. – псеўданім. Сапраўднае прозвішча аўтара, супрацоўніка разведвальнага ўпраўлення Штабу Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, Аляксандр Матвеевіч Ніканаў. Пазней (у 1932 г.) кніга «Японія ў Манчжурыі» выйшла ў Маскве двума выданнямі, тыражом 150 тыс. экз.]. *Алег.* "Ваенна–экономічная структура Японіі". – Менск, ДБВ. 1932. – 25 с. *Борысаў.* "Работніцы Японіі". – Менск, 1935.

[6] *Фусао Хаясі.* "Кніга з малюнкамі, у якой няма малюнкаў". Менск, Белдзяржвыдавецтва, 1930. [серыя «Інтэрнацыянальнае выхаванне мас», 48 с., тыраж 5000 экз. пераклад А. Галубовіча. На вокладцы назва падаецца крыху іначай: «Кніга з малюнкамі ў якой няма малюнкаў»]. *Осака К.* "Укіё-э. З нядаўняга мінулага японскага мастацтва". // Чырвоная Беларусь. № 17. (10 верасня 1930). С. 18. *Окано.* "Рэволюцыйная барацьба працоўных мас Японіі". Прамова на XIII пленуме ВККІ. Менск, Партыйнае выдавецтва, 1934. [34 с., тыраж 8000]. *Нацума-Вотык.* "Японская школа і дзеці". Менск, 1935.

* * *

Нашая публікацыя складаецца з некалькіх фрагментаў. Спачатку – з ласкавай згоды прафесара Такуакі Банная – мы друкуем тэкст яго выступлення на міжнароднай канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура» ў 2012 г., потым – урывак з кнігі 1928 г. «Маладая Савецкая Расія», і нарэшце, – фрагмент "Дзённіка" Удзяку Акіта (па выданні: "Дзённік". Т. 2: 1927-1934. Токіа, 1965. – 428 с.).

Вось звесткі пра некаторых асобаў, чые імёны згадваюцца ў публікацыі (аўтар дзякуе супрацоўнікам Беларускага архіва-музея літаратуры і мастацтва за дапамогу ў пошуку гэтых звестак):

Сьнежка Зьміцер (сапраўднае імя Белы, Зміцер Сямёнавіч, нарадзіўся 24.09.1903). Адзін з лідараў руху эсперантыстаў на Беларусі, пераклаў на беларускую мову п'есу Акіту «Скачок шкілетаў». Арыштаваны 05.02.1936 г. Далейшы лёс невядомы.

Айзенберг Абрам – акцёр, рэжысёр-асістэнт. У канцы 1920-х – 1930-я гг. працаваў у Дзяржаўным габрэйскім тэатры БССР. Загінуў на Другой сусветнай вайне (у апалчэнні пад Масквой у 1941 г.).

Бандарчык Таццяна Андрэеўна (12.11.1902 – 24.04.1974), актрыса. Скончыла Беларускую тэатральную студыю ў Маскве (1926), у 1926 –1948 гг. працавала ў тэатры імя Якуба Коласа, у 1956 – 1967 – у Бабруйскім вандроўным беларускім драматычным тэатры.

**Такуакі Баннай**

*(Універсітэт Хітоцубасі, Токіа, Японія)*

## Адзін японец у Беларусі ў 1928 г.

У канцы лютага 1928 года адзін японец прабыў тыдзень на Беларусі. Імя гэтага японца – Удзяку Акіта: марксіст, эсперантыст, знаўца індыйскай філасофіі і будызму, выдатны японскі дзеяч культуры таго часу. «Удзяку» – гэта літаратурны псеўданім, яго сапраўднае імя – Токудзо. Псеўданім «Удзяку» – літаральна «верабей, прамоклы пад дажджом», ён абраў сабе сам. У Японіі, у адрозненне ад Беларусі, верабей лічыцца нікчэмным; выбраўшы такі псеўданім, ён наўмысна прынізіў сябе.

Хацелася б каротка расказаць пра Акіта. Ён нарадзіўся ў 1883 годзе ў г. Куроісі, які знаходзіцца на востраве Хонсю ў самай паўночнай частцы прэфектуры Аоморі. Яго бацька быў сляпым акушэрам, у аўтабіяграфіі Удзяку піша, што «бацька правёў усё жыццё, не бачыўшы дзяцей». Аднак ён быў настолькі вядомым урачом, што яго нават называлі «Богам нованароджаных». Я лічу, што шмат у чым дзякуючы ўплыву бацькі Удзяку меў высокія памкненні служыць на карысць грамадства, стаў сапраўдным інтэлігентам.

Удзяку рана пачаў творчы шлях як пісьменнік і паэт. Акрамя гэтага, ён актыўна працаваў у шмат якіх іншых жанрах: драматургія, дзіцячая літаратура, літаратурная казка, танка, пераклады замежных літаратурных і драматургічных твораў. У апошнія гады жыцця ён працаваў дырэктарам школы драматычнага мастацтва і займаў пасаду кіраўніка Асацыяцыі дзіцячых пісьменнікаў Японіі. Я хацеў бы падкрэсліць, што зыходзячы з яго цікавасці да руху эсперантыстаў і да камунізму, і з таго, што ён быў і культурным дзеячам, і арганізатарам, і з таго, што бачыў неабходнасць у дзейнасці па міжнародным культурным абмене, Акіта быў чалавекам з глабальным успрыняццем, вельмі рэдкім для Японіі першай паловы 20-га стагоддзя.

На тое, што ён быў выключным у гісторыі Японіі новага часу культурным дзеячом «энцыклапедычнага» складу паказваюць гісторыя яго жыцця і дзейнасці і

твор, які заслугоўвае найбольшай увагі – паважных памераў дзённік, які застаўся пасля Удзяку. Ён пісаў яго амаль 47 гадоў. Пачаў у лютым 1915 года і перастаў пісаць у студзені 1962 года прыкладна за тры месяцы да смерці. Адна з частак дзённіка была канфіскавана паліцыяй, калі Акіта быў арыштаваны. Дзённік, які складаўся з 47 сшыткаў, пазней быў выдадзены ў пяцёх тамах (2300 старонак). Калі разглядаць яго з пункту гледжання гісторыі японскага мастацтва і культуры новага часу і гісторыі міжнароднага культурнага абмену, дзённік і да сёння з'яўляецца не страціўшым сваю каштоўнасць летапісам таго часу.

У студэнцкія гады акрамя таго, што быў глыбока ўзрушаны лістом Л.М. Талстога японскім сябрам супраць руска-японскай вайны, Акіта быў захоплены рускай літаратурай, як ён пазней пісаў у «Храналогіі жыцця»: «Сапраўдную павагу да літаратуры мне прывіла менавіта руская літаратура». Зачараваны Расіяй з маладых гадоў, Акіта, акрамя эсперанта, самастойна вучыў рускую мову, рыхтуючыся да паездкі ў Савецкі Саюз.

Яму было 45, калі ён, паставіўшы мэту: «хачу ўбачыць новае грамадства», – атрымаў запрашэнне прыняць удзел у святкаванні Дзесяцігоддзя Савецкай Сацыялістычнай Рэвалюцыі і наведаў Савецкі Саюз восенню 1927 года. 30 верасня 1927 г. ён разам з памочнікам рэжысёра Мейерхольда Гаўзнерам і перакладчыкам Нарумі Кандзо адбыў з Токіа і па Транссібірскай магістралі дабраўся да Масквы 13 кастрычніка, дзе іх сустрэлі прадстаўнікі ВОКСу – пісьменнік Б.А. Пільняк з жонкай. У Савецкім Саюзе ён правёў каля 7 месяцаў да мая наступнага года, галоўным чынам у Маскве, аднак пабыў і ў Харкаве, і ў Баку, прабыў 2 тыдні ў Тыфлісе, у Ленінградзе – каля тыдня з 22 снежня 1927 года. Увесь гэты час ён з велізарным энтузіязмам і вельмі ўважліваназіраў за жыццём савецкага грамадства, сустракаўся з многімі дзеячамі мастацтва, пераважна з тэатральных і літаратурных колаў: В.Г. Лідзіным, С.М. Трэцяковым, А. Серафімовічам, супругамі Мейерхольд, К.С. Станіслаўскім, Кніппер, Масквіным, Качалавым, Міхаілам Чэхавым, Наталляй Сац і іншымі.

У Ленінградзе Акіта спыніўся ў Доме вучоных. 24 снежня наведаў Публічную бібліятэку, таксама ў Акадэміі Навук сустрэўся з акадэмікам Ольдэнбургам.

Яго візіт у Мінск прайшоў з 24 лютага па 1 сакавіка 1928 года. На вакзале яго сустрэлі Рыгор Рапапорт, Снежка і Айзенберг правялі да гасцініцы. Акіта прабыў там менш тыдня, аднак праграма яго падарожжа была надзвычай насычанай. Асноўных пунктаў было чатыры: 1. Візіт у Інстытут Беларускай культуры; 2. Наведванне тэатральных пастановак; 3. Візіт на вёску ў прыгарадзе Мінска; 4. Культурны абмен з беларускімі дзеячамі культуры (праслухоўванне народных песень у выкананні актрысы Бандарчык).

З трох спектакляў, якія ён паглядзеў, найбольшую цікавасць выклікаў «Цар Максіміліян», пастаўлены ў Габрэйскім тэатры (26-га лютага). У «Дзённіку» Акіта зазначае, што аўтар п'есы Міцкевіч, рэжысёр Сімсілаеў, дэкаратар Нікіцін, і апісвае сюжэт. У пастаноўцы «актыўна выкарыстоваліся беларускія народныя песні і скокі», а таксама «дэкарацыі былі вытрыманы ў стылі канструктывізму, сама пастаноўка – у рамках свайго роду «народнага сімвалізму»», «няма ніводнага рэалістычнага элемента, але вельмі эфектна», – піша ён. Варта ўвагі тое, што Акіта называе гэты спектакль «Кёгэн». «Кёгэн» – «камічная інтэрмедыя» – адзін з шырока вядомых і да сёння традыцыйных японскіх драматычных жанраў у Кабукі і Но.

Адзін з дзён беларускай паездкі Акіта, які хацеў паглядзець на сельскае жыццё, правёў у вёсцы ў прыгарадзе Мінска. Яго суправаджалі двое – Зміцер Снежка, эсперантыст, які цікаваўся Японіяй і Паўлюк Шукайла, паэт, які нажыць (па вызначэнні Акіты) да літаратурнай групы ЛЕФ. Яны пабылі ў Каралішчавічах і размешчанай там камуне «Бальшавікі» (16 дамоў, 87 чалавек) у 20 вёрстах ад

Мінска. Тут Акіта атрымаў магчымасць пабыць у сялянскім доме. У дзённіку ён піша, што на сцяне ў гэтым доме віселі партрэты Янкі Купалы, Якуба Коласа і Сталіна. Потым у доме Пласцінскага ён пабыў на бяседзе ў беларускай традыцыі. У «Аўтабіяграфіі» (стар. 148-149, стар. 153) ён напіша, што «заслугоўвае асобнага ўспамінання той факт, што сяляне самі адбілі гэту зямлю ў польскіх захопнікаў, і будуюць там такую цудоўную агульную гаспадарку».

У клубе настаўнікаў і літаратараў таксама як і ў Маскве, ён прачытаў лекцыю пра сацыяльную сітуацыю, адукацыю і літаратуру ў Японіі і адказаў на шматлікія пытанні. Асабліва часта з’яўляліся пытанні ад тэатральнай аўдыторыі пра японскія тэатры Кабукі і Но. Зыходзячы з гэтага, робіцца зразумелым, што і ў Мінску таго часу была моцная цікавасць да традыцыйнага тэатра Японіі. Застаецца толькі здагадвацца, што ж адказаў на пытанні Акіта. Аднак, мне здаецца, паколькі погляды на тэатр Акіта атрымаў ад «бацькі» японскага тэатра новага часу Осанаі Каору (1881-1928), ён, напэўна, расказаў пра праблему магчымасці сінкрэтызму паміж хутка ўкараняемым сучасным еўрапейскім тэатрам і традыцыйнымі тэатрамі Но, Кабукі, Кёгэн, якая займала ў той час японскую тэатральную супольнасць.

[...]

Нягледзячы на невялікую працягласць візіту, Удзяку Акіта застаўся пад глыбокім уражаннем ад наведвання беларускай вёскі і ад кантактаў з мясцовымі дзеячамі культуры. Ён не толькі адправіў у японскую газету артыкул, у якім апісаў гэтыя ўражанні, яшчэ ў час свайго знаходжання ў Савецкім Саюзе (Беларускія вёскі – артыкул у газеце «Асахі» 1928.4.22–4.25), але і пасля вяртання дамоў прачытаў пра гэта мноства лекцый і дакладаў. Акрамя таго, згадаў у сваім творы «Маладая Савецкая Расія» (1929 г.). Абапіраючыся на свае меркаванні і назіранні, ён сам з надзеяй і аптымізмам глядзеў на «новае грамадства». Ён паказвае на «магчымасць стварэння культуры, якая пераадолела нацыянальныя пачуцці», у яго закліку аб неабходнасці «рэвалюцыі ў культуры» ёсць гістарычнае значэнне, актуальнасць. Не гледзячы на тое, што назіранні Акіта павінны былі стаць важным крокам у гісторыі беларуска-японскага культурнага абмену, на жаль, у сучаснай Японіі няма пераемнікаў, якія прытрымліваліся б ягоных поглядаў.

## Удзяку Акіта

*З кнігі «Маладая Савецкая Расія»*

### Жыццё савецкай вёскі

*Наведванне беларускай вёскі*

На пяты дзень майго знаходжання ў беларускай сталіцы, горадзе Мінску, то значыць 28-га лютага, я сказаў сябрам, што хацеў бы пазнаёміцца з жыццём на вёсцы. І да двух гадзінаў дня ўсё было гатова да ад’езду, дзякуючы вядомаму эсперантысту Сняжко (яго прозвішча вядомае большасці нашых эсперантыстаў, ён любіць Японію і шмат пра яе ведае). Мэтай нашай экспедыцыі была абрана адна цікавая вёска, дзе настаўнікам малодшых класаў некалі працаваў таварыш Шукайла – паэт ЛЕФа, энтузіяст, кіраўнік аб’яднання «РОСКВІТ». Таму нельга сказаць, што ён склаў нам кампанію – ён павёз нас туды хутчэй у якасці экскурсавода.

Мінск – гэта вялікі горад недалёка ад дзяржаўнай граніцы з Польшчай, з насельніцтвам каля 140 тысяч чалавек. Ён у нечым нагадвае японскі горад Сэндай і ў той жа час падобны на інтэрнацыянальныя гарады кшталтам Харбіна, таму што ў ім жывуць рускія, беларусы, яўрэі, палякі, татары, і кожны народ гаворыць на сваёй мове і будуе свае школы.

Пасля рэвалюцыі беларуская культура атрымала вялікае развіццё. Да прыкладу, да рэвалюцыі беларуская мова не была дазволена ў якасці афіцыйнай мовы. Я меркаваў, што і ў спосабе вясковага жыцця адбыліся несумненна вялікія перамены. І каб пераканацца ў гэтым, я накіраваўся на вёску.

Каля трох гадзінаў дня перад гасцініцай «Еўропа», дзе я пасяліўся, спыніліся сані, запрэжаныя двума коньмі. Сняжко доўга прабачаўся і тлумачыў, што з-за таго, што шмат выпала снегу і машына не праедзе, прыйшлося ўзяць сані. Я ж, наадварот, вельмі абрадаваўся магчымасці праехаць на вялікіх і нязвыклых для мяне санях. «Ну, ба-ба-байдзему!» (Ну, пойдзем!), – сказаў, заікаючыся, лефавец Шукайла і, узяўшы мяне за плечы, пасадзіў у санкі. Сняжко сеў злева ад мяне. «Басукарэ!» (Паскарэй!), – сказаў Шукайла, і адразу свіснула пуга, і коні панеслі па праспекце Мінска. Прахожыя спыняліся і са здзіўленнем глядзелі на вялізныя сані. Пакуль мы ехалі Шукайла надзеў на мае туфлі і высокія боты, якія ўзяў з дому.


の性質を有つてゐる。ミンスクの文化的に解放されたのは革命後の事で、革命前には白ロシヤの言語さへも公用語としては許されなかつた位であつた。それゆゑ革命前までの農村生活と、革命後のそれとの間には非常な變化が起つてゐるに相違ないと私は想像した。私の農村訪問の意味はその點にあつた。

三時近くに私の宿つてゐるホテル・ヨオロプの前に大きな二頭引きの客橇が來た。スネシコ君は雪が深く自動車がきかないので橇にしたのだと辯解してゐたが、私にはこの見慣れない大きな橇の方が一層うれしかつた――。「レフ」のシユカイラ君が「ヌ、バ、バ、バイヂョーム！」（さあ、ゆかう！）と、吃りながらいつて私を抱きかゝへるやうにして橇に乗つた。スネシコ君は私の左に座を占めた。「バスカレー」とシユカイラ君がよぶと、むちが上つて二頭の馬がミンスクの大通りを走りだした。通行人は立ちどまつて不思議さうにこの大橇を見てゐた――シユカイラ君は途中で自分の家から長い上靴をとりだして私の靴の上へはめてくれた。

白ロシヤの農村

*Старонка з кнігі Удзяку Акіта.*

Ледзьве мы выехалі за межы гораду, коні выпускалі газы, нібыта паведамляючы пра пачатак падарожжа. Мы, саграваючы насы рукамі, боўталіся ў санках. Адчуванне ад імклівага палёту санак па снезе было захапляльнае, я адчуў сябе як дваццаць гадоў назад! Перад нашымі вачыма раскінулася асляпляльна белая прастора. Коні беглі наперад, і снег з-пад капытоў ляцеў проста на нас. Ледзь я падумаў пра тое, што мы праехалі вярсты са тры, злева аддалёк паказалася прыгожая алея. Шукайла расказаў, што дрэвы гэтыя былі пасаджаны яшчэ ў часы Кацярыны Вялікай. Мне прыпомнілася алея тапаляў у Саппара, хаця я і не змог знайсці ніякага падабенства паміж імі. Сняжко дадаў, што непадалёк знаходзіцца вельмі вялікая і ўзорная вёска.

Нашы сані спусціліся па схіле вялікага ўзвышша і пераехалі па масце праз маленькую рэчачку. На тым баку да рэчкі таксама быў пакаты спуск. Гэтыя мясціны памятныя тым, што пад час нападу палякаў простыя вясковыя жыхары адважна абаранялі гэтую зямлю, узброіўшыся капаніцамі і сашнікамі. Нечакана я заўважыў, што сабака (пана) Шукайлы бяжыць за нашымі саньмі, то забягаючы наперад, то валочачыся воддаль. Шукайла крыкнуў: «Ваня! Ваня!», паляпаў па калене, але глянуўшы на нашыя твары, так і не пасадзіў сабаку ў санкі. Ваня быў маленькі худы сабачка шэрага колеру.

## Вясковае таварыства

Санкі ўз'ехалі на горку і перад нашымі вачамі адкрылася на дзіва гладкая раўніна. Мы паволі праязджалі між белых ад снегу дрэў, якія бясконцым шэрагам цягнуліся да лініі гарызонту. Гэткія бясконцыя прасторы зусім немагчыма было б убачыць у Японіі. Шукайла зняў з вазніцы і кінуў на снег клапа, і хутка загаварыў з ім (з возным) на беларускай мове. Сняжко патлумачыў, што жыхары

гэтых мясцін расказваюць, як у час вайны і перыяд унутранай смуты беларусы пакутавалі ад гэтых насякомых.

Хутка перад намі адкрылася іншая карціна. Ля падножжа вялікага ўзгорку паказаліся хаткі, усяго 20-30 пабудоў, і нашыя сані сталі спускацца па схіле да вялікага паселішча. Па правую руку ад узгорку паказаўся прыгожы гай «Біоніро», і школьнікі малодшых класаў, у чатырох ці пяцёх, абкружылі сані, і, нібы так і трэба, залезлі ў сярэдзіну і паехалі з намі. Вазніца ж не толькі не пагнаў іх, але са спакойным відам кіраваў санямі. З усмешкай гледзячы на дзяцей, я засумаваў па дому. Шукайла і Сняжко цёпла засмяяліся. На пад'ездзе да вёскі дзеці некуды разбегліся, а мы, праехаўшы яшчэ крыху, прыехалі ў вёску Каралішчавічы. Вёска гэтая знаходзілася дзесьці ў 16 вёрстах ад Мінска і была вядомая тым, што побач з ёй было таварыства «Бальшавікі». Парадак у гэтым таварыстве значна адрозніваўся ад [камуністычнага] парадку першабытнай абшчыны, які быў характэрны для японскіх вёсак тыпу Сірытані. І паколькі гэтаму таварыству былі ўласцівыя зусім новыя (сучасныя) рысы, то і з навуковага, і з практычнага боку яно ўяўляла адзін з цікавейшых матэрыялаў для даследвання.

Тым часам нашыя сані ўехалі ў ціхую вёску Каралішчавічы і, праехаўшы паміж будынкам школы і параўнальна вялікай царквой, пакіравалі да самога таварыства, што размяшчалася на ўзгорку. Шукайла нешта сказаў вазніцы, той махнуў пугай, і вокамгненна мы апынуліся на месцы. Сані сталі каля вялікай сялянскай хаты, і Шукайла адразу пайшоў шукаць упраўляючага. Ваня, сабачка Шукайлы, апярэдзіўшы гаспадара ўжо распачаў бяседу з мясцовымі сабакамі. Разам з Шукайлам прыйшоў упраўляючы таварыствам, мужчына гадоў шасцідзесяці. Ён трымаў у руцэ вялізны ключ. Мы падняліся з санак павітаць яго. Ён прывітаўся і сказаў, што стаў упраўляючым у выніку выбараў. Ён усміхнуўся і запрасіў нас у дом, дзе жыў сам са сваёй сям'ёй. Уставіўшы ключ, падобны на ключ ад вялізнага замка, ён адчыніў дзверы і запрасіў нас зайсці. Гэта быў выцягнуты, падобны на мясцовыя пабудовы, даволі заможны дом. Мы ўвайшлі ў адзін з пакояў, і насустрач нам выйшлі сутулая дзяўчынка і хлопчык. Дзяўчынка сарамліва ўсміхалася і гэтым нагадала мне японскіх вясковых дзяўчатак.

Як нам расказаў упраўляючы, у гэтым таварыстве было шаснадцаць дамоў, і восемдзесят сем жыхароў. Усе разам яны апрацоўвалі зямлю, трымалі скаціну, збіралі ўраджай. Аднак, паколькі ў іх не было агульнай вялікай сталовай, то ўсе елі асобна, у сваіх хатах. Затое, у вёсцы быў агульны клуб, дзе жыхары ўсе разам адзначалі розныя святы і падзеі.

## Сіла афарызма

З расказаў таварыша Шукайлы мы даведаліся, што гэта тэрыторыя падверглася нападу польскай арміі і цярпела вялізныя цяжкасці, аднак пасля заканчэння баявых дзеянняў мясцовыя жыхары зааралі землі кінутыя гаспадарамі, адрамантавалі разбураныя дамы і за 4-5 год дасягнулі такіх неверагодных поспехаў, што цяпер тут адна з самых квітнеючых сельскіх камун у Савецкай Расіі.

З непадробнай цікавасцю я агледзеў пакой, адзначыўшы [пра сябе] зусім не да месца раскошны ложак. На сцяне насупраць ложка вісеў фотаздымак, верагодна, сына гаспадара, а побач – фотаздымкі Янкі Купалы і Якуба Коласа – перадавых народных паэтаў (якія зараз жывуць), а таксама фотаздымак Сталіна. Мне было вельмі прыемна ўбачыць фотаздымкі гэтых двух паэтаў, паколькі я быў знаёмы з іх творчасцю. Я ведаў, што ў Саюзе паважаюць перадавых пісьменнікаў, аднак зусім не чакаў убачыць тут гэтыя фотаздымкі.

Стары ізноў скрыпнуў ключом у замку і правёў нас у вясковы клуб, які, уласна кажучы, быў часткай гэтага дому. Ля дзвярэй стаяла пажарная помпа, а пад ёй

быў прамерзлы да дна бак з вадой. Мы з апаскай прайшлі па лёдзе ў сярэдзіну. Над дзвярыма клуба можна было прачытаць афарызм: «Раней тут была турма, а цяпер тут клуб». Кажуць, што ў Савецкай Расіі пастаянна нараджаюцца новыя афарызмы, аднак мне здаецца, што толькі на тэрыторыях з якімісьці цёмнымі гісторыямі ў мінулым афарызмы маюць такую неверагодную сілу. Памяшканне клуба было дастатковае, каб змясціць 70-80 чалавек, а да сцяны быў прыслонены чырвоны сцяг сельскай камуны, ахоўваемы мноствам афарызмаў. Ля ўваходу мы звярнулі ўвагу на вялікую печку, каля якой былі шчодра навалены дровы. Стары, пасмейваючыся, паказаў на знакі, як ён распальвае печ дровамі і склаў рукі на грудзях – гэтыя жэсты, зразумелыя без слоў, былі адрасаваны да мяне. Мы выйшлі з клуба і накіраваліся да наступнага дому. З вокнаў, прыціскаючыся насамі да шкла, нас з цікавасцю разглядалі гаспадыня ў трохкутнай хустцы і яе дочкі. Дамы стаялі ля падножжа ўзгорку, на самым версе была стайня, а ўнізе – кароўнік.

Наш праважаты пакрочыў да кароўніка. Спускаючыся з узгорку, я запытаў у таварыша Шукайлы: «А чым займаўся гэты стары да рэвалюцыі?» – «Быў люмпен-пралетарыем!» (гэта значыць беспрацоўным), – адказаў Шукайла. Мы прайшлі па кароўніку ўздоўж шэрагу з 20-ці хвастоў – смурод быў невыносны. Вялікая стайня на вяршыні ўзгорку сустрэла нас пустымі стойламі, аднак, па нашых падліках, у ёй трымалі больш за 20 коней. Каля ўваходу ў стайню сабраліся вясковыя мужыкі. Яны сціскалі нашы рукі ў сваіх вялікіх далонях і адзін за адным гаварылі: «Дзякую, дзякую!» (па-беларуску). Нам паказалі агульны свіран, даверху напоўнены зернем, і за гэтым мы, заскочыўшы ў сані, памахаўшы шапкамі і пракрычаўшы «Дзякую, дзякую!», накіраваліся ў галоўную вёску Каралішчавічы, якую раней праязджалі.

Нібыта загадзя ведаючы пра наш прыезд, знаёмы таварыша Шукайлы, сакратар мясцовай парт'ячэйкі, заўважыўшы нашы сані, падбег, не сказаўшы ні слова, заскочыў у іх і пагнаў да ўваходу ў адзін з вясковых дамоў. Пазней мне патлумачылі, што сакратар быў жанаты на дачцэ гаспадара гэтай хаты.

## Гарэлка

Па словах таварыша Сняжко, гэты звычайны вясковы дом належаў Пласцінскім. У іх сям'і было сем чалавек, і з чатырох сыноў двое былі студэнтамі, адзін – Ленінградскага Універсітэта, другі – Мінскага. Старэйшы, па чутках, быў вядомым мясцовым паэтам.

Тут не было сельскай камуны, а вёска была тыповым прыкладам паселішча, якім цалкам кіраваў кааператыў. У ёй налічвалася 176 дамоў, жыхары якіх апрацоўвалі... абраблялі 1426 гектараў зямлі (да рэвалюцыі было 600 гектараў). Таксама сакратар пахваліўся, што на кожную сям'ю прыходзіцца па двое і нават больш кароў альбо коней.

Прасторны пакой быў раздзелены на дзве часткі прыгожай рускай сітцавай занавескай, якая хавала ад чужых вачэй калыску. Я папрасіў у пажылой гаспадыні дазволу зазірнуць за занавеску, на што яна адказала: «Можна, можна».

Там я ўбачыў, як хлопчык гадоў дзесяці калыша люльку, з якой шырока расплюшчанымі вачыма глядзіць у столь бялявае дзіця прыкладна двух гадоў ад нараджэння. Сняжко расказаў мне, што гэта мясцовасць славіцца сваімі калыханкамі. Дом Пласцінскіх аказаўся такім жа гасцінным, як і іншыя.

З нашым прыходам адразу пачаліся прыгатаванні. У цэнтры вялікага пакоя накрылі вялікі стол, над ім павесілі лямпу. На стол паставілі вялікія талеркі. Прынеслі славуты рускі моцны алкаголь.

Калі ўсе расселіся за сталом, я ўбачыў, што стары гаспадар дому сядзіць проста

насупраць мяне. Яму было гадоў 65-66, ён быў маленькага росту, аднак у ім адчувалася нейкая ўнутраная сіла. Па баках ад яго селі двое сыноў, што працавалі пры доме, затым па парадку – сусед, зяць і, канечне, госці: Шукайла, Сняжко і я. Стары сказаў тост: «Я быў бедны селянін і не мог вучыцца, затое двое маіх дзяцей вучацца ва універсітэтах у Ленінградзе і ў Мінску», – і падняў чарку з гарэлкай. Мы таксама паднялі чаркі. Прысутныя адзін за другім падтрымалі гэты тост і лёгка выпілі гарэлку залпам. Аднак для мяне ўдзел у гэтым застольлі паступова рабіўся ўсё больш і больш цяжкім. У дзвярах час ад часу з'яўляліся мясцовыя жыхары, заглядалі і выходзілі. Калі я падносіў чарку гарэлкі да вуснаў – яны глядзелі мне ў рот. Калі я адкройваў кавалак кілбасы – глядзелі на кілбасу. «Гэта таму, што яны ўпершыню бачаць японца», – прабачальным тонам патлумачыў Сняжко.

Салодкі мёд, якім мяне пачаставалі, падаўся мне незвычайна смачным. Тады сын гаспадара прынёс вулей, расказаў, што якраз зараз даследуе, якім спосабам можна павялічыць збор мёду, і паказаў, як гэта звычайна робіцца. Аднак да таго часу на мой арганізм ужо актыўна дзейнічаў алкаголь, і пераклад Снежко гучаў, як рэха, аднекуль здалёк.

Да застолля далучылася дарослая дачка гаспадара, якая жыла па суседску ў доме мужа, і выпіла дзве чаркі гарэлкі за мой прыход. Для мяне ў гэтым не было нічога радаснага, гэта быў Максім Горкі! І сказанае на развітанне «Дзякую, дзякую!» я чуў нібыта за вярсту.

Злы сабака, які фігураваў у вершах мясцовага паэта, горача нас аблаяў. Наперадзе былі 16 вёрстаў у санках па разбітай дарозе. Свяціў месяц. Я задрамаў.

*Масква, 21. 03. 1928*

## Фрагмент дзённіка Удзяку Акіта

*Паездка ў Мінск (22 лютага – 02 сакавіка 1928 г.)*

*22.02 (Серада).* З-за прастуды ўвесь дзень правёў у ложку за чытаннем. Прагледзеў нататку Акутагавы ў часопісе «Рэканструкцыя», і ўсе ж-такі яна выклікае пачуццё нейкай безвыходнасці. Такія як ён імкнуцца нават у малюсенькім артыкуле паказаць неардынарнае літаратурнае майстэрства, і ў выніку за гэтым памкненнем губляецца сэнс тэксту... можна сказаць, што нават яго самазабойства было праявай мастацкага майстэрства і эстэтыкі. У сувязі з паездкай у Мінск Нарумі схадзіў у ВОКС[7] і сустрэўся там са спадаром Новамірскім. Ад'язджаю ў 20:30 23.02 з Беларускага вакзала, прыбыць павінен прыкладна а 10:30 24.02. Усе матэрыялы прыйдзецца везці з сабой.

Вечарам, не ўстаючы з ложка, вучыў рускую мову.

Крыху спацеў, стала лягчэй.

*23.02 (Чацвер).* Раніца. Пайшлі з Нарумі ў банк, нас дабразычліва абслужыла тая ж прыгожая дзяўчына. Мне нават стала крыху цікава, які яна чалавек, як жыве. Папілі чаю ў дзіцячым кафетэрыі. Мэры прыйшла крыху раней, мы займаліся рускай мовай, і яна прачытала нам вершы з «Гудка». Вечар. Мы з Нарумі кіруемся на Беларускі вакзал, каб не спазніцца на цягнік у 20:30. Еxаў разам з англічанамі з Рабочай партыі (камуністычнай). Пасябраваць з англічанамі не ўдалося. Па дарозе сеў рускі, які валодае англійскай мовай. Ён аказаўся даволі адукаваным чалавекам, кімсьці накшталт пісьменніка. Высветлілася, што ён да таго ж цікавіцца эсперанта. Ноч. З-за прастуды спалася кепска. У вагоне было невыносна душна.

---

[7] Тут і далей заўвагі перакладчыка: Всесоюзное общество культурной связи с заграницей.

*24.02 (Пятніца).* Мінск (сталіца Беларусі). Раніца.

Прыбыў у Мінск са спазненнем прыкладна гадзіну. Сустракаць мяне прыехаў чырвонатвары Ян Куліш[8], ля вакзалу сустрэліся са Снежкам і Рапапортам. На аўтобусе ўчатырох даехалі да раскошнай (відаць, дзяржаўнай) гасцініцы «Еўропа». Мінск прыгожы і ўтульны горад з насельніцтвам прыкладна 140 тысяч. Мяне пасялілі ў 45 нумар на трэцім паверсе з асобнай вялікай спальняй. Пагаварылі пра рознае са Снежкам і Рапапортам, аказалася, што яны студэнты-медыкі.



*У першым шэрагу: Уладзімер Варава, Пайлюк Шукайла, Удзяку Акіта, Макар Шалай. У другім: Алесь Гародня, Янка Відук (Ян Скрыган).*

Праз кароткі час, прайшоўшыся па горадзе, адправілі пошту. Зайшлі ў Музей, дзе я адчуў жывую цікавасць да габрэйскага мастацтва. Так, яно рэлігійнае, аднак, напрыклад, выява дваіх дзяцей выразаная па дрэву – цудоўны твор. Вельмі займальныя прадметы з матывамі характэрнымі для беларускай сялянскай вышыўкі. Пасля таго як мы папалуднавалі ў славутай сталовай (раней гэта быў рэстаран, куды хадзілі буржуі), праспаў пару гадзінаў. Падалося, што крыху паднялася тэмпература, але спалася добра. З васьмі гадзінаў вечара глядзеў «Бамбіна» у Габрэйскім тэатры. Аўтар п’есы зараз жыве ў Маскве. Спектакль складаўся з чатырох актаў, сцэнаў было дзесяць прыкладна.

П’еса апісвае камуністычны рух у Польшчы: малады прадавец газет быў здрадай перададзены ўладам, бо шпіёніў на карысць камуністаў. Буржуйскі ўрад аб’явіў яго здраднікам Радзімы і пакараў смерцю (праз расстрэл). Дэкаратар гэтага спектакля сапраўды таленавіты... гарадскія вуліцы, дамы, дэманстрацыя супраць несправядлівых законаў, буржуйская кавярня... сувязь здрадніка і жонкі ўладальніка завода, у надзвычай простых тэхнічных прыёмах выкарыстаных у пастаноўцы і праяўляецца цэльнасць прадстаўлення. Я быў вельмі ўражаны. Ідэя ў дэкарацыях гарадскіх вуліц зрабіць сцэну пад нахілам і размясціць розныя канструктывісцкія элементы на слупах электраперадач падалася мне даволі цікавай. Напісаў кароткі водгук для супрацоўнікаў Габрэйскага тэатра, і пераклаў яго на эсперанта. Насычаны ўражаннямі дзень!

*02.25 (Субота).* Сёння з 11 раніцы па запрашэнні Рапапорта, Снежкі і Куліша наведаў «Instituto de Blancorusia culturo», мне расказалі пра сістэму ў цэлым, пра складанне беларуска-іўрыцкага слоўніка... Вучоныя абодвух спецыяльнасцяў з энтузіязмам апісвалі метады складання... палічбавыя... картачкі з пытаннямі для сельскіх жыхароў. У аддзеле Юдаікі з энтузіязмам працавала маладая замужняя жанчына. Я быў глыбока ўзрушаны картай рассялення габрэяў. У аддзеле адукацыі я даведаўся пра сістэму адукацыі ад малодшай школы да акадэміі... якім чынам дзеці рабочых могуць атрымаць універсітэцкую адукацыю... як сумяшчаюць працу і

[8] У арыгінальным тэксце *«Ян Курісі»*.

вучобу. Сустрэўся з маладымі студэнткамі, якія вучаць эсперанта ў польскай школе (тут ёсць асобныя беларускія, польскія і габрэйскія школы). Яны задалі мне розныя пытанні на эсперанта, адна з іх сказала, што хацела б працягваць знаёмства праз перапіску і папрасіла ў мяне адрас... цудоўная дзяўчына гадоў 17 да таго ж добра валодае эсперанта. Пабыў на рэпетыцыі спектаклю (заметка з уражаннямі пра бачанае ў іншым сшытку). Прысутнічаў на сустрэчы выкладчыка са студэнтамі, накшталт навуковага гуртка. Пад кіраўніцтвам прыгожай выкладчыцы студэнты абмяркоўвалі навуковыя працы, крытыкавалі іх, а ў канцы яна выказала сваё меркаванне.

На аўтобусе па заснежаных вуліцах... Вечарам паглядзеў спектакль пра Іспанскую рэвалюцыю ў Габрэйскім тэатры... уражанні ў другім сшытку. (Узнікла пытанне: якая методыка выкладання польскага мастацтва дзецям?)

*26.2 (Нядзеля)*. Сёння ізноў перанёс сустрэчу з літаратарамі. Пабыў на дэманстрацыі К.А. Бачыў цудоўнае шэсце піянераў, сярод іх былі юныя эсперантысты... усе прывіталі мяне. Бачыў усю дэманстрацыю з трыбуны.

Літаратурныя рухі ў Мінску – гэта, па-першае, «Полымя» («старыя» літаратары і некалькі новых асоб), па-другое, «Маладняк» (пралетарскія літаратары), па-трэцяе, «Узвышша» («чыстае мастацтва») і ЛЕФ...

Я прачытаў габрэйскаму юнаку Кацу танка:

Калі і на зямлі
убачыш святло нябёсаў,
Падымуцца мужна сыны
Новага Ізраіля...
У Мінску.

Айзеншпіц... Прэм'ер Габрэйскага тэатра Айзеншпіц марыць паехаць у Японію, каб вывучаць японскае тэатральнае мастацтва. Як я зразумеў, хоча вывучаць Но і Кабукі. Добра валодае нямецкай і эсперанта збіраецца вучыць.

Вечарам крыху паспаў. На восем гадзінаў пайшоў на спектакль «Беларусы» у той жа тэатр, у якім быў учора вечарам. Кёгэн  па вядомаму паданню «Цар Максіміліян». Аўтар Міцкевіч, пастаноўшчык Сімсілаеў, дэкарацыі – Нікіцін, таму цар і ўлада, адносіны бацькоў і дзяцей, герой, смерць, крах магутнасці перад тварам праўды, усё гэта паказана на фоне простага жыцця народа. Пацешыла тое, што ад пачатку і да канца прадстаўлення перыядычна то гучалі беларускія народныя песні, то выконваліся народныя танцы.

Дэкарацыі былі вытрыманы ў стылі канструктывізму, сама пастаноўка – у рамках свайго кшталту «народнага рэалізму». Напрыклад, у адной са сцэнаў, дзе цар забівае непаслухмянага сына, няма ніводнага рэалістычнага элемента, але вельмі эфектна.

«Цар Максімільян» ...сцэны: быт простага народу... цар... карыкатурная сцэнка... цар і танцоўшчыцы... сын цара выступае супраць яго другой жонкі... сына кідаюць у вязніцу... з'яўляецца адважны воін абаронца хрысціянскага Бога... ён вызваляе сына цара з вязніцы... прыязджае другі цар... адбываецца паўстанне васалаў... «Смерць» забівае адважнага воіна... турэцкі цар забівае цара Максіміліяна... малпа надзявае карону Максіміліяна... лекар прыводзіць царя да жыцця... воін Адольф... цар усё-ткі памірае... з цемры апавядае жаночы голас,... кажа: «гісторыя-то добрая, а расказалі, як змаглі».

*27.02 (Панядзелак)*. Днём па просьбе рэжысёра, акцёраў Габрэйскага тэатра быў запрошаны на сустрэчу аб'яднання мастакоў, дзе мне задалі каля дзясятка пытанняў пра японскае мастацтва, больш дакладна па трох тэмах: пра Но, пра Кабукі, і пра Цукідзі... усе пытанні былі канструктыўныя. Актрыса, якая зрабіла на мяне глыбокае ўражанне, прыйшла з мужам.




*Старонка з падручніка нямецкай мовы 1920-х гадоў для беларускіх школ. Прыкладна такім пабачыў Менск Удзяку Акіта.*

Вечарам наведаў групу тых, хто вучаць эсперанта. Прыйшлі і піянеры-эсперантысты. Аказалася, што яны ведаюць Тава Кадзуо. Добрыя дзеці. Адна з актрыс Габрэйскага тэатра таксама пачала вучыць эсперанта... пажылыя эсперантысты.

Пазней вечарам быў запрошаны ў госці да Шукайлы, літаратара ЛЕФ (прыналежнага да літаратурнай групе LK). Узяў рамізніка. Распытаў Шукайлу пра асноўныя прынцыпы LK... яны звязаны з рухам ЛЕФ... трэба ператварыць пралетарскі накірунак у мастацтве ў накірунак «сапраўднага мастацтва». Для гэтага неабходна супрацьстаяць усім ранейшым накірункам мастацтва... банкет... удзельнікі групы... удзельніцы групы таксама прыйшлі... прыгожыя жанчыны... плач дзіцяці... усе шмат спявалі... я таксама спяваў... спрэчка з літаратарамі з «Узвышша» (запіс у іншым сшытку)... напіўся... позна ўночы на рамізніку вярнуўся ў гатэль... (Дом Шукайлы... немаўля... госці крыху ва ўзросце... пажылыя эсперантысты).

*28.02 (Аўторак).* Прыйшлі Шукайла, Снежка, Рапапорт. Прыйшоў фатограф, зрабіў тры здымкі. Адзін здымак – толькі я, на другім разам са Снежкам, трэці – усе разам.

Паехалі ў вёску ў прыгарадзе Мінска (у іншым сшытку). Ад гатэля паехалі на санях. Утрох з Шукайлам і Снежкам наведалі вёску ў ваколіцах Мінска. Ад паездкі па снезе ў санях захапіла дух. Алея Кацярыны Другой. Шырокая дарога скрозь бярозавы гай прасціралася наколькі хапала вока, з абодвух яе бакоў бяскрайнія заснежаныя палі. Польскія войскі нападалі на гэтыя землі, а мясцовыя вясковыя жыхары збіралі абарончыя атрады і змагаліся з імі, непадалёк нават было месца, якое называюць «партызанскае поле». Нашы сані ляцелі, уздымаючы віхуру снегу. Сабака Шукайлы бег перад санкамі. Дзесьці праз 20 вёрст (прыкладна 5 рі) пачаўся спуск у нізіну. Мясцовыя дзеці спакойна каталіся, зачапіўшыся за нашыя санкі, вазніца асабліва гэтаму не замінаў. За мостам пасля вёскі Каралішчавічы[9] па левую руку была камуна Бальшавікі. Пасля таго як палякі разрабавалі гэтыя землі, а пан кудысці збег, сяляне арганізавалі тут агульную гаспадарку. У наваколлі руіны разрабаваных будынкаў. Шукайла калісьці выкладаў у мясцовай школе, таму добра ведаў жыхароў гэтай камуны. Як толькі мы ўехалі ў невялікую камуністычную вёску, наш сабака (сучка) адразу падружылася з мясцовымі псамі. Выйшаў стары, паказаў нам вёску (у руках у яго быў вялікі ключ)... у 16 дамах жыве 87 чалавек, гаспадарку вядуць агульную. Увайшлі ў хату (адну з частак вялікага дома), дзе, падобна, раней жыў пан, а там гарбуння з сынам (таксама гарбатым). Падобна, хвароба перадаецца ў гэтай сям'і ў спадчыну. Дом старасты.

[9] У арыгінальным тэксце *«Каромічувічі»*.

Разам з фатаграфіямі сыноў на сценах віселі фатаграфіі сучасных беларускіх літаратурных дзеячаў Янкі Купалы, Якуба Коласа і Сталіна... павага да літаратараў – агульная рыса савецкіх грамадзянаў. Хлеў (у нізіне), стайня (на ўзгорку на плошчы), проціпажарная помпа і рэзервуар з вадой. Ад даўніх часоў тут была турма, цяпер клуб. Агледзелі клуб. Вялікая печка... чырвоны камуністычны сцяг... беларускі алфавіт. Свіран... узяў жменьку зерня. Сказаўшы на развітанне: «Дзякуй!» – селі ў санкі. Наведалі дом простага вясковага жыхара Пласцінскага. Дом побач з царквой і школай, больш за сярэдні. Не тое, каб заможны, але жаніх дачкі працуе сакратаром вясковага савета, з чатырох сыноў – двое студэнты. Адзін (той, што паэт) вучыцца ў Ленінградзе, другі – у Мінску. У прасторнай гасцінай сялянскага дома дашчатая падлога і прыгожая заслона... за ёй качаецца люлька (песні-калыханкі шырока вядомыя). Я спытаўся, ці можна заглянуць, на што маці сямейства адказала: «Можна! Можна!». Адхіліўшы заслону, я ўбачыў за ёй хлопчыка гадоў 10, ён калыхаў у люльцы дзіця 2-х гадоў, якое ляжала, шырока расплюшчыўшы вочы, і без выразу глядзела ў столь. Праз Снежка задаў я пытанні на эсперанта... пра мінулае і цяперашняе жыццё... пра пагалоўе скаціны ў гаспадарцы... пра вынікі кааперацыі... пра памеры ўступных узносаў у кааператыў... сістэму пазычак (пра гэта ў іншым сшытку). Яны змаглі прагнаць купцоў. Да рэвалюцыі было 600 гектараў, цяпер 1426 гектар, электрычнасць пакуль не падвялі... печка ды маці.

Пачалося застолле, над сталом падвесілі лямпу. За сталом бацька, два сыны, жаніх дачкі, двое вясковых (дачка пазней падышла) і маці таксама. Іншыя жыхары вёскі назіраюць стоячы... прыгожая карціна... прапануюць выпіць... без канца прапануюць выпіць... раней тут былі толькі паны, зараз іх няма... Шукайла таксама добра выпіў... шчаслівы твар бацькі сямейства... падрыхтоўка саней... сабака – тэма для паэта... коні бягуць у святле месяца... супонь рассупонілася... холадна. Страціўшы прыкладна паўтары гадзіны, прыбылі ў Мінск. З 10 гадзін глядзелі камедыйны сінематограф «Двое мужчын» пра іх вынаходствы... Наіўнае кіно пра савецкае жыццё. Былі дзве дзяўчыны, Снежка, Кац, Рапапорт. Стаміўся.

*29.02 (Серада).* Сёння наведаў выдавецтва рускай газеты «Рабочий», пазнаёміўся з рэдактарам і яго памочнікам. Пасля палудня крыху адпачыў. Закончыў падрыхтоўку да вячэрняй бяседы, і варта толькі прылегчы, заснуў, праспаў прыкладна гадзіну.

Сфатаграфаваўся з эсперантыстамі.

Бліжэй да дзевяці вечара ідзём з Кацам і Рапапортам у Клуб, дзе збіраюцца настаўнікі. Будынак клуба быў спецыяльна падабраны для настаўнікаў, таму там ёсць раскошны хол, і нават сцэна. Там сабраліся эсперантысты, мінскія літаратары, настаўнікі, чырвонаармейцы. Куліш вёў сустрэчу. Калі мая лекцыя паспяхова закончылася, пачаліся пытанні пра сацыяльную сітуацыю ў Японіі, пра адукацыю і літаратуру. Са сцэны я адказаў на кожнае пытанне. На канцэрце паслухаў беларускі народны інструмент цымбалы і народныя песні ў выкананні актрысы Бандарчык.

Пасля сустрэчы запрасіў у гатэль літаратараў (з «Маладняка»). Актрыса Бандарчык далучылася да нас, вось захопленая жанчына... працягвалі мы ў доме аднаго з літаратараў у прыгарадзе Мінска... Бандарчык цудоўна спявала і танцавала. У пачатку чацвёртай мяне падвезлі на санках да гатэля. У пачатку пятай лёг спаць. Крыху перапіў, таму было нядобра.

*01.03 (Чацвер).* У мяне застаўся начаваць габрэйскі юнак Рапапорт. Раніцай, калі я прачнуўся, ён яшчэ спаў. Куліш расказаў мне, што ў гасцініцу прыедуць людзі R.A. з Германіі, і я вырашыў схадзіць на сустрэчу з імі. Усе разам пага-

варылі ў сталовай. Двое з іх маглі зусім крыху гаварыць на эсперанта, але і гэта вельмі дапамагло.

Падзяліліся са мной пасмяротным фотапартрэтам Леніна.

Нямецкі апазіцыйны рух «Рот Фронт» уражвае і, падобна, у Германіі не пераследуецца законам. Сфатаграфаваліся ўсе разам. Падрыхтаваўся да ад’езду ў Маскву. Вечарам наведаў школу R.A. Там мяне вельмі цёпла сустрэлі. Вядуць статыстычны ўлік усяго – ад колькасці корму коням да забеспячэння салдат. Запрасілі на сустрэчу К.М. Прывітаў усіх... Снежка мяне прадставіў... авацыя... падхапілі мяне і паднялі. Бліжэй да восьмай гадзіны заехаў у гатэль, адтуль адразу на рамізніку паехаў на Мінскі вакзал. Мяне таксама паехалі праводзіць тры прыгожыя дзяўчыны, у буфеце напісаў для іх штосьці. Усе папрасілі мяне ізноў прыехаць у Мінск. Пятае купэ, 19 месца. Зайшлі ў купэ ўсе разам, пакуль гаварылі, падыйшоў час адпраўлення цягніка. Моцна паціснуўшы ўсім рукі, пусціўся ў далейшы шлях.

Адной з дзяўчын напісаў такія словы: “Ĉiam estas adiaŭo!”[10] Здаецца, на наступным прыпынку пасля Мінска ў купэ ў суправаджэнні служачага чыгункі зайшла дама гадоў сарака. «Як ціхо ў гэтым вагоне!» – яна загаварыла са мной па-руску, таму я, прывітаўшыся, сказаў, што крыху разумею па-руску, але сам гаварыць не магу. Тады яна, усміхаючыся, распалажылася насупраць мяне. Падобна, высокаадукаваная жанчына, яна дастала кнігу Аляксея Талстога. Час ад часу яна загаворвала са мной, і вельмі радавалася і задавала розныя пытанні, калі я паказваў ёй фатаграфіі з Японіі альбо Мінска. У вагоне мы ехалі ўдваіх, і было вельмі спакойна. Калі я сказаў: «Не саромейцеся! Размяшчайцеся, як Вам зручна», яна усміхнулася. Праз нейкі час дама пайшла ў туалет, пераапранулася ў начную сарочку, прылегла і працягвала чытаць. Раскошнае цела, але тонкі выразны профіль. Хутка яна задрамала. Калі бой сцяліў мне, яна прачнулася і закурыла. Я таксама лёг спаць. Вельмі спакойная ноч. Падумалася, што не бывае так, каб японская жанчына вось так вось спала ў адным памяшканні з мужчынай. Калі я прачнуўся ўночы, убачыў, што пакуль я спаў, хтосьці закрыў электрычную лямпу. Відаць, тая дама не магла заснуць, таму закрыла яе. (Апошні дзень у Мінску і ад’езд).

*02.03 (Пятніца)*. Раніцай папутчыца ўстала рана і пераапранулася з начнога. Надзеўшы звычайнае адзенне, яна зноў прылегла з кнігай. Тады ўстаў я, пажадаў ёй добрай раніцы, яна кіўнула мне, усміхаючыся. Пасля таго, як я памыўся, мы пілі гарбату і размаўлялі.

Дама спытала: «Вы казалі, што жывяце ў Маскве, Вы выдаткуеце свае сродкі»? На што я адказаў: «Так, сам. Я пісьменнік, і пражываю на тое, што выплачваюць мне японскія выдавецтвы», і тады яна спытала, колькі я атрымліваю ў месяц, дзе я жыву. Тады я спытаў, ці можна параўнаць цяперашняе жыццё служачага чыгункі з тым, як было раней. Яна адказала «Канечне! Канечне!» Потым яна спытала: а Вашая дачка таўсцейшая за Вас? Калі я адказаў «так», яна здзівілася. А калі сказаў, што і жонка таўсцейшая, яна засмяялася. Гэта дама з усіх сустрэтых у Расіі жанчын падалася мне самай спакойнай. Калі мы прыбылі ў Маскву, я сказаў па-беларуску: *«Дзякуй»*, мы паціснулі адно аднаму рукі, яна адказала: *«Да пабачэння!»* – і сышла з цягніка. Я ізноў у Маскве... На рамізніку ў гатэль. Па дарозе шэсце Чырвонай Арміі, урачыстая музыка. Калі дабраўся да гатэля, пазванілі ад Мэры. Расказаў пра жыццё ў Мінску Нарумі і Накадзё. Вечарам пасля вячэры чай з цукрам на вул. Бялінскага. (Ізноў у Маскве)

[10] «Заўсёды здараюцца развітанні!» *(эспер.)*

Мікола Ліннік



…Праз столькі стагоддзяў
Пагоня вярнулася на Украіну!
Вярнулася з мірам!..

# Шлях да Сіняй Вады

***З нагоды 650-годдзя Вялікай бітвы***

Сіняя Вада... Гэтае сугучнае спалучэнне слоў прывабіла мяне каля дваццаці гадоў назад, калі даведаўся пра бітву ля Сіняй Вады, пра перамогу войскаў Вялікага Княства Літоўскага над татарамі. Тады я быў вельмі далёка ад Сіняй Вады. Далёка і фізічна і духоўна...

Усё сваё, як кажуць, свядомае жыццё я займаюся сувяззю. Вось-вось будзе трыццаць пяць гадоў працы ў філіяле "Міжгародняя сувязь" РУП "Белтэлекам". А гэта – праца, звязаная з распаўсюджаннем радыё і тэлепраграмаў па тэрыторыі рэспублікі спачатку па радыёрэлейных, а цяпер па валаконна-аптычных лініях сувязі. А як жа Сіняя Вада? Дзякаваць Богу, што напрыканцы мінулага стагоддзя лёс звёў мяне з Нілам Гілевічам, Міколам Ермаловічам і Васілём Быкавым. Я быў кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета тады яшчэ БССР, таго Савета, які прыняў і Дэкларацыю аб незалежнасці, і Закон аб мовах, таго Савета, які пасля быў разагнаны. Кандыдатам я быў па той самай Маладзечанскай акрузе, па якой бала-

таваўся і пасля перамог Ніл Сымонавіч. У выніку першага туру галасавання з шасці кандыдатаў я быў на трэцім месцы, няшмат саступіўшы другому. Ад таго, за каго прагаласуюць у другім туры тыя тысячы, што галасавалі за мяне ў першым, залежала вельмі многае. У суботу перад другім турам я праз раёнку звярнуўся да выбаршчыкаў з просьбай аддаць свае галасы Нілу Сымонавічу. Выбаршчыкі паслухаліся. Шаноўны Ніл Сымонавіч навучыў мяне многаму, але галоўнае, што я вынес з выбарчай кампаніі, гэта тое, што без любові да Радзімы, да роднай мовы нельга быць сынам сваёй краіны, нельга шанаваць свой родны кут, свой народ. А мне гэтага вельмі хацелася. Хацелася палепшыць жыццё тым старым, што прасілі, каб хлеб у вёску прывозілі хоць разок на тыдзень, таму што да крамы чатыры-пяць кіламетраў, а выпрацаваныя на калгаснай працы ногі і з хаты не могуць выйсці... І праз дваццаць з лішкам гадоў мне ўзгадваецца старая жанчына ля крамы ў Плябані і яе словы: “Не пераможаш ты, дзіцятка, сістэму, але пра людзей не забывайся...”

Невялікая, зручнага памеру кніжка “На крыжах” прывяла спачатку да сустрэчы з Уладзімірам Содалем, а пасля і з самім Васілём Быкавым. На сустрэчы гэтыя не забыцца, падаецца – і цяпер моц Васіля Уладзіміравіча дапамагае мне...

Сустрэчы і размовы з Міколам Ермаловічам прымусілі задумацца аб гісторыі нашай краіны, пераканалі ў тым, што гісторыя Беларусі – не той тонкі падручнік, што я вывучаў у школе, а многавекавая шматтомная энцыклапедыя жыцця...

З тых часоў і зацікавіла мяне пытанне: а дзе ж тая Сіняя Вада? Нельга сказаць, каб увесь гэты час я мэтанакіравана шукаў Сінюю Ваду. Жыццё ставіла нейкія іншыя пытанні, прымушала вырашаць розныя праблемы, далёкія ад гэтай тэмы. Вясной 2004 года я ехаў з Маладзечна ў Мінск электрычкай, набыўшы ў краме па падпісцы чарговы том Беларускай Энцыклапедыі. У Ждановічах насупраць селі два сталыя мужчыны, адзін з якіх чамусьці зацікавіўся маёй асобай і спытаўся, а ці ведаю я пра Сінюю Ваду. Я адказаў, што ведаю, але дзе яна, сказаць не магу. А Уладзімір Цімашэнка, так звалі суразмоўцу, і кажа: “А я родился в тех местах”. Так мы пазнаёміліся, так пачаўся мой ужо мэтанакіраваны шлях да Сіняй Вады. Шлях няпросты, шлях даследаванняў, шматлікіх сустрэч і знаёмстваў, прыязных і не вельмі, роздумаў, прыемнасцяў і расчараванняў, перыядаў напружанай працы і чакання натхнення. Гэта ўсё было, але, спадзяюся, яшчэ шмат чаго наперадзе. Многае знойдзена, многае зроблена. Але тэма Сіняй Вады настолькі глыбокая, што працы хопіць многім і на многія гады...

Паколькі пэўны досвед гістарычных даследаванняў у мяне быў (артыкул “Радашковічы святкуюць імяніны”, газета “Наш дзень”, № 92 за 4 лістапада 1992 г.), то я ўзяўся збіраць тое, што ўжо было вядома. Нахрапістасць Уладзіміра Паўлавіча часам дапамагала, часам перашкаджала. Але ўжо да восені 2007 года была пэўная напрацоўка, што лягла ў аснову сумеснай з Уладзімірам Паўлавічам публікацыі “Дзе была ў 1362 годзе бітва войска Вялікага Княства Літоўскага-Беларускага з татарамі: на Снівадзе ці Сінюсе?”, газета “Наша слова”, №№ 41, 42 за 17 і 24 кастрычніка 2007 г.

Шмат працы было ўкладзена сумесна з мастаком Мікалаем Купавам у арганізацыю і правядзенне святкавання 645-годдзя гэтай вялікай перамогі ў Мінску. Спадар Мікола арганізаваў мастацкую выставу працаў чальцоў Звязу мастакоў ў галерэі “Добрыя мыслі”, выставу дзіцячай і маладзёвай творчасці ў сядзібе ТБМ. Завязаліся добрыя адносіны з пасольствам Украіны ў Рэспубліцы Беларусь і асабіста з паслом Ігарам Ліхавым, першым сакратаром пасольства Алегам Сіроціным, а пасля іх пераемнікамі Раманам Бяссмертным і Сяргеем Мельнікам. Добрыя адносіны працягваюцца і цяпер з дарадцам пасольства па гуманітарных пытаннях Васілём Бондарам.

Прыкладна ў гэтыя ж часы лёс звёў мяне з Валерыем Стралко, якога такса-

ма тэма Сіняй Вады вельмі кранула, што вылілася спачатку ў верш, а пасля і ў песню “Снівада-рака” (музыка Уладзіміра Гаркушы) на ўкраінскай, а пасля і на беларускай мовах. Дарэчы, гэтаа песня ўжо гучала ва Украіне, спадзяюся, што загучыць і ў Беларусі. Валеры Васільевіч шмат зрабіў для мяне ў часы нашага сумеснага наведвання Украіны. У Кіеве пазнаёміў са сваім братам Уладзімірам Васільевічам, буйным украінскім вучоным з сусветным імем, доктарам навук, акадэмікам, які, нягледзячы на сваю занятасць, знаходзіў цэлыя гадзіны на размовы са мной. Самая шчырая падзяка вам, браты Стралко.

Восенню 2008 года я ўпершыню пабачыў Сінюю Ваду – рэчку Снівада ў Хмяльніцкім раёне Вінніцкай вобласці. Ехаў я туды з Уладзімірам Цімашэнкам. Ён ехаў да сваёй радні і запрасіў паехаць разам. Ехалі мы цягніком з Мінска да Жытоміра, а пасля на аўтобусе ды папуткай да Уланава. Было цікава ўсё. Ад сяброў, якія летам ездзілі адпачываць на поўдзень, я наслухаўся аповедаў пра памежнікаў, як нашых, так і ўкраінскіх. У асноўным пра іх расказвалі розныя не вельмі прыстойныя гісторыі: хабар, лянота, абыякавасць. Нічога гэтага я не пабачыў па абодва бакі мяжы. Памежнікі трапіліся ветлівыя, прыязныя, падобныя ў паводзінах. Толькі нашыя размаўлялі па-расейску, а ўкраінскія – на роднай мове. Покуль цягнік рухаўся па ўкраінскай зямлі да Жытоміра – прагна глядзеў у вакно, шукаючы адрозненні ад нашай. І значных не ўбачыў. Думкі міжволі накіраваліся ў мінулае...

Лета 1362 года для Вялікага Княства Літоўскага было адносна спакойным. Дзейнічала перамір’е з Польшчай, асабліва не насядаў Ордэн – апошні напад адбіты ў красавіку. Ужо сямнаццаць гадоў на землях ВКЛ існаваў дыумвірат улады: фактычна дзяржавай кіравалі два браты – Альгерд і Кейстут. Астатнія Гедымінавічы і іншыя ўдзельныя князі не згубілі сваю самастойнасць, але вялі палітыку, у асноўным падпарадкаваную волі братоў. (Гэты дыумвірат паспяхова праіснаваў яшчэ пятнаццаць гадоў, я не ведаю такога выпадку ва ўсёй еўрапейскай гісторыі). Заходнія і паўночныя межы ВКЛ сцярог Кейстут. Крыжакі не давалі спакою, пастаянна ажыццяўляючы набегі на землі ВКЛ. Польшча ды Венгрыя марылі аб валоданні Галіцка-Валынскімі землямі. Альгерд займаўся ўсходнімі і паўднёвымі справамі Вялікага Княства. І тут з абодвух бакоў былі суседзі з захопніцкімі апетытамі. На ўсходзе набірала моц Масковія, якая пачала весці, і

---

## Віват, Альгерд! Хвала Айчыне!

**Мінулы год быў знамянальны вялікай падзеяй у нашай гісторыі – споўнілася 650 гадоў ад часу Вялікай перамогі войскаў ВКЛ над татарскімі ордамі ў Падоліі і поўнага вызвалення Украіна-Русі ад татарскага паняволення. Да гэтай даты Грамадскі Камітэт “Вялікая Літва – гістарычная памяць Беларусі” распрацаваў і правёў шэраг мерапрыемстваў, у тым ліку навуковую канферэнцыю і дзве мастацкія выставы: чальцоў Беларускага звязу мастакоў і дзіцячай творчасці. Беларускія мастакі, гісторыкі, журналісты і краязнаўцы прымалі ўдзел у святкаванні гэтай гістарычнай падзеі ва Украіне.**

**У Мінску ў мастацкай выставе “Віват, Альгерд! Хвала Айчыне!” бралі ўдзел мастакі, якія і раней засведчылі сваю цікаўнасць і любоў да гістарычнай тэматыкі і паказваюць творы на гістарычную тэму нашай краіны. У Звязе мастакоў гэта вялікая група творцаў, якая гатовая адказаць на любыя пытанні нацыянальнай гісторыі і культуры і стварыць вялікую – як па маштабах, так і па змесце – выставу. Прыкладам таму з’яўляюцца выставы “Міленіум” і “Грунвальд”, якія запаўнялі цалкам Палац мастацтва (“Міленіум”), або значную яго частку (“Грунвальд”). І можна было гадзінамі вандраваць па часах і эпохах, па розных падзеях вялікалітоўскай гісторыі і атрымліваць ні з чым не параўнальную эстэтычную асалоду. І тут надзвычай цікавы факт адносна назвы выставы: у падрыхтоўчых дакументах і намерах яна значылася як “Міленіум Літвы”, а ўжо адчынялася выстава проста як “Міленіум”. Было дастаткова тупнуць нагой уверсе, як кіраўнікі творчай арганізацыі ўсё зразумелі, што трэба рабіць…**

вельмі актыўна, аб’яднаўчую, а правільней сказаць – захопніцкую, палітыку збірання земляў, спрабуючы падпарадкаваць усё новыя і новыя землі, не цураючыся жорсткасці, гвалту, крыві. На поўдні прагнулі новай здабычы залатаардынцы, якія, авалодаўшы больш за сто гадоў таму Кіеўскай зямлёй, Падоллем, былі не супраць прасунуцца на поўнач. У гэтых умовах толькі вельмі ўзважаная знешняя палітыка магла гарантаваць захаванне і росквіт дзяржавы. Менавіта такую палітыку і вёў вялікі князь літоўскі Альгерд на працягу свайго 32-гадовага княжання. Добра адсочваючы сітуацыю ў суседзяў, ён не толькі рашуча адстойваў землі сваёй дзяржавы, але і стараўся пастаянна далучаць новыя. Далучэнне ажыццяўлялася ў асноўным без гвалту. На далучаных землях, як правіла, захоўваліся мясцовыя традыцыі, княскія дружыны выконвалі ў асноўным абарончыя функцыі. Яны баранілі межы княстваў, а не ўмешваліся ва ўнутраныя справы. Лад жыцця мясцовых жыхароў не мяняўся. Яны атрымлівалі магчымасць вольна захоўваць свае традыцыі, развіваць гаспадарку і культуру. І ў гэтым была асноўная адметнасць палітыкі ВКЛ ад Масковіі. Гэтая адметнасць і прываблівала многіх суседзяў ВКЛ і спрыяла пашырэнням межаў дзяржавы.

Пад восень 1362 года ў Залатой Ардзе працягвалася “вялікая замятня” – барацьба за ханскі трон, на якім ханы часта змяняліся. Набіраючы моц беклярыбек Мамай выправіўся са сваіх крымскіх уладанняў у сталіцу Арды Сарай для ўладкавання там сваіх інтарэсаў.

Узважыўшы ўсе акалічнасці, Альгерд і пачаў свой шлях да Сіняй Вады...

Першыя ўражанні ад Украіны былі надзвычай цёплыя, хоць, шчыра сказаць, вельмі хваляваўся. Выйшаўшы з вагона ў Жытоміры, я не адчуў ніякай няёмкасці, не адчуў, што ў чужой краіне. Усе цудоўна разумелі беларускую мову, з павагай ставіліся да яе, самі размаўлялі толькі на ўкраінскай, і нам не былі патрэбныя ніякія тлумачы. Наступныя паездкі далі наогул перакананне ў тым, што ва Украіне я адчуваю сябе больш вольна беларусам, чым дома. Там ні ў кога не выклікае здзіўлення, ці, нават, варожасці, калі ты размаўляеш на беларускай мове, як гэта ёсць у нашым побыце. Наадварот, цябе прызнаюць, што ты беларус, да цябе ставяцца з павагай, выказваюць свае сімпатыі да нашай Радзімы, нашых людзей. І гэта так радасна, так прыемна.

---

**Гэтым разам у выставе “Віват, Альгерд! Хвала Айчыне!” ўзялі ўдзел *Юрась Каралевіч, Мікола Купава, Алесь Мара, Павел Татарнікаў, Міхась Басалыга, Ніна Сакалова-Кубай, Алесь Зіменка, Тарас Паражняк, Барыс Первунінскі* ды іншыя.**

**Цэнтральныя творы выставы “Перамога на Сіняй Вадзе!” М. Басалыгі і “Вялікі князь Альгерд” Міколы Купавы яскрава выяўляюць гістарычную інтрыгу і адказы на шматлікія пытанні, якія ўзнікаюць на такіх выставах: як гэта было, як выглядалі Вялікі Князь ды ягоныя воі, і, нарэшце, сама адна з вялікіх баталіяў XIV ст., як мастак паказаў бітву?**

**Альгерд у М. Купавы прыгожы, упэўнены і магутны. У левай руцэ ён трымае булаву – сімвал улады і вайсковай магутнасці, а ў правай – аголены меч, які сімвалізуе гатоўнасць літоўскай дзяржавы да змагання за сваю незалежнасць. Вакол мы бачым выявы Вільні, Віцебска і Крэва. З двух бакоў вялікалітоўскія воі ў пагоні на белых конях – знак надзвычай ясны і лёгка прачытаны і распазнавальны.**

**“Перамога на Сіняй Вадзе” М. Басалыгі паказвае сцэну, калі вялікалітоўскія воі замыкаюць серп над татарскімі ордамі (паводле летапісаў) і неўзабаве ўсё будзе скончана перамогай літоўскіх рыцараў. Малюнак зроблены каляровымі алоўкамі.**

**З разуменнем гістарычнага моманту, з вялікім мастацкім густам створаныя акварэлі “На Сінюю Ваду” і “Збор Гарадзенскай Харугвы” прэзентаваў П. Татарнікаў. Акварэлі выдатна закампанаваны, філігранна выкананыя з адчуваннем і веданнем гістарычнай, матэрыяльнай і вайсковай культуры Літвы (Беларусі). “Паход на Сінюю Ваду” – маштабная, фрызавая кампазіцыя, аркуш цалкам запоўнены літоўскімі (беларускімі) войскамі, а выкананая лёгка, артыстычна.**

**Юрась Каралевіч дэманстраваў жывапіснае палатно арыгінальнай кампазіцыі: па**

Да Уланава дабіраліся праз Бердзічаў. Зайшлі да касцёла Святой Дзевы Марыі. Вельмі ўразілі сцены на абрывістым узбярэжжы. Такая моц і веліч! Цёпла паразмаўлялі з супрацоўнікамі мясцовага музея. Дарэчы, яны расказалі, што ёсць версія паходжання назвы горада ад імя хана Бердзіча, якому падараваў горад Гедымін.

Ва Уланаў прыехалі пад вечар. Спыніліся мы ў хаце пана Аляксандра Яцука і яго жонкі (па-ўкраінску – дружыны – якое добрае слова!) Надзеі. Прынялі нас вельмі добра, размова ішла, як песня спявалася. Надвор'е было цудоўным – цёплым і ціхім. Вечарам і ноччу мы хадзілі па Уланаве, па беразе Снівады, пілі з яе ваду (настолькі чыстая і смачная, што п'ецца з асалодай). Было 15 верасня. Неяк само атрымалася, падумалася, што вось у гэты час, менавіта 15 верасня, і адбылася тая бітва. Вельмі спрыяльныя ўмовы – ужо паспела збажына, шмат садавіны і агародніны, лёгка з сілкаваннем войска і фуражом для коней...

Назаўтра я пазнаёміўся з панам Міколам Дорашам, дырэктарам школы ў сяле Варонаўцы. Сам гісторык, вучань Паўла Цімашэнкі, які ў сваю чаргу быў вучнем самога Міхайлы Грушэўскага, ён усё жыццё прысвяціў вывучэнню Сіняводскай бітвы, пошуку месца бітвы і папулярызацыі сваёй версіі месцазнаходжання Сіняй Вады. Праз вывучэнне гісторыі родных мясцін ён даследуе гісторыю Украіны-Русі і Літвы-Беларусі.

Прыемна, што ва Украіне многія разумеюць, што Вялікае Княства Літоўскае – гэта сучасная Рэспубліка Беларусь, а не Літоўская Рэспубліка, і гісторыя ВКЛ – гэта гісторыя Беларусі. Доктар гістарычных навук, прафесар, галоўны рэдактар украінскага часопіса «Военна історія» Сяргей Літвін (якое сугучнае тэме прозвішча!) адзначыў, што Таварыства ваенных гісторыкаў пры фондзе Украіна-ЮНЭСКА падыходзіць да гісторыі ВКЛ менавіта з такіх пазіцый, хоча пісаць сумесную гісторыю, разглядае перыяд знаходжання ўкраінскіх земляў у ВКЛ як перыяд іх плённага развіцця, калі яны былі не пад уладай ворагаў, а развівалі сваю культуру, захоўвалі самабытнасць і мелі поўную самастойнасць.

На цяперашні час гісторыкі прыйшлі да высноваў, што найбольш верагодныя дзве версіі месца знаходжання Сіняй Вады: Віннічына – рака Снівада і Кіраваградчына – рака Сінюха. Спрэчкі паміж прыхільнікамі дзвюх гэтых версій (ёсць і іншыя, але іх не бяруць у разлік) не сціхаюць і цяпер, хоць апошняя міжнародная

---

**перыметры размешчаны каралі і Вялікія князі Літвы ад Міндаўга да С. Батуры, а таксама вялікія гетманы і канцлер Л. Сапега. Нас цікавяць прадстаўнікі разгляданай эпохі, герой Сіняй Вады Вялікі князь Альгерд і ягоны брат Кейстут, які ў гэты час стрымліваў націск на Літву тэўтонаў. А ў цэнтры кампазіцыі сімвалічны вобраз рыцара – абаронцы Айчыны. На жаль, мастаку не ўдалося дасягнуць адзінага калярова-жывапіснага рашэння твора. Тым не менш, палатно займала досыць вялікую ўвагу гледачоў.**

**На выставе з'явіўся знамянальны, важны для ўсяго нашага выяўленчага мастацтва твор, якога мы чакалі – Памятны медаль, прысвечаны Вялікай перамозе. Аверс – Вялікі князь Альгерд, рэверс – сюжэт з батальнай сцэны. Мастак Алесь Зіменка. Добра прамадэляваны вобраз Альгерда і пралеплены рэльеф бітвы. Гэты медаль з'яўляецца моцным дапаўненнем да батальнай тэмы ў медальерным мастацтве.**

**І яшчэ пра адзін адметны твор на выставе – "Святая Багародзіца" Н. Сакаловай-Кубай. Гэта выцінанка, якая па сваёй духоўнай аснове блізкая да абраза. Твор выкананы прафесійна з прымяненнем адмысловай каляровай гамы, стрыманай і мажорнай. "Святая Багародзіца" ўдала завяршае выставу і ставіць у ёй вельмі важны эстэтычны акцэнт, духоўны, які характэрны і для самога Альгерда. У гонар перамогі ён з жонкай будаваў хрысціянскія храмы ў Вільні і Віцебску.**

**Выстава стала значнай падзеяй у мастацкім жыцці краіны. Яна "чыталася" на адным подыху: нічога лішняга, усё дарэчы. Творы цалкам стасуюцца з ідэяй, зместам і канцэпцыяй выставы. Выдатнае ўвасабленне гістарычнай тэмы ў выяўленчым мастацтве Беларусі-Вялікай Літвы.**

***Г. Базылевіч-Ворша.***



*Адкрыццё памятнага знаку да 650-годдзя Перамогі на Сіняй Вадзе, м. Уланаў (Украіна).*

канферэнцыя ў Кіеве адназначна вырашыла, што бітва адбылася на берагах ракі Снівада на Вінніччыне. Мяне здзіўляе падыход нашага Інстытута гісторыі НАН Рэспублікі Беларусь да гэтага пытання. Калі мы паспрабавалі паразмаўляць з яго супрацоўнікамі аб гэтай бітве, то асабіста мне сказалі: "Не лезьце ў XIV стагоддзе, там не цікава. Калі хочаце, займайцеся, XV-м, гэта залаты век ВКЛ, а XIV-е не чапайце!" Але ж каб не чатырнаццатае, то не было б і пятнаццатага. Хто, як не Вялікі Князь Літоўскі Альгерд сабраў землі ў ВКЛ, пашырыўшы межы княства больш як у два разы? Землі ВКЛ складалі пры ім амаль тры тэрыторыі сучаснай Беларусі! Ці гэта не дасягненне? Яшчэ цікавы погляд: бітва была на тэрыторыі Украіны, таму нашто нам, беларусам, ёю займацца. А хто складаў аснову войскаў Альгерда, як не жыхары сучасных беларускіх земляў – навагрудцы, віцебчукі, палачане, менчукі, крэўцы, заслаўцы ды іншыя? Так можна адрачыся ад усяго свайго. І так нашу гісторыю расцягваюць сабе расіяне, літоўцы, палякі. Дзякаваць Богу, старшыня фонду Украіна-ЮНЭСКА былы міністр абароны Украіны Юры Яханураў 3 кастрычніка мінулага года падчас Міжнароднай канферэнцыі ў Кіеве сказаў: "Мы не хочам быць падобнымі да вашых паўночных, заходніх і ўсходніх суседзяў і цягнуць на сябе коўдру, адрываючы Вашу гісторыю. Перамога на Сіняй Вадзе – наша сумесная перамога, і мы павінны святкаваць яе разам". Вельмі ўзважаны, што выклікае павагу, падыход да гісторыі.

Дык вось, першая сустрэча з панам Дорашам зацягнулася далёка за поўнач. Размовам не было канца. Мы абмяркоўвалі магчымыя шляхі войска Альгерда да Сіняй Вады, магчымыя варыянты бітвы. Усё вельмі прыблізна, таму што вядомае на сёння першае і адзінае летапіснае апісанне бітвы зроблена толькі ў 1582 годзе польскім гісторыкам Мацеем Стрыйкоўскім. Гэта больш чым праз дзвесце гадоў! Як адзначыў вядомы беларускі гісторык Кастусь Тарасаў, «справа ў тым, што падзеі сівой даўніны, які б арэол славы іх не атачаў, як бы шырока яны не адлюстроўваліся ў літаратурных помніках, застаюцца для далёкіх нашчадкаў таямнічымі. Лепш

будзе мовіць, што ў гэтых падзеях многае ніколі не пакіне хваляваць нас недаступнай для пранікнення загадкавасцю. Увекавечаныя летапісцамі ці тагачаснымі гісторыкамі апісанні абедзвюх бітваў – Кулікоўскай і Грунвальдскай, а яшчэ больш – на Сіняй Вадзе, падобныя адным – недакладнасцю і прыблізнасцю: па іх цяжка, а то і наогул немагчыма ўявіць ход, развіццё бітваў, колькасць палкоў, дзеянні войска, ролю гістарычных асобаў і шмат чаго іншага, звязанага з ваенным бокам падзеяў. Колькі гісторыкаў не бралася рэканструяваць дынаміку баявых дзеянняў у летні дзень 1362 года на палях каля Сіняй Вады, ці 8 верасня 1380 года на Куліковым полі, або 15 ліпеня 1410 года ў наваколлі вёскі Грунвальд, кожны ў сваіх пошуках натрапляў на такія акалічнасці, якія дазвалялі будаваць у чымсьці новую версію, па-рознаму трактаваць і агульную колькасць войскаў, і іх склад, і ўчынкі тых ці іншых удзельнікаў гэтых пераломных падзеяў украінскай, беларускай і расейскай гісторыі. Цікава, нарэшце, і тое, што былі людзі, якім надарыўся сумны лёс (нельга сказаць – пашчасціла) біцца ў абедзвюх крывавых сечах першай і другой ці другой і трэцяй. Галоўным чынам такая доля напаткала нашых продкаў – наваградцаў, гродзенцаў, палачан, літоўцаў».



*Мікола Купава. Партрэт Вялікага князя Альгерда.*

У асноўным нашыя погляды супадалі. Я прывёз у падарунак пану Міколу рэпрадукцыю карты Вялікага Княства Літоўскага, зробленую Тадэвушам Макоўскім па замове Мікалая Караля Радзівіла ў 1603 г. Я лічу, што гэта вельмі важкі доказ таго, што бітва адбылася на Снівадзе. На гэтай карце на берагах рэчкі без назвы пазначаны Уланаў, які і сёння знаходзіцца на берагах ракі Снівада. А на рэчцы Паўднёвы Буг (на карце Bog) – Хмельнік (Хмільник – па-ўкраінску). Па звестках даследчыка гісторыі Падолля Яфімія Сыцынскага (1901 г.), Альгерд пасля перамогі над татарамі авалодаў Хмельнікам, які лічыўся ключамі ад Падолля. А ад Уланава да Хмельніка каля дваццаці кіламетраў!

11 лютага 2005 года адбылася знакавая сустрэча з Вольгай Міхайлаўнай Іпатавай. Вольга Міхайлаўна напісала раман «Альгердава дзіда», у якім апісала бітву на Сіняй Вадзе так, як бы яна адбылася на берагах Снівады, але рэчку назвала Сінюхай. Дзіўна тое, што Вольга Міхайлаўна апісала мясціны, ні разу не пабываўшы там! Вольга Міхайлаўна запэўніла, што яна перапіша назву ракі, калі гэта будзе даказана.

Наступны раз нас звёў лёс з Міколам Дорашам у Кіеве на навуковай канферэнцыі 2 лістапада 2011 г. у Нацыянальным універсітэце абароны Украіны. Канферэнцыя была арганізаваная Нацыянальным універсітэтам абароны Украіны і Таварыствам


*Мікола Купава. "Бітва".*

ваенных гісторыкаў пры ўдзеле шматлікіх дзяржаўных і грамадскіх арганізацыяў Украіны і прысвечаная тэме тэрытарыяльнай лакалізацыі месца Сіняводскай бітвы. Прыхільнікі двух асноўных версій выказалі свае асноўныя аргументы і мелі магчымасць іх абмеркаваць. Матэрыялы канферэнцыі (у тым ліку і мой артыкул "Бітва на Сіняй Вадзе ў беларускай гістарыяграфіі") надрукаваны ў часопісе "Военна історія" № 4 (58) 2011 г. (Кіеў). Канферэнцыя прыйшла да высновы, што найбольш верагодным месцам бітвы з'яўляюцца берагі ракі Снівада.

Гэтая выснова была замацаваная 24 красавіка 2012 года на канферэнцыі ў г. Хмельніку.

15 верасня на ўскрайку Уланава адкрыты памятны знак, прысвечаны 650-годдзю Вялікай перамогі. Некалькі сотняў чалавек пад цёплым восеньскім сонцам сталі сведкамі падзеі, значэнне якой будзе ацэнена нашымі нашчадкамі так, як мы цяпер спрабуем асэнсаваць значэнне той Перамогі для гісторыі не толькі Украіны, Беларусі, але і ўсёй Еўропы. Пакуль не знойдзена паразуменне ў навуковых шэрагах Украіны аб адназначнасці вызначэння месца бітвы, рэспубліканскія ўладныя структуры адмежаваліся ад святкавання юбілею. А вось Вінніцкая абласная адміністрацыя, раённая і мясцовая ўлады, грамадскасць Кіева, Вінніччыны не толькі арганізавалі гэтае святкаванне, але і зрабілі галоўнае – устанавілі памятны знак. Цяпер на ўкраінскай зямлі пазначана месца, да якога можа прыехаць, прыйсці кожны беларус (віза ж не патрэбна!) і аддаць даніну памяці тым славутым ваярам, што не толькі абаранілі свае землі ад татараў, а і далі свабоду Украіне, і не пусцілі больш татараў у Еўропу. Горда лунапі ў вераснёўскім небе бел-чырвона-белыя сцягі. Праз столькі стагоддзяў Пагоня вярнулася на Украіну! Вярнулася з мірам!

Я іду сваім шляхам да Сіняй Вады. Свой шлях да Сіняй Вады знайшоў Сяргей Панізнік, напісаўшы верш "След Альгерда", беларускі паэт Іван Пыка, стварыўшы паэму "Ліцвіны" пад уражаннем паэмы ўкраінца Міколы Дораша "Сіняводская бітва", украінскі пісьменнік Уладзімір Руткіўскі, аўтар рамана "Сінія Воды", ужо згаданая Вольга Іпатава з раманам "Альгердава дзіда", Кастусь Цвірка з кнігай "Гісторыя Беларусі паводле паданняў і легендаў", мастак Мікола Купава, стварыўшы партрэт Альгерда і натхніўшы на стварэнне мастацкіх твораў на тэму Сіняводскай бітвы дзясяткі маладых мастакоў, гурт "Стары Ольса", спяваючы песню пра Сіняводскую бітву, згаданыя Валеры Стралко і Уладзімір Гаркуша, аўтары песні "Снівада-рака". Да Сіняводскай тэмы звярталіся і прафесар Анатоль Грыцкевіч, і Міхась Чарняўскі, і Анатоль Бутэвіч, і Кастусь Тарасаў, і Анатоль Тарас... Верыцца, што шлях да Сіняй Вады знойдуць яшчэ многія беларусы, каб годна шанаваць памяць аб адной з найвыдатнейшых падзеяў у нашай шматвекавой гісторыі.

Міхась Булавацкі



...за старымі рэчамі –

доўгая гісторыя...

# Старыя рэчы

*Люблю старыя рэчы. Рэчы, якія пражылі побач з табой даволі працяглы час, як бы набываюць родасную табе аўру. Яны – меткі памяці, што раз-пораз ажыўляюць у ёй нейкія знакавыя падзеі твайго жыцця.*
*Некалі ўбачыў у краме і набыў посцілку з чырвона-чорнымі ўзорамі, менавіта такую, якую некалі ткала маці на нашых старэнькіх кроснах. Тая посцілка, заёрзаная шматлікімі людзьмі, што сядзелі на канапе, ужо даволі сітавенькая і яе пара б замяніць на новую, але ж так прыемна акінуць вокам гэтыя чырвона-чорныя клеткі і ўспомніць нябожчыцу-матулю.*
*Ці вось праблема: памяняць старыя чаравікі на новыя. Новыя – прыгожыя, але як няўтульна ў іх нагам. Абуеш і адчуваеш, што ногі іstава просяцца ў старыя, якія растаптаныя і ўжо з дзіркай, але так ласкава паўтараюць лініі ступні, нідзе не ціснуць, не муляюць.*
*Распавяду тут пра тры старыя рэчы, за якімі доўгая гісторыя.*

## Сцізорык

Школьнікам марыў набыць сцізорык – рэч, вельмі неабходную вясковаму хлопцу. Адкладваў на яго грошы па капейчыне, адмаўляючы сабе ў цукерках ды іншых прысмаках. Назбіралася ўжо каля трох рублёў, але гэтага не хапала. Аднойчы ўбачыў сваю мару ў Мікіты Арцёмавіча, нашага старэнькага настаўніка хіміі, і нават захацелася скрасці яго, але гэткую дурасць адразу адкінуў.

Мікіту Арцёмавічу было за шэсцьдзесят, ён пакінуў ужо настаўніцкую працу і пайшоў на заслужаны адпачынак, пакінуў з палёгкай, бо гэтыя вясковыя недарэкі ніяк не хацелі вучыць яго хімію, і гэта нервавала і злавала настаўніка. І цяпер ён наталяўся пенсійнай вольнасцю.

Але маладая настаўніца з дзівосным імем Гартэнзія Сямёнаўна, якую прыслалі наўзамен, адпрацавала некалькі месяцаў і некуды з'ехала. Мікіту Арцёмавіча дырэктар папрасіў часова вярнуцца ў школу. Таму вельмі не хацелася мяняць вольнае жыццё на вайну з недарэкамі, але дырэктар настойліва прасіў, і настаўнік здаўся, падумаўшы, пэўна, што лішні заробак да пенсіі не пашкодзіць.

Так Мікіта Арцёмавіч з'явіўся ў нашым класе. Гэты маленькага росту дзядок някепска ведаў хімію, паважаючы яе як адну з наймудрэйшых навук, і, мабыць, хацеў перадаць гэтыя веды нам, але мы не лічылі хімію досыць важнай часткай нашага будучага жыцця як, напрыклад, матэматыка ці мова, і не шчыравалі ў яе вывучэнні. Настаўнік злаваўся і шчодра адорваў нас кпінамі ды іншымі словамі, якія прыемнымі не назавеш. Здаралася, хто-ніхто адбрэхваўся, але гэта прыводзіла да зніжэння адзнакі ды іншых непрыемнасцяў, таму часцей моўчкі глыталі крыўдныя папрокі і кпіны.

Менавіта з гэтай нагоды і ў маім шэрагу чацвёрак ды пяцёрак за чвэрць красаваліся дзве тройкі – па біялогіі, якую выкладала жонка Мікіты Арцёмавіча, і, натуральна ж, па хіміі. Гэта зусім не турбавала мяне, бо паскардзіцца маці настаўнік не мог: яна жыла за дваццаць кіламетраў у маленькай вёсачцы сярод лясоў і балот, дзе не было ні тэлефона, ні электрычнасці, ні якой іншай сувязі са светам. Хіба што раз на тыдзень зазіраў туды паштальён Ціма і прыносіў газеты ды лісты ад сваякоў. А я жыў у інтэрнаце пры школе і дома з'яўляўся толькі на выходныя.

Бадзёрым крокам настаўнік зайшоў у клас і паведаміў:

– Сёння будзем рашаць алімпіядныя задачы.

– Нам бы звычайныя навучыцца рашаць, – сказала дзяўчына за суседнім сталом. Сказала ціха, але настаўнік пачуў. І скрывіўся ў з'едлівай усмешцы:

– Калі ў галаве аўсяная каша замест мазгоў, тады ўсё адно, ці звычайныя, ці алімпіядныя.

Не ведаў Мікіта Арцёмавіч, якую струну закрануў ува мне. "Суседка", як называў яе я, была гераіняй маіх самых патаемных мараў, і крыўдзіць яе я нікому не дазволіў бы, хай сабе й настаўніку.

– Аўсяную кашу трэба ўжываць без хіміі. Здаравей будзе!

– Што! – узвіўся настаўнік. – Ты думаеш, акуляры начапіў дык ужо й разумны!

– А хіба ж акуляры – паказнік розуму? То-та ж, я гляджу, вы свае акуляры ў кішэнь хаваеце. Баіцеся паказацца разумным? Не хвалюйцеся, вам гэта не пагражае.

Нават сам здзівіўся, як гэта складна і едка атрымалася. Зірнуў улева, убачыў ухвальны позірк мілых вачэй, пасля якога мне нічога ўжо не было страшна.

Мікіта Арцёмавіч мо й не зразумеў сутнасці пачутага, але ў класе засмяяліся, і ён раз'ятрыўся. Падскочыў да майго стала, затупаў сваімі кароткімі ножкамі і закрычаў:

– Вон з класа!!!

Я няспешна сабраў са стала сшыткі, падручнік, асадкі і павольна выйшаў.

Праз нейкі месяц Мікіта Арцёмавіч падышоў да мяне на перапынку:

– Хутка раённая алімпіяда па хіміі. Я думаю, паедзеш ты.

– Як?! – здзівіўся я. – У мяне ж тройка!

– Ты матэматыку ведаеш, дык хоць валентнасць зможаш разлічыць. А іншыя і таго не змогуць.

– Тады чаму ж у іх чацвёркі?

– Ну, ты і сам разумееш...

Дзве спакусы змагаліся ўва мне. Адна спакуса – ганарліва адмовіць нялюбаму настаўніку, маўляў, я з вамі ў такія гульні не гуляю. Але другая спакуса – пашвэндацца па раённым цэнтры і атрымаць два рублі на абед – перасіліла.

Калі адведзены на алімпіяду час закончыўся і я выйшаў з памяшкання, Мікіта Арцёмавіч падышоў да мяне з вясёлай усмешкай:

– Ну што, адну задачу ты рашыў. А можа й не адну?..

– Якую адну? Я не рашыў ніводнай.

– Але ж там была задача, якую мы разбіралі ў класе!

– Дык вы ж мяне выгналі з урока.

Усмешка павольна спаўзала з твару настаўніка.

– І... І што? Ты не паглядзеў, як яна рашаецца?

– Не, не паглядзеў. А навошта мне гэта?

Усмешкі на твары ўжо не было. Ён глядзеў на мяне амаль з нянавісцю. І, каб можна было не даць мне тыя два рублі і пакінуць мяне без абеду, ён бы з задавальненнем гэта зрабіў. Але такога права ў яго не было. Ён моўчкі дастаў з партфеля ведамасць, тыцнуў пальцам, дзе паставіць подпіс, пачакаў, адвярнуўшыся, пакуль я гэта зраблю, сунуў паперку ў партфель, паклаў два рублі і пайшоў, усім выглядам дэманструючы: век бы не мець справы з такімі бязглуздымі!..

На абед у раённай сталоўцы мне хапіла трыццаці капеек. Астатняе даклаў да ранейшай сумы. Да аўтобуса было яшчэ шмат часу, і я вырашыў без пэўнай мэты зазірнуць у раённы ўнівермаг. І там адразу ўбачыў ЯГО. Невялічкага памеру сцізорык у зялёных тронках як бы ўсміхаўся мне. Там былі два ножыкі, большы і меншы, нож для адкрывання бляшанак і бутэлек, адвёртка, нажнічкі, шыла, штопар, пілка для чысткі пазногцяў і нават пластмасавая зубачыстка ў кішэньцы тронкаў. Каштавала гэтае дзіва... Ну, якая розніца, колькі яно каштавала. Галоўнае, што маіх грошай ужо хапала, нават заставалася дваццаць капеек на аўтобус.

Хлопцы ў інтэрнаце з цікавасцю разглядалі мой набытак. Сцізорык пераходзіў з рук у рукі, ножыкі, нажнічкі, штопар адкрываліся, закрываліся, нажнічкамі спрабавалі рэзаць кардон, правяралі вастрыё ляза ножыкаў і моц шыла, праткнуўшы абцас чыйгосьці чаравіка. Міша Раманоўскі, мой сябар і сусед па стале, самы магутны ў класе, агледзеў сцізорык, адкрыў большы ножык пад прамым вуглом і сказаў, працягваючы мне сцізорык:

– А можаш ты адкрыць яго вось так?

Задача заключалася ў тым, што напалову адкрыты ножык трэ было адкрыць да канца, упіраючыся пальцам, пакладзеным папярок сцізорыка, у месцы згібу. Што будзе з пальцам, калі ножык адкрыць такім спосабам? Гэтае натуральнае пытанне чамусьці не ўзнікла ў маім мазгу, расталым ад задавальнення, затуманеным прыемным адчуваннем сябе гаспадаром Рэчы. Я ўпёрся пальцам у месца згібу ножыка, новая спружынка пасупраціўлялася і...

Ножык адкрыўся. Вострае лязо слізганула па маім пальцы, не сумеўшы перарэзаць толькі косткі. Кроў пырснула на кашулю сябра, а я заенчыў ад болю.

– Што за крык і слёзы? – зацікавілася адна з дзяўчын, якія побач перакідваліся мячыкам. Гэта была яна, мая Суседка. Аднекуль з'явіліся ватка з ёдам, бінт. Яе рукі бінтавалі мой паранены палец, і я ўжо не адчуваў болю, адчуваў асалоду ад таго, што нашы рукі судакраналіся, што яе мягкія пяшчотныя пальцы з абкусанымі пазногцямі кранаюцца маёй рукі. Каб гэта працягвалася як даўжэй, я гатовы быў парэзаць яшчэ адзін палец.

– Я ж не ведаў, што ты такі дурань, – адкажа мне пазней Міша на мой папрок. І пакажа, як тое можна зрабіць, націскаючы мягкім паваротам пальца, паступова прымушаючы ножык адхіляцца ў патрэбным кірунку.

Але ўсё ж бог пакараў яго за такі жарт. Наступным годам, калі Мікіта Арцёмавіч ужо сыйшоў ад нас і яго замяніла маладая настаўніца, яна аднойчы забыла замкнуць лабаранцкую ў кабінеце. Міша зайшоў туды пацікавіцца змесцівам шафы, знайшоў берталетавую соль, церануў яе, – выбухам пашкодзіла пальцы на руцэ. Добра, што рука закрывала твар і вочы засталіся непашкоджанымі. А пальцы так і засталіся скарожанымі на ўсё жыццё.

Такім чынам, мая і сцізорыка еднасць змацаваная крывёй і шнарам на пальцы. Ён пражыў са мной на рэдкасць доўгае для такой рэчы жыццё. Некалькі разоў я яго губляў і нейкім чынам знаходзіў. Аднойчы, калі быў выхавальнікам у піянерлагеры, пайшоў у бліжэйшы лес адрэзаць шост для сцяга. Палку прынёс, а сцізорык застаўся ў лесе. Мае адчайныя пошукі былі безвыніковымі. Паведаміў дзецям свайго атрада пра згублены сцізорык, можа, хто знойдзе. Праз некалькі дзён мне сказалі, што хлопец з суседняга атрада знайшоў у лесе нейкі ножык.

Хлопец падазрона выслухаў маю падзячную тыраду за знаходку і відавочна не паверыў, што ножык мой. Вырашыў, мабыць, што выхавальнік "выкарыстоўвае службовае становішча" і проста хоча прысвоіць сабе знойдзеную рэч, але сцізорык неахвотна аддаў. Магчыма, пакецік цукерак крыху прыглушыў яго крыўду, але незадавальненне, я бачыў, засталося.

Пасля таго сцізорык ужо не губляўся.

За амаль паўстагоддзя яму таксама дасталося, сведчаннем таму – абламаныя абодва ножыкі і скрыўленая адвёртка. Але ўсё астатняе яшчэ служыць мне. Калі мне трэба адкрыць бляшанку кансерваў, я шукаю сцізорык. Калі трэба праціснуць шылам дзірку ў пластмасе, дрэве ці кардоне, я шукаю сцізорык. А абрэзаць пазногці ці вусы ніякімі нажніцамі ў мяне не атрымліваецца так добра, як маленькімі нажнічкамі сцізорыка. Хаця спружынка ў тых нажнічках даўно зламалася, але яны так паслухмяныя маім пальцам.

Дарэчы, па заканчэнні дзясятага класа па хіміі мне стаяла ўсё ж чацвёрка. Адзіная тройка была па біялогіі.

## Гадзіннік

Апошняе студэнцкае лета вырашыў папрацаваць у будатрадзе, каб зарабіць крыху грошай і больш-менш прыстойна апрануцца да пачатку настаўніцкай дзейнасці. Але была адна праблема: з-за траўмы ў дзяцінстве я застаўся кульгавым і прайсці медкамісію аб прыдатнасці было маларэальна.

– Не турбуйся, – супакоіў сябрук, які ехаў на будоўлі СССР не першы раз. – Пройдзеш. Там гэта проста.

Гэта сапраўды аказалася проста. Да ўрача зайшлі ўсім атрадам. Ззаду ў гэтым натоўпе туліўся я.

– Ну што, хлопцы, – бадзёра запытаўся ўрач, – усе здаровыя?

– Усе! – хорам адказалі мы.

– Хочаце працаваць?

– Хочам.

– Ну то давайце свае паперкі.

Ён паставіў неабходную колькасць подпісаў і пячатак і вярнуў нам паперы. Савецкія будоўлі чакалі маладых працоўных рук, тут не да сантыментаў.

У Александрыі, якая сёння стала знакамітай вёскай, мы пад кіраўніцтвам мясцовага цесляра-муляра і ўвогуле майстра на ўсе рукі адрамантавалі кароўнік, пабудавалі склад і ў калгасным садзе фінскі дом для старшыні калгаса. Заробак атрымаўся для тых часоў някепскім. І першым набыткам сталі два гадзіннікі – настольны для маці і наручны для сябе.

Гадзіннік у мяне быў, падараваны братам у выпускным класе. Але за пяць гадоў ён ужо змучыўся працаваць і даваў збоі. Акрамя таго, яго пукатым корпусам я часта чапляўся за штосьці, таму шкло было ў драпінах і трэшчынах.

Новы гадзіннік выгодна адрозніваўся ад старога. Квадратны цыферблат у ярка-жоўтым, "залацістым", тонкім корпусе на чорным раменьчыку. Усё гэта так добра прылегла да маёй рукі, аздобіўшы яе, што першы месяц я раз-пораз міжволі глядзеў на гадзіннік зусім не дзеля вызначэння часу. Дадавала значнасці гадзінніку яшчэ й тое, што набыў яго трыццаць першага жніўня, у гадавіну майго знаёмства з Суседкай, зараз ужо далёкай, але не менш прыцягальнай...

Гадзіннік ціўкаў на маёй руцэ роўна дваццаць год. Я з ім і калоў дровы, і цягаў бярвенні, і падаў з ровара, і тануў. Ён цярпеў і працаваў. Але ў гэты юбілей змаркоціўся. У майстэрні сказалі, што рамонт складаны і будзе каштаваць нямала. І я вырашыў прыстойна развітацца з сябрам.

Пасылку з гадзіннікам я даслаў мінскаму заводу "Луч" з прыпіскай, што гэты гадзіннік адпрацаваў без чысткі і змазкі роўна дваццаць гадоў, таму варта змясціць яго ў музеі завода, калі такі ёсць. Праз пэўны час адрымаў адказ: "Завод не выконвае рамонту гадзіннікаў. Але ў парадку выключэння можам адрамантаваць ваш гадзіннік з заменай корпуса. Каштаваць гэта будзе..." Я напісаў, што дасылаў гадзіннік не для рамонту, а ў музей, але калі пры заводзе няма музея, то я згодны атрымаць адрамантаваны гадзіннік.

Праз месяц гадзіннік вярнуўся да мяне. У новенькім бліскучым жоўтым корпусе ён як бы ўсміхаўся мне, распушыўшы вусы-стрэлкі. Я замілавана паглядзеў на яго і пакруціў завадную галоўку. Ён радасна заціўкаў, як раней.

З таго рамонту прайшло ўжо дваццаць два гады. Кожным ранкам, устаючы, перш-наперш я, як бы выконваючы пэўны рытуал, накручваю галоўку гадзінніка, і ён нястомна круціць тры свае стрэлкі, адмерваючы імгненні майго жыцця.

Мне ўжо пачынае мніцца, што нашы сэрцы спыняцца адначасова.

І вось жа, думаю, умелі раней на тым "Лучы" рабіць цудоўныя рэчы. Якая лепшая рэклама трэба: пакажы гэты гадзіннік з прыслоўем, што ён працуе ўжо сорак трэці год, і... Але ж ці праўдзівай будзе такая рэклама? Сучасныя ж электронныя гадзіннікі, мо, столькі не адпрацуюць. А механічныя ці робяць? І ці робяць такімі?..

## Лыжачка

Яна стаяла на палічцы ў слоіку сярод іншых чайных лыжачак і выдзялялася між імі, стальнымі і бліскучымі, сваёй матавай задуменнасцю і нейкай нязвыклай формай. Чамусьці я адразу выглядзеў яе і ахвотна карыстаўся яе паслугамі. І ўжо потым, прыязджаючы ў матчыну хату на студэнцкія вакацыі, браў яе, каб выпіць свежага малака з варэннем ці чаго іншага.

Аднойчы лыжачку не знайшоў у слоіку. На маё пытанне маці паціснула плячыма: не ведаю. Але было бачна, што і ёй шкада лыжачкі. Лыжачка знікла.

Мо, праз год перад Макавеем, святам, на якое маці надарылася нарадзіцца, мыў падлогу, шоргаў дзеркачом масніцы, каб яны сталі белымі ды вясёлымі, і раптам заўважыў у шчыліне паміж дошкамі нешта з металічным бляскам. Цвічок туды заваліўся, ці што? Пачаў калупаць, каб дастаць цвічок. Дастаў лыжачку.

– Мама! Лыжачку знайшоў! – гукнуў я радасна.

– Ну й добра, – сказала маці і ўсміхнулася.

– А адкуль у нас гэтая лыжачка?..

Напрыканцы чэрвеня сорак першага немцы ўшчэнт разбілі пад Бабруйскам савецкую вайсковую дывізію. Ацалелыя салдаты рассеяліся па лясах, сярод якіх прытулілася наша вёска Восы, і спрабавалі неяк выйсці да сваіх, якія былі ўжо далёка на ўсходзе. А ў нашым раёне ўжо ўсталёўваўся нямецкі парадак.

У Восы заваёўнікі зазірнулі, але палічылі вёску нявартай таго, каб пакідаць тут свой гарнізон. Пакінулі яго ў мястэчку Завалочыцы, адкуль аднойчы двое фрыцаў на вазку аднаконь наведаліся ў вёску збіраць яйкі, масла ды іншы харч. На яйкі былі адмысловыя пакункі, зараз яны маюцца ў кожнай краме, а тады людзі дзівіліся на тыя зручныя пакункі. Назбіраўшы поўныя пакункі яек ды іншы харч, салдаты паехалі.

– Вось не баяцца ж ездзіць па двое, – выказаўся нехта. – У лесе ж салдаты. Маглі б і стрэльнуць.

– Дзе тыя салдаты! Яны да сваіх прабіраюцца. А фронт ужо вунь дзе.

Назаўтра раніцай маці запаліла ў печы, пачала гатаваць сняданак. Дзеці яшчэ спалі. У дзверы нехта ціха пастукаў. Яна адчыніла. На парозе стаяў салдацік. Так, яна сказала – не салдат, а салдацік. Ёй, трыццацігадовай жанчыне, ён падаўся зусім маладзенькім, як дзіця. Мусіць, і не галіўся яшчэ. Салдацік быў у форме, але без зброі.

– Гаспадыня, пакарміце мяне, калі ласка, – папрасіў ён.

Цеста для бліноў было ўжо замешана. Маці накарміла яго блінамі з маслам. Еў салдацік нетаропка, акуратна, хаця было бачна, што ён той гарачы блін гатовы заглынуць цалкам. Пакуль чакаў чарговага бліна, маці распытвала. З яго кароткіх адказаў зразумела нямнога. Дзед яго быў не рабоча-сялянскага паходжання, і калі пра тое даведаліся “дзе трэба”, бацьку арыштавалі.

– Вось, пайшоў ваяваць замест яго, – сумна ўсміхнуўся хлопец. – Дый павяваў усяго паўдня.

– Яшчэ наваюешся, – “супакоіла” яго маці. Яна разумела, што лёс у хлопца будзе незайздросны, і мацярынская шкадоба сціскала яе сэрца. Але чым яна магла яму дапамагчы?

На дарогу адрэзала шматок сала. Хлопец падзякаваў, потым дастаў з кішэні лыжачку:

– Гэта адзіная памяць пра дзеда. У мяне яна ўсё адно не захаваецца. Вазьміце...

Так тая лыжачка і засталася ў нас.

Праз колькі дзён зноў двое немцаў ехалі на кані ў вёску па харч. Але гэтым разам не даехалі, іх застрэлілі. Раз’юшаны камендант гарнізона запрасіў падмогі ў горадзе. Назаўтра група немцаў прайшла аблавай па лесе. Злавілі некалькіх салдат і, паздзекаваўшыся, расстралялі пры дарозе. Вяскоўцам загадалі закапаць трупы. Сярод расстраляных маці пазнала “свайго” салдаціка.

Надалей збіраць харч немцы ўжо не ездзілі па двое. Ехалі групамі па дванаццаць-пятнаццаць чалавек на роварах.

Бліц-крыг не атрымаўся. Вайна зацягнулася. Пачалі ствараццa партызанскія атрады і фашыстам трэба было ўжо ваяваць на два фронты.

...Зіма 43-га выдалася лютай. Партызаны вымушаны былі з зямлянак перасяляцца ў хаты, у лясныя вёскі. Але вайсковых аперацый не спынялі. Гэта стала нагодай для немцаў, каб у тых вёсках спачатку пазабіраць кароў у людзей, а потым папаліць іх разам з людзьмі. Вёску Восы напаткаў той жа лёс. Маці разам з іншымі працаздольнымі жанчынамі пагналі ў Германію. Па дарозе ёй нейкім чынам удалося ўцячы. Але, калі яна вярнулася назад, то вёскі ўжо не ўбачыла. На месцы кожнай хаты – папялішча.

Яна споўдалася па папялішчы сваёй хаты і збірала недагарэлыя костачкі. Костачкі дзвюх сваіх дачок і большыя косткі – косткі іх бабулі. Перазахавала іх пад яблыняй. Пастаяла ля былой хаты. У попеле нешта бліснула. Лыжачка. Яна ўзяла яе і пайшла ў лес, дзе чакаў сын, адзіная родная душа, якую ўратаваў лес.

Я нарадзіўся пасля вайны. А старэйшы брат усё далейшае жыццё служыў лесу, які яго ўратаваў. Ён стаў першым ляснічым наваствoранага Завалочыцкага лясніцтва і трыццаць пяць год кіраваў ім. А па сыходзе на пенсію напісаў кнігу “Гісторыя Завалочыцкага лясніцтва”, за якую атрымаў буйную прэмію Міністэрства лясной гаспадаркі. Але тое ўжо іншая гісторыя.

Зараз і я ўжо пенсіянер. Але тая лыжачка жыве са мной. Я карыстаюся ёю штодзень, але яна не зшоргалася, як іншыя, а захавала і сваю дзіўную прыемную для рукі форму, і матавы бляск.

Аднойчы падумалася: калі лыжачка, перажыўшы і пажар, і доўгія гады службы людзям, не мяняецца, то, магчыма, яна зроблена з нейкага высакароднага металу. Сябрук, які мае справу з металам, пакруціўшы яе ў руках, сказаў: хутчэй за ўсё гэта пасярэбраны мельхіёр, але дакладна можна сказаць, правёўшы спектральны аналіз у якой-небудзь лабараторыі. Другі запярэчыў: калі лыжачцы больш за сто гадоў, то яна не з мельхіёра, бо тады мельхіёра не ведалі, таму хутчэй гэта старажытнае срэбра. Але я не стаў шукаць той лабараторыі. Бо лыжачка дарагая мне зусім не высакароднасцю металу.

*31 трайня – 7 верасня 2012 года*

Алесь Тарановіч



...душа прышыта

да аблокаў!..

# У Крынках у Сакрата

*«Снег з Расейшчыны, дождж з Паляччыны»...*
Анатоль Сыс

Саслізгваючы з зямлі, ноч мялела, як рака.

Світанак нясмела камячыўся на парозе.

Ружовае цела маладой раніцы млела ў густой расе.

Усё застыла – зацягнутае шызым попелам кастрышча, роўнядзь сажалкі, чорны гмах лесу.

Лёгкі вэлюм перадсвітальнай цішыні раскалоў голас першай птушкі.

У вільготнай глыбіні лесу нараджаюцца хвалі птушыных арый – развітанне з гэтымі мясцінамі будзе праходзіць пад крэшчэнда птушынага спеву.

Машына імчыць нас праз змрок лесу па пустэльнай дарозе.

Мільгаюць палі, ручаі, пералескі, вёсачкі, сялібы.

З першым промнем сонца імгненна запрацавала помпа, накачваючы нізіны туманам.

Цяжкі, ртутны бляск ракі ў пасмах малочнае пары..

Раптоўная выява-ўспышка застыла фатаграфіяй.

Супрасль.

Беласнежны сабор на крутым беразе зіхаціць, адліваючы ружовым, як руанскі сабор Манэ, як касмічны карабель на старце.

Чатыры чалавекі ў машыне ў захапленні.

Дарога спяшаецца пад колы.

Пачалася балбатня вясёлых фарбаў дня...

Беласток.

Прыгожы, зялёны горад, дзе старажытная архітэктура суседнічае з сучаснай. Падумалася, кім былі б зараз мае новыя знаёмыя, каб не сказаў Сталін у свой час сакраментальную фразу:

– Панцеляймон, падары!

Каб не аддаў першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Беласточчыну з яе пяцістамі тысячамі беларусаў Польшчы...

Колы машыны ўпэўнена мацаюць дарогу...

Прыгожы касцёл на пагорку.

Вышкув.

Лайаш падаў голас:

– Тут у 1920-годзе чырвоны польскі ўрад пад кіраўніцтвам Дзяржынскага і Мархлеўскага чакаў вынікаў бітвы за Варшаву. Драпалі потым, што было сіл...

Хутка і сама Варшава.

Вялізныя нямецкія гандлёвыя супермаркеты на ўскраіне.

Ашаламляльна прыгожы цэнтр горада, такі ж мадэрновы, як «Potsdamer Platz» у Берліне.

Лайаш паспявае за 4 хвіліны ўзяць квіток і дабегчы да цягніка.

Мы з Томасам радуемся за яго.

Шпацыруем па цэнтры. Не пазнаю нічога. Якія перамены!

Чытаю: «Галерэя сучаснага мастацтва Катажыны Напяркоўскай» і далей адрасы філіялаў. Ба-а-а! Ну, Катажына, ну малайчына, паднялася!

Калі ж гэта было... Ды амаль 20 гадоў таму назад. Першы наш выезд за мяжу з выставай. У яе маленькай галерэі карціны віселі нават у паветры... Пасяліла нас у сваёй загараднай віле. Зграбная, актыўная, праўдзівая грандэса, як гавораць палякі...

У Польшчы ўсё тады было дэфіцытам.

Гіганцкі савецкі кірмаш на стадыёне ў Варшаве. Пад гукі «Ласкавага мая» палякі змяталі ўсё. Вакол крымінал, бойкі, самавольства...

Яшчэ не верыцца, што ўсё завяршылася, згарнулася ў тонкую спіраль, у звышшчыльны завіток, у кропку, з якой з'явілася.

Замігацелі шматкі ўспамінаў...

Пра Сакрата чуў даўно.

Маўляў, жыве ў Польшчы ў Белавежскай пушчы дзіўны беларускі пісьменнік.

Не ўпісваецца ў агульнапрынятыя схемы.

Незалежны чалавек, групуе ў сябе на віле нетрадыцыйна думаючых літаратараў і інтэлігентаў. І штогод выдае нейкі дзіўны «Annus», каб прачытаць які, трэба валодаць рознымі мовамі. Беларусы там пішуць на еўрапейскіх мовах, еўрапейцы – па-беларуску.

І толькі Алесь Разанаў пры сустрэчы ў Берліне растлумачыў, што і як.

І тут раптам – запрашэнне.

Аўтобус доўга віхляў па лясных дарогах і нарэшце выплюнуў трох незнаёмцаў на пустым аўтавакзале ў Крынках...

Адчуваю, што паролем павінны быць словы «Сакрат Яновіч» і «Беларускі трыялог». У адказ усмешкі. Знаёмімся.

Лайаш з Вугоршчыны.

Томас з Нямеччыны.

Мова – польска-беларуская. Шукаем хату Сакрата.

І першы мясцовы жыхар, якога мы сустрэлі, яе нам паказаў. Хата, як на малюнку.

Сустракае добразычлівая, ветлівая гаспадыня.

Вось яна – доўгачаканая сустрэча.

Сакрат:

– Жыву на злосць лёсу і на радасць людзям!

Вочы выпраменьваюць святло, густыя бровы шаўковымі вусеніцамі цягнуцца да пераносся. Размаўляе павольна, узважваючы кожнае слова. У голасе адчуваюцца ноткі металу. Сапраўдны дэміург.

Незалежнае мысленне, меркаванне, дзеянне.

Канфлікты як з мясцовымі бюракратамі, так і з таўстазадымі службоўцамі ад літаратуры з Саюза пісьменнікаў Беларусі. 10 гадоў ён цягне гэтую лямку – робіць «Беларускія трыялогі».

Змяніў чатыры грамадзянствы. У трыццаць дзявятым польскае змяніла савецкае, у сорак першым – нямецкае, у сорак пятым зноў польскае. Зусім як жыхары Эльзаса, якія пры жыцці аднаго пакалення гэтак жа чатыры разы змянілі грамадзянства.

І мой бацька бачыў у родным Мінску розныя войскі – царскае, кайзераўскае, белапольскае, чырвонае, Вермахт, савецкае.

Сакрат Яновіч:

– Сёння вялікіх польскіх пісьменнікаў няма. А пры цары былі. Генрых Сянкевіч, напрыклад, жыў на расійскія ганарары...

Едзем на вілу, віхляючы па лясных дарогах сярод самотных хат. Сустракаюцца і закінутыя сялібы...

Месцы Каліноўскага і Грынявіцкага.

На ідэальна падстрыжанай лясной паляне стаіць двухпавярховы гмах у стылі фахвэрк. Побач невялікая сажалка з крыніцай.

Усё як і ўяўляў...

Тут ужо годзе народа.

На заўтра – канферэнцыя.

За сталом, прарастаючы каранямі і шалясцеючы суфіксамі, льецца польская гаворка – працоўная мова прадстаўнікоў розных краінаў. Потым адзін за другім пераходзяць на беларускую. Успамінаецца чыёсьці:

– Алкаголікі слоў і жрацы залатой эйфарыі...

Ёсць людзі – майстры на сто працэнтаў. І гэтыя людзі сабраліся тут. Мне падабаюцца такія людзі. З імі заўсёды лёгка.

Ва ўсім адчуваецца высокі прафесіяналізм і атмасфера зычлівасці.

З імі адчуваеш сябе шчаслівым і абароненым.

Рышард Радзік:

– Сёння беларус становіцца расейцам не выходзячы з хаты з дапамогай ТБ.

Ветэран вілы. Тонкі эстэт. Музыка дакладнай фразы і пульсуючай думкі, якія перадаюцца ідыёмамі і інтанацыямі, думкі абдумваюцца з хуткасцю кампутара.

Лявон Тарасевіч:

– Палітыкі прыходзяць і сыходзяць, а творцы застаюцца.

Мы з ім скончылі ў адзін год мастацкія акадэміі. У свой час я напісаў першы ў Беларусі артыкул пра яго жывапіс.

Апошні раз мы сустракаліся ў Берліне гадоў пяць назад. Зараз ён прафесар у Варшаве. У яго прамовах, як і ў жывапісе, ёсць адмысловы рытмічны малюнак.

Адбойны малаток інтэлекту не падвёў яго яшчэ ні разу.

Пані Войт. Любасная ўсмешка рыфмуецца з узлётам веек.

Добра быць жанчынай у Польшчы! У адрозненне ад Нямеччыны, тут на яе абвальваецца шквал кампліментаў.

Юрась Хмялеўскі. Удумлівыя вочы. Тактоўны, стрыманы, ураўнаважаны. Адчуваецца, што ён уладар кампутарнага лесу і сакральных далін.

Пальфальві Лайаш з Будапешта. Аказваецца, у вугорцаў прозвішча гэта адначасова і імя. Буйны, з тонка акрэсленым, народзістым тварам арыстакрата і чыстымі аксамітнымі вачамі. Заўсёды гаворыць толькі па сутнасці.

Польская – без акцэнту.

Томас Вайлер. Мой «зямляк» з Карлсруэ. Статны, спартыўны, з вачамі, як у лані. Паліглот. Мяккі говар. Ягоная расейская мова – без акцэнта, гэтак жа, як і польская.

Любы чалавек утойвае ў сабе масу нечаканага, таму разгадка яго такая цікавая. Аказваецца, Томас жыў і працаваў у «маім» Мінску, праходзіў там альтэрнатыўную службу!

Ганна Кандрацюк, Гандзя, як завуць яе тут. Пісьменніца, журналістка. Тонкае пачуццё літаратурных выяў, глыбокае веданне менталітэту жыхароў Пушчы.

Яе кніга адкрыла мне вочы на гэтых людзей.

Міхась Урублеўскі:

– Этнічная Беларусь знаходзіцца ад Беластока на Захадзе, ад Бранска на Усходзе, ад Оўруча на Поўдні, ад Вялікіх Лук на Поўначы. Усе чатыры гэтыя гарады сёння Беларусі не належаць. Ён сканцэнтраваў мазаіку часу і прасторы.

Юры Вашкевіч. З ім мы былі яшчэ на беларускіх з`ездах у Вільні ў пачатку перабудовы. Мужны, сімпатычны твар загартаванага байца, нібыта жывы партрэт рымскага цэнтурыёна. Вострыя фармулёўкі і эпітэты вылятаюць з яго без якойнебудзь напругі.

Януш Корбель. Барада, як куст бэзу, шапка кучаравых валасоў.

Чалавек часоў Стэфана Баторыя. Мяккі, смачны, заспакаяльны гаварок.

Сама дабрыня і спагадлівасць.

Віталь Карнялюк. Высокі, атлетычны. Бліскучы агат вачэй.

Патрыёт сваёй Гародні. Як праўдзівы інтэлігент рэфлексуе на ўсё.

Эўгеніюш Кобец. Дыпламат па прафесіі і па натуры. Гэта ён першым стаў зваць Сакрата «Чарнарускі князь». Вытанчаны знаток вінаў, асабліва італьянскіх.

Дні спрасаваныя дашчэнту. Сустрэчы – дыспуты. Дыспуты – сустрэчы.

Вадаспады пачуццяў. Апёкі сустрэч. Крэшчэнда знаёмстваў.

Дзіды пытанняў. Стрэлы адказаў. Вялікае мастацтва – не страціць чысціню і свежасць успрымання. Так, «Annus Albarutenicus» – гэта новае. Незвычайнае новае са знакам плюс. Новы дух.

Новае мысленне.

Не мы ў Еўропу, а яна да нас.

Кожны год таямнічая віла на ўскраіне Белавежскай пушчы прыцягвае ўвагу інтэлектуальных еўрапейцаў.

Пражываючы ў сталіцы, мы заўсёды адчувалі сябе на местачковым узроўні, а ён здолеў прыўнесці ў мястэчка дух сталіцы.

Пасля абеду выдаўся вольны час.

Вырашыў вывучыць наваколле. Ад гасцініцы ў лес у бок беларускай мяжы вядзе лясная дарога.

Барада дажджу завісла на твары дня.

Вецер зводзіў хмары лбамі.

Ім было цесна на небе, і яны з`ядалі сонца і лета.

Лес прыемна павеяў волкай лістотай і духмянай грыбніцай. Сосны, дубы і ліпы мудрагеліста разлапілі вялізныя галіны.

Ствалы хвояў абплылі шкіпінаравай смалой. Слязіліся вочы лета.

Густое, як дзікі мёд, цягучае паветра, настоенае на водары траў...

Лес радзее.

Адкрываецца краявід, адксераны з палотнаў Каро.

Сялібы пад вялізнымі, купчастымі ліпамі.

Гнёзды буслоў на слупах. Людзей няма. Рваная дзірка ў аблоках хутка напаўняецца небам.

Там, за лесам – сплюснутасць прасторы па вертыкалі і разбег па гарызанталі.

Вялікае, адкрытае, месцамі забалочанае поле.

Гэта мяжа.

Буслы – эмігранты там і тут.

Нязвыкла.

Упершыню гляджу на беларускую тэрыторыю з таго боку. Хто я ім? А яны для мяне? Цягну сябе сам, як трактар па жыцці. Кінуць бы ўсё і пасяліцца б тут, на сялібе, сярод белавежскіх беларусаў, якія размаўляюць па-польску.

Закінуць у балота сотавы тэлефон з Sim-картай, SMS, друкарку, плэер, кампутар з E-mail ды інш. Усю гэтую электроніку, якая накінула на цябе сетку і высушвае мазгі.

Збегчы б з гэтага вялізнага горада, які палюе за тваёй душой, расстаўляючы пасткі. Апрануць ватоўку, боты, узяць стрэльбу, вуды, шнуры, лавіць рыбу, паляваць на кабаноў, садзіць бульбу, касіць канюшыну... Як тады, на Вілейшчыне.

Гладышы.

Старажытнае мястэчка. Тры тысячы жыхароў. Раней было нашмат больш... Засталіся толькі старажытныя габрэйскія могілкі.

Некаторыя камяні амаль цалкам сыйшлі ў зямлю. Ёсць і праваслаўныя могілкі з надпісамі па-расейску, і нават з «ять».

Сакрата ў Гладышах ведаюць усё, і стары і малады. Ліст можна пасылаць напісаўшы толькі Крынкі – Сакрату.

Будзьце спакойныя, дойдзе.

У наваколлях вілы, побач з беларускай мяжой знайшоў невялікае азярцо ў чаротавай асадзе. Мне, старому рыбаку, яно спадабалася. Вырашыў рэлакснуць.

У выніку – добры шчупак. Душа прышыта да аблокаў!

На віле перапалох. Усе фатаграфуюцца з рыбінай. Не вераць, што сам злавіў.

Купіў, маўляў, у мясцовых.

Так, купіў. У русалкі! Бачылі б вы, якіх судакоў я лаўлю на Шпрэі ў Берліне...

Пад вечар біялагічны маяк завісае ў крайнім становішчы.

Заход да непрыстойнасці наліўшыся чырвоным «Merlot», глядзіць з-за краю лесу.

Хвоі апрануліся ў залатыя парыкі.

Паветра таксама перапранулася ў вячэрні крэпдышын.

Выява вялізнага дня згарае, як у печы. Вогнішча размясцілася пад нагамі ў вялізных ліп на беразе сажалкі.

На ім ў вялізным катле тушыцца «неспадзяванка», якую рыхтуюць гаспадары Марэк і Міра Маршалкі.

Маршчыны ночы мякка апусціліся паміж хатамі і лесам. Святло месяца лягло на лісце папаратніка. Нізкае неба з цяжкасцю ўтрымлівае абвал зорак.

Разжалілася гітара. Успамінаем ангельскія і польскія песні 60-70-х гадоў.

Марэк Маршалэк:

– У васьмідзясятым жадаў з’ехаць. Пакуль рабіў пашпарт, увялі ваеннае становішча... Сябры зараз па ўсім свеце жывуць... – Усміхнуўся: – А мне і тут добра. Адна дачка ў Даніі, другая – у Мексіцы.

Хутка ў Чэхію паедзем, потым у Вугоршчыну.

Вогнішча адлюстроўваецца ў вадзе.

У готыцы лесу лунаюць начныя птушкі.

Душа спявае ў такт гітары, ночы і лесу, адчуваю, што станаўлюся цэнтрам сусвету.

Накіроўваю вочы ў вышыню, бачу месяц, які пакутуе ад малакроўя, шукаю вачамі анёлаў на іх залатых шляхах...

Апошняя фраза Сакрата:

– Дзяды з магілаў жыццём дыхнулі...

Цягнік Варшава – Берлін. Перапоўнены.

Едзем разам з Томасам.

Кітайская сям’я гаворыць па-польску.

Натоўп дзяцей гадоў па 10-12 таксама гавораць па-польску. Трое сталых з імі – па-нямецку. Праз паўгадзіны ўжо ўсе гавораць толькі па-нямецку.

Польскі падлетак сядзіць з лэп-топам у руках і ў слухаўках. Засяроджаны.

Такі ж юны бялявы немец з лэп-топам, у слухаўках і з мікрафонам, сядзіць насупраць. Тоўстая бабуля, якая размаўляе з маладзіцай па-польску, здымае з яго слухаўкі: «Wills du was essen?» Ён гнеўна адштурхоувае яе руку, маўляў, не лезь не ў сваю справу.

Усю дарогу, пяць гадзін, ён не здымае слухаўкі і не адрываецца ад лэп-топу.

Новае пакаленне.

Кампутар ім замяняе бацьку, маці, бабулю, сяброў і сябровак.

Познань.

Мільгае прыгожая старажытная нямецкая архітэктура. Вакзал запушчаны да такой ступені, нібы сто гадоў не рамантаваўся.

Да нас падсаджваецца старая полька. Разгаварыліся. Яна добра памятае вайну.

Жылі тады ў Варшаве. Маці за тое, што карміла габрэйскіх дзяцей, забілі эсэсаўцы.

Зачапілі яе словы:

– Вы, беларусы, добры народ. Колькі вас папалілі, пазабівалі, а вы ўсё забылі.

А вось мы, палякі, не можам...

Берлін.

Аплікацыі сабораў у велічна бягучай Шпрэі.

Людзі сагнуліся пад цяжарам панядзелка.

Дзесьці ўдалечыні сірэны паліцыянтаў захлёбваюцца плачам, перакрываючы астатнія гукі.

Выходжу на перон.

Балбатня вясёлых фарбаў.

Горад зацягвае ў сваю мітусню.

Акварэльныя немкі. Група хлопцаў. Касматыя погляды. Здаравенныя камамберныя рожы. Аліўкавыя целы. Беласнежныя саколкі. Залатыя ланцугі. Пасажыры «мандарынавай травы». Туркі.

Сардэчна запрашаем у Кройцберг!

Побач са станцыяй мост. Таксама, як і станцыя, ён завецца «Janowitz Brücke». Магутная рака коціць пада мной свае велічныя воды.

Семсот метраў да маёй хаты. Не верыцца, што яшчэ ўчора ўвечары сядзеў з Янавічам ля вогнішча. Ён ведае пра гэты мост.

Мяне чакае праца «ад А да Я», складаныя адносіны з «partizip zwei», жанчыны з пароды баракуд, якія выплёхваюць навалу пытальнікаў і клічнікаў, турэцкія і арабскія наркадылеры на станцыях метро, джазавыя фугі ў ангельскім садзе, мудрыя вочы Норберта Рандава, старажытныя парталы на вуліцах, людзі са слядамі прышчэпак ад зорнай хваробы на венах, чыя паэзія выконвае ім функцыю бронекамізэлькі, турчанкі са знешнасцю Ганны Кандрацюк, дажджы, якія прасочваюцца ў ранішнія газеты, піва “Holstein”, мужчыны, якія цалуюцца ўзасос, горы чарнавікоў... пісьменніцтва – выпрабаваны метад лячэння душы, апошнія эсэ ў якіх сканчаецца ланцужок жыцця Марка, сірэны паліцыянтаў, судакі, ляшчы і яшчэ шматлікае, нанізанае на агульнае жыццё непазбежнасці...

*Берлін*



Сяргей Кавалёў




…наўрад ці беларускія гледачы, рэжысёры, тэатральныя крытыкі змогуць назваць хаця б некалькіх з прозвішчаў, пералічаных у нашым артыкуле…

# Няздзейснены праект пакалення

***Драматургія “Бум-Бам-Літа”***

*Па-беларуску мы пішам таму, што гэтая мова крыху больш, чым расейская ці нямецкая, дазваляе нам быць шчырымі. Беларуская мова не была моваю нашых маці і школьных настаўнікаў, але гэта мова бальшыні нашых сяброў, мова не вертыкальных, а раўнапраўных стасункаў паміж людзьмі.*

Юрась Барысевіч.
З прадмовы да зборніка Вольгі Гапеевай
“Рэканструкцыя неба”, 2003.

Парадаксальная сітуацыя склалася сёння ў Беларусі з драматургіяй.

З аднаго боку, ніколі яшчэ не было ў нашай літаратуры такой колькасці маладых, таленавітых драматургаў, як цяпер: Павел Пражко, Мікалай Рудкоўскі, Сяргей Гіргель, Канстанцін Сцешык, Андрэй Курэйчык, Андрэй Карэлін, Дыяна Балыка, Павел Расолька, Анатоль Шурпін, Андрэй Шчуцкі, Дзмітры Багаслаўскі. Многія з іх вядомыя за межамі нашай краіны, іх п’есы перамагаюць у міжнародных драматургічных конкурсах, публікуюцца ў аўтарытэтных маскоўскіх часопісах, ставяцца ў

многіх расійскіх тэатрах. Можна смела гаварыць пра феномен сучаснай беларускай драматургіі на постсавецкай тэатральнай прасторы.

З іншага боку, усе згаданыя аўтары, а таксама дзясяткі незгаданых, пішуць свае п'есы па-руску, і ўзнікае слушнае пытанне: ці з'яўляюцца яны беларускімі драматургамі ці, хутчэй, рускімі аўтарамі, якія жывуць у Беларусі? Адны даследчыкі ўпэўнена залічваюць іх да беларускай літаратуры[1], іншыя катэгарычна дыстансуюцца ад разгляду іх творчасці[2]. Абодва пункты гледжання маюць сваё тэарэтычнае і гістарычнае абгрунтаванне. Не закранаючы ў гэтым артыкуле праблему шматмоўнасці беларускай літаратуры, заўважым, што ў цяперашняй грамадска-палітычнай і моўнай сітуацыі ў краіне слушна разглядаць рускамоўныя п'есы як састаўную частку айчыннай драматургіі. Беларускамоўная і рускамоўная плыні ўзаемадапаўняюць адна адну: першая захоўвае і творча развівае нацыянальныя традыцыі, другая больш актыўна адлюстроўвае змены ў сучасным жыцці і плённа засвойвае вопыт расійскай школы.

Праблема ў тым, што ідылічны малюнак гарманічнага суіснавання і ўзаемаўзбагачэння дзвюх плыняў айчыннай драматургіі далёкі ад рэальнага стану рэчаў. Калі раней глядач бачыў на тэатральных афішах імёны беларускамоўных аўтараў побач з імёнамі рускамоўных (напрыклад, Аляксея Дударава і Алены Паповай у 80-я гг. ці Сяргея Кавалёва і Зміцера Бойкі ў 90-я гг. XX ст.), то сёння дарэмна шукаць на афішах імёны маладых беларускамоўных драматургаў побач з імёнамі іх рускамоўных калег. Тэатральныя крытыкі слушна заўважаць, што п'есы маладых аўтараў увогуле рэдка з'яўляюцца ў рэпертуары айчынных тэатраў, і гэта праўда, але яшчэ больш горкая праўда заключаецца ў тым, што беларускамоўныя п'есы не з'яўляюцца ўвогуле. Усе драматургічныя дэбюты, якія адбыліся на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі на працягу апошняга дзесяцігоддзя, – гэта пераклады з рускай мовы на беларускую. Адсутнасць у рэпертуары РТБД і іншых тэатраў Беларусі п'ес маладых беларускамоўных аўтараў тлумачыцца не злой воляй дырэктараў і рэжысёраў, а куды больш істотнай прычынай: выбіраць няма з чаго. "Усе маладыя драматургі пішуць па-руску", – у адзін голас сцвярджаюць рэжысёры і дырэктары тэатраў. Калі запытацца ў тэатральных крытыкаў пра маладую беларускую драматургію, яны ўпэўнена назавуць імёны пералічаных на пачатку нашага артыкула рускамоўных аўтараў і наўрад ці згадаюць хоць аднаго аўтара беларускамоўнага. І сапраўды, за апошняе дзесяцігоддзе ў Беларусі не з'явілася ніводнага маладога драматурга, які б пісаў пабеларуску і ўпэўнена заявіў пра сябе на тэатральнай сцэне, заняўшы годнае месца побач з Мікалаем Рудкоўскім, Андрэем Курэйчыкам, Паўлам Пражко.

Вядома, можна сказаць, што для літаратуры важная не мова, на якой піша той ці іншы аўтар, а наяўнасць таленту. Напэўна, так лічыць Андрэй Масквін, укладальнік польскай анталогіі "Nowa dramaturgia białoruska" [Новая беларуская драматургія][3], дзе беларуская драматургія прадстаўлена выключна творчасцю рускамоўных аўтараў. Бясспрэчна, талент для пісьменніка – рэч неабходная, і тэатру не варта ставіць п'есу толькі таму, што яна напісана па-беларуску. Але ж мова для нацыянальнай культуры – каштоўнасць анталагічная, і стварэнне беларускай літаратуры *выключна* на рускай мове – гэта нонсэнс і этычная катастрофа.

Няўжо сапраўды няма сёння маладых аўтараў, якія б пісалі, ці хаця б спрабавалі пісаць па-беларуску драматургічныя тэксты?

Адразу ўспомнілася п'еса Віктара Жыбуля "Штангай па назе, альбо Накрый казла матам", апублікаваная ў малатыражным альманаху "Тэксты" (2009, №12). Пазней удалося знайсці ў розных выданнях яшчэ некалькі драматургічных твораў, напісаных маладымі аўтарамі па-беларуску: у зборніку Ганны Ціханавай "Фільтры сноў" (Мінск, 2003) змешчана п'еса "Сны аднаго дыялогу", у зборніку Вольгі Гапеевай "Рэканструкцыя неба" (Мінск, 2003) – п'еса "Калекцыянер", а ў часопісе "Дзеяслоў" (2011, №1) – яе п'еса "Кардыяграма".

Сімптаматычна, што ўсе тры згаданыя аўтары – В. Жыбуль, В. Гапеева, Г. Ціханава ўваходзілі ў свой час у вядомую літаратурную суполку “Бум-Бам-Літ”. І калі шукаць назву для пакалення, якое прыйшло ў літаратуру ўслед за пакаленнем “тутэйшых”, варта прыняць азначэнне, прапанаванае польскай даследчыцай Катажынай Бартноўскай: “пакаленне Бум-Бам-Літу”[4]. Да гэтай генерацыі адносяцца пісьменнікі, якія нарадзіліся ў другой палове 70-х – першай палове 80-х гг. XX ст., а ў другой палове 90-х гг – пачатку XXI ст. уваходзілі ў “Бум-Бам-Літ” (але маглі і не ўваходзіць і нават катэгарычна не прымаць эстэтычную праграму гэтага “руху”, таксама, як многія з тых, каго сёння гісторыкі літаратуры залічваюць да пакалення “тутэйшых”, не ўваходзілі ў таварыства “Тутэйшыя” і суполку “Таварыства Вольных Літаратараў”, а нават рашуча не прымалі праграму гэтых аб’яднанняў).

У прадмове Зміцера Вішнёва да кнігі Ганны Ціханавай змешчана інфармацыя пра спробу выдання напрыканцы 90-х гг. XX ст. сябрамі суполкі драматургічнага зборніка п’ес з красамоўнай назвай “Нетутэйшыя”[5]. На жаль, у адрозненні ад шматлікіх паэтычных, мастацкіх і музычных праектаў, драматургічны праект бумбамлітаўцаў не быў здзейснены. Але асобныя з гэтых драматургічных твораў былі пазней надрукаваныя ў альманаху “Тэксты” (№1, №3, №6, №12), і можна збольшага рэканструяваць змест нявыдадзенага зборніка. Рукапіс складаўся з наступных твораў: “Клятва Гіпакрата” Лявона Вольскага, “Цыркулярны душ” Ігара Сідарука, “Едзем!” А. Часа, “Нараджэнне” Віталя Пятроўскага, “Яно ы Ано” Іллі Сіна, “Фаракаінавыя мумілюсікі” Зміцера Вішнёва, “Аум” і “Карлікі” Вальжыны Морт, “Дыялог са шкляных перлінаў, ці Апошняя сустрэча з гуру” Івушкі Панінай, “Катарсіс” Джэці. З прадмовы *“Забіванне казла”*[6] можна даведацца, што ў склад зборніка “Нетутэйшыя” ўваходзілі таксама тэксты “Канспект п’есы” Алеся Туровіча, “Свет, які я не выдумаў” Алеся Бычкоўскага, “Анёл зацяты” Ігара Вугліка, “Гадо прыйшоў” Юрася Барысевіча. І, вядома, згаданыя вышэй п’есы Віктара Жыбуля, Ганны Ціханавай, Вольгі Гапеевай (“Калекцыянер”).

Што можна сказаць пра ўсе гэтыя творы? Па-першае, большасць з іх не выпадае назваць паўнавартаснымі п’есамі. Гэта напісаныя дыялогамі невялічкія тэксты, фрагменты, абразкі, карацелькі, абсурдэлькі і г.д. Па-другое, назва “Нетутэйшыя” не адпавядае рэчаіснасці, бо такія аўтары, як Лявон Вольскі, А. Час (Барыс Пятровіч), Ігар Сідарук належаць якраз да пакалення “тутэйшых” і нават прадмова напісаная адным з актыўных удзельнікаў таварыства “Тутэйшыя” Пятром Васючэнкам.

Паспрабуем вызначыць асаблівасці драматургіі пакалення “Бум-Бам-Літ” на прыкладзе трох найбольш цікавых твораў: “Штангай па назе...” В. Жыбуля, “Калекцыянер” В. Гапеевай і “Сны аднаго дыялогу” Г. Ціханавай.

П’еса “Штангай па назе, альбо Накрый казла матам” напісана таленавітым паэтам-эксперыментатарам Віктарам Жыбулем, які ўвайшоў у літаратуру як аўтар паліндромнай паэмы “Рогі гор”, авангардных паэтычных зборнікаў “Калі ў хаце дыверсант” (1997), “Прыкры крык” (2001), “Дыяфрагма” (2003) і інш. У ягонай біяграфіі дзіўным чынам спалучылася вучоба ў аспірантуры ды абарона кандыдацкай дысертацыі пра беларускую паэзію 20-х гг. XX ст. з паспяховымі выступленнямі на паэтычных слэмах, удзелам у музычных гуртах “Буслік супраць кадука” і “Левае зазямленне”, а таксама ў музычна-тэатральнай групе “Рацыянальная дыета”, дзе ён выступае ў якасці акцёра (напрыклад, у ролі Разбойніка ў п’есе Іллі Зданевіча “Янко крУль албАнскай”).

З’яўленне ў творчым даробку В. Жыбуля драматургічнага твора – рэч не выпадковая, а нават заканамерная. Дзіўна, што невялічкі фарс “Штангай па назе...” – адзіная пакуль што напісаная ім п’еса. Сам аўтар вызначыў жанр твора як “спартыўна-псіхалагічная клаўнада”. Дзеянне адбываецца ў спартыўным клубе, дзе даўно няма спартыўных снарадаў ды іншага інвентара, і таму наведвальнікам даводзіцца імітаваць розныя спартыўныя гульні. Сталыя наведвальнікі клуба – У

кепцы і Калматы – даўно прызвычаіліся да абсурднай сітуацыі, а вось у Навічка ўзнікае шмат пытанняў:

**У кепцы.** Вось ты зьбіраўся прыйсьці куды?
**Навічок.** Як куды? У спартовы клюб.
**У кепцы.** Добра. А што павінны людзі рабіць у спартовым клюбе?
**Навічок.** Ну вядома ж, спортам займацца!
**У кепцы.** Дык што робяць гэтыя людзі?
**Навічок.** Хм... Выходзіць, спортам займаюцца... Толькі вось не разумею, якім.
**У кепцы.** Іх двое. Прычым адзін зь іх перамагае, а другі прайграе. Дык што гэта такое?
**Навічок.** Нечым нагадвае бокс... Толькі яны чамусьці занадта далёка стаяць адзін ад аднога... Яны што, баяцца адзін да аднога падыйсьці? І лічбы нейкія дзіўныя выкрыкваюць... Не, гэта хутчэй гульня.
**У кепцы.** Так, гульня. А якая?
**Навічок.** Ня ведаю.
**У кепцы.** А ты падумай. Якія ў цябе ёсьць асацыяцыі?
**Калматы** *(да спартоўца У кепцы)*. Ды ня мучай ты хлопца! У тэніс мы гуляем!
**Навічок** *(зьдзіўлена)*. У тэніс? А дзе ж ваша сетка?
**Калматы.** А хіба ты ня бачыш: мы ж у настольны тэніс гуляем!
**Навічок.** Дык усё роўна сетка павінна быць! Яна павінна быць нацягнутая ўпоперак стала!
**У кепцы.** Ты ж думай! Карыстайся лягічным мысьленьнем! Як можна нацягнуць сетку ўпоперак стала, якога няма?
**Навічок.** Хм... Сапраўды... А чаму вы гуляеце без ракетак?
**Калматы**. Дык навошта яны? Што мы будзем адбіваць імі, калі шарыку няма?
<...>
**Навічок.** Цікава... Толькі неяк не па-нашаму. Чаму вы ўвогуле гуляеце менавіта так?
**Калматы.** Не задавай лішніх пытаньняў. Вось прыйдзе Фізрук – ён табе ўсё растлумачыць, што й да чаго.
**Навічок** *(зь нецярпеньнем тупае)*. Вось паглядзець бы мне на гэтага вашага Фізрука![7]

І, сапраўды, лагічна растлумачыць і апраўдаць заведзеныя ў клубе парадкі можа толькі гаспадар клуба – Фізрук – адзін з самых каларытных і пазнавальных герояў п’есы. Для перадачы асаблівасцяў мовы, характару і светапогляду Фізрука аўтар п’есы ўдала выкарыстоўвае трасянку, і з дапамогай гэтага ўсё больш папулярнага ў беларускай літаратуры прыёму значна павялічвае эфект камічнасці і пазнавальнасці:

**Фізрук** *(Навічку)*. Паглядзець хочаш? Дык глядзі. Вот какой я! Эта від спераді. *(Паварочваецца.)* А эта збоку. *(Становіцца сьпінаю да ўсіх.)* А вот і ззаду. Ну, паглядзеў – і хваціт! А то яшчо не хватала мне тут бясплатнае шоу вам паказваць! <...> К сажаленію, спорт стаў кармушкай для ўсякога рода жульля. Яго прэўрацілі ў ачаг мздаімства і карупцыі. Вот і прыходзіцца ўсё купляць на свае дзеньгі. <...> Я ж са следуюшчага месяцу плануюўвясці платнае абучэніе. Сягодня я с німі нашусь, с эцімі спарцмэнамі, то есць з вамі, как народ гаварыт, з пісанымі торбамі, ілі как там ані гаварат. Так што вы пака што скажыце спасіба, што я з вас яшчэ не начаў нічаво браць. І ўдаўлетварайцеся цем, што імееце. <...> У хакей, дык у хакей! Я люблю іграць у хакей сам проціў сібя. Усе ў строй![8]

П’есу В. Жыбуля можна прачытаць як лёгкі жартаўлівы сцёб, эфектную клаўнаду без прэтэнзій на глыбокую ідэю, але можна ўбачыць у ёй і сумнае адлюстраванне беларускай рэчаіснасці, што і зрабілі Ларыса Гулімэт з Вірджыніяй Шыманец, уключыўшы твор у сваю анталогію „Une moisson en hiver” [Зімовы ўраджай] (Парыж, 2011).

“Калекцыянер” – драматургічны дэбют Вольгі Гапеевай, таленавітай паэткі, празаіка, перакладчыцы. Гэтая п’еса ставілася ў свой час альтэрнатыўнай тэатраль-

най групай “Рацыянальная дыета”, а потым была перакладзена на польскую мову Тэрэсай Гедз-Тапалеўскай і Наталляй Русецкай і брала ўдзел у чытаннях беларускай драматургіі “Dramat nieobecny” на міжнародным фестывалі “Konfrontacje Teatralne” ў 2006 г. у Любліне. Дзякуючы гэтым чытанням п’еса трапіла ў поле зроку стваральнікаў студэнцкага тэатра „Garderoba” (Пшэмысль), якія ў 2011 г. здзейснілі пастаноўку “Калекцыянера”.

Падабалася ў “Калекцыянеры” адвага маладой аўтаркі, вобразнае мысленне, вытанчаная мова, якая выдатна кантраставала з брутальнасцю дзеяння (“Дзіцё ў вазку пачынае раўсьці, мужчына ўстае, нахіляецца над калыскай і пачынае душыць дзіця, пакуль яго плач не пераходзіць у хрыпеньне. Мужчына абцірае рукі аб вопратку, сядае і працягвае” ). П’еса відавочна нарадзілася пад зоркай абсурду, але наяўнасць каларытных дэталяў ператварала “Калекцыянера” ў тэкст адметны і знакавы, з элементамі тэатра парадоксу ў п’есе гарманічна суіснавалі элементы тэатру паэтычнага і нават палітычнага. Працытуем характэрны фрагмент:

**Персанаж:** Учора грамадзянін Грамадзкі Грамада Грамадавіч пры напісаньні чарговага ліста свайму брату не адступіў належныя тры з паловай сантымэтры ад краю паперы (жахліва! ня можа быць!!!), тым самым парушыўшы ўсе найважнейшыя нормы й стандарты напісаньня лістоў. Па словах яго жонкі, грамадзянін грамадзкі ўжо неаднаразова ігнараваў правілы ў нейкіх дробязях, але да ўчарашняга выпадку гэта не набывала такіх сусьветных маштабаў. Прысуд быў вынесены адразу ж – сьмяротнае пакаранне[10].

Абгрунтоўваючы прысутнасць у п’есе рафінаванай дзяўчынкі-паэткі лёгкага эпатажу (галоўны герой п’есы збіраў калекцыю заспіртаваных сперматазоідаў, якую раззлаваная жонка падсмажыла на патэльні), Юрась Барысевіч у прадмове да кнігі “Рэканструкцыя неба” тлумачыў: “Вольга мяркуе, што душа ў бальшыні людзей жыве амаль нерухома, як яйка ў шкарлупіне, што ляжаць на паліцы ў лядоўні. Гапеева часту правакуе чытача брыдкімі ці рызыкоўнымі словазлучэньнямі, каб прабіць тую шкарлупіну, вызваліць чалавека зь вязьніцы ягонага жыцьцёвага досьведу, што раіць цурацца ўсяго новага й незразумелага”[11].

У другой п’есе В. Гапеевай – “Кардыяграма” – эпатажу значна менш, чым у “Калекцыянеры”. У творы пра тое, як “людзі паміраюць без кахання”[12], Вольга Гапеева прыкметна аддаляецца ад бумбамлітаўскай арыентацыі на знешні эфект, вось толькі ўзнікае пытанне: у якім кірунку? У бок паэтычнага, лірычнага тэатру (у п’есе шмат вершаваных фрагментаў, а некаторыя рэплікі героі прамаўляюць белым вершам)? У бок тэатру постмадэрністычнага (п’еса нагадвае парадыйную стылізацыю езуіцкай школьнай драмы, дзе абстрактныя постаці выступалі побач з міфалагічнымі персанажамі, а ў фінале гучала падсумаванне-маралітэ)? Публікацыя п’есы ў часопісе “Дзеяслоў” у 2011 г. нагадала чытачу пра цікавасць паэткі Вольгі Гапеевай да драматургічнай формы і пацвердзіла яе бясспрэчныя здольнасці ў гэтым жанры, але не сталася сведчаннем яе творчага развіцця як драматурга. Хаця ад публікацыі першай п’есы мінула восем гадоў, мастацкія асаблівасці “Кардыяграмы” сведчаць, што напісана яна неўзабаве пасля “Калекцыянера” і пад яго відавочным уплывам (такое часта здараецца ў пісьменніцкай біяграфіі пасля з’яўлення першага, удалага твора). Хацелася б дачакацца ад аўтаркі якасна новай п’есы, напісанай на ўзроўні яе выдатных вершаў, якім уласцівы глыбокі драматызм і скандэнсаванасць пачуццяў. Як, напрыклад, у гэтым знешне “просценькім” але насамрэч вельмі глыбокім вершы:

ні кахання ў мяне ані кар’еры
толькі завушніца ў вусе правым
ды адна ў левым
ні дачкі ня маю ані сына
крумкачоў у полі я чытаць вучыла

я бяз крыўды крыўда безь мяне
кагосьці падзялілі
а мяне не[13].

Калі п’есы В. Гапеевай можна назваць драматургічнымі спробамі *паэткі*, то п’еса Г. Ціханавай “Сны аднаго дыялогу” – гэта драматургічная спроба мастачкі, для якой напісанне літаратурных тэкстаў аказалася цікавай прыгодай, але не сталым творчым заняткам. Ганна Ціханава – прафесійны творца ў галіне графікі і экслібрыса, ілюстратар зборніка любоўнай лірыкі Францішкі Уршулі Радзівіл “Нясвіжскі альбом” (Мінск, 2011). Перыяд яе зацікаўленасці літаратурай прыпадае на студэнцкія і аспіранцкія гады, калі яна актыўна ўдзельнічала ў бумбамлітаўскіх імпрэзах, друкавала вершы ў часопісах і самвыдатаўскіх зборніках, а ў 2003 г. выдала кнігу “Фільтры сноў”.

П’еса “Сны аднаго дыялогу” вытрымана ў сюррэалістычнай паэтыцы снабачання, і калі ў серыі сноў можа быць агульны сюжэт – гэта гісторыя кахання двух герояў: мастакоў Стэфаніі і Яна. Іх сустрэчы і размовы адбываюцца ў розныя перыяды жыцця, у розных гарадах, часам на яве, часам у сне. У самнамбулічныя дыялогі герояў урываюцца канкрэтныя жыццёвыя праблемы: незадаволенасць сабой, адзінота, канфлікт з бацькамі, нежаданне прыстасоўвацца да канфармісцкіх законаў свету:

**Ян**. Можна, я запалю?

**Стэфанія.** Вядома... *(Не зводзіць вачэй з яго пальцаў, у якіх з’яўляецца тонкая цыгарэта.)* Што наогул новага? Як творчасць?

**Ян.** Пачаў займацца графікай... Пасварыўся з бацькамі.

Стэфанія ўздымае плечы, паварочваецца да яго.

**Ян.** Яны хочуць, каб я ажаніўся. І як мага хутчэй. Бацька чытаў мне доўгі маналог, варты самога Шэкспіра. Маўляў, хопіць жыць, як хіпі, лётаць птушкай. Трэба асесці, сур’ёзна займацца кар’ерай. <...> Што, што ён лезе ў маё жыццё?! Са сваім разабрацца не можа. Ён лічыць, што добра жыве! Добра? Для яго гэтае паняцце — добры дом, “прэстыжныя” сябры, палітыка... Усё! Спачатку эканамічная адукацыя, потым медыцынская, потым юрыдычная... Яго дыпламатычныя кватэры ў розных гарадах свету, сумныя кніжачкі накшталт “Быў Рэйган добрым альбо дрэнным прэзідэнтам?”. Гэтага ж ніхто не чытае, гэта ж нікому не патрэбна. Ён убіў сабе ў галаву, што так трэба жыць, што ён жыве цікава! Але я так не хачу!

Запальвае новую цыгарэту.

А я — мастак! Разумееш? А ён — не, ён хоча бачыць сына рэспектабельным чалавекам. Ну, калі я — гэта я, а не ён? А ўся гэтая палітыка ў ягонай Амерыцы... Як ён мне надакучыў!

**Стэфанія.** Разумею... Палітыка не для такіх, як мы... Разумею[14].

Іншыя персанажы п’есы (Сябры, Дзеці з бляшанкамі, Шэрыя постаці без твараў) з’яўляюцца эпізадычна, існуюць/не існуюць на заднім плане. Зрэшты, як слушна заўважыў пра гэтую п’есу П. Васючэнка: “Персанажаў у ёй магло б не быць зусім; найбольш канцэптуальнае тут – гульня святла й ценяў, эфекты асвятлення, гэтыя цудоўныя празрыстыя шырмы, якія любіць аўтарка і якія падабаюцца таксама мне”[15].

Калі б “Сны аднаго дыялогу” былі пастаўлены ў тэатры, атрымалася б паэтычна-пластычнае дзейства, у якім дыялогі выконвалі б функцыю арганізуючых контрапунктаў (“Засынаць – страшна, прачынацца – таксама, але не прачнуцца – вось чаго я баюся найбольш, і мабыць, усе людзі таго самага баяцца, і гэта прымушае жыць”), а вершаваныя фрагменты (уласныя тэксты Ганны Ціханавай альбо англійскі пераклад верша Максіма Багдановіча “Зорка Венера”) – функцыю вербальнага арнаменту для пластычнага дзеяння. Аўтарка ў рэмарках настойліва прапануе будучаму рэжысёру

і гледачам уласную версію арганізацыі сцэнічнай прасторы (“Белыя пластыкавыя столікі з такімі ж самымі крэсламі. Адзінокі парасон, напалову зламаны. Усё белае. Фон ствараюць шырмы, абцягнутыя празрыстай шэрай тканінай”[17]), старанна дбае пра рэквізіт (напрыклад, пра наяўнасць мастакоўскіх пэндзляў, якія гараць у слоіках, як свечы), вопратку герояў (“Стэфанія апранута ў чорныя джынсавыя шорты, вельмі кароткія; малінавую кашулю, што шчыльна абцягвае фігурку і па якой да таліі спускаюцца льняныя валасы; на нагах у яе высокія чорныя боты са шнуроўкай па ўсёй даўжыні”[18]), і нават падбірае музычнае афармленне для кожнай канкрэтнай сцэны (гучыць “індастрыял”; першыя акорды такаты Баха рэ мінор BWV, 565; гучыць Вівальдзі, “Восень”; гучаць вальсы Шапэна; гучаць “DOORS”, “Rider on the storm”).

“Сны аднаго дыялогу” – гэта спектакль, убачаны Ганнай Ціханавай у сне паводле сваёй п’есы, але з вельмі дакладнымі як на сон дэталямі. Часам гэтая дакладнасць здаецца празмернай і нават выклікае ў чытача ўсмешку (як у выпадку з музычным афармленнем), але затое чужы сон надоўга застаецца ў тваёй памяці, як застаецца на языку смак экзатычнай стравы...

Пералічым яшчэ некаторыя беларускамоўныя п’есы, якія можна аднесці да драматургіі пакалення “Бум-Бам-Літ”: “Колы” Уладзіміра Боські, “Плошча” і “Рэнетранс” Віталя Воранава, “Бязбацькавічы” Віталя Еўмянкова, “Stultus ex machina” Зміцера Каханьскага, “Шафа” Таццяны Сівец, “Хто ты?” Ігара Скрыпкі, “Мара жанчыны, альбо Сапраўднае спакушэнне” Мюра Фарыдовіча. На жаль, большасць з названых твораў – не апублікаваныя і не пастаўленыя ў тэатры[19]. Ёсць у гэтым доля віны беларускага тэатра, які не вельмі цікавіццай маладой айчыннай драматургіяй, а калі ўжо адважваецца на такі рызыкоўны крок, то выбірае п’есу рускамоўнага аўтара, пастаўленую раней у расійскіх тэатрах. Але вялікая доля віны ляжыць на саміх беларускамоўных аўтарах і вынікае з ідэйна-мастацкіх асаблівасцяў іх драматургічных тэкстаў.

Калі параўноўваць драматургічныя тэксты трыццаці-саракагадовых беларускамоўных пачаткоўцаў з п’есамі іх ужо вядомых рускамоўных равеснікаў, адчуваецца розніца не толькі ва ўзроўні, але і ў мастацкай спецыфіцы твораў. Беларускамоўныя аўтары ідуць ад літаратуры, рускамоўныя – ад жыцця, для першых напісанне драматургічнага твора – выпадковая прыгода ў паэтычнай ці празаічнай творчасці, другія ўваходзяць у літаратуру менавіта як драматургі і маюць у набытку некалькі дзесяткаў п’есаў, прызначаных для розных тыпаў тэатру: авангарднага і класічнага, рамантычнага і рэалістычнага, эксперыментальнага і забаўляльнага, студыйнага і прафесійнага. Большасць беларускамоўных п’ес напісана ў эстэтыцы тэатра абсурду, які стаўся ўжо гісторыяй для сусветнага мастацтва, а ў Беларусі ніколі не цешыўся папулярнасцю ў гледачоў. Іх пастаноўка магчыма ў студыйных, эксперыментальных тэатрах, разлічаных на элітарнага (і, адначасова, беларускамоўнага) гледача, а студыйны рух згас у Беларусі яшчэ ў сярэдзіне 90-х гг. мінулага стагоддзя.

Калі параўноўваць драматургічныя творы пакалення “Бум-Бам-Літ” з п’есамі прадстаўнікоў пакалення “тутэйшых”, заўважаеш шмат агульных рысаў, але і істотныя адрозненні. Драматургія тутэйшаўцаў таксама ў значнай ступені нарадзілася з літаратурнай традыцыі (у форме як працягу яе, так і пераадолення), а не з балючых праблемаў жыцця, аўтары кіраваліся ў творчасці асветніцкімі і патрыятычнымі мэтамі, а не сацыяльнымі ці палітычнымі пратэстамі. Але драматургічны даробак “тутэйшых” быў значна багацейшы і меў больш шырокі жанрава-стылёвы дыяпазон, чым даробак бумбамлітаўцаў, і, напрыклад, Ігар Сідарук напісаў не толькі драму абсурду “Галава”, але і меладраму “Плач, саксафон”, а таксама шэраг п’ес для дзяцей: “Кветкі пад ліўнем”, “Меч Анёла” і інш. П’есы Міраслава Адамчыка, Максіма Клімковіча, Ігара Сідарука, Лявона Вашкі, Пятра Васючэнкі, а таксама аўтара гэтага артыкула займалі прыкметнае месца ў рэпертуары беларускіх тэатраў у 90-я гг. XX ст., імёны драматургаў-тутэйшаўцаў ведалі не толькі ў літаратурным, але і ў тэатральным асяроддзі.

Драматургічныя вопыты прадстаўнікоў пакалення "Бум-Бам-Літ" можна прачытаць альбо ў нізкатыражных выданнях, альбо ў рукапісах, гэтыя аўтары вядомыя ў літаратурным асяроддзі як *паэты* і *празаікі*, але не як *драматургі*: наўрад ці беларускія гледачы, рэжысёры, тэатральныя крытыкі змогуць назваць хаця б некалькіх з прозвішчаў, пералічаных у нашым артыкуле У выніку сучасная беларуская драматургія асацыіруіцца сёння выключна з творчасцю рускамоўных аўтараў, хаця па ўзроўню таленту, уменні сканструяваць сюжэт і пабудаваць дыялогі Віктар Жыбуль ці Таццяна Сівец не саступаюць Андрэю Курэйчыку ці Дыяне Балыка.

З сумам даводзіцца канстатаваць, што няздзейсненым аказаўся не толькі праект выдання канкрэтнага альманаха "Нетутэйшыя", але цэлы драматургічны праект пакалення. Вельмі не хацелася б, каб гісторыя нацыянальнай драматургіі скончылася на цікавых, але спарадычных і непаслядоўных вопытах бумбамлітаўцаў.

Спасылкі і заўвагі:


1. С. Гончарова-Грабовская С. Русскоязычная литература Беларуси конца XX – начала XXI века. Минск, 2010.

2. Siwek B. Wolność ukrzyżowana. Rzecz o białoruskim dramacie i teatrze. Lublin, 2011.

3. Moskwin A. Nowa dramaturgia białoruska. Warszawa, 2011.

4. Bortnowska K. Białoruski postmodernizm. Liryka "pokolenia Bum-Bam-Litu". Warszawa, 2009.

5. Вішнёў З. Марскія шпількі // Ціханава Г., Фільтры сноў. Мінск, 2003. С. 6.

6. Прадмова апублікавана ў выглядзе артыкула пад псеўданімам "Нехта з тутэйшых" ("Тэксты", 2007, №3, с. 183-188). З вялікай доляй верагоднасці можна было меркаваць, што аўтарам прадмовы з'яўляецца Пятро Васючэнка – крытык, літаратуразнаўца, драматург. Зрэшты, укладальнік зборніка Зміцер Вішнёў сам раскрывае гэтую таямніцу ў прадмове да зборніка Ганны Ціханавай (Вішнёў З. Марскія шпількі. С. 6).

7. Жыбуль В. Штангай па назе, альбо накрый казла матам // Тэксты. 2012. №12. С. 226-227.

8. Тамсама. С. 227-233.

9. Гапеева В. Рэканструкцыя неба. Мінск, 2003. С. 81.

10. Тамсама. С. 86-87.

11. Барысевіч Ю. Белая птушка ў чорным палёце // Гапеева В. Рэканструкцыя неба. С. 6.

12. Гапеева В. Кардыяграма: гісторыя адной нязгоды //Дзеяслоў. 2011. №1 (50). С. 141.

13. Гапеева В. Няголены ранак. Мінск, 2008. С. 32.

14. Ціханава Г. Фільтры сноў. Мінск, 2003. С. 76-78.

15. Нехта з тутэйшых. Забіваньне казла //Тэксты. 2007. №3. С. 187-188.

16. Ціханава Г. Фільтры сноў. С. 120.

17. Тамсама, с. 75.

18. Тамсама. С. 75.

19. Наколькі нам вядома, з пералічаных твораў друкавалася толькі п'еса В. Воранава "Плошча" ("Arche". 2007. №11), а п'еса У. Бойкі "Колы" ставілася ў аматарскай студыі "На балконе" і паказвалася на міжнародным студэнцкім фестывалі "Куфар" у Мінску ў 2012 г. Таццяна Сівец у 2010 г. дэбютавала на сцэне Тэатра юнага гледача п'есай "Брык і Шуся шукаюць лета". Намі быў падрыхтаваны зборнік "Кардыяграма", куды ўвайшлі творы маладых беларускамоўных драматургаў. Але выданне зборніка не знайшло пакуль падтрымкі ні ў Цэнтры беларускай драматургіі і рэжысуры, ні ў Саюзе тэатральных дзеячаў.


Шчыра віншуем нашага сябра і сталага аўтара,
выдатнага драматурга, крытыка, навукоўцу, –
Сяргея Кавалёва з пяцідзесяцігоддзем!
Зычым яму здароўя, душэўнае трываласці,
а таксама – новых публікацый, кніг, пастановак!

"Дзеяслоўцы"



# “Мінсктранс” рэкамендуе

## *Суплёт рэцэнзій на кнігі шорт-лістэраў прэміі Гедройца*

***Цягам першых месяцаў гэтага года на сайце літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца (www.gedroyc.by) друкаваліся рэцэнзіі на кнігі намінантаў, што патрапілі ў лонг-ліст прэміі. Увазе чытачоў “Дзеяслова” прапануецца падборка рэцэнзіяў на шэсць кніг, якія ўвайшлі ў кароткі спіс прэміі.***

**Ганна Янкута**

### Зямля пад крыламі Балахонава

***Сяргей Балахонаў. Зямля пад крыламі Фенікса. — Мінск: Логвінаў, серыя “Галерэя Б”. – 2012.***

Якой бы дзіўнай ні здавалася на першы погляд кніга Сяргея Балахонава “Зямля пад крыламі Фенікса”, знайсці ёй месца ў беларускай літаратуры зусім не складана. Бо пад крыламі Балахонава ёсць месца ўсяму, чаго толькі пажадае самая патрабавальная чытацкая душа — і самы сапраўдны постмадэрнізм, і бадзёрае, амаль няіснае дагэтуль беларускае фэнтэзі, і чыста літаратурная гульня, выкшталцоны жарт, які набывае мастацкую каштоўнасць безадносна да схаваных ці не схаваных у ім сэнсаў.

Сяргей Балахонаў мае фантастычную здольнасць спалучаць неспалучальнае. Разам з абсалютным слыхам на слова, які дазваляе, нават балансуючы на самай мяжы, не зрынацца ў прорву пошласці і кітчу, гэтая здольнасць дапамагае яму ствараць у беларускай літаратуры новыя формы рэфлексіі. Што цікава, балансаванне на мяжы аўтар відавочна выбірае свядома, і чытачу, які падсвядома адчувае гэтую небяспечную гульню, застаецца толькі бурна пляскаць аўтару, якому гумар і літаратурны густ дапамаглі выбрацца з расстаўленых сабе самому пастак.

Адна з істотных вартасцяў новай кнігі Сяргея Балахонава — яе парадаксальная прастата. Калі раман "Імя грушы" — папярэдні твор пісьменніка, які выйшаў у 2005 годзе, — у кампазіцыйным і моўным плане ўяўляе сабой "шкуцянку", то бок кампіляцыю з макаранічных выразаў, цытатаў і рознастылёвых выказванняў, то ўсе творы з "Зямлі пад крыламі Фенікса" вылучаюцца лінейным аповедам і не патрабуюць ад чытача асаблівых літаратуразнаўчых навыкаў. Ну, можа, хіба што цярпення, бо, напрыклад, тэкст "Пчолачкі гудуць...", або Кароткая гісторыя крыўскага сакральнага пчалярства" здольны стаміць нават самага ўпартага чытача колькасцю дэталяў, якія фактычна паўтараюць адна адну, бо аўтар бярэ за аснову сюжэт пра навяртанне ў беларускасць з дапамогай пчалінага ўкусу і прапануе яго варыяцыі ў розныя гістарычныя эпохі.

Парадаксальнасць жа гэтае прастаты палягае ў тым, што аўтару ўдаецца захоўваць лінейнасць і празрыстасць аповеду нават нягледзячы на ўсё той жа прыём "шкуцянкі": "Зямля пад крыламі Фенікса" пярэсціцца псеўдацытатамі з няісных летапісаў, рэдкіх ці страчаных у глыбінях аўтарскай фантазіі твораў і выдуманых народных песняў, аднак прапануе чытачу вельмі канкрэтную версію падзеяў, якая не дапускае розначытанняў. Кніга чытаецца роўна і проста, а яе ўспрыняцце — зрэшты, як і ўспрыняцце любога постмадэрнісцкага тэксту, — шмат у чым залежыць ад чытацкай эрудыцыі.

Тэксты ў кнізе (а назваць іх апавяданнямі, навеламі ці эсэ неяк не выпадае, можна было б назваць іх псеўдаартыкуламі, але абыдземся словам больш простым, тым больш, што ўсе мы родам з постмадэрнізму) умоўна можна падзяліць на два тыпы. Большасць з іх пабудаваная паводле таго самага прынцыпу, што і "Пчолачкі гудуць...": бярэцца пэўная тэма (напрыклад, вырошчванне на беларускіх дзялянках ківі ці шчыраванне ў беларускіх вірах рыбы-кіта), якая распрацоўваецца ў некалькіх часавых разрэзах. Аўтар нібыта збірае звесткі пра разгляданую праблему, з аднаго боку ўсё больш яе праясняючы, з другога ж — пераказваючы адзін і той жа сюжэт некалькі разоў. Гэта робіць тэксты даволі аднастайнымі, але аднастайнасць гэтая зададзеная адпачатку. Імітуючы навуковы стыль, аўтар вымушаны прасачыць абраную з'яву ад самых старажытных "крыніц" да сучаснасці і атрымлівае ланцуг падобных паміж сабой міні-апавяданняў, які фактычна мае фрактальную структуру, дзе кожны асобны элемент твора нагадвае твор у цэлым. Гэта даволі нечаканае выкарыстанне фракталу ў літаратуры, тым больш, што ў беларускай культурнай прасторы няма такіх знакамітых структур, як, напрыклад, ангельская песенька пра Пэгі, у якой была вясёлая гусь (а таксама кот, і асёл, і індык, і гэтак далей, ажно да бясконцасці).

Другі тып тэкстаў больш набліжаны да ўласна апавядання: у іх бярэцца пэўная падзея (напрыклад, палёт беларусаў у космас ці адкрыццё імі ж Амерыкі) і разглядаецца з дапамогай тых самых сродкаў, але, у адрозненне ад тэкстаў першага тыпу, тэма з іх дапамогай не вар'юецца, а паступова, крок за крокам раскрываецца перад чытачом. Зрэшты, чытаць "Зямлю пад крыламі Фенікса" можна і не думаючы пра ўсё гэта, а калі манатоннасць гісторыяў у нейкі момант пачне стамляць, яе, як і "Зямлю пад белымі крыламі" Уладзіміра Караткевіча, можна ў любым месцы адкласці, не турбуючыся пра тое, што потым давядзецца прыгадваць сюжэт.

У шэрагу інтэрнэт-крыніцаў "Зямля пад крыламі Фенікса" вызначаецца як зборнік містыфікацыяў, аднак такое вызначэнне падаецца не зусім дакладным. Літаратурная містыфікацыя ў чыстым выглядзе перадугледжвае пародыю, падман чытача, калі твор прыпісваецца іншаму аўтару альбо іншай эпосе. Яскравы прыклад такой містыфікацыі — "Вар'яцкі год" з "Запісак доктара Брылеўскага", якія нібыта напісаў Мікіта Славінскі, а з рускай мовы на беларускую пераклаў усё той жа Балахонаў. Для вызначэння кнігі "Зямля пад крыламі Фенікса" больш

правільным падаецца кінематаграфічны тэрмін мак'юмэнтары (ад ангельскага слова "mock" — "насміхацца", "падрабляць"), ці псеўдадакументалістыка. Фільм у жанры мак'юмэнтары стварае поўную ілюзію рэальнасці, выкарыстоўваючы адпаведныя прыёмы: кінахроніка, каментар спецыяліста, інтэрв'ю, але рэальнасць гэтая — чыстай вады выдумка, перайманне, розыгрыш, калі вам будзе заўгодна.

Падобныя прыёмы, але ўжо літаратурнага характару выкарыстоўвае ў сваёй кнізе і Сяргей Балахонаў: псеўдацытаты на стараславянскай, старабеларускай, рускай, польскай і іншых мовах, задакументаваныя сведчанні, адсылка да археалагічных і мовазнаўчых матэрыялаў. Ілюзія рэальнасці дасягаецца за кошт фармальных сродкаў (навукападобнасць стылю, аформленыя ў адпаведнасці з патрабаваннямі ВАК цытаты, апеляванне да сапраўдных, ды і да несапраўдных таксама, даследчыкаў і крыніцаў), аднак за ўсёй гэтай навукападобнасцю аўтар не дае чытачу засумаваць, маскіруючы, напрыклад, пад старажытныя выслоўі крылатыя выразы сённяшніх інтэрнэт-карыстальнікаў: "бился чолом о сруб светлицы, восхохотамши под лавкою". Усё гэта, а таксама прыхаваныя побач з псеўдацытатамі сапраўдныя цытаты і адсылкі ("стаялі халады, завеі, снежань", "пахнець сядзёр, пахнець сядзёр"), якія арганічна ўліваюцца ў кантэкст, ствараюць моцны камічны эфект і дазваляюць разглядаць "Зямлю пад крыламі Фенікса" як нялёгкае лёгкае чытво для абазнанай у беларускай літаратуры і гісторыі публікі.

Жанр мак'юмэнтары з'явіўся ў кінематографе як рэакцыя на камерцыялізацыю дакументальнага кіно. Улічваючы неверагодную папулярнасць у свеце літаратуры нон-фікшн, цалкам магчыма, што неўзабаве псеўдадакументалістыка пранікне і туды, каб разбурыць ці прынамсі пахіснуць гэтую надзвычайна сур'ёзную галіну. Але для беларускай літаратуры, дзе нон-фікнш пакуль пішацца далёка не так масава, кніга "Зямля пад крыламі Фенікса" мае зусім іншае значэнне. На фоне звону разбітых у роднай хаце шыбаў і абураных воклічаў тых, хто спрабуе гэтыя вокны хоць неяк захаваць, голас Сяргея Балахонава гучыць, здавалася б, зусім нячутна. І тым не менш у мяккай і жартаўлівай форме, не абражаючы нічыйго занадта датклівага эстэтычнага пачуцця, пісьменнік разгойдвае падпоркі, на якіх трымаюцца сённяшнія беларускія міфы. Нікому не зробіцца горш ад таго, што Кастусь Каліноўскі ездзіў на аднарогу, аднак калі на аднарогу ён усё ж такі ездзіў, мы ўжо не можам глядзець на яго так, як глядзелі раней. Не зніжаючы градусу нашае павагі ні да патрыятычнага аднарога, ні да самога Кастуся Каліноўскага, аўтар прапануе нам глядзець і на саміх сябе, і на сваю, безумоўна, гучную і слаўную гісторыю трошкі прасцей. Бо здольнасць зірнуць у люстэрка і нязлосна з сябе пасмяяцца заўсёды лічылася псіхіятрамі прыкметай душэўнага здароўя.

## Рахунак і яго рахункавод

***Альгерд Бахарэвіч. Гамбургскі рахунак Бахарэвіча. — Радыё Свабодная Еўропа / Радыё Свабода, 2012.***

Усе мы даўно ведаем, што класічная беларуская літаратура — гэта такая сабе вялікая парцалянавая лялька ў дарагім карункавым убранні: калі да яе дакрануцца бруднымі рукамі, убранне запэцкаецца, а сама лялька можа ўпасці і разбіцца. Таму адзінае, што з ёй можна і трэба зрабіць, — гэта паставіць у сервант за шкло (нібыта для таго, каб усе бачылі, што яна ў нас ёсць) і шчасліва ўспамінаць пра яе толькі тады, калі наспее неабходнасць выцерці пыл. Затое з ёй можна фатаграфавацца для сямейнага альбому і паказваць гасцям, ды і ўвогуле нічога так не сведчыць пра багацце гаспадароў, як наяўнасць у іх серванце за шклом сапраўднай парцалянавай лялькі.

Але насамрэч усё трошкі інакш. Існуе беларуская літаратура, якую нам выкла-

даюць у школе, дзе верш “Дурны мужык, як варона” чамусьці лічыцца паэзіяй, а народныя песні чытаюцца ў малодшых класах. Існуе літаратура, якую ўсе мы ў свой час ціха ненавідзелі — а многія ненавідзяць і дагэтуль: калі верш “Дурны мужык, як варона” — гэта паэзія, дык на халеру нам тая паэзія ўвогуле? Існуе беларуская літаратура сучаснай беларускай літаратурнай тусоўкі, дзе ў кожнага — свой густ і дзе кожны на гэты густ знаходзіць сабе нешта блізкае. Беларуская літаратура міфалагізуецца і дэманізуецца, чытаецца так, нібыта апроч яе ў свеце ніякіх іншых літаратураў няма, альбо катэгарычна адмаўляецца, бо ні свайго Шэкспіра, ні Сэлінджэра, ні Дэна Браўна пакуль не займела. Разбірацца ў гэтым хаосе штампаў, міфаў і перадузятасцяў мы будзем яшчэ доўга, але ніхто ў свеце за нас гэта не зробіць. Бо як бы там ні было, а парцалянавая лялька — нашая і толькі нашая, пра што неадпрэчна сведчыць і безгустоўны сервант, і даўно не мытае шкло.

І прычым тут тады Альгерд Бахарэвіч, можа спытаць любы аматар беларускай літаратуры, прычым тут Бахарэвіч са сваім месцамі даволі спрэчным, месцамі па-чытацку наіўным, а месцамі нечакана лірычным “Гамбургскім рахункам”? Не ўсе захочуць даверыцца чужому меркаванню (ды і ўзважваюць у нас не столькі словы, колькі рэгаліі) і мала хто не заўважыць, што галоўны герой “Гамбургскага рахунку” — гэта сам Альгерд Бахарэвіч, што на беларускую літаратуру ён глядзіць праз прызму ўласных зацікаўленняў: палітыка, нямецкая мова і літаратура, Маркес etc. — і ад гэтага “Гамбургскі рахунак” пачынае нагадваць стракаты рукапіс, напісаны рознакаляровымі чарнілімі. Але якая розніца, хто тут аўтар, а хто герой і які гатунак траўкі курыць Тарас на Парнасе, калі ў нас урэшце выйшла кніга, у якой не шэптам на кухні ці ў студэнцкай сталоўцы, не жартам у сяброўскім коле ці ананімным каментарам на сайце “Нашай Нівы”, а чорным па белым гаворыцца, што не ўсе рыфмы ў беларускіх вершах добрыя, што не ўсе творы Купалы геніяльныя, што не ўсе кнігі беларускай класікі чытэльныя і што, урэшце, кожная літаратура мае права на сваіх графаманаў і свае “чучалы савы” (то бок кепскія творы добрых збольшага пісьменнікаў), як называюць іх ангельцы, укладаючы на радасць паспалітага чытача цэлыя анталогіі бязглуздых, ідыёцкіх і проста няўдалых вершаў сваіх нацыянальных геніяў. Ангельцам не страшна паставіць Дыкенса з ног на галаву і не страшна знайсці ў Байрана верш, напісаны левай пяткай, — у адрозненне ад беларусаў, якія лічаць, што пра класікаў альбо добра, альбо яшчэ лепш.

“Гамбургскі рахунак” — гэта жывая кніга жывога (і самага сапраўднага) чытача, якая, калі разважыць па-добраму, мусіла б з’явіцца ў нас гадоў так пятнаццаць-дваццаць таму, а таму нельга нават сказаць, што яна своечасовая — яна хутчэй вельмі даўно патрэбная і чаканая. У анатацыі да кнігі пішацца, што кніга гэтая — баль-маскарад, на які кожны пісьменнік з’яўляецца ў тым, што ад яго напраўду засталося, і бязлітасны погляд закаханага. Аднак я б зрабіла тут трошкі іншае абагульненне: “Гамбургскі рахунак” — гэта вельмі суб’ектыўны погляд на беларускую літаратуру, які можа заахвоціць чытача да спрэчак і давесці яму, што адной любові ці адной нянавісці тут недастаткова. Шкада, што гэтую кнігу не будуць у абавязковым парадку даваць чытаць студэнтам філфака, бо кожны з іх — як і кожны з нас — таксама мае права на свой гамбургскі рахунак.

“Гамбургскі рахунак Бахарэвіча” — кніга вельмі дзіўная, яна абвяргае любыя азначэнні і не дазваляе зрабіць нейкія абагульненні. Яе можна назваць зборнікам літаратуразнаўчых эсэ, але ніводзін літаратуразнаўца ніколі не прызнае Бахарэвіча “сваім”, бо літаратуразнаўства — гэта ўсё ж пра іншае. Можна яе назваць і дзённікам чытача (мне, напрыклад, такое вызначэнне падаецца найлепшым), але дзённік — гэта тое, што пішацца перадусім для сябе і перадугледжвае пэўную інтымнасць, якой у “Гамбургскім рахунку” няма: кніга напісаная, можа, і для

сябе таксама — але ўсё ж для чытача. Ды што там казаць, усе мы цудоўна ведаем, што "Гамбургскі рахунак" пісаўся для таго, каб кожны тыдзень, слова за словам, выходзіць на сайце "Радыё Свабода" і потым з'явіцца асобнай кнігай, а таму шчырасць, з якой аўтар дзеліцца ў ёй сваімі чытацкімі ўражаннямі, — гэта шчырасць не дзённікавая. Можа, нават выпадковая. Можа, мы ў яе ўвогуле не паверым. Бо хто там ведае, што ў Бахарэвіча наўме. Магчыма, правільней за ўсё "Гамбургскі рахунак" лічыць практычным дапаможнікам па чытанні беларускай літаратуры, пазнаёміўшыся з якім, пачатковец будзе ведаць, з якога боку падысці да справы, а спецыяліст зможа параўнаць метады Бахарэвіча са сваімі ўласнымі і падыскутаваць. Галоўнае, каб без мардабою — літаратура вялікая, яе хопіць на ўсіх.

Калі чытаеш "Гамбургскі рахунак", адчуваецца, што аўтар так яго і пісаў — ад пачатку да канца — і што бліжэй да канца беларуская літаратура яго трохі стаміла. Калі многія з першых эсэ вылучаюцца незвычайным падыходам (як, напрыклад, гісторыя пра Аліндарку ў эсэ пра Францішка Багушэвіча) ці яшчэ больш незвычайнай інтэрпрэтацыяй (напрыклад, досыць сумнеўная, як на мяне, але ўжо дакладна нечаканая версія падзеяў у "Тарасе на Парнасе"), то чым бліжэй да канца, тым эсэ робяцца ўсё больш аднастайнымі, усё больш падобнымі да звычайных нататак на палях. Гэта яшчэ не параграф восем з падручніка па літаратуры для адзінаццатага класа (таямніцу эратычных вершаў Яўгеніі Янішчыц у нас не выдаюць нават старшакласнікам), але і не захапляльны аўтарскі погляд, з якім можна не згаджацца і спрачацца, але які ў любым выпадку выклікае моцны водгук. Гэтае паслабленне напружання можна патлумачыць тым, што аўтар, набліжаючыся да сучаснікаў, адчувае ўсё меншую дыстанцыю, якая не дазваляе яму абыходзіцца з матэрыялам так вольна, але, магчыма, і тым, што, прачытаўшы такую колькасць раманаў, п'есаў, зборнікаў вершаў і ўспамінаў запар, ён адчуў нешта накшталт расчаравання — альбо проста марнасць пастаўленай перад ім задачы.

"Гамбургскі рахунак" трэба чытаць так, як ён з'яўляўся на сайце: адзін тэкст на тыдзень, не часцей. Прачытаныя адным махам, гэтыя эсэ пачынаюць моцна прайграваць: адразу заўважаеш, якія ў аўтара любімыя прыёмы, у якія гульні ён гуляецца і да якіх аўтараў найбольш апелюе. Як і ў рамане "Шабаны", Бахарэвіч злоўжывае ў кнізе нямецкай мовай, якая калі і звязаная з беларускай літаратурай, то сувязь гэтая вельмі непразрыстая. Аўтару падабаецца абкатваць спалучэнні словаў, заснаваныя на сугуччы ("з музамі ці з МАЗамі"), абыгрываць цытаты ("У адным сяле, няважна дзе... Хаця назва сяла вядомая: Нізок"), ствараць літаратурныя метафары, якія граюць хутчэй на прыгажосць формы, чым на сэнс ("Людзі на балоце" зацягваюць у сябе, яны — як Грымпенская дрыгва, у якой гэтым разам гіне і Стэплтан, і сабака, і чытач, гэты вечны сышчык"), і калі самі па сабе гэтыя прыёмы выглядаюць вельмі нават сімпатычнымі, частае іх ужыванне ў суседніх эсэ заціраее навізну аўтарскіх знаходак і выклікае адчуванне дэжа вю.

У рахунках, якія Альгерд Бахарэвіч выстаўляе беларускай літаратуры, нечакана шмат нянавісці і ледзь улоўнага лірызму. Нянавісць — да сучаснай беларускай рэчаіснасці, абумоўленай палітычнай сітуацыяй у краіне, лірызм — усё ад таго ж бязлітаснага і закаханага позірку. І калі за гэтую нянавісць (якая магла б падацца ідэалагічным уплывам "Радыё Свабода", калі б супраць гэтай думкі не сведчыла ўся папярэдняя творчасць Бахарэвіча) які-небудзь наступны рахункавод абавязкова адпусціць у адрас пісьменніка колкасць сярэдняй вастрыні (адкуль жа ім там, у XXII стагоддзі, зразумець нашыя праблемы?), менавіта гэты лірызм, а таксама мужнасць аўтара, які насуперак мясцовым традыцыям называе рэчы сваімі імёнамі, прымусіць яго ўсё ж не паскупіцца і згадаць свайго папярэдніка і яго "Гамбургскі рахунак" у сваім новым, зноў жа суб'ектыўным і неверагодна важным фаліянце.

Ціхан Чарнякевіч

# Злучанасць і залежнасць

***Адам Глобус. Сказы. — Мінск: Харвест, 2012.***

“Сказы” — пяты том збору твораў Адама Глобуса. Папярэднія тамы — “Тэксты” (2000), “Сшыткі” (2003), “Літары” (2006), “Convolutus” (2008) — аб’ядноўваюць усе творы пісьменніка, што выйшлі за апошнія 25 гадоў у выглядзе кніжак (якія пералічваць не бяруся) альбо папросту аформіліся ў цыклы.

“Цыклы” — ключавое слова для разумення творчасці Глобуса. Усё, што ён піша і выдае, а піша і выдае ён шмат і пастаянна, — толькі частка пэўнага цыклу альбо “праекта”, калі адхіліцца ад літаратуразнаўчых тэрмінаў.

Глобуса вельмі шмат. Праз ягоную бясконцую самапрэзентацыю і жорсткі тролінг паўгорада яго ненавідзіць і паўгорада любіць. Прынамсі, раўнадушным ён не пакідае нікога. Асноўнае пытанне крытыкі ў гэтым выпадку — што ёсць у Глобусу, акрамя яго самога. Паспрабуем адказаць.

Па-першае, гэта сапраўды добрая проза. Адну секунду, я вытру твар... Дык вось. Пад добрай прозай маецца на ўвазе гарманічна арганізаванае выказванне. Калі раскрыць кнігу “Сказы” на выпадковай старонцы і тыцнуць у “кунсткамеру”, “казку” ці блогерскі запіс, то адразу стане відавочным, што кожная глобусаўская мініяцюра мае першую фразу, развіццё сюжэту і канцоўку, якая часта з’яўляецца, так бы мовіць, перыфразай першай фразы. Пакуль мініяцюра доўжыцца, яна развівае і пэўную музычную фразу. Збегу зычных, дысметрыі ці немілагучнасцяў вы тут не знойдзеце (праўда, можа быць розная рэакцыя на словы — абазначэнні палавых органаў і вытворныя). Такім чынам, ёсць відавочны аўтарскі стыль, рэалізаваны ў розных жанрах.

Зрэшты, асноўным жанрам апошнія гадоў дзесяць у Глобуса застаецца мініяцюра. Аднак сам пісьменнік у той жа час імкнецца пазбягаць якой-кольвек аднастайнасці (таму ў мінулым і сённяшнім у яго — пісанне хайку і сілаба-тонікі, афарызмаў, апавяданняў, эсэ, п’ес, маляванне карцін, выбух на Эйфелевай вежы і г.д.). Як вынік — суплёты мініяцюр складаюцца ў кампазіцыйна аднолькавыя цыклы-праекты, якія ў адпаведнасці з задумай набываюць розныя жанравыя характарыстыкі (казкі, фацэцыі, раман).

Найбольш вядомым глобусаўскім праектам сталіся “сУчаснікі” — своеасаблівыя і амаль заўсёды скандальныя гісторыі пра вядомых людзей. Працяг гэтага цыклу — “Блогус” — займае больш за палову кнігі “Сказы”. Бясспрэчна, некалі гэтыя зацемкі вывучацьмуцца, як нататнікі князя Вяземскага, і дужа нялёгка будзе каментатарам аддзяліць праўду ад няпраўды і цноту ад гарэзіі. Падкрэсленая рэалістычнасць уяўна ператварае “Блогус” у аўтарскі маналог, аднак правакацыйная расстаноўка акцэнтаў не пакідае сумневаў, што перад намі чарговы мастацкі ход, дзе веліканы ў адзін момант могуць перавярнуцца дагары нагамі, а чорнае стаць белым. Менавіта гэтая амбівалентнасць — яркая рыса глобусаўскай прозы. Там, дзе іншыя згладжваюць, ён завастрае; што іншыя багомяць — ён спляжвае. Характарыстыкі, апісанні альбо дзеянні Глобус падае без паўтонаў — ярка, бо толькі яркае заўважаецца. Таму і гэтыя характарыстыкі ці то апісанні не пакліканыя быць тоеснымі рэальным. Гэта мастакоўскае бачанне, падпарадкаванае паэтыцы. Трэба адзначыць, што “Блогус” атрымаўся не такі эпатажны, як “сУчаснікі” (у адрозненне ад “Першага пакоя” “Расейскай кунсткамеры” — жорсткіх чытацкіх і сузіральніцкіх рэфлексій з нагоды “рускага духу”), а праз сваю аб’ёмнасць увогуле выглядае трохі рыхлавата. Эпатажнасць, відаць, не закладалася ад пачатку ў “функцыянал”. Асновай тут — таксама расказванне гісторыі, аднак не заўсёды яна будзе датычыць канкрэтнага чалавека. Усё часцей гэта проста лірычная проза, лірычны дзённік.

Бясспрэчна, пісанне верагодна-неверагодных гісторый непазбежна мусіла прыводзіць да магічнага рэалізму. Мадэрнасць заўсёды выклікае ў прозе імкненне да міфатворства і казачнасці. Міфапаэтыку глобусаўскіх дамавікоў тут не ўспомніць толькі гультай. Але "Дамавікамероны" як праект адышлі, іх напісана ўжо вельмі шмат, паўтарацца аўтару яўна не хочацца. Іншы спосаб міфатворчасці выяўляюць "Меркаванні": аб'ект закладаецца ў назве і пасля трактуецца як "рэч у сабе": ключ, кніга, каштан. Дарэчы, пра "рэчы" Глобусам ужо таксама пісалася (падаваўся аб'ект (боты, напрыклад), які апісваўся з розных бакоў і праз дзясяткі сітуацый), але ў кантэксце іншай задумы. "Меркаванні" – тэксты сінтэтычныя. Падобныя да "Рэчаў", яны не створаныя з дзясятка мініяцюр, а ўяўляюць сабой адну мініяцюру, у якую ўплецена некалькі матываў і сюжэтаў.

А вось казкі для Глобуса — пакуль што параўнальна новы жанр, незашмальцаваны, таму і выглядаюць яны больш прывабна. Наогул тут адразу прыгадваецца Алесь Разанаў і яго аўтарскія жанры. Дальбог, Глобус ідзе тым жа шляхам, толькі формы не прыдумляе, а бярэ тыя, што ёсць, і п'е з іх усе сокі, што засталіся ад былых віначэрпцаў. Казка глобусаўская, папраўдзе, таксама чысцінёй жанру пахваліцца не можа. Нярэдка падаецца, што сякія-такія казкі забрылі ў раздзел з "Блогуса" (напрыклад, у казцы "Чорны сабачка" лёгка ўгадваецца прататып апавядальніка — крытык Леанід Галубовіч). Пачынаецца крутагорская казка найчасцей з карцінкі рэалістычнай, свядома асучасненай (тое самае і ў "Дамавікамероне"). Потым знаходзіцца персанаж, ён грашыць, на яго пасылаецца кара цёмных сіл. Важна, што праяўляецца персанажам адна канкрэтная жарсць — падобны матыў можна залічыць і для ўсёй найноўшай прозы Глобуса. Асобная мініяцюра прысвячаецца адной асобнай дэталі, якая і робіцца стрыжнем сюжэту кароткага тэксту і часта выносіцца ў загаловак.

Нездарма сказаў вышэй пра найноўшую прозу, бо ў "Сказах" для кантрасту дадзеныя ўзоры "ранняга Глобуса" — цыкл апавяданняў "Хлопчыкі". Гэта тэксты 1980-х – пачатку 1990-х, асобным выданнем яны ні разу не выходзілі. Па вялікім рахунку, гэта тое самае зафіксаванае ўбачанае-прыгаданае, але аўтар тады яшчэ імкнуўся вытрымліваць канон апавядання і быў у гэтым плане вельмі акуратным. Нават звышакуратным. Апісанні тут вельмі падрабязныя (наогул "Хлопчыкаў" мог бы напісаць і Уладзімір Сцяпан, у той час (1980-я) яны былі вельмі падобныя з Глобусам па манеры, і трэба сказаць, што Сцяпан у нечым нават капіяваў Глобуса). Сюжэт — жорсткая барацьба ў свеце падлеткаў, дзе выйграе толькі дужы, а слабы прайграе, які б ён ні быў цудоўны і прыгожы. Адчуваецца, што акцэнт зроблены не на самапрэзентацыі, а менавіта на ідэі жорсткасці і цынізму наваколля. Ад школьных апавяданняў зашкальваюць датчыкі эмоцый. Відавочна, аўтар уклаў у іх усю сваю нянавісць да савецкай міфалагемы "школьные годы чудесные". Бясспрэчна, цыкл атрымаўся. Яго дамінанта —найбольш аб'ёмны твор, апавяданне "Лагерныя танцы", гісторыя пра тое, як у піянерскім лагеры танцора-самотніка аддубашваюць хлопцы за тое, што ён перамог на конкурсе; менавіта за тое, што ён — творца прыгожага, а яны ўсе "пралятаюць". Надзіва, экспрэсіі ў гэтых апавяданнях значна больш, чым нават у "сУчасніках". Некалі Глобус пісаў прозу, каб пазбавіцца гэтага трапяткога і балючага мінулага, "каб уратавацца ад бяды", а цяпер...

А цяпер ён дбайна фіксуе тое, што адбываецца з ім і з наваколлем, сочыць за зменамі, дае характарыстыкі і ацэнкі, разнастайны і шматаблічны, вялікі і жахлівы, з іміджам мільянера і драпежніка. Ён сам так захацеў. Ён сам прыдумаў для свету такога Глобуса. Магчыма, гэта прынцып мудрасці. Нядаўна ў рускага празаіка Бярэзіна спыталі, якая ў яго жыццёвая мэта. Той адказаў: "Запісаць усё, што бачыў. Стварыць карціну свету, якая магла б каму-небудзь спатрэбіцца". Глобус такую карціну стварыў (ці, дакладней, ставарае). А болей... Што там болей жадаць ад песняра?

Марыя Мартысевіч

## “Мінсктранс” рэкамендуе

***Уладзімір Някляеў. Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без. Мінскі раман. — Мінск: Паперус / Дзеяслоў. — №6 — 2012.***

Літаратурную прэмію імя Ежы Гедройца варта было прыдумаць хоць бы для таго, каб Уладзімір Някляеў напісаў свой другі раман. Бо, эксплуатуючы метафорыку пераможцы Гедройца-2011 Паўла Касцюкевіча, траплянне кнігі Някляева ў доўгі спіс прэміі можна назваць “голам у шатню”. “Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без” выйшаў друкам у апошнія дні снежня, прычым адначасова ў часопіснай версіі і асобным выданнем партала www.prastora.by.

Што праўда, на момант, калі пішуцца гэтыя радкі, нават самыя актыўныя спажыўцы кніжных навінак бачылі асобнае выданне хіба ў інтэрнэце. Такая спешка можа сведчыць, што аўтар выдатна разумее: ён меў што страціць, не паспей яго выдавец да 28 снежня. Бо надта шмат канкурэнтаздольных рэчаў сышліся ў рамане: тут вам і буйная форма, і зграбны стыль, і чытэльны тэкст, які не раздражніць “праславутага” “простага чытача” залішняй мудрагелістасцю, і гучная асоба аўтара, і актуальны, калі не сказаць “модны”, антураж паваеннага Мінска, і хрушчоўская эпоха, пра якую адносна Беларусі напісана параўнальна няшмат (калі не лічыць тагачасных шэдэўраў сацрэалізму, а іх чамусьці лічыць не хочацца), і нарэшце бяспройгрышная тэма стылягаў, якая пайшла на ўра ў моладзі 2000-х дзякуючы расійскаму мюзіклу 2009 года.

Карацей, “Аўтамат з газіроўкай...”, з сіропам ці без яго — бясспрэчны хіт і адзін з лідараў прэміяльнай гонкі. Бо дэклараваная мэта прэміі — папулярызацыя сучаснай беларускай літаратуры. А Някляеў, што ні кажы, стварыў папулярны раман. Ён напісаў, каб мы прачыталі. А не адставілі, з уздыхам пагартаўшы, на паліцу кнігарні, як гэта часта здараецца з новай прозай на беларускай мове.

Азартны чалавек гэты Някляеў — вось і матыў фартуны, лёсу фактычна распачынае “мінскі раман”, калі тралейбус №1 выязджае на Праспект і вязе героя ў бок вуліцы Падлеснай (здаецца, цяпер Петруся Броўкі):

“Я загадаў: калі дама ў каракулі выйдзе і рушыць уперад па праспекце — ажанюся з Асяй, калі назад — з татаркай Нэлай. (...) Дама выйшла і павярнула на Даўгабродскую. Не ажаніцца мне ні з кім...”

Гэтак у лёс галоўнага героя ўплятаюцца вуліцы горада. Таксама героя, дарэчы.

### Горад — герой

Хоць крытыкі і чытачы дагэтуль працягваюць стагнаць, маўляў, беларуская літаратура — уся неактуальная і несучасная, бо пра вёску, асабіста я бачу зусім адваротную тэндэнцыю. Рэакцыяй на засілле вясковай тэматыкі ў беларускай савецкай літаратуры стаў выбух у 1990-х беларускай літаратурнай урбаністыкі, папярэднікам якога выступіў Міхась Стральцоў са сваім канцэптам “сена на асфальце”. (Як на мяне, сёння нам, наадварот, бракуе якасных, актуальных твораў пра вёску, напісаных сучаснымі аўтарамі сучаснай мовай). І як адзін з аспектаў гэтай самай урбаністыкі развіваецца тое, што можна назваць “мінскай прозай”.

2000-я гады — гэта ўвогуле мінскацэнтрычны перыяд, калі літаратары, якія нарадзіліся ў сталіцы Беларусі або пражылі тут большую частку жыцця, усур’ёз заняліся канцэптуалізацыяй свайго горада. Ад эсэ “Горад, якога няма” Валянціна Акудовіча і навелы “Мінская опера” Ігара Бабкова праз раман Майкла Галдзянкова “Палёт дубовага ліста” ды літаратурна-мастацкі праект “Горад СОНца” Артура Клінава — да “Шабаноў” Альгерда Бахарэвіча.

І гэта пералічаныя толькі творы, галоўным героем якіх у той ці іншай ступені выступае Мінск (або яго сегменты)... Кнігі, дзе Мінск выступае асноўным месцам дзеяння, увогуле не паддаюцца пераліку, дый выводзіць падагульненні з такога пераліку — занятак бессэнсоўны: так склалася натуральна. Але пры ўсім гэтым "мінскім буме" раман Уладзіміра Някляева пра аўтамат з газіроўкай успрымаецца як наватарства.

Магчыма, таму, што пісьменнік добра зветрыў найноўшыя тэндэнцыі брэндавання нашай дарагой сталіцы. Усе папярэднія аўтары (за выняткам хіба Галдзянкова) адштурхоўваліся ад архітэктуры. Яна, як вядома, застылая музыка. Але будзьма шчырымі хоць самі з сабою: што такога ўскрай меладычнага нам можна зайграць Мінск? Ходкі эўфемізм для сентэнцыі:

"Вы, беларусы, — бесхрыбетныя мямлі, якія ні слова не сказалі, калі савецкія чынушы руйнавалі ваш горад, калі зносілі цэрквы, касцёлы, сінагогі, мячэты і старыя камяніцы — і працягваеце маўчаць, калі ваш горад руйнуюць ужо новыя ўлады... Дык на што цяпер глядзець замежнікам у вашым панэльным царстве?" — "Мінск — гэта найперш людзі".

Пішучы мінскацэнтрычны раман, ураджэнец старажытнага Крэва Някляеў ці не ўпершыню ў беларускай літаратуры паставіў не на сам Мінск, а на мінчукоў. І не прагадаў.

## Дакумент эпохі

Асноўная прэтэнзія, якую могуць выставіць (і ўжо выстаўляюць) пісьменніку чытачы, — небяспечнае балансаванне паміж рэчаіснасцю і літаратурай, якое дазваляе сабе Някляеў. Паўсюль дэкларавана, што раман — мастацкая прыдумка, але твор мае прыкметы дакументальнай прозы, да таго ж амаль усе дзейныя асобы — рэальныя людзі, якія жылі або і цяпер жывуць у Мінску. Вось так — асобы рэальныя, а іх учынкі — выдуманыя або як мінімум істотна дадуманыя аўтарам. Можа, менавіта таму прынамсі ключавыя персанажы твора, пазычаныя з жыцця, фігуруюць пад сваімі тагачаснымі мянушкамі — Палкоўнік (Хадзееў) і Амерыканец (Освальд). Аўтар, нібы празрыстай фіранкай, адмяжоўвае сваіх герояў ад іх прататыпаў.

Так ужо ўладкаваны сучасны чалавек: нон-фікшн вабіць нас мацней за фікшн. Не абы-які стымул да чытання дае гарантыя, што, маўляў, апісанае ў кнізе мела месца насамрэч. Сярмяжная праўда кранае значна мацней за любыя мастацкія тыпізацыі, гратэскі і сюжэтныя калізіі, якія толькі можа прапанаваць фікшн. Злавіла сябе на тым, што сэрца білася часцей, калі я чытала паслямову журналіста Віктара Ледзенева — персанажа (прататыпа персанажа?) рамана, чым калі ўнікала ў прыгоды асноўнай часткі твора. Бо Ледзенеў як бы расстаўляў кропкі над "і" наконт таго, як жа ўсё адбывалася насамрэч. Смакуючы кактэйль з праўды і фантазіі, чалавек схільны прыняць усю канструкцыю за чыстую манету. І тады выходзіць, што Някляеў — хлус.

Пра нешта падобнае згадвае Сяргей Балахонаў, аўтар самай паспяховай беларускай кнігі ў жанры mockumentary — "Зямлі пад крыламі Фенікса". Маўляў, ягоныя чытачы прымаюць на веру нават тое, што Францішак Скарына служыў у гомельскім спецназе, і таму на вядомай гравюры на ім берэт. Што ўжо тут казаць пра твор Някляева. Можна адно прагназаваць: намучаецца аўтар з чытацкай перцэпцыяй, не атрымаўшы прачухону хіба ад лянівага знаўцы савецкай гісторыі.

## Вінегрэт з хранатопу

"Аўтамат з газіроўкай..." — свядомая містыфікацыя Мінска 1960-х, штучнае апладненне горада гарадскімі легендамі, якія, праз імклівую міграцыю адных

жыхароў з вёскі ў горад, а іншых — з горада ў Ізраіль, не мелі шанцаў у ім зарадзіцца. Калі першапраходцы мінскай прозы збіваюць ногі ў пошуках тутэйшага genius loci і ў выніку змушаныя прыйсці да высновы, што дух Мінска — у адсутнасці якога-кольвек духу, Някляеў прышчэплівае гораду гэты самы дух, як высакародны гатунак на дзічку.

Хрушчоўскі Мінск быў у параўнанні з Масквой ці Ленінградам прэсным і нудным настолькі, што псіхолагі ў пагонах вырашылі выслаць туды апантанага амерыканскага камуніста Освальда, каб закіс, утаймаваўся і вымеўся назад у свой Тэхас (што ўрэшце і адбылося). У рамане адліжны Мінск Хрушчова паўстае нейкім вірам карнавалу, эпіцэнтрам руху стылягаў і разборак Грушаўкі з Сельгаспасёлкам, а дысідэнтаў — са спецслужбамі, такім савецкім Чыкага. Ды тут ледзь не замах на Хрушчова адбываецца — а вы кажаце... Аўтар дбайна перабірае ўсе драбкі нонканфармізму, якія толькі мелі месца ў Мінску яго юнацтва, і звальвае іх да кучы ў агульную нарацыю. Што там? Анархісцкі гурток Хадзеева? Бярэм. Кімку — на царства. Забойца Кенэдзі? Проста супер! Будзе ў творы блізкім сябрам і ідэйным паплечнікам Кіма. Свабодалюбівыя канцэрты на прыступках ТЮЗа? — самае тое. Малады Караткевіч — о-о-о, жыр. Хай затроліць самага галоўнага троля мінскай багемы. А, каб не забыцца: у Мінску гралі амерыканскі джаз! Студэнты-мурыны — інтэрнацыянальны каларыт, уключаем. Эскімо ў парку, у калгас на бульбу... Фу, банальна. Нафіг. А вось паездка "дзікунамі" ў Крым будзе вельмі дарэчы. Што там яшчэ? Голымі на "слабо" перад сядзібай КДБ бегалі? У кошык. Так і тчэцца канва аповеду.

Лявон Баршчэўскі спецыяльна для азначэння жанру някляеўскага рамана вынайшаў тэрмін "фэнтэзі-хранатоп", але мне здаецца, Някляеў спрацаваў у рэчышчы альтэрнатыўнай гісторыі. Напрыклад, вельмі нестандартна і правакацыйна выглядае версія, нібыта Освальд практыкаваўся страляць у адным з мінскіх тыраў, цэлячы ў партрэт беларускага стылягі Толіка, з якім змагаўся за каханую Марыну. Лішне казаць, копіяй каго быў з твару той Толік...

Мяне тут папрасілі не захапляцца пераказам сюжэту. Маўляў, спойлеры — зло, і людзям потым будзе нецікава чытаць. Але просьба была лішняй: аўтар і так зрабіў усё, каб сюжэт адышоў на другі план. Прытым што ён захапляльны, пакручасты і працуе бездакорна, як без памылак запоўненая табліца Excel, ён мае другаснае значэнне. "Аўтамат з газіроўкай..." цяжка назваць прыгодніцкім або дэтэктыўным раманам, дзе на папярэдняй старонцы нельга здагадацца, што здарыцца на наступнай. Гісторыя пра тое, як юнак хацеў "танцаваць рок-н-рол, слухаць Дзюка Элінгтана, Джона Рыда і Элвіса Прэслі, чытаць Агату Крысці (...) і кахаць Асю", а замест гэтага хадзіў на допыты ў КДБ і прымусова лячыўся ў Навінках, выкладзеная хаатычна, так, нібы апавядальнік падай сваю версію ўсім вядомых падзеяў.

Жанглюючы топавымі тэмамі, апавядальнік Някляева пераскоквае з эпізоду на эпізод, забягае наперад, нязмушана вандруе між 1960-м і 2010-м (калі ён — вы не паверыце! — быў збіты і арыштаваны КДБ у дзень выбараў, на якіх балатаваўся ў прэзідэнты). Усе гэтыя праспекцыі і рэтардацыі дадаюць твору дадаізму, надзейна адводзячы яго ўбок ад жанравай літаратуры. Лішне казаць, што падзеі маладосці героя і яго сталага жыцця паўтараюцца і рыфмуюцца. Аўтар расстаўляе персанажаў, як фігуры на дошцы, і гуляецца сам з сабою, ствараючы прыгожыя шахматныя камбінацыі.

Да, што да дадаізму. Што падкупляе найбольш — дык гэта наіўнае пісьмо "Аўтамата з газіроўкай...". Дзіўна, але Някляеў-раманіст чароўным чынам адрозніваецца ад Някляева-стваральніка-іншых-жанраў-прозы. У сваіх раманах, безумоўна, аўтабіяграфічных, ён нібы хавае частку сябе ў цень, выстаўляючы наперад толькі адну са сваіх іпастасяў. Калі ў эратычным "раманчыку" "Лабух"

галоўны герой, на патрэбу часу (канец 1990-х, эпоха распачатай Адамам Глобусам дэфларацыі белліту), — зацяты бабнік, то апавядальнік “Аўтамата з газіроўкай...” — здзіўлены падлетак, які глядзіць на свет шырока расплюшчанымі вачыма: “Аднойчы ў Скразным гроце, дзе мы шукалі скарбы піратаў, і Ася пры мне прысела на кукішкі, я спытаў: чаму? Чаму яна мяне не саромеецца? Таму што я для яе хлопчык, якога можна ўзяць з сабой у лазню? Яна засмяялася: “Дурненькі! Глядзі: я не саромеюся мора, сонца, ветру... Ты ў такой кампаніі — і крыўдуеш?”

Я крыўдаваў: Я раўнаваў яе да мора, сонца, ветру...”

## Нэла і Ася

Саюз выдумкі і рэчаіснасці знайшоў у Някляева ўвасабленне ў жаночых вобразах: татарка Нэла існавала насамрэч, а габрэйка Ася была “мара... збіральны вобраз усіх тых дзяўчат, якія былі побач з намі, у якіх мы былі закаханыя” (Віктар Ледзенеў). Маюць гэтыя вобразы і іншае значэнне.

Па-першае, значэннае паходжанне гераіняў. Габрэй і татарын — гэта, калі разабрацца, нацыянальнасці анёлаў, што кленчаць на гербе Мінска абапал Дзевы Марыі. Нэла і Ася — карэнныя жыхаркі Мінска, маці апошняй загінула ў мінскім гета. Някляеву, безумоўна, было важна ўвесці такі ненавязлівы гістарычны код у раман пра паваенны Мінск. З гэтага ж разраду — тэндэнцыя падаваць поруч з савецкімі назвамі вуліц і плошчаў аўтэнтычныя: “Плошча Перамогі! — Якая плошча? — Ды Круглая, Круглая... Усе ведаюць, а кожны пытае”. Сюды ж дадамо паварот сюжэту, паводле якога адзін з герояў імкнецца перадаць Хрушчову план рэканструкцыі старажытнай Нямігі, перадухіліць яе знос, які працягваецца і цяпер, у 2013-м.

Па-другое, сімвалічныя лёсы дзяўчат: “Абедзве мае каханыя, заліваючыся румянцам, выйшлі замуж за гэбістаў”.

Улада над жанчынай — навязлівая метафара ўлады над краінай — з’яўляецца яшчэ ў рамане Някляева “Лабух”. Але ў “мінскім рамане” — каб да кожнага дайшло — усе каханыя жанчыны героя дастаюцца ворагам. Трэба думаць, як для аўтара, так і для яго лірычнага героя (абодва — аматары слабага полу) самае крыўднае ў таталітарызме — тое, што гэтыя нелюдзі, апроч усяго іншага, яшчэ “і дзевачак нашых вядуць у кабінет”.

Каханне да жанчыны дыктатара — нешта сярэдняе паміж топасам канспіралагічнага дэтэктыву і сэксуальнай фантазіяй. Маленькае суцяшэнне — даведацца праз паўстагоддзя, што найлепшыя жанчыны аддавалі “гэтым” адно свае целы: “Ты чаму не вярнуўся?.. Я за яго пайшла, бо за цябе баялася. Ён мяне застрашыў. (...) Яна заплакала... Я ўстаў і пацалаваў заколку ў яе валасах”.

Асноўны пафас “мінскага рамана” — гэты, як мне здаецца, светлы смутак аўтара з нагоды таго, што ў жыцці ўсё пайшло так, хоць магло б іначай. Сум рызыкоўнага гульца, фаталіста, які падпарадкоўвае лёс волі выпадку.

## Пра мінскі грамадскі транспарт

У адной з сувенірных крамаў Мінска прадаюцца магніцікі на лядоўню ў выглядзе аўтазакаў. Такія драўляныя машынкі, пафарбаваныя ў цёмна-балотны колер. Абавязкова схаджу і куплю, бо аўтар ідэі трапіў у кропку. Для мяне гэтыя “машынкі” — сімвал Мінска, супастаўны з рыжскімі трамваямі.

Сваім раманам Уладзімір Някляеў прапанаваў Мінску яшчэ адзін магніцік — дошчачку, пафарбаваную ў шэры колер, з надпісам “ВОДА”. І таксама трапіў у кропку.

“Палёт дубовага ліста” Майкла Галдзянкова, кніга пра Мінск канца 1980-х, заканчваецца лацінскім выслоўем. Саму лаціну без памылак, баюся, не прыгадаю,

але пераклад такі: “Любі свой час”. Уладзімір Някляеў, без сумневу, свой час любіць. Свой час, свой горад і людзей навокал. Можа, таму Мінск Някляева — светлы і сонечны, такі, які ён, здараецца, бывае ў жыцці, але ніколі — у сучаснай літаратуры. Таму рэкамендую. Чытайце гэтую кнігу. Чытайце на ўсіх чатырох відах мінскага грамадскага транспарту: у аўтобусах, тралейбусах, трамваях і метрапалітэне. Толькі ў маршрутках не чытайце, бо там трасе і цёмна.

## Голем на пераходзе

***Юры Станкевіч. Шал. — Мінск: Галіяфы, 2012.***

У XVI стагоддзі ў Празе жыў легендарны рэбэ Лёў. Паводле адной з версій, ён хацеў абараніць габрэяў ад пагромаў. Паводле іншай — банальна стварыць служку для нуднай хатняй працы. Зляпіўшы балвана з гліны, здабытай у Влтаве, ён ажывіў яго з дапамогай Кабалы. Уключальнікам для гэтага робата эпохі барока служыў “шэм” — цыдулка з таемным імем Бога, пакладзеная ў гліняны рот.

Голем спраўна завіхаўся на карысць гета: абараняў яго межы, насіў ваду і дровы. Часам, праўда, ад няма чаго рабіць самавольна ўключаўся, выходзіў з-пад кантролю і ішоў душыць саміх габрэяў, але збольшага ўсё было добра. І ўсё роўна аднойчы рэбэ Лёў выключыў яго назаўжды. Але шмат стагоддзяў габрэі Еўропы верылі, што Голем адраджаецца з пацярухі і абараняе іх народ у часы небяспекі.

Празаік Юры Станкевіч стаў шырока вядомы чытачу пасля 1997 года. Яго раман “Любіць ноч — права пацукоў” — жамчужына “новай літаратурнай сітуацыі”, класіка новага беларускага мадэрнізму, заслужаны “нуар” беларускай літаратуры. Эксперыментальны твор, мадэрністычны “свяжак” на фоне татальнага рэалізму айчыннай прозы, адрэдагаваны, выдадзены і разрэкламаваны калектывам часопіса “Крыніца” — бадай, самай магутнай і аўтарытэтнай інтэлектуальнай структурай Беларусі канца 1990-х, — вокамгненна стаў культавым.

Вось толькі аўтар, на праверку, выявіўся форменным Големам — змрочнай пачварай Франкенштэйна, які паўстаў супраць сваіх стваральнікаў. Мы і не заўважылі — але за нейкі дзясятак гадоў з флагмана мадэрнізму (якім мы яго чамусьці лічылі) Станкевіч перарадзіўся ў гуру беларускіх правых. Станкевіч — галоўны козыр беларускіх нацыяналістаў у ідэалагічным супрацьстаянні з праеўрапейскімі лібераламі, якія, у сілу бязмежнай талерантнасці да ўсіх, моўчкі глытаюць у тым ліку прозу Станкевіча. Камуністы таксама адседжваюцца ў хмызах. Што такога могуць супрацьпаставіць танку, які мкне напралом, тутэйшыя левыя? Маніфесты Цімура Хоміча? Складаецца ўражанне, што Станкевіч павёў рэй у гета беларускай культуры ўсур’ёз і надоўга.

У чым менавіта палягае перараджэнне празаіка Станкевіча?

На гэтае пытанне, думаю, здольная адказаць кніга “Шал”.

### I

“Шал” мае амаль санетарную архітэктоніку. У кнізе 13 тэкстаў у чатырох жанрах. На першы погляд, “Шал” — кніга таго самага антыкамерцыйнага фармату “слепила из того, что было”, які дае цынікам нагоду кпіць з нішчымных беларускіх літаратараў. Маўляў, аўтары карыстаюцца любой нагодай апублікаваць “нятленкі” і, атрымаўшы перапустку ў друкарню, на радасцях вярстаюць пад адну вокладку ўсё, што гадамі пісалася ў стол. Але насамрэч усё ў зборніку даволі арганічна. Канцэптуальна ён распадаецца на дзве часткі. На маю думку, асобна варта разглядаць “Аповеды розных гадоў” (8 навелаў) і рэшту твораў: аповесці “Пераход”, “Шал”, “Лавец святла поўні”, кінасцэнар “Фалькона” і эсэ “Пясняр самураяў”

Спачатку крыху пра навелы. Гэта, на маю думку, каронны жанр пісьменніка Станкевіча. Беларуская літаратура пакуль не ведае сюжэтніка, лепшага за яго. Па характары і сіле ўздзеяння на чытача гэтыя кароткія тэксты можна параўнаць з петардамі. Развязка, як і належыць прыстойнай навеле, проста дэтануе (прычым у навеле "Падарунак для свекрыві" дэтануе літаральна). Але галоўнае іншае: толькі гэтыя восем тэкстаў кнігі "Шал" можна аднесці да чыстакроўнай літаратуры.

Бо, у прынцыпе, кніга "Шал" — узор маргінальнага пісьменства. Вядома ж, у маім разуменні маргінальнага пісьменства: калі твор літаратуры паўстае на сутыку розных сістэм мастацтва і не можа быць адэкватна інтэрпрэтаваны ў катэгорыях толькі адной з іх.

## II

Што адбываецца, калі непадрыхтаваны чытач занураецца ў сусветы Юрыя Станкевіча? Адбываецца разрыў шаблону ва ўсіх, хто прачытаў у прэсе: новая кніга ад аўтара "Любіць ноч — права пацукоў". Непадрыхтаваны чытач натыкаецца на серыю аднастайных твораў-клонаў, пабудаваных па адной схеме, небагатых на вобразныя сродкі і часам нават выкладзеных не зусім пісьменна, з гіпертрафаванай роляй сюжэту, які, зрэшты, вандруе з аповесці ў аповесць і структура якога можа быць апісаная радком са школьнай хрэстаматыі: "Ноч — Халодная зямлянка — Перастрэлка — Цішыня".

Гэтак жа, як адэпта інтэрнэт-тэхналогіяў Альгерда Бахарэвіча часта ловяць на творчым пераказе Вікіпедыі, Юрыя Станкевіча можна западозрыць ва злоўжыванні ў якасці крыніцы натхнення тэлевізіяй, прычым пераважна расійскай. Перад намі тыповы РТРаўскі серыял пра вайну, які перапыняецца "Шоў экстрасэнсаў" і перадачамі пра разборкі крыміналітэту ў Маскве і Піцеры.

З першых абзацаў герой — сціплы беларускамоўны мача — пуляе, "редко, но метко", у чарговых прыхадняў, якія або маскалі, або "чарнамазыя", або проста падонкі, або ўсё гэта разам. Наступае зацішша, і агаломшаны чытач нарэшце атрымлівае флэшбэк. Які і праўда тлумачыць, як герой трапіў у зямлянку і чаму менавіта кепскія мальцы — кепскія, але не мяркуе ніякай дыялектыкі: чытач па-ранейшаму не ўяўляе, што зрабіла мальцаў кепскімі і якія такія ўнутраныя рэсурсы і перакананні змусілі героя, у мінулым шараговага абываталя, зрабіцца бязлітасным забойцам. Эфект запінгу — рэзкае пераключэнне тэлеканала нябачным пультам дзеля ўвядзення ў тэкст гома- і ксенафобных лозунгаў — крыху праясняе сітуацыю, але не пакідае шанцаў на катарсіс. Так, герой — нацыяналіст і праварадыкал, гэта зразумела, але чаго адразу за бярданку хапацца? Дзе дыялектыка, я пытаюся?

І вось мы прымаем гэта як дадзенасць — самотны шэравокі каўбой супраць свету "мяшанцаў" і "дэградантаў", якія абрынулі на планету шэраг "Непажаданых Падзей" — гэтыя азначэнні таксама вандруюць з твора ў твор і ўжо трывала асацыююцца з прозай Станкевіча.

Потым герой яшчэ крыху ходзіць, пуляе (або, як варыянт, рэжа), знішчае ўсіх кепскіх мальцаў і запальвае дэфіцытную ў новай эканамічнай (або экалагічнай) сітуацыі цыгарэту, гледзячы на заход якога-небудзь радыеактыўнага сонца. Магчыма нават, дзеянне адбываецца не на Зямлі і не ў нашыя дні. Заслона. А, забыла. Побач з героем абавязкова круціцца якое-небудзь дзяўчо, што выжыла ў катаклізме (уцякло ад бандытаў). Перад фінальнай перастрэлкай Ён і Яна здзяйсняюць эпічны Полавы Акт. Цяпер дакладна ўсё.

Вядома ж, гэты абагульнены мной сюжэт мае адхіленні, крокі ўправа-ўлева і падскокі ўверх (толькі Полавы Акт мае месца пры любым надвор'і — проста як канцэрты Ухцінскага), але па сутнасці, канва адна і тая ж. Падчас чытання

складаецца ўражанне, што табе выпала гуляць у нейкую бясконцую кампутарную стралялку, дзе твой аватар у пачатку дзеяння саскоквае на экран аднекуль зверху, распачынаючы бяздумны doom. І тады тое, зойдзе табе ці не зойдзе напісанае, залежыць ад таго, наколькі табе падабаецца гуляць у такія стралялкі. “Чалавек на імя Антон Лашкевіч”, “чалавек на прозвішча андруш валовіч” — мяняюцца адно нікі гульца і антураж узроўняў.

Шмат грэблівага напісана мужчынамі-крытыкамі пра жаночую прозу — ружовую жанравую літаратуру ў стылі “каханне-морква”. Шмат плачу чутно са стану жанчынаў-крытыкаў, маўляў, такой беларускамоўнай прозы нам бракуе. У выпадку са Станкевічам мы маем люстраны адбітак ружовай жаночай прозы (якой няма) — мужчынскую прозу колеру хакі. Так, відаць, да яе і трэба ставіцца як да літаратуры жанравай — па азначэнні нізкапробнай і другаснай. Разлічанай на падлеткаў-геймераў і аматараў серыялу “Брыгада”. Калі б гэты кантынгент чытаў па-беларуску. Зрэшты, адкінем залішні аптымізм: калі б гэты кантынгент чытаў.

Вось што за карціна адкрываецца, калі разглядаць прозу Станкевіча выключна як літаратуру.

## III

Другі код для прачытання зборніка “Шал” дае эсэ “Пясняр самураяў”, напісанае да 100-годдзя японскага рэжысёра Акіры Курасавы, — твор, безумоўна, праграмны. У гэтым непрацяглым тэксце Станкевіч выкладае сваю інтэрпрэтацыю даробку вядомага японца, у прыватнасці, яго знакамітага фільма “Сем самураяў”, і робіць цікавыя падагульненні. Ці, дакладней, фармулюе крык душы (ва ўсіх цытатах аўтарскі сінтаксіс захаваны):

“Гісторыя нашай краіны X—XIX стагоддзяў не менш багатая за японскую, ангельскую або французскую. Сюжэты, адзін аднаго прыгажэйшыя, лічы, крыкам просяцца на экран. Але, па сутнасці, наша краіна ніколі не мела нацыянальнага кінематографа. Нацыянальна свядомыя прафесіяналы проста выцісkaліся з кінавытворчасці, і гэта працягваецца і цяпер (...) Чаго не хапае і ўвесь час бракуе кволаму беларускаму гістарычнаму кіно? Скажу адназначна: нацыянальнай ідэі”.

Творчасць Юрыя Станкевіча — гэта латэнтная кінематаграфія. Я не ведаю ўсіх фактаў біяграфіі Станкевіча, што змусілі яго напісаць працытаваную вышэй “дудку беларускую”, але нельга не адзначыць жывога інтарэсу пісьменніка да драматургіі і кіно, які знаходзіць увасабленне ў шматлікіх кінасцэнарах ды п’есах. Што праўда, нічога з гэтага нельга пабачыць ні ў кінатэатрах, ні проста ў тэатрах Беларусі.

Юры Станкевіч пастаўлены ва ўмовы, калі ён не мае іншага выйсця, як уплываць на масы праз літаратурныя тэксты. Хоцькі-няхоцькі яму даводзіцца прымкнуць да разнароднай і яўна варожай яму па духу групы, якая адзіная ў цяперашняй сацыяльна-культурнай сітуацыі ўбірае ў сябе ўсіх прыніжаных і адрынутых рэжымным афіцыёзам — беларускай незалежнай літаратуры. Бо пры сённяшняй уладзе да “Беларусьфільма” мэтра айчыннага нуару не падпусцяць і на стрэл гарматы з запаснікаў гэтага прадпрыемства.

Калі разглядаць творы Станкевіча як сырэц кінаіндустрыі, усё бачыцца зусім іначай. Тады сюжэт і антураж набываюць самакаштоўнасць, а няздольнасць аўтара складна пісаць, звіваючы вянкі з метафараў, адступае на задні план. У той жа час дыялогі ў Станкевіча — самы моцны бок твораў, іх стрыжань. Не здзіўлюся, калі Станкевіч працаваў або працуе пад псеўданімам на расійскую серыяльную індустрыю — рука ў яго, адчуваецца, набітая. Пісьменніку ўласцівае візуальнае, а не вербальнае мысленне — і гэта родніць яго з мастаком Артурам Клінавым, які, дарэчы, з большым поспехам інтэграваўся ў айчыннае кіно, спрычыніўшыся

да стужкі “Масакра” і, па чутках, стварыў раман “Шалом”, маючы на мэце яго экранізацыю.

Але літаратар Станкевіч або непрызнаны геній кінематографа, відавочна адно: сваёй місіяй гэты аўтар бачыць правую прапаганду. Прымітыўнасць ягоных (кіна) тэкстаў — рэч стратэгічная. Заўважная адданая праца пісьменніка на глебе нацыянальнай міфатворчасці. Яго мэта — супрацьпаставіць існым іконам маскульту, у прыватнасці “гэтаму педафілу” Майклу Джэксану і іншым “дураплясам”, беларускага нацыянальнага героя, гэткага капітана Амерыку.

## IV

Гліна з якой працуе Станкевіч, лепячы ўжо свайго Голема, — сумесь самых розных ідэалогій і эстэтык, блізкіх аўтару. Вы скажаце, гэта постмадэрнізм, але я скажу — гэта нью-эйдж. Паўлу Куэлью, а не Умберта Эка. Аўтар не іранізуе з папярэдніх тэкстаў, а спрабуе выкшталтаваць новую ісціну з добра забытых старых. Апроч пастулатаў беларускага нацыяналізму і кансерватыўна-хрысціянскіх каштоўнасцяў яго заўважна захапляюць акультны нацызм, італьянскі фашызм, пафас расійскіх фільмаў пра Афган і Чачню, галівудскіх — пра В’етнам і японскіх аўтарства Акіры Курасавы (як вядома, той стварыў свой міф пра самураяў, адаптаваўшы яго пад ментальнасць заходняй цывілізацыі). Аднак, лепячы свайго Голема, Станкевіч забываецца пра самае важнае: ажыўляецца гэтая няўклюдная махіна цыдулачкай з імем Божым. Вось гэтай Божай іскры — нейкага каліўца гуманізму, ці што — яўна бракуе яго вобразам. Магчыма, таму яны так і не ажываюць, забаўляючы нас сваёй штучнасцю.

Разгледзім Голема ў святле дня, хоць дзейнічае ён пераважна ноччу. Герой — прафесійны “выканаўца”, “праваднік”, “вартавы пераходу” — просты хлопец, навучаны мастацтву бою, пастаўлены лёсам да амбразуры. Вочы — шэрыя або блакітныя. Валасы — светлыя або русыя. Імя — беларускае. Характар — нардычны: наш герой стрыманы і нешматслоўны, што падкрэсліваецца атачэннем: людзі вакол яго вірують спрэс нервовыя, мітуслівыя, крыклівыя і “гістэрычныя” — самы часты негатыўны эпітэт, ужываны аўтарам. Цікава, што паводле вобразу і падабенства герояў Станкевіча злеплены нават сам Акіра Курасава: упартым намаганням рэжысёра дазняць геніяльную стужку “Сем самураяў” супрацьстаяць “гістэрычныя прадусары”, якім шкада грошай на такое фінансава стрэмнае прадпрыемства.

Герой аточаны сімваламі веры: вось ён шпацыруе на фоне былой уніяцкай царквы, вось камандзір партызанскага атраду асяняе яго знакам крыжа, бласлаўляючы на спецаперацыю. Па “легендзе” ў героя недзе “ў горадзе” ёсць жонка і дзіця. Герой, няхай і стаў на шлях ваўка-адзіночкі, сумленна дбае пра іх, здзяйсняючы рытуал “адсылання дадому грошай”. Гэта маральны і сумленны чалавек традыцыйных поглядаў, хрысціянскага веравызнання і гетэрасэксуальнай арыентацыі. Пацвердзіць апошняе (няхай гэта ідзе ўразрэз з першым і другім) і пакліканы Полавы Акт з баявой сяброўкай.

І сапраўды: няхай і да немагчымасці штучных, такіх тыпажоў беларускай культуры бракавала. Іншая рэч, што ў 2013 годзе яны мусілі б быць не новым словам, а кранальным перажыткам, якім і ёсць у сусветнай культуры.

## V

Тэматыка, праблематыка і “ідэйная скіраванасць” прозы Станкевіча таксама сведчыць пра яе кінагенічнасць. Так, “Пераход” апавядае пра пераацэнку каштоўнасцяў мужчыны пасля сарака і ўсю метафізіку, звязаную з гэтым станам душы. Прывёзшы з баявых аперацый у Азіі праказу, адстаўны вайсковец па просьбе

дактароў (!) выдаляецца падалей ад цывілізацыі — у зону адчужэння. На справе імавернага беларуса, хворага на лепру, паклалі б у тубдыспансер або інфекцыйную бальніцу, дзе створаныя ўмовы для ізаляцыі. Але нічога не паробіш, жанр: у халерным блоку не пастраляеш. У зоне герой сутыкаецца з рознымі маральнымі мутантамі (сацыялка: не толькі метафізічны, але і рэальны нелегальны памежны пераход; "жоўтыя" панавезлі ў сінявокую наркотыкаў) і паспяхова іх перамагае.

Загалоўная аповесць "Шал", на маю думку, — самая вострая ў кнізе. У чым прырода вар'яцтва і чаму людзі сёння як з ланцугу сарваліся? Сеанс экзарцызму ў Карэлічах і яго вынікі даюць падставы паразважаць: тоіцца ў чалавеку д'ябал ці гэта ўсё чалавечае, надта чалавечае?

Разынкі зборніка — кінасцэнар "Фалькона" і аповесць "Лавец святла поўні" — відаць, стануць прычынай сур'ёзнага скандалу вакол кнігі. Абодва тэксты прысвечаныя самым спрэчным аспектам Другой сусветнай вайны ў Беларусі.

## VI

Як вядома, ідэолагі афіцыйнай улады і беларускія нацыяналісты сышліся не на жывот, а на смерць, у калабаранцкім "халівары": для першых беларускія калабаранты падчас ВАВ — памагатыя нацызму без маральнага аблічча, якія ваявалі супраць уласнага народа. Для другіх — людзі высокіх ідэалаў, ідэйныя натхняльнікі і папярэднікі, якія скарыстоўвалі рэсурсы акупантаў, каб ціхай сапай займець у Беларусі свой урад, сваё войска і г.д. і такім чынам здабыць незалежнасць. Пачуваліся паміж Гітлерам і Сталіным як паміж Сцылай і Харыбдай і пасля 1944 года загінулі ў лесе або эмігравалі, што аднолькава складае трагедыю нацыі.

Юры Станкевіч — здаецца, адзіны сучасны аўтар, які імкнецца папулярызаваць другі, крамольны сёння вобраз беларускага руху за незалежнасць сродкамі маскульту. У гэтым ключы цікавая аповесць "Лавец святла поўні". Галоўны герой па мянушцы Сплюшка імаверна гіне ў 1950-х у Афрыцы падчас этнаграфічнай экспедыцыі, што вывучае плямёны канібалаў (парадаксальная талерантнасць, калі ўлічыць, што негры ў Станкевіча — крыніца большасці бедаў беларускага народа, але, відаць варта разглядаць гэта як уплыў эстэтыкі фашызму 1920-х з яго модай на Афрыку; таксама варта прыгадаць замілаванне Афрыкай пясняркі Гітлера Лені Рыфеншталь). Сплюшка выпраўляецца ў джунглі, бо мае досвед ляснога жыцця і яму няма чаго страчваць. Ён ужо страціў усё ў 1940-х — у балотах роднай Беларусі. Там яго партызанскі атрад апекаваўся мірнымі жыхарамі вёскі, вартуючы яе як ад савецкіх партызанаў, так і ад немцаў.

У гістарыяграфіі Другой сусветнай сапраўды ёсць згадкі пра такія "падшэфныя вёскі". Толькі, здаецца, вахту неслі атрады з сябраў КПЗБ — самыя што ні ёсць левыя. Але тут як з тымі летувісамі і Вялікім Княствам: міфатворчасць не вымагае гістарычнай праўды.

Адметна іншае: яўная алюзія на фільм Курасавы, дзе атрад самураяў вартуе вёску ад бандытаў. Дарэчы, камандзір прыдуманага Станкевічам атрада, беларускі нацыяналіст Ян Шэстак, ведае ўсходнія адзінаборствы. Гэта ён навучыў Сплюшку вытачыць з бляхі сюрыкены, якімі той, на манер ніндзя, бясшумна расправўляецца з ворагамі беларушчыны.

## VII

...Апавяданне "Гульня бронзавак у святле поўні" (1992) і аповесць "Шал" (2010) аддзяляюць 18 гадоў эпохі, якая ўжо займела найменне пераходнай. У творы 1992 года Станкевіч праводзіць нас па калідорах падсвядомасці жанчыны, якая цвёрда вырашыла пазбавіць сябе жыцця. Мы дазнаемся, што прывяло яе да такога рашэння, суперажываем яе траўмам і стратам і, хоць і з цяжкасцю,

прымаем яе выбар. Разам з гераіняй мы захапляемся кустом глогу, аблепленым зіхоткімі жукамі, — рэдкая прыродная з’ява, сімвал эпізадычнага шчасця, якое зазнала гераіня, дачка “ворага народа”, маці, якая страціла сына. У творы 2010 года гаворка таксама пра глыбіні падсвядомасці. Нас забаўляюць на эфектны сеанс выгнання д’ябла з апантанай. Але, здаецца, увесь пыл у вочы — толькі дзеля рэкламнай паўзы пасярод гэтага дзейства, калі аўтар укладае ў вусны праваслаўнага святара заклік пазбаўляць жыцця іншых: “бамбіць. (...) бамбіць усе опіумныя плантацыі, бо дэмакратыя — таксама хаос. вынішчаць злодзеяў. маньякаў. забойцаў. педафілаў”.

1990-я сталі для пісьменніка Юрыя Станкевіча відавочным пераходам. Я запрашаю чытача падумаць пра тое, што набыла (і што страціла) на гэтым пераходзе беларуская літаратура.

## Маргарыта Аляшкевіч

## Лара Крофт у полацкіх сутарэннях

***Людміла Рублеўская. Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега: раман прыгодніцкі і фантасмагарычны. — Мінск: Рэдакцыя газеты “Звязда”, 2012.***

У адным з эпізодаў скарбашукальніцкай сагі Лара Крофт адмаўляецца ехаць у Егіпет — там горача, пясок і галоўнае — усё вядома, піраміды гэтыя, ну-у-удна. І едзе ў Сібір — катацца на сабаках па замерзлым возеры і руйнаваць машыну часу. Гэх, не была ты, дзеванька, у Слуцку XVIII стагоддзя! Там і экзотыкі табе сармацкай пакаштаваць, і цмока жалезнага зваяваць, і ў бочцы з тухлым селядцом фрызуру папсаваць, і на тросах падвясных палётаць, ну і скарб рэдкі пашукаць — усяго ад Людмілы Рублеўскай дасталася б...

### Знайсці, каб страціць

Рэч Паспалітая напярэдадні падзелаў. Кароль дурэе з каханкамі, князі вядуць бясплённыя і крывавыя бойкі за ўладу. Сюжэт “Авантураў Пранціша Вырвіча...” круціцца вакол пошуку артэфакта, які дасць перавагу аднаму магнату над іншымі, прымусіць спыніць бойкі і аб’яднацца вакол уладара рэліквіі. Як водзіцца, заграбаць жар вялікія людзі будуць чужымі рукамі, дый чытачам зручней атаясамлівацца з людзьмі маленькімі, кшталту шкаляра ці валацужнага лекара, куды нам да Радзівілаў. Што там дакладна за артэфакт — неістотна нават на думку герояў, якія праз яго найболей пацерпяць: “Карона Вітаўта? Скрутак з прадказаннем святога Даўмонта, што каралём павінен стаць уладальнік герба такога ці гэткага? Святы Грааль..?” (с. 67). Так што шукаць будзем зноў дзіду, якая прабіла бок Госпада нашага Ісуса, калі той паміраў на крыжы: тут яна мянуецца рамфеяй, дзідай святога Маўрыкія, дзідай Отана, а вось у “Тэорыі змовы” Уладзіслава Ахроменкі фігуравала выключна як дзіда Лангіна. Як трапіў знакаміты наканечнік у нашыя абшары — гісторыя блытаная (хто хоча разбірацца — гл. с. 91 “Авантураў...”), але калі два сталыя аўтары незалежна адно ад аднаго прыйшлі да карыстання адной рэліквіяй з усяго багацця, якім так спрытна гандляваў экаўскі Баўдаліна, я вельмі спадзяюся, што недарма: напэўна, ляжыць тая дзіда ў роднай зямельцы, спрыяе літаратурным ураджаям.

Зрэшты, для сюжэту гэта неістотна. Нават калі б героям удалося адшукаць парэшткі самога Палямона, каб праз аналіз ДНК ці нейкім больш адпаведным XVIII стагоддзю спосабам спраўдзіць легенду пра паходжанне шляхты ад рымскіх патрыцыяў, нічога б з гэтага не выйшла. Па законах жанру, артэфакт можна толькі знайсці, але нельга ўтрымаць. А часцей за ўсё яго даводзіцца знішчыць,

каб не ў тыя рукі не трапіў — успомнім Індыяну Джонса, які ніводнага трафея да дому не данёс, ці Лару Крофт, ці “Скарбы нацыі”, ці “Дары смерці”, ці (менш тыповы выпадак) “Уладара пярсцёнкаў”.

А каб не закарцела яшчэ камусьці ў тым самым месцы корпацца, скарбашукальнікі пакідаюць у разрабаванай святыні неймаверны гармідар. Вось і тут: знайшлі знакамітую полацкую бібліятэку — і са смакам кідаліся яе каштоўнымі экспанатамі (у гэтым эпізодзе яскрава бачна, што Людміла Рублеўская — аўтар постмадэрнай эпохі, якая жанглюе — ці, у дадзеным выпадку, шпурляецца — набыткамі папярэдніх эпох і заўжды аглядае саму сябе: “...Вырвіч не мог стрымаць усмешкі, калі падумаў, якую кашчунную карціну пабачаць іхнія наступнікі — скарбашукальнікі ў пакоі мудрасці, які яны сёння так раскалашмацілі”, с. 250). Дзіда ў выніку застаецца на месцы — у полацкай зямлі, у недасяжнасці заваленых выбухам лёхаў.

## Куды свет коціцца

Захапляльныя сродкі ў прозе Людмілы Рублеўскай і ў галівудскіх кінаквэстах падобныя, а мэты розняцца. З кніжкай, канечне, можна прыемна прабавіць вечар (чытаецца, дарэчы, надзвычай лёгка), а вось замест шалёных касавых збораў вытворцу-аўтару трэба спадзявацца на такія няўлоўныя рэчы, як умацаванне годнасці цэлай нацыі, хай сабе невялікай. Не дзіва, што адна з ліній твора — выхаваўчая. Дыдактычная выгіністая шабля ваюе за роўнасць людзей незалежна ад багацця, паходжання, нацыянальнай і полавай прыналежнасці. Сын збяднелага шляхціца, “шарачка”, Пранціш Вырвіч прымярае скуру д’Артаньяна — марыць узначальваць войскі, а ў самога нават зброі няма: фамільную, з гербам Гіпацэнтаўрам, давялося кінуць у інтэрнаце езуіцкага калегіюма ў час “тэрміновай рэтырацыі” — паспешлівых уцёкаў.

Абражаць гонар шляхціца Вырвіч, аднак, і без шаблі не дасць, праз што перыядычна дастае кпінаў ад свайго раба і настаўніка Бутрыма Лёдніка. Размеркаванне роляў настаўнік — вучань неадназначнае: вучоны муж сапраўды выкладае “дурному хлапчыску” розныя навукі, у тым ліку фехтаванне, правільнае нямецкае вымаўленне і майстэрства валодаць сабой, спрабуе пазбавіць вучня саслоўных забабонаў — але ж і сам атрымлівае ўрок: спярша ад лёсу, які карае доктара за ганарыстасць (пошукі філасофскага каменя спляжылі Бутрыму 10 гадоў жыцця, каштавалі яму ўсёй маёмасці і асабістай волі), затым ад уласнага вучня, які вызваляе алхіміка з інтэлігенцкай пасткі (загубіў жыццё прыўкраснай дзяўчыны — дык ратуй хуценька, а не займайся самаедствам), а потым і ад каханай, якая на практыцы даводзіць, што каханне нашмат лепшае ад філасофскага каменя — і здабыць рэальней, і ў золата ператварае ўсё, а не толькі металы ды вуголле.

Шматкроць падкрэсленае мяшчанскае паходжанне Бутрыма не адбірае ў яго постаці высакародства, але асноўны ўдар па шляхецкім самалюбстве загорнуты ў жаноцкасць: Саламея Рэніч, дачка кніжнага гандляра, глядзіцца істотай з лепшага свету, так што Вырвіч перажывае культурны шок, калі атаясамлівае нарэшце чароўны вобраз Сільфіды-Саламеі з “цёткай-купчыхай” Бутрымавых аповедаў. Саламея — не проста цёзка Русецкай-Пільштыновай, але ж і калега, лекарка, “мужабаба”, якая адной сваёй вучонасцю правакуе мужчын на воклічы кшталту “Куды свет коціцца!” і абяцанні адхвастаць паненку па мяккім месцы за наведванне навучальных установаў у мужчынскіх строях. Яна і праваднiца па лабірынце, “Арыядна, якая без дапамогі Тэзея заваліла Мінатаўра” (с. 249). Яшчэ адна змагарка за роўнасць полаў — Паланэя Багінская, ваеводзянка, якая і на шаблях б’ецца, і ў авантуры з радасцю пускаецца не горш ад Пранціша, і ўваход у лабірынт удзвюх з Саламеяй завальвае, пакуль мужыкі зброяй бразгаюць.

## Аблезлы собаль з дыяментавым гузам

Найбольшая каштоўнасць твора, як на мяне, — у каларытных дэталях эпохі, адноўленых аўтарам са скрупулёзнасцю архівазнаўцы і рассыпаных па тэксце са шчодрасцю эмісара ААН сярод галодных дзетак Афрыкі. Апратка розных слаёў грамадства, а ў магнатаў — яшчэ і розных модаў (сармацкай і еўрапейскай), з тонкасцямі кшталту мовы мушак з тафты (с. 39), ежа — ад простай карчомскай (свіныя скабкі з капустай, клёцкі ў смятане) да мудрагелістай княжацкай (“Шчупакі, з галавы адвараныя, у сярэдзіне запечаныя, з хваста засмажаныя... Парсючкі з прыстаўленымі крыламі...”, с. 104), забавы, зноў жа саслоўна арыентаваныя: камусьці скрыпка з басэтляй ды сляпым спеваком, камусьці шкалярскі тэатрык, а Радзівілам — цэлыя аркестры ды яшчэ з тэатрам прыгонным, дзе актораў вучаць муштрай і пабоямі. Складанае перапляценне вераванняў — калі перад ежай чалавек па-хрысціянску жагнаецца, а потым сам крыжам кладзецца перад печкай, каб ушанаваць паганскага духа ачага Сопуха. Ці, як Пранціш, шануе праваслаўных святых, асабліва свайго апекуна, але ж і ў лесуна верыць, і ў магію, і ў розныя падазроныя рэцэпты (Як прысушыць кабету? Хлопцы, насіце пры сабе мяса маладога жарабяці, высушанае ў новым паліваным гаршчку, ці валасы з канца воўчага хваста, а можна падсыпаць дзеўкам парашок, зроблены з уласнай крыві, выпушчанай у пятніцу, змяшанай з заечымі ядрамі і вантробай галубіцы). Цікавыя дробязі тагачаснага побыту — казліны лой, якім просты люд намазваецца ад паразітаў, салома ў ботах замест цёплых шкарпэтак, сеннікі для сну, ласёвыя рукавіцы ў “афіцыянтаў” Радзівіла, лекі аптэкара Лейбы, метады навучання, якім пазайздросцілі б усе маладыя выкладчыкі падчас сёмай пераздачы (Што, не вывучыў? А на асліную лаўку, скураной дысцыпліны пакаштуеш! З першага разу ўсе залікі здавалі б!), апісанні архітэктуры і ўбранства пакояў...

І гэта ўсё недзе паміж радкамі, неакцэнтавана, спакваля ўздзейнічае, у адрозненне ад крыху знарочыстых, як на мой густ, апісанняў шляхецкай хваробы Вырвіча і яе лекавання Лёднікам. Хаця й забаўна чытаць пра Данілу Вырвіча, які на поле гной вазіў, уваткнуўшы туды шаблю — калі шляхціц пры шаблі, то няма абразы гонару... але пасля “Пінскай шляхты” ці прыгодаў паноў Кубліцкага ды Заблоцкага неяк не прабірае. Зрэшты, мо не ўсе з падлеткаў, якім, відавочна, адрасаваная кніга, помняць тую “Пінскую шляхту”.

Што да пазнавальнай каштоўнасці, якую нясе апісанне ўнутрыпалітычных гульняў магнатаў, то яе памяншае, як ні дзіўна, аўтарская добрасумленнасць — надта ўжо многа князёў ды іншых персанажаў гісторыя ў адным дзесяцігоддзі намяшала, вось і ў кнізе невялічкі перагруз: адных Радзівілаў чатыры штукі (Марцін Шалёны, Геранім Жорсткі, Караль Пане Каханку, Казімір Рыбанька), а яшчэ Міхал Багінскі з шасцю амбітнымі сястрыцамі, Аляксандр Сапега — і гэта толькі тыя, хто бярэ непасрэдны ўдзел у аперацыі з дзідай, таму атрымлівае вонкавы і псіхалагічны партрэт рознай ступені дэталізацыі. Ёсць і яркія эпізадычныя персанажы, зноў жа ад шчодрасці душэўнай аўтарам у тэкст панасыпаныя — таленавітыя прыгонныя, зух Валадковіч, гад Юдыцкі, карыкатурны рэктар езуіцкага калегіюма, шкаляр-паэт Вараня і шкаляр-гулец Міцкевіч, немец-вынаходнік і яго практычная жонка, прывіды Нямігі... А недзе за кадрам дзейнічаюць дзве расійскія царыцы — наяўная і будучая, два польскія каралі — паўнамоцны Сас (яшчэ і з фаварытамі, да якіх спрабуе “падлабуніцца” Сапега) і патэнцыйны Панятоўскі, іншыя магнаты — Чартарыйскія і Пацы... Карацей, без паўбочкі брагі не разбярэшся.

Але калі са шкляным богам пасябруеш і ладу з гістарычнымі рэаліямі дойдзеш, дык гонару за радзіму набярэшся: гэта ж у нас, тут во, у Слуцку, Полацку, Менску і Чарнаўчыцы такое адбывалася! Хоць сядлай дрыкганта і па слядах скачы.

## Танк на гістарычным бездарожжы

Стыль "Авантураў...", просты і эфектыўны, нагадвае хутчэй не жалезную чарапаху, непаваротлівую баявую машыну на непрактычным вадзяным рухавіку, а сучасны танк з усёй належнай тэхнікай і камуфляжам. У якасці апошняга — велягурыстая фраза, абяцаная аўтаркай у прадмове (праўда, на сінтаксічныя завітушкі неўзабаве перастаеш зважаць — прызвычайваешся, дый тэмп аповеду нарастае), цытаты з гістарычных дакументаў і моўныя выкапні кшталту "амаратаў", амарантавага колеру і іншых (далёка не ўсе з іх трапілі ў слоўнічак, змешчаны пры канцы кнігі).

Што да тэхнічнага боку, дык хіба некалькі дробных прычэпак. Напрыклад, падаецца непераканаўчай матывацыя Сапегі, які бярэ і расказвае двум падазроным, уночы перахопленым асобам, Лёдніку і Вырвічу, усю праўду-матку пра дзіду — а сам жа скардзіўся непасрэдна перад тым, што зямля "нашпігаваная шпегамі, як шынка часныкам" (с. 88). Страчвае палову чароўнасці бездань лабірынту, калі з яе гэтак лёгка выцерабіўся Герман Ватман (на яго карысць хіба тое, што ён — супергерой, волат, Партос і барон Пампа ў адной асобе). І навошта быў клубок Арыядны, калі, спаліўшы яго, героі лёгка выбраліся на паверхню? Незразумела таксама, чаму героі самі сабе тлумачаць лацінскія выразы. Ясна, трэба было паказаць шматмоўнасць тагачаснага грамадства, у якім кухонная лаціна гучала, бадай, гэтак жа часта, як сёння нецэнзуршчына, і не спалохаць чытача. Але ж можна было пазначыць лацінскія выразы зорачкай і даць пераклады ўнізе старонкі, каб не выстаўляць герояў дзівакамі. Гэта, паўторымся, драбяза, збольшага ўсе ніткі звязаныя, усе развешаныя стрэльбы бабахаюць у час: прыцягнулі жалезную чарапаху ў палац Радзівіла — на ёй і далі драла, паабяцала ваеводзянка Паланэйка пацалунак шляхціцу Вырвічу — дык і цалуе, паголены Лёднік па нямецкай модзе — вось вам і сцэна галення з медным тазікам; нават слоік з алхімічным золатам дарма не прападае.

Наш дасканалы танк мае канкрэтнае прызначэнне і пэўныя магчымасці, абумоўленыя канструкцыяй. Страляе прамой наводкай (асабліва гэта бачна на ўзроўні параўнанняў, якімі багаты тэкст і большасць з якіх будзе цягнуць на сабе каларыт эпохі, быццам яго без таго мала: сядзець трэба ціха, "як смажаны фазан у пірагу" (с. 37), язычок карчмаркі стане востры, "як шабля каралеўскага ўлана" (с. 29), радня слабахарактарнага князя ў палітыку пхне, "як смаргонскага мядзведзя на кірмашовы пляц" (с. 39) — і лірычных адступленняў пра родную пакутную зямельку, якая ад усіх захопнікаў цярпіць). Станоўчым героям дазваляецца мець недахопы: у Пранціша — яго шляхецкая фанабэрыя, у Бутрыма — самаедства, у Саламеі — вучонасць, у Паланэйкі — кірпаты носік і круцельства, у Ватмана — прынцыповае выкананне княскага даручэння без увагі на яго сумленнасць.

З гэткім пікантным соўсам лепей заходзіць гамбургер з мужнасці, высакародства, зухаватасці/з'едлівасці, куртуазнасці, патрыятызму і іншых карысных для моладзі інгрэдыентаў. Прыгоды ваяўнічыя стратэгічна чаргуюцца з амурнымі, сур'ёзныя эпізоды — з камічнымі, а дабро непазбежна перамагае. Але ў межах, самой сабе пастаўленых, аўтарка сваволіць і гарэзуе: так, героі не могуць адыходзіць па патрэбе (такое з рыцарам удалося правярнуць хіба Сервантэсу, дык ён і цэліў у стэрэатыпы рыцарскага рамана, дзе рыцары нібы маюць толькі верхнюю, чыстую, частку тулава), затое могуць зважаць на дробных крывасмокаў у палацавых ложках ці пакутаваць на хваробу нырак — прыемныя зніжэнні стылю трапляюцца якраз тады, калі робіцца занадта саладжава. Што да хэпі-энду — чакайце калоць сабе інсулін. Так, у Вырвіча ўсё складваецца з прыўкраснай ваеводзянкай, Лёднік стаў двойчы шляхціцам і ажаніўся з любай, рэліквія ўнікла злоўжывання, гетмана літоўскага выратавалі, расейцаў прагналі — але згадаем, што далей падрыхтавала беларусам-ліцвінам гісторыя, і падзякуем пісьменніцкай фантазіі за пазітыў ды аптымістычныя перастварэнні.

Генрых Далідовіч



...у 1995-м, пасля ўсяго некалькіх гадоў
свежага напаўнення лёгкіх,
атмасферу пачаў ужо ахалоджваць скразняк,
які пацягнуў за сабою сцюдзёнасць...

# Звязоўныя паралелі гісторыі.

***Штрыхі да творчасці Алеся Пашкевіча***

***Алесь Пашкевіч заслугоўвае ўвагі і гаворкі як паэт, раманіст і эсэіст, як аўтар літаратурнай манаграфіі “Зваротныя дарогі. Проза беларускай эміграцыі ХХ стагоддзя” – першы ў нас і, галоўнае, аб’ектыўны аналіз створанага з 1918-га па 1990-я гады беларускімі празаікамі за мяжой на гістарычныя тэмы, а таксама і ў мемуарна-аўтабіяграфічным жанры, у галіне гумару і сатыры. Гэтае даследаванне дапамагае больш акрэслена ўявіць панараму беларускай літаратуры ХХ ст. як, зазначае сам аўтар, “цэласны гісторыка-культурны перыяд”.***

***Напісанне твораў, заснаваных на вывучэнні мноства і часамі цяжка даступных крыніц, патрабуе шмат намаганняў і высілкаў. Але калі напружаная праца завяршаецца навізной, яркасцю, то аўтара чакае заслужаны поспех. І А. Пашкевіч ужо дасягнуў яго. Як прызнанне – розныя міжнародныя прэміі, у тым ліку імя і таго, хто адзін за многіх даследаваў архівы і бібліятэкі, ажывіў з іх тое, што чакала свайго часу, – узнагарода імя пісьменніка В. Пікуля.***

***Лічу: творчасць А. Пашкевіча, заснаваная на дакументах, па-свойму папаўняе плынь нашае гістарычнае прозы сваёй паўнацэннай, высокаінтэлектуальнай ручаінай.***

## “Пляц Волі”

Амаль за 30 гадоў працы ў літчасопісах мне неаднаразова даводзілася мець справу з творамі, заснаванымі на дакуменце. Прызнаюся: у “Полымі” з імі меў мароку. Тады адзін выкладчык БДУ, у прынцыпе добры і прыдатны да пяра чалавек, па пэўных прычынах загарэўся да кожнага, нават з набаўкай 5 гадоў, юбілею Леніна прыносіць у рэдакцыю новую і ў чарговы раз жвачную дакументальную аповесць пра яго. Адмаўляць у публікацыі такога асцерагаліся, але чамусьці галоўны даручаў мне браць твор пад паху, ісці ў бібліятэку, браць там Збор ленінскіх твораў на беларускай мове і перапраўляць цытаты. Каб супадала літарка да літаркі, коска да коскі. Калі ж перакладу таго-сяго не было, то пасылалі ў Інстытут мовазнаўства, каб там пераклалі тыя вучоныя, якія “карыстаюцца даверам”. Ды, як кажуць, не бывае ліха без дабра: змушанае глыбейшае знаёмства з творамі правадыра паспрыяла мне падабраць там два эпіграфы для двух будучых маіх раманаў пра ўтварэнне БНР і БССР. Скажыце: хіба і цяпер можна адмовіцца ад такога ленінскага: “Ніхто не вінаваты ў тым, калі ён нарадзіўся рабом; але раб, які не толькі цураецца імкненняў да сваёй свабоды, але апраўдвае і прыхарошвае сваё рабства (...), такі раб ёсць халуй і хам, які выклікае законнае пачуццё абурэння, пагарды і агіды?!”. Канечне, адна справа – словы, зусім іншая – дзеянні, так званая двайная-трайная мараль. Ды яшчэ з тэзісу “революционной необходимости”. Па ёй і цяпер можна парушаць нават Канстытуцыю і падаваць гэта як дабрадзейства...

У “Маладосці” зведаў іншае. Перажыванне разам з Ул. Калеснікам, калі яму Інстытут гісторыі партыі, галоўліт не дазволілі ў дакументальна-мастацкай аповесці надрукаваць нямала чаго праўдзівага і трагічнага з быцця рэвалюцыянера Заходняй Беларусі А. Альшэўскага, які ацалеў у польскай турме, але якога пазбавілі жыцця ў СССР. Узрушэнне, калі А. Лойка прапанаваў рукапіс з асэнсаваннем шчаслівага і заадно гораснага лёсу Янкі Купалы. Тады аўтар яшчэ не мог падкрэсліць побач з узвышэннем паэта ў савецкі час і тайных здзекаў з яго (асабліва спецапрычнiны, што падпарадкоўвалася толькі цэнтру), глыбіні ягоных розных бядот, часамі жудаснай беспатольнасці як чалавека і геніяльнага творцы. Магчыма, аўтар часамі і празмерна захапляўся рознымі “лірычнымі адступленнямі”, але было ўжо не хрэстаматыйнае, не глянцаванае ўспрыняцце Асобы, слова якога ў творчым саюзе са словам Якуба Коласа і Максіма Багдановіча ўзвысіла беларускую паэзію як вялікі дар сярод дароў іншых народаў, а гэтым асвяціла яе неўміручасцю (выбачайце за нясціпласць: ужыць жанравае вызначэнне “раман-эсэ” Алегу Антонавічу параіў я).

На маю думку, зусім незаслужана замоўчваецца ў свой час апублікаваны ў “Маладосці” (са скарачэннем), а пасля выдадзены асобнай кнігай раман-даследаванне “Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча” Я. Міклашэўскага, які не столькі як літаратуразнаўца, але і як даследчык генетычных каранёў паэта ўспамінаў пра яго бацьку, сяброў і знаёмых, згадваў малавядомыя архіўныя матэрыялы, а таксама як паэт і, між іншым, як халасцяк па-свойму пранік у пэўную загадку Багдановічаўскага феномену.

І вось на пераломе стагоддзяў на маім рабочым стале – новы рукапіс, раман-дакумент. Маладога чалавека, якому яшчэ няма і 30-ці, паэта. Некалі ўкаранаваны ўжо пры жыцці Л. Талстой, беручыся чытаць твор невядомага аўтара, сам сабе задаваў пытанне: ну, што ты, яшчэ адзін, хто хоча быць пісьменнікам, мне новае скажаш? Але гэта, бывала, уводзіла ў зман і генія: ён хваліў, ставіў у прыклад цікавы яму матэрыялам твор, ды аўтар не станавіўся значным пісьменнікам. А вось іншыя, каго недаацэньваў альбо замоўчваў, набіралі творчую моц, Ф. Дастаеўскі стаў яго пашанотным супернікам. У нашым выпадку твор зацікавіў і навізной, і новым асэнсаваннем раней вядомага толькі павярхоўна. Найперш — Слуцкага паўстання. Не проста пра адну з “белых плям”, а пра найтрагічную старонку нашай гісторыі. Гэтая старонка датычная з’явы і стваральнікаў БНР (а то і БССР), да

слуцкіх паўстанцаў, якія зведалі помсту, па "рэвалюцыйнай неабходнасці" расправу па гарачых слядах, пасля нібы ўжо законныя перасследы праз суд (у асобных выпадках яшчэ стрыманы), у 1930-я – павальную зачыстку нават па савецкіх мерках невінаватых (але ёсць думная асоба – будзе і справа на яго; "дурняў" мы не чапаем"), фармальныя прысуды дзеля расстрэлаў. Дзеля апошняга і для ашукі люду ў 1931-м сярод іншага была выдадзена брашура "Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі", і пастулаты-заклёпкі з яе не надта змяніліся і па сённяшні дзень. На іх савецкія ідэолагі, многія беларускія гісторыкі, спаборнічаючы ў абвінавачаннях, выпальвалі сваім няшчадным кляймом пра вышэйнагаданае: "марыянетачная дзяржава", "эсэра-нацыяналістычны мяцеж", "з дапамогай акупантаў рада з эсэраў, бел. нацыяналістаў, рус. белагвардзейцаў, балахоўцаў, кулакоў, шляхты" – адным словам, ворагі савецкай улады (ацэнкі з БелСЭ, т. 9; зрэшты, свая праўда: яны разабраліся ў той уладзе і не ўхвалілі яе метады і замаскаваныя мэты). Толькі ў перабудову пачуліся галасы, каб адвесці ману і паклёпы, даць таму належную ацэнку, што даўно ўжо было зроблена нашымі землякамі за мяжой (у прыватнасці, у даследаванні Я. Найдзюка і І. Касяка "Беларусь учора і сяньня", якое ў 1993-м пабачыла свет і ў Мінску). Дзеля ўстанаўлення ісціны па слуцкім паўстанні была створаная спецкамісія, куды ўвайшоў і ўраджэнец Случчыны, пісьменнік А. Жук. Ён, новы погляд, прагучаў дзякуючы намаганням пісьменніка, галоўнага рэдактара энцыклапедычнага даведніка "Беларусь" Барыса Сачанкі. На жаль, ён заўчасна памёр, не пабачыў таго даведніка, што выйшаў як пераадольванне ранейшых бясконцых фальсіфікацый па ўсёй нашай гісторыі.

У даведніку было праўдзівае тлумачэнне: "Прычынамі пачатку паўстання былі незадаволенасць сялян харчразвёрсткай і нацыянальнай палітыкай сав. улады на Беларусі". Ды ў 1995-м, пасля ўсяго некалькіх гадоў свежага напаўнення лёгкіх, атмасферу пачаў ужо ахалоджваць скразняк, які пацягнуў за сабою сцюдзёнасць. Цэнзура нібы не аднаўлялася, але на нарадах у міністэрстве інфармацыі нас, галоўрэдаў літвыданняў, пачалі тузаць розныя ідэалагічныя аглядальнікі сапшэлай закваскі, выцягваць на свет Божы догмы, ярлыкі не толькі з савецкіх, але і з царскіх часоў (напрыклад, імперскія славянафільскія канцэпцыі). Але цяпер, паводле гэтых ідэолагаў, цэнтр агульнаславянства чамусьці павінен быць у... Мінску! Тут яны, льючы слёзы пра ўсё славянства (Цікава: хто іх пра гэта прасіў? Узвышаць ідэю славянства – ці не пэўны расавы перакос?), але са славянства свядома ігнаруючы беларускае, у 1997-м утварылі так званы Сусветны славянскі кангрэс, а ганаровым прэзідэнтам абралі таго, хто мог быць абраны менавіта ў Мінску і чые амбіцыі сягалі далей беларускіх інтарэсаў, але ў ідэалогіі не вышэй "западноруссизма".

І вось – няпросты "слуцкі" раман-дакумент "Пляц Волі" Алеся Пашкевіча. Адразу было зразумела: за публікацыю яго, не маючы вывадаў спецкамісіі, нападзе назірач. Ды як можна было не паспрыяць надрукаванню новага слова пра пагінулых і абылганых? Тым больш, што не было суцэльнага ўхвалення, падкрэсліваліся ж і асобныя спрэчныя моманты, што, натуральна, уласцівыя для пераломных часоў, да ходу падзей, якія могуць мець і непрадбачаны накірунак.

Пачатковец у раманістыцы, Пашкевіч ужыў прыём, асабліва любімы Ф. Дастаеўскім, а таксама ўжо апрабаваны і ў беларускай прозе, – кніга ў кнізе. Значыць, два планы (тут я разглядаю не часопісную публікацыю, а выданне твора кнігаю ў 2001-м). Першы план – сучаснасць, другі – асобныя слуцкія паслярэвалюцыйныя працэсы. Зразумела, нялёгка для дэбютанта з'яднаць гэта ў адну карціну. Тым больш, што другая частка твора пабудаваная крыху інакш, чым першая, і пры гэтым пажаданыя ці абавязковыя для рамана сюжэт і кампазіцыя, развіццё ліній галоўных і "падсобных" герояў маюць умоўны характар, а мова, структура не зусім менавіта раманныя, эпічныя. І да ўсяго пераважае не паказ, а пераказ. У гэтай сувязі трэба было знайсці такі сродак, што яднаў бы часавыя адрэзкі, у

добрым сэнсе белетрыстыку з рознымі ўстаўкамі-дакументамі, тэму і ідэю. І, лічу, нявопытны яшчэ Пашкевіч-празаік у асноўным справіўся з багатым матэрыялам як даследчык і пісьменнік. У значнай ступені праз галоўнага героя, які сённяшняе бачыць, а былое ўспамінае і падае яго нам праз сваю прызму і ў духоўнай сувязі жыццёвых і чалавечых каштоўнасцей (асабліва праз патрыятызм), што дарагое, высакародзіць адных, не па нощцы іншым і варожае той сіле, што агрэсіўнае супраць нацыянальнай свядомасці і намагаецца падмяніць яе адваротнымі, разбуральнымі для асобы, для народа паняццямі.

Галоўны герой Алесь Ваяр (як некаторыя іншыя, не мае на руках чалавечай крыві, але ўсё роўна ацалеў толькі таму, што ў свой час пакінуў Бацькаўшчыну) па аб’яўленні ў 1991-м незалежнасці Рэспублікі Беларусь мае магчымасць пасля доўгай эміграцыі наведаць родны кут. Ён, случак, у маладосці адбыўся як асоба на радзіме, часта наведваўся ў недалёкі Менск, дык у яго вынашанай памяці яркія тагачасныя падзеі, што ўзбурліліся пасля рэвалюцый 1917-га і ў нашым краі. На фоне агульнарасійскіх, менскіх тады ў Слуцку да іх па-свойму спрычыніліся гімназісты (гімназія – адна са старэйшых на Беларусі, заснаваная ў 1617-м годзе), наладзіўшы асветна-культурнае таварыства. Дарэчы, “буржуазныя нацыяналісты” тыпу Ваяра адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі разгортвалі нацыянальны рух на нашай зямлі зусім са сціплымі намерамі, многія з іх жадалі для Беларусі не больш аўтаноміі. Але жыццёвыя абставіны, барацьба чужых сілаў за авалодванне Беларуссю спарадзілі і большае: мясцовы грамадска-палітычны рух, патрабаванне права на годнасць гаспадара ў сваёй гаспадарцы, а ўрэшце ўжо і ўзброенае змаганне за гаспадарства на сваёй зямлі. З сакавіка 1917-га ў Слуцку ўзнікае Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў і часамі супрацьстаіць Часоваму ўраду (той улетку 1917-га адмовіў Беларускаму нацыянальнаму камітэту з цэнтрам у Мінску прызнаць Беларусь хоць бы аўтаноміяй у складзе дэмакратычнай Расіі), 26 кастрычніка аб’яўляецца Савецкая ўлада. А. Ваяр ведаў: як у Слуцку, так і ў Мінску ў структурах яе наезджы, яшчэ нядаўна глыбока канспіратыўны, а цяпер бойкі люд (некаторыя, як Фрунзэ, яшчэ да рэвалюцыі 1905-га прайшлі школу стварэння сілы баевікоў і Саветаў, а цяпер выбралі Мінск як плацдарм для нядопуску войск Заходняга фронту на задушэнне рэвалюцыі ў Петраградзе і развалу расійскай арміі як такой). Бальшавікі былі апантаныя глабальнымі намерамі (рэвалюцыя, а за ёю і іхняя ўлада ва ўсім свеце). Яны ніколечкі, як і звергнуты Часовы ўрад, таксама не прызнавалі Беларусь хоць бы як аўтаномную, а да ўсяго самым нахабным чынам ганьбілі беларускую мову, цкавалі нацыянальных дзеячаў. У снежні 1917-га бальшавікі ў Мінску (ясна: з ухвалы цэнтра) сілай, гвалтам разганяюць дазволены савецкім урадам Усебеларускі кангрэс. Такім чынам, дэкларацыя пра самавызначэнне народаў былой царскай Расіі была бальшавіцкім двудушным падманам. А. Ваяр быў сведкам прыходу ў лютым 1918-га ў Слуцк легіянераў Доўбар-Мусніцкага, а потым – немцаў. Апошнія дазволілі 25 сакавіка ў Менску аб’явіць адасобленую ад Савецкай Расіі БНР. Не без карысці. Са спадзевам, што новая ўлада будзе спрыяць забеспячэнню іхняй арміі (зварот некаторых дзеячаў у Берлін прызнаць БНР і аказаць ёй помач насуперак Савецкай Расіі раскалоў урад. Пасля гэта дасць падставу савецкім ідэолагам абвінавачваць падпісантаў звароту “ў спробе адарваць беларусаў ад братняга рускага народа” і г. д. І пры гэтым нават не заікаліся, што бальшавікі мелі не толькі тайныя гешэфты з германскімі ўрадам і арміяй. Спачатку атрымлівалі, а потым сплачвалі, у галодны час гналі ў Германію вагоны золата. У сувязі з гэтым Пашкевіч таксама змяшчае адпаведны, выяўлены толькі ў перабудову дакумент). У снежні вяртанне савецкай улады, у студзені – стварэнне БССР. Але 1919-1920-я не прынеслі ні міру, ні ладу. З-за савецка-польскай вайны і яе неаднаразовых змяняльных наступстваў. Ваюючыя бакі ўсімі спосабамі здабывалі сабе перамогу і на беларускі люд глядзелі найперш як на тых, каго можна словам і вінтоўкай загнаць у свае шэрагі, а іх сем’і абабраць да ніткі, а ўрэшце падуладзіць.

А. Ваяр успамінае, што і як для падняцця свядомасці і духу ў гэты ліхі час рабілася ў Менску Я. Купалам, А. Гаруном, Ус. Ігнатоўскім, Я. Лёсікам і іншымі (бацькі БНР мусілі падацца ў эміграцыю, падзяліліся на два ўрады), як пад націскам беларусаў-бальшавікоў, бежанцаў (а іх па Расіі было мо і больш мільёна) ленінскі ўрад, сціскаючы зубы, даў дазвол на ўтварэнне Савецкай Беларусі, як потым у Менску Ю. Пілсудскі, выступаючы на беларускай мове, абяцаў беларусам пашанотныя правы ў новай польскай дзяржаве: “Мы ваюем за нашу і вашу волю”. Уражліва напісаныя старонкі, дзе расказ пра гнятлівы настрой Я. Купалы пры навіне, што ў кастрычніку 1920-га ў Рызе збіраюцца савецкая і польская дэлегацыя, якія будуць выпрацоўваць умовы міру паміж краінамі. Паэта з вялікай нацыянальнай душой не магло не прыгнесці махлярства: да ўдзелу ў перамовах Масква не дапусціла беларускую дэлегацыю, а Варшава не настойвала на гэтым, хоць на той час савецка-польскі фронт праходзіў і на беларускай зямлі. Больш – былі чуткі, што савецкі ўрад адкупіцца часткай тэрыторыі Беларусі, якая цяпер будзе ажно... з 6 паветаў Мінскай губерні! Так і выйшла ў сакавіку 1921-га...

Калі іншыя паветы з сённяшніх Гомельскай, Віцебскай і Магілёўскай абласцей, што тады па здрадзе мяснікоўцаў былі перададзеныя Савецкай Расіі (Віленшчына была саступленая па іншых разліках), у многім змірыліся з доляй, якая выпала яшчэ ў XVIII ст., то гордыя случакі, помнячы, што яны былі княствам з 1160 года, мелі мудрых гаспадароў у асобах Алелькавічаў, якія вялі свой род яшчэ ад Гедзімінавічаў (аднаму з іх стала жонкай Вітаўтава ўнучка) і Радзівілаў, былі высокаразвітыя ў навуцы і культуры, а пры патрэбе рашуча выступалі ў сваю абарону. Менавіта ў Слуцку ў 1767-м была абвешчана канфедэрацыя праваслаўнай шляхты ўсяго ВКЛ за ўраўненне правоў з каталіцкай. Мо і з тых часоў пайшло славутае выслоўе: “У Слуцку ўсё па-людску”. Між іншым, тады было спадзяванне на шчырую помач праваслаўным ад Кацярыны II. Тая “памагла”. Па-свойму... Урэшце да падзелаў Рэчы Паспалітай Слуцкае княства займала, нават па прызнанні БелСЭ, унікальнае, у многім аўтаномнае становішча ў ВКЛ. Дык вось случакі не проста абурыліся. А. Ваяр нагадвае, як ад культурна-асветнай работы (наладжванне настаўніцкіх курсаў для паглыбленага вывучэння беларускай мовы, гісторыі і культуры) слуцкія нацыянальныя дзеячы ва ўмовах польскай акупацыі пачалі гуртавацца арганізацыйна, зямляцкія інтарэсы суадносіць з агульнабеларускімі. Пасля рыжскай змовы, адступаючы за дамоўленую лінію, польскае камандаванне перадала цывільную ўладу Нацыянальнаму камітэту на чале з эсэрам, былым дэлегатам ад вайскоўцаў-беларусаў на Румынскім фронце на Усебеларускім кангрэсе 1917 года П. Жаўрыдам. Каб узаконіць гэтую ўладу, быў хутка праведзены з’езд Случчыны, які, пераадолеўшы спрэчкі, прызнаў яе часткай БНР, абраў Раду на чале з былым выпускніком Маскоўскага ўніверсітэта Ул. Пракулевічам, прызнаў савецкую ўладу “чужацкай” і пастанавіў фармаваць вайсковыя падраздзяленні для нядопуску Чырвонай арміі, якая пакуль што, падчышчаючы сялянскія сялібы, марудна плялалася ўслед за таксама марудліва адыходнай польскай. Для змагання патрэбны былі сродкі, зброя. Тэрмінова пачалі шукаць іх у генерала С. Булак-Балаховіча, пакручасты лёс якога ад Врангеля, ад Чырвонай арміі прывёў да БНР і да Ю. Пілсудскага. Ён сабраў немалую рознамасцёвую сілу (даходзіла да 20 тысяч), аб’явіў сябе “бацькам” беларускай нацыі і, налаўчыўшыся ў партызанскай стратэгіі, нанёс нямала стратаў бальшавіцкім войскам. Шукалі помачы ў Варшавы (тая ўважліва за ўсім назірала і антысавецкі супраціў разглядала найперш у сваю карысць ды памагала “mizernie” – невялікай сумай грошай, вінтоўкамі са збітым прыцэлам, артылерыі аніякай, хоць у случакоў былі тыя, хто ўмеў ёй карыстацца). Шукалі падтрымкі ў Літвы і Латвіі (яны мо і не маглі значна падсобіць ды, дабіўшыся свайго, асцерагаліся гнявіць Леніна). За кароткі час Прэзідыум Рады ўтварыў юрыдычную, фінансавую, зямельную і харчовую камісіі, у валасцях – белару-

скія камітэты, сфармаваў 1-ю слуцкую брыгаду стральцоў войска БНР, наладзіў палявы шпіталь, вайсковы суд.

Відавочна, усё пералічанае не было “бандитским мятежом кучки буржуазных националистов” і тых “адшчапенцаў”, што пералічаліся ў БелСЭ, а мэтаваным дзеяннем законна абранай улады. Але пакольқі дзеянне было сапраўды антысавецкім, то – і “враждебным”. Па бальшавіцкай логіцы – не толькі ім, але і... Случчыне, усяму беларускаму народу, хоць абараняліся менавіта свае правы. Колькі ваяроў налічвала “кучка” паўстанцаў, здаецца, невядома і сёння. Не меней за 4 тысячы (некаторыя лічаць: 7, 10, нават 12 тысяч). Сілы блізкія дывізіі, хоць не ўсе са стральцоў былі як след навучаныя да адкрытых баёў, да засад і іншай тактыкі. Ва ўсякім разе, у кароткі тэрмін, каб случакі не паспелі наладзіць моцны супраціў і не падалі прыклад іншым, на карніцтва была кінута... не рота, а баявая 27-я Омская дывізія Чырвонай арміі. Яна жорстка патапіла паўстанне ў крыві (рэшта пераможаных перайшла на польскае ўладанне, але там была адразу ж раззброена), але яе дзеянні былі ўсхваленыя і ўзнесеныя да бліскучай перамогі. Як, паўторым, і пазнейшыя чэкісцкія зачысткі і расправы. Пад рознымі надуманымі версіямі. І па ўсёй Беларусі (“СВБ” і інш., што дало фальшывую аргументацыю абяскровіць беларускую нацыю, пазбавіўшы яе лепшых нацыянальных сілаў у гаспадарцы, партыйна-дзяржаўнай сістэме, навуцы і культуры).

А. Ваяру радасна ўсведамляць, што ў сілу гістарычных абставінаў здзейснілася мара слуцкіх і іншых ахвярнікаў-пакутнікаў: Беларусь набыла незалежнасць. Ды ў ягонай радасці не адна лыжка дзёгцю... Ёсць кіраўнік дзяржавы – свой, мясцовы, ёсць урад, але... адрынуты нацыянальныя сімвалы, той жа герб “Пагоня”, вядомы самае малое з 1270 года, пад святлом якога нашы продкі першыя са славянаў у 1362-м у бітве пры Сініх Водах разграмілі татара-мангольскае войска, чым ВКЛ пашырыла свае межы, вызваліла многія сённяшнія ўкраінскія землі ад татара-мангольскай няволі. Пад бел-чырвона-белым сцягам нашыя продкі з канца XIII ст. да 1410-га адбілі больш за 140 нападаў крыжакоў і ўрэшце разам з саюзнікамі супынілі іх агрэсію, з 1474-га па 1569-ы адбілі 12 нападаў крымчакоў (усіх набегаў-рабункаў і з захопам палону з поўдня на ВКЛ было не менш за 75; пасля іх цяжкага паражэння на слуцкай зямлі, калі яе ўладарка, княгіня-ўдава Настасся згуртавала люд не саступіць Слуцк, а пад Клецкам у 1506-м захопнікі былі разбіты і пасля гэтага ўжо асцерагаліся перабірацца за Прыпяць)... Ды колькі яшчэ жыццёвыратавальных перамог нашым продкам бласлаўляла святая “Пагоня”! У спусташальную вайну Расіі з Рэччу Паспалітай у 1654 – 67-х абаронцы Слуцка сталі насельнікамі адзінага буйнага беларускага горада, які прыступамі не ўзялі ні паўднёвыя грабежніцкія казацкія атрады, ні расійскія войскі!.. Хоць тады за 13 гадоў сечы славянаў, якіх хацеў “ашчасліваць”(!) Аляксей Міхайлавіч (Тишайший), “вызваляючы нас”, ацішыў наш люд з 2,9 мільёнаў да 1,4 (з іх ці не 350 тысяч маладых і майстравітых вывеў у палон), а нашу эканоміку давёў да заняпаду.

Ваяр бачыць: нарэшце ў Мінску, у іншых гарадах энтузіястамі выдадзена шмат выдатных розных даследаванняў з гісторыі і культуры, мастацкіх і дакументальных твораў: па-сапраўднаму ажывае і плоць даўніны, дае нацыянальна-дзяржаўную падмацоўку сучаснасці, ды... У гэты ж час карэнная мова выганяецца адусюль – ад высокай дзяржаўнай установы да дзіцячага садка, узровень дзяржаўнасці не перавышае ўзроўню нарыхтоўчай канторы (маскоўскія СМІ, апускаючы слова “Советская”, называюць такую нашу дзяржаву “Белоруссией”, што, здаецца, нават кіраўніка зусім не турбуе), а паняцце “нацыя” неяк адышло ў нябыт... Пры павальнай русіфікацыі, чаго не было і пры БССР, мы ўсё больш і больш становімся ўсяго толькі насельнікамі пэўнага рэгіёна, які многія ўсходнія суседзі бачаць сваёй губерняй... Дайшло: трэба радавацца, што міністр культуры Рэспублікі Беларусь умее і дазваляе сабе... гаварыць па-беларуску!

Як казалася, раман “Пляц Волі” складаецца з дзвюх кніг. Пра першую ўжо

гаварылася. Можна толькі дадаць: асабіста мне хочацца, каб аўтар рамана па правілах жанру больш ужываў эпічнага жывапісу. Скажам, у апісанні партрэтаў герояў, у індывідуальнасці дыялогаў або ў малюнках хоць бы аднаго з вырашальных баёў. Мо пад Цімкавічамі. Ці ў іншых мясцінах. Тут прыдатны вопыт В. Быкава, які часам браў у поле пісьменніцкага зроку асобны акоп, невялікі гурт байцоў, пэўныя ваенную сітуацыю і ўчынкі ўдзельнікаў і даследаваў усё па крупіне і дасягаў жыццёвай праўды, мастацкай глыбіні.

Другая кніга рамана магла б быць і самастойным творам, дзе расказ у дакументальна-мастацкай манеры пра станаўленне беларускасці з часу Першай сусветнай вайны па заканчэнне Другой. Тут дзейныя асобы – М. Багдановіч і яго аднадумцы ў помачы пацярпелым ад вайны, вайскоўцы-беларусы на франтах, Першы Усебеларускі з'езд і вылучаныя ім нацыянальныя дзеячы ў пярэднія шэрагі змагання за незалежнасць Беларусі, іхнія стасункі з кайзераўцамі, акт 25 сакавіка 1918-га (ці не ўпершыню ў дакументальна-мастацкай літаратуры выведзены вобраз такога яркага нацыянальнага дзеяча, як К. Езавітаў), блуканні па пакутах дзеячаў БНР пасля пакідання Мінска і іхнія зносіны з суседзямі, якія здолелі дабіцца волі, новыя штрыхі да каларытнага вобліку Булак-Балаховіча, становішча свядомых беларусаў у Заходняй і Савецкай Беларусі, дзе яны былі не ў ліку жаданых. Разгортванне сталінскіх рэпрэсій у Беларусі з пачатку 1930-га, калізіі 1939 года і асобныя падчас Другой сусветнай вайны падзеі (на жаль, выйшаў беглаваты вопіс незвычайнага Другога Усебеларускага з'езда ў 1944-м), загуба пасля вайны ў мінскай турме К. Езавітава і інш. Многае з гэтага суправаджаецца дакументальнымі ўстаўкамі.

Пасля прачытання твора цалкам міжволі страчваецца ўспрыняцце, што яго дзве часткі паасобныя: яны спалучаныя апісаннем лёсавырашальных падзеяў для нашага народа, учынкаў лепшых яго сыноў у першай палове XX ст., якія больш за шчаслівае пачуццё перамогі сваіх высакародных памкненняў зведалі горыч і вялікую трагедыю. Многія, хто ўтвараў і БНР, і БССР (абы было жаданае спалучэнне БР), і хто даверыўся СССР, – усе яны за гэта паплаціліся жыццём, ганьбаваннем. Але...

І. Шаўлякова ў прадмове зазначае: "У "Пляцы Волі" няма згукаў п л а ч у – гэтага ўлюбёнага жанру айчыннага прыгожага пісьменства. Узнаўленне падзей скрушна-горкага для Беларусі часу не ператварылася ў жалобнае галашэнне: аўтар – а з ім і чытач – перажывае гісторыю змагання з нябытам. Раман-дакумент А. Пашкевіча – гэта гісторыя перамогі свабоды над кр***а***тамі, духу над тлом, веры – над гвалтам".

Хіба не годна: малады празаік добра напісаў, а малады крытык добра зразумеў і ацаніў яго?! Значыць, свядомай, двудушнай зняславе ёсць і слаўны заслон! Ды... Зноў і зноў гэтае клятае "але!"

Барыс Ельцын... Пры чым ён? Ды пры тым, што ён першы кіраўнік Расіі, хто сам прапанаваў незалежнасць Беларусі і дакументальна пацвердзіў гэты акт. А ў Расіі прыклаў усе намаганні, каб запыніць супрацьстаянне ў грамадстве, аддаць належнае "белым", "чырвоным" і памірыць іхніх нашчадкаў для супакоенай і стваральнай будучыні Расіі. У першай палове красавіка г. г., калі ўстаўляю ў гэты раздзел апошнія абзацы, у Новарасійску паставілі помнік Белай арміі з сімвалічнай назвай "Исход", ушанаваўшы памяць тых, хто ратаваўся ад бальшавіцкай расправы і пакідаў любімую Расію на апошнім караблі. А ў нас?

Колькі былых "буржуазных нацыяналістаў", змагароў за незалежную Беларусь рэабілітавана (часамі ўпотайкі, толькі для ведама родным, калі яны выжылі). Сярод пазбаўленых кляйма ёсць і случакі-паўстанцы. Але Ваяр не дачакаўся, калі ім у Слуцку паставяць помнік і назавуць там іхнімі імёнамі вуліцы. Дай Бог, каб гэтага дачакаўся яшчэ малады аўтар! Але... Але... Але... Не ведаю, як цяпер, а яшчэ нядаўна, скажам, у Тураве не было вуліцы, названай у гонар...

Кірылы Тураўскага – земляка і найбуйнейшага асветніка многіх стагоддзяў на ўсходнеславянскіх землях! Затое – усюды ўшанота марксістаў-ленінцаў, ворагаў беларушчыны, налётных мяснікоўцаў... Правільна: не паважаеш сваіх – будзеш кланяцца прыблуднікам-чужаніцам!..

## “Сімъ побѣдиши”

Так называецца новы твор А. Пашкевіча, які летась пабачыў свет у “Кнігазборы”. У часопісным варыянце (гл.: “Дзеяслоў” №55) да жанравага вызначэння была прыстаўка да слова “раман”, у кнізе яна знікла, але пакінула пэўныя запатрабаванні да аўтара-раманіста. Скажам, выдатны навеліст, майстра лірычнай прозы і мініяцюр Я. Брыль улічваў, што ягоныя “Птушкі і гнёзды” ў класічным вызначэнні не зусім раман, дык знайшоў вельмі ўдалае выйсце з сітуацыі: “кніга адной маладосці”. І ніякіх прэтэнзій.

Новы Пашкевічаў твор – таксама двухпланавы. Толькі цяпер часавыя адрэзкі аддзеленыя стагоддзямі і ў пэўным сэнсе злучаюцца іншымі ніцямі, чым у “Пляцы Волі”. Калі звесці ў паслядоўнасць гістарычныя малюнкі, то атрымаем карціну з выявай хрысціянства, манаства, фрэсак з жыцця народаў візантыйскай веры перад падзеннем у 1453 г. Канстанцінопаля, што адыграе сваю лёсавызначальную ролю для Маскоўскага княства ў ягоным развіцці. Гэта ў яго адбывалася і ў розных узаемаварунках з ВКЛ, з нашай Беларуссю. Услед за бацькам Гедзімінам вялікі князь Альгерд вылучыў мэту пашырэння і ўзбуйнення дзяржавы вядомым са старажытнасці метадам – экспансіяй на суседнія землі. У выніку бліскучай перамогі над татарамі ў бітве пры Сініх Водах у 1362-м (летась было 650 гадоў) пачалося далучэнне ўкраінскіх земляў. За набыткі былі войны з Польшчай, з крыжакамі, з Масковіяй. З апошняй пры яго сыне Ягайлу праявіўся і акт гуманнасці: ВКЛ не скарыстала сілу супраць яе пасля знясільваючай Кулікоўскай бітвы (у ёй бралі чынны ўдзел і беларускія палкі), а тая не рушыла на захад пасля знядужанага Грунвальдскага пабоішча. Быў і пэўны саюз, калі дачка Вітаўта Соф'я стала жонкай Васіля І. Яна мужа і сына Васіля ІІ (пры ім, малалетнім, немалы час кіравала дзяржавай) устрымлівала ад войнаў з бацькам, за што маскоўскія баяры яе сына асляпілі, а яе знявольвалі, але мусілі вяртаць да ўлады (менавіта яна стала натхняльніцай у 1451-м абароны Масквы ад татараў; яе малодшая дачка Анастасія стала заснавальніцай роду слуцкіх Алелькавічаў). А што да Вітаўта, якога зяць папрасіў быць апекуном унука, то ён пільна трымаў у полі зроку не толькі нашчадка. Невыпадкова пра яго, Вітаўта, М. Карамзін напісаў: “Сей князь, тогда славнейший из государей северной Европы, был для нашего отечества ужаснее Гедимина и Ольгерда...”. Яго смерць гэты гісторык бачыў “к счастью России, которая без сомнения погибла бы навеки, если бы Витовтовы преемники имели его ум”.

А. Пашкевіч, дзе ад сябе, а дзе праз сваіх герояў пасвячае чытача ў тое, як мацаваліся Маскоўскае княства і абсалютызм, тыранства ў ім. Унук Соф'і Іван ІІІ пасля карыслівага шлюбу са сваячкай візантыйскіх імператараў аб'явіў сябе спадкаемцам іх і Русі, што некалі была з цэнтрам у Кіеве, пачаў ужо спаўняць волю баярства, надумаў “собирать русские земли” не толькі вакол Масквы, а і адбіраць іх у ВКЛ. Яго войны з бабулінай Бацькаўшчынай у 1492-94, 1500-1503 гадах прадоўжыў сын Васіль ІІІ, пры якім скла́ліся асновы імперскай ідэалогіі (“Масква – Трэці Рым”) і які выступаў нібыта абаронцам праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў, дамагаўся, каб яго абралі вялікім князем ВКЛ. Яму ў 1514-м пры Оршы далі рашучы адпор, але гэта зусім не супыніла яго сына ў другім шлюбе з Аленай Глінскай Івана Жахлівага, які нямала парабаваў беларускія землі, а ў 1563-м захапіў адзін з найбуйнешых гарадоў Полацк і міжволі змусіў ВКЛ пайсці на ў многім для яго ўніжальную Люблінскую унію з Польшчай. Лад жыцця Івана IV, яго цараванне вядомае нават

са школьных падручнікаў, але А. Пашкевіч асобныя моманты асвячае па-свежаму, выпукла вылучае жахі манархічнай улады, калі носьбіт яе ніякім законам не абмежаваны фарысей, тыран альбо проста вар'ят. Іван Жахлівы пашырыў Русь, далёка рушыў у Сібір, але рэпрэсіямі і тэрорам, апрычнінай, дзікім запрыгоньваннем сялянства нямала падарваў яе здароўя ва ўсіх сэнсах, на многія дзесяцігоддзі вычарпаў яе людскія і матэрыяльныя рэсурсы, а пасля сябе абрынуў Русь у такую "Смуту", што лёс дзяржавы зноў трымаўся на валаску.

Між гэтых фрагментаў устаўлены іншыя. З нашай блізкай сучаснасці. Калі Рурыкавічы з Гедзімінавічаваю галіной правілі па нашчадстве і трэба было вялікае ўмельства нават самым знатным, каб выжыць пры іх, то ў нашай сучаснасці прыход да ўлады іншы. І праз здольнасці, і праз услужэнне. А да самай высокай – у своеасаблівыя моманты. У рэзкія грамадскія катаклізмы, перамены, калі, як зазначаў Ф. Дастаеўскі, кансерватары разгубліваюцца і абараняюцца, сумленныя шукаюць ісціны і разумнага выйсця, у гэты час на паверхню, як чэрці з табакерак, выскокваюць рознага роду авантурысты, адчайныя людзі, якія гатовыя на ўсё, нават на патоп пасля іх, абы дарвацца да ўлады (менавіта ў такія часы пена выносіць на паверхню сталінаў-гітлераў). Вось і ў неназванай былой савецкай рэспубліцы ў перабудову, што ўрэшце абрушыла, здавалася, маналітную моц КПСС і СССР, нічым раней не вылучны шарачок Іван Мароз па-паляўнічаму адчуў: можна ўскочыць на высокаўладнае крэсла! А для гэтага трэба добра языкачосіць, паказаць сябе ў выгадным святле, падабраць таксама языкачосную, паказушную, не абцяжараную сумленнем каманду і, выкарыстоўваючы момант, ісці на выбары і абалваніць люд, вырваць у яго галасы. І выйшла! Не пазважалі: гэты ж Іван нічога вартага дагэтуль не зрабіў, пустальга! Ну, а далей – як і ў манархаў. Выдаленне сваіх, каб адкінуць іх ад руля, дэмагогія, двудушная гульня на пачуццях старых людзей, вышукі ворагаў, подлая зняслава сумленных, пры самай нязначнай сітуацыі расправа з імі, вылучэнне на пасады найперш паслужлівых, але пастаянны пературс іх. Вось і дыктатар у маленькай краіне. З яго пацяшаюцца, яго ў цывілізаваны свет не дапускаюць, але ён і сваім такім становішчам упіваецца. Больш за тое – лічыць сябе богаабраным.

Да творчых знаходак аўтара можна аднесці звязоўныя паралелі ў дзвюх частках кнігі. Тыран Іван Жахлівы ў велізарнай краіне і дэспат Іван Мароз у малой, які марыць пра вялікую і, адпаведна, з ёю і пра сусветную значнасць, як таго дабіліся выхадцы з невялікіх народаў Сталін і Гітлер. Іхнія ідэалагічныя валадары: мітрапаліт, які ў парушэнне тагачасных канонаў блаславіў Івана IV на царства і неабмежаваную ўладу, і выкладчык ВНУ, які настаўляў Мароза ў яго амбіцыях без амуніцыі. Ёсць і іншае падабенства, але, на маю думку, крыху з нацяжкай. Пасяганне цара на пляменніцу польскага караля Жыгімонта, а Мароза – на студэнтку не зусім у сугуччы: цар імкнуўся да шлюбу з той, каб такім чынам калі не падпарадкаваць Польшчу, то мецъ на яе свой цяжкі націск, а ў нашага сучасніка проста юрлівая пажаднасць да маладой і прыгожай дзяўчыны. Ці вось, магчыма, наш зямляк Іван Фёдараў і сучасны тэлежурналіст Іван Федарэнкін (усе Іваны). Калі тэлебрахач спраўна адпрацоўвае заказ, ганьбячы ўсё жывое і здаровае, апускаючыся на самае дно чалавечага і прафесійнага мярзотніцтва, то Фёдараў з П. Мсціслаўцам, пераймаючы вопыт Ф. Скарыны, усё ж сеялі разумнае, выдалі першыя друкаваныя кнігі ў Расіі і ва Украіне, першыя ўсходнеславянскія падручнік, каляндар і першы асобна выдадзены твор беларускай паэзіі ("Храналогія" А. Рымшы)...



Леанід Галубовіч



...трэба неяк прыстасаваць пад высокімі скляпеннямі замка выкаваную самабытнымі майстрамі жырандоль...

# Жырандоль для Новага замка

***Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXII / укл. С. Астравец. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 248 с.***

Пабачыў свет літаратурны альманах “Новы замак”, выдадзены гарадзенскімі літаратарамі СБП (пазначаны 2012 годам). Само выданне вельмі дабротнае ў паліграфічным плане (файная папера, чытэльны шрыфт, выбітная вёрстка). Неабходна дадаць, што актыўны і непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы альманаха да друку прымала і кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў, што ў перспектыве абяцае плённае супрацоўніцтва на карысць абодвух бакоў, і, спадзяёмся, не толькі з літаратарамі Гарадзеншчыны.

Усё тут прадумана і дастасавана: аўтары адабраныя (і, калі што, то прабачце, “лепшых у нас няма”), усе раздзелы і рубрыкі на сваіх месцах і са сваім спецыфічным зместам... Адным словам, чытаецца без раздражнення, але і без эклектычных узрушэнняў – гэткае (у пераважнай большыні тэкстаў) роўнае “лёгкае дыханне” на шляху да *замка* па добраўпарадкаваным гасцінцы...




На зачыне – неакласічныя гістарычна-доследныя ўводзіны ўкладальніка альманаха **Сяргея Астраўцова** ў літаратурны і культуралагічны працэс сучаснай Гарадзеншчыны – края Айчыны, за якім адчыняюцца дзверы ў заходнееўрапейскі свет...

Папярэдзе ідзе прадстаўленне паэзіі. Маладая **Ганна Аўчыннікава**, аўтарка нядаўняга першага зборніка вершаў "Ад зачыненай брамы", выступае з тонкімі, датклівымі, можна сказаць, далікатна вытканымі вершамі, у меру таемнымі на цёмных заглыбленнях і празрыстымі на чыстым мелкаводдзі жыцця, аздобленымі ненавязлівым філасафічным падсвятленнем.

Час перакіне сябе праз экватар,
Ноч перакуліць сябе цераз сэрца,
Каб з адваротнага боку заплакаць.

Адна са старэйшых і найбольш знакамітых нашых паэтак **Данута Бічэль** прадстаўлена ў альманаху вялікім і змястоўным цыклам вершапрысвячэнняў – сяброўкам, сябрам, калегам, знаным суайчыннікам і родным людзям... Вершы як на духу выдыхнутыя. Яны як малітва і споведзь, – і ў рэшце рэшт, як своеасаблівы запавет. Вельмі просты, праніклівы, амаль вуснаслоўны зварот жанчыны-паэткі, якая адолела няпросты, пакручаста-пакутлівы шлях да сваёй Беларусі, да людзей, – і гэта яе наказ і спадзеўны давер пакаленню, якое прыходзіць на змену дарэшты стомленым, але не зломленым духоўна папярэднікам...

Стала крыжам з дубовае плахі...
Узяла ўнука Янку на рукі...
Ды паслухаю – як пяюць птахі...
Не тапчыце песень, унукі!
Не паставіў ніхто крыж дубовы?
Пахавана, жывымі забыта?..
Унучак-вецер тутэйшыя словы
Ціха йграе на дудачках жыта...

Мяне вельмі займае паэзія **Анатоля Брусевіча** – шчыраслоўная, з дэкадэнцкай разынкай, песімістычна-нязломная... Менавіта так. Таму вельмі шкада, калі паэт у творчым запале ахвяруе красою цэльнасці асобнага верша, сям ці там пакідаючы неглядзь кінутыя радкі-паразіты. (*"Я проста жыву./ Пасля проста здохну"; "Я ў іх загнаў душы іржавы цвік"; "Гуляюць чужыя дзеці/ І мой ненароджаны сын"; "Душой выціраючы боты"; "Задзяўбло/ Асвятляць шлях сляпога паэта"*.) Але ёсць і сапраўдная паэзія, непадробная магія высокага душэўнага ўзлёту. Менавіта такіх вершаў, чыстых і пякучых, як чарка пяршака, і хочацца чакаць ад паэта ў далейшым (хмелю пры светлай галаве).

Я разарву залаты пярсцёнак
Соннай арбіты адзінай зоркі,
Каб прачытаць у вачах тваіх цёмных
Светлае шчасце і новы золак.
Я разарву кайданы пачуццяў,
Каб аб'яднаць імгненне і Бога.
Толькі шкада, што нас не пачуюць
Там – на нябёсах, сумных і строгіх.

Вершы **Анатоля Валюка** дабротныя, ёсць у іх унутраная аўтарская культура і мыслярская глыбіня. Магчыма, яны залішне наўпроставыя, бракуе сям-там творчай загадкі і непразаічнага здзіўлення.

Змаўчаў ізноў, стаіўшы боль, адчай,
Замкнуўшыся ў сабе на тры засовы,
Калі пачуў аднойчы: “выбачай...
І не крыўдуй...” – атрутлівыя словы.
Я не суддзя каханню, пачуццю,
Надзеі, здрадзе, хітрасці пачварнай,
А ў рэшце рэшт, і смерці, і жыццю
На гэтай сцэне звыкла тэатральнай.

Вершы **Уладзіміра Васько** я памятаю яшчэ па яго першым зборніку “Прасветленасць”. Здаецца, пісаў пра іх нешта крытычнае ў свой час у “ЛіМе”. Вершы не створаныя, а літаральна напісаныя. Няма ў іх энергіі, нечаканасці, нават праблем жыцця. Давершанае дажыванне... Хоць падчас мінорны настрой прыцягвае, але развітальны песімізм расчароўвае.

Арыгінальная нізка вершаў вядомага паэта **Юркі Голуба**. Імя гаворыць само за сябе, і калі яшчэ ў пашанотным узросце з такім імпэтам і экспрэсіяй, неспадзеў, пішуцца такія вершы, як бы гуляючы, беглым незадыханым рытмам і разняволенай рыфмай, то і апраўдана чакаеш ад яго выбітной мілагучнай паэзіі.

Прачнецца ліст. Світае
Над ракой, дзе вада святая.
Дзе знікала трава – атава
Сыпле росы, бы з ручніка.
На нябеснай лаве актавы
Спіць салоўка. І ёсць падставы:
На падушцы чарнавіка.

Да таго ж, адзначым, Ю. Голуб і рэдактар гэтага альманаха, а значыць, мае немалую заслугу ў гэтым спраўджаным выдавецкім праекце абласнога аддзялення СБП.

Памятаю, на пачатку 80-х гадоў аўтар першага свайго вершаванага зборніка “Паверка” **Міхась Губернатараў** не быў у фаворы літаратурных крытыкаў, ды, шчыра кажучы, для таго і не было асаблівых падстаў. Вершы паэта на той час не выклікалі захаплення. І вось, чытаючы ў гэтым альманаху яго вершы (а іх усяго чатыры), я не адчуў ранейшага раздражнення. Не скажу, што натрапіў на нерукатворныя радкі, але – на вельмі дабротны, цёплы лірычны настрой. Няхай аўтар і не здзівіў шэдэўральнасцю сваіх твораў, аднак і не адштурхнуў, а можна сказаць, наблізіў да сябе, як да чалавека глыбока творчага, які не змірыўся з колішняй крытыкай і да канца ўдасканальваў сваё дараванне...

З табою стала мне лягчэй.
Хоць і журуся я парою.
Не забывай маіх вачэй,
Майго вясёлага настрою.
Я рукі да цябе прасцёр.
Адна жыве ўва мне турбота:
Гарачых вуснаў, як касцёр,
Не забывай, мая пяшчота.
Люблю цябе і родны край,
Ляту здалёк да чарнабровай,
Мяне маўчаннем не карай,
А падары, як промень, слова.
Цябе да сэрца прытулю,
Душа твая з маёй сальецца.
Любі мне, як я люблю.
Цалую –
вечнасць адзавецца.

Хто з нас не памятае колішнія (напрыканцы 80-х напісаныя) афарыстычныя радкі з вершаў **Алеся Жамойціна**?! Не ведаю, наколькі новыя (нядаўнія) яго

вершы ў гэтым альманаху, але яны адпавядаюць яго таленту – паэта і чалавека, прадаўжальніка , з дазволу сказаць, багушэвічавага роду (Алесь працуе чвэрць веку дырэктарам музея ў Кушлянах).

Нада мною – Бог і са мною – Бог;
Супраць – хто на дарозе знойдзецца?..
Запраданцам стаць калі ты і змог –
Сваёй злосцяю сам і зойдзешся...
Я твару спакой у душы сваёй:
Зацкаванаму дню – пагібеллю.
У душы – спакой і вакол – спакой;
Мо яшчэ каго з цемры выбаўлю...

Яшчэ па паэтычнай пошце “Крыніцы” ведаю я і **Міколу Канановіча** са Слоніма: як для паэзіі – арытмічнага са збіўліва-захмеленай хадою чалавека, лайдакавата-абыякавага да рыфмы, але падчас страшна вобразнага...

Пухнатасць снегу холадам кранае.
Яснее неба і званчэе ціш.
Блішчыць у вочы зорка з небакраю,
Куды скрозь ноч зямную ты глядзіш.
Твой позірк тоне у бязмежжы свету,
А цела холад у палон бярэ.
Ты хочаш зрынуць супярэчнасць гэту,
Ды ўсё стаіш, як дрэва, на двары.

Адметны гумарыстычны і сатырычны настрой ёсць у вершах хірурга-анколага **Мечыслава Курловіча**. Патрыятычнымі, праўдалюбнымі радкамі вызначаецца паэтычная нізка **Пятра Макарэвіча**. А вось жа, размяняўшы дзявяты дзясятак, **Яўген Петрашэвіч** – яшчэ ўсё паэт. Ну, не паўсюль, не ў кожным вершы і страфе, але ў асобных. Вось напрыклад:

Пылінка марыць стаць пясчынкай.
Пясчынка, сагрэтая сонечным праменьчыкам, –
Каменьчыкам.
А маленькі каменьчык
Марыць стаць глыбай, дарэчы.
Глыба – гарой,
Гара – Зямлёй.
Матухна Зямля.
Я твая пясчынка,
Імгнення часцінка.

Ёсць свае пэўныя ўдачы і ў паэта, улюбёнага ў акрэсленыя формы, **Алеся Стадуба**. Гэтым разам – у трыялетах. Вядомы краязнаўца, гісторык і журналіст **Сяргей Чыгрын** таксама выступае выключна з таўтаграмамі. Трэба сказаць, вельмі небяспечная для паэтаў форма, скупая на ўдачу, як вядомы вокліч: “Эўрыка!”. Але і тут здараецца аўтару злавіць плыткі вобраз, нібы той сонечны зайчык:

Імпульсіўны
Імператар
Ігнаруе
Інтэлект,
Імпрэсіўны
Інсургент –
Інтэндант –
Інтэлігент.

Адзіная рускамоўная публікацыя – аб’ёмная падборка вершаў **Аляксандра Слашчова.** Мяркую, што гэта не толькі адораны паэт, але і агулам добры чалавек, які прыняў пасільны ўдзел у выданні гэтага альманаха.

Да паэтычных публікацый трэба дадаць і пераклады, якія вынесены ў асобны раздзел. Пераклады з Адама Міцкевіча (П. Макарэвіча), невядомага аўтара, Аляксандра Макрэцкага, Антоні Маслінскага, Томаса Макгі, Чэслава Сэнюха (С. Судніка), а тасама нізка вершаў Яна Леанчука (Ю. Голуба) – усё гэта добрая паэзія, блізкая беларускаму духу.

З прозы – *гісторыя праз дзвесце дваццаць год* "Мармур не смяецца" **Сяргея Астраўцова**. Па сутнасці, гэта эсэ з праявамі мастацкай літаратуры. Гаворка вядзецца пра Гародню часоў Станіслава Аўгуста Панятоўскага, ае тадышніх выбітных людзей, культуру і тэатр. Расповед вельмі дыхтоўны, шырокі для сваіх межаў, вольны, пачэрпнуты з доследных крыніц. Чытанне цікавае і займальнае, безумоўна, разлічанае на прыхільнікаў. Аповед **Валянціна Дубоўкі** "Бацька" напісаны ў традыцыйнай манеры, на здавалася б набіўшую аскому ваенную тэматыку, аднак арыгінальнасць і неардынарнасць сюжэту змушаюць чытача, прынамсі, мяне, быць удзячным аўтару. Аповед **Стаса Ільына** (які жыве ў ЗША і ўжо выступаў з прозай у "Дзеяслове") "Cheapallindра" пра сучасную амерыканскую бізнэс-эканоміку, маскультуру, рэкламу, свабоду... чалавека, які паступова губляе сваё імя, і робіцца знакам, лічбай... Прынамсі, аўтарам выпісаўся сюжэт прыкладна такога суперсучаснага жыцця і спроба выснаваць мараль, якая ў XXI стагоддзі, на вялікі жаль, мала кім запатрабаваная...

*"Цяпер усе вуліцы ў ЗША называліся толькі лічбамі, амерыканцы пачалі спыняцца ў сетцы атэляў 6, а вельмі эканомныя – нават 8, на лагатыпах якіх няма назваў, толькі на сінім ці жоўтым тле красуецца адзін лік. П'юць каву ў сетцы крамаў 7/11, глядзяць рэкламу на канае 123, у машыне па радыё слухаюць групу Blink 182. Замкі ўжо не на ключах, а на лічбах, лічбы ў паролях электроннай пошты, клубных і крэдытных карт, у нумарах банкавых рахункаў, чэкаў. Працэс нумарацыі дайшоў да абсурду, хутка замест імя чалавек атрымае асабісты нумар".* (У мяне гэта выклікала своеасаблівую асацыяцыю з аповедам "Чарга" (1986) Алеся Асташонка, якраз пра чалавека, які выказаў пратэст супраць падобнага нумаравання.) Але гэта што да лічбаў у іх – там. У нас жа – тут – усё яшчэ, як у *добрыя* часы Шэкспіра, – "словы, словы, словы..."

Завяршаюць празаічны раздзел алегарычна-лірычныя гарадзенскія казкі **Алы Петрушкевіч**, якія змушаюць чытача разважаць і раздумвацца над лёсам гістарычнай Гародні.

З раздзела "Крытыка. Край. Дзённікі" цікавым падаецца кароткае эсэ нядаўна трагічна пакінуўшага гэты свет паэта **Юрыя Гуменюка** "Цені Бруна Шульца ў Гродне". Прынамсі, для тых, хто будзе займацца яго (Ю. Гуменюка) творчасцю. Вось, як бы між іншым, укроплены ў тэкст такі пасаж: "*Яго* (Бруна Шульца – *Л.Г.*) *усё часцей згадваюць, таксама згодна з сугестыўна напрацаваным стэрэатыпам, але ўжо польскага літаратуразнаўства, у звязку з Вітольдам Гамбровічам і Станіславам Віткевічам (Віткацы) , як "святую тройцу польскага літаратурнага мадэрнізму". Не буду разгортваць гэтую тэзу, але сапраўды, нягледзячы на адрознасць гэтых выбітных пісьменнікаў, яны напісалі асноўныя мадэрністычныя творы ў польскай літаратуры. Больш за тое, іх рэчы апасродкавана паўплывалі на кшталтаванне новай, ужо постмадэрністычнай літаратуры. У тым ліку і ў Беларусі. Я сам як літаратар-практык, які скончыў аддзяленне паланістыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, адчуў на сабе подых гэтых сапраўды грандыёзных постацяў. А пакаштаваўшы іхняе эстэтыкі, я не мог не адчуць іхняе энергетыкі, не ўсвядоміць усю значнасць іхніх мастацкіх адкрыццяў. Магчыма, тая энергетыка і адлюстравалася ў маіх вершах...*"

З крытыкі як такой – артыкул А. Петрушкевіч пра гарадзенскія вобразы ў паэзіі **Вольгі Іпатавай**. На жаль, злабадзённай гаворкі пра сучасны літаратурны працэс бракуе (а хацелася б, скажам, прачытаць нешта гэткае, вартае пяра Ігара

Жука, хоць ён і фігуруе ў рэдакцыйнай радзе альманаха). Затое выявілася іншае захапляльнае чытво – гэта дзённікавыя запісы “Крэскі маёй дарогі” (1988 – 1991) **Аляксея Пяткевіча**. Даволі цікавая досведная прыватна-чалавечая рэтраспектыва шляху ад перабудовы да беларускай незалежнасці, пазнакі і сляды нацыянальнага выжывання і змагарства, што паступова затоптваюцца-заціраюцца наступнікамі... І не менш займальная гутарка Сяргея Чыгрына з вядомым літаратуразнаўцам (на жаль, нядаўна адышоўшым у іншы свет) **Янкам Саламевіча**м. Тут і прафесійны і павучальны вопыт жыцця, і характарыстыкі таленавітых калег, і фальклор, і показкі, і чалавечая мудрасць ды нязмушанасць у выказваннях. Шкада, што нас пакідаюць такія людзі. А яшчэ больш шкада, што мала хто з нас ведаў пра іх падобныя чалавечыя таленты. Вось вясёлы фрагмент, сёння ўжо з такой сумнай падсветкай да самога ўспамінальніка:

“Наш зямляк з вёскі Вяценеўка Дзімітрый Супрун (...) на экспромт Грышы (Рыгорам ён стаў пасля) Барадуліна: *Памёр Бальзак/ Памёр Уну,/ Сумуй труна/ Па Супруну*. Адказаў імгненна і, па-мойму, здорава: *Даўно сумую/ Па труне,/ Ды як тут будзе/ Без мяне?*”

Ёсць у альманаху і фотаілюстрацыі, і кароткая хроніка культурных і літаратурных спраў сённяшняй Гарадзеншчыны.

Дарэчы, зазірнуў у сваю колішнюю лімаўскую рэцэнзію на першы выпуск “Жырандолі”, аказваецца, там было ажно 43 аўтары. У “Новым замку” – іх усяго 23... Але, у той жа рэцэнзіі я адцеміў, што “...гэты літаратурны праект варты не толькі агульнапісьменніцкай увагі, але, на мой погляд, і грамадскай. Пагадзіцеся, што падобныя выданні не частыя з’явы на нашым кніжным “развале”. Аднак з’яўленне менавіта такіх калектыўных альманахаў сведчыць пра змагарнасць, а не ўміранне нашай беларускамоўнай культуры ды інтэлекту, а таксама пра нацыянальную мету і адметнасць нашай айчыннай і родавай тэрыторыі. Бо ж не сакрэт, што ў сённяшнім часе звужэнне беларушчыны вельмі адчувальнае і толькі праявы ўнутранага духоўнага супраціву, гонару і прыроднага нацыянальнага нягнуткага стрыжня яшчэ пакуль дазваляюць нам стрымліваць напор цёмнасці і несвядомасці большыні жыхароў краіны. У пагоні – не мы, пагоня – за намі...” і напрыканцы дадаваў: “Зрэшты, звыклі мы са сталіцы тыкаць пальцамі ў правінцыйнае “магдэбургскае права”: быць самімі сабою. Не забывайма, што мы таксама адтуль. Там – нашы школы, а тут толькі прафесійныя дыпломы. І няма ў нас іншага высця як быць ***адзінымі*** і радавацца ўдачам адзін аднаго”.

Таму, як бы падводзячы рысу, можна сцвярджаць, што гарадзенскія літаратары ў сваім першым (і, дасць Бог, не апошнім) нумары альманаха “Новы замак” спавядаюць найперш грунтоўнасць: мастацкая будоўля ў іх пачынацца не з кучы пяску, а з кутавога каменя, цэльнага і важка-моцнага, які нязрушна ляжа ў падмурак (хаты, дома, храма ці таго ж *замка*). А для гэтага патрэбны талент і вопыт работнікаў і майстроў. Усё так. Але ў нашай сучаснай літаратурнай сітуацыі, я думаю, найлепшым варыянтам было б адшукаць гармонію паміж першым (берасцейскім) і другім (гарадзенскім) метадамі: даць месца на покуце абраным, аднак і не пакінуць у паняверцы пачынаючых прыхільнікаў мастацкага слова; аддаючы славу як належнае першым, не забываць пра ўвагу да малодшых, тым самым як бы наперад дбаючы пра сваю літаратурную змену. Метафарычна кажучы, трэба неяк прыстасаваць пад высокімі скляпеннямі замка выкаваную самабытнымі майстрамі жырандоль... Каб пад высокім дахам яго лілося святло і лунаў усюдыісны і нязводны дух нашай Айчыны...

# Што варта радасці і слёз...

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Аляксандар Л. Зкімбы-зымбы. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 270 с. – (Бібліятэчка часопіса “Дзеяслоў”; вып. 14).**

Кніга Аляксандра Л. (ён жа – дырэктар беларускай службы “Радыё Свабода” А. Лукашук) уяўляе з сябе суплёт рознажанравых эсэ: тут і аповеды пра сям’ю, і разгляданне каранёў радаводнага дрэва, і згадкі пра ранняе дзяцінства (першы раздзел), і гісторыі са станаўлення прафесійнай дзейнасці. Знакамітыя асобы, з якімі цягам жыцця сустракаўся і працаваў аўтар, прадстаўленыя ў адмысловых дэкарацыях — не можа быць тэатра больш праўдзівага за жыццё — у святле ўспамінаў, у розных месцах, часах, краінах і гарадах. Мастакі, фатографы, рэжысёры, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, якія яшчэ жывуць і ствараюць або ўжо адышлі — кожнаму з іх, сяброў і калегаў, у кнізе ўдзеленая ўвага. Найноўшасць незаўважна пераплятаецца з успамінамі шматгадовай даўніны.

Асобнае месца ў кнізе Аляксандра Л. адведзенае Васілю Быкаву, з якім аўтар кантактаваў, ліставаўся. Былі зробленыя шматлікія матэрыялы на Радыё Свабода з удзелам Васіля Уладзіміравіча. У выданні можна азнаёміцца з інтэрв’ю пісьменніка розных гадоў, з аповедамі, многія дэталі якіх раскрываюць жыццё Быкава на эміграцыі.




**Максім Жбанкоў. No style. Белкульт между Вудстоком и «Дажынкамі”. – Вильнюс: ЕГУ, 2013. – 268 с.**

Кніга выбраных эсэ культуролага і журналіста Максіма Жбанкова ўтрымлівае аўтарскі погляд на тэндэнцыі развіцця беларускай культуры апошняга дзесяцігоддзя. Аўтар выступае не толькі як назіральнік, але і ўдзельнік культурнага працэсу – упершыню ў айчыннай аналітыцы прапануе сістэмны аналіз рознапланавых з’яваў і тэкстаў (ад спробаў “думаць Беларусь” да маргінальных поп-трэшпраектаў). Сп. Жбанкоў прапануе сваю канцэпцыю No style, якая закліканая дапамагчы больш глыбокаму разуменню парадаксальнае прасторы беларускае культуры часоў “моцнай прэзідэнцкай улады”. У вольнай неакадэмічнай манеры разглядаюцца знакавыя з’явы і культавыя артэфакты айчыннай і замежнай поп-культураў, што дазваляе арганічна ўпісаць беларускія рэаліі ў глабальны кантэкст.

Кніга разлічаная на шырокае чытацкае кола.




**Галіна Каржанеўская. “Што варта радасці і слёз...” – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 34).**

Кніга Галіны Каржанеўскай сталася не проста фіксацыяй рэальных падзеяў з асабістага жыцця і лёсу сямейнікаў ды землякоў, але і іх праекцыяй ва ўнутраным свеце чалавека і творцы. Асаблівасцю кнігі з’яўляецца выкарыстанне розных літаратурных жанраў – паэзіі і прозы, якія дапаўняюць адзін аднога і надаюць тэксту адпаведныя аўтарскай задуме адценні, ды лірычную ці, наадварот, рэалістычна-гістарычную афарбоўку. Па задуме аўтара, у кнізе структурна выдзеленыя дзве часткі. Асобна

адлюстраваныя два перыяды жыцця – ранні, звязаны са Случчынай, і пазнейшы – злучаны з Лагойшчынай, дзе спадарыня Каржанеўская жыла ў вёсцы Янушкавічы і настаўнічала ў мястэчку Плешчаніцы.

Кніга цёплых успамінаў Галіны Каржанеўскай сталася не толькі данінай павагі ўласнаму роду, але і ўсім землякам ды знаёмцам, з якімі лёс звёў паэтку.

**Барыс Пятровіч. Спакушэнне. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 340 с.**




У новую кнігу Барыса Пятровіча (Сачанкі) увайшлі выбраныя апавяданні, публікаваныя раней у зборніках “Ловы”, “Сон між пачвар”, “Фрэскі”, “Шчасьце БЫЦЬ...”, а таксама шэсць зусім новых твораў. Апавяданні, прадстаўленыя ў кнізе, дэманструюць розныя манеры аўтарскага пісьма — ад класічнага паслядоўнага разгортвання падзей да пошукаў у стылістыцы і разняволенасці ў сінтаксісе. Кароткія жанравыя формы — апавяданні, фрэскі (замалёўкі) — найбольш прывабныя да сучаснага чытача. Але не толькі ў вялікім рамане, але і ў лаканічным аповедзе магчыма выказаць многае, і “хуткаўспрымальнае” чытво можа быць інтэлектуальным. Героі кнігі “Спакушэнне” балансуюць на мяжы розных пачуццяў: явы і сну, хаосу і гармоніі, на мяжы мінулага і будучыні, і ў гэтым якраз заключаная спакуснасць жыцця.

**Святлана Раманава. Смарагдавы рай. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 96 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 36).**



Пабачыў свет першы паэтычны зборнік Святланы Раманавай. Прысвечаная самым блізкім людзям — матулі і дочкам, кніга з’яўляецца спавядальна-справаздачнай і раскрывае перад намі тонкі сусвет духоўнай прасторы аўтара, раскрывае суплёт думак і памкненняў, скіраваных да адвечных пытанняў — самаўдасканалення, спасціжэння свету, пошуку свайго месца ў ім.

Цікавымі і адметнымі падаюцца ўкладзеныя ў кнігу вершы-прысвячэнні: С. Плыткевічу, А. Сысу, Л. Шчамялёву, М. Савіцкаму, М. Ісаёнак, Я. Шунейку і іншым далёкім і блізкім, сябрам па духу і творчасці, з якімі лёс звёў паэтку. Справа ў тым, што спадарыня Святлана не толькі піша, але і малюе: яе жывапісныя работы выстаўляліся ў мінскіх бібліятэках. Таму не дзіва, што тэма выяўленчага мастацтва і звароты да мастакоў займаюць асаблівае месца ў гэтай кнізе.

**Андрэй Хадановіч. Разам з пылам. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 200 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 40).**



Пасля зборніка сваіх лепшых вершаў Андрэй Хадановіч сабраў іншы *the best of* – “калекцыю перакладаў”. У яе ўвайшлі перастварэнні твораў 41 аўтара з лацінскай, французскай, англійскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай моваў, зробленыя цягам пятнаццаці гадоў.

У сферу зацікаўлення перакладчыка ўвайшлі прадстаўнікі розных эпох – ад старажытнасці (Катул, Гарацый) да сучаснасці (Юрый Андруховіч, Сяргій Жадан). Можна азнаёміцца з перастварэннямі на беларускую мову твораў Нобелеўскіх лаўрэатаў Чэслава Мілаша, Іосіфа Бродскага. Класіка сусветнай і еўрапейскай літаратуры ва ўспрыманні аднаго з самых паспяховых беларускіх пісьменнікаў і перакладчыкаў, безумоўна, зацікавіць нават самага патрабавальнага чытача.

# Нашыя аўтары

**Аўчыннікава Ганна** – паэт. Аўтар кнігі вершаў «Ад зачыненай брамы». Нарадзілася ў 1986 годзе ў Гародні. Жыве ў Гародні.

**Баранаў Віктар** – празаік, паэт, перакладчык. Старшыня Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Лаўрэат літаратурных прэмій «Трыумф» і «Сад боскіх песень» імя Р. Скаварады, прэміі імя О. Гірныка, літаратурна мастацкай прэміі імя М. Кацюбінскага і інш. Аўтар шматлікіх кніг паэзіі, прозы, перакладаў, літаратурна-крытычных, публіцыстычных і мастацтвазнаўчых публікацый. Нарадзіўся ў 1950 годзе ў с. Крывуша на Палтаўшчыне. Жыве ў Кіеве.

**Булавацкі Міхась** – празаік, паэт, перакладчык. Заснавальнік магілёўскай філіі аб'яднання «Мартыралог Беларусі», кіраўнік магілёўскай суполкі Беларускага ПЭН-цэнтру. З пачатку 90-х займаецца літаратурнай дзейнасцю, піша вершы, перакладае з рускай (у 1999 г. выйшла кніга У. Высоцкага «Я не падману» ў перакладзе М. Булавацкага). Аўтар шэрагу падручнікаў па матэматыцы і трыганаметрыі. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Восы на Глушчыне. Жыве ў Магілёве.

**Быкаў Васіль** — народны пісьменнік Беларусі. Празаік, публіцыст. Лаўрэат шматлікіх дзяржаўных і міжнародных літаратурных прэміяў. Аўтар кніг «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Воўчая зграя», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды», «Кар'ер», «Сьцяна», «Пахаджане», «Доўгая дарога дадому» і інш. Нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Бычкі на Ушаччыне. Памёр у 2003 годзе.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гімпелевіч Зінаіда** – літаратуразнаўца. Прафесар германа-славянскай кафедры Універсітэта Ватэрлоа (Канада). Прэзідэнт Канадскай асацыяцыі славістаў. Адна з заснавальніцаў Фонду дапамогі беларускім дзецям, што пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы (Канада). Нарадзілася ў Мінску. Жыве ў Таронта (Канада).

**Далідовіч Генрых** — празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1993). Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дубоўскі Валеры** – паэт, выдавец. Працаваў журналістам, кіраўніком у розных беларускіх перыядычных выданнях, дырэктарам выдавецтва «Беларусь». Аўтар кнігі вершаў «На пачатку маўчання». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Зуёнак Васіль** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1982). Аўтар кніг паэзіі «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» і інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай

прэміі Беларусі (1982). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў г. Калінкавічы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Кандратаў Мікола** — паэт. Аўтар кніг вершаў «Возера Рудакова», «Зоркі і вершы». Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Замосце на Талачыншчыне. Жыве ў Мінску.

**Качаткова Паліна** — празаік, публіцыст, журналіст. Апавяданні друкаваліся ў тыднёвіках «ЛіМ» і «Наша ніва», часопісах «Дзеяслоў», «Крыніца». Аўтар кнігі прозы «Матылі». Нарадзілася ў 1968 годзе ў Оршы. Жыве ў Оршы.

**Лінnік Мікола** – радыёінжынер, фатограф, журналіст. Фатаграфіяй і журналістыкай займаецца амаль пяцьдзясят гадоў. Інфармацыйныя, публіцыстычныя і гістарычныя матэрыялы і фота друкаваліся ў рэспубліканскіх і мясцовых газетах. Удзельнік трох Міжнародных навуковых канферэнцый (Кіеў, Мінск, Хмельнік), прысвечаных даследаванням бітвы на Сіняй Вадзе. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Порычы на Валожыншчыне. Жыве ў Мінску.

**Макарэвіч Васіль** – паэт. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1994). Аўтар зборнікаў паэзіі: «Вогненная камета», «Мерыдыяны і паралелі», «Ліставей», «Вечнае дрэва», «Радоўка», «Праталіна», «Відушчы посах», «Сумежжа», «Квадратура круга» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Жыве ў Мінску.

**Мартыновіч Яўген** – празаік. Скончыў БДПУ імя Максіма Танка. Цяпер навучаецца на факультэце павышэння кваліфікацыі на базе факультэта журналістыкі БДУ (спецыяльнасць: «Літаратурна-мастацкая творчасць»). Друкаваўся ў «Маладосці», «Вожыку», «Вясёлцы». Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Мінкін Алег** — паэт, празаік, драматург, перакладчык. Аўтар кніг «Сурма», «Расколіна», «Пенаты» і інш. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў в.Чарняўка на Хоцімшчыне. Жыве ў Падмаскоўі.

**Мяцеліца Кірыл** – паэт. Студэнт гістарычнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўнверсітэта імя Машэрава. Нарадзіўся ў 1990 годзе ў Віцебску. Жыве ў Віцебску.

**Нікалаеў Мікола** – гісторык. Доктар філалагічных навук. Даследуе гісторыю сусветнай культуры, беларускае мастацтва, гісторыю праваслаўнай царквы. Аўтар кніг «Палата кнігапісная», «Беларускі Пецярбург», а таксама – больш за 200 публікацый па археалогіі, гісторыі бібліятэк, рукапіснай кнігі, бібліяграфіі. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў мястэчку Шчучын на Гарадзеншчыне. Жыве ў Санкт-Пецярбургу.

**Сазонаў Віктар** — публіцыст, журналіст, празаік. Аўтар кнігі «Занатоўкі кантрабандыста», серыі адукацыйных брашураў «Праз адукацыю – да грамадзянскай супольнасьці». Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Гальшанах на Ашмяншчыне. Жыве ў Гародні.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Тарановіч Алесь** – эсэіст, журналіст, мастак, мастацтвазнаўца. Аўтар кніг «Песня Эмігранта», «Берлінская мазаіка». Сябра трох берлінскіх літаратурных клубаў. Творы друкуюцца ў розных берлінскіх часопісах і альманахах. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Мінску. Жыве ў Берліне.

**Усеня Алесь** – паэт, празаік, сатырык, выдавец. Аўтар кніг «Я хачу на сваю планету», «Здань на хутары», «Дзежка дзёгцю, «Пустадомкі», «Мой лістапад» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Пасека на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

### Кнігі, якія пабачылі свет у серыях “Кнігарня пісьменніка” і “Пункт адліку”, даступныя чытачам у розных гарадах Беларусі:
















**У Берасці:** Кнігарня “Іскра”, вул. Пушкінская, 4.
**У Магілёве:** Кнігарня “Думка”, пр-т Міра, 10.
**У Віцебску:** Кнігарня “Веды”, вул. Леніна, 54; Кнігарня “Светач”, вул. Кірава, 10.
**У Гародні:** Выдавецтва “ЮрСаПрынт”, вул. К. Маркса, 11.
**У Бабруйску:** Кнігарня “Букініст”, вул. Ульянаўская, 49.
**У Маладзечне:** Кнігарня “Спадчына”, вул. Прытыцкага, 7.
**У Полацку:** Кнігарня “Полацк -Светач”, вул. Камуністычная, 27.
**У Мінску:** “Акадэмкніга”, пр-т Незалежнасці, 72; “Кнігарня Ў”, пр-т Незалежнасці, 37А; “Кніжны салон”, вул. Калініна, 5; “Кнігарня пісьменніка”, вул. Казлова, 2; “Веды”, вул. К. Маркса, 36; “Светач”, пр-т Пераможцаў, 11; “Цэнтральны кніжны”, пр-т Незалежнасці, 19; “Кнігі & кніжачкі”, пр-т Незалежнасці, 14.

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Юрыя Дзядзінкіна, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.